# ЛЕАНІД ГАЎРЫЛКІН

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ Ў ДВУХ ТАМАХ



### ТОМ ДРУГІ

---

### МАТЧЫНА ХАТА

РАМАН
У АПАВЯДАННЯХ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# МАТЧЫНА ХАТА

## РАМАН У АПАВЯДАННЯХ

### КАМІСАР

Расхінаючы рукамі высокую з шурпатым раскідзістым лісцем кукурузу, якой былі абсаджаны грады густых буракоў, Марфа бегла басаНож па глыбокай і такой вузкай мяжы, што аж чаплялася балюча нагой аб нагу. Спачатку і падалося, што яе пранізаў востры боль ад нагі. Яна спынілася. Боль паўтарыўся. Але не ад нагі. Абхапіўшы рукамі пукаты жывот, яна прысела, а потым усім сваім няўклюдным, камлюкаватым целам упала на зямлю. Яшчэ чула, як хрумстала кукуруза, ламаючыся пры самай зямлі, а хутка ўжо нічога не чула і не бачыла...

Калі ж Марфа апамяталася і расплюшчыла вочы, то не ўцяміла, дзе яна. Усё навокал было зялёным. Зялёным было размалёванае цёмна-чырвонымі пражылкамі бацвінне ад буракоў, зялёнай была кукуруза, якая сабой засланяла ўсё неба, і толькі ў адным месцы прасвечваўся невялікі лапік яго, нібы хто павесіў сярод гэтай зеляніны зліняЛую блакітную хусцінку.

Ад вільготнай зямлі ішоў упарты халадок і крыху супакойваў яе. А ў ногі і зусім было холадна — яны трапілі якраз у калюжыну застаялай вады. У гэтае лета дажджы ішлі часта, і вада ў глыбокіх, зацененых зелянінай межах не паспявала высыхаць.

Было ціха, толькі недзе ля самага вуха нешта дудзела аднастайна і так ласкава, нібы хто спяваў калыханку. Марфа павяла вачыма і ўгледзела ля жоўтай кветачкі агурочніку, які запоўз сюды аж з суседняй грады, кашлатага чмяля з аксамітным чорным у жоўтую палосачку брушкам. Ён, нібы прынюхваючыся, торкаўся ў кветку і ніяк не адважваўся ўсесціся на яе, хісткую і кволенькую.

Аж на дрымоту пацягнула ад гэтага дудзення.

Раптам пачулася, як ляпнула клямка ў веснічках на агарод, як нехта зашастаў лістотай па суседняй мяжы.

З хрумстам абламвалася навіслае над мяжой, крохкае бацвінне. Відаць, так спяшаўся, што некалі было глядзець пад ногі.

— І дзе яны ўсе падзеліся? Як вымерлі,— пачуўся амаль побач крыху асіплы, як пасля прастуды, голас яе мужа.

Марфа стаілася, напружыла слых. Але зноў было ціха, нават і чмель не дудзеў цяпер. А можа, усё гэта ёй толькі здалося? Можа, наогул усё гэта толькі сон? Не было ніякага самалёта, не было паспешлівых уцёкаў з хаты, не было пранізлівага болю? Марфа агледзелася зноў. На фоне кавалачка блакітнага неба мільганула ластаўка. Зусім блізка прадудзеў чмель. Варухнуўшы нагамі, яна адчула халодную ваду, да якой была прыцярпелася. Не, яна не спала. Але адкуль жа тут, у агародзе, узяўся голас яе мужа, які з вясны быў у арміі? Падняцца б ды паглядзець, але яна баялася і паварухнуцца.

У самым канцы агарода, пад старымі раскідзістымі вішнямі, там, дзе быў накрыты бярвеннямі і прысыпаны зямлёй акоп, у якім звычайна хаваліся ад нямецкіх самалётаў, успыхнула нейкая нечакана гучная і бязладная гамонка. Гаварылі ўсе разам, так што і слоў нельга было разабраць, даносіліся толькі асобныя воклічы, смех. Ці, можа, то былі ўсхліпванні?

— Марфа! — пачуўся радасна-ўстрывожаны голас маці.— Марфа-а-а! — І раптам маці некаму сказала цішэй: — Выбягалі ж з хаты разам. І дзе яна? Спачатку думала, дзе ў акопе: яна заўжды далей усіх хавалася... Можа, з самалёта, не дай бог?

— З самалёта не стралялі,— гэта запярэчыла Вольга, яе малодшая сястра.— Я чула.

Вось нехта зноў хутка зашастаў па мяжы, і ўжо зусім блізка, ледзь не побач, пачуўся голас маці:

— Марфа! Дзе ты?

Марфа памкнулася была адгукнуцца, але ў горле так перасохла, што яна толькі глуха прастагнала:

— Я-а-а...

Але маці пачула і гэты слабы голас.

— Марфачка! — нахілілася над ёю.— Што з табой? Можа, пачалося? Не? Дык пойдзем у хату. Хіба можна тут ляжаць, на сырой зямельцы? — Паднялася, крыкнула: — Андрэй, яна тут!

І вось расхінулася лапушыстая кукуруза, і над Марфай схіліўся муж. У яго быў худы і загарэлы да непры-

вычнай смуглявасці твар, выгаралыя, як запыленыя, бровы, аблуплены, у чырвоных плямах нос. Засмяглыя і патрэсканыя да крыві вусны ламаліся ў нейкай бездапаможнай усмешцы. Засаленая па краях пілотка зухавата сядзела на самай патыліцы, адкрываючы кароценькі чубчык і высокія залысіны. На пілотцы ззяла, як новенькая, чырвоная зорачка.

На гімнасцёрцы над нагруднымі адтапыранымі кішэнямі бялелі плямы высахлай солі.

— Ты? — усё яшчэ не верыла сваім вачам Марфа.— Адкуль ты?

— Потым, потым распытаеш,— перабіла маці і сказала Андрэю: — Дапамажы занесці яе ў хату. Ёй нельга на сырой зямельцы.

Андрэй хацеў быў падняць яе на рукі, але Марфа ці пашкадавала яго, такога схуднелага і launched перeатомленага, ці, можа, засаромелася маці, запярэчыла:

— Я сама, Андрэй.— Ёй сапраўды крыху палегчала, ды і пры мужу не так страшна было за сябе. Яна паспрабавала падняцца, але не змагла. І каб Андрэй не падхапіў, яна, відаць, не ўстояла б на нагах. Пастаяла, аддыхалася, адчуўшы, што слабасць прайшла, паправіла сукенку, якая пакамечылася ў падоле, зрабіла адзін крок, другі, напружана прыслухоўваючыся да сябе. Нідзе нічога, здаецца, не балела. Пайшла смялей.

Маці паправіла прымятае Марфай бацвінне, нахіленую кукурузу і паспяшалася ў двор.

— Ну, я пабягу, падрыхтую там...

Андрэй моўчкі глядзеў на жонку, на яе крыху распухлы ў рыжых плямах твар, на чарнявыя валасы, завязаныя ў тугую куксу на патыліцы — у яе раней нібы была большая гэтая кукса,— трымаючы яе вышэй локцяў за рукі, нейкія аслабелыя і размякчэлыя цяпер. А былі ж яны заўсёды такія моцныя, мускулістыя.

— Ну, як ты?

— Ды цяпер нічога,— яна нават пастаралася ўсміхнуцца, дапытліва глянула на мужа.— А ты?

— І хутка? — ён нібы і не пачуў яе пытання.

— Хто ж яго ведае, Андрэй...

— А мы за Прудоўкай мост абаранялі. Суткі загадалі трымаць. Ну і трымалі. А сёння адышлі. Узарвалі і адышлі.

— Мы чулі страляніну ўчора і сёння раніцай...

— Было. Сёння палезлі, а потым зніклі. Відаць, знай-

шлі дарогу ў абход. Мы пачакалі, пачакалі ды і пайшлі. Заглянуў во дамоў, думаю, як і што тут. А яно вось як... А дзе ж хлопцы?

— А ў лесе з каровай. Як пачалася тут бамбёжка ды страляніна, усе кароў з вёскі ў лес павялі. Бацька і сваю і нашу Лыску пагнаў. Ну, я і хлопцаў з ім адправіла. Хай пабудуць, там, можа, не так страляюць. Каб ведала, то...

— А я заглянуў дамоў, а там замок на дзвярах. У хляве пуста. Падумаў, з'ехалі куды.

— А страшна адной, дык я да бацькі і перабралася. Калі бамбяць, яно разам не так страшна.

— Няўжо бамбілі вас? — спытаў так, нібы сапраўды не верыў, што іх вёску могуць бамбіць.

— Нас не, станцыю бамбілі. У нас толькі ля школы бомба ўпала. А на тым тыдні вагоны са снарадамі запалілі. Дзень і ноч ірваліся. Во дзе страху было. З акопаў не вылазілі. Аж сюды асколкі залятаді. І цяпер, як загудзе самалёт, мы ў акоп усе. А сёння толькі сабраліся абедаць, а тут ён, ды нізка так, над самым дахам. Усе кінуліся да дзвярэй. І я пабегла. Ды не дабегла. Так і не ведаю, бамбіў ён тут ці не...

— А мы якраз да вёскі падыходзілі, як ён ляцеў,— сказаў Андрэй.— Разведчык. Разведчыкі не бамбяць. Ды і што тут бамбіць?

Андрэй памог ёй пераступіць высокі парог у веснічках. Гэты парог знарок быў зроблены такі высокі, каб раптам не забрыла скаціна ў агарод, калі хто забудзе зачыніць веснічкі.

— Ой, Андрэй, трохі аддыхаюся.— Яна прысела на высокі парог, выцерла далонню спацелы лоб.— То ж трэба так стаміцца, як мяшок з бульбаю пранесла.— Ёй было няёмка перад мужам за сваю такую бездапаможнасць.

— Нічога, нічога,— ён неяк хуценька, нібы саромеючыся, правёў рукою па яе валасах.— Не хвалюйся, Марфачка, усё будзе добра. Заўсёды ж было добра...

У шырокім двары на траве ля плота — палова двара далей ад хлява і дрывотніка зарасла густой травой — размясцілася некалькі салдат. Адзін, прысеўшы на нейкі цурбан і выцягнуўшы перад сабой босыя з сінімі выпуклымі жыламі ногі, прышываў на гімнасцёрцы гузікі, другі, разматаўшы абмоткі, ляжаў на спіне і драмаў. Трэці ля бочкі з вадой, што стаяла ў кутку двара пад ліпай, выкручваў мокрыя ў чорных плямах, як ад смалы, анучкі. Чацвёрты ж сядзеў на парозе адчыненых на вуліцу вес-

нічак і нешта занатоўваў у невялічкім блакноціку, паклаўшы яго на калена.

Вінтоўкі іх стаялі, прыхіленыя да варот. Марфа чамусьці спыніла свой позірк на зашмальцаваных да бляску брызентавых рамянях на тых вінтоўках.

— Ну што, Сівалобаў, фрыцаў не відаць? — спытаў Андрэй у байца, што сачыў за вуліцай.

— Пакуль ціха, таварыш камісар,— азірнуўся Сівалобаў і, як падалося Марфе, затрымаў дапытлівы позірк на яе постаці. Жанчыне аж няёмка стала за сваю брудную, пакамечаную і караткаватую сукенку, якую яна пашыла, яшчэ калі хадзіла сваім першынцам, а потым насіла яе, калі хадзіла другім, і вось цяпер таксама была ў ёй.

— Іх сёння і не будзе.— Андрэй глянуў на парослую густым зялёным мохам страху дрывотніка, за якім паспела схавацца сонца, і ўжо ў хаце растлумачыў жонцы: — Немцы і ваююць па раскладу. Снедаюць, абедаюць, вячэраюць у пэўны час, а ў прамежках наступаюць. Цяпер павячэраюць і будуць спаць. А на досвітку пойдуць. А можа, і не пойдуць тут. А ў абход.

І адразу нельга было зразумець, гаварыў ён пра немцаў усур'ёз ці з іроніяй. Але тая насмешлівасць, якая ўсё ж адчувалася ў голасе мужа, больш за ўсё супакойвала Марфу.

— Можа, вады нагрэць, памыўся б? — яна спынілася, нібы хацела зараз жа ісці грэць тую ваду.

— Кладзіся во,— буркнула на яе маці, якая, паправіўшы падушку, адкінула радно і чакала, пакуль дачка ляжа.

— Ды мне лепей, мама.

— Кладзіся, кладзіся. Лепей... Цяпер лепей, і можа быць зараз жа блага.— Маці накрыла яе радном, потым паправіла на галаве чапец, у якім хадзіла заўжды, захінула за сабой сінюю ў ружовыя кветачкі занавеску, якой быў адгароджаны ложак ад астатняе хаты.

— Вы дзе абедалі? — спытала ў мужа Марфа.

— Абедалі, канешне,— усміхнуўся ён.— Яшчэ пазаўчора. Але ў нас быў сухі паёк, так што...

— Ды прысядзь ты, што стаіш? — яна адсунулася ад краю да сцяны.

— Ды нічога,— нібы і адмовіўся ён спачатку, але, крыху пастаяўшы, прысеў на самы край, паклаў сваю, у зацвярдзелых мазалях, руку на яе халодны вільготны лоб. Яна схапіла яго шырокую далоню і, схаваўшы ў ёй свой

твар, усхліпнула.— Ну ты, Марфачка, не хвалюйся. Табе ж нельга хваляваецца. Чуеш?

— Я і не хвалююся,— яна гучна шмарганула носам.— Я з-за цябе. Ні пісьма, нічога...— Прыціснула яго руку да сваіх грудзей і ў прыцемках напружана ўглядалася ў Андрэя, нібы хацела яго запомніць лепей.— А яны прыйдуць?

— Пруць, заразы,— уздыхнуў ён, памаўчаўшы, сказаў весялей: — Але мы іх спынім. Абавязкова спынім. І прагонім. Не можа быць, каб не спынілі,— зноў памаўчаў задумліва.— Слухай, Марфа, прыйдуць з лесу Сяргей з Толікам, скажы, каб вельмі не лезлі ўсюды, не гойсалі, дзе не трэба. Няхай болей дома сядзяць. А то немцы звяры такія. Для іх святога нічога няма. Ні дзяцей, ні жанчын...— ён прыўзняўся, нібы збіраўся пайсці.

— Ды пасядзі ты,— яна ледзь чуйна пацягнула яго за руку.

— Пасяджу, пасяджу яшчэ,— ён усё ж падняўся.— Вось толькі гляну, як там мае. Добра? — І ціханька, стараючыся не грукаць абцасамі, выйшаў...

Марфа ляжала і прыслухоўвалася да гукаў у хаце. Вось скрыганула засланка. А хутка пачалі патрэскваць, разгараючыся на прыпечку, лучынкі. Відаць, маці спяшалася і не думала распальваць печ. Дзынкнула патэльня, зацвірчала сала, па ўсёй хаце паплыў яго гаркаваты густы водар. Сала было старое. Кабана білі даўно, яшчэ да вайны, на пачатку зімы. Дзынкнула вядро. Заплюскалася вада. Нехта мыў рукі. На вуліцы нібы мыкнула карова. Ці не збегла з лесу? Добра было б, каб іхняя Лыска. Можа, Сяргей з Толікам прыйшлі дамоў, пабачыліся з бацькам. А можа, гэта Нінка, яе малодшая сястра, прыбегла з лесу, прынесла малако і цяпер вядром дзынкае. Яна кожны дзень бегае ў лес, носіць бацьку і сваім пляменнікам хлеб і заўсёды прыносіць паўнюткае вядро малака. І хаця вядро яна кожны раз абвязвае хусцінкай, у малацэ заўсёды багата сасновых іголак, травінак, нейкага іншага смецця. І маці кожны раз бурчыць на яе, што яна такая неакуратная...

Сцішыўшыся, Марфа непрыкметна задрамала. Відаць, яна багата праспала, бо калі прачнулася, то за акном ужо трымалася шэрань, а за паркалёвай занавескай блішчала святло ад лямпы. Там грукалі ўслонамі, табурэткамі, чуліся тупаценне ног, прыглушаныя галасы. Ці не ад гэтых гукаў яна і прачнулася? Марфа цяпер адчувала сябе зу-

сім няблага. Яна села на ложку, а потым паднялася, расхінула занавеску.

Стол стаяў пасярод хаты. Над ім звісала закапцелая лямпа пад круглым бляшаным абажурам. У спешцы, відаць, ніхто не здагадаўся пачысціць шкла. На стале на высокай драўлянай падстаўцы — кавалку дошкі — стаяла шырокая патэльня з яечняй. У чарапяных місах дымілася кучаравая бульба, на талерках зелянелі маладзенькія агурочкі, відаць, толькі з грады. На краі стала ўзвышаўся абвязаны дротам і абмазаны даўно акамянелай замазкай, спацелы крутабокі гладыш. Старая заўсёды ў гэтым гладышы адтоплівала малако, выносіла яго на ўвесь дзень у пограб. Ля гладыша прымасціўся тупарылы, з тоўстага сіняга шкла, старадаўні графін з самаробным хлебным квасам. За сталом сядзелі Андрэй і салдаты. Усе паголеныя, у беленькіх падкаўнерыках, нібы памаладзелыя. Была тут і яе сярэдняя сястра Вольга ў святочнай сукенцы з ружовага шоўку. Гэту сукенку прывёз з Масквы бацька, Тарас Канстанцінавіч, калі ездзіў у сталіцу на сельгасвыстаўку. Ніны не было. Відаць, не вярнулася з лесу. А можа, сёння і зусім яна не прыйдзе? Не раз было так, што тая начавала ў лесе, а вярталася дамоў на досвітку.

— Марфа! — штурханула ў плячо Андрэя маці, якая ўсё яшчэ завіхалася ля стала. Яна надзела сваю святочную спадніцу з чорнага сатыну ў белыя кропачкі, белы фартушок, сінюю ў ружовыя кветачкі кофту. Яе пашыла Марфа з таго паркалю, што застаўся ад занавескі.

Андрэй азірнуўся, сунуў суседу пляскатую фляжку ў зялёным брызентавым футляры, кінуўся насустрач жонцы.

— Я заглянуў, а ты спіш, не хацеў будзіць,— неяк вінавата сказаў ён, узяў Марфу пад локаць, пасадзіў на ўслон на сваё месца, сам прымасціўся побач.— Ну, чаго табе падаць?

— Квасу...

Ён наліў высокі паліваны карэц пеністага квасу, падаў, счакаў, пакуль вып'е, потым падняў сваю гранёную шклянку з кропляй празрыстага пітва на самым дне, звярнуўся да Варвары Мацвееўны, якая якраз стаяла за спіной Марфы і аглядала стол — ці не забыла чаго яшчэ падаць:

— Ну, маці, скажы што-небудзь. Толькі не там, а вось ідзі сюды, прысядзь, вазьмі шклянку...

— Ды нічога, я прывыкла.— Варвара Мацвееўна ўзя-

ла шклянку.— Ну што вам сказаць? Каб кончылася гэтая навала, каб не стралялі болей, каб вось так усе сабраліся разам, усе ў сваіх сем'ях. За гэта.— Яна прыгубіла шклянку, а потым нечаканым хуткім узмахам рукі астатняе выплеснула некуды за плячо.— Нашым ворагам на слёзы!

— Пастараемся, мама,— паабяцаў Андрэй.

— Яшчэ і на хрэсьбінах пагуляем, Варвара Мацвееўна,— падтрымаў свайго камісара радавы Сівалобаў.— Давайце вып'ем за...— ён раптам сумеўся, відаць, хацеў прапанаваць тост за таго, хто павінен быў з'явіцца на свет, але, памаўчаўшы, рашуча сказаў: — За будучыню!

Елі моўчкі. Салдаты, разагрэтыя, расчырванелыя, здавалася, нічога і не заўважалі наўкола, акрамя таго, што было ў місках. Андрэй еў стрымана, без той паспешлівасці, як яго таварышы, нібы праз сілу. Марфа таксама ні да чога не дакраналася, толькі часта паглядвала на мужа ды стоена ўздыхала.

Адна Вольга, здавалася, была ў добрым настроі. Яна часта кідала на прысутных сваімі чарнявымі вачыма, а з яе круглявага з кірпатым носікам твару не сыходзіла ўсмешка. Дзяўчына была якраз у тым узросце, калі магла развесяліцца ад самай нязначнай дробязі. Зараз яе забаўляла гэтае занадта ўжо маўклівае застолле.

Адна Варвара Мацвееўна не ведала спакою. Ёй здавалася, што ўсе ядуць без ахвоты, мала, і яна ўсё запрашала гасцей не саромецца, прасіла пакаштаваць то адно, то другое, і ад гэтай яе залішняй гасціннасці ўсім было аж няёмка.

— Мама, ды прысядзь ты,— прасілі яе Марфа і Андрэй.

— Вы вячэрайце, вячэрайце, а я паспею,— не слухала яна.

Пачуўся далёкі гул, як дзе ляцеў самалёт. Гул далятаў хвалямі, паступова нарастаючы.

Ніхто і ўвагі не звярнуў на гэты гул. Адна толькі Варвара Мацвееўна насцярожылася.

Раптам Вольга залівіста засмяялася.

— Ды ты што? — штурханула яе ў плечы маці.— Людзей пасаромелася б.

Усе зацікаўлена паглядзелі на дзяўчыну.

— Гэта ж, каб не вы,— праз смех сказала яна,— уяўляю, як мы зараз беглі б у акоп...

А можа, ёй весела было ад таго, што яна ўпершыню, як пачаліся бамбёжкі, не адчувала страху?

Пад самы канец вячэры, калі Варвара Мацвееўна пачала разліваць адтопленае малако, Марфа, якая заўсёды любіла яго, толькі ўзяла карэц, як адчула, што рука яе раптам нібы знямела.

— Што з табой? — спытаў Андрэй.

— Ды нічога. Стамілася, відаць,— яна, абапіраючыся на яго плячо, паднялася.— Ты сядзі, я пайду крыху адпачну.

І добра, што Андрэй не паслухаўся, паспяшаўся за ёю. Амаль ля ложка яе зноў працяў знаёмы ўжо боль. Не ўстаяла б, каб Андрэй не падхапіў на рукі. Праўда, на гэты раз яна не страціла прытомнасці, а толькі прастагнала праз сцятыя зубы. Андрэй памог ёй улегчыся.

Заглянула заклапочаная Варвара Мацвееўна і адразу ж знікла. Чулася, як яна загадала Вользе глядзець гасцей, ляпнула дзвярыма з хаты, а затым веснічкамі на двары.

У хаце неяк адразу стала ціха. Можа, усе сядзелі моўчкі ці павыходзілі на двор? Пляскалася вада, дзынкалі талеркі. Відаць, Вольга мыла посуд.

Марфа глядзела на Андрэя, які сядзеў у нагах, бачыла яго згорбленую, нейкую вострую спіну, схіленую нізка галаву. Абое зацята маўчалі, нібы і не было ім пра што гаварыць. І толькі па тым, як ён паспешліва перабіраў яе вялыя пальцы, здагадвалася, што муж вельмі хвалюецца.

— Ды не журыся ты, Андрэй... Усё будзе добра. Калі Сярожу чакала, дык яшчэ цяжэй было. Ды і Толіка таксама,— сказала яна амаль шэптам.— Прылёг бы ты, паспаў...

— А я сяджу і сплю,— голас у яго быў вялы, санлівы.— Я прывык так спаць.

— З адкрытымі вачыма?

— З адкрытымі,— памаўчаўшы, дадаў ён.— Усяк бывала.

Яны і не пачулі, як нехта зайшоў у хату. Зарыпелі масніцы, расхінулася занавеска. Спачатку ўдарыў бляклы слуп святла, а потым святло засланіў салдат.

— Дазвольце, таварыш камісар,— ціха сказаў ён.

— Слухаю, Сівалобаў. Гавары.— Андрэю не спадабалася такая непатрэбная тут фармальнасць.

— Мы, таварыш камісар, абмеркавалі становішча і вырашылі дзейнічаць такім чынам. Зоймем пазіцыю ў Прудоўцы ля ўзарванага моста і не пусцім праціўніка

столькі, колькі трэба будзе. Пакуль тут у вас... Мы ўсе так вырашылі. Дабравольна, таварыш камісар. Патроны ёсць, гранат хапае. Ноччу ён не палезе, а дзень пратрымаемся. І наогул пратрымаемся колькі трэба. А калі пойдуць у абход, тут не хутка з'явяцца. А калі што, дык адступіць паспеем, лес блізка. Дазвольце, таварыш камісар, прыступіць да выканання?

Андрэй вельмі доўга, ці гэта, можа, толькі падалося Марфе, маўчаў, потым падняў галаву, строга загадаў:

— Ідзіце, Сівалобаў, і перадайце, каб усе неадкладна кладліся спаць. Ясна?

— Ясна, таварыш камісар.

— А я пакуль пасяджу,— і, убачыўшы, што салдат стаіць, нібы не зразумеўшы каманды, дадаў: — Выконвайце, Сівалобаў!

— Слухаюся, таварыш камісар.— І салдат, прыстукнуўшы абцасамі, крутануўся па ўсёй форме страявой навукі, нібы падкрэсліваючы незадаволенасць распараджэннем, выйшаў.

Андрэй зноў сядзеў моўчкі, толькі цяпер часцей перабіраў Марфіны пальцы.

— Пра што ты думаеш? — спытала Марфа.

— А ні пра што. Сяджу, і ўсё,— і, павёўшы плячом, прызнаўся: — І сам не ведаю, чаму маўчыцца. Столькі не бачыліся, а гаварыць няма пра што. А было ж, што сядзіш у акопе, задумаешся, здаецца, каб сустрэцца, за суткі ўсяго не расказаў бы. І вось сустрэліся... І чаго яно так?

— Ты стаміўся, Андрэй,— яна ўзяла яго далонь, прытуліла да сваёй шчакі.— Паспаў бы, яшчэ невядома, які дзень будзе.

— А ты пра што думаеш?

— А ні пра што таксама. Мне добра, што ты тут. І ўсё.

Грукнулі дзверы ў хату. Зноў зайшоў нехта.

— Там, за занавескай,— пачуўся голас Варвары Мацвееўны.— Ідзі, а я зараз лямпу падкручу, каб святлей было.

Расхінуўшы шырока занавеску, зайшла хударлявая дробненькая жанчына ў белым, крыху вялікаватым для яе халаце. Гэта была фельчар Канцавая Ганна. Яна працавала ў суседняй Прудоўцы, дзе была ўчастковая бальніца, і заўсёды прыбягала да сваіх аднавяскоўцаў, якія не прызнавалі нікога з урачоў, акрамя яе.

Яна па-мужчынску моцна парукалася з Андрэем, спытала ў яго, ці не сустракаў дзе яе Пятра, шмарганула носам, усхліпнула, перадыхнуўшы, спытала ў Марфы, дзе ў яе баліць.

— А мне тут можна? — спытаў у фельчара Андрэй.

— Можна,— адказала Канцавая і ўсміхнулася.— Пакуль немец не прыйдзе.

Словы жанчыны прагучалі, як дакор. Ва ўсялякім выпадку, ён так іх успрыняў. Яму няёмка стала. І ён, як толькі Варвара Мацвееўна заглянула за занавеску, спытаў у яе:

— Як там мае воіны?

— Сядзяць на прызбе, абняўшы вінтоўкі, і дрэмлюць. Казала, каб ішлі ў дрывотнік на сена, не паслухаліся. Можа б, ты, Андрэйка, загадаў ім, каб яны паспалі па-людску?

— Ну, мне пакуль што тут нечага рабіць,— сказала Канцавая, агледзеўшы хворую.— Вы, Мацвееўна, як што, дык адразу клічце мяне. А я пабягу дамоў. Засталіся ж малыя адны.

Разам з Канцавой выйшла і Варвара Мацвееўна.

Яны зноў засталіся ўдваіх.

За акном шапацела лісце таполі, нібы ямчэй уладкоўвалася на начлег. Недзе пад запечкам завёў сваю аднастайную песню цвыркун, тую ж самую песню, пад якую яшчэ некалі малым у бацькавай хаце засынаў Андрэй. А потым у іх з Марфай у старэнькай, з раскідзістымі ліпамі пад вокнамі, хаце жыў такі ж цвыркун. І вось зараз тая ж самая песня зычыла людзям спакойнай ночы. На нейкі момант Андрэю падалося, што не было і няма ніякай вайны, а ёсць толькі вось гэты мірны вечар, ёсць яго Марфа і ён, Андрэй.

— Андрэй! — паклікала мужа Марфа, не заўважыўшы, што таго агарнуў сон.

— Я! — устрывожана ўскінуў галаву Андрэй.

— Ой, каб ведала, што ты задрамаў...

— А што такое? — ён неяк па-дзіцячы працёр кулаком вочы.

— Андрэй, ідзі,— сказала яна такім будзённым голасам, нібы прасіла яго схадзіць па ваду.— Ідзі, Андрэй. Табе ж трэба ісці.

Ён прамаўчаў, толькі мацней сціснуў яе пальцы.

— Цябе ж недзе чакаюць. Ідзі! Раптам немец раніцай?.. Тады ж нас усіх. Кажуць, яны камуністаў... Ідзі,

Андрэй. І беражы сябе. За нас не журыся. З намі нічога не здарыцца. Мы ж тут разам. Як-небудзь пражывём. Ідзі. А то і салдат затрымаў. Ты мяне чуеш, Андрэй?

Андрэй сядзеў знерухомеўшы. Здавалася, нават не дыхаў. Потым рэзка падняўся, паправіў рэмень на гімнасцёрцы.

— Пацалуй за мяне хлопцаў, як з лесу вернуцца... Калі будзе сын, назаві Ігарам. У мяне быў друг Ігар. За Гомелем загінуў...— Ён нахіліўся, прыпаў да яе твару тугой вільготнай шчакой...

А потым яна чула ў двары яго голас, рэзкі, як стрэл:

— Пад'ём!

Кляцнулі металам вінтоўкі, бразнулі веснічкі, салдаты пратупалі пад акном цяжкімі нагамі...

І засталося толькі шапаценне лістоты на тапалі ды цвыркун у запечку...

Калі яна раджала свайго першынца Сяргея, мужа таксама не было дома. Ездзіў у раён на нараду. Самой самотна было сядзець у хаце без справы — Андрэй жа прасіў нічога не рабіць, сам на досвітку дагледзеў скаціну, ды не ўмела яна нічога не рабіць. Выйшла на агарод. Выйшла, каб паглядзець, як кучаравяцца маладзенькія яблынькі — іх толькі пасадзілі мінулай восенню, і яны яшчэ тырчалі сярод град кволымі дубчыкамі,— як падымаецца, зелянее, засцілаючы зямлю, гародніна. Марфа пастаяла за форткай, потым ціха прайшлася па мяжы, ля грады з морквай спынілася. Морква расла густа, глушыла сама сябе.

Марфа прысела на кукішкі і пачала палоць моркву.

Там, на мяжы ля грады, і працяў яе нясцерпны боль. Яна ледзь дапаўзла да плота з вуліцы. Добра, што ехаў на калёсах калгасны кладаўшчык Капцоў. Вёз мяшкі ў млын. Яго і паклікала Марфа. Капцоў тут жа ля плота скінуў мяшкі ў траву, узяў жанчыну на калёсы, пагнаў каня ў Прудоўку, ва ўчастковую бальніцу.

Прывезці паспеў...

У той жа дзень пад вечар, калі Марфа, супакоеная і зняможаная, толькі заснула, праз сон пачула нецярплівы конскі тупат. Ён быў глухі і далёкі. Яна нават падумала, што ёй сніцца гэты тупат. Але ён нарастаў з трывожнай хуткасцю.

Яна здагадалася, што гэта Андрэй спяшаецца да яе. Адкрыла вочы і глядзела ў акно, шкадуючы, што не мае сілы падхапіцца, кінуцца насустрач мужу, каб абрадаваць яго сынам...

Андрэй падляцеў на ўзмакрэлым жарабцу да самага акна. Здавалася, зрабі конь яшчэ крок, і ён уламіўся б у палату. Жарабец быў яшчэ добра не аб'езджаны, не мог стаяць на месцы, аж танцаваў, уздыбваючыся на заднія ногі, нібы хацеў скінуць конніка разам з сядлом. А Андрэй, здавалася, не звяртаў увагі на каня, адною рукой трымаў яго за напяты повад, а другою размахваў у паветры, нешта крычаў, весела і радасна смяяўся.

Марфа не чула яго слоў, чула толькі, як капыціць зямлю жарабец, як звіняць цуглі. Але яна і без слоў разумела мужа.

А на другі дзень з раніцы ён прынёс ёй слоік духмяных суніц і шклянку мёду...

А калі яна раджала Толіка, Андрэй сам адвёз яе ў бальніцу і прыехаў па яе разам з трохгадовым сынам Сяргеем.

Андрэй трымаў немаўлятка на руках, а Сяргей сядзеў наперадзе, часта тузаў каня за лейцы, нокаў, махаў цяжкою для яго пугай, радасны, што вязе маці дамоў, што яму даверылі кіраваць сапраўдным канём...

А конь, адчуваючы, у чыіх руках лейцы, не вельмі слухаўся малога, ішоў нетаропка. Ды тады яны і не спяшаліся, ім усім добра было разам... А навокал ляжалі пажоўклыя абсягі пад сінім небам, зелянелі сцішана прысады, спелай збажынной пахла паветра...

Цяпер Андрэй не патрымае на руках немаўлятка, не пагушкае яго, не пакатае на сабе. Ён вельмі любіў вазіць на спіне па хаце ўзімку, а ўлетку на поплаве ля двара сваіх сыноў.

Слязьмі набухалі вочы...

«А можа, дарэмна яго выправадзіла? — падумала яна.— Хоць бы пабыў трохі яшчэ, а то...» — але болей яна нічога не паспела падумаць, яна нават не ўсвядоміла, закрычала на ўсю хату ці толькі застагнала:

— Мама-а-а-а!..

А на шэрым, як пыл, досвітку прыціхлую пад зялёнымі ад моху, саламянымі дахамі вёску напоўнілі смуродным чадам і аглушальнай траскатнёй фашысцкія матацыклісты.

Ды гэтай траскатні не чула Марфа.

На ўсю хату крычала яе дзіця, крычала, заглушаючы сваім крыкам вайну.

## КОНІ

Сяргей прачнуўся, сеў, працёр вострым кулачком вочы, агледзеўся. Баба ля печы пякла блінцы. Яны смачна пахлі на ўсю хату. Маці карміла Ігарка тоўчанай бульбай, топтанкай. Толік таксама сядзеў за сталом і снедаў.

Сяргей знайшоў за падушкай у галавах картовыя штонікі, нацягнуў іх на доўгія худыя ногі, перакінуў цераз плячо почапку, каўзануў з палка на падлогу, выскачыў у двор. Драбін там не было. Сяргей вярнуўся ў хату, разгублена спытаў:

— А дзе ж дзед?

— Паехаў па дровы твой дзед,— неяк раздражнена адказала баба. Яна толькі што скінула на рушнік пульхны падрумянены блінец і цяпер на патэльню налівала апалонікам сіняе рэдзенькае цеста — мука, размяшаная на вадзе разам з нацёртай бульбай.

— Казаў жа, мяне возьме,— ледзь не плакаў Сяргей.

— А ён цябе будзіў, ды не разбудзіў,— пагладзіла па галоўцы ўнука Варвара Мацвееўна.— Во снедай, а то свінні ўжо скуголяць.

Сяргей схапіў блінец, скруціў яго трубкай і, кусаючы на хаду, выбег з хаты.

— Я зараз,— сказаў у дзвярах.

Ён хацеў даведацца, ці дома Лёксін Колька, Бурбалка, як яго называлі між сабой.

Хоць Лёксін Колька быў крыху і старэйшы за Сяргея, але гэта ніколькі не перашкаджала ім моцна і шчыра сябраваць. З мінулага лета яны разам пасвілі свіней. Колька ніколі і нікому не даваў у крыўду Сяргея, а Сяргей яго слухаўся, часта пасвіў і яго свіней, калі таму была патрэба схадзіць у лес ці пакупацца ў далёкім балоце. Тое балота было за лесам. Яно цягнулася паўз лес, а потым праз поле да самых Нівак, вёскі, якая, здавалася Сяргею, была на краі зямлі. У балоце яшчэ да вайны нарабілі копанак, каб было дзе паіць статак,— у іх можна было не толькі добра паплаваць, а і даць нырца, скокнуўшы ў ваду з якой купіны.

А пачалося іх сяброўства з аднаго недарэчнага выпадку. Яшчэ ўзімку яны, падлеткі, зайшлі да Капцовых на вячоркі. Там гулялі старэйшыя хлопцы і дзеўкі. Захацелася і падлеткам паглядзець на іх гулі. Заўважыўшы ў дзвярах малечу, Мікола Дрозд пагнаўся за імі. Усе ўцяклі, а ў Колькі і Сяргея Дрозд паспеў схапіць шапкі. «Вам,

сапляхі, яшчэ трэба на печы клапоў давіць»,— рассмяяўся ён і закінуў іх шапкі праз комінак на печ. У той вечар, прытаіўшыся, яны доўга чакалі ў цёмных сенцах, пакуль усе выйдуць з хаты, каб забраць свае шапкі.

...Колька якраз выганяў з двара худую, як дошка, з востраю спіною свінню.

Сяргей моўчкі працягнуў таварышу блінца і паскардзіўся яму:

— Дзед паехаў у лес, мяне не разбудзіў.

— А мой брат таксама,— адказаў Колька і праглынуў, здавалася, не жуючы, блінец.— Матка казала, сёння багата хто ў лес паехаў. З нашага асяродка, можа, чалавек пяць. Цёмна паехалі, каб раней вярнуцца. Удзень сонца гарачае... Ваш Толік пагоніць свіней?

— Зараз. Паснедае толькі,— адказаў Сяргей.

— І маю няхай прыхопіць,— абрадаваўся Бурбалка.— А мы з табой на конях прыедзем.

У вёсцы мала ў каго былі свінні. Але былі. У асноўным свінаматкі. Некаторыя трымалі сваіх, але большасць — калгасных. Перад самым прыходам немцаў калгасных свіней парэзалі, сала ў вялікіх скрынках адвезлі на станцыю, пагрузілі ў вагоны. Свінаматак раздалі людзям. «Усё роўна з іх сала як з казла малака, а так, можа, у каго і выжыве»,— сказаў тады старшыня калгаса. Дарэчы, коней таксама раздалі людзям.

Кароў яшчэ раней пагналі на ўсход.

Улетку свіней звычайна пасвілі ў полі далей ад вёскі, каб раптам немцы не пастралялі іх. Яны не грэбавалі і худымі свіннямі.

Пасвілі свіней і коней, калі тыя былі вольныя ад працы, разам. Свіней заганялі ў высахлае балота, яны там рыліся паміж купін, вышукваючы нейкія белыя карэньчыкі, ці спалі, зарыўшыся ў вільготную зямлю і пахаваўшы вострыя лычы ў вільготны балотны мох. А коней трымалі ля балота ў альховых кустах. Тут і трава была сачнейшая, чым на перасохлым сухадоле, а галоўнае, са шляху, што вёў з Ягаднай у Прудоўку, іх не было відаць.

Пасвіць скаціну збіраліся малыя і падлеткі ледзь не з усёй вёскі. Меншыя глядзелі свіней, а большыя — коней.

Колька і Сяргей памаглі Толіку выгнаць свіней у поле, паабяцалі хутка прыехаць на конях і пакатаць яго. Вярнуўшыся назад у вёску, зайшлі да Колькі ў дрывотнік, зачыніліся там на шчапок.

У іх была свая вялікая тайна.

Тады ў вёсцы ўпарта хадзілі чуткі, што ў Ягаднай з'явілася ведзьма. Знаходзіліся такія, што нават бажыліся, нібы бачылі яе на свае вочы. Бурбалка ж добра ведаў тую ведзьму. Ёю быў Мікола Дрозд. Аднойчы, замотаўшыся ў белае, Мікола Дрозд запоўз у сад да Акуліны і галасіў там да таго часу, пакуль яго таварышы не аблаташылі ўсю жытніцу. Старыя з усёй вёскі з іконамі маліліся ля двара Акуліны, стараліся малітвамі прагнаць нячыстую сілу. А блізка падысці да той ведзьмы не адважыўся нават сам валасны начальнік Мікіта Жолаб са сваімі паліцэйскімі.

А крыху раней тая ж ведзьма налякала Верку, вясёлую чырванашчокую дзеўку, што жыла адна ў хаце ля завулка. Вярталася яна з пагулянкі цёмным вечарам і бачыць, што ля двара на старой таполі сядзіць нешта белае і махае крыжам, ад якога разляталіся вогненныя пырскі. Верка з перапуду закрычала ды назад... А ведзьма як зарагоча ўслед, закрычыць, засвішча... Пасля таго Верка баялася начаваць у сваёй хаце.

Колька падслухаў, як Мікола Дрозд расказваў за чаркай яго старэйшаму брату і бацьку пра нейкую ведзьму. «Ой, не смяшы,— прасіў тады Колькаў бацька, хапаючыся за грудзі,— а то ўсё нутро і так баліць».

Колька з Сяргеем задумалі таксама зрабіць сваю ведзьму. Яны збілі з дошак раму, уставілі ў яе кола ад старой самапрадкі. Доўгую шырокую гумавую стужку, якую выразалі ад процівагаза, прывязалі адным канцом да рамы, а другім да спіцы кола. Калі кола круціць, гума нацягвалася. Нацягнутая гума раскручвала кола, а рама не давала колу нахіліцца набок, і такім чынам прыстасаванне з вялікай хуткасцю павінна было імчацца праз усю вуліцу. На раму хлопцы думалі прымацаваць гарбуз з выразанымі вачыма і ротам, якія б свяціліся ад свечкі, пастаўленай усярэдзіне. І вось калі Мікіта Жолаб будзе ўвечары ехаць на конях са сваімі прыхваснямі па вёсцы, яны і пусцяць прама пад ногі ім гэтую ведзьму. Хлопцы загадзя ўяўлялі, як спудзяцца коні, як з іх пападаюць нямецкія слугачы, паламаюць сабе рукі і ногі...

Але пакуль што ведзьма не хацела ехаць прама, хілілася набок і брала крута ўлева. Хлопцы зараз і ламалі галовы, як прымусіць сваё прыстасаванне ехаць у патрэбным кірунку, а галоўнае, хутка. Каб таму Мікіце Жолабу падалося, што ведзьма выскачыла з-пад зямлі.

Зразумела, што, маючы толькі сякеру, пілу, гнутыя ржавыя цвікі і некалькі сукаватых абапалкаў, не так лёгка было вырашыць такую складаную тэхнічную праблему. І нашы канструктары прапоркаліся са сваёй машынай ледзь не да абеду. Іх творчыя пошукі спыніў прыезд з лесу Колькавага брата.

Сяргей адразу ж паспяшаўся дамоў.

Вароты ў двор былі насцеж адчынены, і ў іх стаялі драбіны з сухім шыгаллем — не ўлезлі ў двор. Стары Церах у белай кужэльнай сарочцы, пацямнелай на спіне ад поту, у замасленай кепцы, якая з'ехала на патыліцу, адкрываючы белую лысіну, развязваў вяроўку, якой было ўціснута шыгалле. Калі вяроўка вызвалілася, яна змяюкай каўзанулася па суках, матлянуўшы вузлаватым канцом у паветры, а шыгалле спружыніста варухнулася, падалося, уздыхнула з палёгкай.

На прыцененым ганку сядзела Сяргеева маці. У яе на прыполе, расставіўшы кароткія пульхныя ножкі і крыху звесіўшы праз калена сваю чарнявую галоўку, спаў Ігарок.

У кутку двара, дзе стаяла бочка з вадой, Гнядко з цёмнымі плямамі на поўсці ад сядзёлкі і хамута еў авёс з лубяной сеялкі, падвешанай на плоце. Відаць, добра напрацаваўся сёння конь, што яго аж аўсом частуюць. Звычайна ўлетку, калі пашы было багата, аўса яму не давалі.

— Во наш і пастушок прыйшоў,— і маці запытальна глянула на Сяргея.— А дзе ж свінні?

— Толік глядзіць,— прамармытаў Сяргей, апусціўшы вочы.

— Добра, што прыбег, а то думаў, самому прыйдзецца гнаць каня,— сказаў дзед.— Памажы во разгружаць ламачча.

Калі дровы разгрузілі, дзед на сабе закаціў драбіны ў двор, зачыніў вароты, спаласнуў ля бочкі з вадою твар, шыю, стомлена сеў у цяньку на прызбу, паклікаў Сяргея. Сяргей падумаў, што вось зараз дзед і спытае, чаму ён пакінуў у полі аднаго малога, але той загаварыў зусім пра іншае:

— Вось што, мой унучак. Павядзеш у поле каня, не забудзь пута. Калі ўвечары пойдзеце дамоў, коней не чапайце. Хай пасуцца. Толькі спутайце, каб у шкоду не трапілі. А начлежнікі прыйдуць і распутаюць... Ды старайся путаць так, каб меней бачылі. І не гавары пра гэта ні з кім.

— Добра,— адказаў ціха Сяргей, цьмяна адчуваючы ўсю сур'ёзнасць просьбы старога.

Церах падняўся, пайшоў у дрывотнік і хутка выйшаў адтуль з новым путам. Яно было калянае, як драцяное.

— Гэтым не спутаеш,— уздыхнуў стары, пакамячыўшы яго ў руках,— і ногі конь абрэжа.

Стары аднёс пута, вярнуўся з другім, старым, звязаным у некалькіх месцах, счарнелым ад часу, мяккім, павесіў яго каню на шыю. Пастаяў, падумаў, зняў пута, аддаў.

— Лепей схавай у кішэню. Каб у вёсцы не бачылі.

Калі Сяргей пад'ехаў да альховых кустоў, сярод якіх пасвіліся коні,— а пад'ехаў ён побрыкам, хацеў перад таварышамі пафарсіць сваім уменнем трымацца на кані,— адразу ж убачыў некалькі коней з путамі на шыях. З путам на шыі быў і Колькаў конь. Сяргей злез з каня, дастаў з кішэні вузлаватае пута, павесіў яго Гнядку на шыю, падышоў да цяпельца, вакол якога скучыліся хлопцы, падаў Толіку скрутачак — яго абед.

— Кажуць, ягады ў лесе,— гаварыў Міхась Канцавы.

У Канцавой Ганны не было ні свіней, ні каня, але Міхась днямі прападаў з хлопцамі ў полі, бо ў вёсцы яму аднаму без сваіх аднагодкаў было сумна.

— За Васільковым, чуў, ёсць,— сказаў Іван Кулінін.— Ніколі іх там не было, а ў гэтым годзе...

— А давайце сходзім,— Міхась Канцавы агледзеў усіх дапытлівым позіркам, вышукваючы ахвотнікаў.

Усе маўчалі. У ягады хацелася кожнаму, але хлопцы разумелі, што ў лес усім ісці немагчыма, што некаму ж трэба застацца тут, каля свіней і коней. Ды і не аднаму.

— А свінні зазыкуюць і збягуць,— Толік ведаў, што яго як самага малога і пакінуць тут.— На каня не ўзлезу, каб пераняць іх...

— Трэба, каб некалькі чалавек,— сказаў Колька.

— Ды вы што? — Міхась Канцавы адчуў, што ў ягады хочуць пайсці ўсе, загаварыў смялей: — Пару чалавек хопіць. Ля свіней. А коней спутаць можна.

— Мне дзед казаў спутаць каня, як дамоў пойдзем,— шапнуў Сяргей Кольку, з якім сядзеў побач.

— А хто будзе ведаць, калі мы іх спуталі,— ціха адказаў той таварышу і на правах старэйшага аб'явіў усім сваё рашэнне: — Коней спутаем. А свіней няхай глядзяць Толік і Іван Кулінін. А мы ім прынясём ягад і патронаў.

Буйныя чырвоныя суніцы пахаваліся пад зялёнымі лі-

сточкамі. Але варта было прысесці, яны адразу ж загараліся наўкола незлічонымі светлячкамі. Хлопцы поўзалі, навыперадкі хапалі іх, жменямі кідалі ў рот. Ягады былі духмяныя, сакавітыя і яшчэ халодненькія — сюды, на паляну, зацененую высокім бярэзнікам уперамешку з рэдкімі соснамі, сонца заглядвала толькі пад вечар.

Асабліва буйныя суніцы былі пад дрэвамі, дзе і ягаднік парос высокі і густы. На яго лісцях яшчэ трымалася раса, якая аж апякала рукі нечаканым халадком. І ягады раслі тут, як боб.

— Эх, не ўзялі якіх кацялкоў,— пашкадаваў Міхась Канцавы, відаць, успомніўшы пра свайго маленькага брацік і маці. Ён зняможана сеў, азірнуўся. Яго завостраны бледны твар быў расквечаны чырвонымі плямамі. Дзюбка носа была таксама чырвонай, нібы ёй расціснуў ягаду.

Ніхто не адгукнуўся на яго голас. Усе распаўзліся па кустах, і толькі чулася, як там-сям шамаціць трава.

І раптам, як звон лопнуўшай струны, пачуўся далёкі голас:

— Ы-ы-ы!..

На яго ніхто нават і ўвагі не звярнуў. Потым голас пачуўся бліжэй:

— Хлопцы-ы-ы!

Яшчэ нельга было пазнаць, хто крычаў, але ніхто не сумняваўся, што клікалі іх. Усе падхапіліся, напружана прыціхлі.

— Хлопцы-ы-ы! — цяпер выразна быў чуваць адчайны крык Кулінінага Івана.

— Ого-го-го-о! — адазваўся танклявым голасам Колька.— Ого-го-о-о-о!

— Немцы-ы-ы! — цяпер Кулінін Іван быў недзе блізка.

Усе кінуліся на крык.

— Якія немцы? — першым убачыў зарымзанага і пераляканага хлопчыка Сяргей.

— Яны коней...— хныкаў Іван.

— Што там такое? — падбег Колька, а за ім і астатнія.

— Забралі,— і, перахапіўшы паветра, растлумачыў:— Усіх спутаных забралі. З імі яшчэ быў гэты...

— Жолаб? — здагадаўся Колька.

— Ыгы,— рымзаў Іван.

Усе апрамецццю кінуліся з лесу. У зялёнай траве замільгалі чырвоныя пяткі. Хлопцы ці не верылі ў гэтую

страшную навіну і хацелі пераканацца хутчэй у ёй, ці спадзяваліся дагнаць тых немцаў і выпрасіць у іх сваіх коней.

Сяргей бег ледзь не першым і адчуваў, як па яго твары цёплымі кроплямі коцяцца слёзы, салоняць вусны. Ён не звяртаў увагі на слёзы. Ён думаў толькі пра свайго Гнядка. Ён нават уявіць не мог, што застанецца без каня, якога паспеў палюбіць так, як любяць самага блізкага і адзінага сябра.

Яшчэ мінулым летам, калі Сяргей не ўмеў з зямлі ўскочыць на каня, Гнядок апускаў галаву, падстаўляючы хлопцу шыю... А ўжо гэтай вясной, калі аднойчы Сяргей ціха ехаў па вуліцы на сваім Гнядку, чакаючы, пакуль яго дагоніць Колька на Орліку, ля школы, з зараснікаў акацыі з крыкам выскачылі малыя. Конь ад нечаканасці ўпужнуўся. Сяргей не ўтрымаўся і плёхнуўся на зямлю. Ударыўся так, што аж загудзела ў галаве. Гнядок жа не пабег далей, спыніўся, а потым вярнуўся назад, стаў побач з Сяргеем, апусціў галаву. І ў полі ніколі не ўцякаў ад яго, як гэта рабілі іншыя коні, а заўсёды, заўважыўшы Сяргея, спыняўся, а часам нават ішоў насустрач свайму гаспадару. З Гнядком Сяргею неяк утульней і спакайней жылося на зямлі. Не верылася, што яго добры разумны Гнядок даўся немцам у рукі, хоць быў і спутаны. Ён недзе схаваўся ад іх у густых кустах...

«Даруй мне, мой міленькі,— бег і ўсхліпваў Сяргей.— Гэта ж я, дурань, цябе спутаў... Хай і ягады прападалі б, каб ведаў такое...»

Немцы пагналі ў вёску ўсіх спутаных коней. Астатнія ж, сабраўшыся кучкаю, стаялі ў густых кустах ля самага балота ў насцярожаным чаканні. Убачыўшы хлапчукоў, яны заварушыліся, ажылі, пачалі скубці траву.

Хлопцы ж, чыіх коней забралі, без перадыху пабеглі ў вёску. Задыханыя, стомленыя, з узмакрэлымі чупрынамі, яны насцярожана і баязліва падыходзілі да школы, не ведаючы, што іх чакае.

На ганку сядзеў валасны стараста Мікіта Жолаб у расхрыстаным пінжаку, з голаю галавою. Яго капялюш быў побач, у ім ляжалі маладзенькія агурочкі. Некаторыя з паліцэйскіх разуліся, выставіўшы на сонца ногі.

Коні стаялі ля плота. На путах, на капытах пазасыхала кроў — парэзалі сабе ногі, калі іх гналі ў вёску. Раны абляпілі мухі, але змарнелыя коні не адбіваліся ад іх, сцішана плюскалі слязлівымі вачыма.

— Дзядзечка, аддайце нашых коней,— захныкалі хлопцы ледзь не разам.

— А гэта вашы? — хрумстаючы крамяным агурочкам, спытаў Мікіта Жолаб.

— Нашы...

— І гэта вы іх спуталі?

— Мы.

— Навошта?

— Мы па ягады пайшлі, каб не збеглі куды,— сказаў Колька.

— Хто вам загадаў спутаць коней? — не слухаў яго Мікіта Жолаб.

— Ніхто,— адказаў зноў за ўсіх Колька.

— Самі,— нясмела і цішэй сказаў Сяргей.

— А хто вам даў путы? — Мікіта Жолаб падняўся і, паляпваючы па калашыне чорнай, як змейка, плёткай, падышоў да хлопцаў, спыніўся перад імі, абмацваючы кожнага насмешлівымі п'янаватымі вачыма.— Хто вам даў путы?

— Ніхто,— зноў першым сказаў Колька.— Мы самі вешалі іх на шыі. Лавіць лепей і садзіцца лаўчэй. Нагу ў пута і — скок.

— Лавіць лепей? — неяк бязгучна хіхікнуў Мікіта Жолаб.— Так, так... Дык хто вам загадаў спутаць коней?

— Я ж сказаў,— пачаў Колька, але яму не даў дагаварыць Мікіта Жолаб, секанууўшы плёткай па чубатай галаве.

— Маўчаць! — І Мікіта Жолаб агледзеў сваю плётку, відаць, баяўся, што забрудзілася.— Я не ў цябе пытаюся. Я ў іх пытаюся. Хто вам загадаў спутаць коней?

— Мы ж у ягады,— хмыкнуў Сяргей. Ён зараз толькі і думаў пра свайго Гнядка, які стаяў з акрываўленымі нагамі і якому Сяргей нічым не мог памагчы.

Мікіта Жолаб яшчэ раз агледзеў прыціхлых і пераляканых хлапчукоў і, відаць, паверыў ім.

— Добра... Вось што, прывядзіце сваіх бацькоў сюды. Хаця не, стойце,— і павярнуўся да паліцэйскіх, што ляжалі на траве: — Вушлан, зараз жа сюды бацькоў гэтых смаркатых! А вам,— ён зноў звярнуўся да хлапчукоў,— раю падумаць і ўспомніць, хто загадаў спутаць коней, калі не хочаце бярозавай «кашы».

Мікіта Жолаб, пакруціўшы перад насамі хлапчукоў сваёй плёткай, вярнуўся на ганак, сеў на ранейшае месца, заглянуў у капялюш, але там агурочкаў ужо не было.

Немцы паелі ўсе. Ён узяў прыкамечаны капялюш, надзеў на галаву.

Па аднаму падыходзілі бацькі, маткі дзяцей. Прыйшоў Тарас Церах, з ім — Колькаў бацька, некалькі кабет. Яны спыняліся воддаль ад сваіх дзяцей і ўнукаў, там, дзе паказаў валасны староста.

— Вашы смаркачы гавораць,— Мікіта Жолаб спыніўся перад старымі,— што гэта вы ім загадалі спутаць коней. Вы, можа, хацелі перадаць коней партызанам?

— Што вы, паночку,— адказаў Тарас Церах.— Хіба можна такое падумаць? Грэх вам будзе перад богам.

— Вы падумайце пра свае грахі перад фюрэрам! — нечакана істэрычна закрычаў Мікіта Жолаб, узмахнуў плёткай, але не ўдарыў старога, а раптам сказаў спакойна, нават з ухмылачкай: — Толькі прызнанне можа выратаваць вас усіх.— І зноў узвіўся ў раз'юшанай злосці.— Чуеце? Толькі прызнанне!..

— Я ж кажу, па ягады,— разрымзаўся нечакана Колька.

— Маўчаць! — падляцеў да яго Мікіта Жолаб, секануў плёткай па хлапечым твары, на якім адразу ж успыхнула чырвоная палоска.

— Ніхто ім не загадваў,— сказаў Колькаў бацька і моцна закашляўся. Кашляў доўга і цяжка. Адкашляўшыся, хрыпатым голасам пачаў тлумачыць: — Ніхто ім не загадваў, пан начальнік. Пайшлі ў лесе сама ягады, грыбы, вось і насвавольлілі. Кожны ж дзень іх папярэджвалі, каб не рабілі таго, што не трэба. Дык неслухы ж такія. Але, паночку, мы іх навучым, на ўсё жыццё запомняць,— і зноў зайшоўся кашлем.

— Паночку вы наш,— раптам Тарас Церах упаў на калені, нізка, да самае зямлі, пакланіўся.— Даруйце вы гэтым дзецям неразумным. Пашкадуйце вы нас, міласці просім. Аддайце вы нам конікаў нашых. Як жа без іх мы хлеб убяром, бульбачку скапаем? А малых мы правучым. Паночку родненькі, даруйце нам, грэшным...

Упалі на калені ўсе астатнія. Жанчыны, дык тыя аж загаласілі.

— Накажыце нас, накажыце іх, але аддайце конікаў нашых,— папрасіў і Колькаў бацька, адкашляўшыся.

Мікіта Жолаб стаяў, памахваючы плёткай, і ўсміхаўся. Яму было прыемна бачыць такую праяву паслушэнства. Перагаварыўшы з немцамі на іх мове, сказаў:

— Харашо. На гэты раз паверым вам. Аддадзім ко-

ней. Але калі яшчэ раз спаймаем іх спутанымі, то на тым свеце будзеце са сваімі смаркачамі збіраць ягады, хе-хе... А за парушэнне закона, які забараняе путаць коней, з усіх вас штраф. Па аднаму кажуху...

— Хіба ўлетку холадна? — спытаў зусім ціха Колькаў бацька, але яго пачуў валасны стараста.

— Па два кажухі,— працягваў Мікіта Жолаб,— і па дваццаць марак...

— Дзе ж іх узяць? — успляснула рукамі адна з кабет.

— Дзе? — перапытаў Мікіта Жолаб.— Свіней прадайце, пакуль іх дарам мы не забралі, хе-хе... Бярыце сваіх коней, а гэтых,— ён плёткай паказаў на прыціхлых хлопцаў,— прашу ў клас. Яны наеліся ягад, а цяпер няхай закусяць бярозавай «кашай».

Хлопцы сядзелі за партамі ў трывожным чаканні. Яны не ведалі, што яшчэ прыдумаў для іх гэты нямецкі паслугач.

Зайшоў Мікіта Жолаб, прыязна ўсміхнуўся:

— Прабачце, даражэнькія, што не будзе бярозавай «кашы». Не знайшлося блізка добрай бярозы. Ёсць акацыя. Але з акацыі «каша» яшчэ смачнейшая,— і ён неяк па-сяброўску падмігнуў Кольку.

Колька яшчэ болей насупіўся.

А за спіной валаснога старасты стаяў паліцэйскі з доўгімі і калючымі дубцамі з акацыі.

— Усім па дзесяць,— загадаў яму Мікіта Жолаб і паказаў плёткай на Кольку.— А гэтаму двайную порцыю. Вельмі сур'ёзны хлопец.

Паліцэйскі паклаў на стол дубцы, пачаў распранаць свой цеснаваты фрэнч.

— А калі хто прызнаецца, хто ім загадаў спутаць коней,— спыніўся ў дзвярах Мікіта Жолаб,— таму «каша» адмяняецца.

Пасля «кашы» хлопцы ледзь перастаўлялі ногі. І каб не гэты Мікіта Жолаб, які стаяў на ганку школы і праводзіў іх насмешлівым позіркам, яны пападалі б, а так ішлі, сцяўшы зубы. Кольку вялі пад рукі. Той не меў сілы ісці. І ўсё ж ён яшчэ падбадзёрваў хлопцаў:

— Нічога, мы яму яшчэ зробім. Мы яму яшчэ такую ведзьму падкінем. З мінай. Паглядзім тады,— і Колька спрабаваў усміхнуцца засмяглымі вуснамі.

А праз тыдзень ноччу знікла некалькі коней. Забралі самых лепшых. Калі пра пакражу паведамілі ў воласць, Мікіта Жолаб сабраў у школе ўсіх начных пастухоў. Ка-

залі, што іх там «карміді» не бярозавай «кашай», нават не з акацыі, а шампаламі, і «карміді» так, што потым хлопцы па месяцу хварэлі, ляжалі дома, не маглі хадзіць. Больш за ўсіх шампалоў атрымаў Мікола Дрозд. Гаварылі, за вясёлы характар. Любіў Мікіта Жолаб вясёлых людзей. Папала добра і Колькаваму брату.

Але хлопцы не забылі тую ласку Мікіты Жолаба. Калі немцы адступалі, яны перастрэлі яго ў полі, калі той ехаў з Ягаднай у воласць, і застрэлілі з абрэза.

Калі ж Ягадную вызвалілі ад немцаў, высокі зухаваты юнак прыгнаў у вёску некалькі коней. На грудзях юнака вісеў нямецкі аўтамат, а кубанка, якая набакір сядзела на чубатай галаве, была з чырвонай лентай. Коні былі знясіленыя, худыя, а два з іх добра пакульгвалі. Але яны яшчэ доўга рабілі ў калгасе. Калгаснікі інакш і не называлі іх, як партызанскімі.

## ПАХ ПЕЧАНАЙ БУЛЬБЫ

Яны ўжо каля тыдня сядзелі ў сіласнай яме. Яма была шырокая і глыбокая. Краі яе аб'ехалі, абсыпаліся. Глыбы зямлі, абваліўшыся, утварылі выступы, па якіх, як па прыступках, можна было спусціцца ўніз і падняцца. Зверху зямля, змацаваная дзірваном не ўсюды, асунулася, утварыўшы застрэшкі, пад якімі можна было схавацца ад дажджу ці ад пякучага сонца.

На самым дне ямы была вада. Невядома адкуль — засталася ад вясны ці яе назапасілі дажджы. У траве раслі гарчак і конскае шчаўе. Захіленая ад сонца травой, вада была халодная, як з калодзежа. І празрыстая. Яна зманліва блішчала праз лісце ля самых ног жанчын і дзяцей. Але зачэрпнуць яе корчыкам ці слоікам ніхто не адважваўся.

Неяк Марфа спусцілася да вады, толькі нагнулася, выцягнуўшы руку са шклянкай да яе чыстага акенца, як аўтаматная чарга прашыла калюжыну, абпырскаўшы ўсіх навокал гразюкай. Марфа так ні з чым і вярнулася да дзяцей, якія пасля стрэлаў перасталі хныкаць і прасіць піць. Замоўклі, прытаіліся ад страху.

Але што гаварыць пра ваду, калі не дазвалялася пераходзіць з месца на месца, нават уголас размаўляць. Усе сядзелі там, дзе прымасціліся адразу, як прыйшлі ў яму, перагаворваліся шэптам, не гледзячы адзін на аднаго.

Нашто ўжо смелая была Верка, але і тая, калі спявала, ці расказвала што гучна, ці раптам ні з таго ні з сяго залівалася смехам, і то не адважвалася на каго-небудзь глянуць, нібы гаварыла і спявала толькі сабе. Як дурнічка якая. Яе такой, відаць, і ўспрымалі немцы, бо ні разу не толькі не спынілі, а нават самі зацікаўлена прыслухваліся, відавочна забаўляючыся старой. Яны і не падазравалі, што гэтая босая, з учарпелымі ад зямлі і начной зябкасці нагамі, з замурзаным тварам, з раскудлачанымі, даўно не бачыўшымі грэбня валасамі, у няпэўнага колеру рыззі старая была яшчэ маладой прыгожай чырванашчокай дзяўчынай.

Іх вартаваў звычайна адзін і той жа немец. Ён быў у зялёным мундзіры, у высокіх, заўсёды запыленых ботах. На доўгай тонкай шыі вісеў цяжкі аўтамат, на баку, на абвіслым рэмені,— дзве, як таўкачыкі, гранаты. Немец быў худы, драбнатвары, з нейкім запалым, усечаным падбародкам і вялікім вузкагубым ротам. Калі ён рагатаў — у яго быў асіплы, прастуджаны голас,— то выскаляў рэдкія кароткія зубы. Адным словам, немец зусім быў не падобны на салдата, а хутчэй нагадваў нейкае недарослае дзіця.

— То ж трэба, такі маладзенечкі, а ўжо не чалавек,— гледзячы на немца, уздыхала Лёкса Грак і папраўляла радно, бруднае, у некалькіх месцах прапаленае, якім яны накрываліся з малымі. Усім разам ім было цяплей ды і смялей крыху.

Некалькі разоў на дні да гэтага немца прыходзіў яшчэ адзін. Гэты, другі, быў больш сталага веку, сівагаловы, распаўнелы, каржакаваты. Мундзір яго пукаціўся на жываце, нібы выстаўляючы напаказ да бляску начышчаныя гузікі. Кароткія боты з шырокімі халявамі на крывых нагах былі без пылінкі, наглянцаваныя. Гранат у яго не было, але аўтамат вісеў на шыі такі ж, як і ў першага. Толькі на яго шырокіх грудзях ён здаваўся меншым і нават лягчэйшым.

Яны звычайна любілі пастаяць на краі ямы і, паглядваючы на прыціхлых жанчын і малых, ажыўлена пра нешта пагаварыць, пасмяяцца. І ўсім у яме здавалася, што смяюцца немцы з іх, маўклівых, знежывелых.

Але вясёлая іх гаворка і смех асаблівай пакуты нікому не прыносілі. На яе проста не звярталі ўвагі. А вось калі немцы садзіліся на краі ямы, апусціўшы ногі ледзь не на галовы жанчын, рассцілалі на траве шматок паперы, рас-

кладвалі на ёй яду, пілі шнапс, закусвалі шпікам з хлебам, хрумсталі агурочкамі і пры гэтым смачна і гучна чвякалі. Усе ў яме мацней сціскалі зубы і апускалі галовы. Мужна пераносілі гэты здзек не толькі дарослыя, але і дзеці. Звычайна цікаўныя, ажыўленыя, яны затоена маўчалі і не глядзелі на немцаў. Хаця дзеці, можа, болей, чым дарослыя, хацелі есці.

У такія хвіліны Марфе здавалася, што яе меншы Ігарок, можа, ужо спруцянеў, што маўчыць. Што Толік маўчаў, яе не здзіўляла: Толік большы, разумнейшы. А гэтаму ж якіх два годзікі, ды і выдаўся ён крыкуном. І раптам такое зацятае маўчанне. А можа, і не дыхае ўжо? Марфа набліжала сваю брудную далоню да роціка малога, але не магла адчуць яго дыхання. Тады яна паспешліва засоўвала руку пад коўдру, прыціскала да грудзей і супакойвалася толькі тады, калі адчувала, як пад далоняй напружана і часта білася сэрца. Старалася з апошніх сіл.

«А мой жа ты верабейка,— уздыхала Марфа.— Гэта ж, можа, дні два ўжо ў роце і крупінкі не было».

Канешне, каб ведаць, што столькі будуць трымаць іх у яме, прыхапіла б чаго з сабой. Думалася ж, сабяруць, які загад прачытаюць, як гэта часта было, ды і адпусцяць. А потым і спяшаліся, бо тых, хто марудзіў, пагражалі застрэліць. Добра, што Марфа прыхапіла са стала хоць акраец хлеба: падумала, што прыйдзецца стаяць перад якімі начальнікамі, і каб малы не плакаў, яго можна будзе задурыць гэтым акрайцам.

Трымаліся на тым хлебе некалькі дзён.

Канцавая Ганна дык як ведала, што іх надоўга заганяць у яму, узяла з сабой цэлы чыгунок бульбянога супу і карміла сваіх сыноў тым супам. Яшчэ ўчора перадала і ёй, Марфе, скрылёк бульбы. Бульба пракісла, але есці яшчэ можна было. Ігарок адкусіў паўскрылька, а другую палову аддаў Толіку.

Калі немцы наеліся, старэйшы зацягнуўся цыгарэтай, лёг на спіну, адсунуўшыся далей ад ямы, так што толькі цыгарэта і рука, якая яе трымала, і былі відаць. Маладзейшы ж падняўся, узяў з паперы недаедзеную скарынку, сказаў Марфе:

— Komm her! Nimm es für Kinder...* — паказваў ёй на тую скарынку. Відаць, хацеў, каб яна паднялася і ўзяла яе.

---

* — Ідзі сюды! Дасі дзецям... *(ням.)*

Марфа зрабіла выгляд, што нічога не разумее, нават вочы адвяла. Толік таксама глядзеў у другі бок. А Ігарок, здавалася, моцна спаў.

Ніхто ў яме не зварухнуўся. Сядзелі як акамянелыя.

Немец абвёў усіх прыжмураным позіркам, а потым, кінуўшы скарынку некуды ўбок, зняў з рэменя гранату, памахаў ёй у паветры, нібы збіраўся шпурнуць у жанчын, потым гучна, выскаляючы свае дробныя зубы, зарагатаў...

Ніхто ў яме не ведаў, колькі яшчэ іх тут пратрымаюць, і наогул не маглі даўмецца, навошта іх сюды сагналі. Ці каб не заміналі ў вёсцы чужынцам, не бачылі, колькі іх, якая ў іх тэхніка і што яны робяць там? Хаця што маглі зразумець у ваенных справах малыя ды старыя. Ды каб і схаваць свае сакрэты, для гэтага не трэба было іх заганяць у яму. Пераседзелі б у якім гумне ці нават у калгасным садзе, які быў адразу за сіласнай ямай. Ці, можа, фашысты хацелі паглядзець, як казала Ганна Канцавая, ці доўга можна вытрымаць без ежы. Некаторыя ж лічылі, што іх сагналі сюды, каб не перабіла асколкамі, калі пачнецца бой за вёску. Але ў апошняе мала хто верыў. А можа, чакаюць машыны, у якіх потым павязуць іх у Нямеччыну? Добра, што хоць большасць жыхароў вёскі — мужчыны, маладыя жанчыны, старэйшыя дзеці,— як толькі стаў падыходзіць сюды фронт, разам з той скацінаю, якая засталася, пайшлі ў глухія лясы за Штонава балота, каб перасядзець там, пакуль выганяць немцаў.

А можа, цяпер і трымаюць іх як заложнікаў? І калі не вернуцца тыя з лесу, дык іх тут знішчаць?

Марфа ўжо шкадавала, што з двума меншымі і маткаю засталіся ў вёсцы, не пайшлі ў лес. Вось і апынуліся ў пастцы. І хаця Марфа не ведала, які лёс напаткае яе з малымі, ці доўга вытрываюць яны без ежы і вады, але не так трывожылася за іх — яны ж былі побач, пад яе наглядам,— як за старэйшага Сяргея, пра якога нічога не ведала. Тым больш што страляніна ў тым баку, дзе быў Сяргей, мацнела з кожным днём.

Ды не толькі адна Марфа трывожылася за сваіх. Часта сярод напятай цішыні раптам усхліпвала якая з жанчын:

— Ой, як жа яны там, нашы родненькія?

І гэты, шосты ці сёмы, а можа, нават і восьмы, дзень — ніхто дакладна не мог падлічыць дні — нічым не

адрозніваўся ад папярэдніх. Толькі людзі былі больш маўклівыя і панурыя. І не таму, што прыцярпеліся, а хутчэй таму, што страцілі надзею на лепшае, а можа, і наогул не верылі ў паратунак. І калі сонца схавалася, а яма напоўнілася цяньком, які паступова гусцеў, набракаючы вечаровай прахалодай, малыя цясней туліліся да матак, каб цяплей было спаць ноччу. І вось ужо немец наверсе рабіўся невыразным маўклівым прывідам на фоне пацямнелага неба з рэдкімі набраклымі хмарамі, якія яшчэ свяцілі водбліскам згасаючага дня. А хутка так ужо сцямнела, што нельга было і разабраць, ці то з краю ямы стаіць куст палыну, ці немец задрамаў, прысеўшы яшчэ на цёплы дзёран.

І раптам пацягнула вострым пахам печанай бульбы. Спачатку гэты пах ледзь угадваўся, здавалася, што ён проста памроіўся зґаладалым людзям. Потым схлынуў, нібы змяло яго подыхам вечаровага ветрыку. Затым нахлынула яшчэ мацнейшая хваля гэтага паху, напоўніўшы сабою яму. Усе ажылі, заварушыліся, пачуўся дзіцячы капрызлівы плач: пах ва ўсіх абудзіў нясцерпны голад, нагадаў пра ежу, пра якую яны пачыналі забываць.

Заварушыліся і Марфіны малыя. Але плакаць не сталі. Ігарок глыбей уткнуўся тварыкам ёй у калені, а Толік нацягнуў на галаву старую бацькаву целагрэйку, хаваючыся ад гэтага трывожнага праніклівага паху.

Недзе загаварылі немцы. Падалося, што іх было там некалькі чалавек. Зусім блізка кляцнула жалеза. Усе прытаіліся ў чаканні самага горшага.

— Бульбу, гады, пякуць,— сказала напаўголаса Марфа сваёй маці, якая сядзела побач і нешта сама сабе шаптала — ці не малілася богу.

— І праўда,— паглядзела на неба Варвара Мацвееўна. Цемру рассякалі палахлівыя чырвоныя промні, асвятляючы то куст дзядоўніку, то зараснікі палыну, а то і белыя змярцвелыя твары тых, што сядзелі бліжэй да краю ямы.— Не маглі далей развесці агонь. Абы людзей мучыць. Ой, няма на іх пагібелі.

— Ой, мамачка, не выжывуць мае,— усхліпнула Марфа.— Ужо і есць не просяць.

Варвара Мацвееўна нічога не адказала, яна нібы і не пачула дачку. А потым нахілілася да яе і зашаптала ў самае вуха:

— Паслухай, Марфачка... У тваім садзе ля плота, дзе сліўкі растуць...

— Ведаю,— кіўнула галавой Марфа.

— Паміж сліўкамі закапала пару дзесяткаў яек. Як немцы пачалі з'язджацца ў вёску, я і закапала, думаю, няхай будуць, а то гэтыя вылюдкі ўсё павышукваюць. На сваім агародзе не паспела, яны ўжо сваю арудзію ставілі пад вішнямі. Калі там падымаць дзёран, ён над яйкамі і падымецца. Там пад дошчачкай у мяшэчку.

— А немец? — зразумела Марфа, куды хіліць маці.

— А ён, можа, бульбу пячэ? Калі ля агню сядзіш, навокал нічога не відаць. Можна вылезці з ямы з другога боку, адпаўзці да ліпак, а там па цёмнаму...

— Я пайду, а вас тут...

— Пакуль жа нічога не зрабілі... Можа, нічога і не зробяць. А прынясеш яйкі, на некалькі дзён хопіць. Ці чакаць, пакуль малыя папруцянеюць? Хто ж ведае, кольні нам яшчэ прыйдзецца сядзець? А калі доўга? Я сама думала пайсці, ды баюся, не дайду... А цяпер самы час схадзіць. Немец ля агню прыгрэецца, можа, і засне яшчэ...

Марфа перадала Ігарка маці на рукі. Хлопчык нават не прачнуўся, толькі пацмокаў у сне. Падсунула бліжэй да старой і Толіка. Той, зашываючыся ў целагрэйку, спытаў праз сон:

— Куды ты?

— Спі, сынку, я нікуды,— яна прыкрыла малога цёплай хусткай, якую зняла са сваіх плеч, крыху пастаяла на каленях, прыслухоўваючыся да далёкіх глухіх выбухаў, паднялася і асцярожна, каб раптам не наступіць на каго, дабралася да травяністага застрэшка, агледзелася. Немца паблізу не было. Узлезла наверх. З-пад ног і рук пасыпалася зямля. Зусім побач нехта заварушыўся. «Ой, божачка, і каму гэта жыць знадаела?» — пачулася буркатня.

Марфа хуценька адпаўзла далей ад ямы, прыціснуўшыся да зямлі, потым азірнулася і знерухомела, уражаная тым, што ўбачыла.

У вёсцы амаль над кожнай хатай высока ў неба шугала полымя, снапамі разляталіся іскры, неба засцілаў чорны дым, падсвечаны знізу.

Адпоўзшы ў зараснікі дзядоўніку, якім густа пакрылася былое калгаснае дворышча, прыўзнялася. На фоне палаючай вёскі добра было відаць усё навокал сіласнай ямы. Немца яна не ўгледзела. Падумала, ці не вярнуцца і сказаць пра гэта людзям. Можа б, паспелі вылезці з ямы

і пайсці. А куды? У лес! А раптам немцы? У яме, можа, пра іх забудуць, не крануць, а так перастраляюць усіх. Ды і вартаўнік, можа, дзе блізка прытаіўся. Можа, нават задрамаў, дык не заўважыў яе. А пачнуць выбірацца ўсе, расплачуцца малыя, падхопіцца і пусціць свае гранаты ў ход. Нездарма ж пагражаў. Не, трэба ісці, каб хутчэй вярнуцца назад і быць разам са сваімі дзецьмі, разам з усімі.

Марфа, прыгнуўшыся, дабегла да нізкіх і густых ліпак, якімі быў перад самай вайной абсаджаны калгасны сад і ў цяньку якіх цяпер можна было добра схавацца, прайшла паўз ліпкі па канаве, скіравала па росным поплаве вакол зарослага лазнякамі балотца. Яно цягнулася ледзь не да самай вуліцы, на якой і была яе хата. Ад вуліцы ў балотцы была глыбокая копанка, а з таго краю, дзе цяпер ішла Марфа, расла высокая асака і частымі купкамі стаяў лазняк. Пасярэдзіне, бліжэй да копанкі, нават рос і чарот. Зараснікі лазняку і чароту, а таксама і высокая асака кідалі ад сябе густы цень, у якім і хавалася Марфа.

Апынуўшыся насупроць вуліцы, Марфа спынілася, разглядаючы, што там адбывалася. На вуліцы, асветленай пажарамі, усё было відаць, як удзень. Ля калодзежа стаялі танкі і некалькі грузавых машын, ля іх мітусіліся немцы з вядзерцамі. Багата немцаў капашылася і далей, аж у тым канцы вуліцы, дзе былі школа і калгасная кантора. Раптам пачулася страляніна, з кулямёта ці з аўтамата, Марфа не ведала. Чорнае паветра над яе галавой прашыў вогненны шнурочак. Не зразумець было, стралялі з вёскі ці адкуль з другога боку. Яна ніцма ўпала ў росную траву. Сэрца так грукала ў грудзях, што, здаецца, толькі яго і чула жанчына. Болей не стралялі. На траву падалі ружовыя водбліскі пажару. Кроплі расы ўспыхвалі чырвоным агнём. Падымацца на ногі Марфа больш не адважылася. Яна папаўзла. Кофта, спадніца адразу ж сталі мокрымі, пацяжэлі. Калені і далоні аж гарэлі ад пякучай расы. Кончыўся поплаў, пачалося бульбянішча. Пад рукамі і каленямі правальвалася мяккая, узрыхленая зямля — тыдні два таму толькі выкапалі бульбу. Зямля наліпла на мокрую адзежу, паўзці станавілася ўсё цяжэй. Марфа прысела, паглядзела на вёску. Вуліца ўжо не праглядвалася, застаўшыся ўбаку ззаду. Святло ад хат амаль не дасягала жанчыны. Мокрая і брудная адзежа хутка набракала холадам. Марфа падхапілася і ледзь не подбегам

скіравала туды, адкуль можна было адразу выйсці на свой план. Па плану ісці не адважылася. Яе хата сама разгарэлася. Абвалілася страха, агаліўшы высокі тонкі комін. Комін нейкі час стаяў зырка падсвечаны, як які надмагільны помнік-абеліск, потым прама на вачах кульнуўся як падстрэлены. А полымя ўжо абнюхвала, лізала страху на хляве. Ад плота, што быў за садам, на план падаў цень. Хоць і разбаўлены святлом, не густы, а ўсё-такі цень. А на мяжы, паміж бульбянішчам і жытнішчам, абсаджанай буракамі і аплеценай гарбузнікам, дык і зусім было цёмна. Марфа і папаўзла па мяжы, часта чапляючыся за калючы гарбузнік. Яна падпаўзла да плота якраз насупраць тых слівак, паміж якімі і былі закапаны яйкі. Плот быў з жэрдак, прыбітых густа, так што паміж імі нельга было пралезці. Некалі Андрэй, пасадзіўшы сад, абгарадзіў яго, каб ні адзін заяц не пралез. Марфа па мурагу, што рос паўз самы плот, дапаўзла да варот у сад, якія якраз былі крыху прыадчынены, і ўжо хацела прашмыгнуць у іх, як раптам зусім побач пачула нямецкае гергетанне. Яна прынікла да зямлі, перастала дыхаць. Не, яе не заўважылі. Яна адсунулася крыху назад, далей ад варот, а потым праз шчыліну паміж жэрдак заглянула ў сад.

Два фашысты стаялі ля яблынькі і елі яблыкі.

Марфа баялася паварушыцца. Яна ўжо і не рада была, што паслухала матку, пайшла па тыя яйкі, а цяпер вось ні наперад ні назад. Невядома ж, колькі тут будуць стаяць гэтыя немцы, куды яны пойдуць потым. А раптам праз вароты? Тады абавязкова ўбачаць яе. А тут, як на тое, полымя ахапіла ўсю страху хлява, і навокал яшчэ болей павіднела.

Недзе на вуліцы нехта двойчы стрэліў.

Немцы прыкметна заспяшаліся, пакідалі недаедзеныя яблыкі, пачалі абрываць астатнія з дрэўца і запіхваць у кішэні сваіх фрэнчаў. Яшчэ некалькі буйных яблыкаў святлела на гонкай і кволай верхавінцы дрэва сярод пакручанага ад спякоты лісця. Яны не маглі дастаць іх. Тады адзін падскочыў, схапіўся за верхавінку, абламаў яе разам з яблыкамі.

«Падавіліся б вы тымі яблыкамі...» — абурылася ў думках Марфа.

Немцы хуткаю хадою скіравалі прама праз грады на суседні гарод. Чулася, як з хрумстам раскалваліся буракі пад іх падкаванымі абцасамі.

І хаця ў садзе, здаецца, не было ўжо нікога, але вылазіць са свае хованкі Марфа не асмельвалася. Сама разгарэлася страха на хляве і разагнала цемру так, хоць збірай іголкі. Варта было жанчыне высунуцца з-за плота, яе адразу ж маглі заўважыць. Можа, немцы знарок блукаюць па агародах, каб не прыбеглі людзі тушыць свае хаты.

Ад зямлі ішло цяпло, прыгравала і зверху. Адзежа нагрэлася, не адчувалася нават, што яна мокрая. І Марфе настолькі было ўтульна і цёпла, што каб не ўстрывожаная напружанасць, яна, відаць, і задрамала б тут, пад плотам на мурагу, ля свайго саду.

Хлеў гарэў, разгараўся. Клубамі ўзлятала ў цёмнае неба полымя, нібы там, усярэдзіне, што ўзрывалася. І вось агаліліся кроквы і латы. Сухія, яны гарэлі, як порах, страляючы сучкамі. А калі абваліліся, у неба падняўся сноп іскраў. Іскры ўзляталі высока і тухлі ў цемры.

«Ой, згарыць жа і лісапета»,— раптам падумала ў роспачы Марфа. Ёй зараз не было шкада ні хаты, ні хлява, ні саду — яны ўсё роўна ўжо амаль згарэлі, ды і гарэлі яны ва ўсіх, а вось веласіпед быў толькі ў іх, адзін на ўсю вёску. Андрэй купіў яго перад самай вайной. Толькі раз і з'ездзіў на ім у райцэнтр на першамайскую дэманстрацыю.

У тую раніцу ён выцер веласіпед белай анучкай так, што ён увесь аж зазіхацеў на сонцы, прымацаваў да руля чырвоны сцяжок, на раму перад сабой усадзіў Толіка, а ззаду на багажнік — большанькага Сяргея. І ўсе ўтраіх, у чорных новых штанах, у белых крамных кашулях, такія святочна-ўрачыстыя, радасныя паехалі па вузкай сцяжынцы, што была пратаптана па травяністай вуліцы паўз двары. Андрэй часта дзынкаў званком, і не таму, што на кожным кроку пападаліся куры ці качкі, яму проста прыемна было дзынкаць, хацелася, каб яго бачылі людзі...

А потым, калі Андрэй ішоў на вайну, ён папрасіў схаваць веласіпед да таго часу, пакуль ён вернецца ці пакуль не падрастуць сыны. І Марфа схавала веласіпед яшчэ да прыходу немцаў у хляве пад сенам. Абмазала салідолам, якога выпрасіла ў трактарыстаў, заматала ў газеты, потым яшчэ і ў старое радно і паклала на сасновае галлё на самым дне, потым прываліла яшчэ галлём, а наверх ужо склала сена. Сена наклалі пад самую страху, каб хапіла карове на ўсю зіму. Ды не давялося ёй яго есці: прыстрэлілі немцы Лыску. Пасвілася ля самай дарогі на

Прудоўку, вось яе і выбралі з усяго статка. Маладая, спраўная была кароўка. Забралі на мяса.

Лепей бы яна выменяла той веласіпед на карову. Была б цяпер карова. Можа б, і засталася. У многіх жа засталіся. А зараз людзі перачакаюць у лесе, пакуль пройдзе фронт, дык хоць з малаком будуць. А то ні каровы, ні веласіпеда...

А прыходзіў жа сам валасны начальнік, і прыходзіў не адзін раз, усё выпрошваў веласіпед. Яна гаварыла, што перад самай вайной муж прадаў веласіпед некаму ў раёне. Не верыў. Нават пагражаў, паліцэйскіх прысылаў рабіць вобыск. Тыя ўсё абшарылі сваімі шомпаламі: і ў хаце, і на гарышчы, і ў хляве, але нічога не знайшлі. Потым той валасны начальнік даваў нямецкія маркі, абяцаў і карову за веласіпед прыгнаць. Калі пачула Марфа пра карову, то на які момант завагалася. Цяжка было з малымі без каровы. Але яна не вельмі верыла, што нямецкі паслугач выканае сваё абяцанне. А можа, трэба было пагаджацца? Можа б, і прывёў? Усё роўна ж згарыць веласіпед. А можа, і не? Сена ж гады два ляжыць, недзе зляжалася добра. А потым жа якраз над сенам працякала страха, так што яго і прамачыла за лета добра. Сама бачыла, што яно ў тым месцы, дзе працякала страха, пацвіло, пачарнела, пачало гніць. Гэтай восенню бацька хацеў перакрыць хлеў, нават снапкоў жытніх нарыхтаваў, склаў іх у хляве ля сена. Пагараць і тыя снапкі. І бульба пагарыць, якую высыпалі ў хляве — не паспелі ў пограб перанасіць.

Раптам з хлява паваліў густы чорны дым. Відаць, занялося сена, ды не хацела паддавацца агню, зляжалае і сырое. Дым распоўзся па садзе, ад яго аж пацямнела ўсё навокал... У Марфы заслязіліся вочы, запяршыла ў горле, яна чуць не раскашлялася. Чакаць лепшага моманту было нечага, ды ў такім дыме нельга было доўга і вытрымаць. Яна юркнула ў вароты, сагнуўшыся, дабегла да слівак, упала на дол, адчула, як пад локцямі і каленямі лопаліся слівы, што, выспеўшы, абсыпаліся. Але ёй было не да сліў. Яна пачала мацаць траву. Трава перастаяла, застарэлая, дзябёлая, рэзала рукі, не паддавалася. Яна прысела і пачала скубці яе. Вось адзін лапік дзёрну падняўся. Марфа сунула руку ў халодную ямку, намацала дошчачкі. Пад дошчачкамі быў мяшэчак з яйкамі. Марфа асцярожна падняла гэты мяшэчак і кінулася назад, да варот. Цяпер яна амаль не думала пра небяспеку, цяпер

яна думала толькі пра тое, каб хутчэй выбрацца адсюль і, пакуль не развіднела, дабрацца да сваіх. Мінуўшы вароты, пабегла наўспрамкі па полі далей ад святла, у цемру, якая ляжала чорнай цяжкой хмарай. Наперадзе калыхаліся цені, расплываліся, рабіліся ўсё даўжэйшымі, зліваючыся з цемраю. Здавалася, што гэта сама цемра працягвае рукі ёй, Марфе, прыспешваючы яе, падцягваючы да сябе, каб хутчэй схаваць ад чужога вока. Марфа і не заўважыла, калі зніклі гэтыя цені, калі яна апынулася ў цемры. А калі заўважыла, то крыху сцішылася, каб перахапіць паветра, перадыхнуць. Пераканаўшыся, што яе ніхто не бачыў, пайшла спакайней, трымаючыся мяжы святла і цемры, арыентуючыся па гэтай мяжы. Раптам наперадзе нібы загула машына, святло ад фар было бляклым і бездапаможным. Машына ехала па дарозе з Прудоўкі ў іхнюю Ягадную. Марфе падалося, што з машыны нібы стрэлілі па ёй. Яна ўпала ў бульбянішча і ляжала да таго часу, пакуль машына не пад'ехала да вёскі, і ўжо адкуль, са светлага, нельга было ўбачыць яе, схаваную цемрай.

Жанчына ўзяла крыху лявей, каб не адхіліцца ад калгаснага дворышча. Тым больш што неба пачало набракаць досвіткам. Няўжо яна прахадзіла цэлую ноч? У нізкіх месцах трымаўся густы туман, а можа, гэта быў дым з пажару? Марфа зноў прыбавіла кроку, каб зацемна дабрацца да сваіх і не трапіць на вочы таму немцу з аўтаматам на шыі. І ўсё ж ад страху яна залішне далёка абыходзіла вёску. Нечакана выйшла да балота, якое было пад самым лесам. Яна ведала, што паўз балота была палявая дарога, якая цягнулася ад лесу праз калгаснае дворышча ў вёску. Марфа і пайшла па гэтай дарозе. Яна і сама не магла зразумець, чаму на гэтай дарозе яе раптам пакінуў страх. Нібы і не было вакол вайны, не было паблізу немцаў, а былі свае палі, свая знаёмая да драбніц з дзяцінства палявая дарога, на якой, здавалася, яна ведала кожную травінку, кожную выбоіну ў каляіне. А можа, ёй смялей стала ад таго, што туман настолькі згусцеў, што нічога не было відаць наўкола. І каб не пах печанай бульбы, не пах дыму, не далёкая страляніна, то і не верылася б, што наогул была вайна.

Раптам пачуўся глухі конскі тупат.

А можа, гэта стукала ў яе галаве ад голаду? Марфа спынілася, прыслухалася. Тупат сціх. Недзе на чыгунцы чуліся глухія выбухі. І толькі яна зрабіла крок, як зноў

пачуўся тупат, больш блізкі і выразны. І нібы звякнулі цуглі. А можа, ёй мрояцца ўсе гэтыя гукі? Колькі дзён і крошкі ў роце не было, дык здаецца ўсялякае. Гэта ж учора ці пазаўчора сядзела яна ў яме. Быў надвячорак. Дзеці сцішыліся, заснулі. Немец сядзеў на краі ямы, захінуўшыся ад вечаровай золкасці ў плашч, абапёршыся на свой аўтамат, здавалася, таксама драмаў. І ў Марфы звяло павекі, ці ад слабасці, ці таксама ад сну. І раптам бачыць яна свайго Андрэя. Стаіць перад ёй і смяецца моўчкі. Яна напружылася, каб лепей разгледзець яго постаць, але, як ні ўглядалася, нічога не бачыла, акрамя твару. Нібы ён адлучыўся ад цела, а разам з целам страціў і голас. Толькі і ўмее смяяцца, і то бязгучна, нема. З жахам углядалася ў той твар Марфа і бачыла, як раптам ён затрымцеў і прама на вачах зрабіўся месяцам, што адбіваўся ў калюжыне на дне ямы. Яна падняла вочы і ўбачыла якраз такі, толькі больш яркі месяц на небе, на краі воблачка, прасвечанага гэтым месяцам. Да раніцы яна тады не самкнула вачэй, усё думала пра свайго Андрэя. Можа, дзе куля спаткала яго, дык і ўбачыўся ён ёй? Прыляцела душа развітацца. І на другі дзень яна ўжо глядзела на сваіх дзяцей, як на сірот. Яна лашчыла і галубіла іх так, як, можа, яшчэ ніколі не лашчыла і не галубіла. Маці аж прыкрыкнула на яе: «Што гэта ты, дзеўка, развітваешся з імі? Нельга ж так. Чуеш?»

А можа, іх і няма ў жывых нікога? Пакуль яна бегала за тымі яйкамі, дык немцы... Адступаюць жа, шкадаваць не стануць.

Недарэмна ж вартавалі...

Ад гэтае думкі яе ўсю працяў дрыготкі жах, ногі зрабіліся як не свае, падламваліся.

Конскі тупат зноў узнік, на гэты раз неяк нечакана, зусім знянацку. Ці, можа, ахопленая думкамі пра мужа, пра дзяцей, яна не заўважыла яго набліжэння?

Коні зазвінелі цуглямі, цяжка задыхалі амаль побач. На яе патыхнула паветрам, прапахлым сенам і потам. Адзін конь спыніўся побач, каб трохі, то і наехаў бы на яе.

— Скажите, пожалуйста, какая деревня? — спытаўся незнаёмы голас, нецярплівы, узрушаны.

Яна азірнулася і ўбачыла на конях сілуэты людзей у пілотках з плашч-палаткамі на плячах. Палаткі накрывалі і спіны коней. Да коннікаў пад'язджалі яшчэ.

— Так какая деревня? — зноў той жа нецярплівы голас.— Вы слышите?

— Ягадная,— яна паспела сказаць толькі адно слова, а потым нешта ёй заняло дыханне і, балюча-даўкае, распёрла горла...

— Значит, идем правильно,— сказаў пярэдні ўсім і зноў спытаў у Марфы: — А немцы есть?

Яна толькі змагла кіўнуць галавой.

— А население где? — зноў спытаў у яе ўсё той жа чырвонаармеец.

— Прама,— махнула наперад рукой Марфа.— У сіласнай яме. І немцы... Можа...— з-за слёз яна не змагла гаварыць далей.

— Вперед! — рэзка скамандаваў той, што размаўляў з ёю. І паўз Марфу, выкідваючы з-пад капытоў вільготныя камякі зямлі, прамчаліся коннікі. Колькі іх было, яна не разгледзела ў тумане, але падалося, што вельмі багата.

А калі коннікі зніклі, як раставі ў тумане, яна нібы прачнулася і пабегла ўслед за чырвонаармейцамі, каб хутчэй паведаміць сваім пра вялікую навіну.

Зусім блізка, наперадзе, разарвалі туман аўтаматныя чэргі, потым пачуліся адзіночныя стрэлы, нібы хто паставіў кропкі ў канцы тых чэргаў.

Дабегшы да калгаснага саду, Марфа збочыла з дарогі і скіравала да сіласнай ямы. Чаравікі яе даўно намоклі, былі цяжкія, у іх хлюпала вада, але яна ўсё роўна не адчувала ног пад сабой, лёгка перасігвала праз былыя межы, агінала лапушыстыя кусцікі, што разрасліся на месцы зламаных яблынек.

Віднела на вачах. Дым уперамешку з туманам спаўзаў з былой калгаснай сялібы, якая была на ўзвышшы, чапляючыся за кучаравыя ліпкі, застойваючыся ў канавах. Хаты ў вёсцы дагаралі. Толькі зрэдку там-сям узнімаліся іскры, нібы хто варушыў пажарышча. Часам успыхвала дрыготкае полымя, на імгненне высвечваючы чорныя, абгарэлыя дрэвы, сіратлівыя печы з кароткімі камінамі.

Людзі выбіраліся з ямы, маўкліва выціраючы слёзы, тоўпіліся вакол чырвонаармейца, які бінтаваў плячо свайму таварышу. Паранены азіраўся і ўсё паўтараў, усміхаючыся:

— Ничего, до свадьбы заживет.

Крыху далей ад ямы распласталіся на траве два немцы. Відаць, тыя, што вартавалі жанчын і дзяцей...

— Ой, донечка, каб трохі, і не было б нас,— плакала

Варвара Мацвееўпа.— Хацелі ж пастраляць, ды нашых бог паслаў...

За шырокую, запэцканую глінай спадніцу старой трымаліся Ігарок і Толік. У кожнага ў руцэ было па чорнаму сухару. А яны ці не ведалі, што з імі рабіць, ці проста забыліся на іх, не спускалі вачэй з чырвонаармейцаў, з іхніх спацелых коней, што крыху далей ад ямы скублі траву.

— І ўсе вашы? — здзівілася Верка, вылезшы з ямы апошняй. Яна стаяла там і памагала падымацца наверх аслабелым жанчынам і малым.— І чым жа вы толькі гоніце таго фрыца? — і залівіста, молада засмяялася. Усміхнуліся і салдаты, пазнаўшы ў бруднай жанчыне маладую дзяўчыну-весялуху.

— Мы их кнутиком, кнутиком,— засмяяўся той, што рабіў перавязку.

— Вазьміце,— падышла да байцоў Марфа і падала ім мяшэчак з яйкамі.

— Вазьміце, свежанькія яшчэ,— пачала ўпрошваць і Варвара Мацвееўна.

— Спасибо, спасибо,— сказаў паранены. Ён падняўся, пачакаў, пакуль таварыш накінуў на яго плечы плашчпалатку.— Кормите вы своих солдат, пусть растут большими...— і, падміргнуўшы Верцы, скіраваў першы да коней.

Людзі які час яшчэ стаялі моўчкі, нібы не верылі свайму вызваленню. Потым усе разам рушылі да дарогі. Бліжэй да вёскі натоўп раскалоўся: кожны кіраваў да свайго селішча.

У задымленых прысадах пахла печанай бульбай...

## У ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Праз адзінае ў чатыры запыленыя шыбкі акенца, якое было пры самай зямлі, ледзь сачылася ў зямлянку святло.

Падымацца не хацелася. Рукі і ногі былі як пабітыя, не адышлі за кароткую ноч, прасілі яшчэ адпачынку. Учора Марфа прахадзіла за плугам да глыбокага вечара. Старшыня калгаса, кульгавы Мосей Куцця, які яшчэ ўвосень вярнуўся дамоў пасля шпіталя, сказаў, калі яна ўзарэ той клін, што быў на другім краі калгаснага поля пад самай чыгункай, то можна ўзяць дзень і пасадзіць бульбу на сваім плане. Праўда, каня не даў, маўляў, коней мала,

ды і тыя так знясіленыя, што ледзь трымаюцца на нагах, а пасяўной у брыгадзе яшчэ і канца не відаць.

Марфа прысела на палку, на якім спала разам са сваімі сёстрамі Вольгай і Нінай, пасядзела, пакуль не прачнулася канчаткова, потым дастала пакамечаную шэрую спадніцу, пашытую з даматканага палатна і пафарбаваную самаробнай фарбай,— за вайну прывыкла трымаць адзежу заўсёды напагатове,— адзелася, басанож пратупала па сыраватай земляной падлозе вакол печы, якая стаяла якраз пасярод зямлянкі, заглянула на палок за печчу, на якім спалі маці з бацькам. Старых там ужо не было.

Марфа абула ў парозе стаптаныя галёшы, адчыніла вузкія дзверы з тонкіх негабляваных шалёвак, уцепленых знадворку абдзіркамі, паднялася па абкоўзаных прыступках.

Ля самага ўвахода ў зямлянку стаяла некалькі рослых вішань. На іх вершалінах таўкліся вераб'і і ціўкалі з такой буйной радасцю, нібы абгаварвалі нейкую вельмі ўжо не чаканую для іх навіну.

Марфа здзіўлена глянула на гэтых гаманлівых непасед, але вельмі не затрымала свае ўвагі на іх, толькі ўздыхнула на ўсе грудзі свежым і нейкім саладкаватым паветрам, што аж у галаве павяло. Счакала, пакуль мінецца гэтая немач, і пайшла па сцежцы паміж двума радамі яблынь, якія былі ахутаны празрыста-ружовым туманцом — вось-вось дрэвы павінны былі распукнуцца багатай квеценню,— на былое дворышча, дзе на папялішчы ўжо стаяў новы хлеў з тонкіх сасновых жэрдачак — іх на сабе вазілі з мясцовага лесу — і на месцы былой хаты святлеў абчасанымі бярвеннямі новенькі зруб.

Церах у старых, стаптаных валёнках, падшытых тоўстым пасам, у ношанай і пераношанай безрукаўцы, паставіўшы сярод двара на ручкі плуг, вастрыў бруском сашнік.

З хлява якраз выйшла Варвара Мацвееўна ў доўгай спадніцы няпэўнага колеру, у душагрэйцы, пашытай з зялёнага нямецкага фрэнча, з драўлянай даёнкай у руках.

— Ніяк не хоча даваць малака,— паскардзілася яна і паказала дачцэ на дне ў даёнцы сіняе, як адгон, малако.— Ды і адкуль яно будзе, калі ніякай пашы няма. Учора прыбегла з поля, са страхі салому даставала. Хутчэй бы расла тая трава...

Марфа назбірала ля зруба бярэмак доўгіх ломкіх трэсак і пайшла ўслед за маці ў зямлянку.

Пасля вуліцы паветра ў зямлянцы падалося нейкім густым і даўкім. Пахла сырою зямлёю, прэлай саломай і яшчэ нечым кіслым, нібы дзе стаяла ў місцы забытая капуста.

Маці ўжо працадзіла малако і цяпер сядзела на маленькім услончыку і абірала бульбу, кідаючы яе ў вялікі чорны чыгун з вадою.

Марфа кінула трэскі пад прыпечак, адкрыла засланку і падпаліла ў печы дровы, якія яшчэ звечара накідалі туды, каб яны прасохлі за ноч. Калі дровы разгарэліся, яна падкінула ў печ некалькі таўсцейшых трэсак. Трэскі густа задымілі, дым не памяшчаўся ў коміне і выбіваўся ў зямлянку, расплываючыся пад саламянай столлю — калі рабілі зямлянку, то спачатку накрылі яе саломай, потым прысыпалі салому зямлёй. Але вось трапяткія языкі полымя прабіліся праз дым, які раптам зрэдзіўся і амаль знік. У печы весела патрэсквалі дровы, кідаючы чырвоныя водбліскі на аблепленую старымі газетамі сцяну і самаробны стол, што стаяў ля той сцяны.

Варвара Мацвееўна паставіла ў печ да агню вялікі чыгун наабіранай бульбы і меншанькі з шалупіннем для парсючка, якога з тыдзень таму купілі ў адной украінскай вёсцы аж пад Шчорсам, паставіла таксама гаршчок з супам.

Яшчэ не паспела і бульба закіпець, як у зямлянку ўвайшоў Церах. Ён скінуў безрукаўку, павесіў яе на цвік ля дзвярэй, над памыйніцай памыў рукі, выцер іх трапкачом, які заўсёды ляжаў на комінку, і, расчэсваючы самаробным алюмініевым жаночым грабянцом сваю кароткую, месцамі пасівелую бародку, спытаў у жонкі:

— Ты, Варвара, дзевак яшчэ не будзіла? — не стаў чакаць адказу, паклаў грабянец на вузкі падаконнік, узяў парожняе вядро, пайшоў па ваду.

Варвара Мацвееўна падышла да палка, кранула за плячо Ніну, якая была бліжэй.

— Падымайцеся, дзеўкі, а то бацька ўжо бурчыць.

— А мы не спім,— адазвалася Вольга, якая спала ля сцяны.— Чакаем, пакуль снеданне зварыцца,— і засмяялася.

Яна пералезла цераз Ніну, пры гэтым знарок штурханула яе каленцам так, каб разбудзіць, і падалася ўмывацца.

— Пачакала б, бацька халодненькай вады прынясе,— параіла ёй маці.

— Нічога, я і гэтай,— яна лінула з карца на руку, павозькала рукой па твары. Вада сапраўды была цёплая.

Ніна ж паднялася не адразу. Яна яшчэ які час ляжала, хаця відаць было, што ўжо і не спала. Потым села і доўга яшчэ сядзела, заплюшчыўшы вочы і схіліўшы на плячо сваю русявую раскудлачаную галаву — дасыпала.

— Бегаюць да раніцы, а потым не прачнуцца ніяк,— бурчала Варвара Мацвееўна, якая не магла змірыцца з тым, што ў такі час, калі ідзе вайна, калі ўсім прыходзіцца працаваць ад цямна да цямна, калі сядзяць на нішчымніцы, яны бегаюць на танцулькі да былой калгаснай канторы, якая адна цудам уцалела з усяе вёскі і якую цяпер занялі пад школу. Вечарамі там іграў на сваёй двухрадцы калгасны малатабоец Пятро Чых.

Калі ж зайшоў у зямлянку з вядром свежай вады Церах, Ніна тут жа апусціла ногі з палка, пачала хуценька расчэсваць валасы і заплятаць касу.

Церах, паставіўшы вядро, прысеў ля стала, дастаў газету, якая была ўваткнута пад жэрдачку ў столі і якую паштальён прынёс учора ўжо прыцемкамі, разгарнуў яе, прабег загалоўкі загадаў Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

— Ну што там? — пацікавілася Варвара Мацвееўна.

— Ды хутка даб'юць фрыца,— адказаў стары і пачаў складваць газету так, каб зручна было рваць яе на самакруткі.

— А ад Піліпкі няма нічога,— успомніла Варвара Мацвееўна пра свайго старэйшага сына, ад якога яны не атрымалі ніводнага пісьма з таго самага дня, як ён пайшоў у армію перад самай вайной. Яна павяла рукой пад вачыма, потым узяла глыбокую чарапяную місу, каб прынесці на сняданак капусты са склепа.

— Можа, яшчэ дзе ў палоне? — уздыхнуў Церах.— Вайна скончыцца, разбяруцца. Памятаю, у першую імперыялістычную ад многіх не было нічога, а потым папрыходзілі.

Але старая не слухала яго суцяшэнняў, яна даўно прывыкла да іх, выйшла з зямлянкі.

А Церах спытаўся ў Марфы:

— А ты ўсім сказала?

— Здаецца, усім,— задумалася Марфа, якая якраз змывала проса на кашу.— Каго бачыла, каму прасіла перадаць. Учатырох павінны быць.

— Да нас колькі? Пяцёра, а з тваім Сяргеем дык і шасцёра,— заключыў бацька.

— А можа б, няхай ішоў у школу? — спытала Марфа.— Якая з яго помач? А ў школе вучобу канчаюць...

— А канчаюць, дык нічога і не здарыцца, калі дзень не сходзіць,— разважыў стары.— А тут хоць гной падверне ў баразну. Няхай прывыкае, прыгадзіцца.

— Ды лепей яно не прыгадзілася б,— буркнула сабе пад нос Марфа, паставіла міску з вымытым просам на прыпечак, стала каленямі на палок, заглянула на печ.

Сяргей, доўгі, хударлявы, спаў з самага краю на баку, крута выгнуўшы спіну з вострым хрыбетнікам. Сярэдні, Толік, споўз з падушкі і спаў ледзь не ў нагах брата, скруціўшыся калачыкам і заціснуўшы паміж ног пакамечанае радно. А самы меншы, Ігарок, разлёгся ўпоперак на падушках, раскінуўшы рукі і ногі. Відаць, яму было горача на чарэні і ён знайшоў ратунак на падушках.

— Сярожка!— Марфа кранула сына за востры локаць.

Той толькі рэзка торкнуў рукой, каб яму не перашкаджалі спаць. Тады яна ўзяла яго за нос, павадзіла ў бакі. Хлопец заматаў галавой, адкрыў спалохана вочы.

— Падымайся, сынок. Бульбу будзем садзіць сёння.

Сяргей падхапіўся, кулаком працёр вочы, узяў пад галавамі свае шаматкія, з вайсковай палаткі, штаны і пачаў іх нацягваць на доўгія, з вузлаватымі каленямі ногі. Відаць, ад шамацення штаноў прачнуўся і Толік і ўслед за старэйшым братам споўз з печы.

У гэту раніцу снядванак быў як ніколі. У дзяцей аж вочы разбягаліся. Бульба, капуста, суп. Ды які суп! Засквараны салам так, што аж жоўты быў зверху. А галоўнае — дзед нарэзаў хлеба скібамі — бяры колькі хочаш!— і не загадваў, як раней: раз укусі хлеба, а сем лыжак супу. Каб, значыцца, хлеба хапіла на ўвесь сняданак. А сёння можна было кусаць яго перад кожнай лыжкай. А Толік дык і па два разы кусаў. І скваркі ў місцы лавіў часта, і ніхто яму нічога не казаў.

— А малака? — спытала ў канцы снедання Ніна, падумаўшы, што маці забылася пра малако.

— Малако будзе на абед,— сказала Варвара Мацвееўна.— Прыйдуць жа чужыя людзі. А так баршчу павару ды кашы з малаком, і адбудзем як-небудзь. А вы запівайце расолам. Расол у гэтым годзе, як віно.

І калі ўжо ўсе паеліся і толькі чакалі, пакуль падымецца з-за стала Тарас Канстанцінавіч, каб потым, пасля

яго, і самім падняцца, раптам з печы пачуўся басавіты крык:

— Р-р-а-а-а!

— Во, забыліся на самага вялікага чалавека,— засмяялася Варвара Мацвееўна.

Марфа кінулася да сына.

Ігар сядзеў на падушках і крычаў так, што яго пульхны круглы тварык аж пабраўся чырвонымі плямамі.

— Ігарочак, што з табой!

— Р-р-р-р-а-а-а-а!

Ігар больш за ўсё любіў раскацісты гук «р». Ён і вымаўляць яго навучыўся першым пасля «а». А першае слова, якое ён наогул сказаў у сваім жыцці, было «пар-р-ася». Можа, ён навучыўся гаварыць гэтае слова таму, што ў ім было яго любімае «р», ці таму, што тады якраз багата гаварылі ў хаце пра парасят, якіх яшчэ зусім маленькімі пастралялі і паелі немцы. Яны застрэлілі тады і свінню.

— Ну што з табой, Ігарок? Ідзі да мяне, маленечкі мой,— Марфа выцягнула перад сабой рукі. Ігарок скаціўся прама ў іх.— Можа, табе што прыснілася? Можа, хто налякаў у сне?

Усё яшчэ ўсхліпваючы, ён агледзеў усіх за сталом і пад усеагульны рогат выпаліў:

— Хачу ар-р-раць!

Мяшкі з бульбай-сеянкай пагрузілі на каляску-двухколку.

Такія каляскі пасля вайны былі амаль у кожным двары. Яны нагадвалі звычайныя тачкі, толькі былі значна большыя. Да іх прыстасоўвалі колы ад старых сеялак ці касілак. На такіх двухколках вазілі дровы, гной, гліну, сена. Нагружаную каляску па добрай дарозе маглі везці двое дарослых. Спраўляліся з імі і падлеткі.

На мяшкі з бульбай паклалі яшчэ плуг і каромыслы.

Марфа з Вольгай пакацілі каляску. Астатнія панеслі кошыкі, граблі. Не адставалі ад дарослых і дзеці. Толік нёс гладыш з вадой, а Сяргей прытрымліваў Ігара, які адмовіўся ісці сваёй хадою, а захацеў пракатацца на мяшках.

Дворышча Марфы было ледзь не ў канцы вуліцы. Хаця і вуліцы той цяпер не было. Былі толькі дарога, калодзежы ды рэдкія дрэвы, што ўцалелі ад пажару. Зрэдку стаялі зрубы, там-сям ляжалі бярвенні, цэгла. Амаль усе

яшчэ жылі ў зямлянках, якія прадбачліва капалі на агародах, каб потым яны не заміналі будаваць хаты.

Дворышча было адгароджана ад вуліцы тонкімі жэрдачкамі. На папялішчы валялася бітая закураная цэгла — цэлую павыбіралі, калі будавалі печ у зямлянцы,— зняверачаныя ржавыя спінкі ад жалезных ложкаў, абгарэлая рама веласіпеда, які Андрэй купіў перад самай вайной і які схавалі ў сене ад немцаў.

Двор густа зарос маладой крапівой. Дружна падымаўся лопух. Там-сям і на папялішчы прабівалася нейкая зяляніна. На месцы згарэўшых ліп і яблынь разрасталіся кусты маладых паганцаў. Танчэйшыя з іх узімку пааб-шчыквалі зайцы.

— Трэба пападразаць парасткі, яшчэ дрэўцы вырастуць,— нібы падумаў услых Церах, разгружаючы каляску.

Паставіўшы на зямлю плуг, ён павесіў на стралу адзін каромысел, а на яго яшчэ па аднаму на кожны канец.

Пачыналі збірацца памагатыя. Жанчыны пачціва віталіся са старым Церахам і яго жонкаю, хаця самі ў старых целагрэйках, у выліналых хустках, доўгіх саматканых спадніцах, у бурках і ў цяжкіх самаробных бахілах не на вельмі выглядалі маладзейшымі за іх. А былі ж яны равесніцамі Марфе. Калі сабраліся ўсе, Церах, сарамліва гледзячы сабе пад ногі, нясмела сказаў жанчынам, каб запрагаліся.

Тыя прывязалі рушнікі, што прынеслі з сабой, да каромыслаў і накінулі гэтыя самаробныя хамуты сабе на плечы.

— Ну, бабанькі, толькі не брыкацца,— засмяялася Лёкса, высокая жанчына з насмешлівымі і нейкімі наіўна-хітраватымі вачыма. А можа, такое ўражанне было ад таго, што былі яны ў яе крыху касаватымі.

— Іга-га-га! — гікнула Харыціна. Яна нават падбрыкнула на кароткіх ножках у цяжкіх бурках з салдацкага шыняля.

— Зацуглілі б нас, Тарас Канстанцінавіч, а то ўпужнёмся яшчэ,— хіхікнула белабрысая Моця.

— А вы, Канстанцінавіч, не шкадуйце пугі, калі пачнём пужацца,— зноў акінула таварышак сваім хітраватым позіркам Лёкса.

— Глыбей плуг у баразну, Тарас Канстанцінавіч, дык не ўпужнёмся,— перабіла яе Акуліна, якая да гэтага ўвесь час маўчала. Відаць, ёй нездаровілася — галава была абхутана цёплай хусткай, тырчалі толькі нос ды вочы.

— Бач, глыбей ёй захацелася,— рассмяялася Лёкса.— Ці не пераела, дзеўка, ты сёння аўса?

Улавіўшы, што гаворка пачынае набываць зусім не той кірунак, Церах буркнуў:

— Ну што, запрэгліся? А цяпер паехалі! Ты, Харыціна, ідзі па мяжы,— сказаў ён жанчыне, якая была якраз пасярэдзіне.— Ну, з богам, буланенькія! Марфа,— раптам ён звярнуўся да дачкі.— Зрабі свой рушнік крыху даўжэй, а то ўніз цябе будзе цягнуць...

Сяргей заграбаў граблямі ў баразну гной, які ўчора яшчэ ў канцы дня раскідалі з маткай і дзедам. Варвара Мацвееўна з Вольгай і Нінай кідалі бульбу. Толік з Ігарам таксама паспрабавалі кідаць бульбу, але толькі запэцкаліся ў гной. На іх прыкрыкнула Марфа. Хлапчукі надзьмуліся і пайшлі на дворышча.

Калі яны ўжо падымалі, можа, трэцюю баразну, Варвара Мацвееўна сказала Цераху, каб не браў так глыбока, а то прыстануць «коні» раней часу.

— Зямля мяккая,— буркнуў Тарас Канстанцінавіч, не адрываючы вачэй ад плуга, але ўсё ж браць стаў мяльчэй.

— Тата, можа б, сапраўды перадыхнулі? — азірнулася Марфа. Яна сказала гэта не толькі таму, што ўжо пачынала адчуваць стомленасць, яе занепакоілі дзеці. Яна бачыла, як з крапівы тырчала Толікава пілотка, якую яму яшчэ летась падарыў адзін салдат, сказаўшы, што яе перадаў яго бацька. І цяпер Толік з ёй не разлучаўся, хаця яна была яму і вялікая, спаўзала на вушы. А меншага, Ігарка, і зусім не было відаць. «Можа, дзе ў ямку ўваліўся?» — падумала Марфа.

— Яшчэ раз абыдзем, тады,— паабяцаў стары.

Марфе ж не цярпелася. Параўняўшыся з Сяргеем, яна папрасіла яго:

— Схадзі, сынок, паглядзі, што яны там робяць.

Сяргей кінуў граблі і пабег. Хутка з дворышча пачуўся басавіты плач меншага. Марфа ўстрывожана глянула на бацьку, але той не заўважыў яе позірку. Тады яна гучна спытала:

— Ці не б'юцца яны там?

Церах і цяпер не пачуў яе, як ішоў, згорбіўшыся за плугам, так і працягваў ісці. Калі ж яны дайшлі да саду, ён моўчкі паклаў плуг набок і пачаў з яго выцягваць траву, якой набралася там нямала.

Марфа зняла рушнік, выпрамілася, расправіла плечы, глыбока, на ўсе грудзі, уздыхнула, адчуваючы ва ўсім

целе нечаканую лёгкасць, і хуткаю маладою хадою паспяшалася да дзяцей. Сяргей валтузіўся з меншым, Ігарком, у зарасніках мінулагодняга дзядоўніку. Ігарок, ашчаперыўшы рукамі і нагамі доўгі паржавелы снарад, крычаў, аж заходзіўся. Сяргей спрабаваў адабраць гэты снарад і ніяк не мог адарваць яго ад хлопчыка. А побач ляжаў яшчэ адзін такі ж. Ля другога снарада стаяў зарымзаны Толік. Відаць, ён паспеў ужо атрымаць па карку ад старэйшага. Пілотка яго зусім з'ехала на вочы, з-пад яе тырчаў толькі размакрэлы нос.

— Сярожачка! — жахнулася Марфа.

Сяргей азірнуўся, кінуў снарад, падняўся:

— Гэта ж учапіўся і не аддае.

— Мой снар-р-р-ад! — верашчаў Ігарок. Ён нават паспрабаваў падняцца разам з ім, але гэта яму не ўдалося.

— Ой, ён жа ўзарвецца,— Марфу настолькі працяў страх, што яна стаяла разгубленая, не ведала, што і рабіць.

— Не ўзарвецца,— усміхнуўся паблажліва Сяргей.— Ён узарвецца, калі моцна ўдарыць молатам па дзюбцы. Але ў нас не хопіць і сілы, каб так ударыць.

— Ігарок, кінь,— нахілілася над сынам Марфа.— Гэта ж не цаца, гэта ж... Я знайду табе лепшую цацу,— яна выцерла яму нос, крывяную пляму на падбародку, відаць, хлопчык рассек сабе ніжнюю губку.— Кінь, родненькі ты мой. Я вось паеду ў Гомель і прывязу табе... танк.

Танк Ігарка зацікавіў. Танкі ён ведаў. Яшчэ зусім нядаўна яны стаялі ў іх вёсцы. Іх тут рамантавалі цэлую зіму. Ад тых танкаў і пазаставаліся снарады.

Ігарок адпусціў снарад, падняўся, глянуў на аднаго брата, потым на другога:

— А мне мама танк пр-р-рывязе, і я вас пар-р-р-эжу.

Яго пагроза нават рассмяшыла разрымзанага Толіка.

Усміхнулася і Марфа:

— Сяргей, сынок, прынясі рыдлёўку. Вазьмі тут у каго на паўгадзінкі.

Пакуль Марфа канчаткова супакоіла меншага, прыбег з кароткай салдацкай рыдлёўкай і Сяргей. Цяпер Ігарку раптам захацелася самому выкапаць ямку.

— Ой, Сяргей, задуры ты іх чым, каб яны не перашкаджалі,— папрасіла Марфа старэйшага.

— Пайшлі, хлопцы, я вам лісапету пакажу, вы такой

ніколі не бачылі,— і Сяргей абодвух павёў да абгарэлай пакарожанай веласіпеднай рамы.

Марфа выкапала ямку — капала глыбока, пакуль не паказаўся жоўты пясок,— спіхнула туды адзін снарад, прысыпала яго крыху зямлёй, а потым спіхнула і другі. Ён мякка ўпаў у разрыхленую зямлю. Закапала ямку, утаптала зямлю нагамі, разраўняла так, каб і следу не засталося.

— Аддай, Сярожа, рыдлёвачку,— папрасіла яна старэйшага, меншых узяла за рукі.— Пойдзем паглядзім, як там бульбачку садзяць. Бульбачка вырасце, прыедзе з вайны татка, я накапаю яе, навару, татка даведаецца, што вы бульбачку садзілі, абрадуецца.

— А ён на танку пр-р-рыедзе, пр-р-р-аўда? — бойка спытаў меншанькі, паглядваючы зіхатлівымі вачаняткамі з-пад хусткі, у якую ён быў абапнуты.

— Прыедзе, прыедзе...

Не паспела яна зрабіць з малымі і некалькі крокаў, як пачула незразумелы радасны крык. Крычалі ля школы. Гэты крык быў падобны на бязладнае «ўра!». Адчувалася, што крычалі школьнікі. Марфа спынілася, прыслухалася. Крык расплываўся па вёсцы, набліжаўся і ў гэты канец вуліцы. Былі ўжо чуваць і асобныя галасы.

Танклявая, басаногая дзяўчынка, у лёгкай паркалёвай сукенцы, з распушчанымі валасамі, заўважыўшы Марфу, праз агароджу кінулася да яе. Яна бегла і на хаду радасна крычала:

— Перамога! Перамога!

Не перастаючы крычаць, яна прабегла паўз Марфу і скіравала да жанчын, што стаялі ля плуга.

— Перамога! Перамога!

Раптам над вёскай паплыў працяглы звон. Нехта ўдарыў у цяжкую латунную гільзу ад гаўбіцы. Гільза вісела на старой таполі ў цэнтры вёскі.

Калі Марфа разам з дзецьмі, бацькамі, сёстрамі і памагатымі падышла да школы, там ужо сабраліся амаль усе аднавяскоўцы. Хто быў у чым, у тым і прыбег сюды. Адна старая дык прыйшла прама з ёмкай у руках і трапкачом цераз плячо. На ганку сядзеў у белай выхадной кашулі, у чорных штанах, апушчаных над бліскучымі храмавікамі, сабранымі ў гармонік Пятро Чых і ціха парыпваў на сваёй двухрадцы, нібы правяраў яе галасы. Паглядваючы на гармонік, стаялі асобна ад усіх дзяўчаты, учарашнія падлеткі. Сярод іх часта гучаў малады бяздум-

ны смех. Маўкліва дымілі самакруткамі мужчыны. Іх было зусім мала. Некалькі старых, сівабародых ды падлеткі, якія таксама адчувалі сябе дарослымі і па-заліхвацку, нават неахайна выстаўлялі дымныя самакруткі на адтапыраных губах. Жанчыны ж стаялі маўкліва, напружана. У іх натоўпе адчувалася нейкая ўстрывожанасць, стрыманая ўзрушанасць і нясцерпнае чаканне. Усе хацелі пачуць хутчэй праўду, бо ніхто яшчэ не верыў у тое, пра што крычалі школьнікі, бегаючы па вёсцы.

Дзеці ж, радасныя, што ім адмянілі ўрокі, шмыгалі ў натоўпе, ганяючыся адзін за адным, бегалі вакол школы.

Вось выйшаў на ганак Мосей Куцця ў салдацкім абмундзіраванні без пагон, у стаптаных кірзавых ботах і ў зімовай салдацкай, ужо даволі зашмальцаванай шапцы — гаварылі, што ў яго пасля шпіталя галава мерзла нават улетку. За ім паказаўся высокі чалавек у афіцэрскім мундзіры, які віднеўся праз расхрыстаныя полы шэрага цывільнага плашча. Фуражку з чорным бліскучым брылём ён трымаў у руках. У яго былі сівыя, аж белыя, валасы, шырокі мясісты твар і шырокія тоўстыя губы, якія ён, відаць, ад хвалявання раз-пораз аблізваў.

Яны ўдвух падышлі да століка, накрытага чырвоным настольнікам з кавалка паркалю, заляпанага чарнілам.

— Таварышы! — нeяк глуха пачаў Мосей Куцця. Памаўчаў, агледзеў усіх, нібы хацеў пераканацца, што яго слухаюць уважліва, і працягваў: — Для важнага паведамлення слова мае ўпаўнаважаны з раёна па нашаму калгасу таварыш Скобель Мікалай Сяргеевіч,— і адышоў крыху ўбок, уступіўшы месца ля століка адказнаму таварышу.

— Калгаснікі і калгасніцы! — выгукнуў нечакана гучна камандзірскім голасам Скобель.— Сёння ноччу нашы гераічныя войскі канчаткова разграмілі фашысцкую Германію! — памаўчаў, выцер хустачкай лоб, перахапіў паветра і сказаў яшчэ гучней: — Немец здаўся, таварышы! Капітуліраваў! Такім чынам, таварышы, вайна скончылася поўнай перамогай над фашысцкімі вырадкамі. Ура-а-а, таварышы! — і сам запляскаў у далоні. Запляскалі ў далоні ўсе, дзеці ж дружна закрычалі: «Ура!» Сярод жанчын пачуліся ўсхліпы.

Счакаўшы, пакуль крыху аціхне шум, упаўнаважаны працягваў:

— Дазвольце, таварышы, павіншаваць вас з вялікай навіною, з паспяховым заканчэннем Вялікай Айчыннай

вайны!.. Пытанні ёсць, таварышы? Няма? Можа, хто што хоча сказаць?

— Калі нашых дамоў пусцяць? — спытала адна з жанчын.

— Наконт гэтага мы яшчэ не атрымалі ніякіх звестак, але думаю, што хутка. Ёсць яшчэ пытанні? Няма?

— Дазвольце, таварыш Скобель,— падышоў бліжэй да стала старшыня. Ён паправіў гімнасцёрку, ссунуў шапку далей на патыліцу і таксама гучна крыкнуў: — Таварышы! — перадыхнуў і зноў пачаў гучна, выдзяляючы кожнае слова, бо ў яго не хапала духу гаварыць без супынку.— Сёння ў нас вялікі дзень. Можа, толькі нашы дзеці зразумеюць, які гэта вялікі дзень. У сувязі са сказаным сённяшні дзень у нашай вёсцы аб'яўляю выхадным. Гуляйце, таварышы!.. А заўтра ўсім рабіць тое, што рабілі сёння. Хто рабіў у полі, ідзіце ў поле, хто рабіў на плану, рабіце на плану. Ясна? — ён яшчэ абвёў звужанымі і пацямнелымі ад вільгаці вачыма ўсіх, а потым махнуў рукой Пятру Чыху.— Давай!

Пятро Чых разгарнуў мяхі на ўсю іх шырыню і рэзка сціснуў, ашаломіўшы ўсіх гучным рыкам сваёй двухрадкі, а потым сыпануў у натоўп вяртлявыя гукі імклівай полькі.

Спачатку ўсе стаялі ў нейкім здранцвенні.

— А мой жа ўжо ніколі не патанцу-у-у-е-е-е-а-а-а!..— прыглушана загаласіла Харыціна, абдымаючы за плечы сваіх сыноў, яшчэ дашкольнікаў.

Гэты ўсхліп нібы падштурхнуў брыгадзіра, і ён, махнуўшы рукой у раптоўным азарце, выкрыкнуўшы рэзкае «эх!», прытопнуў кірзачамі, падскочыў да першай жа ад сябе кабеціны — ёй аказалася смяшлівая чырванашчокая Верка,— за руку выцягнуў яе на вольнае месца і, пакульгваючы, пусціўся з ёю ў скокі.

І тады натоўп варухнуўся, ажыў і, здавалася, увесь быў падхоплены нібы наляцеўшым знянацку ветрам. Танцавалі ўсе, танцавалі нават і тыя, што, можа, ніколі ў сваім жыцці не танцавалі. Танцавалі парамі і ў адзіночку, танцавалі падлеткі і дзеці. Не стрываў і салідны ўпаўнаважаны, кінуў свой каляны плашч на стол, і хутка яго сівая галава ўжо мільгала то тут, то там сярод выліnялых хустак, паношаных картузоў, пілотак, шапак.

Над натоўпам слупам узнімаўся празрысты пыл.

Гора і радасць заўсёды збіраюць людзей пад адзін дах.

І ў гэты вечар у зямлянцы старога Цераха сабраліся ўсе родзічы.

Прыйшла нявестка, жонка старэйшага сына Піліпа, Кацярына Пятроўна Піваварава. Яна насіла сваё дзявочае прозвішча, бо калі запісваліся ў сельсавеце, то не захацела прозвішча мужа, маўляў, яе ўсе ведаюць як Піваварававу, дык няхай яно так і застаецца. І цяпер, калі ад Піліпа не было ніякай весткі, Кацярына Пятроўна дакарала сябе за тое, што не ўзяла яго прозвішча, вось лёс і пакараў яе за гэта. Прыйшла і Дуня Ускова, пляменніца Варвары Мацвееўны, што жыла на другой вуліцы, бліжэй да станцыі, у цагляным склепе са сваёй старой маці, якая ўжо некалькі год не падымалася з ложка. Забегла нібы выпадкова і Верка. Яе чамусьці ўсе лічылі крыху дурнаватай, хаця яна была зусім нармальная жанчына, толькі не вельмі прыгожая і, можа, з-за сваіх пульхных чырвоных шчок выдавала заўсёды занадта вясёлай. Яе ніхто ніколі не бачыў панылай. Яна смяялася дзе трэба і дзе не трэба. І зараз, зайшоўшы ў зямлянку, Верка сказала, што ведала, калі трэба заходзіць, засмяялася радасна і гучна, не чакаючы запрашэння, скіравала да стала:

— Натанцавалася з кульгавым старшынёй, дык есці як воўк захацела.

Усе, хто прыйшоў, прынеслі што-небудзь з сабой. Верка паклала на стол некалькі яек. Яны, відаць, былі толькі з кубла, бо на некаторых захаваліся яшчэ наліплыя пушынкі. Дуня Ускова паставіла гладыш з квашанымі буракамі і бутэльку, заткнутую анучкай, а Піваварава — паклала шматок маладога сала. Яна яшчэ раней хвалілася, што ўдалося купіць на базары даволі спраўнага кабанчыка, не трэба і карміць было, адразу пад нож і пусціла.

— А мой жа Піліпачка ўжо ніколі не пасядзіць з намі,— ледзь не загаласіла Піваварава.— А гэта ж я ва ўсім вінаватая, гэта ж я нарабіла абы-чаго. І прозвішча яго не ўзяла, і кароўку ад вас звяла. А хто ж цяпер мне даруе грахі мае?

— Не трэба, Кацярына Пятроўна,— сказаў Церах. Па яго строгаму голасу адчувалася, што ён недалюблівае нявестку.— Вайна ўсім нарабіла нямала гора.

— А я ж сваю Лідачку не зберагла-а-а-а,— не стрывала і Дуня Ускова, у якой яшчэ пры немцах памерла маленькая дачка.— А што ж я скажу свайму, калі прыйдзе з вайны-ы-ы?..

— Ну што ж, дзеткі,— пакамечыў далонню сваю ба-

родку Церах.— Слава богу, што скончылася вайна. Цяпер ужо горш не будзе. Цяпер лепей павінна быць. Давайце за светлую памяць тых, каму не ўдалося дажыць да гэтага дня, і за здароўе ўсіх, хто застаўся жыць,— ён глытнуў з кілішка і пацягнуўся лыжкай да міскі з капустай.

Дзеці ж Марфы адразу накінуліся на сала. Узялі па скрыльку, хутка з'елі, пацягнуліся зноў.

— Што гэта вы, нібы век не бачылі? — Марфе аж сорамна было за іх перад людзьмі.— Сяргей, ты ж вялікі. Ну няхай ужо гэтыя, што нічога не разумеюць...

— А не глядзі ты на іх,— сказала Марфе Варвара Мацвееўна.— Дзеці ёсць дзеці. Ім расці трэба, няхай ядуць.

Глянуўшы на дзяцей, Дуня Ускова зноў захліпала.

— Супакойся, Еўдакія,— ласкава сказаў Церах.— У людзей не меней гора. А твой жывы застаўся, наросціце яшчэ, абы новай навалы не было.

— Не выйшла замуж да вайны, цяпер мне і векаваць у дзеўках,— неяк недарэчна хіхікнула яшчэ болей расчырванелая Верка.— Палеглі мае жанішкі.

Марфа лічыла, што ёй, як нікому, пашанцавала. Няхай хата згарэла, няхай карову застрэлілі немцы. Карову купяць ды і хату новую паставяць. Галоўнае, засталіся жывымі і здаровымі дзеткі, муж таксама перажыў вайну, не склаў галаву. А цяпер ужо не загіне. Яго, пісаў, павінны былі выпісаць са шпіталя ў канцы мая, так што хутка і вернецца дамоў. І ёй, можа, як нікому ў зямлянцы, было радасна і светла, але яна саромелася паказаць гэтую радасць і таму сядзела маўклівая, усю сваю ўвагу аддаючы дзецям.

Сяргей, наеўшыся сала з бульбай, сядзеў і прыслухоўваўся, пра што гаварылі дарослыя. Яму даўно ўжо хацелася спаць. Пазяхаючы, ён кожны раз нагінаўся, каб не заўважыла маці і не адправіла на печ. Толік, дык той сам палез на печ, ляжаў, паклаўшы галаву на рукі, і прыглядаўся да застолля, але па ім было відаць, што ён з апошніх сіл змагаецца са сном. Ігарок сядзеў на прыполе ў маці з бульбінай і скрыльком сала ў руках. Ён ужо некалькі разоў губляў галоўку сабе на грудзі, але зноў падымаў яе, упарта не паддаваўся знямозе.

— Ды ён жа ў цябе спіць,— заўважыў Церах, які сядзеў насупраць.

Марфа ціхенька ўзяла з рук сына сала і бульбіну, паднялася і аднесла Ігарка, абвялага і пацяжэлага, на печ.

Як толькі хлопчык крануўся галоўкай падушкі, адразу ж падхапіўся, нібы ўкусіла яго што, і закрычаў колькі сілы было:

— Р-р-р-р-а-а-а-а!..

— Ды што з табой, маленькі мой? — Марфа старалася выцерці ражком радна мурзаты ад тлушчу і слёз тварык сына.

І чым болей яна старалася суцешыць малога, тым гучней ён плакаў. Яна ўжо і не ведала, як яго супакоіць — ніколі ж ён у яе так не плакаў перад сном,— бездапаможна азірнулася на маці.

— Перагуляла дзіцё,— сказала Варвара Мацвееўна, падала Марфе карэц з вадой.— Можа, піць хоча?

— Не-е-е-е! — адштурхнуў той карэц так, што вада аж расплюскалася на грудзі Марфе.

— А можа, малачка табе? — дапытвалася Марфа.— Малачка хочаш? Ну ты ж скажы, чаго ты хочаш. Скажы, мой маленькі. Ды не плач жа ты! Татка даведаецца, які ты плакса, і дамоў не паедзе.

— Шала,— паміж глыбокімі ўсхліпамі вымавіў ён.

Варвара Мацвееўна падала яму пакамечаны скрылёк сала, які ён не даеў.

Ігарок заматаў галоўкай і яшчэ болей заплакаў, ірваўся з рук маці, не зводзіў вачэй з нечага на стале, а з чаго, Марфа ніяк не магла здагадацца.

— Не разумееце вы яго,— паднялася Піваварава, узяла ладны кавалак сала, які яшчэ не паспелі парэзаць, і падала яго Ігару. Ігар аберуч схапіў яго, прыціснуў сала да грудзей і адразу ж, як падкошаны, кульнуўся на падушку.

Марфа пастаяла яшчэ трохі, а потым паспрабавала забраць сала, але Ігарок учэпіста трымаў яго.

— Ды не чапай ты яго, хай трохі паспіць з ім,— сказала дачцэ Варвара Мацвееўна, падумаўшы, што таго сала, калі яго не з'ядуць зараз за сталом, ёй хопіць на некалькі дзён засквапваць суп...

## СВАТЫ

Каб кроква не нахілілася, Ігнат замацаваў яе жэрдачкай. Калі ён прыбіваў жэрдачку да сцяны, цвік якраз трапіў у сучок, якога Ігнат не заўважыў у вечаровай шэрані, і сагнуўся. Ігнат паспрабаваў выраўняць яго, той зусім

зламаўся. Тады Ігнат дастаў з кішэні другі цвік, такі ж іржавы, як і першы, з перакошанай плешкай, толькі крыху карацейшы і таўсцейшы,— такіх іржавых і абгарэлых цвікоў дзеці багата назбіралі на былых папялішчах яшчэ ранняй восенню, калі ў вёсцы было аб'яўлена пра будаўніцтва новай школы. Гэты другі зайшоў у дрэва так лёгка, нібы яго і не было. Ігнат пахістаў крокву, ці моцна трымалася, азірнуўся.

З такой вышыні і ў такі вечаровы час ён упершыню ў сваім жыцці ўбачыў родную вёску.

На вуліцы, што адыходзіла адразу ад школы, ужо стаяла нямала новых хат. Але вокны блішчалі яшчэ не ўсюды: не ўсе паспелі перасяліцца. Большасць вяскоўцаў жылі ў зямлянках, якія хаваліся пад глыбокім снегам у садах, на агародах і якія цяпер угадваліся па белых кучаравых слупках дыму, што раслі з нізкіх комінаў.

За вёскай, як хапала вачэй, стылі заснежаныя сінія прасторы, акрэсленыя палоскай цёмнага лесу там, дзе толькі што згаслі апошнія водбліскі кароткага зімовага дня і дзе неба было густа захмарана чорнымі воблакамі: назаўтра дзень збіраўся быць снежным.

— Слухай, Церах, ты не прымёрз там? — крыкнуў яму знізу Мікола Дрозд, каржакаваты хлопец з насмешлівым кірпаносым тварам, у шапцы-аблавушцы, фарсіста надзетай набакір.

Ігнат глянуў уніз, ці няма каго блізка, кінуў сякеру на зямлю, лёг на жывот, намацаў нагамі падаконнік, стаў на яго, а потым ужо скокнуў. Абцерушыўшы з кароткаполага шыняля дробны друз, памахаўшы поламі, як крыламі, зашпіліўся на ўсе гаплікі, падняў сякеру, падышоў да таварышаў.

Тыя стаялі і моўчкі рабілі самакруткі.

Мосей Куцця, як заўсёды, скруціў сабе доўгую і тоўстую, і калі прыкурваў, то газета аж успыхнула полымем. Ён наслініў палец і прытушыў яе, пасля доўгай зацяжкі распарадзіўся:

— Значыцца, заўтра прыб'ём латы і, можа, паспеем трохі накрыць.

— А ці хопіць дранкі? — спытаў Ігнат.

— Старшыня ведае, што гаворыць,— засмяяўся Мікола Дрозд.

— Павінна хапіць.— Мосей яшчэ раз зацягнуўся, кашлянуў.— Ну хто ў мой бок? — і, не дачакаўшыся адказу, пакульгаў па ўтрамбаванай дарозе, нетаропка сту-

паючы высокімі валёнкамі ў цяжкіх глыбокіх бахілах, склееных з тоўстай камеры з-пад амерыканскага «студэбекера».

— Ну што, таварышы радавыя, можа, і сёння праверым, у каго прыгарае? — спытаў Мікола Дрозд, пазіраючы на сяброў хітравата насмешлівымі вочкамі.

Ігнат прамаўчаў, а Павел Пыжык задаволена хіхікнуў, паматаў сваім дзюбатым носам, успамінаючы ўчарашнія прыгоды.

Учора яны таксама ўтраіх пасля работы разам ішлі дамоў, не ведаючы, куды дзяваць доўгі зімовы вечар.

— Хлопцы, прыгарае,— спыніўся Мікола Дрозд.— Парушэнне тэхналогіі! Праверым?

Усе глянулі на зямлянку Харыціны. З кароткай і тонкай бляшанай трубы, што тырчала, здавалася, прама з зямлі, вывальваўся лены дымок, разносячы над халодным снегам смурод падгарэлай брагі.

— Праверым,— пагадзіліся хлопцы.

Яны пераступілі цераз раскіданыя ля двара і яшчэ не абчышчаныя ад кары бярвенні, цераз пачарнелую цэглу — цэглу вазілі з райцэнтра, што быў адразу за чыгуначнай станцыяй, разбіраючы там спаленыя і разбураныя бомбамі будынкі,— гуськом прайшлі па вузкай, пратаптанай у глыбокім снезе сцяжынцы, паднялі рагожу, якой закрываўся невялічкі калідорчык перад дзвярыма ў зямлянку, спусціліся па крутых прыступках, таўханулі нізкія дзверы.

Адразу ля дзвярэй стаяла печ, займаючы палову зямлянкі. На комінку чадзіла сляпая газнічка, зробленая з зенітнай латуннай гільзы. На печы сядзела двое белагаловых, даўно не падстрыганых малых. Яны будавалі з лучынак хаткі. Адразу ж за печчу быў драўляны палок, на якім пад клятчастай пасцілкай бугрыліся падушкі. Ля палка, якраз пад маленькім, у дзве шыбкі, акенцы стаяў стол, побач — дзве калодкі замест табурэтак. Пасярод зямлянкі бялела невялічкая цагляная грубка з плітой. Ад грубкі адыходзілі ржавыя бляшаныя трубы ў комін печы.

На пліце чарнеў вялікі чыгун, накрыты патэльняй, абмазаны цестам, каб з-пад патэльні не прабівалася пара. Ад сярэдзіны патэльні, дзе была зроблена дзірачка, адыходзіла зеленаватая медная трубка, якая прашывала драўлянае карытца з падталым снегам, апускаючыся другім канцом у гладыш, што стаяў на падлозе.

Перад адчыненымі дзверцамі грубкі сядзела ў сама-

тканай сукенцы, пафарбаванай у няпэўны колер, Харыціна. Яна выставіла свае кароткія ногі з круглымі каленямі да агню, і тыя аж паружавелі, нагрэўшыся. На яе круглым расчырванелым твары блішчалі халодныя льдзінкі нейкіх бясколерных вачэй. Яна, відаць, паспытала ўжо свае прадукцыі.

— Камісія, цётка,— яшчэ ў парозе заявіў Мікола, гучна тупаючы нагамі аб земляную падлогу, аббіваючы з іх снег.— Правяраем, ці не псуяце прадукт.

— Не псую,— неяк абыякава адказала яна, падварушваючы палкай вуголле ў грубцы.— Прыйдзеце мне хату ставіць, вам жа трэба будзе пагрэцца пасля марозу?

— А можа, ад вашага пітва не столькі нагрэешся, колькі намерзнешся: толькі і будзеш бегаць за хлеў,— вёў наступ на ўдаву Мікола Дрозд пад стрыманае пасміхванне сваіх таварышаў.

— А вы пакаштуйце, а потым гаварыце. А то балбочаце абы-што,— яна лінула крыху з гладыша ў шклянку і, не ўстаючы з услончыка, неяк лена падала шклянку Міколе.

Мікола спачатку панюхаў, зморшчыўся, паказваючы, якое тое смярдзючае зелле. А потым пальцамі заціснуў сабе нос і глынуў усё, што было ў шлянцы, пачмокаў губамі.

— Нічога, цётачка, не разабраў. Мала. Можа, хлопцы разбяруцца?

— Дык вы ж праходзьце, што вы там стаіцё ў парозе,— яна, абапершыся рукамі на калені, паднялася, абцягнула пакамечаную ў падоле сукенку, выгінаючы кароткае цела і не падымаючы рук, пацягнулася, каб як пазбавіцца разамлеласці, засмяялася ад гэтае выхадкі, падышла да печы, загрымела засланкай.— Тут у мяне солянка засталася і капуста ёсць.

Мікола распрануў целагрэйку, шпурнуў яе некуды на палок, туды ж кінуў і шапку, скамандаваў сябрукам:

— Распрагайце, хлопцы, коней!

Доўга яны сядзелі ў Харыціны. Даўно на печы пазасыналі малыя, даўно ў грубцы перагарэлі дровы, а яны ўсё сядзелі і смакавалі падпаленую самагонку, успаміналі вайну, суцяшалі Харыціну, якая за вечар не адзін раз пачынала плакаць, бо ад свайго мужа так і не дачакалася весткі.

Ігнат Церах і Павел Пыжык яшчэ мелі сілы пайсці дамоў, а Міколу Дразда так развязло — ці, можа, ён зпа-

рок прыкінуўся,— што яго ледзь усцягнулі на палок ды і пакінулі там.

— Можа, і сёння да Харыціны? — хмыкнуў Ігнат.— Здаецца, там нешта засталося.

— Калі на пахмелле ўсё не выжлукціў наш Дрозд,— уставіў Пыжык.

— Ну, што маўчыш? — спытаў Ігнат у Дразда.— Можа, холадна спалася там?

— Ад аднае капусты часта да Харыціны не находзіш,— у роздуме сказаў Мікола, а потым акінуў сябрукоў хітраватым позіркам.— А можа, у сваты да каго завалім?

— У якія сваты? — спачатку нічога не зразумеў Ігнат.

— У самыя звычайныя,— хіхікнуў Мікола.— Цяпер дзевак багата, а нас мала. У любую хату можна заглянуць. Ці ў зямлянку. Сватаць, канешне, не высватаем, хоць нарагочамся. Ну, а што рабіць дома?

— Калі ўжо ісці ў сваты, дык да таго, у каго свежына,— засмяяўся Павел Пыжык.— Можа, скваркай пачастуюць. А то і забыўся, якая яна на смак.

— А Капцовы нядаўна смалілі,— у вячаровай шэрані бліснулі белыя зубы Міколы Дразда.— Казалі, не маленькі быў кабанчык. Як, Ігнат?

Запытальна паглядзеў на Ігната і Пыжык.

У Ігната аж ёкнула сэрца. Яшчэ да вайны ён спрабаваў заляцацца да Капцовай Люсі. Разы два нават пасядзеў з ёй у кіно, якое паказвалі ў іхняй вёсцы. А цяпер, як вярнуўся з арміі, толькі раз сустрэў яе на вуліцы, пастаялі, пагаварылі. Праўда, яна запрашала заходзіць да іх, але ён так ні разу і не схадзіў. Чакаў, пакуль моладзь пачне збірацца на вячоркі. Хадзілі чуткі, што дзяўчаты вядуць перагаворы з Моцяй Сіўцовай, якая з дзецьмі жыла ў былой лазні, каб у яе ў выхадныя збірацца вечарамі на пагулянкі.

— Ну, што маўчыш? — спытаў Дрозд у Ігната.— Можа, не хочаш?

— А што мне? Можна зайсці,— ён чамусьці не асмеліўся адмовіцца, хаця і разумеў, што трэба было б не пагаджацца.

— Добра,— абрадаваўся згодзе Дрозд.— Толькі ж у сваты з пустымі рукамі нельга. Можа, якой кілбаскай пачастуюць, калі на стол паставім што-небудзь.

— Пачакайце, я да Харыцінкі забягу.— І Дрозд збочыў з дарогі наўспрамкі, не шукаючы сцежкі да зямлянкі.

— Зайсці можна, а сватацца не трэба,— сказаў Ігнат Пыжыку.— Не тая дзеўка, каб так смяяцца.

— Я якраз так падумаў,— пагадзіўся з ім Пыжык.

Калі вярнуўся Мікола Дрозд, яны сказалі яму пра гэта.

— Добра, сватацца не будзем,— не пярэчыў ён.— Пасядзім, пабалакаем. Стары Капцоў любіць патравіць пра міжнароднае становішча.

Але калі яны ўтрох зайшлі да Капцовых у хату, у якую тыя нядаўна перасяліліся і ў якой не было нават сянец, а замест іх калідорчык накшталт будана з сасновага зялёнага голля, то ў парозе, не даўшы хлопцам як след і агледзецца, пакланіўшыся і размахваючы левай рукой, Дрозд пачаў нараспеў:

— Мір і шчасце ў гэту хату. З наваселлем вас, дарагія нашы людзі. А прыйшлі мы да вас з найлепшымі пажаданямі і прывітаннем з краёў заморскіх, дзе нашаму светламу князю прыснілася дзевіца красная. І пасля таго як прыснілася яна яму, ён ні есць, ні п'е, а толькі пра яе і думае. Ці не тут жыве суджаная яго? Ну што ты, князь наш заморскі, стаіш ні жывы ні мёртвы? — і ён падштурхнуў анямелага Ігната наперад.— Падымі сваю галаву буйную ды паглядзі вачыма яснымі на дзеву красную. Ці не яна табе прыснілася, сну пазбавіла?

Ігнат гатоў быў праваліцца скрозь зямлю. Ён нават азірнуўся, каб як вышмыгнуць у дзверы, ды ў дзвярах прадбачліва стаяў каржакаваты з шырокімі плячыма Мікола Дрозд, нахабна ўхмыляючыся.

— Горды наш князь маўчыць,— папрасіў прабачэння Мікола Дрозд.— І не загаворыць, пакуль не прымеце ад яго дары нашы заморскія,— ён дастаў аднекуль з-пад целагрэйкі дзве бутэлькі і паставіў іх на стол.

Ігнат нясмела, спадылба азірнуўся. У хаце людзей было багата. Адразу ён нікога і не пазнаў, асабліва з маладзейшых, што падраслі тут за вайну, без яго. У парозе ля печы сядзела Капцова жонка і абірала бульбу. Нейкія маладыя дзяўчаты сядзелі на палку, на ложку, што стаяў за палком. З-за коміна пазіраглядвалі на гасцей цікаўныя дзіцячыя галоўкі. А за сталом сядзелі дзве дзяўчыны. Адна з іх, танклявая, з доўгай бялявай касой, перабірала ў руках карты. Відаць, толькі што варажыла. Азірнуўшыся праз плячо на «сватоў», залілася чырванню, дакорліва

зыркнула на Ігната вялікімі сінімі вачыма. Гэта і была Люся.

— Што ж вы ўсе як анямелі? — пачуўся раптам з печы буркатлівы голас старога Капцова. Ён там грэўся на чарэні ці драмаў, а цяпер сядзеў, апусціўшы босыя ногі ў салдацкіх галіфэ.— Запрашайце гасцей заморскіх за стол, пакуль не паплылі ў другую прыстань,— дастаўшы аднекуль з-за спіны старыя, падшытыя скурай валёнкі, паставіў іх на запечак і, спускаючыся, дзвюма нагамі разам уцэліў у іх.

Дзяўчаты адскочылі ад стала, уступаючы месца хлопцам.

— Што ж ты не папярэдзіў? — упікнула Люся Ігната, праходзячы міма.

«Паверыла,— падумаў Ігнат.— А можа, і добра, што прыйшлі ў сваты. Чаго там чакаць? Абы пагадзіліся... Ды ці і не пра гэта я не раз марыў у салдацкіх акопах?»

— Вы ж распранайцеся.— Люся ўзяла ў іх верхнюю адзежу, павесіла на цвік у парозе ля дзвярэй.

Дзяўчаты, сяброўкі малодшай Люсінай сястры Каці, і сама Каця, высокая, як і сястра, толькі яшчэ больш танклявая і гнуткая ў стане, з доўгай худою шыяй, пачалі паспешліва апранацца.

— А вы ж куды? — спыніла іх у парозе Люсіна маці, якая якраз перамывала ў вядзерцы наабіраную бульбу і перакладала яе ў вялікі чыгун.

— Вас і так багата,— засмяялася Каця.

Стары Капцоў злез з печы, цырымонна павітаўся з хлопцамі за руку, прысеў да стала, прыгладзіў раскашлачаныя, даўно не падстрыганыя вусы, папрасіў жонку:

— Падала б нам чаго...

— Я ж думала, няхай бульба зварыцца,— адказала тая.

— Не сядзець жа так,— буркнуў незадаволена стары, а потым спытаў у хлопцаў: — Як там школа, будуецца?

— Сёння кроквы паставілі. Заўтра залацім і будзем крыць. Школа будзе! Не праблема,— усміхнуўся Мікола Дрозд.— Зараз мы заклапочаны перспектывай. Ведаеце, школа без вучняў не школа. Гэта добра разумее і наш князь, таму ён і тут,— і Дрозд аж разрагатаўся, убачыўшы, як сарамліва апусціў вочы Ігнат.

— Вярзеш абы-што,— ціха агрызнуўся «жаніх».

— Справа, канечне, дзяржаўная,— сказаў стары Кап-

цоў і, памаўчаўшы, спытаў у Ігната: — А чаму без бацькоў?

Ігнат пачырванеў, не ведаючы, што адказаць.

— А мы пасля работы зайшлі да яго,— кінуўся на выручку Мікола Дрозд.— Але яго бацькам некалі. Ведаеце, Міхаіл Савельевіч, у кожнага цяпер работы вельмі багата. Мы на той школе, напрыклад, з цямна да цямна. І, так сказаць, з усёй адказнасцю. Ды што мы? Уся краіна перажывае вельмі адказны перыяд у сваёй гісторыі. Гэта не жарты — аднаўленчы перыяд! Мы ж павінны ў кароткі гістарычны перыяд аднавіць разбураную фашызмам гаспадарку. І не толькі аднавіць. А як казаў лектар на мінулым тыдні, ён нам лекцыю чытаў прама ля школы, павінны, акрамя ўсяго, і дасягнуць таго-сяго, каб, значыцца, сусветны імперыялізм рот не разяваў на наш каравай. І мы даб'ёмся гэтага. Бо працоўны энтузіязм народа, учарашняга воіна, так сказаць, бязмежны. Няма той крэпасці на зямлі, Міхаіл Савельевіч, якую не ўзялі б бальшавікі. Паглядзіце, што ў нас робіцца. Хто думаў, што мы ў такі кароткі гістарычны тэрмін пабудуем школу? А паглядзіце, стаіць на ўчарашнім папялішчы, як звон. Яшчэ лепшая, чым да вайны. У цэнтры вёскі! Людзі ў зямлянках жывуць, а мы — школу. Тут вялікая філасофія, як казаў нам лектар. Нельга зламаць народ, які жыве будучыняй. Так што, нягледзячы на напружанасць міжнароднай абстаноўкі, аднаўленне народнай гаспадаркі ідзе высокімі тэмпамі. Нашы гарады і вёскі стануць яшчэ лепшымі, чым былі. Хіба такая была ў нас школа да вайны, як цяпер? І так усюды. Так што...— і раптам усё красамоўства ў Міколы Дразда знікла: гаспадыня паставіла на стол міску з тушанымі вантробамі. Тут былі і кавалачкі лёгкага, і печані, і сэрца, і клубкі кішак. Усё было ўтушана разам з цыбулькай да румянага колеру і блішчала ад тлушчу. Мікола глынуў слінкі і закончыў свае разважанні: — Адным словам, пакуль наш князь дабраўся з заморскай стараны, дык і нямала згаладаўся, а яшчэ болей згаладаліся яго адданыя слугі,— і ён пачаў выцягваць з бутэлькі тугое папяровае заткала.— А дзе ж наша княгіня?

— Люся! — паклікаў бацька дачку, якая памагала маці распаліць дровы на прыпечку пад «казой», на якой ужо стаяў чыгун з бульбай.

Дзяўчына падышла да стала, прысела на табурэтку. Падышла і старая.

— Ну, дзеткі, каб добра было,— сказаў Капцоў.

Ігнат жа быў як у сне. Нехта яму сунуў у руку шклянку, нехта папрасіў чокнуцца. Нечая шклянка цягнулася да яго праз увесь стол. Падняў вочы і сустрэўся з позіркам Люсі. Яна прыязна і з нейкай мацярынскай ласкавасцю ўсміхнулася яму. Ён адказаў таксама ўсмешкай. Пасля гэтага Ігнат адчуў сябе смялей за сталом, яму ўжо не было сорамна, больш таго, яму нават было прыемна тут сядзець і часта пераглядвацца з Люсяй.

Закусвалі моўчкі.

— Ну і смаката! — аблізваўся Мікола Дрозд і матаў у радасным здзіўленні галавой.— Я і забыўся, калі такое еў. Ды пад такі закусон, сябры, проста грэх яшчэ не выпіць,— і ён зноў пачаў падліваць у шклянкі.— Ну, за што цяпер? А, Міхаіл Савельевіч? Можа, за здароўе княгіні і князя?

Стары ўжо заблішчэлымі вочкамі глянуў на дачку, а потым на Ігната.

— Выпіць можна, але... Дарэмна вы не папярэдзілі. Забілі б кабана бліжэй да вяселля.

— А навошта цягнуць з вяселлем? — цялёпнуў плячыма Мікола Дрозд.

— Вось іменна. Можна і цяпер, пакуль не з'елі кабана,— уставіў свае словы і Павел Пыжык, які ўвесь вечар маўчаў і толькі прагна, нібы хто яго падганяў, еў мяса, нават забываючыся на хлеб.

— Меней ты іх слухай, тата,— засмяялася Люся. Яна таксама прыкметна пасмялела.— Гэта ж хлопцам захацелася свежаніны, вось і зайшлі. Хіба я не ведаю гэтага Дразда?

Мікола Дрозд, здавалася, не звярнуў увагі на яе словы. Ён даеў кавалачак печані, дастаў з кішэні галіфэ насоўку, вышытую кветкамі — у той час было модным дарыць хлопцам вышываныя насоўкі,— старанна выцер губы, схаваў насоўку назад у кішэню, спакойна сказаў:

— Калі вы, Людміла Міхайлаўна, не згодны, дык так і скажыце. А я не раіў бы вам пачынаць сваё сямейнае жыццё з недаверу. Няхай я баламут. Але пры чым тут я? Не я ж прыйшоў у сваты, а Ігнат. Ігнат чалавек сур'ёзны. Воін. Заслужаны. Ёсць медалі. Актыўна ўдзельнічае ў аднаўленні народнай гаспадаркі. Скажы, Ігнат Тарасавіч, мы сілком цябе сюды не цягнулі? Не? Ну што маўчыш?

Ігнату нічога не заставалася, як у згодзе кіўнуць галавой.

— Ну вось,— пераможна глянуў Мікола Дрозд на Люсю, а потым і на яе бацьку.— З нашага боку, так сказаць, без усялякага падвоху. А з вашага боку, Людміла Міхайлаўна? Ці вам яшчэ хочацца праверыць нас? Дык праверыць нас ёсць толькі адзін сродак. Яшчэ наліць патрошку. Бо, як кажуць, што ў цвярозага ў галаве, тое ў п'янага на языку,— не зводзячы сваіх наіўна-даверлівых вачэй са старога Капцова, пацягнуўся да амаль парожняй бутэлькі. Але бутэлька не кранулася з месца, як прырасла да стала. Ён апусціў вочы і ўбачыў, што бутэльку моцна трымаў жылістаю рукою стары Капцоў.

— Калі вам хочацца самому разліць, Міхаіл Савельевіч, то калі ласка,— і ён нават падсунуў бліжэй да старога сваю шклянку, каб таму было лаўчэй разліваць.

— Пакуль не будзем,— сказаў Капцоў.— Пакуль мы з вамі, паважаны Мікола Дрозд, пагаворым пра аднаўленне народнай гаспадаркі, Ігнат няхай сходзіць і прывядзе сваіх бацькоў. Яны недзе ўжо прыпораліся, так што і Тарас Канстанцінавіч і Варвара Мацвееўна змогуць прыйсці. У вас, маладых, канешне, усё проста, а нам, старым, трэба пагаварыць, параіцца. Самі ведаеце, таварыш Дрозд, у які складаны час жывём,— і стары ўсміхнуўся аднымі вачыма.

— Ну чаго сядзіш? — наляцеў Дрозд на Ігната.— Хіба не чуеш, што бацька гаворыць? Пра гэта мы, Міхаіл Савельевіч, і самі дамаўляліся. Калі тут усё будзе добра, не будзе ад варот паварот, то і паклічам бацькоў. Так што, Ігнат, ідзі і вядзі, а мы пакуль з Міхаілам Савельевічам пакалякаем пра аднаўленчы перыяд. Ды глядзі не затрымлівайся, бо хутка бульба зварыцца, каб не прачахла.

Ігнат глянуў на Люсю, усміхнуўся ёй, вылез з-за стала, хістаючыся, пайшоў да парога, надзеў шапку, апрануў шынель, а зашпіляць яго не стаў, бо яму і так было мутарна. У двары глыбока дыхнуў марозным паветрам і, нібы не на сваіх нагах, пахістваючыся, пакрочыў па вуліцы, не стараючыся нават трапіць на ўезджаную дарогу. Па глыбокім снезе ісці было цяжка, ён хутка стаміўся, а тут яшчэ і ногі не слухаліся яго. І чаго яно так? Учора ж у Харыціны, здаецца, і болей узялі і закусвалі горш, а прыйшоў дамоў, ніхто і не заўважыў нічога. Праўда, сённяшня спалася дрэнна, не адпачыў як след, ды і натаміліся добранька за дзень. І не дзіва, што ногі яго не слухаюцца, што яго так і цягне хоць на хвілінку зваліцца на мяккі снег і паляжаць. Але ён успамінаў Люсю, стромкую, танк-

лявую, нетаропкую ў рухах, успамінаў яе крыху дакорлівую, але ласкавую ўсмешку і зноў увесь напружваўся і, хістаючыся яшчэ болей, чым упачатку, упарта ішоў наперад, размятаючы снег поламі шыняля.

У двары праз акно зазірнуў у хату, але так нічога і не ўгледзеў там: вельмі запацелі шыбкі. Потым доўга тупаў перад дзвярыма, аббіваючы з кірзачоў снег.

Зайшоўшы, спыніўся ў парозе...

Пад столлю сярод хаты вісела сляпая лямпа.

Маці з Марфай сядзелі на палку і нешта шылі.

Вольга з Нінаю, Андрэй Кравец з сынамі сядзелі ваакол стала, нахіліўшыся над радыёпрыёмнікам. Прыёмнік прывёз з арміі Кравец. Спачатку ён грымеў музыкай на ўсю хату і збіраў нямала аднавяскоўцаў з асяродка. Цяпер жа батарэі селі. Трэба было блізка нахіляцца над ім, каб нешта пачуць.

Бацька і іх сусед Цімох, яго яшчэ называлі Паракалёсам, сядзелі на падлозе перад грубкай, у якой патрэсквалі дровы. Цімох амаль кожны вечар прыходзіў да старога, каб вось так бесклапотна пасядзець ці нават паляжаць. Як прыемна і радасна было ляжаць на цёплай смалістай падлозе — пасля зямлянкі, нетаропка гаварыць пра жыццё-быццё, пачынаючы ад падзей у сваёй вёсцы Ягаднай, калгасе, раёне і канчаючы міжнародным становішчам.

На Ігната ніхто не звярнуў увагі. Толькі Варвара Мацвееўна спусцілася з палка, падышла да печы, каб падаваць вячэру, бо ўсе чакалі Ігната з работы.

— Тата і мама, збірайцеся, пайшлі,— Ігнат прагаварыў гэта неяк ціха, нібы не сваім голасам: язык нечакана пацяжэў і не вельмі слухаўся яго.

— Куды? — спытаў Церах, глянуўшы на сына ў расхрыстаным шынялі з заснежанымі поламі і ў шапцы, якая сядзела на галаве задам наперад.

— Сва-та-цца! — цяпер выдавіў з сябе Ігнат.— Мы па-ча-лі ўжо сва-та-цца. Але ж цяпер трэ-э-ба, каб і вы. Ад-наў-лен-чы пе-рыяд... І ўсё та-кое...

— Сватацца? Дзе сватацца? Да каго сватацца? — падышла да сына Варвара Мацвееўна і з нейкім недаўменнем і страхам глядзела на яго, не вельмі ўцяміўшы тое, што ён сказаў.

— Сва-та-цца, каб потым жа-ніцца...

— Жаніцца? — падняўся Церах.

— А што? Не маю пра-ва? Я ад Волгі да Бер-ліна на жы-ваце. Цяпер ад-наўляю.

— Маеш, маеш, сынок, права,— пастараўся супакоіць яго бацька.— Але...

— Ніякіх але... Там бульба.

— Якая бульба? — пачала палохацца ўжо за сына Варвара Мацвееўна.

— На «ка-зе»...

— Хто ж яна? — пацікавіўся стары.

— Збірай-цеся!

— Значыцца, жаніцца? — відавочна расхваляваўся Церах.

— Ігы.

— Даўно пара, сынок, даўно пара,— Варвара Мацвееўна кіўнула старому, каб не ўмешваўся.— Мы зараз з бацькам сабяромся, а ты, Ігнатка, пакуль адпачні, а то стаміўся вельмі. Які ж з цябе жаніх? — яна ўзяла яго пад руку.— Пойдзем, Ігнатка. Паляжыш трошкі, а тым часам мы пераапранёмся і пойдзем.

Ігнат не пярэчыў. Пры падтрымцы маці ён дахістаўся да палка, Варвара Мацвееўна толькі паспела зняць з яго плячэй шынель, як ён упаў на падушку.

Разувалі яго ўжо соннага.

У гімнасцёрцы з расшпіленымі гузікамі, у галіфэ, ужо працёртых на каленях, накрыты ўласным шынялём, ён і праспаў да самай раніцы. Ігнат, відаць, яшчэ б доўга спаў, каб не галасы ў хаце. Падалося, што гаварыў сам стары Капцоў. Слоў яго нельга было разабраць, Ігнат напружыў слых і, відаць, ад гэтага напружання прачнуўся. Расплюшчыў вочы. Усе сядзелі за сталом і моўчкі снедалі: стары Церах не дазваляў за ядой размаўляць. Чулася, як часта дзынкалі аб місу самаробныя алюмініевыя лыжкі — іх адлівалі мясцовыя ўмельцы з металу ад збітых самалётаў і прадавалі на базары.

Ігнат адкінуў шынель, сеў, расцёр далонню свой пакамечаны і з рубцамі ад падушкі твар.

— Во і Ігнатка прачнуўся,— сказала Варвара Мацвееўна.— Ідзі, Ігнатка, умывайся, будзеш снедаць.

Вада была халодная, відаць, яе толькі што прынеслі з калодзежа. Ігнат апаласнуў твар, шыю, грудзі, наколькі дазваляла расшпіленая гімнасцёрка. Пасвяжэў. Знікла саплівая млявасць.

Сеў за стол, узяў сваю лыжку — тут кожны меў сваю лыжку,— без усялякае ахвоты сербануў бульбянога супу.

Ніна, якая сядзела насупраць, хіхікнула. Церах паграджальна глянуў на дачку. За смех у час яды ён мог

агрэць лыжкай па лбе. Ніна неяк механічна прыкрыла свой белы высокі лоб вузкаю рукой, але, убачыўшы, што ёй лыжка не пагражае, зрабіла выгляд, што яна проста папраўляе пасмачкі бялявых валасоў, што ўпалі на лоб і перашкаджалі ёй.

— Прыходзіў Міхайла Капцоў,— сказаў Церах, калі закончыў снеданне, аблізаў лыжку і паклаў яе перад сабой.

Ігнат толькі запытальна глянуў на бацьку.

— Прынёс сякеру, якую ты ўчора забыўся...

Ніна ніяк не магла стрымацца, выскачыла з-за стала і, упаўшы ніц на палок, дала волю смеху.

— Ды пры чым тут наш? — пачала заступацца Варвара Мацвееўна за сына, думаючы, што стары зараз пачне лаяць яго.— Гэты ж Дрозд такі латруга, каго хочаш падвядзе,— і, гледзячы толькі на зяця, які, яна думала, не паспеў яшчэ даведацца пра той выпадак, гаварыла: — Ведаеш, Андрэйка, гэта ж яшчэ пры немцах было. Дрозд тут быў. Яго ў армію ўзялі, як нашы прыйшлі, а да вайны ў яго гадоў не хапала. Пасвілі яны коней ноччу. А тады якраз у Лёксы жытніца паспела. Што гэта Дрозд прыдумаў? Залез да яе ў сад і пачаў галасіць на ўсю вёску. Сабраліся бабы, мужчыны, а ўсе баяцца туды сунуцца. Прынеслі ікону, пачалі маліцца, думалі, што нячыстая сіла якая. Пакуль маліліся, хлопцы ўсю жытніцу і абарвалі. Дрозд не прадыхне, калі чаго не ўтворыць.

— Пры чым тут Дрозд? — заступіўся за таварыша Ігнат.— Я сам.

— Сам, сам,— перадражніў сына Церах.— Ну, добра, няхай сам. А ты падумаў, дзе з маладой жыць будзеш? Сам бачыш, колькі нас тут. Дзеці на падлозе спяць...

— Ой, трэба нам было ісці ў зямлянку,— уздыхнула Марфа. Яна заўсёды, калі чула размовы пра цеснату, балюча ўспрымала, шкадавала, што пагадзілася зімаваць у бацькі.

— Пабудуеце хату, тады і пойдзеце,— сказаў ёй Церах.— А малых нечага ў зямлянку цягнуць,— і звярнуўся зноў да Ігната: — Вось што, сын... Мы Капцову сказалі, што ты ўчора так ап'янеў, што не мог вярнуцца, лёг спаць. Паверыў ці не паверыў, не ведаю. А таксама сказалі, што мы рады, што ты абраў яго дачку. Сказалі, што пажэніцеся ўлетку ці ўвосень. Так што пачакай. Болей чакаў... Ты ўчора хваліўся, што на жываце ад Волгі да Берліна... Каб болей нідзе не хваліўся. А то дагамонішся, што адзін нем-

цаў прагнаў. Усім хапіла. Хапіла вам на фронце, хапіла і нам тут. Вы хоць не бачылі, як паміралі дзеці з голаду. Газеты трэба чытаць уважліва. Там напісана, што вайна ўсенародная,— стары вылез з-за стала.

— Бацька правільна гаворыць,— паляпаў Кравец па плячы Ігната, вылазячы з-за стала.

— Яшчэ каб узяў якую Любу Хузяёву, няхай бы. Адна ў бацькоў. І старыя ледзь ліпяць. Можна было б пакуль у іх пажыць. А то і ў Капцовых поўна, і ў нас, так што трэба паслухацца бацьку,— паспачувала Варвара Мацвееўна сыну.

Ігнат сядзеў за сталом, падпёршы галаву. Маці прыняла ўвесь посуд, выцерла стол трапкачом. Сядзеў, пакуль не пачуў у двары голас Міколы Дразда.

— А ваш жанішок прачнуўся? — відаць, пытаўся ў Цераха, які, апрануўшы свой лаплены і пералаплены кажушок, выйшаў з хаты.— А то пара ісці аднаўляць народную гаспадарку...

У вёсцы нядоўга гаварылі пра сватаўство Ігната. І зусім перасталі, калі Люся, Ніна і яшчэ некалькі іх равесніц завербаваліся рабіць на ткацкія фабрыкі ў Іванаўскую вобласць і паехалі туды. А вясною ля новае школы хлопцы і дзяўчаты пачалі вечарамі збірацца на танцы. Гаварылі, што Ігнат Церах усё часцей танцаваў з Хузяёвай Любай...

## АДСТАЎКА

Мікола Дрозд прыйшоў на нараду апошнім — звечара доўга гуляў, а раніцай спаў доўга і моцна.

Нараду праводзілі ля школьнага дрывотніка, які стаяў за школай у глыбіні саду і цудам не згарэў у вайну. Цяпер тут была калгасная канюшня.

У большай палове дрывотніка, дзе звычайна ляжалі дровы, старыя, паламаныя парты, цяпер стаялі коні. Сярод іх былі мясцовыя, што з-за свае нямоглай старасці нікому не спатрэбіліся, і тыя, якіх пакінулі партызаны і чырвонаармейцы.

У другой жа палове, невялічкім пакойчыку з вузкім акенцам, дзе раней было нешта накшталт майстэрні, цяпер віселі хамуты, сядзёлкі, адно сядло з абрэзаным крыллем, плугі. У цёмным кутку прыхілілася да сцяны некалькі старых з хісткімі кастылямі барон.

На драбінах сядзелі падлеткі, старыя і некалькі мужчын, што ўжо вярнуліся з вайны.

Звычайна ўсе сустракалі Міколу Дразда смяшкамі, кепікамі, а сёння нават не звярнулі на яго ўвагі. Як і не заўважылі. Спачатку Мікола Дрозд здзівіўся такому дружнаму маўчанню ўсіх, але, падышоўшы бліжэй, убачыў, што на той бок драбін, на якіх сядзелі калгаснікі, прыхіліўшыся да лёгкай двухмеснай брычкі на рысорах, стаяў сам старшыня сельсавета Яўген Пазняк і, паляпваючы па нагланцаваных хромавіках зялёным дубчыкам з маладой лазы, гаварыў ціха, стрымана, хаця бачылася, што яму нялёгка стрымаць сваю ўзбуджанасць:

— Я ж збіраю кожную раніцу ўсіх старшынь у сельсавет, каб выпрацаваць на дзень канкрэтны план нашага ўзаемадзеяння па ўсіх пытаннях, вызначыць асноўныя кірункі нашых намаганняў. Усе ездзяць, а Мосея Куццю не дачакацца. Нібы і ў арміі не служыў. Анархія? Анархія... Пра такія адносіны да сваіх абавязкаў, да свае работы я далажыў па інстанцыі... Мне даручана разабрацца і прыняць канкрэтнае рашэнне.

— А чаго ездзіць дарэмна? Гаварыць не работаць. Толькі час губляць,— абазваўся Мосей Куцця.

— Та-ак,— паківаў галавой Пазняк.— Па вашай рэпліцы відаць, што вы, таварыш Куцця, проста не дараслі.

— Я даўно прасіў, каб мяне вызвалілі.

— Мы ж спадзяваліся... Але дарэмна спадзяваліся. Добра. Не хочаш рабіць, прымушаць не будзем. Згода? — спытаў ва ўсіх Позняк.

Ніхто нічога не адказаў.

— Та-а-ак. Ясна.— Старшыня сельсавета паглядзеў на свае хромавікі, прагнаў дубчыкам з наска белага тлустага матыля, які, відаць, зваліўся з таполі.— Але каго цяпер выберам старшынёй? Як, таварыш Куцця, вы сабе не падрыхтавалі пераемніка?

— А давайце, Яўген Пятровіч, во Дразда. А што? Умее пагаварыць, можа нават лекцыю прачытаць пра аднаўленчы перыяд,— і, каб патушыць усмешку на твары, глыбока зацягнуўся самакруткаю, а потым закашляўся.

— Лекцыю ён можа,— засмяяўся Ігнат Церах.

— А дзе гэты Дрозд? — Пазняк хуткім позіркам акінуў усіх прысутных, нават азірнуўся, думаючы, што той стаіць дзе ззаду.

— Выйдзі, што ты схаваўся,— падштурхнуў наперад будучага старшыню калгаса Павел Пыжык.

— Дык гэта вы Дрозд? — Пазняк кіўнуў яму галавой, нібы паздароваўся.— Ведаю, ведаю. Прыходзілі да мяне лес выпісваць. Ну, прывезлі? Не? Але нічога. Не ўсё адразу. Дык, таварышы, усе за тое, каб быў Дрозд старшынёй? Усе? Супроць няма? Няма. Дык віншуем вас, таварыш Дрозд. Та-а-к... Зараз сёмая гадзіна. Прашу вас, таварыш Дрозд, у дзевяць нуль-нуль да мяне ў сельсавет на нараду. Шчасліва заставацца, таварышы,—старшыня сельсавета лёгка ўскочыў на сваю брычку. Тарғануў лейцамі, свіснуў у паветры лазінкай і выехаў з двара, узняўшы коламі пыл.

— У пячонках сядзіць яго гэтае ўзаемадзеянне,— плюнуў недакуркам Мосей Куцця, ссунуўся крыху з драбіны, затаптаў яго кірзачом, зноў усеўшыся, дастаў з нагруднай кішэні гімнасцёркі бліскучую пляскатую бляшаную скрыначку, аддаў Дразду.— Пячатка. Глядзі не згубі.

Мікола Дрозд нікольні не засмуціўся нечаканаму прызначэнню, хоць добра ўяўляў, як цяжка быць кіраўніком такой разбуранай гаспадаркі, а нават прыкметна абрадаваўся.

Ён адразу ж падумаў пра Вольгу Церах. Ён даўно і безнадзейна кахаў яе. Да вайны, калі яны разам хадзілі ў школу, ён не прызнаваўся ёй у сваіх пачуццях, саромеўся. Калі ж пабольшалі і часта збіраліся на пагулянкі, танцавалі пад гармонік Пятра Чыха, Мікола Дрозд стаў адкрыта заляцацца да дзяўчыны. Пра гэта ведалі ўсе ў вёсцы. Вярнуўшыся з-пад Гомеля з адарванымі пальцамі на левай руцэ, ён прыйшоў да Цераха і сказаў нібы жартам, што для яго вайна скончылася, што цяпер можна і жаніцца, калі, вядома, яны не супроць аддаць за яго сваю Вольгу. Стары Церах паглядзеў на Міколу, запярэчыў:

— Якое вяселле? Кругом кроў льецца, а вы тут пра вяселле. Пакуль што не да вяселля.

Мікола Дрозд зразумеў, што далей гаварыць на гэту тэму няма сэнсу. Ён адчуваў, што вайна тут ні пры чым, што стары Церах наогул не хоча аддаваць за яго сваю дачку, але суцяшаў сябе тым, што потым, калі скончыцца вайна, Цераху не будзе на што спаслацца, тады ён нікуды не дзенецца.

Пасля ж таго як вярнуліся з вайны амаль усе, хто застаўся ў жывых, Церахі перабраліся з зямлянкі ў хату, Мікола Дрозд зноў завёў неяк гаворку са старым Церахам пра жаніцьбу. Стары якраз цюкаў у двары сасновае

ламачча на дровы, а Мікола Дрозд сядзеў на прызбе і чакаў, пакуль Ігнат паснедае,— яны разам сціртавалі сена.

— У сваты праз зямлянку Харыціны не ходзяць,— адрэзаў яму Тарас Канстанцінавіч.

Міколе Дразду тады засталося толькі моўчкі пачырванець. Але пасля той гаворкі са старым Церахам ён ні разу не заходзіў да Харыціны. А Вольгу ўгаворваў кінуць усё і паехаць куды-небудзь на будоўлю, маўляў, ва ўсёй краіне аднаўленчы перыяд, усюды трэба працавітыя рукі, але Вольга не пагаджалася з ім, без дазволу бацькі не хацела выходзіць замуж і тым болей ехаць некуды за свет. Можа, яна, як і яе бацька, лічыла Міколу Дразда не вельмі сур'ёзным чалавекам. Ён-то і сапраўды любіў часам пажартаваць. Пра яго жарцікі па вёсцы хадзілі самыя недарэчныя чуткі. Але сам Мікола Дрозд на гэта не звяртаў увагі. Падумаеш, павесяліцца нельга, ці што. Без жартаў і жыццё не жыццё, як яда прэсная, без солі. Але нічога. Што ты цяпер запяеш, Тарас Канстанцінавіч, што Міколе Дразду, таму самаму Міколе Дразду, якога ты лічыш пустым і ненадзейным чалавекам, даверылі калгасную гаспадарку? Ненадзейных і пустых старшынямі не робяць!

З калгаснага двара Мікола Дрозд паспяшаўся дамоў. Не паспеў зачыніць і дзверы за сабой, выпаліў маці:

— Мне, мама, хуценька снедаць, а то трэба ў сельсавет на нараду. Старшынёй абралі...

Маці, здавалася, і не пачула, што сказаў ёй сын. Яна дастала з печы чыгунок з бульбай, адцадзіўшы, паставіла на стол, паглядзела на Міколу, уздыхнула:

— Гэта ж трэба, за якія два гады ты, мабыць, ужо трэці старшыня... Такі развал, што хоць каго прызнач, дык не вельмі разгонішся. А ты таксама... Не мог адмовіцца. Хату лепей сабе паставіў бы. Ці, можа, думаеш у гэтай халупе векаваць?

Мікола Дрозд нічога не адказаў. Задумацца, дык яго маці праўду кажа. Асабліва пра хату. Хіба гэта хата? Болей зямлянка, чым хата. Вырылі яму з метр у глыбіню, паклалі некалькі вянкоў, зрабілі два невялікія акенцы. Зямлянка не зямлянка і хата не хата.

— Нічога, мама, пабудуемся. Людзі яшчэ зусім у зямлянках жывуць,— суцешыў маці Мікола Дрозд, хаця апошнім часам ён і не думаў будавацца. Лес выпісаў, але не з'ездзіў нават паглядзець яго. Думаў, што ўгаворыць Вольгу з'ехаць з ім куды-небудзь. А там і маці забралі б да сябе.— Каб старшыня калгаса ды не пабудаваўся...

Маці моўчкі наліла ў цяжкі карэц з латуннай гільзы сыроваткі, паставіла перад сынам.

Падняўшыся з-за стала, Мікола Дрозд агледзеў сябе ў асколак падрапанага люстэрка, прымацаваны цвікамі да сцяны ля акна. На загарэлым смуглявым твары амаль не было відаць рыжага шчэцця, хаця шчокі пад рукою калюча шурпаціліся. Можна было які дзень яшчэ і не галіцца.

Ён дастаў з аблезлай ад сырасці скрыні, што стаяла адразу за ложкам у кутку, белыя ў сінюю палосачку манішку і манжэты — гэта было ўсё, што засталося ад бацькавага адзення. Манжэты паклаў назад, а манішку начапіў на шыю, зашпіліўшы, надзеў сваю вельветавую, чорную, з бліскучымі металічнымі замкамі футболку. Пашкадаваў, што не было гальштука. Але прыгожа было і так. З-за чорнага, крыху зашмальцаванага каўнерыка футболкі тырчала беленькая ў сінюю, ледзь бачную, палосачку манішка і кідала на ўвесь твар светлую радасць.

Мікола Дрозд зайшоў на канюшню, узяў лепшага каня — не кульгавага і не такога прытомленага, як іншыя,— узваліў на яго сядло з абрэзанымі некім на падэшвы крылямі, усеўся і ціха, бо ў сядле ніколі не ездзіў і не ўмеў ездзіць, скіраваў вуліцаю, на якой жылі Цярахі: хай убачаць, хто такі Мікола Дрозд!

Ля сельсавета сабраліся ўсе старшыні калгасаў, сядзелі на ганку, дымілі самакруткамі, чакалі, пакуль пакліча на нараду Пазняк, які ўсё яшчэ дакладваў некаму па тэлефоне аб справах у сельсавеце. Праз адчыненую фортачку ў акне чуўся яго рэзкі, камандзірскі голас. Ён не гаварыў, а выстрэльваў словамі: «Слухаюсь!», «Будзе зроблена!»

На нарадзе, якая ўсё ж пачалася, можа, праз гадзіну чакання, старшыня сельсавета расказаў, якія новыя ўказанні ён толькі што атрымаў з раёна. У яго доўгай прамове, цалкам прысвечанай здачы хлеба дзяржаве, усё ж знайшлося месца калгасу «Ягаднае» і яго новаму старшыні:

— Калгас «Ягаднае» не здаў яшчэ ўсё сена. Старшыня яго Мосей Куцця ў сельсавет і носа не паказваў. Думаў, я яго не дастану. Дастаў. І кожнага дастану. У Ягадным абралі сёння новага старшыню, Міколу Іванавіча Дразда. Спадзяёмся, ён апраўдае высокі давер народа. Вам, таварыш Дрозд, неабходна завяршыць здачу дзяржаве сена і прыступіць адразу ж да здачы хлеба. Усе запомніце запаведзь: першае зерне — дзяржаве. Самі ведаеце, у які момант жывяце.

Пазняк яшчэ доўга гаварыў аб значэнні для ўздыму народнай гаспадаркі выканання і перавыканання ўсіх дзяржаўных планаў кожным калгасам.

— Ну як, Мікалай Іванавіч? — раптам у канцы прамовы Пазняк звярнуўся да Міколы Дразда.

— Будзе зроблена! — бадзёра адказаў малады кіраўнік.

— Вось гэта голас,— пахваліў яго старшыня сельсавета.

Акрыленым вярнуўся ў калгас Мікола Дрозд. Калі спачатку яго прыгнятала нейкая разгубленасць ад няведання, з чаго пачынаць, за што брацца, то цяпер у яго была пэўнасць і яснасць. Ён жа ведаў, што рабіць і як рабіць.

Адправіўшы ўсіх жанчын жаць жыта на ўзлобках, дзе яно выспела, мужчынам загадаў вазіць сена на станцыю.

— Я тры стажкі знарок прыхаваў, думаў людзям раздаць, у каго карова,— прызнаўся Мосей Куцця новаму старшыні.

— А пра інтарэсы дзяржавы ты калі-небудзь чуў? — спытаў з выклікам у яго Мікола Дрозд. Той пацiснуў толькі плячыма і болей не сказаў ні слова.

Праз некалькі дзён Мікола Дрозд рапартаваў на нарадзе ў сельсавеце аб значным перавыкананні плана па здачы сена дзяржаве.

І старшыня сельсавета пахваліў яго.

А тым часам ля калгаснага гумна малацілася жыта і цяжкое зерне высокім буртом залацілася на таку. Яго веялі і ссыпалі ў мяшкі. І калі тых мяшкоў набралася багата, падагналі падводы. Сабралі ўсе калёсы, якія толькі былі ў калгасе. Запрэглі коней. На першай падводзе на дзве прыбітыя да драбін палкі нацягнулі чырвонае палотнішча і напісалі: «Прымай, Радзіма, ураджай!» Над кожнай дугой трапятаў чырвоны сцяжок. На першую падводу пасадзілі гарманіста Пятра Чыха і некалькі самых галасістых дзяўчат. І калі Мікола Дрозд махнуў рукою, усе падводы, цяжка перавальваючыся на хісткіх колах, рушылі па вясковай вуліцы. Пятро Чых не шкадаваў гармоніка. Заспявалі дзяўчаты. Ля малатарні на таку, на сцірце саломы ўсе перасталі рабіць, стаялі і як зачараваныя глядзелі на гэты радасны чырвоны абоз. Наперадзе абозу ішоў сам старшыня калгаса Мікола Дрозд, і не для таго, каб паказаць дарогу, а каб усе бачылі яго, старшыню, які здолеў арганізаваць такую ўрачыстасць. За вёскай, праўда, ён збочыў з дарогі і ўсеўся побач з гарманістам.

На прыёмным пункце на чыгуначнай станцы Цярэшкі быў і сам старшыня сельсавета.

І ён пахваліў Міколу Дразда, паабяцаў нават напісаць пра яго ў раённую газету...

Усе гэтыя дні напружаных клопатаў Мікола Дрозд не забываў пра Вольгу, думаў пра яе, але знарок не сустракаўся з ёй, ні разу не зайшоў да яе бацькоў. Не хацелі яго бачыць сваім зяцем тады, дык няхай цяпер пакусаюць локці. Яны думалі, Мікола Дрозд пустое месца, а ён... Няхай цяпер Церахі добранька падумаюць, можа, зразумеюць, што дарэмна адмовілі яму ў свой час. І калі ў іх ужо не будзе хапаць цярпення, ён тады з'явіцца. Тым больш, разважаў Мікола Дрозд, за гэты час ён найлепшым чынам пакажа сябе на пасадзе старшыні, так што старому Цераху застанецца толькі пакланіцца яму ў ножкі, што не зазнаўся, не адцураўся іхняе дачкі...

Так ці прыблізна так разважаў Мікола Дрозд, вяртаючыся пад вечар дамоў.

Дома ён памыўся ў двары халоднай вадой, начапіў на шыю белую манішку, якую яшчэ ўдзень вымыла і адпрасавала маці, вытрусіў пыл са свае футболкі, надзеў яе, выцер вільготнай анучай пыл са сваіх латаных і пералатаных хромавікаў — толькі халявы былі цэлыя — і ўжо надвячоркам пайшоў да Цераха. Яму ў гэты дзень для адчування паўнаты жыцця не хапала асабістага шчасця.

Ён лічыў, што якраз настаў момант пагаварыць з Церахам.

Тарас Канстанцінавіч быў дома. Ён сядзеў сярод двара на невысокім кругляку. Перад ім на «казе» ў чыгунку варылася маладая бульба. Яна была кругленькая, як яечкі, са слядамі шэрай пены на вытырхнуўшыхся з вады бульбін. Мікола Дрозд узяў і сабе невялічкі кругляччок, усеўся на яго з другога боку агню, дастаў вугольчык, прыкурыў, кінуў хуткі позірк на вокны, ці не заўважыла яго Вольга. Спадзяваўся, што, заўважыўшы, яна абавязкова выйдзе.

— Бульбачку варым, Канстанцінавіч? — спытаў паблажліва старшыня ў старога, выпускаючы праз губы, стуленыя трубачкай, тонкі струменьчык дыму.

— Ды баба маладой накапала. А яна яшчэ і дробная. Казаў, каб не глуміла, дык захацелася ёй паглядзець... А наогул, бульба ў гэтым годзе будзе.

— Бульба — гэта другі хлеб,— шматзначна заўважыў Мікола Дрозд.

— Хлеб жа,— уздыхнуў стары, падняўся, прынёс трэ-

сак, падсунуў іх пад «казу». Яны спачатку густа задымілі, а потым успыхнулі, як салома, усе адразу.

Міколе Дразду так і карцела пахваліцца, як яны сёння вазілі хлеб, наогул расказаць пра сваю работу, але яму хацелася, каб стары сам пацікавіўся, але той нібы і не ведаў, што Мікола Дрозд вось ужо не першы тыдзень узначальвае калгас.

— Вазілі ж сёння хлеб,— не вытрываў нарэшце Мікола Дрозд. Але Церах, здавалася, не пачуў яго.— Болей усіх адвезлі. Там быў якраз Пазняк. Пахваліў. Сказаў, што напіша пра нас у газету, што нам будзе падзяка ад самога...

Стары нібы і не пачуў. Міколе Дразду стала аж няёмка за сябе. Ён не мог паверыць, што да таго, што яго, старшыню, так хвалюе, можна заставацца абыякавым. Відаць, не падабаецца старому, што ў яго, Міколы Дразда, атрымоўваецца, і атрымоўваецца нядрэнна. Вось і робіць выгляд, што не чуе.

— Начальства хваліць,— гэта добра,— Церах глянуў на Міколу Дразда, які ў сваёй чорнай футболцы з бліскучымі замкамі, з белай манішкай на загарэлай шыі, з рыжай раскашлачанай чупрынай нечым нагадваў маладога пеўніка, які ўзляцеў на высокі плот, каб не толькі ўсе пачулі, як ён кукарэкне, але і ўбачылі яго.— Але трэба, каб людзі цябе пахвалілі. Вось калі людзі пахваляць, тады...— што тады, стары не стаў тлумачыць, зноў загадкава памаўчаў.— Сёння Рудзянкова Хоўра прыходзіла. Пазычыла кілаграм мукі. Дзяцей карміць нечым. А яна ж хлеб з табой вазіла, на вазу сядзела, песні спявала.

— Дзяржава ёсць дзяржава,— больш нічога і не прыдумаў сказаць Мікола Дрозд.— Аднаўленчы перыяд, гораду хлеб трэба.

— А хто ж гаворыць, што не трэба думаць пра дзяржаву, пра той жа горад. Трэба, ой як яшчэ трэба,— памаўчаў, зноў падкінуў у агонь трэсак, спытаў, разглядаючы Міколу Дразда праз густы дым, што раптам падняўся над чыгунком.— А нашы людзі? Таксама ж дзяржава. І каб хоць трохі ты падумаў пра іх, толькі добрае для дзяржавы зрабіў бы... Але трэба ведаць, хто з калгаснікаў як жыве, чым жыве... Каб ведаў, што ў той жа Рудзянковай Хоўры нечым дзяцей карміць, а можа, і не толькі ў яе... Жанчыны на калгас робяць, а пра сябе некалі ім і падумаць. Змалоў бы які воз жыта, раздаў удовам...

— Указання не было,— сказаў Мікола Дрозд, як вучань, што правініўся перад настаўнікам.

— Ну чакай указанняў, чакай,— паківаў галавой Церах.— Я вось толькі думаю, з кім ты толькі будзеш працаваць у калгасе гадоў праз дзесяць, дваццаць?

— Я столькі і не прабуду, можа...

— Канешне, не прабудзеш,— упэўнена сказаў Церах.— Але не ты, дык другі. Няважна. Чуў я, як адна кабета свайго малога лаяла, што двойку прынёс са школы. Не будзеш вучыцца, кажа, чалавекам не станеш, застанешся ў калгасе на ўсё жыццё. Разумееш? Страшыць калгасам. А да вайны мы ўсе ганарыліся, што мы калгаснікі... «Я калгасніца маладая...» Мабыць, сам гэты вершык вучыў яшчэ. Радасны вершык. І горды. А цяпер не хочуць быць калгаснікамі. А чаму? Таму, што такія старшыні, як ты, усё чакаюць нейкіх указанняў, каб шанаваць працаўніка. Не ведаюць, каму сёння хлеб трэба. Усе дзяцей сваіх вучаць, хочуць, каб яны ў людзі выбіліся, не заставаліся тут. Людзям дзяржава аддала зямлю, а яны ад яе ўцякаць збіраюцца. Апустошыце калгасы, калі будзеце так кіраваць.

— Указанні ж,— зноў паўтарыў Мікола Дрозд, не ведаючы, што адказаць старому.

— Не гавары глупства. Указанне ёсць адно: умацоўваць калгасы. А ўмацоўваць іх трэба праз людзей, а пра іх ты якраз і не думаеш.— Церах падняўся, дастаў з халявы ботаў кухонны нож, тыцнуў ім у бульбу.— Здаецца, зварылася. Трэба сказаць бабам,— і ён пайшоў у хату.

Мікола Дрозд разумеў, што зараз ніяк нельга гаварыць пра асабістае. Можа, стары Церах і раскрытыкаваў яго як старшыню, каб даць зразумець, што ніякай гаворкі пра Вольгу не можа і быць. І нарэшце пайшоў у хату, а яго і не запрасіў застацца на вячэру. Хоць бы дзеля ветлівасці. Бо каб стары быў зацікаўлены ў ім, то запрасіў бы. Можа, ён не ў настроі? Але апошняя думка ніколькі не суцешыла Міколу Дразда. Ён падняўся, неяк пакрыўджана глянуў на вокны, абцерушыў штаны, выйшаў на вуліцу. Ля двара спыніўся, спадзяваўся, што спахопяцца і паклічуць яго назад. Калі не сам Церах, дык, можа, Варвара Мацвееўна ці сама Вольга? Не паклікалі.

Ад радаснага святочнага настрою ў Міколы Дразда нічога не засталося. Было сорамна і нават агідна. У гэты самы момант ён не тое што не любіў сябе, ён ненавідзеў сябе, а за што, дык і не мог зразумець. Ён адчуваў, што зрабіў нешта непапраўна брыдкае, а што, не ведаў. А можа, яму проста сапсаваў настрой стары Церах?

У двары нібы бразнулі вядром. Ці не сабраўся хто па ваду? Мікола Дрозд не хацеў, каб яго ўбачылі ля двара, і пайшоў па вуліцы, не ведаючы куды. Раптам успомніў, што даўно не быў у Харыціны, у якой спакойна і ўсцешна было яму заўсёды.

Харыціна ўсё яшчэ жыла ў зямлянцы, якую з вуліцы не было відаць: яе закрываў зруб. На ім стаялі кроквы з прыбітымі латамі. Сярод лат тырчаў чырвоны комін. Відаць, печ склалі нядаўна. На латах, пад печчу, былі намошчаны ржавыя лісты бляхі. Ля зруба з вуліцы ляжалі снапы абмалочанага жыта. Відаць, зруб днямі схаваецца пад цёплай страхой, а вокны заблішчаць цеплынёй чалавечай радасці.

Ля зруба стаялі людзі. Іх угледзеў Мікола Дрозд, калі падышоў зусім блізка. Паўла Пыжыка ён пазнаў адразу, а двух іншых не ведаў. Відаць, былі не з іхняй вёскі, рабілі ў Харыціны на новай хаце. Можа, цесляры якія, а можа, печ клалі? Усе ўтрох гучна гаварылі, перабіваючы адзін аднаго, а яшчэ гучней смяяліся.

— Га, старшыня,— перагарадзіў яму дарогу Павел Пыжык.— Слухай, хачу пацікавіцца, ды ўсё часу няма з-за гэтага, як ты кажаш, аднаўленчага перыяду. Скажы, чаму маёй карове травы не даў?

— Не толькі тваёй,— і Мікола Дрозд хацеў абмінуць яго.

— Ды ты пачакай,— Павел Пыжык паклаў сваю ўчэпістую руку яму на плячо.— Дык, кажаш, не толькі маёй? А мяне чужыя не цікавяць. Паняў?.. Але нічога, вось даложым Пазняку. Ён хоць і на брычцы катаецца, а народ разумее. І на сходзе скажам. Паняў? А цяпер топай,— і ён падштурхнуў у плячо Міколу Дразда.— Друг, называецца...

Праз які час Міколу Дразда вызвалілі з пасады старшыні калгаса. За адрыў ад мас, як растлумачыў на сходзе калгаснікам старшыня сельсавета.

Міколу Дразда больш за ўсё ўзрушыла гэтая прычына. «Вырас у вёсцы, жыў увесь час разам з усімі, на віду ўсіх, ведаў усіх, мяне ўсе ведалі, а месяца не пабыў старшынёй і ўжо адарваўся...» — абураўся ён у думках.

Пад восень, калі ўбралі з палёў збожжа і пакапалі бульбу, Мікола Дрозд з'ехаў з вёскі. З'ехаў разам са сваёй маці. Казалі, што вельмі ўпрошваў паехаць з ім і Вольгу Церах, але ці яна не пагадзілася, ці не пусцілі бацькі, бы-

ло невядома. Але дакладна было вядома, што потым Вольга не раз шкадавала, што не паехала, а часта нават дакарала сваіх бацькоў, што гэта з-за іх яна засталася ў дзеўках.

## ЛЕС

Андрэй Кравец спачатку правёў пальцамі па зубах пілы, потым паглядзеў, ці добра яны разведзены. Зубы былі роўненька нахілены ў бакі, утвараючы паміж самой бліскучы з вострым дном раўчучок.

— Дзякуй, бацька,— сказаў ён Тарасу Канстанцінавічу, які сядзеў з напільнікам у руках, накрыўшы прыпол фартухом, зацярушаным металічнымі апілкамі, і нібы чакаў ад зяця ацэнкі свае работы.

— Піла добрая,— вымавіў Тарас Канстанцінавіч гэта так, што стала зразумела: ён тут ні пры чым, проста такая ўжо ўдалая піла.— Сачыце толькі, каб не заціскала яе дрэвам. Тады надоўга хопіць. І газы вазьміце праціраць, а то засмоліцца так, што не пацягнеш...

— Я наліла,— сказала Марфа. Яна толькі што насыпала ў мяшок бульбу і завязвала. Побач ужо ляжаў мяшок, напакаваны хлебам, салам, крупамі, цыбуляй. Тут жа быў і вузел з цёплай адзежай. Акрамя старой доўгай світкі яна ўзяла куфайкі і нават старую выцертую суконную коўдру. Тут жа ляжала ўчарнелая ад часу біклага для вады.

Ля двара загрукалі калёсы. Гэта Ігнат прыгнаў коней.

— Ну добра,— сказаў Андрэй, калі ў вайсковы рэчавы мяшок схаваў сякеру, напілак, вяроўкі, завязаў яго, а наверх паклаў пілу. Яна, выгнуўшыся, блішчала навостранымі зубамі.— Ты, Марфа, нічога не забыла? А то будзем успамінаць там, не адчыхаешся тут...

— Хіба мяне не берыцё? — нечакана звялым голасам спытала яна. У яе быў такі выгляд, нібы з вялікага разгону раптоўна спынілася перад перашкодай, пераадолець якую ў яе не было сілы. У яе аж слёзы выступілі на вачах, а губы моцна сцяліся, каб раптам не зламацца ў крыўдным плачы. Яна ж апошнія дні толькі і жыла гэтай паездкай разам з мужам у лес, толькі і думала пра яе, рыхтавалася, а ён ёй: «Не адчыхаешся тут...»

— Глядзі малых, а там справімся самі,— заўважыўшы яе нечаканую панурасць, Андрэй дадаў ласкавей: — Хіба там жаночая работа?

— А хто ж вам там наварыць? — умяшалася ў гаворку Варвара Мацвееўна, якая сядзела на ганку ў сенцах і цікавала за зборамі. Яна, відаць, лепей за Андрэя зразумела настрой дачкі.— Хай едзе. Мы паглядзім тут дзяцей...

— Ну, няхай едзе,— не стаў пярэчыць цешчы Андрэй. І не толькі таму, што жыў у яе хаце і стараўся ва ўсім ёй дагаджаць, яму і самому хацелася ўзяць з сабой Марфу, але ён шкадаваў яе, а таму і сказаў, каб заставалася дома, глядзела малых.

Ён моўчкі пачаў выносіць клункі з двара.

А калі ўселіся на калёсы і тыя, паскрыпваючы атосамі, завалюхаліся на размолатай у пыл дарозе, Андрэй, які сядзеў спіною да Марфы, азірнуўся і зноў буркнуў, нібы ўпікнуў:

— Усё ж сядзела б дома. Ці жаночая там работа?

Марфа нібы і не пачула яго. Глядзела на новыя хаты, што ўжо зрэдку стаялі на вясковай вуліцы, і на тыя, што толькі адрасталі ад зямлі. Усе, асабліва ў каго ў сям'і былі мужчыны, будавалі хаты вялікія, большыя і прыгажэйшыя за тыя, што былі да вайны. Марфа ў думках уяўляла і сваю будучую хату, светлую, вялікую, цёплую і, канешне, на два пакоі. Бо ў такой хаце, якая была ў іх да вайны — адзін пакой ды сенцы,— цяпер жыць будзе не вельмі зручна. Асабліва калі падрастуць сыны. А калі кухня асобна, то раніцай яна, Марфа, нікому не будзе перашкаджаць спаць.

І толькі за вёскай, калі выехалі на шлях, які праз Прудоўку, Макаўе і Тапаліны пасёлак вёў у лясніцтва, яна сказала мужу:

— А мы з бацькам удваіх вазілі дубы на падруб з Воленкі. Валілі і на калёсы грузілі. Канём усцягвалі па нахіленых жэрдках. Так што вопыт ёсць...

— Нічога сабе вопыт,— уздыхнуў Андрэй неяк вінавата.— Калі б раней сказалі, што на такое здольны нашы людзі, мала б хто і паверыў.

— Другі раз не ведаеш, адкуль тыя і сілы бяруцца,— пачала Марфа.— Калі немцы адступалі, на станцыі склад пакінулі. Там нічога і не было, адна соль. Усе па мяшку хапалі, ну і я мяшок схапіла. Нацярпеліся ж без солі. Цэлы мяшок той і прынесла. Потым ён стаяў у пуні. Неяк захацела яго крыху перасунуць, з месца не скранула. А тады прынесла...

— А соль мы не забылі? — спытаў Ігнат, які сядзеў наперадзе і паганяў коней.

— Ды не, цэлы рукаў насыпала.— Марфе аж смешна стала, што столькі багата ўзяла солі.

— За вайну ўсе зведалі цану солі... Калі адступалі яшчэ, у Бранскіх лясах папалі ў акружэнне. Хутка пасля таго, як дамоў заязджалі,— нагадаў Андрэй Марфе пра тую апошнюю сустрэчу перад самым прыходам немцаў.— Грыбамі харчаваліся. Варылі ў касках. А солі не было...

— А цяпер сама павінны быць каласавічкі,— абазваўся Ігнат.— Даўно не еў грыбоў. Бывала, ідзеш у разведку ці па языка, а баравікоў тых пад нагамі, як насыпана. Але сырыя есці не будзеш...

У гаворцы пра ўсялякія падзеі з недалёкага мінулага і прайшла ледзь не ўся дарога. Недзе апоўдні пад'ехалі да лесніка. Ляснік якраз быў дома. Ён адразу ж і павёў паказваць іхнюю дзялянку. Праехалі праз чыгуначны пераезд, потым прагрукалі па рабрыстых карэннях разбітай трактарамі лясной дарогі і выехалі на поплаў ля невялічкага перасохлага балотца з купкамі кучаравай лазы пасярэдзіне. Вакол таго балотца раслі танклявыя гонкія сосны ўперамешку з бярозамі. Унізе паднімаўся густы падлесак з арэшніку, маладых рабінак, а бліжэй да балотца — з купак асіннічку. У многіх месцах сосны былі спілаваны. Ля дарогі ляжалі бярвенні, падрыхтаваныя на вываз.

— Вось табе будзе і коней дзе папасвіць,— саскочыў першым з калёс ляснік.

— А лес? — спытала Марфа.

— А во і лес,— і ляснік паказаў на клін сасонніку, што стаяў паміж дарогай і высечкай.— Ля дарогі, вазіць блізка. Сорак дрэў вашых,— і ён пільна паглядзеў на Андрэя, а потым на Марфу сваімі слязлівымі, як прастуджанымі, вочкамі, а потым пачасаў няголеную, утырканую рэдкім сіваватым шчэццем бараду.

— Ды ля дарогі ж,— закінуўшы галаву, агледзеў сосны Андрэй.— Як струны...

Ігнат жа наогул не звярнуў ніякай увагі на лес, папраўляў на конях збрую ці, можа, збіраўся ўжо іх распрагаць.

Марфа хуценька абышла ўсю дзялянку, вярнулася, акінула позіркам нізкарослага, у вялікаватым вылінялым салдацкім абмундзіраванні і ў нейкіх зморшчаных, відаць,

таксама велікаватых, вымытых росамі і перасохлых кірзачах лесніка, пагрозліва спытала:

— Які гэта лес?

— Як — які лес? — часта заплюскаў вочкамі ляснік, нібы запарушыў іх.

— І гэта вы называеце лесам? — расхвалявалася Марфа.— Ды наша Верка са свайго лесу лепшага нацягала. Адна. На сабе. А мы выпісвалі ў сельсавеце, ехалі за цэлы свет... Ты што нам даеш? Гэта ж на хлеў толькі лес, а не на хату. Ты сабе такі бяры. Ну чаго маўчыш?

— А што я? А што я? — мармытаў ляснік.— Дзяржава адвяла дзялянку.

— У дзялянцы ж усялякі ёсць,—даводзіла сваё Марфа.

— А гэты каму? Гэты каму? — пытаўся ў жаласлівай бездапаможнасці ляснік.— Усім давай добры лес, а дзе яго набрацца? Які ёсць... А то і гэтага не будзе.

— А калі знайду? — не адступала Марфа.

— Ладна, Марфа, не шумі,— махнуў Андрэй жонцы рукою.— Што ты прыстала да чалавека? Ён жа не расціў гэты лес, ён на службе. Што сказана, тое і робіць. Які ёсць, такі і ёсць... Чым спрачацца, лепей падрыхтуй там чаго перакусіць. Самі згаладаліся, ды і чалавеку з-за такіх, як мы, можа, некалі было паабедаць.

Ляснік толькі часцей заплюскаў вочкамі, але змаўчаў.

— Нічога не выйдзе,— заявіла Марфа.— Ніякага перакусу, пакуль не пакажа лес, які трэба.

— Што ж нам рабіць, дарагі ты мой? — абняў за плечы лесніка Андрэй.— Прыйдзецца шукаць той лес, а то сядзець нам з вамі галоднымі. І доўга. Я ведаю сваю бабу.

Ляснік паглядзеў на Андрэя, на Марфу, моўчкі скіраваў праз высечку наўспрамкі да лесу, што на адлегласці аж свяціўся сваёй бронзавай некранутасцю.

— Вось тут,— спыніўся ляснік за некалькі метраў перад борам.— Калі адолееце...

— Але як жа іх? — усумніўся ў сабе Андрэй, гледзячы на тоўстыя, можа, у два абхваты, высокія сосны без адзінага сучка і з рэдкім голлем на самай верхавіне, урослай у неба.

— Адолеем,—супакоіла яго Марфа.— Затое ж лес! Дзевяць-дзесяць вянкоў — і хата. А калі абпіліць, дык і абапалкаў на столь хопіць... Лес што трэба, не тыя жэрдачкі...

Андрэй толькі цяжка ўздыхнуў. Ён нават не ўяўляў, як гэта яны ўдвух з Ігнатам — нельга ж браць у разлік жанчыну,— справяцца з такімі дрэвамі. Паваліць-то яшчэ,

можа, паваляць, а вось як вывезці? І недзе ў душы аж злаваўся на жонку, што так радуецца гэтаму лесу, нават нейкую песню пачала мармытаць сабе пад нос.

— Ну, работнічкі,— сказала Марфа пасля абеду, калі ляснік, задаволены іх пачастункам, развітаўшыся і паабяцаўшы нават прадаваць ім малако, пайшоў дамоў.— Пакуль я тут атабаруся, можа б, пару дрэў якіх і паваліла.

— Пачнём з раніцы,— сказаў Андрэй. Ён, стомлены доўгаю дарогай і разамлеўшы пасля перакусу з чаркаю, ляжаў на цёплым дыване з густога сіўцу, глядзеў у бясконцую сінечу. Ды і параненая спіна неяк глуха ныла, прасіла спакою.

— Канешне,— пагадзіўся з Андрэем і Ігнат.— Сёння сонца, а заўтра дождж. Трэба ж будан які...

— Будзеце так старацца — і асенніх дажджоў дачакаецеся,— упікнула іх Марфа.

— У салдат ёсць такі закон: дзе б ты ні спыніўся і на колькі б ты ні спыніўся, адразу ж зрабі сабе жытло... Ігнат правільна гаворыць.

— А гэта праўда,— задумаўся Ігнат, нібы ўспамінаючы нешта.— Бывала, толькі спынімся, адразу ж каманда: рабіць зямлянкі. Толькі пакапаем, накрыем, галля нацягаем, каманда: выступаць! І пажыць не давядзецца...

— Дык рабіце ж што-небудзь,— не цярпелася Марфе. Яна склала ў вядзерцы лыжкі, талеркі і пайшла ў балотца, спадзеючыся знайсці там вады.

Звечарэла. А ў лесе вечарэе раней, чым у полі: яшчэ і неба над галавой, здаецца, светлае, а на паляне ўжо вечаровая шэрасць, а ў зарасніках дык і зусім глыбокая ноч. А калі запалілі агонь, дык наогул цёмна зрабілася навокал. І толькі святло кастра выхоплівала з цемры то бялявы ствол бярозы, і тады здавалася, што там нібы хто прашмыгнуў у белай хусцінцы, то цёмны, сцішэлы і ахаладжаны расой куст арэшніку, падобны на прытоеную загадкавую істоту, то раптам заглядвала ў буданчык, які паставілі тут жа, пад маладым дубком, і там бліскала жоўта латунная бляха ад рэменя, які зняў Андрэй і кінуў у будан, бо ля кастра сядзець падпяразаным было гарачавата.

Спаць пакуль яшчэ нікому не хацелася. Хаця Ігнат ужо і ўладкаваўся на начлег на сене, ахапак якога разаслаў ля вогнішча, але не спаў. Паклаўшы галаву падбародкам на рукі, ён моўчкі глядзеў на касцёр, маўчаў і не варушыўся, здавалася, прыдаўлены целагрэйкай і цяжкой світкай з тоўстага саматканага сукна.

Андрэй сядзеў на тоўстым паленцы і доўгай арэхавай палкай падпраўляў касцёр, падграбаючы ў яго дагаркі ад дроў. Марфа, вымыўшы посуд, склаўшы яго ў рэчавы мяшок, каб не запыліліся міскі і лыжкі, прыхінулася бокам да Андрэя, падабраўшы ногі пад сябе і накрыўшы іх шырокай і доўгай спадніцай, слухала, пра што гаварылі мужчыны, не зводзячы вачэй з агня. А гаварылі яны пра тое, што цяпер трэба ставіць не абы-якія хаты, а добрыя, разлічаныя на доўгі век — пасля такой вайны вельмі доўга, а можа, нават і ніколі не будуць болей ваяваць, бо чалавецтва настолькі паразумнела, што не дапусціць больш такога.

А навокал стаяла нязвыклая цішыня. Лес маўчаў, нібы праваліўся ў глыбокі сон. Толькі зрэдку стрэліць, разагрэўшыся, сыры сучок, зашыпіць, як кран у самавары, ды фыркне раптам конь, разбудзіўшы сонную муху, што спала, схаваўшыся пад травінкай, а тая казытнула яму пысу...

Калі пагарэлі дровы, Андрэй падняўся, хацеў яшчэ падкінуць у вогнішча сухіх смалякоў ад старога карча, але Марфа, абцерушыўшы спадніцу ад смецця, запярэчыла:

— Не трэба, Андрэй. Праседзім ноч, а заўтра дзень вялікі ды і нялёгкі.

— І то праўда,— пагадзіўся Андрэй.

— Спаць дык спаць,— абазваўся і Ігнат, павярнуўшыся на бок, нацягнуў світку на галаву, пакінуўшы невялічкае акенца для дыхання.

Марфа першая палезла ў будан.

Андрэй згроб вуголле ў кучу, абгарадзіў яе сухім пясочкам, потым разуўся, паставіў боты недалёка ад вогнішча, на іх па салдацкай звычцы павесіў анучкі, каб яны за ноч прасохлі і каб потым, калі раптам спатрэбіцца, можна было хутка абуцца, і ўжо басанож, амаль на цыпачках, бо трава балюча калолася ў адвыклыя ад зямлі ногі, скіраваў у будан, у якім была цемень, хоць вока выкалі, і трымалася яшчэ дзённая цяплынь.

— Дзе ты тут? — спытаў ціха.

Зашамацела сена, перад вачыма Андрэя мільганула нешта цьмяна-светлае, і ў наступнае імгненне ён адчуў рукі Марфы на сваёй шыі...

Аж з таго даваеннага часу, калі ў Андрэя і Марфы не было дзяцей і калі яны толькі што перасяліліся ў сваю хату, што купілі на тым жа сяродку, дзе жылі і яе бацькі,

толькі на другім баку вуліцы і бліжэй да канца, яны ніколі не былі адны, вось так, як зараз...

Былі малыя дзеці, за якімі Марфа не бачыла ні дня, ні ночы, а потым вайна, акупацыя, кожны дзень якой быў напоўнены трывожным чаканнем невядомага, а потым першы ды і другі год пасля вызвалення ад фашыстаў, калі кожная затрымка франтавога трохкутніка ад мужа магла азначаць непапраўнае, а потым ужо і жыццё з Андрэем у яе бацькоў, у шматлікай сям'і, на вачах усіх.

І вось цяпер яны былі адны, як і некалі ў далёкай маладосці.

І ўяўлялася Марфе, што ніколі не было ў яе ростані з Андрэем, не было страшнага ліхалецця, а былі яны заўсёды, і былі толькі разам, і толькі яны. Былі вечна і вечна будуць. І шчасцем, радасцю, здавалася, было прасякнута яшчэ не астылае пасля дня паветра ў будане і там, за буданом, сярод прыціхлых соснаў, ды і ўся прастора ад затуманеных палян і высечак і да самых зор, буйных і выспелых, увесь свет. Можа, таму і цішыня была такая ў гэтым свеце, што ніхто і нішто не адважваліся спалохаць тое ўсемагутнае і ўсеабдымнае, што злітоўвала ў адзінае і Марфу, і вялікі свет, і ў той жа час далікатна кволае, як той, ледзь улоўны, водар нераспелых суніц, што прабіваўся ў будан праз гаркаваты пах непрывялага бярэзніку, якім быў накрыты іх будан...

— Андрэй, ты спіш? — ціха спытала Марфа.

— Не,— падалося, адным дыханнем адказаў ён.— А што?

— Вось ляжу я, і мне здаецца, што мы адны на ўсёй зямлі. Толькі мы. І нічога не чуваць. Толькі як ты дыхаеш. А табе як? Пра што думаеш? — яна прытаілася, чакаючы адказу, хаця і не сумнявалася, што ён адчувае якраз так, як і яна. Інакш жа і быць не можа.

— Ціха ж,— уздыхнуў Андрэй.— Так заўсёды было на фронце перад наступленнем. Усё прыціхне ў чаканні каманды. І такая напружанасць, здаецца, варухніся — увесь свет узарвецца. І ў праціўніка таксама ціха. Там таксама чакаюць... Мне і ў шпіталі часта снілася вось такая цішыня. Ды потым і дома. Аж жудасна становіцца. Прачнешся, аж радасна, што дома. І цяпер ляжаў і думаў, што вось так ціха, як перад боем, што вось-вось узляціць сігнальная ракета...

Марфе раптам стала шкада мужа, як бывае шкада ня-

вінна пакрыўджанага малога, яна павярнулася да яго, прыхінула яго галаву да сябе:

— А ты, Андрэйка, ні пра што не думай. Пастарайся заснуць, а то заўтра столькі работы.

— Горача,— вызваліўся ён з яе рук.

Калі на другі дзень раніцай Андрэй прачнуўся, то ўжо ў будан заглядвала сонца. Парнай цеплынёй патыхала ад нагрэтага голля будана. Андрэй пацягнуўся, сеў, прыгладзіў рукою ўскудлачаную чупрыну, павыбіраў з яе сухія травінкі. Сена пазалазіла за шыю, пад сарочку...

— А чаго ж мяне не будзіце? — спытаў Андрэй, вылезшы з свайго жытла. Прысеўшы на паленца, стаў абувацца. Анучкі былі сухія, каляныя і цёплыя ад сонца.

Ігнат, відаць, прачнуўся даўно, бо паспеў не толькі прывесці коней, але ўжо і запрог іх, прывязаў да гужоў тоўстыя і доўгія пастромкі, якімі будуць чапляць бярвенні і сцягваць іх да дарогі.

А Марфа завіхалася ля вогнішча. У вядры кіпеў суп, у вялікім чайніку — кампот, а на патэльні, якая стаяла на буйным вуголлі крыху ў баку ад вогнішча, цвірчалі баравічкі напалову з цыбуляй. Цыбуля паспела падрумяніцца і казытала нос сваім перамешаным з грыбным водарам. Касцёр страляў сучкамі, і часам чорныя вугольчыкі пападалі ў патэльню з грыбамі. Марфа доўгім кухонным нажом даставала тыя вугольчыкі.

— І калі ты паспела? — паказаў на патэльню вачыма Андрэй.

— А на досвітку паднялася, туман аж да нашага будана дацягнуўся, і суніцамі пахне. Я і пайшла на той пах... Злева ад балотца на высеках іх як насыпана. Я ў прыпол іх, у прыпол... А потым і грыб папаўся. Заглянула ў беразнячок, а іх там хоць касой касі. Адзін у адзін,— расказвала шчаслівая ад мужавай пахвалы і ўвагі, расчырванелая ад кастра Марфа. Яна была ў лёгкай, з кароткімі рукавамі, кофтачцы, у доўгай спадніцы, босая. Валасы завязаны ў куксу на галаве. Яна ніяк не была падобна на жанчыну, маці трох сыноў, а больш нагадвала маладую гаспадыню, учарашнюю яшчэ дзяўчыну, якая, можа, першы раз у жыцці рыхтуе сняданак для свайго мужа, таму такая радасна-ўсхваляваная, такая чулая на ўвагу, на пахвальбу. Вось толькі каб не той, хоць і ледзь улоўны, задумліва-заклапочаны пагляд яе шчаслівых вачэй, які, відаць, назаўсёды застаецца ў чалавека, хоць раз пабачыўшага вайну.

— І калі ты толькі спала? — падышоў бліжэй да яе Андрэй. У яго было жаданне калі не сказаць жонцы штонебудзь пяшчотнае, дык абняць яе, прыгалубіць, але блізка ад іх быў Ігнат і не толькі бачыў іх, але і чуў, а таму толькі і спытаў: — Мо памагчы?

— Ад цябе адна помач,— засмяялася Марфа.— Во садзіцеся ды снедайце. Ігнат, ідзі! — паклікала і брата. Дастала з рэчавага мяшка алюмініевыя міскі і пачала наліваць суп.— А ты, Андрэй, нарэж хлеба, калі памагчы хочаш...

Пасля снедання Андрэй з Ігнатам, узяўшы сякеру і пілу, пайшлі на дзялянку. Але не паспелі яны агледзець дрэвы, распланаваць, з якой сасны пачынаць, якім чынам бярвенні цягаць да дарогі, як на дзялянцы з'явілася і Марфа.

— Ну, а мне што рабіць? — спыталася ў мужчын.

— А нічога,— адказаў Андрэй.— Лепей абед ідзі вары. Пакуль зварыш, дык мы і напрацуемся.

— А я абед зрабіла. Паставіла ў вуголле, няхай прэе,— сказала яна пра той абед, як пра нешта дробязнае, пра што асабліва багата і гаварыць не варта.

Яе старатлівасць, увішнасць і, здавалася, заўсёдная нястомнасць спачатку злавалі Андрэя — «Дурная баба, адпачыць нават не прымусіш», а потым пачалі захапляць яго — «І адкуль бярэцца сіла?», а затым і трывожыць — «А ці надоўга яе хопіць, калі будзе так шчыраваць?» Ён ні разу не чуў, калі яна клалася спаць. Нарабіўшыся, звычайна засынаў адразу ж, як толькі запаўзаў у будан, не бачыў, калі яна падымалася раніцай — сам жа падымаўся позна, к сняданку. А яна не толькі паспявала зрабіць сняданак у час, але неяк умудралася яшчэ назбіраць суніц і грыбоў, збегаць да лесніка па малако, а потым увесь дзень рабіць нараўне з імі, мужчынамі.

Марфа не толькі абсякала сукі і голле, але кожны раз, як у Андрэя пачынала ныць параненая спіна, замяняла яго з пілою ў руках. Стамляўся Ігнат, падмяняла і яго. А ўвечары, калі мужчыны ледзь цягнулі ногі да свайго стойбішча, там ужо ў вядры булькаў суп, кіпеў кампот з суніц, цвірчалі грыбы на патэльні ці тушылася бульба з мясам. А ля вогнішча завіхалася Марфа, молада, жвава, нібы яна і не махала сякерай і не пілавала цэлы дзень, і пры гэтым яшчэ і мармытала сабе пад нос нешта вясёленькае. Убачыўшы іх, яна тут жа кідалася да рэчавага мяшка, даставала міскі:

— Мыйце там рукі і да «стала»...

«Сталом» быў разасланы на траве саматканы, белы з чырвонымі пеўнікамі на ражках настольнік, на якім ужо ляжалі алюмініевыя лыжкі, нарэзаны вялікімі скібамі хлеб, стаяў шчарбаты глячок з малаком, які яна прынесла ад лесніка.

Марфа налівала ім па поўнай місцы густога супу. А калі яны распраўляліся са сваімі порцыямі, на «стале» адразу ж з'яўлялася патэльня з грыбамі. Пасля грыбоў было малако. Выпіўшы па вялікаму паліванаму карцу, яны адчувалі такую стомленасць, што здавалася, упадуць, дзе сядзяць, і заснуць. Ігнат, не падымаючыся, падпаўзаў да сена, сцягваў з ног боты, залазіў пад сваю світку.

— Ну як? — неяк спытала Марфа ў Андрэя пасля вячэры, калі той толькі збіраўся залезці ў будан.

— Што — як? — не зразумеў яе Андрэй.

— Малако.

— Малако як малако...

— Не разбіраешся ты нічога,— пакрыўдзілася Марфа.— Такое салодкае, духмянае.

— Каб у леснiковай каровы ды не было духмяным,— падаў голас Ігнат, уладкоўваючыся ямчэй пад сваёй світкай.— На такіх травах пасецца...

— Я да чаго кажу,— сабраўшы посуд, прысела ля ўвахода ў будан Марфа.— Ты чуеш мяне? Ляснік казаў, што ў яго ёсць цялушка. Сёлетка. Можа б, купілі?

— Пагавары...

— Гаварыла, але трэба глянуць.

— Малако, сама кажаш...

— Малако, яно, канешне. Але трэба паглядзець. А то як прыйду па малако, дык яны на пашы.

— Ідзі паглядзі,— сказаў Андрэй: яму вельмі хацелася спаць.

— Я думала, з табой разам...

— Калі хочаш разам, дык давай заўтра з раніцы, а то...

Марфа нічога не сказала. Некаторы час было ціха. Недзе стаяла ля будана і думала, ісці цяпер глядзець тую цялушку ці заўтра раніцой разам з мужам. Але вось пачуліся яе крокі — зашлыкалі бахілы, відаць, абутая басанож. Добра, што так хоць абулася, а то ж магла і босай па такой расе пабегчы. Яшчэ чулася, як шамацела трава, ламаліся сухія сучкі, а потым усё заціхла. Ці Марфа адышлася далёка, ці Андрэя так хутка ўзяў сон, але ён болей

нічога не чуў. І, вядома ж, не чуў, як Марфа вярталася назад, як залазіла ў будан.

— Андрэй, Андрэй, ты чуеш? — затармасіла яна мужа.

— Не,— ён спачатку і не ўцяміў, хто яго гэта так тармосіць.

— Бачыла ж карову. Карова, як наша Лыска была. Каб не ведала, што нашу немцы застрэлілі, падумала б, што гэта наша. І цялёнак такі ж. Нават зорачка на лбе. Я па малаку ўжо здагадалася, што за карова ў лесніка. Можа, яшчэ якая родзічка нашай Лысцы? Ляснік казаў, цялёнка можна хоць зараз забіраць. А можна і ўвосень. Хай, кажа, папасецца. Я думаю, цяпер забяром. У нас там таксама трава добрая. А ў лесе і ваўкі ж ёсць, не дай бог. Усялякае можа быць. Ці, можа, хто болей яму дасць, дык прадасць яшчэ.

— Можа, зараз і пабяжым забіраць? — буркнуў Андрэй, дапяўшы нарэшце, пра што гаварыла яму жонка.

— Чаму зараз... Як дамоў будзем ехаць,— і Марфа пакрыўджана замаўчала. А калі яна ўлеглася побач, Андрэй, прытуліўшы яе да сябе, ласкава сказаў:

— Ды не хвалюйся ты, нікуды наша Лыска не дзенецца...

Апошнія тры дні Марфа яшчэ болей была неўтаймаванай, здавалася, яна аж час прыспешвала, каб хутчэй ехаць дамоў. Ці, можа, толькі так здавалася мужчынам? Можа, яна была такая, як і ўпачатку, ды цяперператаміліся яны, і не было ў іх ужо таго імпэту, той энергіі, як адразу, вось і думалася ім, што Марфа стала яшчэ болей высільвацца. А яна і сапраўды не ведала пакою да апошняй мінуты. Нават тады, калі ўжо запрэглі коней у калёсы і збіраліся ехаць, яна саскочыла з калёс, ухапіла з долу невялічкі сучок, набрала ля калёс мазуты і пачала ёй пісаць на кожным бервяне «А. К.», што азначала «Андрэй Краўцоў» і што, на яе думку, павінна было перашкодзіць якім-небудзь зладзеям украсці іх лес. А такія выпадкі ў тыя часы здараліся.

— Слухай, ты ўгамонішся нарэшце? — крыкнуў на яе Андрэй.— А то пакінем цябе тут.

Коні стомлена і марудна перабіралі нагамі. Нудна шаргацеў пясок, асыпаючыся са спіц колаў.

Марфа нечакана сцішылася, нібы раптам засумавала. Яе засяроджаны твар быццам бы пастарэў. Нібы цяпер дала сябе адчуць, праявілася ўся стомленасць, што на-

збіралася ў апошнія дні, месяцы, гады. Ці, можа, яна проста расслабілася, таму што галоўнае зроблена і цяпер не грэх было і адпачыць? А можа, раптам успомніла пра дзяцей, пра свае паўсядзённыя і бясконцыя турботы, пра якія на нейкі час забылася ў лесе? А можа, яе сум і одум былі ад таго, што недзе ў глыбіні свае душы адчувала: гэтыя дні ў лесе былі самымі шчаслівымі ў яе жыцці і ўжо болей такіх не будзе.

Яна і сама б не змагла растлумачыць, што з ёй, каб у яе раптам спыталі пра гэта.

Марфа сядзела моўчкі, прыхінуўшыся спіною да спіны Андрэя, які таксама нешта нібы засумаваў. Але ў яго для гэтага была свая прычына — заныла былая рана. Можа, ператрудзіў яе ці прастудзіў, калі спаў у будане.

Ігнат жа сядзеў наперадзе, зрэдку лена памахваў пугаю, покаючы на марудлівых коней.

Чорна-белая цялушачка з зорачкаю на лбе ляжала ззаду на калёсах і праз празрысты пыл, што падымаўся следам, глядзела сваімі фіялетава-сліўовымі вачыма на сіні лес, у зялёным зацішку якога яна ўпершыню ўбачыла гэты свет...

Марфа зрэдку працягвала руку і гладзіла на яе клубах шаўкавістую поўсць, і тады па твары жанчыны нібы прабягаў сонечны зайчык — ён святлеў непадробнай дзіцячай радасцю...

## ГУЛЬНІ

Вельмі нялёгкім было наша пасляваеннае дзяцінства. Яго нават параўноўваць нельга з дзяцінствам тых пакаленняў, што прыйшлі пасля нас. Але, нягледзячы на гэта, яно назаўсёды застанецца для нас незабыўнай часінай, напоўненай непаўторнай паэзіяй штодзённых адкрыццяў...

У тое лета мы ўжо жылі ў сваёй хаце — перабраліся яшчэ на пачатку зімы.

Наша хата па тым часе была, можа, лепшая ў вёсцы. Зрубілі яе з тоўстых бярвенняў, пакрылі не саломаю, а дранкай, а крыху пазней перакрылі шыферам. У ёй былі дзве палавіны — светлая і кухня. Прасторныя сенцы з каморай. Пабудавалі хлеў, дрывотнік. Увосень пасадзілі сад. Больш трыццаці яблынь і груш.

Калі жылі ў дзеда, мы, малыя, былі ўвесь час пад на-

глядам. Стары Церах ды баба Варвара Мацвееўна не вельмі нам давалі волі.

Цяпер жа мы раслі, можна сказаць, без асаблівага нагляду.

Бацька наш рабіў у сельсавеце, які размяшчаўся ў суседняй вёсцы Прудоўцы. Днямі раз'язджаў па вёсках, збіраў падаткі, праводзіў падпіску на пазыку, так што мы яго не бачылі днямі.

Маці працавала ў калгасе з цямна да цямна, арала, вазіла гной, садзіла бульбу, палола, малаціла, капала бульбу і яшчэ паспявала наварыць нам снеданне, абед, вячэру, дагледзець скаціну. А ў нас ужо была свая карова, свінні, куры.

Мы з Толікам хадзілі ў школу, а Ігар яшчэ быў дома. Яго ўдзень глядзела баба, а ўлетку на канікулах з ім гуляўся Толік. Я ж хадзіў працаваць у калгас.

Памятаю, яшчэ спіш, а пад акном ужо крычыць Мосей Куцця, брыгадзір:

— Марфа, палоць лён, а хлапцу бульбу разганяць!

— Ой, Масеечка,— просіць яго праз адчыненае акно маці,— хай бы ён хоць дзянёк пабыў дома. Учора ж толькі здаў апошні экзамен. (Тады мы ў кожным класе здавалі пераходныя экзамены.) Пабегаў бы...

— Вось за коньмі і пабегае,— бурчыць брыгадзір, а потым угаворвае маці: — Нямашака ж каго паслаць, Тарасаўна, а бульба зарастае. Так што будзі мальца.

Але мяне будзіць не трэба. Я даўно прачнуўся ад іхніх перагавораў, пацягнуўся, падышоў да намыйніцы, зачэрпнуў з вядра цяжкім латунным, адкаваным з гільзы, карцом халоднай вады, якая не паспела яшчэ нагрэцца, умыўся, выцерся каляным, шурпатым рушнікам, сеў за стол, за якім бацька ўжо сёрбаў бульбяны суп.

Есці мне яшчэ не хацелася. Я выпіў шклянку сырадкашы і то без хлеба, адрэзаў сабе ладны акраец, узяў з патэльні пару скварак, усё гэта загарнуў у газету, запхаў у кішэню сваіх вузкаватых штонікаў, з якіх даўно вырас, і пайшоў на канюшню.

Такіх малалеткаў, як я, там ужо сабралася некалькі чалавек. Нам яшчэ не давяралі ні каня, ні плуга-акучніка. За плугам абавязкова хадзіў хто-небудзь са старэйшых. А кожны з нас вадзіў каня, каб ён не збочваў з рада. Лічылася, што вадзіць лягчэй, чым кіраваць акучнікам. І сапраўды, што тут цяжкага. Ідзі сабе і ідзі, трымай каня за аброць, і ўсё. Але на справе ўсё было зусім не так. Стам-

ляла аднастайнасць. А ў сонечны дзень, ды калі яшчэ конь сам па сабе не спакойны, ён, адганяючы мух і аваднёў, матаючы галавой, так натузае табе за дзень рукі, што баляць яны потым ноччу, нібы хто іх выкручвае.

А калі канчалі акучваць бульбу, надыходзіў сенакос. Хадзілі варочаць і грэбці сена. А потым выспявала жыта... А колькі за лета, бывала, пераносіш травы карове!

У тыя ж будныя дні, калі раптам нам не было чаго рабіць у калгасе, мы ездзілі на калясках-двухколках у лес па карчы.

Там, дзе адразу пасля вайны вялікія дрэвы былі вынішчаны на будаўніцтва, цяпер сярод дробных бярозак-самасеек багата тырчала карчоў. Яны былі яшчэ даволі моцныя, але кара на іх сапрэла і дробныя карэнні падгнілі.

Ездзіць па карчы мы любілі гуртам. І весялей было, а галоўнае, маглі адзін аднаму памагчы вываліць вялізны корч з ямы, пагрузіць яго на каляску.

У той дзень, калі мы знайшлі цэлы акоп зброі, памятаю, паехалі па карчы я, Кулінін Іван, ці Блінец (так празвалі яго за тое, што ён неяк шчадраваў пад стары Новы год і ў адной хаце яму далі блінец з салам. Іван згубіў той блінец у цёмных сенцах і расплакаўся: блінец, блінец...), Моцін Валодзька, ці Шарык (у яго быў сабака Шарык), і Сашка Канцавы, ці Шпрыц (ён быў сынам Ганны Канцавой, фельчара).

З краю лесу ўжо карчоў не было, і мы заехалі за Баранова балотца, куды яшчэ не ездзілі ні разу. Там былі самыя высокія і тоўстыя карчы. Мы паставілі двухколкі ў цянёк ад альховых кустоў ля балотца, а самі пайшлі шукаць карчы, якія больш хіталіся. Тых, што стаялі нерухома, як валуны, мы не чапалі. Спачатку мы абкопвалі кожны свой корч, а потым абсякалі карэнні. І жэрдачкай, як рычагом, вывальвалі корч з ямы. Ямку ж закапвалі зноў. Так нам загадаў Мосей Куцця. Некаторы час нашы карчы ляжалі, растапырыўшы свае карэнні, як крывыя пальцы-абрубкі, абсыхалі на сонцы. Падсушаныя, яны былі крыху лягчэйшымі. А тым часам мы рэзалі галлё на венікі. Вязалі тыя венікі тонкім карэннем ад маладых сасонак, якіх нямала расло на паляне паўз забытую конную дарогу. Часам распальвалі касцёр. Сядзелі вакол, пяклі на ражончыках сала — тады ўжо амаль у кожным двары трымалі свіней і сала, як кажуць, было не ўжадобку. Падсілкаваўшыся, грузілі карчы на каляскі...

І ў той дзень мы таксама расклалі касцёр. Калі мы з

Блінцом пайшлі па дровы, то натрапілі на вялікую кучу сухога шыгалля. Паднялі яго, і пад ім аказаўся салдацкі акоп, завалены драбнейшым галлём. Дапытлівы Блінец разгроб тое галлё і наткнуўся на счарнелую рагожу. У рагожу быў загорнуты ручны кулямёт з тонкім дыскам, поўненька напханым патронамі. Там жа ляжала некалькі скрынак з патронамі. А ў намасленай анучы на самым дне акопа было дзесяткі два гранат — круглыя лімонкі і адна цяжкая, як голая, супрацьтанкавая.

Дарэчы, мы ў тоіі час добра разбіраліся ў рознай зброі, бо пасля вайны ў кожнага з нас быў свой асабісты, даволі разнастайны «арсенал».

У мяне, напрыклад, былі вінтоўка, ракетніца і нямецкі аўтамат. Праўда, аўтаматам я забаўляўся нядоўга, бо хутка прадаў яго за дзесятак качыных яек калгасным пастухам, каб было чым ім адстрэльвацца ад ваўкоў, якіх у той час у нашых лясах развялося нямала.

У Шарыка былі ракетніцы і супрацьтанкавае ружжо, з якога ён ніколі не страляў, бо яго, цяжкое, нялёгка было даставаць кожны раз з хованкі. Ён больш любіў пускаць ракеты. А з адстраляных ракет рабіў «жывыя» цацкі. Напхае ў алюмініевы цыліндрык пораху з гаўбічнай гільзы, наглуха загне малатком адтуліну, а збоку праб'е дзірачку цвіком. Прынясе гэтую цацку ў клас. На перапынку запаліць праз дзірачку порах, і ракета, як шалёная, скача па класе, пакуль не вылеціць на вуліцу, трапіўшы ў шыбку, якая са звонам разляталася.

Блінец жа болей за ўсё любіў вазіцца з артылерыйскімі снарадамі, якіх у яго дзесяткі было схавана ў дрывотніку пад старой саломай. Зацягваў снарад на печ, а то хаваўся з ім дзе-небудзь у садзе і, зашчаміўшы між ног, стамескай выкалупваў з яго траціл. А потым той жоўты парашок прадаваў жанчынам за яйкі, сала. Тыя размешвалі яго з якім-небудзь тлушчам і лячылі гэтым зеллем кароcту. Казалі, памагала.

У Шпрыца ж быў карабін і нейкі замежны пісталет. З карабіна стралялі часта, а з пісталета не давялося, бо не было да яго патронаў.

Шпрыц на правах старэйшага агледзеў кулямёт, нават паклацаў затворам.

— Нармальны кулямёт, новенькі яшчэ,— аўтарытэтна заключыў ён.

— Можа, нашы схавалі, калі адступалі,— сказаў Шарык.— Ці партызаны схавалі ды забыліся.

— Гэта хованка Бурбалкі (так мы звалі Лёксінага Кольку),— сказаў я.— Ён неяк хваліўся, што ў яго столькі зброі, што ён можа адзін разграміць цэлы полк.

Можа, Колька болей расказаў бы мне пра свой «арсенал», каб я з ім не пасварыўся.

Першае лета пасля вайны мы пасвілі свіней. Неяк пад вечар, калі гналі наш невялікі статак дамоў, ён загадаў мне пераняць іхняга кныра, які скіраваў праз грэблю ў калгасную бульбу. Я стаміўся за дзень не меней Бурбалкі і не паслухаўся. Раздражнены, ён шпурнуў у мяне шкляной салдацкай фляжкай. Фляжка ўцэліла якраз у патыліцу. Добра, што ляснулася не рабром, а плазам. Фляжка рассыпалася на мелкія друзачкі, а ў вачах маіх паплылі чорныя і чырвоныя кругі, у галаве зазвінела... Мяне адлілі вадой з калюжыны. Шчасце, што вады тады было ў кожнай ямцы, якраз перад гэтым прайшоў добры дождж. Я вельмі пакрыўдзіўся на Бурбалку, але нікому пра той выпадак не сказаў. Разумеў, што непрыстойна скардзіцца на яго, бо ён быў вельмі хворы, як кажуць, ледзь ногі цягаў. Наогул, у іхняй сям'і ўсе былі хворыя. Хварэлі з самае вайны, з тых часоў, калі жылі пад немцам. Пры немцах солі не было і не ўсім удавалася раздабыць яе. Нехта пусціў чутку, што соль можна варыць з угнаенняў, якія цэлымі горамі ляжалі яшчэ з даваеннага часу на разгрузачных пляцоўках на станцыі, пакрытыя паравознай копаццю. Угнаенне сапраўды было вельмі падобнае на соль. Шэрае, крупяністае. Але горкае. Стары Грак, бацька Колькі Бурбалкі, варыў тое ўгнаенне на патэльні з вадою, пакуль не выкіпала вада. Белым парашком, які заставаўся на дне патэльні, і падсольвалі ежу. Ежа не была салёнай, але і не была прэснай. Першым у іх сям'і памёр сам стары Грак. Тады яшчэ не ведалі, што гэта ад той «солі». Думалі, ад старасці. Потым памёр старэйшы сын. Пасля вайны. Урачы сказалі, што ў іх сям'і ва ўсіх цяжкая хвароба печані. Хутка памёр і Бурбалка. Жывой засталася толькі Лёкса. Але і яна хадзіла сухая, як тая трэска.

— Мне таксама некалі хваліўся Бурбалка,— успомніў Шпрыц.— Ён неяк прыходзіў да маёй маці па парашкі і гаварыў мне пра сваю зброю. Абяцаў паказаць, як ачуняе.

— Можа, зараз і смалянём з кулямёта? — не цярпелася Шарыку.— Я ніколі не страляў з такога...

— Ты што? — запярэчыў Шпрыц.— Поўны лес людзей, і ў полі людзі. Пастраляем з кулямёта, калі ў лесе

нікога не будзе. Хай паляжыць пакуль, а гранаты ў нядзелю пакідаем у калодзеж.

Кулямёт зноў загарнулі ў рагожу і закапалі ў гушчары, а месца тое зараўнялі і засыпалі ўсялякім смеццем, каб і следу не было ад нашай хованкі. А гранаты растыркалі паміж карчоў, упрэгліся ў двухколкі і паехалі дамоў.

Ля былога калгаснага двورышча, дзе засталіся яшчэ не засыпаныя старыя калодзежы і ямы ад сіласу, мы спыніліся, схавалі гранаты ў канаве, якой быў абведзены былы калгасны сад.

У нядзелю адразу ж пасля снедання мы ўсе сабраліся ля двара Шпрыца.

Трэба сказаць, што нядзеля ў нас, падлеткаў, была заўсёды выхадным днём. Нас не пасылалі на работу ў калгас і дома не загадвалі нічога рабіць. У гэты дзень мы доўга спалі, а потым збіраліся гуртам і ішлі на старыя сіласныя ямы страляць. Цяпер жа ў нас патронаў не было, яны скончыліся яшчэ мінулай восенню, і мы звычайна хадзілі ў лес. Спраў для нас там было нямала. Ганялі зайчанят і часам лавілі. Наогул, тады зайцоў было багата. Кожны раз, як пойдзеш, дык абавязкова ўбачыш зайца, і не аднаго. За старымі зайцамі мы не ганяліся, ведалі, што не зловім. А вось калі траплялася якое зайчаня, то ўсе адразу кідаліся за ім. Зайчаняты далёка не ўцякалі. Шмыгане ў які-небудзь акопчык, зашыецца ў траву пад абрыўчык і не варухнецца. Адтуль яго за вушы і выцягваў той, хто падбягаў першым да акопчыка. Першым падбягаў высокі і даўганогі Шпрыц, які бегаў вельмі шпарка. Казалі, каб яго добра падкарміць, ён і каня абагнаў бы. Палявалі яшчэ і на птушанят. Мы загадзя знаходзілі гнёзды сарок і драздоў — драбнейшых птушак не чапалі,— прыкмячалі іх. А потым, калі птушаняты падрасталі настолькі, што вось-вось гатовы былі вылецець з гнязда, мы забіралі іх. Смажаныя, яны былі не горш за маладую зайчаціну.

Хадзілі і па ягады. Але ягад у нашых лясах было не вельмі, так што елі іх мала, а калі знаходзілі трохі, то стараліся прынесці меншым сястрычкам і брацікам. Самі ж толькі губы сабе намазвалі імі, маўляў, таксама наеліся ад пуза.

Калі ж у балоце, у глыбокіх светлых акенцах паміж купін зацвіталі белыя гарлачыкі — іх называлі макаўкамі,— мы хадзілі па іх. Раздзеўшыся нагала, каб не мачыць адзежу, мы нарывалі тых кветак па цэламу абярэм-

ку. А потым сядзелі на беразе і елі белыя пялёсткі, збіраючы іх у пучок і адкусваючы ўсе адразу.

А пазней хадзілі па грыбы.

У гэтую ж нядзелю мы не ўспаміналі ні пра ягады, ні пра грыбы. З галавы не выходзілі гранаты. Мы сядзелі на лавачцы ля гародчыка і чакалі Шпрыца, пакуль ён наносіць ваду ў бочку, што стаяла ў двары адразу за варотамі. Да нас падыходзілі нашы аднагодкі, дапытваліся, куды мы сабраліся, напрошваліся пайсці з намі. Мы адгаворваліся: маўляў, нікуды не сабраліся, вось сядзім, і ўсё. Аднёсшы апошняе вядро, выйшаў Шпрыц. Высокі, у сініх картовых штанах, у белай сацінавай кашулі — у нас тады яшчэ ні ў кога не было такіх штаноў і такой кашулі.

— Вады нанасіў? — спытала праз адчыненае акно ў агародчык Канцавая Ганна.

— Нанасіў.

— А куды ты гэта прыбраўся?

— Нікуды,— буркнуў Шпрыц. Ён лічыў ужо сябе дарослым і не любіў, калі маці размаўляе з ім, як з маленькім. Асабліва пры таварышах.

— Паглядзі Мішку, а я на базар збегаю,— папрасіла яна.

— Некалі мне.

— А куды вы сабраліся?

— У лес.

— Нечага вам там швэндацца.— Ганна зачыніла акно і хутка выйшла на вуліцу. Невысокая, з белым тварам — седзячы ў бальніцы, не вельмі загарыш, гэта не ў полі,— у квяцістай сукенцы, у жоўтай з вялікімі ружамі гарусцы на плячах, яна, драбнаватая, ніяк не была падобна на маці такога высокага, даўганогага хлопца, як Сашка.— Ты ж, Сашачка, прыглядзь тут за Міхасём...

— Я ж сказаў.

— Вазьміце і яго з сабой. Толькі далёка не хадзіце і аднаго не кідайце,— і яна пайшла паўз двары, задумліва нахіліўшы галаву, чамусьці часта азіраючыся.

— Вось што, Мішка,— сказаў Шпрыц брату, калі іх маці адышлася далёка.— Ты пакуль пабудзь дома, а мы сходзім тут у адно месца, а потым пойдзем з табой у лес. Мы хутка. Добра?

Міхась у згодзе кіўнуў галавой і, радасны, што яго хутка возьмуць з сабой у лес, нават пабег у двор. Але мы толькі звярнулі ў завулак, праз які вяла дарога на калгасную ферму, як ён нас дагнаў.

— Марш назад! — даў кухталя брату Шпрыц.— Я табе што сказаў?

— І я з ва-а-а-мі,— разрымзаўся малы.

Шпрыц раптам узяў Мішку за руку:

— Ладна, пайшлі, толькі каб язык трымаў за зубамі. Ясна?

— Ыгі,— абрадаваўся Міхась.

За завулкам дарога раздвойвалася. Адна, растоўчаная да прыску, ішла да цяперашняй фермы, другая ж, ледзь бачная на поплаве, мінаючы кузню, вяла да былога калгаснага дворышча.

Ля кузні на круглым шэрым камені ад жорнаў, на якім звычайна нацягвалі шыны на колы, сядзеў Пятро Чых, скрыжаваўшы рукі на грудзях. Ён быў у майцы, і яго мускулы на руках акругліліся і былі, як шары. Мы, падлеткі, заўсёды зайздросцілі яго мускулам, лічылі Пятра Чыха самым дужым хлопцам у нашай вёсцы. Многія не раз разглядалі сябе ў люстэрка, стараючыся знайсці на сваіх руках хаця б зародкі будучых мускулаў, падобных на мускулы калгаснага малатабойца.

Побач з Пятром Чыхам сядзеў Мосей Куцця. У вылінялай гімнасцёрцы, у запыленых ботах і ў шапцы-вушанцы. Ён трымаў на прыполе цэлую нізку сярпоў. Хутка пачыналася жніво, і ў калгаснага брыгадзіра было нямала клопатаў.

— Куды сабраліся, салдаты? — спытаў Пятро Чых.

Мы любілі малатабойца за казкі, якія ён часта расказваў нам.

Памятаю, позняй восенню, калі сыпалі халодныя дажджы і дзьмулі няўтульныя пранізлівыя вятры, і ўзімку, асабліва ў завірушлівыя дні, мы, падшыванцы, збіраліся ля калгасных сціртаў саломы. Іх багата стаяла ля фермы — усю зіму малацілі жыта і пшаніцу. Улетку збажыну паспявалі толькі зжаць сярпамі і звезці ў сцірты. Салома ў сціртах была свежаю, незляжалаю. У ёй лёгка было вырыць глыбокую нару. У той нары нават у самы халодны дзень было зацішна, цёпла, пахла нагрэтым полем. Усярэдзіне было цёмна, і толькі вузкай шчылінай свяціўся ўваход. І там, у цяпле і зацішку, мы заседжваліся да позняга вечара, расказваючы былі і небыліцы. А Блінец, дык той любіў часам і паспаць там. Неяк мы гулялі ў сціртах у хованкі, Блінец залез у нару і заснуў. Праспаў да раніцы.

Дык вось у наша логава часта заглядваў Пятро Чых і расказваў нам казкі. А ведаў ён іх безліч, бо яшчэ да

вайны, калі былі кніжкі ўсялякія, паспеў багата начытацца. Многія гісторыі, вядома, пераблыталіся ў яго памяці. Ён мог пачаць расказваць пра будзёнаўцаў, пра змаганне з белякамі і неўзаметку перайсці да такой неверагоднай і страшнай гісторыі, што мы ледзь дыхалі і сядзелі так ціха, што чулася, як недзе ў глыбіні сцірты шкрабалася мыш. І ў той жа час так соладка было ад таго казання, што хацелася, каб яно ніколі не канчалася. Але Пятро Чых звычайна абрываў расказ на самым цікавым месцы:

— Не ведаю, што далей. Прыдумаю, заўтра дакажу,— і вылазіў з нашага сховішча, абцярушваў салому з кароткага зялёнага паліто, пашытага з нямецкага шыняля, і штаноў, якія напускаў нізка над ботамі, набакірваў на чубатай галаве пляскатую, як праснак, кубанку.— Ну што, маляўкі? Вам пара ісці клапоў давіць, а мне яшчэ трэба павячэрацца ды ісці дзевак ціскаць, каб мякчэйшыя раслі,— і ён, засмяяўшыся нечаму свайму, знікаў у шэрані зімовага вечара. Мы адразу ж за ім вылазілі з нары і кучкай, штурхаючы адзін аднаго, бо ўсе не памяшчаліся на вузкай сцежцы, спяшаліся хутчэй у вёску: жудасна было ў зімовым полі пасля тых казак.

І хаця мы любілі Пятра Чыха, але і яму не прызналіся, куды ідзём.

— Па арэхі,— знайшоўся Шпрыц.

— Якія цяпер арэхі? — здзівіўся Мосей Куцця.— Зялёныя ж.

— Нашы паспелі,— засмяяўся Шпрыц.

Мы не адразу дасталі гранаты, бо ад кузні добра праглядвалася былое дворышча. Трохі пагулялі па калгаснаму саду, ушчэнт з'едзенаму зайцамі ў вайну — ад яго цяпер засталіся там-сям пянёчкі ды кашлатыя кусцікі, што разраслiся ля іх. На канаве вакол саду там-сям захаваліся ліпы, якія цяпер выраслі і раскучаравіліся на волі так, што пад імі можна было схавацца ад любога ліўня.

Убачыўшы, што на жароне ля кузні няма ні малатабойца, ні брыгадзіра — яны ці дамоў пайшлі, ці зайшлі ў кузню,— мы адкапалі гранаты, пералічылі. Усе былі на месцы.

Спачатку вырашылі пакідаць лімонкі ў калодзеж. Ведалі, што іх выбуху не будзе чутно ў вёсцы. А потым бабахнем супрацьтанкавую і разбяжымся. Хай думаюць, што і дзе так грымнула. Пакуль дадумаюцца, наш і след прастыне.

Лімонкі кідаць было проста. Возьмеш яе ў руку, вы-

цягнеш кальцо з капсуля, расціснеш пальцы, крыху адхілішся. Спачатку чуецца, як граната булькне ў ваду, а потым глуха трэсне ў глыбіні. Іншы раз свістане ўверх асколак. Але асколкі не кожны раз выляталі. Гэтая справа ўсім нам уяўлялася настолькі простай і бяскрыўднай, што мы далі кінуць адну лімонку нават Міхасю. Пасля таго як ён кінуў гранату ў калодзеж і сам нахіліўся над зрубам, каб паглядзець, як яна ляціць, Шпрыц так шмаргануў брата за шлейкі штонікаў, што той аж шлёпнуўся на зямлю, але не расплакаўся. Толькі рукою пачухаў за спіною.

Мы ведалі, што ад супрацьтанкавай гранаты асколкі не ляцяць. Якія там могуць быць асколкі ад тонкае бляхі! Яе вырашылі кінуць у былую сіласную яму. Яна была глыбокая з пакатымі краямі — аб'ехалі ад часу. З аднаго боку ямы быў бугор з тае зямлі, якой звычайна засыпалі сілас. За гэтым бугром можна было надзейна схавацца ад выбуховай хвалі.

Шпрыц сказаў, што гэтую гранату будзе кідаць ён, бо яна даволі цяжкая і ні ў кога з нас не хопіць сілы кінуць яе далёка. Ніхто з ім не стаў спрачацца, бо ён быў сярод нас самы мацнейшы.

Нас Шпрыц прымусіў залегчы метраў за трыццаць ад ямы, а сам падышоў да яе, укруціў у гранату ручку з капсулем, нешта там яшчэ зрабіў — мы не бачылі на адлегласці што,— размахнуўся, шпурнуў яе ўніз і кінуўся апрометцю назад. Да нас крыху не дабег, упаў, схаваўшы галаву за нейкі невялікі ўзгорачак. Мы ляжалі стаіўшы дыханне, чакалі выбуху. Не хапала цярпення. Я ляжаў і лічыў, бо ведаў, праз колькі секунд павінна ўзарвацца граната. Далічыў да трыццаці, але было ціха. Раптам Шпрыц падхапіўся і кінуўся да ямы. Мы пабеглі ўслед. Я бег першым. Я паспеў убачыць, як Шпрыц узяў гранату, падняў яе, і ў гэты момант перад маімі вачыма бліснула нешта чырвонае і агромністае, а мяне так штурханула ў грудзі, што я грымнуўся на спіну. Пачуўся пах смуроднага дыму. Я падумаў, што мяне забіла. Падняў галаву, агледзеўся. Усё было пры мне, цэлае і некранутае.

Паўз мяне беглі хлопцы да ямы. Падхапіўся і я, скокнуў услед за імі.

На дне ямы ляжала тое, што засталося ад Шпрыца.

Ногі былі цэлыя, галавы і часткі грудзей не было. У тым жа, што засталося, нешта сутаргава варушылася, пускаючы ружовыя пузыры.

А вакол на зялёнай траве бялелі падпаленыя кавалачкі яго белай сацінавай кашулі, якія нечым нагадвалі пашкуматаныя белыя гарлачыкі.

Мы стаялі ў нейкім здранцвенні, усё яшчэ не маглі паверыць у тое, што адбылося.

І раптам адчайна заплакаў Міхась:

— Яго ж цяпер мамка заб'е!

А потым пачуліся крыкі з вёскі. У завулку паказаліся людзі. Яны беглі наўспрамкі да нас. Выскачыў з кузні і Пятро Чых. За ім кульгаў Мосей Куцця.

— Ну што, паспелі арэхі? — сказаў нам, прыціхлым і разгубленым, Пятро Чых.

Як толькі пачалі збірацца людзі, мы непрыкметна паразбягаліся...

Калі мая маці даведалася, што здарылася на былым калгасным дворышчы, яна схапіла трапкач і лупцавала мяне ім так, што аж адляталі доўгія махры ад яго.

Шпрыца хавалі на другі дзень. Труна была зачынена вечкам, і не было відаць, што там пад ім.

Канцавой Ганны на пахаванні не было. Казалі, што яна пачула пра гібель сына яшчэ на станцыі, вяртаючыся з базару. Спачатку не паверыла. Але вельмі ўстрывожылася і ўсю дарогу да самага дому бегла з цяжкою кашолкаю ў руках. А прыбегла, убачыла, так і страціла прытомнасць. Казалі, што з сэрцам стала блага, таму што багата прабегла без прывычкі. На «хуткай дапамозе» яе завезлі ў раённую бальніцу.

Пасля пахавання, калі мае бацькі прыйшлі дамоў, маці зноў кінулася да мяне з трапкачом. Ды бацька не даў ёй мяне біць, сказаў, што я і так сам не свой.

Але ў той дзень я яшчэ быў якраз нават вельмі «свой». Было шкада сябра, балела спіна і ніжэй спіны, а вось таго, з-за чаго бацька сказаў, што я сам не свой, я не адчуваў. Відаць, у той час я яшчэ як след і не ўсвядоміў таго, што адбылося.

А пад вечар, калі мы сабраліся ля нашага гародчыка на лавачцы, мы вырашылі пра гібель нашага сябра напісаць на глухой сцяне нашай школы. І праз некалькі дзён напісалі там чорнай каланіцай, што такога-та дня і месяца трагічна загінуў Сашка Канцавы (Шпрыц) і ніжэй дабавілі: «Смерць фашызму!»

Той надпіс захоўваўся вельмі доўга. Я прыязджаў у сваю вёску, ужо закончыўшы універсітэт, а яго яшчэ можна было прачытаць.

У той вечар, калі мы, сумныя, сядзелі на лавачцы, да нас падышоў Пятро Чых. Пастаяў. Памаўчаўшы, сказаў:

— Значыцца, схадзілі па арэхі... А ўсё ад таго, што берыцеся за тое, чаго не ведаеце. Зброю, браточкі мае, трэба ведаць. Вось што, воіны. Сёння позна, а заўтра ў канцы дня я вас чакаю ў кузні. Толькі пра гэта нікому ні слова, акрамя сваіх таварышаў. Заняткі будуць сакрэтныя.

Я вельмі хацеў, вядома, разам з усімі пайсці на тыя заняткі, але мне гэта не ўдалося.

Ноччу мне раптам стала вельмі дрэнна. Я спрасонку кідаўся па хаце, ад некага ўцякаў. Страх не праходзіў, нават калі запалілі лямпу... Але я крыху паспакайнеў, хаця ўжо да самай раніцы так і не змог заснуць. Удзень у мяне вельмі балела галава, паднялася тэмпература. Баба мая Варвара Мацвееўна сказала, што я проста пераляк аўся, што мяне трэба звадзіць да шаптухі. Вадзілі. І не адзін раз. І да розных шаптух. Але не памагала. Павялі ў бальніцу. Там нічога не знаходзілі, але лекаў розных панавыпісвалі. Не памаглі і лекі. Удзень я сабе адчуваў нядрэнна, а ўвечары зноў рабілася страшна. У прыцемках баяўся адзін выйсці ў двор, застацца ў хаце. Нават цені на сценах ад лямпы мне ўяўляліся нейкімі прывідамі, і я не ведаў, куды дзяваць вочы, каб не глядзець на іх. Урачы параілі змяніць мне ўмовы жыцця. Мяне адвезлі да далёкіх родзічаў пад Рэчыцу. Там я і жыў да самага верасня. Вярнуўся дамоў, калі трэба было ісці ў школу. У чужой вёсцы, дзе нішто не нагадвала пра Шпрыца, мне сапраўды палепшала.

Вярнуўшыся, я даведаўся ад сяброў, што Пятро Чых сапраўды збіраў усіх падлеткаў з вёскі і вывучаў з імі зброю. Нават гулялі на лузе за кузняй у вайну. На тыя гульні прыходзілі з той зброяй, якая ў каго была. Праўда, не стралялі. Пасля «вайны» зброю складвалі ў скрынку з-пад вугалю ў кузні, накрывалі яе старой рагожай, у якую быў загорнуты кулямёт — яго таксама прынеслі з лесу.

Праз які час, сабраўшы ўсіх падлеткаў, Пятро Чых аб'явіў, што яны паспяхова прайшлі вучобу, што цяпер трэба ўжо рыхтавацца ў школу, трэба думаць пра падручнікі, а каб зброя не замінала, яе неабходна адвезці і здаць у міліцыю.

У той жа дзень Мосей Куцця падагнаў калёсы, на іх пагрузілі зброю — поўныя драбіны з верхам. Конь вёз і ўпінаўся...

Пасля таго Пятро Чых болей не збіраў хлопцаў на сакрэтныя заняткі. Ці таму, што ён і збіраў усіх толькі для таго, каб выведаць пра нашы арсеналы, ці таму, што ў той час якраз вярнулася з Іванаўскай вобласці мая цётка Ніна, якая там так і не змагла прыжыцца, і ён цяпер усе вечары праводзіў з ёю. Хадзілі чуткі, што яны збіраліся пажаніцца. Але зрабіць гэта ў тое лета яны не паспелі, бо ўвосень Пятра Чыха забралі ў армію.

Але мы ніколькі не крыўдавалі на яго за зброю, бо зусім іншыя імкненні захапілі і нас. Вечарамі мы пачалі хадзіць на танцы, той-сёй з нас ужо вёў перагаворы з бацькамі, каб купіць гармонік ці якую балалайку.

Падрасталі мы, падрасталі нашы нявесты. Новае, раданае, трывожнае запаўняла нас, пазбаўляла часам сну, але то была бяссонніца нашага юначага пасталення.

Дзіцячыя гульні забываліся...

## САМАДЗЕЙНАСЦЬ

Ігнат стаяў у санях на каленях, апусціўшы лейцы. Каня не падганяў. Ён і так бег трушком — адчуваў, што вяртаецца на канюшню, у сваё стойла, дзе за драбінамі яго чакае ахапак сена, а ў жолабе — жменя сыпкага аўса. Конь час ад часу ўзнімаў галаву, уцягваў гарачымі ноздрамі марознае паветра, нібы ўжо чуў тое духмянае сена, гаркаваты пах зерня, і прыбаўляў бегу.

Пры паваротах сані закідвала ўбок, і Ігнат, каб раптам не валіцца, прысядаў, потым зноў станавіўся на калені: за дзень так насядзеўся, што аж млела ў крыжы.

Калі паказаўся калгасны двор, дзе былі кароўнікі, цялятнік і канюшня, Ігнат, нацягнуўшы лейцы, тпрукнуў, прыцішыў каня — хай крыху ахалодзіцца, каб потым, распрогшы, можна было адразу напаіць яго, не чакаць.

Перад варотамі Ігнат спыніў каня, злез, абцерушыў са штаноў і валёнак наліплае сена, адсунуў жэрдку, што вісела ў металічных скобах, прыбітых да тонкіх шул, узяў каня за аброць, падвёў сані да іншых, што стаялі ў роўны рад, пачаў распрагаць. З адчыненых варот канюшні выйшаў Мосей Куцця, пабліскваючы ў паўзмроку самакруткай. З-за свайго паблажэлага здароўя ён яшчэ мінулым летам адмовіўся ад брыгадзірства і цяпер быў і конюхам, і рымарам, і дзённым вартаўніком на ферме адначасова. Ён павесіў на руку хамут, сядзёлку, дугу, перакінуў цераз

плячо лейцы, панёс збрую ў рымарню — невялікую прыбудову да канюшні. Прыладзіўшы там яе на месца, замкнуў дзверы і зноў выйшаў насустрач Ігнату, які паспеў ужо напаіць каня і адвесці ў канюшню.

— Ну што там было? — Мосей Куцця ведаў, што старшыню выклікалі ў сельсавет на сесію.— Доўга нешта вас там трымалі.

— А што там можа быць? — адказаў Ігнат.— Там не пахваляць... Казалі, арганікі мала вывезлі. Коней прытамілі, яе вазіўшы, а ім усё мала. А план жа давялі ого які! А ці багата на конях вывезеш? — Ігнат акінуў позіркам кароўнікі, што былі праз шырокі двор насупроць канюшні, дзе зрэдку ў вокнах мільгалі водбліскі ліхтароў — заканчвалі даіць кароў, а можа, і падаілі ўжо, а цяпер разносяць сілас.— Канешне, Лубяку добра. Яму падкінулі трактар з прычэпам. Калі б мне трактар, я таксама вывез бы. Можа б, яшчэ болей за таго Лубяку. Гною ў нас няма, ці што?

— Ведаю, Лубяка ўмее падлізацца,— асуджальна сказаў Мосей Куцця.— Праўда, у яго і калгас не раўня нашаму. Удвая, можа, больш.

— Яно-то так, але... Каб жа яны панімалі, што ў нас толькі коні. А то ж панімаць не хочуць. Давай і давай. Канешне, камандаваць...

— Імі таксама камандуюць,— памяркоўна сказаў рымар.— Вось і яны камандуюць. Камандзіраў у нас багата. А нам з табой няма кім камандаваць, трэба рабіць. Так што прывыкай... Я ніколі з імі не спрачаўся. Калі старшынёй быў ды і брыгадзірам... Паслухаю, дзякуй, маўляў, за навуку, а сам раблю, як лепей. Каб для дзела была карысць. І ты не бяры вельмі да сэрца. Нам з табой здароўя багата трэба. За нас яны нашу работу не зробяць.

— Яно-то так, але не люблю, калі гавораць абы гаварыць. Тут коні і так ледзьве ногі цягаюць,— памаўчаўшы, Ігнат загадаў: — Заўтра коней па дровы не даваць. Усім вазіць гной,— і, падаўшы старому руку, пайшоў з двара.

— Слухай, Тарасавіч! — аклікнуў яго Мосей Куцця.— Прыходзіла фельчарка, ёй трэба сына ў бальніцу.

— А што з ім? — спыніўся Ігнат.

— Ды з таго часу як пад лёд праваліўся, ніяк не ачухаецца. Казала Ганна, што ў касцях яго нейкае абвастрэнне. Плакала тут. Не пашэнціла бабе. Мужык загінуў, старэйшы сын падарваўся, і гэты цяпер...

— Запражэш ёй лепшага каня,— дазволіў старшыня.

Напамінак пра чужую бяду нейк прыглушыў раздражненасць, Ігнат глянуў на гадзіннік, які дастаў з маленькай кішэні ў штанах, падняўшы палу кажушка, хуткаю хадою скіраваў з двара, мінуў вароты, забыўшы і жэрдку пакласці на месца. Ішоў ледзь не подбегам, коўзаючыся па шырокай, адшліфаванай санямі да шкляной роўнядзі каляіне.

І толькі ўжо ўваходзячы ў завулак, успомніў, што забыўся на жонку, не зайшоў. Кожны вечар, калі Ігнат яшчэ быў падвозчыкам кармоў на ферму, а потым загадчыкам фермы, і цяпер, калі стаў старшынёй, яны з жонкаю заўсёды вярталіся дамоў разам.

Ён спыніўся, азірнуўся.

Забудовы фермы прыземіста цямнелі сярод заснежанага поля пад глыбокім сінім небам з рэдкімі нізкімі зоркамі. Крыху пазней, калі на небе вылузнецца месяц і пад яго разбаўленым святлом засвецяцца навокал снягі, зоркі падымуцца вышэй і здрабнеюць.

Ігнат стаяў на дарозе і вагаўся, вяртацца яму ці не. Ведаў, калі не вернецца, то Люба, якая і так бурчыць на яго за такое глупства, як захапленне драматычным гуртком, вельмі пакрыўдзіцца на яго. А ён больш за ўсё не любіў, калі жонка сварылася. Яна тады як розум траціла. Гаварыла такое, што сорамна было і слухаць. І ўсё ж яму не хацелася вяртацца. І не толькі таму, што мог спозніцца на рэпетыцыю. Адчуваў: не хацелася сёння ісці з жонкаю, чуць, як яна шлыкае цяжкімі гумавымі ботамі, слухаць яе бясконцыя скаргі на кароў, якія настолькі аслабелі, што і даіцца не хочуць, што ён ёй не памагае, як другія мужыкі, што прыходзяць на ферму — вады наносяць, кармы разнясуць, а яна, як удава якая... А яшчэ зусім нядаўна ён з радасцю слухаў яе, супакойваў, даказваючы, што і сам цяпер заняты вельмі. І яна верыла яму. А дома ўсяляк стараўся ўлагодзіць яе. Вады прынясе, дроў накідае ў печ, у пограб злазіць па капусту і агуркі. І дзень у іх канчаўся мірна і лагодна. Было ўражанне, што жывуць душа ў душу. Ды яно, відаць, так і было. Ва ўсялякім выпадку, Ігнат на сваё жыццё з Любаю не скардзіўся, хоць, калі жаніўся з ёю, таго пачуцця роднасці, якое ўзнікла паміж імі крыху пазней, і ў паміне не было...

Пасля таго як Капцова Люся з'ехала з яго сястрою Нінай працаваць на фабрыку ў Іванаўскую вобласць, Ігнат доўга чакаў яе, спадзяваўся, што вернецца, даруе яму тое дурацкае сватаўства. Нават некалькі пісьмаў паслаў. Ад-

казу не дачакаўся. Калі ж прыехала Ніна, даведаўся, што Люся Капцова і не думае вяртацца, што ў яе там хутка будзе вяселле.

Доўга яшчэ ўспамінаўся яму воблік гордай і прыгожай Люсі Капцовай, і доўга ў яго душы жыла віна перад дзяўчынай...

І Ігнат пачаў больш пільна прыглядацца да Любы. Яна была адна ў бацькоў. Жылі яны ў нядрэннай хаце, так што не трэба думаць пра будаўніцтва, а галоўнае, дзяўчына была прыгляднай. Высокая, ростам амаль з самога Ігната. Стройныя ногі, шырокія плечы, тоўстая русая каса. Твар, праўда, для такой постаці быў крыху драбнаваты, з кірпатым маленькім носікам і маленькімі бясколернымі, але заўсёды вясёлымі вочкамі. Але затое ў яе былі такія роўныя і белыя зубы, што вачэй не адарваць ад дзяўчыны, калі смяялася. І была яна яшчэ надзвычай дужаю. Неяк на вячорках Ігнат хацеў быў яе пацiскаць, схапіўся за плечы і адразу ж адпусціў: цела было як жалезнае. Ён зразумеў, што дзяўчына проста пашкадавала яго, бо каб адштурхнула, то ляцеў бы ён ад яе, спатыкаючыся.

Танцавала ж яна надзвычай лёгка. Лётала, як пушынка, толькі калі прытопвала, дык здавалася, што зямля пачынала гудзець.

І хаця Люба не хвалявала яго так, як некалі хвалявала Капцова Люся, ён усё болей і болей думаў пра яе, усё часцей праводзіў яе дамоў пасля танцаў. Звычайна па дарозе гаварылі мала, бо ім фактычна і не было пра што гаварыць, ля двара не застойваліся, хутка развітваліся. Але аднойчы, калі Люба, развітаўшыся, хацела ўжо шмыгнуць у адчыненыя веснічкі, ён спыніў яе:

— Ды пачакай,— і ўзяў за руку.

— А каго чакаць? — засмяялася яна, і ўсмешка яе аж заззяла ў змроку летняй ночы.— Я ўжо наслухалася, як ты маўчыш.

Ігнат падвёў яе бліжэй да вярбы, якая расла раскідзіста пад акном і пад якой было зусім цёмна.

— Я, можа, пасватацца хачу.

— Да адной пасватаўся ўжо, дык і цяпер яшчэ ўсе рагочуць.

— Сур'ёзна. Не верыш?

— Не веру.

— Заўтра ж у сельсавет пойдзем.

— Насмяшыў. Заўтра ж нядзеля. Замок цалаваць у тым сельсавеце.

— Скажу швагеру, адчыне.

— Які ты шустры,— яна зноў засмяялася, а потым, замаўчаўшы, уважліва паглядзела на Ігната, відаць, зразумела, што хлопец не жартуе, уздыхнула і імкліва абхапіла яго жалезнымі рукамі так, што ў таго і дыханне заняло. Моцна пацалавала, адштурхнула ад сябе і знікла ў двары.

— Куды ты? — кінуўся ўслед.

— Да заўтра!

— Калі тое яшчэ заўтра? — прасіў ён яе застацца.— Ідзі, пасядзім во...

— Я цябе даўжэй чакала,— і грукнула дзвярыма ў сенцах.

У сельсавет ім ехаць не давялося. Швагер Андрэй Кравец, як толькі даведаўся пра намеры Ігната, сам з'ездзіў на кані туды, прывёз пячатку і ўсе паперы, якія трэба ў такім выпадку...

...Ігнат павярнуўся, кінуўся да фермы, потым зноў спыніўся, рэзка махнуў рукою і хутка пакрочыў у вёску.

У хаце над сталом вісела лямпа і ледзьве блішчала. Цешча ўкруціла кнот, каб святло не раздражняла малога Тарасіка. Яго двухгадовы сын, названы Тарасам у гонар дзеда свайго Тараса Канстанцінавіча, ляжаў у калысцы-гушкалцы, падвешанай да столі ля іх ложка, і спаў. Старая драмала на печы.

— Даўно спіць малы? — спытаў ён ціхім голасам толькі для таго, каб пераканацца, ці спіць цешча.

— Ды ледзь угаманіўся,— падала тая голас.— Вы ўдваіх?

— Адзін,— буркнуў Ігнат.

Ён недалюбліваў цешчу за яе лішнюю цікавасць да іх жыцця з Любай. Вось нябожчык цесць, стары Хузей, яму падабаўся. Той маўчаў. Днямі ляжаў на палку, а то з раніцы да вечара праседжваў на прызбе і ўсё чытаў газеты. А калі і гаварыў, дык толькі пра міжнародную палітыку. Звычайна ён і расказваў усё Ігнату, што рабілася на свеце, расказваў лепей за любога лектара-міжнародніка. Шкада, што пажыў нядоўга. Хутка пасля вяселля і памёр. Ён і гаварыў усім: як дачку аддасць замуж, так і памрэ.

Ігнат распрануўся, раздзеўся па пояс, вымыўся, выцерся калянным ручніком. Грудзі, спіна, рукі аж гарэлі.

І ўвесь ён нейк пасвяжэў, памаладзеў. Пагаліўшыся, папырскаўся трайным адэкалонам, дастаў з шафы свой выхадны касцюм — шэры ў зялёную клетачку. Вельмі ж удалы касцюм. Як купіў, яшчэ ні разу не прасаваў, а стрэлачкі на калашынах як свежанькія. Роўныя і востранькія. Рубашкі ж усе былі пакамечаныя. Іх як перамыла Люба, пасушыла, так і кінула ў шафу, не знайшоўшы часу адпрасаваць. Ігнат не стаў распальваць прас. Узяў качалку, пакачаў каўнерык, манжэты, тыя і разраўняліся. Адзеўся. У люстэрка не стаў глядзецца, хаця і карцела, ды бачыў, што цешча з печы не спускае з яго вачэй. І таму толькі мелькам, праходзячы паўз люстэрка, якое вісела на сцяне між двух акон у двор, акінуў сябе хуткім позіркам, застаўся задаволены сабой.

У гэты ж момант і мільганула за вокнамі жаночая постаць. На ганку моцна загрукала нагамі, аббіваючы снег, Люба.

— Вады прынёс? — спытала яна, не паспеўшы пераступіць парог.

— Вёдры поўненькія,— не стрываў, каб не ўсміхнуцца, Ігнат.— Хопіць напіцца і ўмыцца.

— Ці не ў школу прычупырыўся? — яна ўсё стаяла ў парозе, высокая, у мужчынскай доўгай целагрэйцы, у мужчынскіх літых гумавіках, у тоўстай вязанай хустцы, з якой толькі тырчалі яе кірпаты носік і пульхныя, расчырванелыя ад марозу і хуткае хады шчокі.

— Хіба не ведаеш? — напаўголаса спакойна адказаў Ігнат, здзіўлены, што яе раздражненасць зусім не кранае яго.— Ты цішэй гаварыла б, а то малога разбудзіш.

— Нешта ты часта пачаў бегаць туды,— яшчэ гучней сказала яна.

— Кожны дзень рэпетыцыі.

— Ды нешта раней так не прыхарошваўся, а то бач. Як жаніх. Рубашкі не намеешся мыць.

— Сам памыю...

— Бач, які смелы,— яна ледзь стрымлівалася, каб не перайсці на крык.— А хто карову падоіць? Хто мешанкі ёй дасць? Хто вячэру зварыць? Хто дроў унясе? — і яна, не пераадзеўшыся нават, схапіла даёнку і выйшла з хаты, грукнуўшы дзвярыма так, што аж посуд задзінькаў на паліцы.

І хаця можна было яшчэ трохі пабыць дома, часу якраз хапала, каб унесці і тыя дровы, але Ігнат, накінуўшы кажушок, выйшаў.

— Бач, і вячэры не дачакаўся.— Люба сярод двара даіла карову.

— Наеўся,— буркнуў Ігнат.

Да пачатку рэпетыцыі заставалася яшчэ болей дзесяці мінут. І хаця Ігнат ведаў, што яна ніколі не пачыналася ў час, бо ўсе не паспявалі сабрацца, ён спяшаўся. Адразу ў школу не пайшоў, стоячы на ганку, зазірнуў праз акно ў клас. Пасярод пакоя вісела лямпа, другая стаяла на стале. За сталом сядзела Раіса Пятроўна, нахіліўшы галаву, нешта чытала. Ведаючы, што яго нельга ўбачыць з асветленага класа, ён смела разглядаў яе праз акно.

Працаваць у іхнюю школу Раіса Пятроўна прыехала мінулай восенню. Па вёсцы пайшла гаворка, што настаўніца зусім маладзенькая і вельмі прыгожая. Ігнат, праўда, не вельмі прыслухоўваўся да гэтых гаворак. Яму было ўсё роўна, якая тая настаўніца. Нават сустрэўшы яе на вуліцы, не вельмі прыглядаўся, павітаецца і пойдзе не азіраючыся. А аднойчы, ужо на пачатку зімы, неяк ішоў ён па вуліцы, і калі параўняўся з хатаю фельчаркі Ганны Канцавой, у якой кватаравала Раіса Пятроўна, раптам на ганак выскачыла настаўніца ў зялёнай сукенцы, бліскучых туфельках, з распушчанымі белымі валасамі, накінуўшы на плечы паліто з каўняром з чорна-бурага ліса, і паклікала яго тоненькім вясёлым галаскам. Ён аж разгубіўся ад нечаканасці: перад ім стаяла дзяўчына, такая непрывычная ў іхняй вёсцы, дагледжаная, прыгожая, як які напамінак пра іншае, шчаслівае і прыгожае, жыццё, якое яшчэ і не снілася пасляваеннай вёсцы. А можа, такое ўражанне было ў Ігната таму, што ён якраз вяртаўся з фермы, дзе нагледзеўся худых кароў, стомленых даярак, якія хадзілі ледзь не па калені ў брудзе, цягаючы на падсціл салому?..

— Зайдзіце, калі ласка, Ігнат Тарасавіч, пагаварыць трэба,— яна прыязна ўсміхалася яму, тулячыся ў паліто ад марознага ветрыку.

Настаўніца завяла Ігната ў цесную баковачку, усадзіла за маленькі столік, прыбрала з яго кнігі, паставіла перад ім шклянку чаю, сподачак з пячэннем. Ён сядзеў, саромеючыся сваёй шэрай, з працёртымі рукавамі на локцях рубашкі, сваіх стаптаных валёнак, на якіх слязьмі вісеў растаны снег, баяўся лішне паварушыць нагамі, каб тая вада не скапілася на каляровы невялічкі дыванчык, якім была заслана падлога.

— Ну як вам тут жывецца, Раіса Пятроўна? — спы-

таў, каб неяк схаваць за гэтым клопатам сваю няўклюднасць.

— Частуйцеся, калі ласка,— яна села за другі край стала, збоку, ледзь не насупраць яго, адарыла яго ўсмешкай.— Што ж вы седзіце так, Ігнат Тарасавіч? Спрабуйце чай,— і потым, калі ён пачаў разам з паветрам сёрбаць са шклянкі агністае піцво, яна працягвала: — Жывецца мне добра. Гаспадыня харошая. Мы ладзім з ёй. Не павязло ёй толькі ў жыцці...

— Ведаю, ведаю, Раіса Пятроўна,— адарваўся ён ад шклянкі.— Вайна, Раіса Пятроўна.

— Ды нарабіла ж,— яна задумалася, але ненадоўга.— Памажыце нам, Ігнат Тарасавіч. Задумалі мы да выбараў падрыхтаваць канцэрт. Танцы і песні развучу са школьнікамі. А вось спектакль з імі не паставіш. Мне Ганна Іванаўна і параіла звярнуцца да вас. Вы ведаеце людзей, можа, каго параіце.

— Добрае дзела вы задумалі,— пахваліў ён яе.

— Дык паможаце? Мне трэба...— і яна расказала, якія выканаўцы ёй трэба.— Вы падумаеце, каго можна запрасіць? Добра? І скажыце ім. Яны вас паслухаюць... А можа, і вы прыйшлі б?.. Начальства прыйдзе, тады ўсе прыйдуць. А калі ўсё наладзіцца, вам можна і не хадзіць. Ганна Іванаўна гаварыла, што з вамі тут лічацца, паважаюць... Дык як, Тарасавіч, знойдзеце мне артыстаў?

— Раней жыў у нас такі Мікола Дрозд. Во то быў артыст. Ды з'ехаў... Але падумаем...

— Вы хоць прыйдзіце на першую рэпетыцыю...

— Пастараюся.

І які ж ён быў дурань, што пагадзіўся прыйсці на тую першую рэпетыцыю. Трэба было паслаць людзей, а самому не ісці. Ніхто б не асудзіў: клопатаў у старшыні і так багата, не да самадзейнасці яму. Ды хіба ён падазраваў тады, што настаўніца прапануе яму галоўную ролю ў тым спектаклі? «Яна вам так падыходзіць, так падыходзіць, нібы спецыяльна для вас напісана»,— угаворвала яна яго. І ўгаварыла. Ва ўсялякім выпадку, у яго не хапіла духу ўры ўсіх адмовіцца...

І вось ён цяпер стаіць на ганку і ўпотайкі, як злодзей, праз акно разглядае Раісу Пятроўну, ён, старшыня калгаса... А можа, ён дарэмна тоіцца? Можа, Раіса Пятроўна пра ўсё здагадалася — кажуць, у жанчын на гэта вельмі вострыя вочы. Можа, яна і сама не супраць з ім зблізіцца? Можа, і гэты канцэрт прыдумала з-за яго? Неяк

ён не прыйшоў на рэпетыцыю — ездзіў у раён на нараду,— дык не стала і рэпеціраваць... Усё можа быць. Жыве адна, нікога з хлопцаў у яе няма. Сумуе, вядома. З вяскоўцам, канешне, яна не хоча звязваць сваё жыццё, а вось так, каб весялей час прайшоў, можна і пазабаўляцца з кім-небудзь, напрыклад, з ім. А тое, што ён жанаты, яшчэ і лепей. Жанаты чалавек не стане званіць пра іх сувязь.

Ігнат успамінае ўсе свае гаворкі з настаўніцай, усе яе ўчынкі, стараючыся адшукаць у яе паводзінах што-небудзь такое, што пацвердзіла б яго здагадкі...

— Што не заходзіш? — пачулася побач.

Ігнат і не заўважыў, як падышоў Павел Пыжык. Старшыня ўгаварыў і яго хадзіць у драматычны гурток. Ціхмяны, нават крыху сарамлівы ў жыцці, а амерыканца іграў так, што ўсе аж заходзіліся ад смеху на рэпетыцыі. «Прыроджаны артыст»,— аж пляскала ў далоні Раіса Пятроўна.

— Чакаю,— адказаў Ігнат.— Аднаму заходзіць не хочацца.

— Дык пайшлі,— і Павел Чыжык адчыніў дзверы.

Рэпетыцыя ў гэты вечар не клеілася. І ўсё з-за яго, Ігната. Ён быў няўважлівы, не сачыў за рэплікамі партнёра, забываў і блытаў словы. Таму часта спыняліся, пачыналі спачатку.

Урэшце Раіса Пятроўна не вытрывала:

— Ну, дарагі мой, вас сёння як хто падмяніў,— настаўніца здзіўлена ўставілася на старшыню сінімі вачыма.— Што з вамі? Так добра пачыналі... А цяпер з кожнай рэпетыцыяй горш і горш. Словы пачалі забываць. Вы ж іх даўно ведалі... У вас галава не баліць, Ігнат Тарасавіч? — але, убачыўшы, як апусціў галаву Ігнат і, здалося, пачырванеў, спахапілася, сказала больш памяркоўна: — Нічога страшнага. Вам трэба больш уважліва слухаць суседа, абдумваць яго словы, а потым адказваць. А то кідаецеся тэкстам, як каменьчыкамі. Усё зразумела?.. Увага, сябры, і яшчэ раз увага адзін да аднаго! Мяне няма, няма школы, няма нікога, ёсць толькі тыя абставіны, у якіх дзейнічаюць вашы героі. Уявілі? Засяродзіліся?.. Пачалі! Ігнат Тарасавіч, ваша рэпліка.

Цяпер пайшло яшчэ горш. Ігнат ніяк не мог прымусіць сябе думаць пра свайго героя, а думаў пра тое, якая ўсё ж сляпая гэтая Раіса Пятроўна, што нічога не бачыць. А можа, ёй чыхаць хацелася на яго пакуты? Ёй давай рэплі-

ку, і ўсё! Больш таго, яшчэ пры ўсіх пачынае вучыць, сарамаціць, як школьніка якога. Не, сёння ён тут апошні раз. І тады, сінявокая Раіса Пятроўна, вучы каго хочаш, толькі не яго. Хопіць, наеўся.

— Ой, зусім не тое, зусім не тое,— абхапіла ў адчаі галаву Раіса Пятроўна, а потым ціха сказала: — Дарагі мой Ігнат Тарасавіч! Ды зразумейце вы, на вас трымаецца спектакль. А вы... Так добра пачыналі... Вы, відаць, не бачыце свайго героя, не ўяўляеце, што ён за чалавек, што ён думае, чаго хоча ад жыцця, якая ў яго мэта, каго ён любіць, каго ненавідзіць. А гаворыце абы гаварыць... Вы мне прабачце, але я не магу не сказаць вам праўду. Так рэпеціраваць нельга,— яна зноў задумалася, а потым з нечаканай рашучасцю паднялася: — Вось што... Я ўпэўнена, Ігнат Тарасавіч, што вы справіцеся з роляй... Усе можаце ісці, а вы, калі ласка, падсаджвайцеся бліжэй, паспрабуем разабрацца, хто ж такі ваш герой.

«Вось яно што,— апаліла нечаканая здагадка Ігната.— Яна знарок на мяне наляцела, каб потым пакінуць аднаго. Ну і малайчына!..»

І ад нядаўняй прыгнечанасці яго не засталося і следу. Ён ужо не шкадаваў, што пагадзіўся хадзіць на рэпетыцыі, аддана і шчыра глядзеў на Раісу Пятроўну, уважліва слухаў яе, у згодзе ківаючы галавой, калі яна пыталася, ці ўсё ён зразумеў, нават прачытаў некалькі старонак п'есы так, што выклікаў захапленне ў настаўніцы сваім дакладным разуменнем тэксту.

— Цудоўна! Проста цудоўна! Вы, відаць, стаміліся сёння...

— На сесіі дзень сядзеў,— прызнаўся ён.— Крытыкавалі...

— Усё ясна, усё ясна,— спачувальна сказала Раіса Пятроўна.— Я вам параю вось што. Думайце пра свайго героя. Болей думайце. Ідзяце па ваду, думайце, сядзіце за сталом, таксама думайце, спрачаецеся са старшынёй сельсавета, таксама думайце. Старайцеся ўявіць, што б рабіў на вашым месцы ваш герой... І не заўважыце, як увойдзеце ў сваю ролю настолькі, што будзеце блытаць, дзе вы, а дзе ён. Затое на сцэне будзеце як жывы. Вам павераць. Дамовіліся? Ну і цудоўна! Пастарайцеся толькі да наступнай рэпетыцыі падвучыць словы, каб не ўспаміналі іх, а яны, як кажуць, ад языка адскоквалі...

— Будзе зроблена, Раіса Пятроўна,— і ў гэты момант ён верыў, што зробіць усё так, як і раіць настаўніца.

Яна паднялася, пачала апранацца.

— Нам, здаецца, з вамі ў адзін бок,— сказала Ігнату, які таксама апрануў свой кажушок і ўжо трымаўся за ручку ў дзвярах.

«Так дурню і трэба,— падумаў ён.— Дачакаўся, пакуль сама дзяўчына напрасілася».

— У адзін, у адзін, Раіса Пятроўна,— усхваляваны і прыкметна разгублены ад такой нечаканай радасці, Ігнат засмяяўся.

Яна апранула сваё паліто, нацягнула на рукі скураныя пальчаткі, якія, здавалася, ёй былі крыху цеснаватыя.

Са школы выйшлі разам. Ён пастаяў, пакуль яна замкнула дзверы, збегла па прыступках.

Засунуўшы рукі ў глыбокія і цёплыя кішэні, ён першым скіраваў на дарогу.

— Што гэта вы пакінулі мяне? — яна ўчапілася яму за рукаў.— Дарога такая слізкая...

Быў позні вечар. У рэдкіх хатах слепа бліпічалі вокны. Над вёскай падымаўся месяц, халодны і яркі, кідаючы праз вуліцу сінія, графічна акрэсленыя цені ад хат, карункавыя — ад дрэў. Снег, мурзаты ўдзень ад расцярушанага сена і разнесенага ветрам попелу, які людзі высыпалі на сярэдзіну вуліцы, цяпер бліпічаў першароднай свежасцю, нібы толькі што выпаў, на ўсё наваколле рыпеў пад нагамі. Здавалася, што гэтае рыпенне чуваць у кожнай хаце.

Ігнат напружана маўчаў, не заўважаючы, што ідзе даволі хутка, што настаўніца ледзьве паспявае за ім. Яна разоў колькі пасліznулася так, што не трымайся за Ігната, расцягнулася б на дарозе.

— Ой, зусім не паспяваю за вамі,— урэшце не вытрывала Раіса Пятроўна.

— Прывык да хуткае хады,— абрадаваўся Ігнат, што ёсць пра што пагаварыць.— За дзень багата дзе трэба пабыць. І на полі і на ферме... А ціха ўсюды не паспееш...

Ён зноў замоўк, потым, калі параўняліся з хатай Ганны Канцавой, спытаў:

— Вам падабаецца ў нас?

— Вельмі! — яна засмяялася так, што ясна стала: ніколькі ёй тут не падабаецца.— Не магу прывыкнуць да цішыні. Як на могілках. Дома ў нас пад вокнамі трамвай, жыцця не было. Але калі зусім ціха, таксама дрэнна. А наогул...— яна спынілася, каб развітацца.

— Што наогул?

— А прыйшлі ўжо...— яна задумалася.— А наогул, людзі тут добрыя. Жыць можна. Вось паставім спектакль. Калі атрымаецца, пападзём на рэспубліканскі агляд... Вось там паглядзім сапраўдны тэатр. Вы былі калі-небудзь у тэатры?

— Калі ж я мог быць?..

— Вось і старайцеся.

— Паспрабую,— адказаў Ігнат, а падумаў пра іншае: «Малайчына, наперад думае. Канешне, у Мінску нам некага будзе баяцца...»

— Ну, дзякую вам за праводзіны. Запрасіла б на чай, ды позна... Усяго вам добрага! — і яна пайшла да веснічак па вузкай і глыбокай сцежцы, пратаптанай наўспрамкі, адтапырыўшы крыху рукі, балансіруючы на тонкіх высокіх нагах.

Шырокім крокам, не пападаючы на сцежку, паспяшаўся за ёй і Ігнат.

Калі іх абаіх схаваў густы цень, што падаў ад высокіх варот і веснічак, Ігнат прыкметна пасмялеў.

— Не спяшайцеся вы, Раіса Пятроўна,— ён паклаў свае шырокія далоні на яе кволыя, вузкія, зусім дзіцячыя, плечы, шэптам спытаў: — Куды спяшаецеся?

— Трэба ж сшыткі праверыць, Ігнат Тарасавіч,— адказала настаўніца, а потым усміхнулася: — І выспацца...

— Паспееце. Ноч доўгая,— ён замаўчаў, пакутліва думаючы, пра што б пагаварыць яшчэ.

— Ой, ледзь не забылася,— яна ціха варухнула плячыма, нібы тыя самлелі пад яго цяжкімі рукамі.— Я даўно хацела сказаць вам. Я даўно думала. Разумееце, Ігнат Тарасавіч, мастацтва — такая рэч, якая патрабуе ад чалавека калі не таленту, дык хаця б пэўных здольнасцей. А калі іх няма, то нічога не зробіш. Калі ў чалавека, напрыклад, няма голасу, то, як ні трэніруйся, спеваком не станеш. Добра, што вы прыходзілі. З вамі і людзі пачалі хадзіць. Цяпер яны ўжо не кінуць гурток. Многім спадабалася. Той жа Пыжык. Ён цяпер толькі і жыве гуртком. А ў вас работа такая, што некалі думаць пра самадзейнасць... Я вам, праўда, не гаварыла, калі засталіся. Не хацела псаваць настрой... Вось так. Я вам удзячна, што вы памаглі. Мы вас запросім на спектакль, запросім разам з жонкаю... Ну, спакойнай ночы, Ігнат Тарасавіч!

Ён апамятаўся толькі тады, калі бразнула клямка ў сенцах. Пастаяў, нібы чакаючы яшчэ чаго ці проста баючыся выйсці з ценю на святло. А потым палапаў па кішэнях, закурыў і пасунуўся да свае хаты.

Ціха, каб не грукнуць, адчыніў дзверы. Гарэла лямпа, кідаючы навокал слабае святло. Спаў малы. Варушылася ў сне на печы цешча.

На стале ў місе даўно астыла развараная бульба, побач стаяў гладыш з малаком. На сподачку — селядзец, на другім — кавалак сала, у глыбокай місцы — кіслая капуста. Лыжкі чыстыя. Люба, відаць, не вячэрала — яна ніколі без яго не садзілася за стол. І цяпер чакала яго. Не дачакалася. Прылегла на палок і заснула.

Ігнат напіўся халоднага малака — аж пацяжэла ўсярэдзіне,— накрыў радном жонку, патушыў лямпу, раздзеўся, лёг на ложку.

Доўга не мог заснуць... Відаць, перашкаджала месячнае святло, што біла ў вокны...

## УЗБУЙНЕННЕ

— Ці не ранак ужо? — спытала Марфа, адчыніўшы мужу.

— Які ранак? Самая ноч...— раздражнена буркнуў Андрэй, відаць, незадаволены тым, што жонка ўпікнула яго за такое позняе вяртанне.

Марфа, прапусціўшы мужа, выйшла на ганак, глянула на неба, якое яшчэ па-начному было цёмна-сіняе, хаця зорак на ім было ўжо мала. Гарэлі толькі самыя буйныя.

Сцепануўшыся ад начной зябкасці, паспяшалася ў сенцы, зачыніла дзверы на засаўку і хуценька патупала да ложка.

— Ну што там было? — спытала, ужо залезшы пад коўдру.

Андрэй, седзячы на ложку, яшчэ доўга крактаў — ён заўсёды цяжка разуваў свае хромавікі, аж засопся, пакуль разуўся,— не паспеў дакрануцца галавой да падушкі, адразу ж пачаў ціха храпці. Марфа не паверыла вушам сваім. Аклікнула яшчэ мужа, ён і сапраўды спаў. Тады яна павярнулася да яго спіною, глыбей схавалася пад коўдру. Падалося ж, не спала, толькі на імгненне звяла вейкі, а калі расплюшчыла вочы, то хату ўжо залівала ранішняе

святло, а пад акном на чаромсе вераб'і ўчынілі бойку і, відаць, разбудзілі яе сваім неўтаймаваным піскам.

Марфа накінула на плечы целагрэйку, утыркнула ў тапачкі ногі, схапіла даёнку і выскачыла ў двор, дзе ўжо за зачыненымі варотамі ў хляве нецярпліва мыкала яе Лыска. Падаіўшы, паставіла на ганку малако, выпусціла карову на вуліцу, і якраз у час, сама гналі чараду. Вярнулася ў хату, запаліла ў печы, а потым толькі пайшла, адзелася. Працадзіўшы малако, стала рыхтаваць снядапак. Дровы добра разгараліся ў печы, кідаючы на хату яркія водбліскі. Паставіўшы гаршкі і чыгункі да агню, схадзіла на агарод, наламала бацвіння, пасекла, намяшала з мукой, вынесла свінням. Потым падмяла ў хаце, завязала ў хустачку лусту хлеба, кавалачак сала, дзве бутэлькі — адну з вадой, другую з малаком,— пару агурочкаў, зялёных і духмяных, калючых на дотык, агурочкі былі маладзенькія, толькі з градкі, паклала вузельчык на табурэтку, стоячы, ледзь не на хаду, паснедала. Успомніла, што не пераабулася, прысела на палок ля печы, дастала з пячуркі сухія і мяккія анучы, наматала іх на ногі, абула старыя, растаптаныя мужчынскія чаравікі без шнуркоў, каб было лёгка і вольна нагам і каб яны не калоліся аб сцёран.

Са светлай палавіны хаты выйшаў Андрэй, узлахмачаны, з заспаным тварам.

— Не спознішся? — занепакоілася Марфа.

Андрэй нічога не адказаў, нават не глянуў на жонку, нібы і не было яе ў хаце, і ён не чуў яе пытання, падышоў да памыйніцы і, як падалося Марфе, надзвычай доўга мыў рукі, твар. Ей ужо аж знадаела стаяць ля дзвярэй і чакаць яго.

— Мо што баліць? — спытала яна, прыадчыніўшы дзверы.

Андрэй, які паспеў сесці за стол, махнуў галавой — маўляў, у яго нічога не баліць, ніжэй нагнуўся над міскай і пачаў хутка без хлеба сёрбаць астылы суп.

— Ну што ж там на сходзе было? — не магла пайсці на работу Марфа, не пагаварыўшы з мужам, не пераканаўшыся, што ён не захварэў, каб потым удзень не думаць усялякае — тады ж і работа з рук валіцца будзе.

— Узбуйненне... З трох калгасаў зрабілі адзін. Нас, Рудню і Прудоўку. Цэнтр у Прудоўцы. Там жа сельсавет, школа, пошта, бальніца. Цэнтр, адным словам.

— А старшыня? — Марфа адразу ж падумала пра Ігната.

— Прудоўскі будзе. А Ігната пакінуць брыгадзірам. Цяпер тут брыгада будзе... Не хацелі людзі ўзбуйняцца. Я таксама не бачу сэнсу,— адарваў вочы ад талеркі Андрэй, глянуў на Марфу і зноў утаропіўся ў суп.— Тут усе звыкліся, адзін аднаго ведаюць, бачаць, як і хто што робіць. Як адна сям'я... А так... Тут надрывацца будуць, а недзе гуляць. А дзяліць жа з аднаго катла... Баюся, што лепей не стане. Але ўказанне ёсць указанне. Кажуць, трэба ўзбуйняцца, каб для тэхнікі прастора была, а то ёй, кажуць, цесна стала на полі.

— Вельмі працівіліся? Так доўга сход быў...

— Ды гаварылі,— неяк няпэўна адказаў Андрэй і яшчэ ніжэй нагнуўся над міскай, нібы яго раптам нешта вельмі пільна зацікавіла.— Але для вас, думаю, нічога не зменіцца. Як рабілі, так і будзеце рабіць.

— Яно-то канешне... Наша справа рабіць.— Марфа кінула хуткі позірк на ходзікі, што віселі на сцяне якраз над галавой у Андрэя.— Ну, я пабегла...

У сенцах узяла серп, які вісеў тут жа за дзвярыма на цвіку, абматаны пасярэдзіне старой хусцінкай, павесіла яго сабе на плячо, заглянула ў дрывотнік, дзе на свежым сене спалі яе сыны.

— Вы там не прачнуліся шчэ? — паклікала.— Сяргейка! Ты чуеш мяне? Мы ж з бацькам пойдзем, дык снеданне на стале, а абед у печы. Там знойдзеце. Удзень пакорміце свіней. Бульба ў вялікім чыгунку...

— Добра,— аднекуль з-пад страхі азваўся Сяргей.

— Ды курэй жа з агарода ганяйце! — напаследак загадала яна і паспяшалася на вуліцу.

На вуліцы ля Верчынай хаты ўжо сабраліся жанчыны, каб гуртам ісці ў поле. Яны даўно ўжо прывыклі хадзіць разам на працу і з працы. Заўсёды знаходзілася пра што пагаварыць, ды неяк і весялей было гуртам.

У гэтую раніцу ўсе толькі і гаварылі пра ўчарашні сход.

— Каб яшчэ з якой Прудоўкай аб'яднацца, яно б нічога,— разважала Моця Сіўцова.— Там працавітыя людзі жывуць. А то ж з Рудняй. Там жа век не рабілі, толькі гарэлку пілі. Мы будзем убівацца, а яны за наш кошт жыць? Разумна прыдумалі. І ўсе ж пра гэта ведаюць, а маўчалі як вады ў рот набраўшы.

— Няўжо не гаварылі? — якраз падышла да жанчын Марфа.

— А ты хіба не была? — спытала Акуліна.— Усім жа загадвалі.

— Мой хадзіў, дык я не пайшла. Казаў, гаварылі багата...

— Багата ж,— хмыкнула Моця Сіўцова.— Сабралі, аб'явілі. Хто «за», пытаецца з раёна. Ніхто не падымае рук. Тады пытаецца, хто «супраць». Таксама ніхто не падымае рук. Ён і кажа, што прынята аднагалосна. Вось і ўся гаворка.

— Пад раніцу ж прыйшоў,— сказала Марфа, не паверыўшы Сіўцовай.

— А ты лепей у Ганны Канцавой спытай, на якім сходзе быў твой чалавек,— залілася сваім бязглуздым смехам Верка.

— Ну што ты мелеш? — накінулася на яе Лёкса, заўсёды маўклівая і засяроджаная жанчына.— Абы хіхіканькі.

— Ужо і пасмяяцца нельга,—сказала Верка.

Марфа зрабіла выгляд, што яе зусім не цікавіць, пра што гаварыла Верка, яна нічога ніколі разумнага не гаварыла, і пра гэта ўсе ведаюць у вёсцы. Ва ўсялякім выпадку, ніхто з прысутных не заўважыў, што словы Веркі неяк зачапілі Марфу, бо яна нават ніколькі не змянілася, была, як усе, гаварыла разам з усімі пра ўсе апошнія вясковыя навіны, а калі выйшлі за вёску, то і заспявала разам з усімі, ды не проста заспявала, а першая зацягнула песню, ды не сумную якую, задумлівую, а радасную і вясёлую. Паглядзець, дык жанчына была ў самым найлепшым настроі. А на самай справе, у яе ні на хвіліну не выходзіла з галавы пачутае. І калі гаварыла з жанчынамі, і спявала, яна ўвесь час не пераставала думаць пра Андрэя. «Цяпер ясна, чаму раніцай вочы не мог адарваць ад міскі, ледзь не ўтапіўся ў ёй». Думала яна пра яго і тады, калі пачала жаць жыта. Звычайна яна заўсёды спявала, калі рабіла, асабліва з раніцы, як і стомленасці яшчэ не было і настрой быў нічым не сапсаваны. Яе голас чуўся далёка ў полі, а ў ціхае надвор'е дык і да Ягаднай далятаў. У вёсцы нават гаварылі, калі спявае Марфа, значыцца, пачалося жніво. Яно так і было. Бо ў астатні час ёй спяваць не было калі. А так жнеш сабе, вяжаш снапы і спяваеш, і час ляціць хутчэй. Не паспееш агледзецца, як за табой ужо дзесяткі

снапоў ляжаць. Разгінайся, кладзі серп, насі снапы ў капу...

Сёння ж Марфе было не да спеваў. З галавы не выходзіла пачутае, сядзела там, як скабка, муляла, нават перашкаджала працаваць. Парабіла, можа, якую паўгадзінку, дзесятак снапкоў, можа, звязала, а ва ўсім целе такая млявасць, такая стомленасць, нібы ўжо ўвесь дзень працавала...

Яна разагнулася, нібы ў яе спіна самлела, паклала серп на толькі што звязаны сноп і нетаропка пайшла да капы, у цяньку якой схавала свой вузельчык з ядой і пітвом. Напілася вады, агледзелася. Усе жанчыны жалі, адна перад адной аж навыперадкі стараліся, толькі чулася, як шархацяць па сухіх сцяблах сярпы. Вось Верка, кідаючы сноп, азірнулася. І ці заўважыла Марфу, ці, можа, захацела сапраўды папіць, але таксама кінула жаць, пайшла да бітончыка, што бялеў у высокім іржышчы. Відаць, і сёння не ўтрывала, наелася селядцоў. Хвалілася, што купіла добрых селядцоў і вады ўчора ёй хапіла толькі да абеду. А сёння, бач, бітончык узяла з сабою.

— І сёння п'ецца? — падышла да яе Марфа.— Глядзі, дзеўка, зноў не хопіць.

— Хопіць,— засмяялася Верка, выціраючы рукою мокры рот.— Сёння багата ўзяла.

— Слухай, Верка,— Марфа раптам адчула, што ў яе не хапае смеласці спытаць пра тое, дзеля чаго яна падышла. Ледзь павярнула высахлы і пацяжэлы язык.— Ты скажы, яй-богу, крыўдаваць не стану. Але мне трэба ведаць...

— Мне, можа, і падалося,— пачала відавочна супакойваць яе Верка.— Мы, бабы, ішлі разам з таго сходу. А нападзе твой Андрэй. Але добра не разабрала. А потым нехта з баб кажа: глядзіце, прапаў Андрэй. Гэта якраз ля двара Канцавой Ганны было. Ну і пасмяяліся, А можа, ён проста хутчэй пайшоў, не ўгледзелі: было ж позна.

— Вельмі позна?

— А як сход скончыўся. Звечара яшчэ. Але ўжо цёмна было. Не было відаць нічога. Можа, чалавек у цень схаваўся, а бабы... Абы языкамі малоць. Ой, што гэта мы застаяліся? Усе стараюцца, а мы...— І Верка паспяшалася жаць жыта.

А Марфа яшчэ пастаяла, нібы цікавала, як робіць Верка, а потым вярнулася на сваю палоску, зноў спынілася, нібы не ведала, што ёй рабіць і наогул чаго яна тут. Успомніла, як на пачатку лета, калі яны, жанчыны, гуртам ішлі

палоць лён, тая ж Верка, здаецца, сказала: «Глядзі, твой з Ганнай Канцавой...» І сапраўды, па дарозе на Прудоўку сярод зялёнага маладога жыта, якое толькі што збіралася красавацца і хадзіла хвалямі нават пад лёгкім подыхам ветрыку, калыхаліся дзве кропкі — цёмная і белая. То ішлі на працу Андрэй у чорнай кепцы і Ганна Канцавая ў белай хустачцы. Ён — у сельсавет, а яна — на медпункт. Тады Марфа не надала ніякага значэння таму, што яны ішлі разам. Нічога дзіўнага: праца ў абаіх у адным баку. Цяпер жа той факт набыў зусім іншы сэнс. Падумалася, што яны, можа, ужо даўно вось так ходзяць разам, а дарога немаленькая, можна не толькі нагаварыцца. Можа, у іх наогул гэта ўжо даўно, ды яна толькі нічога не ведала. І гэтая думка неяк адразу апаліла яе ўсю. Ёй захацелася зрабіць нешта такое неадкладна, зараз жа, каб пакласці канец такой распуснасці. Хіба ўзяць добры дрын ды пакалаціць ёй вокны дома ці ў медпункце, каб на ўсё жыццё запомніла, як чужых мужыкоў зводзіць...

— Ты што ета задумалася? — спытала Акуліна, якая жала недалёка ад Марфы і цяпер перапынілася перадыхнуць.

— Ды во вады напілася,— і Марфа хуценька падышла да свайго сярпа.

Жала Марфа ў гэты дзень неяк механічна, не думаючы пра працу. Механічна брала далонню сухое дзябёлае жыта, механічна падразала яго, механічна складвала жменькі ў сноп, скручвала перавяслам, механічна кідала яго некуды назад, у высокае густое ржышча. А з галавы не выходзіла Ганна Канцавая.

«Дык як гэта яна пайшла на такое? Гэта каб у жывых дзяцей адымаць бацьку? Гэта ж трэба ўсялякае сумленне страціць, гэта ж трэба апошняй нахабніцай быць».

А нейкі другі голас даводзіў зусім іншае:

«Ну якая ж яна нахабніца, ды яшчэ і апошняя? Яна ж усіх дзяцей тваіх прымала, была павітухай. А колькі сама нацярпелася? Не дай бог нікому такога. Мужык з вайны не вярнуўся. Як пайшоў у сорак першым, як у ваду кануў. Ні слыху ні дыху. І пісала ж яна і ў Мінск, і ў Маскву нават. Адзін адказ: прапаў без вестак. А потым старэйшы сын на гранаце падарваўся. Не паспела перажыць гэтае гора — у бальніцы з месяц ляжала, ледзь выжыла,— меншы папаў у бяду. Праваліўся ўзімку ў пельку, прастудзіўся. Косці балелі ў нагах і спіне. Аперацыю рабілі. На той свет не пусцілі, выратавалі, але цяпер шкадыбае з палач-

кай, на ўсё жыццё інвалід... Не можа жанчына, якая зведала столькі гора, быць бесчалавечнай, апошняй нахабніцай...»

А першы голас не даваў спакою:

«Канешне, перажыла нямала Ганна, сапраўды пабачыла ўсялякага. Дык не толькі яна, а ўсе перажылі і пабачылі. Але ж жывуць, не апусцілі крылы. А як жа інакш? Жыццё не стаіць на месцы, ідзе па сваіх законах. І кожнаму чалавеку хочацца і радасці і шчасця. А Ганна яшчэ ж маладая жанчына...»

А другі голас зноў пярэчыў:

«Канешне, Ганна і маладая і прыгожая. Але ж яна і разумная. І ніколі не стане адымаць бацьку ў жывых дзяцей. Ніколі. Каб яна ўжо так хацела знайсці сабе мужыка, даўно б знайшла. Колькі іх у прымы папрыставала толькі ў Ягаднай! Яна ж на такой віднай рабоце. Каб захацела, даўно б знайшла сабе. Нават халасцяка яшчэ. Але не стала шукаць, помніла свайго, спадзявалася, што вернецца. А можа, і нежывому не хацела здраджваць».

«Яна, можа, і не хацела,— зноў гучаў першы голас.— Але ж схаваць сябе не магла ад вачэй твайго Андрэя. На працу разам хадзіла, можа, і назад не раз ішла з ім. Заўсёды чысценькая, прычасаная, з белымі рукамі без мазольчыка, напудраная... Не тое што ты, вечна стомленая, прасоленая ўласным потам, з парэпанымі нагамі і рукамі. Вось і паклаў на яе вока Андрэй. А што яму? Насядзіцца ў сельсавеце за паперамі, дык хочацца пазыкаваць, як таму быку, якога трымаюць усё лета ў стойле. Каб накасіўся, то не пацягнула б з прыгожай жанчынай гуляць па зялёным жыце. Ды і са сходу спяшаўся б дамоў выспацца... А Ганна што? Не бачыла ж радасці, а кожнай хочацца яе хоць трошкі... Вось і не ўстояла, хоць, можа, і не думала крыўдзіць цябе. Заўсёды мужыкі былі ў такіх справах вінаватыя...»

«Але не можа ж быць, каб Андрэй надумаўся кінуць цябе,— пярэчыў другі голас.— Вы ж з ім жывяце, здаецца, цэлую вечнасць. Ужо даўно сталі як адно. І раптам усё гэта паламаць? Гэта ж як па жывому рэзаць. Не, такога не можа быць».

«Падумаеш, вечнасць... Вось пажывеш адна год, другі, і будзе здавацца, што адна жывеш вечнасць. Чалавек да ўсяго прывыкае... І твой Андрэй яшчэ будзе шаптаць той жа Ганне, што здзіўляецца, як гэта ён мог жыць без яе, як шаптаў калісь пра гэта і табе».

«А дзеці? Хіба ён можа кінуць сваіх дзяцей? Не, не тое што зрабіць такое, а падумаць пра гэта не зможа. Не такі ён чалавек. Хай ён мяне мог разлюбіць, а дзяцей не. Ніколі. Пасля вайны яго хацелі адправіць вучыцца, не паехаў, прыехаў да мяне, да сваіх дзяцей. А каб вучыўся, то ўжо вялікім бы чалавекам быў. А так вось сядзіць у сельсавеце. І, відаць, большага яму не дасягнуць. Але не ў гэтым справа. Галоўнае ў тым, што ён ні разу мяне не ўпікнуў, што напісала яму тады, каб не думаў ні пра якую вучобу, а хутчэй ехаў дамоў. І ён заўсёды думаў пра дзяцей. І хату стараўся большую паставіць, каб было дзе малым вучыцца. І цяпер сочыць за іх вучобай, ганяе, калі лянуюцца. Глядзіш на яго, дык здаецца, ён толькі дзецьмі і жыве, толькі і думае пра іх. І не толькі пра іх, але і пра ўнукаў. Гэта ж увосень прывёз з гадавальніка цэлыя калёсы саджанцаў, дык я ўпікнула яго, што столькі многа набраў. Куды ж ім яблыкі дзяваць? А ён паглядзеў, засмяяўся: «Пакуль яблыні вырастуць, сыны столькі ўнукаў навядуць, што маліся богу, каб хапіла ўсім яблыкаў». Так што думае жыць з дзецьмі... І нікуды ад іх не дзенецца».

«Дзеўся ж... Не прыйшоў, як усе людзі, дамоў звечара, а да раніцы недзе быў. А дзе ён можа быць?.. Канешне, потым прыйшоў дамоў, можа, і сапраўды да дзяцей прыйшоў, а каб не яны, то ўбачыла б ты яго як сваю патыліцу... З-за дзяцей ля цябе і трымаецца».

І раптам загучаў яшчэ адзін голас, які адразу ж заглушыў першыя два, ахапіў усю яе істоту, усю яе свядомасць і ўсе яе пачуцці, кінуў у халодны пот:

«Можа, я адна ва ўсім гэтым і вінаватая? Вырашыла, што мне самім лёсам дадзены Андрэй назаўсёды. І ніколі не задумвалася, каб утрымаць яго. Часам нават і не заўважала... Але ж не таму, што прывыкла, а часу не хапала...»

І ўжо сама Марфа спрачаецца з гэтым трэцім голасам:

«Дык у чым жа я ўжо так правінілася? У тым, што з раніцы да вечара на рабоце? Дык усе жанчыны так працуюць, як і я. Бо нічога ж не будзе, калі сядзець дома. Ды не ў гэтым галоўнае. Я ж усё паспяваю парабіць дома: і прыбраць у хаце, і наварыць, і скаціну дагледзець, і ў агародзе. І абшываю ўсіх, і абмываю. Усё ж дагледжана, і ўсе дагледжаны. Вось толькі стамляюся за дзень вельмі. Гэта праўда. Што ж зробіш, калі такі доўгі дзень? На ўвесь дзень сілы не хапае. Упадзеш увечары на ложак як забітая. Засынаеш адразу. І спіш без прасыпу да світанку. Ноч жа кароткая, а выспацца трэба, каб цябе і на другі

дзень хапіла. А Андрэй, канешне, так не стамляецца, яму і і жонка нястомленая трэба...»

І Марфа ўжо, паддаўшыся гэтаму трэцяму голасу, вінавaціла толькі сябе, сваю няўрымслівасць і зацятасць у працы. Нібы ёй і сапраўды болей за ўсіх трэба. Між іншым, і Андрэй не адзін раз упікаў яе гэтым. «Пасядзела б хоць дзень дома,— параіў ён, калі яна неяк паскардзілася, што ў яе рукі баляць.— Няўжо, думаеш, без цябе там не абыдуцца? Мінімум выпрацавала, і хопіць. Як другія робяць. Ніхто дзякуй не скажа». Няхай другія як хочуць, падумала яна тады, а яна не можа так. Не можа яна адседжвацца дома, калі працы ў калгасе непачаты край. Хто ж яе рабіць будзе? Яна адказала тады яму смехам, што, маўляў, адсядзіцца дома ўзімку. Андрэй прамаўчаў, толькі ўздыхнуў. Цяпер яна, здаецца, разумее, чаму ён уздыхаў тады.

Эх, дарэмна ж яна не паслухалася мужа, не зрабіла так, як ён раіў. Вось і дапрацавалася, дастаралася. І сапраўды, ніхто дзякуй не скажа, а толькі пасміхаюцца цяпер. Хай не ў вочы, не ўслых, але ж яна па тварах жанчын усё бачыць.

І Марфа ўжо судзіла сябе, як толькі можа судзіць сябе сумленны чалавек, самым праведным і бязлітасным судом. І заўсёды, калі яна бачыла ў чым-небудзь вінаватай толькі сябе, яна рабілася спакойнай, станавілася лягчэй на сэрцы. Ёй заўсёды было шкада другіх, а на свае плечы яна магла ўзваліць любы цяжар і справіцца з ім, як ужо не адзін раз рабіла гэта. У сябе, у свае сілы яна верыла. А вось страціць веру ў блізкіх і надзейных людзей яна не магла, відаць, такога не перажыла б.

Але на гэты раз палёгкі не было, у душы расла крыўда на сябе. І не толькі на сябе. Уваччу так і калыхаліся дзве галавы сярод зялёнага жыта, а потым і яго галава, вінавата схіленая над міскай, як якія прывіды, як насланнё, ад якога не было ніякай сілы пазбавіцца.

І каб неяк адагнаць ад сябе гэтае насланнё, каб як выкінуць з галавы гэтыя няпрошаныя разважанні, каб заглушыць у сабе гэтыя непрымірымыя галасы, што разрывалі яе душу на кавалкі, і каб наогул забыцца на ўсё, нічога не ведаць, ні пра што не думаць, а толькі працаваць, працаваць зацята, з ахвотаю, як і кожны дзень працавала, яна аж высільвалася, жала і жала, жала з нябачнай ніколі апантанасцю, але заглушыць у сабе тыя галасы, трывогу, крыўду ўсё роўна не магла.

І жанчыны, якія працавалі побач з ёю, нібы ведалі яе настрой, бо ніводная на працягу дня не падышла да яе, як гэта рабілі звычайна раней у хвіліны кароткіх перапынкаў, не пацікавіліся, чаму яна раптам сёння не спявае, не змаглі ж яны не заўважыць гэтага: без яе песні было пуста і сіратліва ў полі. Відаць, ведалі, што яе лепей не чапаць зараз, а то яшчэ, не дай бог, скажаш што не так і толькі болей пакрыўдзіш жанчыну. А ёй і так хапае...

І Марфа жала і жала і хацела толькі аднаго, каб гэты дзень цягнуўся бясконца, каб вось так рабіць, і рабіць, і не разгінацца, пакуль і сілы ўсе не растрацяцца, пакуль яна і не ўпадзе, і не перастане дыхаць. Бо зараз ісці дамоў, сустракацца з Андрэем, гаварыць з ім... Не, яна нават і ўявіць не магла, што такое магчыма цяпер, што яшчэ можна адзін аднаму глядзець у вочы, гаварыць пра нешта. Ды пасля такога лепей не жыць на свеце, ды і нечым жыць ужо...

Марфа не заўважыла, што дзень мінуў і настаў вечар. Раптам адчула, як ветрык слізгануў прахалодаю па яе спіне. Ёй ад гэтага стала вальней дыхаць і лягчэй рабіць. На які момант падалося, што яна і не жала цэлы дзень, а толькі што выйшла на поле, нястомленая, са свежымі сіламі. Нібы гэта быў яшчэ толькі пачатак дня. І калі яна брала жменяю жыта разам з кароткай зялёнай травой, то на яе лісцях была якраз такая раса, як і раніцай. А потым нібы ўваччу пацямнела, салома перастала свяціцца так, як свяцілася ўдзень, а патухла, стала шэрай, як выліняла... Марфа выпрамілася, каб даць крыху адпачыць галаве, агледзелася.

На полі ўжо нікога не было. За жытам, у нізіне, дзе буяла бульба, выцягнуўся малочнымі пісягамі туман, нібы дым ад далёкага вогнішча. Сонца схавалася за лесам, і неба там поўнілася бляклай чырванню, згасала. Над дарогай у вёску вісеў празрысты пыл, нібы там хто павесіў шэрую тонкую сетку,— нядаўна вярнуўся статак з поля.

«Ой, недзе ж Лыска нядоеная,— спахапілася Марфа.— Ды, можа, яшчэ і не здагадаліся ёй адчыніць, дык будзе стаяць ля двара, мыкаць...»

І яна не дажаўшы некалькі жменек, каб звязаць сноп, перакінула цераз плячо серп, ля капы ўзяла вузельчык з некранутай ядой і з бутэлькамі — адна так і была з малаком, а ў другой яшчэ крыху засталося вады — і паспяшалася наўпрамкі праз жытнішча да дарогі.

«Во дурная баба, ледзь не заначавала ў полі,— дакарала яна сябе ў думках.— І карова нядоеная, і дзеці недзе галодныя, а я думаю тут пра ўсялякае глупства...» І цяпер усе яе трывогі, яе абурэнне, яе адчай — усё тое, што не давала ёй жыцця ўвесь дзень,— падаліся такімі дробязнымі, нікчэмнымі ў параўнанні з яе сапраўднымі клопатамі, у параўнанні з тым, чым яна жыве, дзеля чаго жыве і чым ёй наканавана яшчэ жыць доўга. І ўсё тое, што яна чула пра Андрэя, цяпер уяўлялася ёй не тое што няпраўдай, паклёпам, а нікчэмнай драбязой, на што адразу не трэба было звяртаць ніякай увагі. Ды, можа, усё гэта яшчэ і прыдумалі бабы? Можа ж, тая самая Верка, якая заўсёды любіла пажартаваць. Пажартавала і на гэты раз...

Пасля травяністага, усеянага зябкай расой іржышча на пыльнай дарозе падалося цяплей, нібы з надворку ў пакой зайшла...

Перад самай вёскай у вечаровай шэрані яна ўбачыла чалавека, які ішоў насустрач ёй. Яна не звярнула на яго асаблівай увагі, нават намерылася ўжо абмінуць, як чалавек паклікаў яе:

— Марфа!

— Андрэй? — здзівілася яна, бо ніяк не чакала яго сустрэць тут.

— А я падумаў ужо, ці не здарылася што. Усе прыйшлі, а цябе няма,— у голасе была і заклапочанасць і радасць аднačасова.

Але Марфу ягоны такі клопат пра яе ніколькі не абрадаваў. Андрэй ніколі яе не сустракаў з работы. Нават звычкі такой не меў. І раптам пабег насустрач. І такі ласкавы, уважлівы, радасны, як сто гадоў не бачыў яе. Значыцца, вінаваты перад ёй і цяпер, каб пазбавіцца вось гэтай вінаватасці, пабег насустрач; маўляў, глядзі, толькі пра цябе і думаю. Значыцца, праўду гаварылі бабы... І ў душы Марфы зноў пачалі абуджацца і запаўняць яе ўсю тыя самыя крыўда і абурэнне, якія валодалі ёю цэлы дзень. Яна нічога не адказала мужу, ёй наогул не хацелася з ім ні пра што гаварыць, яна нават спачатку не чула, што ён расказвае, як хацеў з хлопцамі падаіць карову, але тая не далася, нават ударыць хацела яго нагой.

Але гэтае відавочнае жаданне Андрэя ўлагодзіць жонку, нават інтанацыя яго голасу, нясмелая і крыху ліслівая, гаварылі пра тое, што Андрэй сам адчувае сваю вінаватасць і цяпер вось такім чынам просіць у яе прабачэння. І ў яе душы праз акамянелую абыякавасць і астыласць

пачала прабівацца кволая цеплыня спагады да мужа. І ўсё ж яна не ўтрымалася, каб не ўпікнуць яго:

— Можа, зноў спяшаешся на які сход, што не дачакаўся мяне? Можа, яшчэ якое ўзбуйненне?

— Які сход, якое ўзбуйненне,— не без нервовасці сказаў ён і, памаўчаўшы, больш разважліва дадаў: — Такія сходы бываюць раз у жыцці, так што...

— Ну добра,— прыпынілася Марфа, пачакала яго.— Не адставай, а то і дзеці недзе галоднымі палягуць,— але сама ўсё ж крыху сцішыла хаду.

## БАЛАЛАЙКА

На пачатку свайго жыцця я абсалютна абыякава адносіўся да музыкі: нельга ж любіць ці ненавідзець тое, пра што не маеш ніякага ўяўлення. Я ніколі ў дзяцінстве не слухаў радыё, бо яго тады не было ў нашай вёсцы. Не было ні ў кога нават звычайнага патэфона. Хаця пра тое, што існуе на свеце музыка, я ведаў.

Некалі мне, маленькаму, купілі цацачную балалайку. Пакруціш за ручачку, умацаваную ў корпусе, цененька загучыць вясёленькая мелодыя, пакруціш цішэй, струны задзінькаюць жалобна і сумна. А аднойчы, калі мы з маці нечага хадзілі ў райцэнтр і на станцыі чакалі, пакуль пройдзе доўгі таварны цягнік, я чуў, як у адным вагоне таго цягніка іграла, як сказала мне маці, духавая музыка. А пасля вайны, калі ў нашай вёсцы рамантавалі танкі, чуў, як адзін танкіст іграў на скрыпцы. А нашага гарманіста Пятра Чыха я не толькі часта чуў, а і ведаў назвы ўсіх танцаў, якія ён толькі ўмеў іграць на сваёй галасістай хромцы.

Праўда, адразу пасля вайны бацька прывёз з арміі трафейны радыёпрыёмнік. Мы часта слухалі яго ўсёй сям'ёй. Прыходзілі і суседзі. Але заўсёды слухалі, пра што там гаварылася, і амаль ніколі не слухалі музыку: бацька шкадаваў батарэі на такую, як ён казаў, «муру». Ды і тая музыка, якую ўсё ж давялося пачуць тады, уяўлялася нейкай «няпраўдашняй», бо я не бачыў, на якіх інструментах там ігралі, нават не мог уявіць іх.

Вядома, такога знаёмства з музыкай вельмі мала, каб захапіцца ёй. І ўсё ж быў час, калі мне вельмі захацелася навучыцца іграць на чым-небудзь. І не таму, што ва мне абудзілася любоў да музыкі, а проста захацелася быць та-

кім, як Пётр Чых. Уяўляеце, выйдзе той Пётр Чых з двара ў бліскучых ботах, у новых штанах, апушчаных на халявы, у ружовай рубашцы, з гармонікам праз плячо. Сядзе на лавачку, пастaвіць свой інструмент на калені, рыпне спачатку ціха, а потым, схіліўшы галаву з прыгожым узлахмачаным чубам, які зухавата тырчыць з-пад кепкі, надзетай набакір, як урэжа «барыню» ці «сербіянку», ніхто не ўстоіць на месцы. Усе кідаюцца ў скокі. А галоўнае, ён у самы разгар танцаў мог перастаць іграць. І хто яго ні ўпрошвае — ні з месца: маўляў, стаміўся, і кропка. І тады падыходзіць да яго мая цётка Ніна, адкідвае свае дзве бялявыя тоўстыя касы за плечы, нагінаецца і ціха, але каб чулі ўсе, гаворыць яму адно толькі слова: «Пецечка». Пятро Чых шчасліва ўсміхаецца і, прыгладзіўшы рукою свой чуб, расцягвае мяхі на ўсе рукі... І потым цэлы вечар ужо іграе без супынку.

Эх, як я зайздросціў яму ў гэты момант!

Была б у мяне няхай не хромка, хаця б якая балалайка, і каб я ўмеў на ёй іграць розныя танцы! Мы тады сабраліся б суботнім надвячоркам з хлопцамі і пайшлі б да нашых равесніц. Я сеў бы на лавачку, доўга і засяроджана нацягваў бы струны, правяраў, як яны гучаць, і толькі тады, калі ва ўсіх скончылася б цярпенне, зайграў бы. А потым, праз некалькі танцаў зрабіў бы так, як і Пятро Чых: перастаў іграць, маўляў, самлелі рукі. І як бы мяне ні ўпрошвалі, не паддаваўся б, пакуль не папрасіла б яна. Ох, як бы я тады іграў! Для яе...

Яна — гэта Домка Рудзянкова. Яна была худзенькая танканогая дзяўчынка, заўсёды хадзіла ў жоўтай куртачцы, перашытай з нейкай амерыканскай шмоткі, і ў зялёнай спадніцы з саматканага палатна. У яе была чарнявая галоўка, вялікія цёмныя, заўсёды крыху сумнаватыя вочы і хваравіта-бялявы тварык.

Яна была сярэдняя дачка ў Рудзянковай Хоўры. У яе расло яшчэ двое дзяцей. Бацька іх не вярнуўся з вайны. Жыла ўдава з малымі на другім канцы нашай вуліцы, недалёка ад школы, у такой маленькай хацінцы, зробленай адразу пасля вайны з мясцовага лесу, абмазанай глінай, каб цяплей было, што я заўсёды дзівіўся, як яны там памяшчаліся аж учацвярых.

Кожны дзень я стараўся абавязкова ўбачыць Домку, хоць бы здаля. Памятаю, калі пасвілі свіней на паплавах за вёскай, я вачэй не зводзіў з іхняга агарода. І калі яна там не паказвалася, адразу губляў настрой, страчваў ціка-

васць да гульняў, якія мы там наладжвалі, каб весялей праходзіў час, адыходзіў убок, кідаўся на мурог і доўга пралежваў у маўклівай задумлівасці, аж пакуль і не трэба было адварочваць свіней ад шкоды. І не шкадаваў жа пугі я ў такія хвіліны! А варта было ўбачыць Домку — яна часам разам са сваёй маці выходзіла палоць на плану бульбу ці проса,— мяне тады ахоплівала такая радасць, што я лётаў па полі, не чуючы пад сабою ног.

Калі ж сустракаў яе на вуліцы, у мяне ледзь не падломліваліся калені, і я размінаўся з ёй, баючыся вочы адарваць ад зямлі. І толькі адышоўшыся далекавата, азіраўся, паспяваў яшчэ ўбачыць яе жоўты летнічак, які, мільгануўшы сонечным зайчыкам, хаваўся ў веснічках...

Але і гэтага мне было дастаткова, каб потым цэлы дзень быць шчаслівым.

А ўвечары, калі мы збіраліся ля чыйго-небудзь двара і раптам чулі, як з другога канца вуліцы падавалі голас нашы равесніцы — яны таксама пачыналі збірацца вечарамі і кволымі галасамі спявалі тыя ж песні, якія спявалі і дарослыя,— я не адзін раз казаў хлопцам:

— Пайшлі паганяем дзевак, а то раскукарэкаліся...

Але Іван Кулінін, Блінец, які да таго часу нечакана абагнаў усіх ростам і лічыўся сярод нас прызнаным завадатарам, заўсёды быў супраць.

— Нечага хадзіць так,— гаварыў ён, прыкметна падражаючы нашаму куміру Пятру Чыху.— Каб музыка якая была, а так што? Лепей пайшлі да школы, танцаваць хоць павучымся...

А ля школы ўжо расцягваў мяхі свае звонкае хромкі Пятро Чых. Ладзіліся танцы. Мы таксама стараліся ўціснуцца ў круг... Але мы, відаць, перашкаджалі дарослым.

— Ану, марш адсюль! — крычаў хто-небудзь з дарослых нам.— Чуеце, вашы курапаткі вас клічуць, а вы тут пад нагамі блытаецеся. Марш на сваё седала! — і пры гэтым стараўся сакануць па босых нагах крапівой ці гнуткім лазовым дубчыкам.

Бывала, што пасля такога мы сапраўды кіравалі да нашых «курапатак», але тыя, пачуўшы нас здаля, хаваліся ці разбягаліся па хатах.

Неяк у нядзелю, добра вымыўшы ногі, надзеўшы выходныя штаны з чорнага вельвету, у якіх звычайна хадзіў у школу, сінюю сарочку, хуткім крокам я прайшоўся па вуліцы, спадзеючыся ўбачыць хаця б здалёк Домку. Але сустрэць яе не ўдалося. Назад вяртаўся зажураны і сум-

ны. Параўняўшыся з Кулініным дваром, раптам пачуў, як нехта дрынкае на балалайцы. Зглянуў у двор. Блінец сядзеў на прызбе і трымаў на каленях самую сапраўдную балалайку.

— Балалайка? — я не верыў сваім вачам.

— Ыгы ж,— глянуў радасна на мяне Блінец.— Ездзілі з маці да цёткі ў Ніўкі, цётка і аддала яе. Знайшла на гарышчы. Хата ў іх не згарэла, захавалася і балалайка. Праўда, ад корпуса адляцела пара дошчачак, але я выстругаў іх са старых клёпак і прыладзіў. Каб клей быў, яно, можа б, прыгажэй было, а так цвікамі...— ён перавярнуў балалайку і паказаў, як тырчаць тыя цвікі з клёпак, нязграбна абструганых нажом.— Абы іграла. Паслухай,— і ён ударыў моцнымі пальцамі напрацаванай рукі па струнах. Тыя аж загулі.— А струны нацягнуў з кабеля. Таўставатыя, казаў Пятро Чых, але затое моцныя. Пятро паказаў, як «сербіянку» іграць... Казаў, яшчэ пакажа. Навучуся, і нашым дзеўкам будзе пад што танцаваць.

Я адразу ж падумаў пра Домку. Я баяўся, што калі Блінец навучыцца іграць, то сваю ўвагу Домка аддасць яму. Ён і цяпер вышэйшы за мяне, мацнейшы, а тады з ім цягацца будзе проста немагчыма.

У той жа дзень я папрасіў бацьку, каб ён мне купіў балалайку.

— Можа, да дзевак, сын, захацелася? — засмяяўся ён.

— Ну што ты вярзеш, Андрэй? — стала на мой бок маці.— Можа, хлопцу музыкі захацелася. Я сама вельмі люблю, калі на балалайцы іграюць.

— А дзе ты яе купіш? — больш спагадліва спытаў бацька.

— Можа, калі прывязуць у сельмаг,— сказала маці.

— Добра, прывязуць, куплю,— паабяцаў бацька.

Ішлі дні, тыдні. А балалаек у сельмаг усё не прывозілі. А тым часам Блінец ужо даволі хутка іграў «сербіянку», «барыню», «страданіе». Як толькі выпадаў у мяне вольны час, я адразу ж бег да Блінца. Хацелася хоць трохі самому падвучыцца іграць — іншы раз ён паказваў мне, як перабіраць пальцамі. Але, галоўнае, мне хацелася якнебудзь выведаць, якой дзяўчынай ён зацікавіўся. Мне тады чамусьці здавалася, што ўсе мае таварышы абавязкова павінны былі закахацца ў Домку. Ды як я не зводзіў гаворку на гэтую тэму, Блінец упарта маўчаў. Але па тым, як ён спяшаўся навучыцца іграць і як даглядаў свой чуб,

які пачаў адрошчваць з вясны, і як упарта дабіваўся ў маці, каб яна купіла яму ружовую сарочку, якраз такую ж, як і ў Пятра Чыха, я здагадваўся, што ў яго нехта ёсць на прыкмеце. А раптам гэта Домка? Ад аднае гэтае думкі мне станавілася страшна.

Выхад з гэтага мог быць толькі адзін. Мне трэба абавязкова неяк сустрэцца з Домкай і пагаварыць раней, чым Блінец навучыцца іграць на сваёй дрынчолцы. І тады, няхай як ні стараецца ён біць сваімі тоўстымі пальцамі па моцных струнах, будзе позна. Сэрца Домкі ўжо будзе на замку.

Але як жа з ёй сустрэцца? Як пагаварыць? Пры кожным набліжэнні да дзяўчынкі я настолькі страчваў усялякую ўладу над сабой, што літаральна нямеў, а мой язык аж прысыхаў да нёба. І ўсё ж аднойчы я пераадолеў сябе. Сустрэўшы на вуліцы — Домка ў кароткай вылінялай сукенцы, з вядзерцам у руках, відаць, вярталася з поля, куды насіла піць цяляці,— спыніўся, загарадзіўшы ёй дарогу. Яна спалохана глянула на мяне сваімі чорнымі вачыма.

— Куды ты? — ледзь выціснуў я з сябе.

Яна насцярожана абмінула мяне, а потым кінулася наўцёкі. Калі я азірнуўся, Домка была ўжо далекавата, ужо не бегла, бачыла, што я не ганюся за ёй.

А крыху пазней, калі ў майго дзеда выспела жытніца, я навыбіраў там цэлую пазуху самых прыгожых, самых спелых яблыкаў і хадзіў па вуліцы ў спадзяванні сустрэць яе. Мне хацелася пачаставаць Домку яблыкамі, бо ў іх садзе не было такіх. Наогул, такіх яблыкаў не было ні ў кога ў вёсцы. Былі належы белыя, аж празрыстыя, калі выспявалі — таксама смачныя, а вось такіх, жоўтых і чырванабокіх, здаецца, не было ды і не магло быць, бо ў вёсцы толькі мой дзед яшчэ да вайны напрышчэпваў на свае яблыні розных гатункаў, і ў яго садзе атрымалася такая мешаніна, што ён і сам добра не ведаў, дзе рос які гатунак. Праўда, у вайну частка яго саду згарэла...

Я сноўдаўся тады па вуліцы, можа, болей гадзіны. Паспеў з'есці ад хвалявання ледзь не палову яблыкаў, а яе ўсё не было відаць. А можа, яе і дома няма, а я, дурань, як прывязаны ля яе хаты? Добра, што хоць на вуліцы нікога і мяне ніхто не бачыць. Стаяў якраз жнівень, і ўсе былі ў полі. Толькі куры пасвіліся на вуліцы, ды хіба хто праязджаў з возам снапоў...

І раптам я заўважыў Домку. Яна ў той жа вылінялай

суконцы, у якой я некалі сустрэў яе на вуліцы, хадзіла па градах сярод густых зараснікаў маку з дробнымі каробачкамі-галоўкамі. Яго ў нас называюць яшчэ самасеем. Бо як толькі каробачкі выспявалі, пад іх зубчастай крышачкай адкрываліся шчылінкі, праз якія нават пры лёгкім ветрыку высяваўся мак. Таму і рос на агародах у самых нечаканых месцах.

І вось Домка хадзіла па тых зарасніках, выбірала спелыя макаўкі, вытрушчвала з іх мак у далонь, а потым сыпала яго ў рот, так закідваючы галаву назад, што яе чарнявыя валасы ледзь не даставалі бацвіння разбуялых буракоў. Домка, відаць, знарок не абламвала макаўкі, каб не здагадалася маці, што яна там палахала. Многія збіралі той мак — можа, яго збірала і маці Домкі — і насілі прадаваць на базар, а часам пяклі з ім піражкі. Дарэчы, гэта былі самыя смачныя піражкі, якія мне даводзілася есці ў дзяцінстве.

Я прысеў за плотам і, стаіўшыся, назіраў за ёй. Яна не магла заўважыць мяне, бо пад плотам раслі высокія кусты лопуху. У тыя часы яго паўз платы былі цэлыя зараснікі. Мы яшчэ ў іх хаваліся, калі гулялі ў вайну.

На цяперашні розум, дык трэба было паклікаць дзяўчынку і пачаставаць яблыкамі. Але тады на гэта ў мяне не хапіла адвагі. А вось запусціць у яе яблыкам я не пабаяўся. І да гэтага часу не магу даўмецца, навошта так зрабіў. Ці такім чынам хацеў звярнуць яе ўвагу, ці карцела паглядзець, як яна здзівіцца, калі раптам проста з яснага неба да яе ног шлёпнецца прыгожы чырванабокі яблык?

Я выбраў самы вялікі яблык і шпурнуў у яе. Не ўгледзеў, куды ўцэліў. Пачуўшы ж яе крык: «Мамачка», падняў галаву і ўбачыў, як яна, закрыўшы твар далонямі, бегла наўспрамкі праз грады ў двор.

Я кінуўся наўцёкі.

І тады, калі я ўцякаў, мяне нехта і ўгледзеў.

А ў канцы таго ж дня, калі мы ўсёй сям'ёй сядзелі за сталом і вячэралі, у хату зайшла Рудзянкова Хоўра, невысокая хударлявая жанчына з доўгімі касцістымі рукамі. За яе спіной хавалася Домка. І як іх прапусціў Барс, што не гаўкнуў нават?

— Ой, добра, што вы ўсе дома,— сказала Хоўра і адразу ж звярнулася да мяне: — Ну, што глядзіш? Сорамна? Паглядзі, паглядзі, што нарабіў...

Я зыркнуў спадылба адзін толькі раз і заўважыў у Домкі вакол вока вялізны чорны сіняк.

— Ледзь вока не выбіў... Ты ж паглядзі, Андрэй Іванавіч, ты ж зірні, Марфачка,— і яна выпіхвала наперад сваю дачку, якая моцна трымалася за спадніцу маткі і не хацела паказвацца на нашы вочы.— Калі ўжо няма каму за яе заступіцца, дык яе можна і крыўдзіць? — і Хоўра расплакалася, шмарганула носам, потым шырокай далонню выцерла свае вочы, супакоілася.— Ды каб жа якая прычына была. А то ж ні з таго ні з сяго. Надумаўся і бацнуў. Што хочаце, Андрэй Іванавіч, але калі вы свайго сына не навучыце, то пайду ў міліцыю. Гэта ж не дзела, што малой хоць на вуліцу не выходзь. Што яна яму зрабіла, што ён ёй спуску не дае?

Я сядзеў за сталом, апусціўшы галаву. Мае меншыя браты з маўклівай дакорлівасцю паглядвалі на мяне. А маці стаяла сярод хаты і неяк разгублена зыркала то на мяне, то на дзяўчынку, нібы ніяк не магла ўцяміць, што адбылося.

— Ну, што сапеш? — спытаў у мяне строга бацька, а потым сказаў Хоўры: — Я пагавару з ім. Больш ён вашу малую і пальцам не кране.

— Пагавары, пагавары, Андрэй Іванавіч,— раптам палагаднела Хоўра.— А то што ж гэта будзе, калі з такіх гадоў ён пачне вучыцца благому?

— Я ж сказаў,— запэўніў яе бацька і на гэты раз так глянуў на мяне, што ў мяне ўсярэдзіне ўсё аж пахаладзела. Яшчэ ніколі ў жыцці я не чуў у яго голасе такой пагрозы.

Калі Хоўра, выштурхваючы перад сабой дачку, выйшла з хаты, за сталом некаторы час трымалася цяжкая цішыня.

— Ну? — спытаў у мяне бацька.

Я не мог адарваць ад стала вачэй.

— Андрэй,— ледзь не шэптам сказала яму маці.

Ці бацька зразумеў мой стан, ці маці, можа, зрабіла яму які знак, толькі ён раптам з нечаканай ласкавасцю сказаў:

— Ідзі спаць, Сяргей.

Не падымаючы вачэй, я вылез з-за стала, раздзеўся і хуценька шмыгнуў пад коўдру, а там, заціснуўшы рот рукамі, даў волю сваім слязам...

Мне думалася, што пра мой учынак, а галоўнае, пра яго прычыну, ведаюць усе ў вёсцы. Я некалькі дзён не

паказваўся на вуліцы. І само сабой зразумела, што не рабіў ніякай спробы сустрэцца з Домкай. Ведаў, што цяпер яна не стане са мной і размаўляць.

Сядзеў я неяк у двары і шчапаў смалісты корч на лучынкі. Маці звычайна ўлетку варыла бульбу на «казе» на прыпечку, і лепшых дроў для гэтага, як лучынкі са смалістага карча, і не трэба было.

Раптам адчыніліся веснічкі і ў двор заглянуў Блінец. Ён, не хаваючы радаснай усмешкі на сваім мясістым твары, які час моўчкі глядзеў на мяне, а потым сказаў:

— Пайшлі, нешта пакажу...

Я ўцюкнуў сякеру ў калодку і моўчкі пайшоў за ім. Ні пра што не распытваў. Ён таксама маўчаў, толькі зрэдку паглядваў на мяне і загадкава ўсміхаўся. Блінец завёў мяне ў свой дрывотнік, у якім пасля сонечнага дня падалося зусім цёмна. Я нічога не бачыў, пакуль не прывыклі вочы. Блінец сеў на нейкі мяшок ля сцяны адразу ж за дзвярыма, аднекуль з-за спіны дастаў балалайку:

— Паслухай.

І ён адзін за другім сыграў некалькі танцаў. Блінец іграў так хутка — відаць, сам вельмі хваляваўся ці проста спяшаўся паказаць сваё майстэрства,— што я нічога не зразумеў. Мне падалося, што ён іграў адзін і той жа танец.

— Ну як? — у прыцемках дрывотніка было відаць, як ззяюць радасцю яго вочы.

— Прыгожа,— уздыхнуў я, бо думаў не пра яго іграпне, а пра Домку. Каб ён не здагадаўся, што я зайздрошчу яму, хуценька спытаў: — І хто цябе навучыў?

— Я ж гаварыў, што Пётр Чых паказаў. А потым сам трэніраваўся. Падпяваў і іграў... Дрэнна, што балалайка залапленая, але ўвечары не ўбачаць. У суботу пойдзем. І нашы дзеўкі патанцуюць. Мая маці казала, што да вайны часта танцавалі пад балалайку...

У суботу надвячоркам мы сабраліся ля Блінцовага двара. Прыйшлі нашы аднагодкі і некалькі хлапцоў, меншых за нас: мой брат Толік, яго таварышы Віктар Карбановіч, якога за хударлявасць звалі Дон Кіхотам, і нізкарослы Дзіма Лазоўскі, апошняга ведалі пад назвай Санчо Панса. Сядзелі ўсе маўкліва важныя, салідныя, а калі гаварылі, то стараліся падрабляцца пад дарослых. Мы ўсе адчувалі, што настаў вельмі адказны момант у нашым падлеткавым жыцці.

Выйшаў з балалайкаю Блінец. Ён быў у новых штанах і кашулі, якія яму купілі хадзіць у школу, басанож. Яму адразу ж уступілі месца на лавачцы. Ён сеў, закінуў нагу за нагу, штучнаватым баском спытаў:

— У каго ёсць падыміць?

Нехта падаў яму кавалак газеты, нехта сыпануў у тую газету тытунёвай пацярухі. Блінец скруціў цыгарку, зацягнуўся. Яму перахапіла дыханне. Адкашляўшыся, спытаў:

— І ў каго гэта такая атрута? — пагардліва шчоўкнуў цыгаркай далей на вуліцу, тая, расклеіўшыся на ляту, рассыпалася.

Наогул, Блінец паводзіў сябе ў гэты вечар, як і трэба паводзіць вясковаму гарманісту. Але я бачыў, як ён хвалюецца і толькі прыкрываецца сваім гонарам.

Калі добра сцямнела і ля школы ўсхліпнула хромка Пятра Чыха, Блінец падняўся:

— Пайшлі і мы,— ён дзынкнуў па струнах і нечакана для нас бойка праспяваў:

Мая мілка, слоўна роза,
Толькі разніца адна:
Роза вяніць ад мароза,
Мая мілка нікагда.

Такім чынам на ўсю вёску Ягадную было абвешчана, што ўчарашнія дзеці вайны развітваюцца са сваім малалецтвам.

Калі мы праходзілі па нашым сяродку, паўз калодзеж, ваду якраз брала Люба, жонка майго дзядзькі Ігната.

Яна агледзела нас і, падымаючы цэбар, праз смех спыталася:

— Адкуль гэта халасцёж такая?

— З пыталаўкі,— адказаў Шарык.

А я пастараўся схавацца за таварышаў. Не хацеў, каб яна мяне пазнала.

Нашы «нявесты» сядзелі моўчкі, відаць, прыслухоўваліся: ці не ідзём мы, бо ведалі загадзя, што ў нас ёсць балалайка і што сёння мы прыйдзем да іх.

— Прывітанне, дзевачкі! — весела сказаў Шарык і нават памкнуўся абняць некалькі дзяўчын, што стаялі разам. Тыя пішчалі, смяяліся, але не ўцякалі. Блінец жа сеў на лавачку, засяроджана пачаў правяраць гучанне струн. Яны нібы і сапраўды расстроіліся. Ён доўга падкручваў, дзынкаў... Аж цярпенне ў нас канчалася, а сярод дзяўчат

чуліся здзеклівыя смяшкі. А мне дык і хацелася, каб у Блінца нічога не атрымалася. Тады б я спакойны быў за Домку. Але Блінец раптам нечакана для нас ударыў усёй пяцярнёй па струнах, і каб яны былі не з кабелю, а сапраўдныя, то, відаць, не вытрымалі б, палопаліся. Ён зайграў «сербіянку»...

Спачатку ніхто не асмельваўся танцаваць. Але вось Шарык запрасіў дзяўчыну, выйшаў з ёю ў круг. За ім выйшлі яшчэ некалькі пар. Я памкнуўся быў запрасіць Домку, але яе нехта перахапіў. Я застаўся сядзець на лавачцы. Танцавалі моўчкі, без прыпевак. Дрынчала балалайка, чулася, як шоргаюць босыя ногі па зямлі. Калі ж Блінец скончыў іграць, паклаў балалайку на калені, выцер рукавом узмакрэлы лоб, да яго падскочыла Домка і здзекліва сказала:

— Глухая твая балалайка.

— Як — глухая? — не зразумеў ён.

— Блізка чуваць, а на другім краі круга нічога.

— Праўда? — Блінец спытаў не тое што разгублена, а болей з пагрозай у голасе.

— Як пень,— засмяялася Домка.

Мы не паспелі нічога і ўцяміць, як Блінец схапіў балалайку за галоўку і з усяго размаху ўдарыў яе вобземлю. Корпус разляцеўся ўшчэнт. А галоўку і грыф з павіслай на струнах, раскалоўшайся дэкай ён шпурнуў некуды цераз плот. Там толькі зашастаў санлівай лістотай бульбянік.

— Ой! — усклікнула з нейкім адчаем Домка.

А Блінец, не сказаўшы нікому ні слова, пайшоў прэч. Паспяшаўся за ім і я.

— Глухая,— абураўся ён.— Але нічога, куплю новую, тады...

Што павінна адбыцца тады, ён не сказаў, а я не стаў распытваць. Ля калодзежа ён спыніўся, выцягнуў цэбар вады, напіўся набгом. За кампанію напіўся і я, хаця мне і не хацелася. Ля свае хаты ён падаў на развітанне руку:

— Я пайшоў спаць. Бывай!

Мне ж яшчэ не хацелася спаць. Я стаяў ля двара і шкадаваў, што пабег за Блінцом, як той хвосцік. Там жа засталіся ўсе і цяпер недзе абмяркоўваюць выхадку Блінца. У мяне была ж магчымасць пагаварыць з Домкай, і мы, можа б, якраз сёння памірыліся. Можа б, яна яшчэ і не супроць была, каб я праводзіў яе дамоў. А калі вярнуцца назад?..

І пакуль я стаяў ды вагаўся, убачыў, як на другім баку вуліцы мільганулі два цені, пачуўся дзявочы галасок:

— Ну спакойнай ночы, падружка! Пасля такіх танцаў хоць спацца будзе.

— Ды натанцаваліся! — І яны весела засмяяліся.

Значыцца, там усе разышліся, і Домка недзе пайшла дамоў таксама.

Я крыху яшчэ пастаяў, а потым зайшоў у двор. Пачуўшы мяне, вылез з будкі Барс, трапануў абвіслымі вушамі — так ён заўсёды прывячаў мяне,— падбег, памахаў хвастом-абаранкам, а потым хацеў скокнуць на грудзі, ды я перахапіў яго за лапы.

— Ідзі спі, Барсік! — я пакамечыў яго мяккія вушы.

Барс не прымусіў сябе ўпрошваць, ахвотна пайшоў у сваю цёплую будку.

Я доўга ляжаў без сну ў гэты вечар, чуў прыглушаныя вокнамі пералівы Чыхавай хромкі, далёкую дзявочую песню. Гэтыя гукі нараджалі ва мне салодкі сум і цьмяныя надзеі на хуткую радасць.

Думаючы пра Домку, я і заснуў...

У тое лета мы больш не хадзілі на танцы да школы, дзе збіраліся дарослыя, і тым больш да нашых «нявест», пра першае наша заляцанне да якіх са смехам расказвалі па вёсцы. Можа, хто з нашых таварышаў і хадзіў, але мы з Блінцом заставаліся дома. Ён не хадзіў з-за гордасці, а я — паважаючы яго. Я лічыў яго самым блізкім сваім сябрам. А потым і некалі было. Днямі рабілі ў калгасе — сама была ў разгары ўборачная,— а потым пайшлі ў школу. Мы з Блінцом хадзілі ў адзін клас. Мы нават урокі рабілі разам. Я дапамагаў яму па мове, а ён мне па матэматыцы, якая давалася яму вельмі лёгка.

З Домкай за зіму мы памірыліся. Мы разам хадзілі ў суседнюю Прудоўку, дзе была дзесяцігодка. Праўда, Домка адставала на год ад нас з Блінцом, але ў школу мы заўсёды ішлі разам. Яна нават за вёскай чакала нас: баялася адна ісці цёмнай раніцай праз зімовае поле. Назад жа ішла без нас, бо ў нас было болей урокаў, чым у іх.

Я асабліва не назаляў Домцы, бо бачыў, што з ёю ніхто не сябруе, а гэта мяне супакойвала. Мне дастаткова было з ёю сустракацца, гаварыць. Часам мы абменьваліся кнігамі. Мяняўся з ёю кніжкамі і Блінец.

Дарэчы, за ўсю зіму Блінец ні разу не загаварыў пра балалайку. Я думаў, што ён адцураўся і думаць пра яе.

І якое ж маё было здзіўленне, калі аднойчы вясеннім надвячоркам я выйшаў пасядзець ля двара, даць крыху адпачыць галаве ад чытання, і раптам пачуў балалаечныя пераборы. Спачатку я не паверыў вушам сваім. Падумаў, што гэта на цяпло так жабы расквакаліся ў балотцы за вёскай. Прыслухаўся — не, балалайка. Я падхапіўся і ледзь не пабег да Блінца.

Ён сядзеў ля двара на лавачцы і іграў на новенькай балалайцы.

— Сёння ў Гомель ездзіў,— адказаў ён на мой маўклівы пагляд.— Думаў пасля экзаменаў з'ездзіць, але паглядзеў алгебру, там вучыць нечага, сеў і паехаў. І вось,— і ён далікатна крануў струны, і тыя адазваліся пявучым звонам.— Усю зіму збіраў грошы,— хваліўся далей Блінец.— Маці дасць у кіно, а я па вуліцы прабегаю... Бутэлькі насіў здаваць, і вось... Цяпер ніхто не скажа, што яна глухая,— і ён пяцярнёй ударыў па струнах.

А я зноў падумаў пра Домку. Гэта ж яна яму сказала, што балалайка глухая. Запомніў жа. Купіў новую. Хоча даказаць ёй сваё. І дакажа. Але тут жа супакоіў сябе. За ўсю зіму я ні разу не заўважыў, каб ён цікавіўся Домкай болей, чым другімі дзяўчынкамі. Відаць, ён проста быў горды чалавек, не любіў кпінаў наогул. А хто кпіў — гэта не было галоўным для яго.

Калі мы здалі свой апошні пераходны экзамен, увечары сабраліся ля двара Блінца. Блінец сядзеў ужо на лавачцы. З накудлачаным чубам, у ружовай расхрыстанай кашулі, ён сваім петушыным воблікам нагадваў таго тыповага вясковага гарманіста, першага хлопца на вёсцы, які і быў для яго ўзорам. Часта ўзмахваючы галавой, ён іграў без супынку на новенькай звонкай балалайцы, іграў натхнёна, адкрыта, радасна, і ў гэты момант, відаць, ва ўсёй нашай Ягаднай не было больш шчаслівага чалавека за яго.

У той вечар мы не сталі чакаць, пакуль усхліпне хромка Пятра Чыха ля школы. Як толькі сцямнела, мы пайшлі па вуліцы. Куды ішлі, не ведалі. Ішлі і па чарзе спявалі прыпеўкі. Мы ўжо не былі тымі рахманымі падлеткамі, што мінулым летам упершыню падалі нясмелую заяўку на сваю даросласць, зайграўшы на глухой балалайцы, заламанай падгніўшымі дубовымі клёпкамі ад старой рассыпаўшайся бочкі.

Нашы дзяўчаты яшчэ не сабраліся. Іх толькі некалькі сядзела ля двара старой Аўдоцці, да якой на лета прыехала ўнучка ці пляменніца, я так і не ведаў, і з якой нашым

дзяўчатам было цікава, бо яна ім часта расказвала пра жыццё ў далёкім Ленінградзе. Мы спыніліся ля іх.

Наступова на балалайку пачалі збірацца дзяўчаты з усёй вёскі. Я сядзеў ля Блінца і паглядваў, ці не прыйшла Домка. Спытаць у каго-небудзь пра яе я чамусьці пасаромеўся. Калі ж добра ўвечарэла і ўжо ні ў кога ў вокнах не бліпчала святло, стала ясна, што яе не будзе.

Блінец раптам перастаў іграць, сказаў, што на сёння хопіць, ён і так стаміўся. Паклікаў мяне з сабой. Ішлі моўчкі. Ля свайго двара ён пацісну мне руку, буркнуў: «будзь» — і знік за веснічкамі. Я ішоў і думаў, хто б мог яму сапсаваць сёння настрой. За ўвесь вечар ніхто яму не сказаў ніводнага дрэннага слова, а толькі дзякавалі і хвалілі.

На другі ж дзень з калгаснага двара, дзе ўзяў каня — мне загадалі касіць і падвозіць зялёную падкормку ў кароўнікі,— я не паехаў праз завулак наўспрамкі, а паўз школу, па вуліцы, спадзеючыся сустрэць Домку і пацікавіцца, чаго яе ўчора не было на танцах. У двары Рудзянковай Хоўры я ўбачыў Мосея Куццю. Ён забіваў абапалкамі маленькія вокны ў хаце. Прыпыніўшы каня, я скокнуў з драбін і скіраваў у двор.

Мосей Куцця паклаў малаток на прызбу, пайшоў насустрач, парукаўся цераз плот.

— Учора ж адвёз іх на станцыю,— сказаў Мосей.— Паехала да брата. У Сібір. Напісаў, каб ехала. Можа, і правільна. Цяжка ёй тут, хворай, з трыма малымі... А там, яна гаварыла, калгас багаты. Ды і брат... Нібы нейкі начальнік там.

Па дарозе дамоў я спыніўся ля Блінца, забег да яго і сказаў пра гэту навіну. Я не думаў, што для яго яна мела нейкае значэнне, але мне аднаму цяжка было, хацелася з некім абавязкова падзяліцца.

Як я і прадбачыў, Блінец аднёсся да гэтае звесткі зусім абыякава. Адразу ж загаварыў пра іншае. Спытаў, што раблю ў брыгадзе, сказаў, што яму маці загадала на сваім плане палоць проса.

У той вечар ён не выйшаў з балалайкай. Сказаў, што разбалелася галава ад сонца. Не выйшаў ён і ў наступныя вечары.

Так і скончыліся тыя нашы раннія танцулькі.

А ў канцы лета мне бацька купіў балалайку. Але вучыцца на ёй мне не хацелася. Не было здольнасцей да музыкі. Яна некалькі год пылілася на шафе, а потым маці

вынесла яе ў камору, дзе балалайка і расклеілася ад сырасці.

З Блінцом у нас дружба паступова разладзілася. Я канчаў дзесяцігодку, а ён пасля сёмага класа ў школу не пайшоў. Колькі тады яго бацькі папабегалі ды паплакалі, баяліся, што сыну прыйдзецца застацца ў калгасе. Спачатку ён і рабіў у калгасе, а потым уладкаваўся на вагонарамонтным заводзе ў Гомелі. Купіў сабе гармонік, навучыўся іграць. Казалі, лепшага гарманіста за Блінца ў нашай Ягаднай не было. Некаторыя нават сцвярджалі, што іграў ён лепей за Пятра Чыха. Ведалі яго добра і ў навакольных вёсках і часта запрашалі іграць на вяселлях...

А зусім нядаўна я неяк заехаў да маці на некалькі дзён у госці. Была якраз субота. Я заўсёды любіў надвячоркам сядзець на лавачцы ля двара і назіраць за жыццём свае вёскі. І на гэты раз я таксама надвячоркам сядзеў на лавачцы, сачыў за вуліцаю, спадзеючыся, што, можа, хто-небудзь з маіх былых аднагодкаў таксама завітае да бацькоў у вёску...

І раптам я пачуў балалайку. Яе гучанне ледзь улаўлівалася слыхам. Здавалася, што звініць само паветра. Я напружыў слых. Не, не памроілася. Гучала балалайка. Толькі глуха, як праз зямлю.

Не вытрываў, падняўся і пайшоў паўз двары. Балалайка гучала за высокім шалёвачным шчыкетам, пафарбаваным у зялёны колер.

Тут некалі жыў Блінец, а цяпер, калі яго маці Акуліна памерла, пасялілася яе малодшая сястра. Сам жа Блінец даўно ўжо жыў з сям'ёю ў Гомелі, але часам прыязджаў да цёткі ў госці.

Я зазірнуў праз шчыліну ў шчыкеце ў двор і ўбачыў лысаватага, з загарэлым тварам, у белай кашулі мужчыну. Гэта быў Блінец. Не, цяпер бы я яго так не назваў, яго цяпер трэба было называць Іванам і па бацьку. А вось як звалі яго бацьку, я так і не ведаў.

Апусціўшы галаў, ён іграў на балалайцы тыя танцы, якія навучыўся іграць яшчэ падлеткам. Іграў, відаць, на той самай балалайцы, якую некалі купіў на сэканомленыя рублі і якая цудам захавалася з таго часу. Прыехаў у госці, убачыў яе, і захацелася чалавеку ўспомніць пра тыя далёкія гады, калі мы толькі пачыналі ўсведамляць сябе ў гэтым жыцці...

Я не стаў перашкаджаць яму.

Вярнуўся назад, зноў усеўся на лавачку ля свайго двара. Сядзеў і прыслухоўваўся да тых даўніх гукаў...

Добра і звечарэла, а яны ўсё гучалі.

А можа, то ўжо былі і не яны, а толькі мае далёкія ўспаміны?

## БАРС

Ён не ведаў свайго мінулага. І таму ў яго не было прывычкі ўспамінаць што-небудзь. А пра будучыню ён наогул нічога не ўяўляў, нават не падазраваў, што яна існуе. Ён жыў так, як жылі заўсёды яго продкі, як будуць жыць яго нашчадкі. Калі хацелася спаць, спаў, калі хацелася есці, еў — калі, вядома, была ежа,— калі хацелася бегаць, бегаў, а калі хто з незнаёмых заходзіў у двор, то гірчаў, а часам і гаўкаў. Усё залежала ад настрою. А на чужых, асабліва нахабных, мог і кінуцца.

Ён нават не ведаў, што быў сабакам, бо яго ніхто так не называў. Яго называлі Барсам.

Радаслоўнай яго, вядома, ніхто не ведаў, ніхто не мог сказаць, якой ён пароды.

У яго жаўтаватай дзябёлай поўсці і моцных высокіх нагах было нешта ад еўрапейскай аўчаркі. Хвост абаранкам нагадваў хвост сібірскай лайкі, шырокія абвіслыя вушы і белая пляма на дужых шырокіх грудзях былі ад рускіх ганчакоў, магутныя шчэлепы ці не ад ваўкадава, а нораў жа, ласкавы і стрыманы, быў ад нейкай залашчанай балонкі. Адным словам, у Барса было столькі адзнак розных вядомых чалавеку парод, што ён меў поўнае права лічыцца зусім беспародным, звычайным дварняком. А разумець чалавека ён мог не горш за любога прадстаўніка самай інтэлектуальнай пароды. Толькі для гэтага яго трэба было абучыць. Але яго ніхто не абучаў. Яго і так лічылі вельмі разумным сабакам. Праўда, пра гэта сам Барс нічога не ведаў.

А гаспадароў у яго было некалькі. Але найлепш ён разумеў свайго галоўнага гаспадара Сяргея, высокага хударлявага хлопца з упартым цемнаватым чубам, бо любіў яго болей за ўсіх. Любіў за ласкавыя рукі, якія ўмелі гладзіць яго без таго болю, як у самага малога гаспадара Ігара, і без таго лоскату, як у сярэдняга гаспадара Толіка, а так мякка і шчыра, што Барс кожны раз задаволена пацягваўся, раскрываў шырока зяпу ў запятай пазяханцы, яго адразу цягнула падрамаць, паклаўшы галаву на чара-

вік свайго галоўнага гаспадара. Дарэчы, гаспадар сам хацеў гэтага, бо сядзеў спакойна і не варушыў нагою. Любіў ён свайго галоўнага гаспадара і за тое, што той кожны раз прыносіў яму есці тады, калі якраз хацелася падсілкавацца — раніцай і пад вечар. Звычайна ён кідаў яму ў шырокую паржавелую бляшанку халоднай тоўчанай бульбы, крыху палітай разведзеным малаком ці нават супам. Тады ад тае бульбы так моцна пахла нечым надзвычай смачным — Барс не ведаў, што гэта пахла зашкварaным салам,— што ў яго аж кружылася галава. Каб хутчэй заглушыць у сабе гэтае балюча трывожнае, ён хапаў на поўную зяпу бульбу, прагна глытаў яе, так прагна, што заставалася толькі дзівіцца, як ён ніколі не падавіўся ёю...

Вось і зараз, калі ўсе яго гаспадары вярнуліся дамоў, памыліся ля бочкі з вадою, што стаяла пад бярозаю ў кутку двара, і пайшлі ў хату, адтуль праз адчыненую фортку казытліва запахла вельмі смачным, тым, што елі толькі людзі. Барс ляжаў у будцы, высунуўшы галаву, часта паглядваў праз прыплюснутыя вочы на дзверы ў сенцы, адкуль павінен быў вось-вось з'явіцца галоўны гаспадар з місаю ў руках...

Вось ён нарэшце і сапраўды выйшаў. Сяргей быў у чорным гарнітуры, у чорных бліскучых чаравіках, якія пры хадзе парыпвалі і пахлі нейкім смуродам — на іх не любіў класці сваю галаву Барс,— у белай кашулі. Ён пастаяў на ганку, здаецца, глянуў на яго, Барса. Барс захваляваўся, але нічым не выдаў свайго настрою, ляжаў ціха, нават не паварушыўся, хаця вачэй не спускаў са свайго гаспадара. Ён упершыню не разумеў яго. Было ж зусім ясна, што галоўны гаспадар павінен даць есці, а ён стаіць на ганку з пустымі рукамі і толькі маўкліва глядзіць на яго. А можа, ён яшчэ вернецца ў хату і вынесе?.. Але галоўны гаспадар і не думаў вяртацца. Ён пастаяў крыху моўчкі, раптам нечага ўздыхнуў глыбока і пайшоў праз двор да веснічак, парыпваючы сваімі бліскучымі і смярдзючымі чаравікамі. Вось у фортачцы паказалася ў белай хустцы з загарэлым тварам Марфа. Барс яшчэ ведаў яе як Тарасаўну. Ён чуў, як кожную раніцу на вуліцы пад акном нейкі чалавек крычаў ёй: «Тарасаўна, сёння на лён!» Барс не любіў таго крыкуна, не адзін раз хацелася выскачыць на вуліцу, і калі не разарваць зубамі калашыну яму, дык хоць добра гіркнуць. Але ён кожны раз стрымліваўся, бо часта бачыў, як яго галоўны гаспадар сядзеў з тым крыкуном ля двара на лавачцы і гута-

рыў. Барс лічыўся з тымі людзьмі, якіх паважаў яго галоўны гаспадар.

— Ты куды гэта вырадзіўся супроць начы? — крыкнула праз фортку Марфа.—Ці мала натаміўся за дзень? Паспаў бы лепей...

— Я хутка,— адказаў Сяргей і знік за веснічкамі.

Барс яшчэ крыху паляжаў у чаканні вячэры, а потым шырока пазяхнуў, схаваўся з галавою ў будцы...

І хаця яму вельмі хацелася есці, ён нават і вокам не плюснуў, калі Марфа вынесла вядро з цестам і вытрусіла яго ў доўгае драўлянае карыта сярод двара. Барс ведаў, што яго ніколі не толькі не пусцяць да таго карыта, а яшчэ і агрэюць дубцом па загрыўку, калі сам паспрабуе падысці да яго. Але не гэта стрымлівала яго. Галоўнае, ён не любіў Марфу, хаця і выконваў, і нават ахвотна, усе яе загады, такія, напрыклад, як паганяць курэй на агародзе, сагнаць чужую скаціну з бульбоўніку, выгнаць з балота качак. І сапраўды, хіба можна любіць чалавека, калі ён робіць такія недарэчныя ўчынкі? Вось і зараз яна вынесла цэлае вядро ежы. І каму? Свінням. Брудным, лянівым, з адвіслымі жыватамі, з тупымі лычамі і маленькімі, заўсёды санлівымі вочкамі. І за што іх толькі кормяць? Яны ж нічога не робяць. Ні курэй не паганяюць, ні гаўкнуць на чужынца. Толькі і ведаюць есці і спаць. Аднойчы Барс не вытрымаў, захацеў паказаць гаспадарам, наколькі гэта бездапаможныя і непатрэбныя жывёліны, ну і хапіў аднаго парсючка за азадак — яны тады яшчэ малыя былі,— дык Марфа так агрэла яго дубцом па вушах, што з аднаго вуха аж кроў закапала. Эх, кармілі б яго так, ён кожнаму б скакаў на грудзі за дзень па некалькі разоў і лізаў твары, салёныя ад поту.

Марфа адчыніла хлеў, і адтуль, рохкаючы, выйшлі два дармаеды. Паторкалі лычамі ў цеста, потым пачалі лена, без усялякае ахвоты чаўкаць. Эх, каб яго воля, ён паказаў бы ім, як трэба есці. Ім даюць такое духмянае цеста, а яны яшчэ капаюцца ў ім. Барс іх так ненавідзеў, што потым, калі яны наядаліся і Марфа заганяла іх зноў у свінушнік і замыкала іх там — так і трэба ім, абібокам,— ён нават не варухнуўся, каб вылезці з будкі і даесці тое, што засталося ў карыце, хаця там кожны раз заставалася нямала. Трэба зусім не паважаць сябе, каб вячэраць свінячымі недаедкамі. Няхай даядаюць іх куры. У іх галовы маленькія — дзюба ды шышка,— думаць няма чым. Курыны розум!

Барс скруціўся ў клубок, засунуў нос глыбей у сена, каб не чуць паху, што ішоў ад карыта і раздражняў яго, прымусіў сябе задрамаць. Але спаў нямоцна. Чуў, як прыйшла карова — таксама, на яго думку, непатрэбная жывёліна, маўклівая, ніколі не гаўкае, але добрая тым, што есць нікому непатрэбную траву,— як даіла яе Марфа; чуў, як тая ж Марфа бразнула вядзерцам, ішла па ваду, а потым яшчэ брала ў дрывотніку дровы. Дзіўная рэч! Колькі жыве ў гэтым двары Барс, а ніяк не зможа зразумець сваіх гаспадароў. Іх столькі ў хаце, а ў двары робіць адна толькі Марфа. Ды хіба калі яшчэ выйдзе Андрэй Іванавіч пачухаць у каровы за вушамі. Ці яны там, у хаце, заняты больш патрэбнай справай?.. А потым ён яшчэ чуў, як працяжна ўздыхала карова ў хляве за сцяной — будка Барса была ля сцяны хлява,— перацірала зубамі сваю жвачку...

І толькі позна ўвечары, калі ў будку пацягнула зорным халадком, пачуліся крокі, потым бразнулі клямкай веснічкі. Барс адразу пазнаў, што гэта ішоў яго галоўны гаспадар Сяргей. Па хуткіх кроках адчувалася, што спяшаўся. Відаць, недзе ўспомніў, што не даў яму, Барсу, павячэраць, вось і бяжыць дамоў. Барс кумельгам вылецеў з будкі, на хаду абцярушваючыся ад наліплага сена, кінуўся Сяргею на грудзі, стараючыся лізнуць яму твар.

— Ну што, Барсік?.. Як ты тут, друг ты мой адзіны...— гаварыў ціха Сяргей і гладзіў яго па галаве, камячыў цёплымі ласкавымі далонямі яго падатлівыя вушы.— Адзін ты ў мяне... Каб разумеў ты словы, расказаў бы табе такое, ад чаго душа твая пахаладзела б... Гэта ж вадзіла адна мяне за нос, можа, гады чатыры. А ў кіно ці так сустрэцца, дык некалі, вучыць трэба, і ты, Сярожачка, вучы... А кончыла школу і за нашага класнага замуж выйшла. Аказваецца, у іх даўно было, ды не паказвалі нікому. А сёння бачыў, як яны ішлі па вуліцы. Я так акамянеў, што і павітацца не змог. А яна гучна засмяялася. Эх, Барсік, каб быў я на той момант табой, эх і пакусаў бы настаўніку ногі, жывога месца не пакінуў бы...

Барс, вядома, не мог зразумець, пра што яму расказваў яго галоўны гаспадар. Яму падалося, што ён шкадуе, што забыўся яму даць павячэраць — так у яго заўсёды гучаў голас, калі ён выносіў яму пад'есці са спазненнем,— і вось цяпер гаворыць, што зараз ён яго накорміць. Барс аж піскнуў ад радасці, ляпаючы па зямлі сваім хвастом-абаранкам, а потым, каб галоўнаму гаспадару не перашкаджаць,

зняў свае лапы з яго грудзей, кінуўся да ганка. Сяргей пайшоў услед за ім. Барс сядзеў перад дзвярыма і цярпліва чакаў. Сяргея доўга не было. Сабака занерваваўся, гаўкнуў, каб напомніць пра сябе. І вось выйшаў у трусах і майцы Сяргей і вывернуў яму ў бляшанку аж цэлы чыгунок тоўчанай бульбы.

Барс не якое-небудзь тупарылае парасё, адразу не сунуў сваю пысу ў бляшанку, а счакаў, пакуль яго галоўны гаспадар зачыніць дзверы, і толькі потым пачаў сілкавацца. Вылізаўшы бляшанку — Барс вызначаўся надзвычайнай акуратнасцю,— падышоў да калодкі, на якой секлі звычайна дровы, змераў яе вышыню задняю лапаю, а потым залез у будку, ямчэй улёгся, не хаваючы цяпер свой нос у сена, і хутка заснуў сваім чуйным сабачым сном.

У гэтую ноч да самага світання яго ніхто не патрывожыў. І ён бы, можа, і болей спаў, каб не дзынкнула даёнкай Марфа, якая выйшла на досвітку даіць карову. Але Барс і вухам не павёў. Ён ніколі не выскакваў з будкі ёй насустрач. І вось раптам пачуўся буркатлівы голас Марфы. Відаць, некаму скардзілася:

— Гэта ж трэба, усю бульбу аддаў гэтаму дармаеду... І на чорта ён нам, гэты сабака? Хто што ў нас украдзе? Лепей якога парсюка адкармілі б. Цярпення няма, я вось яму скажу...

Спачатку чуўся такі гук, нібы ў дождж вада сцякала са страхі і лапатала ў буйной лістоце лопуху, а потым пачуўся голас гаспадара Андрэя Іванавіча:

— Не трэба, Марфа, нічога казаць,—і закашляўся. Кашляў ён доўга, з нейкім зацяжным посвістам.— Хай спакойна едзе. Сама ведаеш, якія ў яго нервы.

— Багата волі ты даў яму,— абуралася Марфа, але ўжо спакайней.

— Пачакай, кажу, хай паедзе, тады што-небудзь прыдумаем.

Барс асаблівай увагі не звярнуў на гэтую гаворку. Ён часта чуў такое. Але звычайна гаспадыня гаварыла такое гаспадару ўвечары, калі той вяртаўся дамоў і ад яго вельмі моцна пахла нечым такім, чым пахнуць бутэлькі, што стаяць у старым кошыку на прызбе ў двары. Так што гэтая гаворка ніколькі не ўстрывожыла Барса, і ён зноў заснуў.

Спаў, пакуль не падиялося сонца і над яго вухам не задудзела тоўстая зялёная муха. Барс не бачыў яе, ён толькі чуў блізкае надакучлівае дудзенне. Нарэшце не

вытрымаў, кляцнуў зубамі паветра. Дудзенне абарвалася. Пасля гэтае падзеі сон канчаткова пакінуў яго, ды і ў будцы, нагрэтай сонцам, станавілася гарачавата. Ён вылез, лена пацягнуўся і ў гэты момант ля варот заўважыў чужога пеўня. Маланкаю кінуўся на яго і, відаць, выхапіў бы хвост, каб той не паспеў нырнуць у падваротню. Барс лёг ля дзіркі пад варотамі, каб той чужак не пранік болей у двор, ляжаў і не зводзіў вачэй з дзвярэй у сенцы. Ведаў, што вось-вось павінен выйсці яго галоўны гаспадар: пачне бегаць па двары, махаць рукамі, скакаць, падымаць абломак іржавай рэйкі. Барс не разумеў у такія хвіліны Сяргея, блізка не падыходзіў да яго, чакаў, пакуль той нарэшце перастане займацца глупствам, паспакайнее, падыдзе да бочкі, папырскае сабе вадою ў твар, на грудзі, выграцца белым доўгім рушніком, а потым скажа яму: «Ну што, друг, пачнём новы дзень?» Тады Барс і падыдзе да яго, пахлопае па зямлі хвастом-абаранкам.

Пасля гэтага галоўны гаспадар звычайна выносіў яму сняданак.

У хаце чуліся галасы, больш ажыўленыя і гучныя, чым звычайна, а праз адкрытую фортку ў акне пахла такім смачным, што ў Барса аж слінкі пачалі збірацца ў роце. І ўшчэ з большай напружанасцю і нецярплівым чаканнем ён глядзеў на дзверы ў сенцах. Вось і сапраўды выйшаў Сяргей і нешта вытрусіў з газеты ў яго бляшанку. Барс нетаропка, як і заўсёды, падышоў, але, адчуўшы, што з бляшанкі ідуць тыя ж пахі, што і з адчыненай форткі,— там былі кавалачкі падсмажанага сала з падгарэлай яечняй па краях, курыныя косці з супу,— можа, першы раз у жыцці забыўся на сваю саліднасць, прагна накінуўся на гэтую смакату.

Не паспеў ён вылізаць бляшанку, як з хаты выйшлі ўсе яго гаспадары.

Андрэй Іванавіч, як заўсёды, быў у хромавіках, зялёным галіфэ, у зялёнай гімнасцёрцы, са скураною сумкаю ў руцэ. Марфа была ў паркалёвай белай кофтачцы з кароткімі рукавамі і ў белай хустачцы. Хлопцы ж, Сяргей, Толік і Ігар, былі ўсе ў сініх вылінялых майках, у пілотках, зробленых з газет. Хто нёс біклагу з вадою, хто кошык з пранікамі, хто скамечаную посцілку.

— Ой, сынок,— сказала Марфа Сяргею,— пасядзеў бы ты дома.

— Нічога, мама, да абеду параблю,— сказаў Сяргей.

— Ой, збіраўся б лепей...— не адставала яна ад яго.

— А што мне збірацца? — Сяргей весела сказаў яму: — Барс, пайшлі! — і адчыніў веснічкі.

Барс з радасцю кінуўся на агарод і хутка зашастаў па бурачнаму бацвінню. Апошнім часам яго нікуды не вадзіў галоўны гаспадар, бо сам днямі сядзеў за сталом і ўсё глядзеў у тоўстыя кніжкі — і чаго ён там не бачыў? — і ні разу не выйшаў з ім у поле, дзе столькі цікавага, што і вачэй не хапае ўсё агледзець, і столькі розных пахаў, што ад іх аж галава туманіцца. А цяпер не толькі сам вядзе яго ў поле, а ўсёй сям'ёю выйшлі. Дзе ж тут не радавацца?

Яго гаспадары, выцягнуўшыся шнурочкам, ішлі па мяжы адзін за адным.

Барс жа бег першым, спыняўся, азіраўся, нібы правяраў, ці тою дарогаю ён бяжыць.

Калі кончыўся бульбоўнік і пачалося ржышча, Андрэй Іванавіч скіраваў па сцежцы да шляху, што вёў у суседнюю вёску Прудоўку, а ўсе пайшлі далей наўспрамкі.

Барс быў настолькі ў добрым настроі, што правёў Андрэя Іванавіча, якога лічыў зусім непатрэбным гаспадаром у двары, бо ніколі ён не калоў дроў, не насіў вады, не даіў карову, нават не рабіў такога глупства, як выносіць цеста свінням, а галоўнае, ніколі не кінуў яму нават сухой скарынкі. Ён прабег за ім аж да самага шляху, можа б, і далей пабег, але Барс не любіў, што пыл на тым шляху пахне бензінам, нейкай мазутаю, ад чаго аж дыханне перахоплівае. Наўспрамкі па ржышчы дагнаў астатніх гаспадароў і цяпер бег у іх збоку, бо пераставаў разумець не толькі іх усіх, а нават і свайго галоўнага гаспадара, на якога часта паглядваў, чакаючы ад яго якой-небудзь каманды: Сяргей ніколі не скупіўся на каманды, калі выходзіў з ім гуляць у поле.

І чым далей яны ішлі, тым болей ён не разумеў іх.

Мінулі колкае ржышча, потым пайшлі па льняным мяккім і травяністым полі, на якім часта стаялі кучкі тонкіх тугіх снапікаў з круглымі галоўкамі ўверсе: яны глуха шапацелі, калі Барс кранаў іх носам.

Вось усе спыніліся. Марфа разаслала посцілкі, хлопцы пачалі зносіць на тыя посцілкі снапікі з шапатлівымі галоўкамі. А потым усе паселі кругам, пачалі браць па снапу і мясіць па галоўках пранікамі.

Барс прылёг крыху воддаль і не зводзіў вачэй са сваіх гаспадароў. Павінны ж яны ўрэшце перастаць махаць рукамі і паклікаць яго, нешта загадаць і яму рабіць: ці абнюхаць якую мясціну, ці спудзіць баязлівую і піскляву

птушку, ці паганяць тлустага і хутканогага заііца. Не ўзялі ж яны яго ў поле толькі для таго, каб ён вось так ляжаў і глядзеў, як яны ганяюць паветра сваімі цяжкімі пранікамі. Але гаспадары і не думалі спыняцца, усё сядзелі і гэпалі пранікамі па снапах, аж гул ішоў па зямлі. Яму абрыдла назіраць за імі, і ён пачаў абнюхваць паветра. Навокал пахла цёплаю зямлёю, зялёнай травой, сухім і душнаватым водарам тугіх тонкіх снопікаў і яшчэ прывычным салёным потам гаспадароў...

Барс падняўся, агледзеўся і ціха патрухаў у другі канец поля. Не спяшаўся, усё спадзеючыся, што яго паклічуць, але на яго ніхто не звярнуў увагі. І раптам да яго дайшоў нечакана востры і вельмі рэдкі пах. Ён устрапянуўся і пабег туды, адкуль ішоў гэты пах.

У канцы льнянога поля была зялёная з высокай асакой балацянка, абараная наўкола да самае вады, якая чарнела там-сям паміж высокіх купін. З таго краю балацянкі расла трава, яна зараз была выкашана і стаяла ў невялічкай прысадзістай капіцы. Па скошанаму хадзіла некалькі цыбатых буслоў. Барс, абгінаючы балотца, памчаўся проста на птушак. Падпусціўшы сабаку зусім блізка, яны лена, без усялякае ахвоты ўзмахнулі крыламі, прабеглі на цыбатых нагах, падняліся ў паветра і нізка над зямлёю паляцелі ў бок вёскі. Барс пабег за імі, і бег, пакуль не пачаўся бульбоўнік з высокім і пераблытаным каліўем. Спыніўся, правёў позіркам птушак, якія скіравалі да высокіх таполяў, што раслі ў вёсцы ля школы і дзе было іх гняздоўе, і пабег паўз мяжу. Нечакана натрапіў на мышыныя норы. Пазабавіўся ля нор, спрабуючы раскапаць іх, але хутка кінуў гэты занятак. Узняў галаву, выглядаючы яшчэ што-небудзь цікавае ў наваколлі. Раптам падалося, нібы яго паклікалі. Абрадаваны, ён хуткімі і доўгімі скачкамі памчаўся да сваіх гаспадароў. Тыя ж усё сядзелі так, як і спачатку, і ганялі пранікамі паветра. Барсу захацелася, каб хаця галоўны гаспадар звярнуў на яго ўвагу, ён цярнуўся паўз яго ўзмакрэлую спіну, але той нават не азірнуўся. Тады Барс пакрыўджана адышоўся далей, каб не чуць гэтых глухіх і надаедлівых удараў пранікаў, улёгся ў цяньку ад кучкі льняных снопікаў, паклаў пысу на выцягнутыя лапы, заплюшчыў вочы, задрамаў.

А потым яго паклікаў Сяргей. Усе гаспадары засталіся на месцы, а ён скіраваў праз поле дамоў. Барс адразу зразумеў, куды кіруе Сяргей, і пабег першым. Пакуль той дайшоў да свайго агарода, Барс паспеў пазганяць з град

усіх курэй, а суседскага пеўня так пужнуў, што той ляцеў праз шчыкетнік, аж сыпалася пер'е.

У двары Сяргей вынес Барсу цэлую місу супу — такога яшчэ не было ніколі, каб яго кармілі сярод дня,— потым выйшаў з хаты з белым рушнікам, перакінутым цераз плячо, і нейкім пакункам у руках, адчыніў веснічкі на вуліцу, стаяў, чакаў, пакуль выскачыць з двара сабака. Барс не стаў есці ўсё да канца.

Яны звярнулі з вуліцы ў завулак, дайшлі да калгаснае фермы, абмінулі яе і наўспрамкі праз выган скіравалі да возера, што вузкаю стужкаю блішчала пад самым лесам.

Барс радаваўся такому падарожжу, кругамі бегаў вакол свайго галоўнага гаспадара, не раз спрабаваў скокнуць яму на грудзі, потым першым кінуўся да возера, прабег па беразе, паганяў зялёных жаб, якія, ад страху вырачыўшы вочы, плюхаліся ў ваду. З-пад ног узляталі ў паветра танюсенькія, з празрыстымі крыльцамі стракозы. Калі ён вярнуўся да свайго галоўнага гаспадара, той стаяў на беразе на пясчаным утаптаным грудку і раздзяваўся. Раздзеўшыся, нагнуўся, памацаў рукой ваду. Барс падумаў, што ён зараз пырскне на яго вадой, адышоўся далей, прылёг на сырую халаднаватую траву. Потым Сяргей пахадзіў па мелкаму, набраў у прыгаршчы вады і плюхнуў яе сабе на грудзі. Раптам так хутка, што Барс і ачомацца не паспеў, выставіў перад сабой рукі і боўтнуўся ў ваду. Падняліся жоўтыя пыркі, па вадзе пайшлі кругі. А галоўнага гаспадара як і не было. Барс адным скачком кінуўся ў ваду, угледзеў яго галаву з распушчанымі валасамі ледзь не ля самага зеленаватага дна, нырнуў, схапіў зубамі за валасы, ірвануўся пругкім целам уверх.

— Што ж ты, чарцяка, кусаешся? — вынырнуўшы з вады, засмяяўся Сяргей, схапіў за карак свайго выратавальніка, акунуў яго з галавою, а сам паплыў да другога берага, рассякаючы моцнымі загарэлымі рукамі жаўтаватую ваду. Барс, пераканаўшыся, што яго галоўны гаспадар добра трымаецца на вадзе, выплыў на бераг, абтрусіў з поўсці ваду, потым сядзеў і не зводзіў пільных вачэй з Сяргея, гатовы ў любую хвіліну кінуцца яму на дапамогу.

Калі вярталіся дамоў, Барс, адчуваючы, што Сяргею хочацца, каб ён далёка не адбягаў, бег побач, даючы магчымасць яму пакамячыць рукою яго мяккія вушы. Нават у вёсцы не стаў абганяць Сяргея, не пабег першым і ў двор, як рабіў звычайна раней.

Яны падышлі да двара разам.

Ля двара на лавачцы сядзеў Андрэй Іванавіч у запыленых хромавіках, стомлена прыхінуўшыся спіною да гародчыка.

— Ну што ў хату не ідзеш? — падсеў да яго Сяргей.

— А там няма нікога, дык не стаў і адмыкаць.

— Быў у бальніцы?

— Быў,— адказаў Андрэй Іванавіч.

— Ну і што?

— А што яны скажуць? Старое раненне, а можа, радыкуліт. А можа, і асколак зварухнуўся. Калі так, то трэба аперацыя.

— Калі трэба, дык трэба.

— Не так проста. Ля спіннога мозгу. Пацягні асколак, і... Што-небудзь там не так... Вось падыму вас на ногі, тады лягу на аперацыю. А то што-небудзь, матка адна не выцягне. Табе пяць гадоў вучыцца, і тых жа трэба ў людзі выводзіць. Вось пойдуць на свой хлеб, тады няхай што хочуць робяць.

— Баліць жа?..

— А як што, вам болей балець будзе...

Сяргей замаўчаў.

Барс, які ляжаў воддаль, глянуў у засяроджаны твар свайго галоўнага гаспадара і насцярожыўся. Ці не пагражае яму што? Здаецца, не. Сяргей нешта сказаў бацьку, усміхнуўся. Барс палез пад вароты ў двор. Што яму ляжаць тут ды слухаць гаворку, у якой ён усё роўна нічога не разумее? Ён кінуўся да бляшанкі, але тая была як вылізаная. Без яго тут добра папрацавалі куры. Адным вокам заглянуў у свінячае карыта. Там таксама было чысценька. Барс, крыху засмучаны, залез у будку. Ва ўсім целе адчувалася млявасць і стомленасць. Непрыкметна заснуў. І, відаць, праспаў бы да вечара, каб Сяргей не вынес яму цэлую місу цёртай бульбы. Барс здзівіўся, што яму так рана далі вячэраць, але ён не прывык адмаўляцца ад ежы, калі б яму ні падавалі...

Праз які час выйшаў Сяргей у тым жа чорным гарнітуры, у якім хадзіў некуды ўчора ўвечары, з чамаданам у руцэ. За ім — Андрэй Іванавіч, Марфа, Толік і Ігар. Усе разам выйшлі на вуліцу. Сяргей паклікаў Барса.

Усе па чарзе абнялі Сяргея, потым церлі кулакамі вочы, нібы яны ў іх запыліліся.

— Не трэба вам хадзіць, і так натаміліся. Сам дайду і сяду,— сказаў Сяргей, падняў свой чамадан і пайшоў па сцежцы.

— Пішы ж,— памахаў яму рукой Андрэй Іванавіч.

— Добра,— Сяргей азірнуўся: — Барс, пайшлі!

На станцыю можна было прайсці праз вёску Прудоўку, у якой былі сельсавет, праўленне калгаса і школа, дзе вучыўся Сяргей, а можна было і скараціць дарогу, скіраваўшы са шляху на прасёлак, які вёў на станцыю праз жытнішча. Так было бліжэй, але так можна было хадзіць толькі ў сухое лета, бо ў астатні час у нізкіх месцах трымалася вада.

Яны пайшлі па блізкай дарозе.

На станцыі перад бліскучымі рэйкамі, якія пахлі паленым вугалем і мазутам, Барс спыніўся. Ён яшчэ ніколі не пераходзіў праз іх.

— Пайшлі, Барсік!

Свой чамадан Сяргей паставіў на лаўку пад нізкім раскідзістым дрэвам у прыстанцыйным скверыку. Загадаўшы Барсу сядзець, пайшоў у шэрую драўляную будыніну з вялікімі вокнамі, аблепленую спераду рознакаляровымі плакатамі. Хутка Сяргей выйшаў, разглядаючы нейкую паперку. Схаваў яе ў кішэню пінжака, сеў на лаўку побач з чамаданам, пачаў зноў гладзіць яго, Барса, па галаве. Гэтая пяшчота так спадабалася Барсу, што ён паклаў галаву на смярдзючы чаравік свайго галоўнага гаспадара і ад асалоды заплюшчыў вочы.

Пачулася, як удалечыні загудзеў паравоз.

— Ну, Барсік, марш дамоў! — Сяргей падняўся.— Бяжы, бяжы, чаго стаіш? Каму сказана?

У голасе Сяргея прагучала раздражненасць, і Барс, апусціўшы хвост, неяк марудна пайшоў цераз рэйкі назад, але на тым баку ўсеўся і не спускаў вачэй з Сяргея, пакуль не засланілі яго доўгія зялёныя вагоны.

Вось вагоны загрукацелі, а потым марудна крануліся з месца і паплылі.

— Барсі-і-ік! — пачулася раптам праз грукат.

Барс глядзеў на зялёныя вагоны, якія, грукаючы, набіралі хуткасць, на вокны, што мільгалі і зліваліся ў адну стракатую паласу, і не мог угледзець нідзе таго, хто клікаў яго:

— Барс-і-і-ік!

Калі ж цягнік адышоў, на пероне стаяў толькі адзін чалавек у чорным гарнітуры і чырвонай шапцы, ды і той, памахваючы нечым чырвоным, кругленькім, што трымаў у руцэ, павярнуўся і пайшоў да шэрай драўлянай будыніны.

Барс зразумеў, што яго галоўнага гаспадара павезлі ў тых доўгіх зялёных хатах на калёсах, і пабег услед за цягніком. Ён бег з усяе сілы. Здавалася, вось-вось дагоніць, параўняецца з апошнім вагонам, але сілы канчаліся, а цягнік ішоў усё хутчэй і хутчэй і вось ужо зялёным вялізным чарвяком схаваўся за паваротам...

Барс прабег яшчэ крыху і спыніўся. Ён доўга сядзеў за пераездам, што быў далёка за станцыяй, глядзеў туды, дзе за сцяной густых нізкарослых елак хаваліся бліскучыя рэйкі, чакаў поезда назад. Ён ведаў, што ўсе заўсёды вяртаюцца назад, дамоў. Павінен жа калі-небудзь вярнуцца назад і гэты зялёны цягнік.

Але ён не вяртаўся. Толькі ў вечаровым змроку прагрукацеў доўгі і дымны таварняк.

А калі настала ноч, Барс прыйшоў дамоў.

Трывожна і вельмі чуйна спаў ён у гэтую ноч. Прыслухоўваўся да кожнага гуку. І Марфу пачуў не тады, калі яна грукнула дзвярыма, выходзячы даіць карову, а яшчэ ў хаце, калі яна тупала там босымі нагамі па падлозе, а потым спаласквала вадой даёнку.

Убачыўшы Барса ў будцы, Марфа сказала:

— А-а, ты тут, а я думала, збег куды...

Слоў ён, вядома, не зразумеў, але адчуў, што яна сказала нешта пра яго і сказала вельмі дрэннае. Але цяпер яму было ўсё роўна, хто што пра яго гаворыць. На яго нечакана навалілася такая абыякавасць да ўсяго, што яму не хацелася вылазіць з будкі, хаця ў ёй станавілася і гарачавата: сонца паднялося над варотамі двара і падагравала яе.

Ён не хацеў вылазіць з будкі і тады, калі яго паклікала Марфа,— а паклікала яна яго пасля таго, як выгнала з двара карову, накарміла свіней, адправіла на работу Андрэя Іванавіча. Але яго ўразіў нечакана ласкавы яе голас. Ён прагучаў нават з большай ласкай, чым голас яго галоўнага гаспадара, калі той развітваўся з ім. Вылез з-за цікаўнасці. І зусім здзівіўся, калі ўбачыў, што Марфа высыпала з вялікай белай міскі ў яго бляшанку багата ежы. І ежа была, відаць, смачная, бо казытала сваім пахам яго ноздры. Такой ежай ніколі не карміў яго нават Сяргей. Барс не кінуўся да свае бляшанкі, нават не глянуў на яе, а рабіў выгляд, што яго зацікавілі вераб'і, што таўкліся на вільчыку хаты ля коміна, і чакаў, пакуль зойдзе ў хату Марфа.

— Не хочаш, ці што? — хмыкнула гаспадыня, яшчэ крыху пастаяла і пайшла ў хату.

Барс пасядзеў, разглядаючы вераб'ёў, а потым лена падышоў да бляшанкі, панюхаў, што там было, лізнуў языком, стрымана пачаў есці піражкі, размочаныя ў малацэ.

— Барсік! — зноў прагучаў ласкавы голас Марфы. Яна пагладзіла яго па спіне, якраз так, як гэта рабіў Сяргей. Ён нават і не адчуў, калі яна накінула яму на шыю раменьчык і шчоўкнула нечым металічным.

— Ён у нас ціхі, але чужых у двор не пускае,— сказала яна некаму.

— Пайшлі, Барсік,— прагучаў незнаёмы, сіпаваты, як прастуджаны, голас.

Барс адарваўся ад бляшанкі і ўбачыў, што побач з Марфай стаіць незнаёмы чалавек, у высокіх скураных ботах, якія моцна пахлі ляснымі травамі, і ў шэрай кепцы, насунутай нізка на лоб.

— Ды хай даесць,— папрасіла яго Марфа.

Але Барс болей і не нагнуўся над сваёй бляшанкай, хаця там яшчэ нямала чаго засталося, сядзеў і, ашаломлены, паглядваў то на Марфу, то на незнаёмага.

Раптам незнаёмы дастаў з кішэні кавалачак каўбасы, кінуў яму. Барс нават не глянуў на яе, хаця ў нос яму ўдарыла такім вострым і духмяным, што ў яго аж закружылася ў галаве.

— Нічога, прывыкне,— сказала Марфа.

— Пайшлі,— незнаёмы тузануў за павадок.

— Ідзі, Барсік,— зноў голасам галоўнага гаспадара сказала Марфа.

І Барс пайшоў. Раз гаспадыня просіць так ласкава, ён не можа не паслухацца.

Можа, болей тыдня пасля таго, як яго прывялі ў вялікі двор, абнесены высокім шчыкетнікам, за якім адразу шумелі сосны, і прывязалі на цяжкі ланцуг, які з надаедлівым скрыгатам коўзаўся па напятым дроце, Барс ні на што не рэагаваў. Праўда, ад яды ён не адмаўляўся, нават еў з апетытам, тым больш што яго кармілі смачней, чым у былых гаспадароў. Давалі штодня суп, багата касцей, на якіх было што грызці. Але радасці ад гэтага не было. Яго раздражняла ўсё, што перашкаджала спакойна ляжаць і спаць. Калі залятала ў двор сарока і пачынала траскатаць ці ля двара гаспадара скрыпелі калёсы — раніцамі да двара багата пад'язджала людзей на калёсах, бывала,

што і на машынах,— ён ад злосці гаўкаў да хрыпаты, кідаўся так, што дрот, па якім коўзаўся ланцуг, напінаўся да звону.

Сон яго таксама быў неспакойны. Яго раптам пачыналі трывожыць успаміны. Яны, як жывыя, паўставалі ў памяці. Пачалі сніцца сны. Аднойчы ён убачыў у сне свайго былога галоўнага гаспадара. Сяргей стаяў на беразе возера, размахваў рукамі, потым скокнуў у ваду. Барс кінуўся ратаваць Сяргея, але ланцуг моцна тузануў яго, ён аж прыўзняўся на лапах, не разумеючы, адкуль раптам такі моцны боль ударыў яму ў шыю і працяў да самага хваста...

У тую ноч ён зразумеў, што яго раздражненасць і трывожныя сны ад таго, што яму не хапае Сяргея, яго пяшчоты.

Яму, аказваецца, было што ўспомніць. У яго з'явілася мінулае.

У тую ноч ён паспрабаваў разарваць ланцуг. Але як ні напінаў яго, як ні грыз зубамі, не мог даць рады. Зразумеў, што яго прывязалі тут надоўга, калі не назаўсёды.

Ён днямі ляжаў у будцы, успамінаў ці спаў і бачыў сны... Яго сны нават былі больш падобныя на жыццё, чым цяперашняе існаванне ў двары, абнесеным высокім штыкетнікам.

— Абдурылі, чэрці,— часам чуў ён голас свайго новага гаспадара.— Казалі, малады сабака. А ён спачатку пагаўкаў трохі, а цяпер спіць суткамі. Траячку толькі дарэмна аддаў...

Але Барс не разумеў яго слоў.

## ДЗЕД

Спачатку я часта паглядаў у акно на бясконцыя белыя далі, па якіх вецер гнаў снежныя пісягі. Вёскі і пералескі былі як у тумане. Над зямлёй віселі нізкія цёмныя хмары. Я вельмі баяўся, каб не пасыпаў снег, бо тады пачнецца такая непагадзь, што не толькі не знойдзеш дарогу, а наогул нічога не ўбачыш навокал.

У вагоне было моцна напалена. Людзей ехала небагата. Іх ціхая гамонка, частае тахканне колаў зліваліся ў аднастайны гул, і я, разамлелы ў сваім доўгім і цяжкім паліто, якое спецыяльна апрануў у дарогу, а ў вагоне пале-

наваўся распрануць, непрыкметна пачаў драмаць. Заснуць жа не ўдалося, бо цягнік часта спыняўся.

Я ехаў у вёску маіго дзяцінства і юнацтва ў адведкі да дзеда, які, як напісала мне маці, перахварэўшы на грып, вельмі аслабеў і цяпер ляжыць, не падымаецца. Я ніяк не мог уявіць свайго дзеда хворым. Як і памятаю яго, ён ніколі не хварэў — высокі, хударлявы, лысы, з кароткай белай бародкай і рыжаватымі ад тытуню вусамі. У яго заўсёды былі чырвоныя шчокі і жывыя вочы пад доўгімі, крыху абвіслымі бровамі. Ён, здавалася, з часам не мяняўся і будзе жыць вечна. І раптам такая неверагодная вестка — ляжыць, не падымаецца.

У вайну мы ўсе, мая маці, мы з Толікам, а потым, калі прыйшлі і немцы, і нявестка Екацярына Пятроўна Піваварава з сынам Алікам жылі ў дзедавай хаце. На самым пачатку вайны ў нас з'явіўся маленькі брацік Ігар, і маці цяжка было жыць з малымі ў сваёй хаце, без помачы. А сама Піваварава рабіла недзе ў райцэнтры настаўніцай, жыла ў драўляным доме, дом той згарэў ад бамбёжкі, і жанчына з малым аказалася на вуліцы. Засталася толькі карова, якая была на пашы. Яна і прыйшла да дзеда са сваёй каровай і з невялікім вузельчыкам у руках,— адзенне для сына. Перасялілася да дзеда і бабіна пляменніца Ускова Дуня з малой і хваравітай дачкой Лідкай і зусім аслабелай маці. Яе хату таксама спалілі немцы ў пачатку вайны, распаліўшы касцёр сярод двара, калі смажылі курэй. Курэй пасмажылі, а касцёр пакінулі, а вецер і давёў да канца іх злачынства. Карацей, у дзеда сабралася людзей поўная хата. Жылі цяжка, толькі што з голаду не пухлі, але мы, малыя, тады не вельмі бачылі тыя цяжкасці. Думалі, што так і трэба. Гуртам нам жылося даволі весела. Не сумавалі. Узімку мы залазілі на печ да дзеда, які любіў паляжаць на чэрані, пагрэць свой радыкуліт. Ён ляжаў галавой на мяшку з просам, якое і сушылася на печы і было за падушку, і, выставіўшы сваю бараду, пагладжваючы нашы лесвіцамі падстрыжаныя галоўкі, расказваў пра нашых бацькоў, як яны недзе ваююць, і калі мы будзем харошымі, слухацца матак сваіх і яго, дзеда, то яны хутка прыйдуць і прынясуць усім нам гасцінцы.

Мы і засыналі пад расказы дзеда, часта забыўшыся і павячэраць. Тады нас бабка накрывала радном, і мы спалі так да самае раніцы.

Дзеда мы любілі не толькі за тыя вечаровыя апавяданні, а за дабрату. Ён быў строгі, але ніколі не крыўдзіў

ні за што. Ён звычайна не шкадаваў лазіны ці трапкача, калі мы таго заслугоўвалі. Памятаю, з Алікам мы аднойчы залезлі ў слівы ў суседскі сад. І папаліся. Некалькі дзён у нас добра-такі шчымела ніжэй спіны ад вузельчыкаў, якія звычайна завязваюцца на доўгіх махрах трапкача.

Пра яго ж дабрату я даведаўся, калі ён мяне раптам пашкадаваў тады, калі, я лічыў, заслугоўваў самага строгага пакарання.

Гэта было тады, як я сам сабе пашыў чобаты. У Аліка, сына нявесткі, якая, дарэчы, нямнога пажыла ў дзеда, былі зграбныя моцныя чабоцікі на тоўстай падэшве. І я не столькі зайздросціў таму, як ён, прывязаўшы да іх снягурачкі, абганяў усіх нас, абутых у самаробныя буркі, на якіх канькі віхляліся ў бакі, а таму, што ён у тых чобатах мог хадзіць па любых калюжынах і ногі ў яго заставаліся сухія.

І вось я задумаў пашыць сабе такія ж. Тым больш што я на свае вочы бачыў, як дзед перашываў сабе разбітыя салдацкія чобаты, і гэтая работа мне не здавалася занадта складанай. Аднойчы, калі дзед паехаў у лес па дровы, я ў каморы ў старой скрыне, дзе хаваўся абутак, які ўжо адслужыў сваё, знайшоў халяўкі ад старых храмавікоў з прышытымі і парэпанымі, але без дзірак, перадамі, узяў два кавалкі тоўстай жоўтай скуры, якія дзед хаваў за іконамі, і, прымасціўшыся ў дрывотніку ля маленькага акенца, пачаў майстраваць сабе абутак. Я дратвай прышыў заднікі, потым нацягнуў на капыл свае нарыхтоўкі, падлажыў сцельку з ялавых халяў ад старых таксама ботаў, выразаў са скуры падэшвы па патрэбным памеры і прыбіў іх. Каб хутчэй, я падбіваў падэшвы не драўлянымі шпількамі, якія дзед рабіў з сухіх бярозавых крэглікаў, а цвікамі. А каб не здагадаўся дзед у першую чаргу, што я ўзяў новую скуру на падэшвы, я прыбіў падэшвы бліскучым бокам усярэдзіну. А валахатую паверхню падэшваў яшчэ ўзяў і пацёр зямлёю, каб скура была як старая. Забіўшы апошні цвік, ад радасці, што я сам сабе пашыў чобаты, я забыўся іх і памераць, а пабег у хату, каб усім хутчэй пахваліцца. Спачатку ніхто нічога не зразумеў. Мая маці з цікавасцю разглядала тое, што я ўнёс і што, па маё перакананне, было чобатамі. Здагадаўшыся, што яна трымала ў руках, папрасіла мяне памераць абутак. Адзін чобат аказаўся велікаваты, а другі нават і блізка не ўзлазіў на нагу. Я і да гэтага часу не магу зразумець, чаму так атры-

малася. Капылы ж я не мог пераблытаць, бо яны былі пазвязваны папарна. Пасля такой няўдачы я залез на печ, плакаў ад крыўды, а потым доўга яшчэ ляжаў, прыслухоўваўся, што пра мяне гаварылі.

Чуў, як увайшоў у хату дзед, як яму ўсё расказалі і як ён пасля некаторага маўчання сказаў, што мяне, пранцаватае дзіцё, забіць мала, бо я сапсаваў падэшвы, якія ён хаваў яшчэ з даваеннага часу і якія цяпер нідзе ні за якія грошы не купіш. Я ляжаў і не дыхаў, прыслухоўваўся, якое пакаранне мне рыхтуецца. Але на мяне нібы забыліся. З печы я злез толькі тады, калі мяне паклікалі вячэраць. Нечакана для ўсіх, асабліва для маёй маці, якую вельмі засмучаў мой учынак, дзед пахваліў мяне, пашкадаваў толькі, што я не параіўся з ім, тады б не нарабіў столькі памылак і чобаты атрымаліся б што трэба.

А потым мы разам з дзедам перараблялі іх, і яшчэ атрымаўся абутак на славу, не горшы, чым у таго Аліка. Я адхадзіў у тых чобатах усю акупацыю, пакуль і нашы войскі не вярнуліся. «Даваенны тавар» — часам толькі ўздыхаў дзед...

Вагон моцна калыхнула на стрэлках. Пад'язджалі да станцыі Цярэшкі. Я паспяшыў да дзвярэй, каб першаму саскочыць з вагона, паглядзець, хто ідзе ў мой бок. Сышло некалькі чалавек. Я пакрочыў за імі. У Прудоўцы наш гурт растаў — усе пастунова разышліся па сваіх хатах. А мне трэба было яшчэ ісці кіламетры тры, у Ягадную. Адзін пускацца ў такую дарогу баяўся. Я заглянуў у сельсавет, спадзеючыся застаць там свайго бацьку, які калі не адправіць мяне ў вёску якім транспартам зараз, дык з якім, можа, потым разам паедзем дамоў. Але сакратарка сказала, што Андрэя Іванавіча паклікалі ў райфо і што ён, відаць, сёння ўжо не прыйдзе, параіла зайсці ў праўленне калгаса, маўляў, там, можа, хто будзе з брыгады ці хто збіраецца ехаць туды.

— Так,— сказаў, выслухаўшы мяне, бухгалтар, малады хлопец у вельветавай куртцы з вялікімі кішэнямі на грудзях, у якіх тырчэлі блакноцік і аўтаручка.— Шкада, што не падышлі раней. Старшыня паехаў у вашу брыгаду...

— А можа ж, Цімох Паракалёс яшчэ не паехаў? — спытала жанчына, што безупынку ляпала на лічыльніках.

— Во! Як гэта мы забылі! — абрадаваўся бухгалтар.— Ідзі, ён недзе ля склада. Дарэчы, вазьмі пісьмо твайму

дзеду, нехта прыслаў на кантору. Усё забываюся твайму бацьку аддаць.

Ля склада стаялі запрэжаныя коні. Цімох Паракалёс афармляў нейкія паперы з кладаўшчыком. Раней гэта быў высокі чырванатвары дзед. Ён ніколі не насіў барады. Цяпер жа яго твар здрабнеў і нібы пакрыўся ўвесь рэдзенькім мохам, і ўвесь ён неяк змізарнеў, усохся, што яго традыцыйны кажушок, падпяразаны ці не путам, вісеў на ім, як на калу. А яго латаныя і пералатаныя валёнкі выдавалі шыракаватымі на яго ўтанчэлых нагах.

Я памог Цімоху пагрузіць мяшкі з мукой. Потым ён сказаў мне ўсаджвацца на мяшок, разгроб сена і прыкрыў ім мае ногі па самыя калені.

— А то ў гэтых чаравіках ногі акалеюць,— і сам усеўся побач са мной, таргануў лейцамі, нокнуў.

Вецер дзьмуў нам у плечы. Цімох аслабаніў лейцы і не падганяў каня. А конь тупаў і тупаў, відаць, не раз прайшоў па гэтай дарозе, добра ведаў яе, знаходзіў яе і там, дзе яна зусім была засыпана снегам.

— Цікава, хто ж гэта напісаў твайму дзеду на кантору? — спытаў Цімох, калі я сказаў яму пра пісьмо: ехаць моўчкі было нудна.

— Нейкая Піваварава,— я зусім на той час ужо забыў прозвішча дзедавай нявесткі.

— Піваварава?.. Ці не дачка гэта тых Піваваравых, што да вайны жылі ў райцэнтры ля бойні? Відаць, яна. Бо ў нашых мясцінах я больш Піваваравых не ведаю. Калі гэта тая самая Піваварава, дык я яе ведаю. Але чаго ёй раптам прыспічыла пісаць? Што ёй ад старога трэба?

— А хто яна такая?

— Нявестка твайго дзеда. За дзядзькам тваім Пілінам была. Я яго памятаю. Ён з вайны не вярнуўся. Да вайны працаваў дырэктарам школы ў райцэнтры. Яго перад вайной у армію забралі. А яна, гэтая Піваварава, як прыйшлі немцы, да твайго дзеда прыехала з малым. У вайну ўсе да бацькоў з'язджаліся. У кучы яно смялей было.

— Я крыху памятаю яе. У яе быў яшчэ сын Алік. Але яна доўга ў дзеда не пажыла, некуды паехала...— сказаў я.

— Не ведаю, як звалі яе сына, можа, і Алікам, як ты кажаш,— стары дастаў пачак папярос, закурыў,— але, праўда, яна нядоўга пажыла ў твайго дзеда, каб яна зусім не прыязджала. Наварыла яна тады піва, гэтая Піваварава. А цяпер піша... Відаць, не саладка жывецца, што пі-

ша. Можа, зноў прыпякло. Такія сцервы ўспамінаюць сваіх блізкіх, як толькі хвасты ім прыжмуць...

— І памятаю, як яна ад'язджала, дзед прасіў, каб унука пакінула. Але яна ўзяла Аліка з сабой.

— Ого, яна пакіне!..— Цімох зацягнуўся, але папяроса патухла, ён пацмокаў яе ды і выплюнуў.— Яна ж, гэтая Піваварава, як прыйшла жыць да дзеда, дык і карову прывяла сваю. Карова была што трэба. Дырэктара школы карова! У твайго дзеда таксама была карова. Толькі горшая. Па тым часе дзве жывёліны трымаць у адным двары было цяжка. Дзедаву карову прырэзалі, а пакінулі лепшую. Я яшчэ памагаў твайму дзеду лупіць яе, дык памятаю... Сама Піваварава так захацела, маўляў, жывём жа адной сям'ёй. А калі ад'елася гаўяды, дык ёй, бачыце, замуж захацелася. А ў нас тады валасным старастам быў адзін з нашых палонных. Здраднік, вядома. Мужчына, праўда, быў відны. Высокі, шыракаплечы, з маленькімі вусікамі, як у Гітлера. Заўсёды хадзіў з шомпалам у руцэ. А на баку наган вісеў. Я неяк перад ім шапку не зняў,— бачыш, адвык пры Савецкай уладзе перад начальствам шапку здымаць,— дык ён, гад, шомпалам як апяразаў мяне па спіне, тыдзень касу ў рукі не мог узяць. І цяпер, як у лазні напаруся, след ад таго шомпала відаць. Дык вось гэты бык і пачаў заляцацца да Піваваравай. Быў час, не ўсе верылі, што нашы вернуцца, можа, і Піваварава не верыла, толькі яна пайшла жыць да таго старасты. Вядома, твайму дзеду крыўдна было. Мы, суседзі, таксама ўзненавідзелі яе. Ну пайшла ўжо — добра, ідзі, кабыла такая, але навошта было крыўдзіць маленькіх? Вас, малых, багата ў дзеда жыло. І ўсе такія, што не дай малака, і жыць не будуць. Тады ўся яда была, што малако. Курэй немцы паелі, свіней паліцэйскія пазабіралі. Каровы таксама не ва ўсіх былі, але былі. Вядома, гэтай Піваваравай стараста мог прывесці і не адну карову. Пі сырадой, пакуль не лопнеш. Дык не, ёй давай яе карову. Ды каб яшчэ па-людску яна яе забрала. А то як злодзей які. Ведама, сумленне нячыстае. Перахапіла яе ў полі і завяла да сябе. Увечары твая баба выйшла сустракаць карову, тут і дзеці бегаюць, чакаюць, значыцца, малака, а каровы няма... Цяжкая тады была зіма. Нехта ў вас з малых і памёр...

— Лідка. Усковай Дуні дачка.

— А чаму памерла,— працягваў Цімох.— Перахварэла якраз вельмі, аслабела. Падтрымаць бы яе, ды няма чым. Расолам капусным? Чаем без цукру? Солі не хапала. Не

хочацца і ўспамінаць. Не дай бог, як кажуць, перажыць яшчэ такое!

І я ўспомніў, як хавалі Лідку. Ёй, здаецца, тады было недзе каля чатырох гадоў. Якая яна была знешне, успомніць ніяк не мог. Памятаю, што была вельмі худая і маленькая. Ляжала на палку ля печы — гэта ўжо калі хварэла. Памятаю, як на санях стаяла яе маленькая труна, а мы ўсе малыя, ухутаныя хто ў што, сядзелі вакол. Над труной плакала Лідаччына мама. Яна не плакала, а нібы нараспеў выгаворвала: «А ты ж так хацела сукенку з кветачка-а-амі-і, а ты ж прасіла малачка-а-а. А ты ж мая кравіначка-а-а-а...» І гэта ўсё прыглушана ціха, без слёз, а таму яшчэ болей жудасна і страшна было слухаць яе. А наш дзед ішоў побач з санямі, па цаліку, правальваючыся ў снег, кіраваў канём. Калі незнаёмыя мне дзядзькі засыпалі магілку, дзед стаяў і плакаў, і слёзы замярзалі на барадзе. А потым, прыехаўшы дамоў, мы адаграваліся на печы і чакалі, пакуль прыгатуюць нам цуру з чорнага хлеба і вады.

— А пасля таго, як прыйшлі нашы, Піваварава засталася адна. Старасту, яе мужа, застрэлілі нашы, партызаны. Хату яго спалілі самі немцы. Усе вёскі яны тады папалілі. Людзі жылі ў зямлянках. Кажуць, што яна прыходзіла пасля вайны да твайго дзеда прасіцца ў сям'ю, дзед не пусціў. Яна яшчэ які час жыла ў нашай вёсцы, можа, год, а то і меней. Муж яе з арміі так і не вярнуўся. Ці пасля таго, як яна даведалася пра мужа, ці пасля таго, як ёй забаранілі выкладаць у школе, толькі яна некуды з'ехала з сынам... І вось напісала. Чаго ўжо пісаць, вярэдзіць старыя раны?

— Можа, дзеду і не паказваць пісьмо? — спытаў я.— Ён і так хворы...

— Паказаць трэба,— разважыў Цімох.— Можа, што пра мужа даведалася. А што? Можа, дзе ў палоне, жыве за мяжой? Кажуць, што яшчэ адтуль вяртаюцца. Ды і пра ўнука дзеду цікава пачуць будзе. Унук усё ж, як ні кажы... Ад успамінаў твайму дзеду горш не стане.

— Няўжо ён такі слабы?

— Слабы, казалі. Наўрад ці падымецца... А быў жа крэпкі яшчэ дзед. Мог бы жыць ды жыць. А ўсё праз гэты грып. Каб жа ён яго вылежаў. А то ўсё на нагах і на нагах. Ваду насіць, сена карове... А грып не любіць, калі яго на нагах пераходзіш. Нам жа ўсё мала. Робім, пакуль не звалімся. Дурныя людзі...

Праз густы снег паказалася крайняя хата. Конь пайшоў весялей. Пацішэла — уехалі ў вуліцу. Цімох скіраваў да невялічкай драўлянай хаты. Перад хатай стаяла вялізная таполя, яна раскідала сваё голле высока над вільчыкам. Вецер жаласна стагнаў у яе верхавіне. Снегу ў двары насыпала па самыя вокны. Ад сянец, дрывотніка і ў хлеў — глыбокія траншэі.

— Вас тут яшчэ не засыпала? — першае, што я сказаў, калі зайшоў у хату.

Варвара Мацвееўна драмала на палку ля печы. Яна паднялася, паглядзела на мяне, потым падхапілася, чамусьці выцерла рукі аб фартух, без якога, як і памятаю, ніколі яе не бачыў, прыхінула мяне да сябе, усхліпнула, а потым засыпала бясконцымі пытаннямі:

— Ну як там жывеш? Вучышся? Не ажаніўся яшчэ? А есці хочаш? У мяне боршч, і каша, і ўзвар ёсць...

— А як вы тут? Як дома? А то не заходзіў дамоў, адразу да вас,— я расшпіліў паліто, прысеў на табурэтку ля стала.

— Ды слава богу... Але старыя, сіл тых ужо няма. Твой бацька ўчора заходзіў, таксама скардзіўся на свае раны... Ігарок, твой брацік, забягае часта. Не забывае. Маці твая адведвае таксама... Вось дзед зусім наш няважны...

Тарас Канстанцінавіч ляжаў у светлай хаце на ложку, ля глухой сцяны. Толькі бадзёра тырчала ўверх яго павастрэўшая бародка, а пад коўдрай дык як і няма нічога, такі ён стаў высахлы і маленькі.

Ён падаў мне худую вільготную руку.

— Прыехаў...— ціха сказаў ён.— Трэба было ехаць у такую непагадзь.

— Ды нічога. Мяне Цімох да самага двара прывёз,— я адразу заўважыў, што яму нялёгка гаварыць, замаўчаў, а потым спытаў у бабы: — Як тут цёткі? Вольга піша?

— Пісала яшчэ ўвосень. Замуж выйшла. Сын расце. Ну, а Ніна адна засталася. Пятро яе...

— Ведаю, маці пісала...

— Ну, дзе ты цяпер? — пацікавіўся дзед.— Усё вучышся?

— У аспірантуры.

— А што гэта такое?

— Ну пасля інстытута. Яшчэ тры гады вучыцца.

— А пасля?

— Работа. У навуцы ці дзе ў інстытуце лекцыі буду студэнтам чытаць...

— Цяжка,— пасля некаторага маўчання сказаў дзед.

— Чаму? — не зразумеў я яго.

— Усё жыццё думаць...

— Людзі ж працуюць і жывуць, і нямала жывуць. Ёсць вучоныя па дзевяноста гадоў.

— Я не пра гэта...— дзед глянуў на мяне.— Багата вельмі вучацца цяпер. Усе вучоныя.

— Трэба і вучоныя.

— Пагляджу, у вёсцы мала застаецца. Калі так пойдзе... Я ўсё жыццё хлеб вырошчваў... А цяпер усіх думаць цягне. А калі ўсе пачнуць думаць, не ведаю... Вось ты пайшоў, Толік ваш з'ехаў таксама, меншы хоча вучыцца. І ўсе маладыя. Вы там пра ўсё думаеце, падумайце і пра гэта... Каб позна не было потым. Калі ўжо нічога не прыдумаеш...

Старая, відаць, заўважыла, што дзед пачаў залішне хвалявацца, перапыніла яго гаворку.

— Што ты распачаў тут? Хлопец з дарогі, можа, есці хоча? Сяргей, можа б, сапраўды паабедаў?

— Дзякую,— адмовіўся я.— Не клапаціцеся. Дома паабедаю.

Памаўчалі.

— Тут вось пісьмо вам, мне аддалі ў праўленні калгаса,— я дастаў з кішэні паліто канверт.

— Можа, ад Вольгі? — спытала баба.— Даўно ад яе не было.

— Чаго б гэта Вольга пісала на праўленне? — запярэчыў дзед.

— Піваварава піша,— сказаў я.

Дзед сцяў вусны, барада, падалося, неяк натапырылася. Баба дапытліва паглядвала на старога.

— Прачытай,— папрасіў дзед.— А то мае вочы...

Я разарваў канверт і вось што прачытаў на двайным аркушы паперы з вучнёўскага сшытка:

— «Добры дзень, Тарас Канстанцінавіч і Варвара Мацвееўна! Не ведаю, дзе вы, што з вамі, а таму пішу на праўленне калгаса. Спадзяюся, што вы жывы і здаровы, і што маё пісьмо знойдзе вас, і што вы адгукнецеся на мой голас, хаця ў свой час я вас вельмі пакрыўдзіла. Я цяпер, як ніколі, разумею гэта, а таму іменна зараз і хачу, каб вы даравалі мне. Адразу ж пасля вайны, калі я засталася адна, прыйшла да вас, вы тады не сумелі дараваць мне і вельмі правільна зрабілі. Я тады паехала ў Віцебскую вобласць і там уладкавалася

выхавацелькай у дзіцячым доме. Я рабіла ўсё, каб дзеці ў нашым доме не адчувалі сябе сіротамі. А хутка выйшла замуж за ваеннага. У яго было чацвёра дзяцей, а іх маці, партызанскую сувязную, павесілі фашысты. Дзеці ўжо параслі, жывуць самастойна. Алік, ваш унук, закончыў авіяцыйнае вучылішча, цяпер ваенны лётчык. Ажаніўся. У яго дачка і сын. Я з мужам развялася. Парасціла яму дзяцей, і хопіць. Цяпер я адна, мне месяц застаўся да пенсіі... Хачу шчыра сказаць, што я ніколі не забывала Піліпа, вашага сына, свайго першага мужа. Калі была я шчаслівая ў сваім жыцці, дык гэта толькі з вашым сынам. А ўсё, што было потым, гэта было зусім не тое... Тады, пры немцах, я падумала, што нашы ніколі не вернуцца і загіне мая маладосць. Якая я дурная была! Я і цяпер не магу дараваць сабе гэтага і ніколі не дарую. Як я ні старалася рабіць добрае для дзяцей, віна не пакідае мяне, а з гадамі толькі мацнее. Каб я ведала, дзе магіла майго мужа, а вашага сына, я паехала б туды. Купіла б у той мясцовасці хату і дажывала там жыццё. Самыя шчаслівыя, самыя радасныя дні былі тыя, калі мы з Піліпам жылі ў вас. Я старая жанчына, мне, можа, нядоўга засталося жыць. І я хачу тыя дні, што засталіся мне, пражыць там, дзе прайшла мая маладосць, дзе я была па-сапраўднаму шчаслівая. Калі вы не супраць, я прыеду ў вашу вёску, куплю якую хату, у мяне і грошы ёсць, спецыяльна ж збірала. Прашу вас напісаць мне. Ваша згода будзе адзначаць, што вы даравалі мне, а значыць, дараваў і мой муж...

Я вельмі чакаю ад вас адказу. Хочацца вас абняць, але не ведаю, ці дазволіце вы мне зрабіць гэта...»

— Ёсць жа бог на свеце,— усхліпнула старая.

Дзед доўга маўчаў, гледзячы некуды ў столь. Здавалася, пісьмо не зрабіла на яго ніякага ўражання.

— Ты памятаеш Лідку? — спытаў ён.

— Памятаю,— адказаў я.— Добра памятаю.

— Ну добра,— дзед замаўчаў.

Я зразумеў, што ён хацеў сказаць.

— Дык, можа, Сяргейка, хоць узвару вып'еш? — прапанавала бабуля.

— Дзякую, узвару вып'ю,— пагадзіўся я.

— Заходзь жа,— праводзіла старая мяне да дзвярэй.

— Абавязкова. Дома пабуду і прыйду,— паабяцаў я і выйшаў, не развітваючыся.

## ЖАНІЦЬБА

Толік узяў дэталь, бліскучую, крыху гарачую, агледзеў яе з усіх бакоў, абмераў і паклаў у металічную скрынку, дзе ўжо ляжала некалькі якраз такіх жа. Палюбаваўся. Каля месяца ён рабіў самастойна, але ўсё яшчэ не мог прывыкнуць, што гэта ён сваімі рукамі стварае такое, захапляўся кожнай новай дэталлю так, нібы зрабіў яе ўпершыню.

Адчуўшы нечы ўпарты позірк, азірнуўся. Праз тры станкі ад яго працавала Каця. Сустрэўся з позіркам зіхатлівых вачэй дзяўчыны. У парку ці за горадам у полі, куды яны часта хадзілі, ён бачыў яе ўсю, невысокую, танклявую, з цяжкім вузлом, як у бабулькі, на патыліцы, а тут, у цэху, калі яна апранала чорны крыху вялікаваты халат, валасы хавала пад шэрай хустачкай, яна нібы знікала сама, а заставаліся толькі яе вочы, якія на яе смуглявым твары ў прыцемненым цэху станавіліся яшчэ цямнейшымі і глыбейшымі. І ззялі зырчэй.

Новая хваля радасці захлынула яго, ён усміхнуўся дзяўчыне ў адказ і, шчаслівы, нахіліўся над станком, замацоўваючы новую загатоўку. Націснуў на кнопку, і станок не загудзеў, а, здавалася, заспяваў...

— Таварыш Кравец,— раптам лягла на плячо цяжкая і мулкая рука. Азірнуўся. Ля яго стаяў брыгадзір.— Цябе запрашаюць у камітэт камсамола. Зараз.

Сакратар камітэта камсамола, нібы ўчарашні дзесяцікласнік, такі маладзенькі, у блакітным гарнітурчыку, у асляпляльна-белай нейлонавай сарочцы, якія тады толькі сталі з'яўляцца ў продажы, у светла-сінім гальштучку, быў такі далікатненькі, акуратненькі, што Толіку аж няёмка стала за свой чорны, хаця яшчэ і новы, камбінезон, і ён, пашкадаваўшы, што не пераадзеўся, нясмела спыніўся ў парозе.

— Вы Анатоль Кравец? Цудоўна, цудоўна! — прыязна ўсміхаючыся, выйшаў яму насустрач сакратар, падаў руку, запрасіў садзіцца, а сам усеўся зноў на сваё месца за сталом. Весела глянуў на Толіка.— Ну, як яно?

— Нічога яно,— пацінуў плячыма Толік, не разумеючы, пра што пытаецца сакратар.

— Ну, добра, што нічога,— на твары сакратара з'явілася заклапочанасць. Ён задумаўся, выцягнуў трубачкай губы, памуляў імі, нібы яны ў яго самлелі. Губы пабялелі, а потым зноў наліліся маладой чырванню.— Ёсць да вас

справа, таварыш Кравец. Дарэчы, як у вас з Кацяй Зязюлькай?

— Што — як? — пачырванеў Толік.

— Можна і не гаварыць,— зноў усміхнуўся сакратар.— Па вас відаць, што нармальна. Значыцца, справа такая. Вы, відаць, слухаеце радыё, чытаеце камсамольскія газеты і, магчыма, звярнулі ўвагу, што зараз надаецца вялікае значэнне новым нашым звычаям, савецкім звычаям, савецкім абрадам. Можа, чыталі пра камсамольскія вяселлі? Гэта адна з новых дзейсных форм выхавання моладзі, далейшага ўмацавання маладой савецкай сям'і. На некаторых прадпрыемствах горада такія вяселлі былі. Мы пакуль што ў гэтым пытанні адсталі. Нам у інстанцыях зрабілі заўвагу. І вось мы тут у камітэце думалі, каму б наладзіць камсамольскае вяселле. Раіліся з камсоргамі цэхаў... Цяпер вы, Анатоль, відаць, здагадваецеся, чаго вас сюды запрасілі.

— І не думаў пра жаніцьбу,— прызнаўся Толік.

— Мы заўсёды жэнімся, не думаючы,— усміхнуўся сакратар.— Дык вось. Вы хаця і нядоўга на нашым заводзе, але працуеце добра. Як казалі вашы таварышы, стараецеся. А гэта галоўнае. Вопыт і майстэрства прыйдуць з часам. А яна наогул лепшы токар цэха. Яе выбіралі дэлегатам на абласную камсамольскую канферэнцыю. Перавыконвае план штомесячна. Удзельнічае ў мастацкай самадзейнасці. З дзіцячага дома. Хацелася б, каб яна адчула клопат таварышаў, усяго нашага камсамольскага калектыву. Усіх нас.

— Прабачце, вы пра каго?

— Пра Кацю Зязюльку.

— А чаму пра яе?

— Як — чаму? Вас бачылі разам. Усе гавораць...

— А калі не яна?

— А хто? — сакратар расчаравана глянуў на Толіка, узяў аловак, відаць, для таго, каб запісаць прозвішча, якое зараз пачуе.

— Я падумаю,— сказаў Толік.

— З кім жаніцца? — насмешліва спытаў сакратар.

— Не,— падняўся Толік, крыху абражаны гэтай насмешлівай інтанацыяй.— Наогул. Ці рабіць вяселле.

— Пачакай,— сакратар спыніў Толіка ў дзвярах,— не спяшайся. Садзіся, паслухай... Чаго тут думаць, калі ёсць нявеста? Рана ці позна ўсё роўна трэба жаніцца. А так — першае камсамольскае вяселле на заводзе. Гэта гонар, я

табе скажу. Увага грамадскасці і ўсё такое. І матэрыяльная дапамога, магчыма. Будзе і кватэра. Праўда, перад дырэкцыяй мы яшчэ не ставілі гэтае пытанне, але, думаю, адміністрацыя пойдзе нам насустрач. Можа, адразу кватэры і не будзе, але ў першым жа заводскім доме... Ды не гэта галоўнае, вядома. А каб потым без усялякіх фігляўмігляў. На ўсё жыццё. Каб, значыцца, давер камсамола быў апраўданы. Так што вы падумайце...

— Добра, я падумаю,— і Толік выйшаў.

Калі ён праз цэх вяртаўся да свайго станка, то толькі мелькам глянуў на Кацю і адразу ж сустрэў яе вясёлы пагляд — падалося, што яна з нецярпеннем чакала Толіка. Можа, ведала, куды і чаго яго выклікалі. Толік пашкадаваў, што не спытаўся ў сакратара камітэта камсамола, ці не гаварылі з ёй. Хаця якое гэта мае значэнне? Ну, хадзілі разам у кіно, на танцы, у поле за горад. Ну і што? Гэта яшчэ нічога не значыць. Ён нічога ёй не абяцаў, ды яны ні разу і не гаварылі не толькі пра жаніцьбу, а нават пра свае пачуцці. Ёй жа проста немагчыма гаварыць пра гэта. Яна зусім не такая, як усе.

Пазнаёміўся Толік з ёю ў першы ж дзень, як прыйшоў у цэх. Майстар папрасіў Кацю паказаць хлопцу цэх, расказаць пра завод. Яны тады ледзь не дзве гадзіны прахадзілі па цэху, і за тыя дзве гадзіны яна ўмудрылася ні слова не сказаць пра яго, Толікаву, будучую работу, а ўсё расказвала і паказвала, які ў іх прасторны цэх, якія кветкі растуць у цэху, якія прыгожыя і ўтульныя скверыкі на тэрыторыі завода...

— Уяўляю, колькі б мы прахадзілі, каб вас папрасілі расказаць пра горад,— упікнуў ён дзяўчыну на развітанне.

— На горад я люблю глядзець з поля і на змярканні,— зусім сур'ёзна сказала яна.

— Дык, можа, калі паглядзім? — спытаў Толік. Нечым дзяўчына прываблівала яго.

— Можна.

Але Толік забыўся пра тую гаворку і толькі пазней, пасля змены, сутыкнуўшыся з дзяўчынай ля прахадной, пацікавіўся:

— Можа, вы стрымаеце сваё слова? Пакажаце горад... з поля?

У той жа вечар яны прыгарадным аўтобусам выехалі за горад. Вылезлі на першым жа прыпынку. Ля шашы стаяў хваёвы лес. Сонца не было відаць, недзе якраз садзілася за лесам, толькі ўдалечыні, на ўзгорку, слюдой блі-

шчала шаша, але хутка, прама на вачах, і яна згасла, а на небасхіле запалымнела жоўтая палоска.

Толік упершыню аказаўся тут. Ён нават не ведаў, у якім баку быў горад.

— Ну, пайшлі,— яна першай перасекла шашу, пераскочыла праз канаву, парослую дзябёлай асакой.

Адразу за канавай зямлю пакрывалі густыя верасы. У лесе пахла жывіцай, нагрэтай за дзень хвояй. Трэскаліся пад нагамі перасохлыя сучкі. Рэдкія бярозкі, якія тамсям бялелі сярод шэрых ствалоў соснаў, сцішыліся ў знямозе.

Лес раптоўна скончыўся. Вачам адкрылася зялёнае поле, удалечыні якога, у нізіне, сярод нізкарослых лазнякоў, заводзіўся рэдзенькі туман. З поля дыхнула вечаровым халадком.

— Ой, як хораша тут,— спынілася Каця, нібы чакала, пакуль падыдзе Толік. У лесе ён знарок ішоў услед за дзяўчынай, любаваўся яе імклівай стромкай постаццю.

— Тут хоць ёсць чым дыхаць,— спыніўся ля дзяўчыны, углядаючыся ў далёкія абрысы горада, што цямнелі на гарызонце, падумаў: «Анічога сабе заехалі...»

— Я не пра гэта,— усміхнулася яна.— Ты паглядзі, якія фарбы. Такіх ніколі няма. Нават на досвітку. На досвітку, як толькі сонца з'есць туман, яны адразу ж такія, як і ўдзень. Ну, вядома, чысцейшыя, не засмужаныя гарачынёй. А цяпер жа яны ледзь улоўныя, зменлівыя і кожны вечар розныя.

У той вечар Толік занава адкрываў для сябе свет. Да гэтага для яго раніца была толькі светлай і роснай, дзень — сонечным ці хмарным, а вечар — заўсёды шэрым.

Цяпер жа ён нібы глянуў на ўсё не сваімі вачыма, а праз рознакаляровыя шкельцы. І шкельцаў тых было безліч.

Зялёнае поле спачатку яшчэ болей пазелянела, нібы хто змыў з яго дзённы пыл ці абнавіў фарбу. Потым туман, выпаўзаючы з лазнякоў зыбкімі кволымі палоскамі, запаўняў разбаўленым малаком нізіны. Узлобкі пасівелі, на іх лягла раса. На шашы, якая была цяпер ад іх далёка ўбаку, замігцелі фарамі машыны. Паветра хутка пашарэла, і толькі неба заставалася светлым ды ружовым гарэлі воблачкі. Захад шырока чырванеў, а потым тое чырвонае спадала, згасалі і воблачкі, і хутка на небе вытыркнуліся першыя зоркі. Удалечыні затрымцеў першымі агнямі горад, якія, здавалася, зманліва blішчалі зусім блізка. Узы-

шоў месяц і адбіўся ў расе пацямнелага поля, і яно раптам пасвятлела, нібы пакрылася ссівелым інеем.

Толіку падабалася быць у полі, але толькі таму, што побач была Каця. Адзін ён нізашто не стаў бы мераць нагамі гэтае бясконцае поле, калі амаль побач шаша з імклівымі аўтобусамі. А Каця ж, аказваецца, ездзіла за горад адна. Ездзіла даволі часта. І не толькі для таго, каб палюбавацца зменлівымі вечаровымі фарбамі.

— Ведаеш,— нейк прызналася яна яму,— калі падвячоркам я вяртаюся з поля ў горад, мне здаецца, што вось-вось адбудзецца нешта вельмі радаснае, што я ўспомню сваю маці. Я была маленькая, калі яе не стала. Бачыла толькі на фотаздымках. А якая яна была ў жыцці, не ведаю. А вось у полі мне здаецца, што раптам яе ўспомню... Можа, таму мяне і цягне ў поле. Тыдзень не пабуду, дык сама не свая. Не ведаю, куды дзецца. З'езджу, пахаджу, натамлюся, паспакайнею. Я падумала нават, што, магчыма, у раннім дзяцінстве такой вось вечаровай парой я вярталася аднекуль з маці дамоў. Бачыла поле, горад з яго агнямі, бачыла, але не ўсведамляла яшчэ нічога тады. І мне было добра на руках у маці. Вось яно і запала ў дзіцячую памяць, засталося ў душы. І цяпер, магчыма, толькі адчуваю ўсё тое, а ўспомніць не магу. Можа быць, пад старасць успомню. Пад старасць дзяцінства добра ўспамінаецца. Нават вельмі ранняе. Можа, і так. Мы жылі ў невялікім гарадку на Дняпры. А дзед мой жыў у вёсцы. У вёску з гарадка хадзілі праз поле. Можа, я з маці часта вярталася вечарамі з вёскі дамоў, і той гарадок блішчаў перада мной вечаровымі агнямі. У вайну загінула маці, бацька ці загінуў, ці не знайшоў мяне, бо я жыла спачатку ў дзеда і бабы, а потым немцы забілі іх. У вёсцы казалі, што за сувязь з партызанамі. Мяне схавалі суседзі. А потым аддалі ў дзетдом...

Толік больш месяца з ёй сустракаўся, ездзіў за горад, хадзілі часам і ў кіно, а вось ні разу не абняў, не пацалаваў. І не таму, што не асмельваўся, баяўся ці саромеўся. Яму нават такое і ў галаву не прыходзіла.

А вось з Капай яны цалаваліся ў першы ж вечар, як пазнаёміліся. А пазнаёміліся на танцавальнай пляцоўцы, куды ён забрыў з таварышамі па цэху. У той дзень яны атрымалі прэмію і вырашылі адзначыць гэту падзею ў шашлычнай, якая была ў парку над самым Сожам. Пасля шашлычнай хлопцам захацелася патанцаваць.

Толіку кінулася ў вочы невысокая кучаравенькая блан-

дзіначка ў блакітнай кароткай сукенцы, якая адкрывала стройныя, крыху цяжкаватыя ногі. Але танцавала дзяўчына нечакана лёгка, лётала вакол яго, як блакітны верабейка. І ўвесь час смяялася. Без усялякай прычыны.

— Я вас знаю,— сказала яна ў канцы першага танца.— Кожны дзень бачу вас у заводскай сталоўцы. Вы такі нецярплівы ў чарзе, што смешна глядзець на вас. Відаць, на работу ходзіце не снедаўшы...

— А вас я ніколі не бачыў,— ён пільна паглядзеў на яе. Яна перастала смяяцца, нечага сумелася.

— А мяне нельга ўбачыць.

— Выглядаеце сабе жаніха?

— Ыгы.

— І каго ж вы выгледзелі? — размова набывала характар гульні, калі субяседнікі гаварылі абы пра што, толькі б гаварыць.

— Вас,— і яна не апусціла вачэй пад яго паглядам, а толькі звонка рассмяялася.

— Ну калі мяне, то я павінен танцаваць сёння толькі з вамі. І калі нам не стане сумна, то, так і быць, пажэнімся.

Пасля танцаў Толік не думаў праводзіць Капу дамоў, хацеў развітацца з дзяўчынаю, бо таварышы ўжо чакалі яго ля выхада з танцпляцоўкі.

— Вы ж не кідайце сваю нявесту, а то ўкрадуць яе, тады будзеце плакаць,— яна зноў залілася смехам, але Толіку падалося, што вочы яе на гэты раз не смяяліся, а ўстрывожана глядзелі на яго.

— А вы далёка жывяце? — пацікавіўся Толік.

— Адсюль не відно, але дайсці можна.

— Ну, калі можна, то пайшлі...

Жыла яна даволі далёка ад парку, у невялікім прыгарадным пасёлку за ракой.

— Ну як? Ногі гудзяць? — спытала, калі спыніліся ля невялічкага доміка за высокім штыкетнікам.— Я вас папярэджвала. Але нічога. Пойдземце, адпачніце, дык, можа, да раніцы дамоў даберацеся,— і яна зноў засмяялася звонка і радасна.

Капа адчыніла веснічкі, засунуўшы руку ў дзірку паўз бетонны слупок, узяла яго за руку, маўляў, тут спатыкнуцца можна, і павяла па вузкай сцежцы паўз штыкетнік некуды ў самы канец саду. За ногі чапляліся бульбоўнік, нейкія кусты. Калашыны штаноў абрасіліся і пацяжэлі.

У самым кутку саду была невялікая альтанка. Там стаяў столік, ля яго былі лаўкі з жэрдачак. На іх ляжала прывялая трава.

— Сядайце, адпачывайце... Трава, здаецца, сухая. Мая гаспадыня казу трымае, на зіму ёй харч рыхтуе. Зараз я вам нечага прынясу,— яна нырнула ў цемру, чулася, як блізка шамаціць лісцем, потым з'явілася і паклала на стол з дзесятак яблыкаў.— Частуйцеся. Белы наліў. Спелыя.

Толіку здавалася, што ён ведае Капу ўсё жыццё, такая яна была адкрытая, ясная, зразумелая. І ніякай загадкавай таямнічасці. З ёй было лёгка і проста.

На другі дзень, калі Толік стаў у чаргу ў заводскай сталоўцы, аднекуль з'явілася Капа ў белым халаце і ў такой жа белай стаўбунаватай шапачцы, пад якой хаваліся яе белыя кудзеркі.

— Пайшлі, а то доўга чакаць табе тут,— яна ўзяла яго за руку і ледзь не сілком павяла за сабой. Правяла праз кухню ў невялічкі пакойчык-бакавушку, усадзіла ў хісткае крэсла ля маленькага століка, убрала з яго лічыльнікі, нейкі тоўсты сшытак, заслала стол беленькім, яшчэ кавяным настольнікам і выйшла. Усё гэта яна рабіла засяроджана-маўкліва, ні разу нават не ўсміхнулася яму. Яна цяпер была зусім не падобная на ўчарашнюю рагатушку — сур'ёзная, уважлівая, клапатлівая гаспадыня.

Хутка Капа прынесла яму абед, паставіла талеркі, паклала хлеб, выйшла, пажадаўшы прыемнага апетыту. Зайшла зноў толькі тады, калі ён паабедаў, прысела да століка, спытала, у колькі ён заканчвае работу.

— Як і ўсе,— адказаў крыху разгублены Толік. Ён не ведаў, як разлічвацца за абед.

— Вось цудоўна,— абрадавалася яна.— Пойдзем на Сож. Возьмем лодку. На лодачнай станцыі сусед маёй гаспадыні, так што без усялякае чаргі і на колькі захочам.

Усё часцей і часцей сустракаўся Толік з Капай. Сустракаўся ён і з Кацяй, хоць ужо і не так часта. Яму самому было сорамна за сваё ж крывадушша, але ён не мог адмовіцца ні ад той, ні ад другой. Да Каці яго цягнула нешта загадкава-таямнічае, радасна трывожнае, нешта такое, чаму і назвы не было. Гэта былі і сум, і радасць, і трывога, і чаканне нечага — усё разам. Калі ён доўга не бачыў яе, то пачынаў трывожыцца, не спаць начамі... Але пры сустрэчах з ёй не мог глядзець ёй у вочы так шчыра і адкрыта, як раней.

Перад Капай жа ён не адчуваў сябе ашуканцам. Яна была зразумелая, свая. Ён нават нeяк ёй расказаў пра Кацю. Яна толькі рассмяялася, пра такіх, маўляў, толькі ў раманах пішуць. Нібы тая Каця для яе і не існавала, нібы яна была выдумана Толікам.

Ён асабліва і не задумваўся, якой дзяўчыне аддаць перавагу.

Але пасля таго, як яму прапанавалі наладзіць камсамольскае вяселле, ад якога Толіку не хацелася адмаўляцца, трэба было выбіраць — Каця ці Капа. Цэлы дзень ён думаў пра гэта. Успамінаў усе сустрэчы, размовы з той і другой, уяўляў, якім магло быць ягонае будучае жыццё з той і другой, і не мог ніяк прыйсці да канчатковай думкі. І калі ў канцы змены да яго падышла Каця і сказала, што сёння вельмі сонечны і цёплы дзень, што вечар павінен быць незвычайны, і прапанавала з'ездзіць за горад у поле, ён адмовіўся:

— Трэба дамоў мне сёння.

Яна яшчэ пастаяла крыху ля хлопца, спадзеючыся, што ён перадумае, але ён упарта не зводзіў вачэй з фіялетава-сіняй стружкі, якая вілася кольцамі ў доўгую і тонкую спружыну.

Анатоль спачатку не думаў раіцца з бацькамі, як быць. Яму здавалася, што рашэнне прыйдзе само сабой: у роднай хаце і сцены памагаюць. І ён, відаць, нічога дома і не сказаў бы, каб за вячэрай бацька раптам не спытаў:

— Што такі задумлівы, сын? Ці не надумаў жаніцца?..

— Ды прапанавалі,— і ён расказаў пра гаворку ў камітэце камсамола.

— Глядзі, хлопец, табе жыць,— і больш нічога не сказала маці.

Бацька быў больш разважлівы:

— Што я скажу табе, сын? Варта падумаць, калі кватэру даюць. Такое не часта бывае. Пройдзе кампанія з камсамольскімі вяселлямі, і ўсё. Тады шкадаваць будзеш. Ды глядзі, каб жонка гаспадыня была, а не порхалка якая... Дык пажывеш хоць.

Толік ведаў, што з Капы гаспадыня будзе — лепшай не трэба.

Яе прозвішча і назваў на другі дзень у заводскім камітэце камсамола.

— Гэта што поварам у нас? — пацікавіўся сакратар.— Добра, паглядзім.

Гулялі камсамольскае вяселле ў заводскай сталовай.

На вяселлі былі родныя, блізкія, знаёмыя. І былі заводскія актывісты, наватары вытворчасці, ветэраны, якія прыйшлі на гэтую ўрачыстасць па запрашальных білетах. Грымела музыка. Было багата кветак і лозунгаў. Была выпушчана і спецыяльная насценная газета, у якой расказвалася пра жыццёвы і працоўны шлях маладых. І былі прамовы. Віншавалі маладых ветэраны, наватары, кіраўнікі завода, камсамольскай арганізацыі. Старшыня заўкома падараваў маладым выпіску з пратакола, што ім вырашана выдзеліць кватэру без чаргі і ў першым жа заводскім доме, распачаць будаўніцтва якога планавалася ў будучым годзе.

Ад імя цэха павіншавала маладых Каця Зязюлька. Яна падаравала ім кудлаценькі букецік з палявых красак. Тут былі ружовыя смалянкі, рамонкі, сінія званочкі.

— Ой, які цуд! — захаплялася кветкамі Капа. Яна паставіла іх у шклянку перад сабой. Але хутка іх адсунулі талеркамі, і Капа болей не ўспамінала пра іх.

Толік сядзеў маўклівы, засяроджаны, не адрываў вачэй ад стала нават тады, калі прымаў віншаванні. Ён баяўся сустрэцца позіркам з Кацяй. Дзе яна сядзела, ён не бачыў, але адчуваў, што сядзіць недзе блізка ад яго, ён нават чуў яе голас. Яна гучна смяялася, не адзін раз пачынала спяваць. Аказваецца, у яе быў прыгожы, гучны голас.

Яго стан заўважыла маці, спытала праз стол — сядзела якраз насуперак,— ці не блага яму.

Ён не разабраў, што яна спытала, адказаў ёй, як адказваў усім:

— Так сабе.

І толькі недзе пад вечар Толік раптам адчуў сябе лёгка і раскавана, ён прыкметна павесялеў. Жартаваў, смела і адкрыта разглядаў шматлікіх гасцей. Сярод іх Каці ўжо не было. Калі яна пайшла, ён не заўважыў.

— Пайшлі танцаваць,— сказаў ён Капе, калі зайгралі раптам імклівую польку.

Капа, якая ўжо прывыкла да яго маўклівасці і засяроджанасці, неяк здзіўлена глянула на яго, паціснула плячыма:

— А я думала, ты забыўся на мяне...— засмяялася, паднялася, лёгка і весела выбегла на сярэдзіну залы.

У гэты дзень, ды і потым, Толік болей не думаў пра Кацю. Ён не заўважыў, калі яна і зусім знікла, перавялася на другі завод.

Але яшчэ доўга яму сніўся зялёны луг, які ссівелым інеем свяціўся пад маладым месяцам, зманлівыя агні далёкага невядомага горада, у які ён кожны раз спяшаўся праз той луг і ніколі не мог дайсці, бо верашчаў будзільнік, клікаў яго на работу.

І пасля такога сну ён цэлы дзень быў нейкі раздражнены, зацята маўклівы, ні з кім не размаўляў, нават з жонкаю. І тая не лезла да яго з пытаннямі, адчувала, што яго такога лепей не чапаць.

## ЦЯСЛЯР

Ігар абчасаў абапалак якраз па белай палосачцы, адбітай крэйдай, прыставіў яго да сцяны, дзе ўжо стаяў, можа, з дзесятак такіх жа, махнуўшы лёгка рукою, удзяўбнуў сякеру ў сцяну, потым узяў выгаралую майку, што вісела на варотах, выцер ёю хударлявы твар ад поту, трапануў так, што яна аж стрэліла, нацягнуў яе на худыя плечы, чорныя ад загару, і прысеў на бервяно.

Мосей Куцця, які габляваў тыя ж абапалкі, каб былі раўнейшыя, паклаў рубанак, падсеў да Ігара. Моўчкі дастаў з пакамечанага пачка беламорыну, абхапіў яе тоўстымі, крыху засмяглымі губамі, пстрыкнуў запалкай, зацягнуўся прагна, глыбока. Выдыхнуўшы дым, крыкнуў Пыжыку, які ў гумне гарадзіў з абапалкаў засекі — у гэтым годзе ўрадзілі збожжавыя, і баяліся, што месца ў свірне, можа, і не хопіць.

— Артыст, ідзі пакурым!

Пасля таго як некалі Пыжык паказаў у самадзейным спектаклі вельмі смешна амерыканскага капіталіста, яго празвалі артыстам. У вёсцы даўно забыліся пра той спектакль, а Пыжык так і застаўся артыстам, нават сам прывык да гэтае мянушкі.

— А мо пара дамоў? — падышоў да іх Пыжык.

— Сонца ж высакавата,— сказаў Мосей Куцця.

— Ды высакавата ж,— павёў Пыжык сваім доўгім носам, які з гадамі яшчэ больш выцягнуўся і завастрыўся.— Давай хоць хлапца адпусцім, а то хутка ехаць яму...

— А хто супроць? — Мосей Куцця яшчэ раз зацягнуўся, а бычок, паслюнявіўшы, утаптаў у зямлю.— На яго месцы я ваабчэ не хадзіў бы. Хто паступае, ужо ў калгас не ходзіць. Усё вучаць...

— Валодзька Моцін, скардзілася старая, вады ў хату не прынясе з-за гэтай вучобы,— абурыўся Пыжык.— Урачом хоча стаць, ці што.

— Колькі можна зубрыць, і так галава апухла,— сказаў Ігар...

— Папяросы пайшлі, такую іх, адной не накурышся,— буркнуў Мосей Куцця, дастаў яшчэ адну беламорыну. Але цяпер курыў не спяшаючыся, смакаваў.— Яно-то так, але перад экзаменам глянуць трэба.

— Вядома, гляну,— згаджаўся Ігар.— Яшчэ з тыдзень параблю, хай галава праветрыцца...

— А можа б, застаўся? — спытаў Пыжык.— А што? Рабіць ты, бачу, любіш. Чалавек граматны. Разумны. Цябе, брат, тут у цяслярах не пакінуць, падымуць хутка. Гэта ў нас, недавучак, ніякай перспектывы. А то што ж будзе, калі ўсе маладыя пакінуць вёску? Ну, няхай мы пакуль цягнем, а як пастарэем? Хто ж будзе рабіць, каб яно лепей жылося ў тых гарадах... Ну, супраць таго, што паступаюць у інстытуты, нічога не скажу, а калі проста так едуць... Быў я ў вашага Толіка ў Гомелі. Жыве ў нейкай старой у падвале. У акно толькі ногі чужыя і ўбачыш ды дзяркач дворніка...

— Калі гэта было? — спытаў Ігар.

— Я ж не кажу, што цяпер. Але было. Пазваў, значыцца, мяне снедаць, адзін чаёк. А дома ж і бульба, і сала, і малако колькі ўлезе... Ну няхай малако ў магазінах там ёсць, але ж не той смак. Купіў я тады бутэльку на вакзале, выпіў. Суткі ў жываце бурчала. Жонцы расказваю, смяецца.

— Што ж зробіш, калі маладым хочацца свету пабачыць,— сказаў Мосей Куцця.— Так што, Андрэевіч, можаш і не прыходзіць. Вучы. Мы з Паўлам самі таго, зробім за пару дзён.

— Канечне, і казаць няма чаго,— запэўніў Ігара і Пыжык.— Ды і адпачні, а то высах, як таранка,— і ён сваёй моцнай, учэпістай рукой правёў па яго спіне.— Іграе, як балалайка.

— Баліць жа, Павел Емяльянавіч,— аж адскочыў далей ад Пыжыка Ігар.

— Ну што, хлопцы, гадзінку яшчэ пацюкаем? — падняўся Мосей.

Пасля работы Ігар не пайшоў разам з Мосеем і Пыжыкам дамоў, а сеў на веласіпед і паехаў на возера. Доўга купаўся, потым пасядзеў ля рыбакоў — прыехалі на лег-

кавушцы нейкія незнаёмыя з райцэнтра,— і толькі калі сонца, зачырванеўшыся, павісла над самай Прудоўкай, паехаў дамоў. Дома не стаў чакаць вячэры, хуценька пераапрануўся, надзеў чыстую белую тэніску, абуў хромавыя чаравікі, пачысціў іх да люстранога бляску, схапіў са стала акраец хлеба і, асядлаўшы веласіпед, пакаціў паўз двары па накатанай сцяжынцы. Адной рукою трымаў руль, а другой адломваў ад акрайца ў кішэні кавалачкі хлеба і кідаў іх у рот.

За вёскай дарогу размалолі коламі, і, каб не абпыліцца, Ігар ехаў паўз самую канаву па цвёрдаму. Тут руль трэба было трымаць дзвюма рукамі. Недаедзены акраец хлеба бугрыўся ў кішэні штаноў.

Жыла Тамара за некалькі кіламетраў ад Ягаднай, у невялічкім пасёлку ля чыгуначнай станцыі Цярэшкі.

Пазнаёміўся ён з дзяўчынай яшчэ мінулым летам, калі яны з групай вучняў старэйшых класаў ездзілі ў падарожжа па вобласці. З таго часу яны сустракаліся амаль кожную нядзелю. Хадзілі ў кіно ў раённы Дом культуры, на танцы ў парк. Ігар так закахаўся ў Тамару, што хацеў нават перавесціся з Прудоўскай школы, дзе канчаў дзесяты клас, у райцэнтр, дзе вучылася яшчэ толькі ў дзевятым Тамара. Але яму не дазволіў зрабіць гэта бацька.

Ігар прыхінуў веласіпед да частакола, у якім цвілі белым і ружовым густа разросшыся мальвы, абцерушыў са штаноў пыл, пайшоў у двор. Адчыніўшы веснічкі, убачыў Тамару, якая сядзела сярод двара на табурэтцы, углядалася ў кніжку, хаця чытаць было і цемнавата.

— Няўжо яшчэ бачыш? — замест прывітання спытаў ён.

— А-а, ты,— яна паднялася, выпрамілася, узмахнула рукамі: відаць, у яе самлела крыху спіна. Пры гэтым яе караткаватая сукенка паднялася, агаліўшы ногі вышэй каленяў. Спаймаўшы яго палахлівы позірк, засмяялася: — Я зараз,— і знікла за дзвярыма ў сенцах.

Ігар вярнуўся на вуліцу, сеў на лавачку ля гародчыка. Дастаў з кішэні недаедзены акраец і пачаў адкалупваць патрошку ад яго. Неўпрыкметку і з'еў увесь.

Грукнулі дзверы ў сенцах, пачуўся пастук абцасікаў па дошчачках, некалі пакладзеных праз гразь у двары, а цяпер утаптаных і ўсохлых у зямлю. Адчыніліся веснічкі, выйшла Тамара. У новай зялёнай сукенцы, у якой яна была, калі яны ў мінулую нядзелю хадзілі разам у кіно, у белых басаножках. Валасы спераду яна крыху накучараві-

ла, а ззаду завязала ў вялікі вузел. Ад гэтага раптам пабуйнелая яе галоўка ганарліва сядзела на тонкай адкрытай шыі. Тамара села побач з ім.

— Начыталася? — з захапленнем глядзеў ён на яе.

Яна нічога не адказала, толькі ўсё спрабавала нацягнуць сукенку на вузкія калені.

— Можа, прагуляемся?

Тамара паднялася. Ігар трымаў веласіпед, пакуль яна не ўселася на раму. Стаўшы адной нагой на педаль, другую перакінуў праз сядло, усеўся сам. Ён з натугаю круціў педалі, выбіраючы раўнейшае на сцяжынцы, каб раптам не труханула іх на якой выбоіне.

За пасёлкам сцежка завіляла паўз шлях, што ішоў ад райцэнтра праз станцыю на Гомель, паміж маладымі таполямі.

На мосціку праз невялічкую рачулку, якая амаль уся зарасла аерам і асакой, а дзе была вада — раскай, спыніліся. Яны любілі надвячоркам, абапершыся на парэнчы, пастаяць тут.

Неба яшчэ свяцілася так, што на ім не было відаць зорак. Справа зіхацеў агнямі райцэнтр. Адтуль даносілася музыка. Там, у парку ля Дома культуры, на дрэве вісеў радыёдынамік. У ціхія дні яго чуваць было нават у Ягаднай. Злева паўз самы шлях цямнела на фоне чырванаватага захаду Прудоўка. Там, дзе былі ферма і цэнтр калгаса, мігцелі зыркія агні — у Прудоўку гэтым летам праводзілі электрычнасць. Яе правялі ўжо на фермы і асвяцілі ў цэнтры вёску. А яшчэ лявей, праз затуманеныя палі, цямнела Ягадная. За Ягаднай, нібы прыпалыя да зямлі нізкія воблакі, угадваліся лясы. У полі перад самай вёскай мігалі фарамі машыны, адтуль чуўся глухі гул камбайна. Гэта Ігнат Церах, брыгадзір, надумаўся паспрабаваць і ноччу ўбіраць жыта, пакуль яно не размякчэе ад расы.

— А ведаеш, Тома, я так прывык да ўсяго гэтага, што не ўяўляю, як буду жыць без яго. Не хочацца ехаць нікуды... Часам здаецца, я не проста я, а працяг усяго гэтага, што перад намі. Адзінае цэлае. Адарві — і завяну. Як вырваная травінка.

Тамара раптам гучна засмяялася. Яна вось так часта слухае, слухае і раптам зальецца звонкім смехам. Спачатку і не зразумееш, што яе так рассмяшыла.

— Не бойся, ніхто мяне не ўкрадзе. Вучыся і нічога не думай. Можа, і добра, што цябе тут не будзе. Не будзеш перашкаджаць. А налета і я паступлю. Будзем разам —

і, усміхнуўшыся, дадала: — І не будзеш сумаваць ты па гэтых паныла пейзажах.

— Ды не толькі гэта,— сказаў ён.— Ведаеш, на рабоце сёння мне казалі, каб сядзеў дома і рыхтаваўся да экзаменаў, не губляў часу. А я слухаю, і мне сорамна глянуць ім у вочы. Яны ж тут жылі, жывуць і будуць жыць да канца дзён сваіх, а мы ўцякаем. Не ведаю, як хто, а я сябе адчуваю вінаватым перад вёскай, перад суседзямі. Як злачынства якое раблю. Ведаеш, каб ты пагадзілася застацца тут...

— Дзівак! Усе едуць, ніхто не хоча заставацца... Ну сапраўды, якое тут жыццё? Што тут рабіць? У нашым райцэнтры адна хлебапякарня ды цырульня...

— А можа, у мяне такі настрой, што ты тут? Не ведаю. Але мне, чэсна, не хочацца нікуды ехаць. А як падумаю, што яшчэ трэба здаваць экзамены...

— Можа, перавучыўся? — не дaслухала яна яго.

— Слухай, Том, а ты заўважыла, што людзі, калі ад'язджаюць у армію, ці на вучобу, ці на працу куды, абавязкова робяць застолле? Не думала чаму? Цвярозаму цяжка пакідаць родныя мясціны. Вось так... Хаця некалі мой брат Сяргей паехаў цвярозым. Памятаю, узяў чамадан, ля двара з намі развітаўся, гікнуў Барса, некалі ў нас быў такі сабака, і пайшоў... Але ў яго мэта. А я не ведаю нават, кім хачу стаць. Падаў на біялагічны толькі таму, што буду вывучаць там птушак, усякіх жывёлін, усё-такі бліжэй да зямлі. Хацеў на агранома, бацька адгаварыў. Ты што, кажа, хочаш у зямлі ўсё жыццё капацца? Дарэмна я яго паслухаўся.

— Правільна бацька кажа. Хто сёння лічыцца з тым аграномам? Едзь, паступай і не думай абы-чаго,— яна прыхінулася да яго бліжэй: ад прырэчных паплавоў пацягнула прахалодай.

— Добра, паеду. Абавязкова. Але налета, разам з табой. А зіму адпачну. Можа, мне і сапраўды апрацівелі кніжкі. І потым я не ведаю, кім хачу стаць. Вось што хачу застацца тут, ведаю, а кім быць у жыцці — глуха.

Калі ён бачыў асветлены шчасцем твар Тамары, ён не мог утрымацца, каб не пацалаваць яе. Ён і зараз абняў дзяўчыну, прыхінуў да сябе... Яны не заўважылі, як за іх спіной пратарахцеў матацыкл і нехта на тым матацыкле свіснуў ці не ў пальцы, бо даволі гучна...

У нізкіх месцах паўз дарогу слаўся туман, з якога, як прывіды, тырчалі верхавіны прыдарожных дрэў. Яны быц-

цам віселі ў паветры і плылі разам з Ігарам. Неба поўнілася бляклым разбаўленым святлом: недзе яшчэ за прыцемненым гарызонтам нараджаўся дзень.

Ігар лена круціў педалі стомленымі нагамі. Шыны ціха шапацелі па жвіры, падаваў голас званок, калі раптам веласіпед уздрыгваў на выбоіне.

Ля свайго двара Ігар злез з веласіпеда, асцярожна, каб не грукнуць аб веснічкі ці аб парог, унёс яго ў двор, прысланіў да варот. Яшчэ ў сенцах разуўся, у хату ўвайшоў басаног. Напіўшыся з гладышкі, што стаяла на стале, камкаватай, як адтопленай у печы, сыракващы, раздзеўся, пінжак і штаны павесіў прама на дзверы, на цыпачках зайшоў у светлую палавіну, дзе за грубкай-галандкай ля глухой сцяны стаяў яго ложак, адгароджаны ад хаты жоўтай у зялёныя лісточкі занавескай.

Прачнуўся, калі бацька з маці ўжо збіраліся на работу.

— Чаго не разбудзілі? — адразу ж кінуўся ўмывацца.

— А хіба ты ідзеш на работу? — спытаў бацька, які, накінуўшы пінжак на адно толькі плячо, стаяў ля стала і загортваў у газету хлеб, скваркі сала з патэльні, яйкі — свой абед.

— Пайду,— сказаў Ігар, а пра тое, што ён вырашыў у гэтым годзе наогул не ехаць паступаць вучыцца, сказаць не адважыўся.— Прасілі падысці памагчы закончыць засекі...

— Без цябе не справяцца? — упікнула сына Марфа, узяўшыся за клямку ў дзвярах. Яна чакала мужа, каб пайсці разам.

Ігар не стаў болей нічога гаварыць, толькі ніжэй нахіліўся над місай з супам.

— І Сяргей прасіў, каб пад'ехаў раней,— сказаў бацька.

— Паспею,— буркнуў Ігар.

— Глядзі, сын,— папярэдзіў бацька з такой інтанацыяй у голасе, нібы ведаў пра яго намер, потым узяў у качарэжніку палку, без якой ужо не мог хадзіць.— Каб ты не прагойсаў інстытут...

— Не забудзь хату замкнуць,— папрасіла маці выходзячы.

— Добра,— Ігару зараз хацелася аднаго: каб бацькі хутчэй выйшлі і не прыглядаліся так да яго.

Удзень, на рабоце, пра свой намер застацца Ігар думаў з большай цвярозасцю і развагай. Відаць, дарэмна паспяшаўся са сваім абяцаннем. І хто яго цягнуў за язык? Са-

ма ж Тамара ўгаворвала ехаць: маўляў, яны змогуць сустракацца на святы, будуць канікулы і ў яго і ў яе, але радавалася яго рашэнню, па ёй было відаць. А трэба было ўсё ж ехаць. Паступіў бы, і яна б, можа, з большай упартасцю вучылася. Але цэлы год без яе таксама нялёгка. Гэта ён цяпер завагаўся ў сваім рашэнні, бо ўчора сустракаўся з ёй, а не пабачыцца некалькі дзён, зусім інакш пачне думаць. А потым жа ён і не той чалавек, у якога сем пятніц на дні. Не стане мяняць свайго рашэння. Так і сказаў Тамары пры развітанні...

Карацей, у канцы рабочага дня ў чаканні блізкай сустрэчы з Тамарай Ігар ужо не вагаўся. І ўсё ж дамоў не спяшаўся. Ведаў, што ў гаворцы з бацькамі яму нялёгка будзе адстаяць сваё. А можа, і не прыйдзецца нічога адстойваць, можа, яны і самі не супроць, каб ён застаўся з імі, бо старым усё цяжэй і цяжэй жыць адным. Здароўе, асабліва ў бацькі, нікчэмнае: палку дроў расколоць не можа...

Ля двара стаяў запылены матацыкл. Значыцца, прыехаў з Гомеля брат Толік. Ігар абрадаваўся, падумаў, што пры ім будзе лягчэй гаварыць са старымі, смялей паспяшыў у хату.

Бацька і Толік сядзелі за сталом.

Маці завіхалася ля прыпечка, яшчэ нешта пякла на «казе». У патэльні цвірчала і страляла. У старой ад агню разблішчаліся вочы. Толік, шыракаплечы, грудасты, з караткай шыяй, на якой упэўнена сядзела буйная чубатая галава, нешта вясёлае расказваў бацькам.

— А вось і наш цясляр,— абрадаваўся бацька.— Давай хутчэй за стол.

Маці паставіла перад сынам чыстую талерку.

Толік даволі выразна глянуў на Ігара. І па гэтым позірку Ігар здагадаўся, што Толік прыехаў з-за яго.— Званіў Сяргей. Злуецца, што не прыязджаеш. Казаў, каб хутчэй прыязджаў. Табе ж трэба акліматызавацца і прыглядзецца. Так што давай закусвай і збірайся. На вячэрні яшчэ паспееш, заўтра раніцай будзеш у Мінску. Так мы і дамовіліся з Сяргеем. Ён заўтра цябе чакае. А пакуль мой стальны скакун да тваіх паслуг.

— Напрасна гнаў свайго каня,— ледзь не прапеў Ігар. Ён адчуваў сябе смелым і рашучым.— Я не паеду.

— Прывяжу да сядла і павязу,— сказаў Толік.— Не паеду... Я што, дарэмна са змены адпрошваўся? Ты ж,

калі адсюль ехаць, выедзеш толькі заўтра харкаўскім. Два дні губляеш. А так — заўтра раніцай там.

— Я наогул не паеду,— і Ігар акінуў позіркам усіх.— Я вырашыў...

— Што ты вырашыў? — насцярожыўся бацька.

— Папрацую яшчэ зіму,— адчуваючы, што яго словы гучаць зусім непераканальна, дадаў: — Ды і падрыхтавацца хачу, каб потым напэўна.

— Сяргей казаў, што асечкі не будзе,— развёў рукамі Толік.

— Мне не вельмі хочацца туды паступаць,— з выклікам сказаў Ігар.— Можа, я хачу ў другі інстытут паступаць.

— Будзеш выбіраць, зусім у калгасе застанешся,— на гэты раз вельмі спакойна сказаў Андрэй Іванавіч. Відаць, ён не верыў сыну, думаў, што той проста блазнуе.

— А чым дрэнна? — паспакайнеў і Ігар.— Мне падабаецца тут. Свежае паветра.

— Ну, жарты жартамі,— паглядзеў Толік на гадзіннік,— а ў нас часу ў абрэз.

— А я не жартую,— сказаў Ігар.— Абавязкова пасля школы вучыцца? Ты ж не вучыўся. Працуеш на заводзе, нешта не крыўдуеш на лёс. А я параблю ў калгасе.

— Параўнаў...— хмыкнуў Толік.— Я на заводзе за месяц маю столькі, што тут за год не заробіш. А потым хутка ў мяне будзе такая кватэра, якія тут і не сніліся. Тры пакоі. Вада халодная, гарачая. Усё, што трэба. Пад акном гастраном. І выпіць, і закусіць. А тут? Заязджаў у сельмаг. Гарэлка ды кілька... Параўнаў калгас з заводам.

— А тут сваё,— запярэчыў Ігар.— Свежае. У жываце не бурчыць, як ад гарадскога малака. Некалі Паўлік Пыжык напіўся таго малака і цяпер успамінае...

— Карову ж кожны дзень трэба карміць,— сказаў бацька.— Свінні таксама кожны дзень есці просяць. Не, сын, ты гэта выкінь з галавы. Трэба ехаць, раз Сяргей пазваніў. Што ні кажы, а горад ёсць горад. Я сам ужо каюся, што пасля вайны паехаў сюды... Але нічога,— глянуў на Ігара.— Цябе вось падвучу, а потым і сам у горад. Хочацца хоць пад старасць па-чалавечы пажыць. Каб і гастраном той пад акном, і піва... У нас тут піва гадамі не бывае. А там пайшоў у парк, узяў піўка, пасядзеў. Бачыў, як там сядзяць. А тут што? Паглядзіце, якая матка ваша стала. Кожны дзень у полі. Ад цямна да цямна. Было свята вясны. Далі ёй прэмію. Як і паложана, у канверце. Пад

музыку. Аркестр шэфы прывезлі. Ну, думаю, маёй Марфе ў тым канверце не меней сотні падкінулі. А там пяцёрка была.

— Праўда, дзеткі,— з нейкай сарамліваю ўсмешкаю сказала маці.

— І тут лепей будзе,— уставіў Ігар.

— Можа, і будзе калі,— усміхнуўся бацька.— А пакуль што нам пад музыку пяцёрку...

— Правільна, баця,— з нечаканай рашучасцю стукнуў па стале кулаком Толік.— Як толькі атрымаю хату, так збірайце свае манаткі, і ка мне. А чыгункі і качэргі ўсялякія з аўкцыёна, так сказаць... Хто болей дасць. Каб і на гараж хапіла. Будзем ездзіць у грыбы, у ягады, а то і на мора калі рванём. За свежымі памідорчыкамі. Адзін мой знаёмы мае «Волгу». Вясной бярэ адпачынак. Пару рэйсаў на поўдзень зробіць па раннія памідорчыкі, і яму на бензін і на запчасткі хапае на ўвесь год. Казаў, яшчэ і застаецца. Аказваецца, можна жыць прыпяваючы, калі трохі галавой кумекаць. Гэта вам не пяцёрка пад музыку.

— Мы так і зробім,— і цяпер ужо бацька, як нядаўна гэта зрабіў Толік, стукнуў кулаком па стале.— Вырашана! Марфа, чуеш?

— Ой, маўчы, Андрэй! — адмахнулася ад яго маці і паскардзілася сынам: — Гэта ж як панюхае, так і едзе ў горад.

— Можа, і праўда, што гавару толькі тады, калі крыху таго...— не адмаўляўся бацька.— Але думаю заўсёды. І раней думаў, ды ўмоў не было... А цяпер дзяцей паднялі, можна і пра сябе падумаць,— пільна паглядзеў на Ігара, павёў правым плячом, ледзь прыкметна ўсміхнуўся аднымі вачыма.— А ты, сын, не таго... Думаеш, не ведаю, хто табе галаву закружыў? Бацька ўсё ведае. Што робіцца ў яго сельсавеце. Нават хто што думае... Ты мужык ці баба?

— Гэта ж праўда,— паскардзілася Толіку маці.— Ссінеў увесь. Ніколі не выспіцца. Якая цяпер яму навука? Ён увесь час спаць хоча. Ой, сын, вучыўся б у Сяргея. Той начамі не швэндаўся.

— Сама ж казала, што баяўся позна хадзіць,— сказаў Ігар.— А каб не баяўся...

— І праўда,— не пярэчыла маці.— Баяўся. Раней. А потым не. І хадзіў. Але ж не так. Чалавекам стаў. Другіх вучыць... Ды і Толік так не бегаў...

— А навошта? — засмяяўся Толік.— Яны самі да мяне бегалі.

— Во гэта мой сын! — усклікнуў Андрэй Іванавіч.

— Але калі гаварыць сур'ёзна,— Толік узяў ручнік, выцер спацелы твар,— то скажу табе, брацец. Я пайшоў на завод, бо трэба было Сяргея вучыць. Што маці мела ў калгасе? Мяшок жыта? А бацькавай зарплаты на сям'ю не хапала. А табе ж сама вучыцца цяпер. Сяргей зарабляе, ды і я не меней за яго. Заўсёды падкінем які рубель. А час губляць нельга. Год прапусціш, а там армія... Жывём у такі час, брацец, што без вучобы нельга. Я таксама збіраюся паступаць у політэхнічны. Кватэру атрымаю, абжывуся і — за навуку.

Ігар слухаў разважанні бацькі, брата і, можа, таму, што яны супадалі з яго нядаўнімі ваганнямі, пагаджаўся з імі. Але як ён будзе выглядаць у вачах Тамары, калі скажа сёння, што перадумаў? Хаця яна сама настойвала, каб ехаў, так што зразумее...

— Я паеду, але заўтра,— стаяў на сваім Ігар.

— Я кажу табе, званіў Сяргей, прасіў, каб тэрмінова выязджаў. Паабяцаў яму, што заўтра раніцай ты будзеш у Мінску. Так што давай збірайся,— Толік і думкі не дапускаў, што Ігар адмовіцца ехаць з ім зараз.

— Трэба ехаць, сын,— сказаў і бацька.

«Урэшце можна заехаць да яе,— падумаў Ігар.— А калі заехаць не будзе часу, можна пісьмо паслаць».

— Трэба дык трэба,— падняўся ён з-за стала.

Выехалі, калі сонца схавалася за слупам пылу, што паднялі на шляху каровы, вяртаючыся з пашы. Ігар сядзеў на заднім сядзенні матацыкла, трымаючы перад сабой невялічкі чамаданчык з падручнікамі.

За паніклым жытам, за шапаткімі аўсамі, ледзь не на гарызонце, ля станцыі Цярэшкі, зелянелі дрэвы. Пад тымі дрэвамі і быў пасёлачак, у якім жыла Тамара. Яна, можа, зараз якраз сядзіць ля двара на лавачцы і чакае яго. А можа, яшчэ ў хаце, збіраецца, паглядвае ў акно, прыслухоўваецца, ці не дзынькае ён званком свайго веласіпеда.

Ігара так і падмывала папрасіць брата заехаць у той пасёлачак. Але ці нейкі незразумелы сорам, ці проста нясмеласць перашкаджалі яму зрабіць гэта. Хаця чаго заязджаць? Ці варта заязджаць на якую мінуту? Усё роўна нічога не паспееш растлумачыць...

Так і не папрасіў ён брата заехаць.

Потым, калі мінулі прасёлак, што збочваў са шляху на станцыю, калі выехалі на шашу і Толік пагнаў матацыкл так, што ветрам аж вушы зрывала, ён шкадаваў, што не асмеліўся папрасіць заехаць. І чым далей ад'язджалі, тым больш шкадаваў.

А ў Мінску, за ранішнім чаем, сказаў Сяргею:

— Баюся, што правалюся. Пасля школы кнігі ў рукі не браў.

— Не журыся,— засмяяўся Сяргей. У яго быў белы, некрануты яшчэ сонцам твар з сіняватаымі мяшэчкамі пад вачыма. Відаць, ён багата працаваў апошнім часам, недасыпаў.

Ігар апусціў вочы, пачаў пільна разглядаць, як адбіваецца святло ў яго шклянцы.

У той жа дзень ён напісаў Тамары пісьмо, у якім падрабязна расказаў, як апынуўся ў Мінску.

А хутка ад яе атрымаў тэлеграму: «Не будзь дурнем, паступай. Твая Тамара».

## КУКУРУЗА

Кукуруза расла на ўзгорку пад самым лесам. Здалёк яна была падобна на малады хваёвы лясок. Толькі не такая зялёная, святлейшая.

Па дарозе з Прудоўкі ў Ягадную ішла машына, узнімаючы за сабой высокае шэрае воблака пылу.

— Ці не старшыня едзе? — падумаў услых Ігнат.

— Можа, зноў упрошваць? — буркнула сама сабе пад нос Люба, не глянула на мужа.

Яна ішла крыху наперадзе, у чорнай сукенцы, у растаптаных чаравіках, трымаючы на руцэ целагрэйку — на досвітку, калі Люба бяжыць на ферму, заўсёды яшчэ халаднавата.

Ігнат крыху адстаў ад жонкі, углядаючыся ў яшчэ далекаватае воблака пылу.

— Калі ён, дык зойдзе,— Ігнат паскорыў крок.

Далей ішлі моўчкі. Яны кожную раніцу хадзілі дамоў разам — ён з ранішняй нарады, а яна з кароўніка, дзе даіла кароў, насіла малако ў бітоны, выганяла кароў у поле, чысціла ў кароўніку.

Ля самай вёскі Ігнат яшчэ раз глянуў на дарогу і ўбачыў, што там ехала не машына, а трактар «Беларусь», бо ён якраз збочыў на поле і за ім ужо не клубіўся пыл. За

трактарам калыхалася крутая дуга сіласаправода. Само-га ж сіласаўборачнага камбайна не было відаць.

Ігнат махнуў рукою, крута павярнуўся і наўспрамкі праз поплаў пабег да кукурузнага поля. Ён нават не пачуў, як крыкнула яму жонка: «Дурань, каня б узяў...»

Трактар, ледзь чуйна працуючы маторам на халастых, пускаючы ў неба рэдзенькі сіні дымок, стаяў на ўскрайку поля. Трактарыст Рыгор Куцы, сівагаловы каржакаваты мужчына, прыхінуўшыся да кола сіласаўборачнага камбайна, праглядаў газету. Відаць, дастаў яе, каб скруціць самакрутку, ды і зачытаўся.

— Хто паслаў? — яшчэ здалёк спытаў Ігнат.

— Як — хто? — Куцы адарваўся ад газеты, глянуў на задыханага Ігната.— Старшыня.

— Я ж учора казаў яму, што не дам кукурузу пад сілас,— нібы паскардзіўся трактарысту брыгадзір.— Едзь назад. Скажы, што я не дазволіў.

— Нікуды я не паеду.

Да трактара падкаціўся самазвал. З кабіны высунулася кучаравая галава.

— Рыгор Кірылавіч, давай,— закрычаў шафёр звонкім маладым голасам.— А то зараз яшчэ пад'едуць.

— Хлопцы, вяртайцеся назад,— папрасіў іх Ігнат.

Куцы моўчкі склаў газету, адарваў ад яе невялічкі кавалачак, якраз на самакрутку, закурыў, сеў за руль. Засаталі зубы ў камбайна.

— Каму сказана, не дам! — Ігнат забег наперад, стаў растапырыўшы рукі.

— Табе жыць надаела? — крыкнуў яму Куцы.

— Сказаў, не дам!

— Дзівак,— прыглушыў матор трактарыст, крыкнуў вадзіцелю самазвала.— Едзь, скажы старшыні, пакуль той у канторы. Мы рабіць прыехалі, а не ваяваць з брыгадзірам. Хай сам з ім ваюе.

Але ехаць таму ў кантору не давялося. Старшыня сам пад'ехаў на «козліку».

— Чаго стаіцё? — спытаў ён, як толькі вылез з машыны. На ім былі белая тэніска і сінія штаны. Старшыня баяўся, каб яны не абрасіліся, і таму стаяў ля машыны. Угледзеўшы за трактарам Ігната, усё зразумеў.— А-а, ты тут...

— Не дазваляе,— кіўнуў на Ігната Куцы.

— Я думаў, ты жартаваў учора,— было відаць, што старшыня ўсю ўчарашнюю гаворку і цяперашні інцыдэнт

стараўся звесці на жарт; добразычліва ўсміхнуўшыся, спытаўся ў Ігната: — Ты што, сур'ёзна?

— Жартую,— кіўнуў галавой Ігнат.

Старшыня больш пільна паглядзеў на брыгадзіра, пасур'ёзнеў тварам. Скандаліць пры падначаленых яму не хацелася. Падцягнуўшы рукамі калашыны штаноў вышэй, падышоў да Ігната, спытаў ледзь не шэптам: — Ты што, не разумееш? Сітуацыя ж. Ва ўсім калгасе загінула кукуруза, а ты... Ты што, калгас без сіласу хочаш пакінуць? Каб каровы таго?.. Ведаеш, як такая дзейнасць называецца?

— Як хочаш называй, а гэту кукурузу на сілас не дам,— няўмольна стаяў на сваім Ігнат.

— Акрамя таго, ты ігнаруеш указанні старшыні калгаса. Які ж ты памочнік мне пасля гэтага? Пасля гэтага ты не маеш права быць брыгадзірам. Разумееш?

— Не разумею...

— Ну што... Прыйдзецца табе даць час падумаць, разабрацца. Адным словам, я цябе здымаю з пасады. З сённяшняга дня, з гэтай вось мінуты.

— Мяне людзі выбіралі...

— Выберуць другога. І сёння ж. Хай цябе гэта не хвалюе. А цяпер можаш ісці і адпачываць, калі табе не хочацца са мной працаваць,— і, вярнуўшыся да машыны, зычным голасам скамандаваў: — Прыступайце да работы. Не бойцеся, стаяць не будзе. Жыць і яму хочацца.

Куцы сеў за руль, ціха крануў трактар, скіраваў яго на Ігната. Той стаяў на сваім месцы і ўпарта глядзеў некуды на лес, нібы нічога і не чуў. Дакрануўшыся радыятарам да пляча Ігната, трактар спыніўся. Старшыня калгаса, забыўшы на гэты раз падцягнуць калашыны штаноў, кінуўся наўспрамкі па роснай траве да Ігната, схапіў яго за грудзі, закрычаў:

— Ты з глузду з'ехаў?

— Не чапай,— спакойна адвёў руку старшыні Ігнат.

— Ты што?

— Нічога. Я стаю спакойна...

— А я загадваю!

Раптам трактар пачаў разварочвацца.

— Куды? — кінуўся старшыня да трактарыста.

— Я ў турму, Сафонавіч, не хачу,— крыкнуў праз гул матора трактарыст.— Разбярыцеся між сабой, а потым кіруйце,— і ён, выруліўшы на прасёлак, скіраваў да шляху. Крыху памарудзіўшы, крануўся ўслед і грузавік.

— Ты ведаеш, што бывае за зрыў кампаніі? — зноў накінуўся старшыня на брыгадзіра.— Ведаеш? Ну, чаго ўхмыляешся? Хаця чаго я тут з табой час губляю? Ты ўсё роўна не брыгадзір, ясна? — і ён, сеўшы ў свайго «козліка», так ляпнуў дзверцамі, што цудам, здавалася, не вылецела з іх шкло.

Ігнат застаўся ў полі адзін.

Зрэдку хвалямі набягаў вецер, і тады кукуруза ледзь чуйна шапацела лісцем.

Побач з гэтым полем было яшчэ адно поле, якое цягнулася аж да дарогі з Прудоўкі па Ягадную. Яно густа ўзялося сурэпкай, якая якраз цвіла. Сярод жоўтай квецені часта пападаліся белыя астраўкі рамонкаў. І адкуль толькі ўзяліся гэтыя рамонкі? Лепшыя ж землі. І ўраблялі іх добра. Гною не шкадавалі. І вырасцілі сурэпку з рамонкамі. А вясной жа тут узышла кукуруза. А як узышла! Роўненькімі квадратамі, расток у расточак. Лісце выкінула шырокае, дужае. І побач з ёй тая кукуруза, якую пасеяў Ігнат, была зусім нямоглай. Вузкія лісточкі трымцелі на ветрыку, кволіліся, не спяшаліся набіраць сілу. Смяяліся тады з Ігната. Але мінула цёплая сонечная вясна, нечакана ў чэрвені пайшлі халодныя дажджы, сонца, як увосень, толькі блішчала, але не грэла. І тыя магутныя парасткі зніякавелі, абвялі, селі брусам. А на Ігнатавым полі па-ранейшаму шумелі вузкія лісцікі, выцягваліся, набіралі сілу. І вось цяпер тут сцяной стаіць кукуруза, а там — сурэпка з рамонкамі.

Калі ў калгасе загаварылі пра тое, што ўсе шматгадовыя травы пускаюць пад плуг, а на сілас і зялёную падкормку будуць сеяць толькі кукурузу, адны гаварылі, што кукуруза ў іх не прыжывецца, маўляў, землі для яе тут слабыя ды і сонца малавата. Другія ж крычалі, што толькі кукуруза нарэшце паможа іх калгасу нарыхтаваць багата кармоў, што толькі цяпер і адкрываецца дарога да росквіту жывёлагадоўлі. Пры гэтым прыводзілі факты, лічбы, якія сапраўды мелі месца ў паўднёвых раёнах краіны.

Ігнат не верыў ні тым, ні другім. Першым таму, што бачыў, як на агародзе яго маці, як і помніць, штогод расла на межах кукуруза, а другім — таму, што яны спадзяваліся на гатункі кукурузы, што расла на поўдні, а тут магла і не прыжыцца. І калі завезлі ў калгас насенне, Ігнат пачаў мяняць яго на мясцовае. Калгаснікі ахвотна мяня-

лі, бо прывазное было буйнейшае і прыгажэйшае. Мянялі не толькі ў сваёй вёсцы, а ездзілі і ў суседнія.

Тады ледзь не звольнілі Ігната з пасады брыгадзіра за разбазарванне гатунковага насеннага фонду. Праўда, абмежаваліся строгай вымовай. Але пасмяяліся з яго нямала.

Настаў час пасмяяцца Ігнату.

Але не да смеху было яму цяпер.

Учора старшыня калгаса загадаў яму касіць кукурузу на сілас. Ён не паслухаўся. І вось яго знялі. І, можа, пакуль ён тут стаіць, старшыня недзе сабраў сход і выбірае новага брыгадзіра. Ну і няхай! Тады няхай што хочуць, тое і робяць. А пакуль ён брыгадзір, ён нікому не дасць і пальцам крануць кукурузу.

Ігнат прысеў на ўзмежку.

Сонца паднялося высока, пачало прыграваць спіну. Мацней запахла ў паветры сурэпкай і рамонкамі. Звінелі пчолы, і гэты звон супакойваў, закалыхваў. Хацелася легчы ў мяжу, дзе пад навіссю травы трымалася прахалода, і паспаць. Ігнат падняўся, агледзеўся. На дарозе з Прудоўкі не было відаць ніякіх машын. Ды цяпер хутчэй за ўсё ніхто і не паедзе ўбіраць кукурузу: людзі недзе ўжо заняты іншай работай. Урэшце, можна паглядваць на поле і з вёскі, калі што, дык недалёка, няцяжка прыбегчы.

Жонкі дома не было. На дзвярах вісеў замок. Ігнат ведаў, дзе ляжыць ключ, але адмыкаць не стаў: заходзіць у хату не было ніякай патрэбы. Ён выйшаў на агарод. Убачыўшы Любу, якая ішла па мяжы паміж зялёнай бульбы і ржышчам, спыніўся ля плота, аблакаціўся, чакаў. Люба несла за плячыма мяшок з травою, трымаючы яго адной рукой за чуб. Ішла лёгка, без натугі. На шыі была завязана хусцінка. Валасы раз'ехаліся, закрываючы крыху твар. Сукенка была ёй караткаватая, і пры хадзьбе Люба паблісквала моцнымі круглымі каленямі.

Ігнат залюбаваўся жонкай. На душы павесялела. Вось так, як зараз, ён часта сустракаў яе, а калі выдавалася вольная часіна і ён выходзіў ёй насустрач, яна звычайна радавалася такой увазе, яшчэ здалёк блішчала сваімі прыгожымі зубамі, усміхалася, крыху чырванела, быццам бы саромелася чаго. Зараз жа ішла засяроджаная, задумлівая, здавалася, і не заўважыла мужа. Калі Люба зусім наблізілася да плота, кінуўся насустрач, адчыніў вароты.

— Памагчы не здагадаецца,— буркнула яна і лёгка, адной рукою, кінула мяшок Ігнату. Той аберуч падхапіў

яго і аж захістаўся пад яго цяжарам. Але на нагах устояў. Апусціў мяшок на зямлю, перадыхнуўшы, прыгнуўся, усцягнуў яго на плечы, пайшоў у двор услед за жонкаю. Пакуль Ігнат вытрушваў з натарбаванага мяшка траву — яна аж нагрэлася там,— Люба апаласнула рукі, твар, змыла пыл з загарэлых ног, зайшла ў хату і тут жа выйшла з пустымі вядзерцамі. Ігнат не паспеў сказаць ёй, што зараз сам сходзіць па ваду, як яна ўжо бразнула веснічкамі. Тыя, ударыўшыся аб шулу, адскочылі, расчыніліся насцеж. Ігнат бачыў, што жонка не ў настроі, ведаў, што ў такія хвіліны яе лепей не чапаць, нічога не гаварыць, не распытваць. І ён не спяшаўся ў хату. Частку травы паклаў у каробку-гусятніцу для каровы, якая прыбяжыць вечарам з поля згаладалая, частку ж вынес у сад, раскідаў на поплаве. «Хай прынясе свежай вады,— думаў Ігнат,— ахалодзіцца крыху, супакоіцца, тады з ёй можна і пагаварыць». Ігнат вярнуўся ў двор, вытрусіў мяшок, павесіў яго на плот прасушвацца, граблямі згроб смецце, занёс у хлеў карове на подсціл, стаў сярод двара, прыкідваючы, што б яшчэ зрабіць. Рабіць было нечага. Зайшоў у хату. Люба стаяла перад люстэркам, расчэсвалася. Ігнат выпіў поўны карэц халоднай, аж заходзіла ў зубы, вады.

— Бачыла старшыню,— сказала Люба, завязваючы куксу на патыліцы.

— І што табе сказаў старшыня? — пастараўся зусім абыякава спытаць Ігнат.

— Што ты дурань набіты.

— Для цябе ж гэта не было навіной,— Ігнат хмыкнуў.

— Канешне, не. Але я думала, што пра гэта ведаю толькі я, а аказваецца, пра гэта ведаюць усе. Старшыня новы чалавек і таксама ведае.

— Кажуць, дурню лягчэй жыць,— Ігнат гаварыў спакойна, яму ніяк не хацелася скандаліць з жонкаю.

— Яно і відаць,— падалося, што яго апошнія словы асабліва балюча ўдарылі Любу. Яна таропка праткнула вузел на патыліцы шпількай, павярнулася да мужа, адставіўшы свае дужыя рукі крыху назад. Ігнату падалося, што жонка збіраецца кінуцца на яго коршакам, ён аж сцяўся на крэсле, разгублена і бездапаможна паглядваў на яе.— Толькі любіш камандаваць ды ў сшытачак пісаць. А большай работы не ведаеш. А што жонка надрываецца, не бачыш. Не бачыш, што з дня ў дзень на той ферме па вушы ў гноі. І дома... І дровы ўнясі, і вады нанасі, і травы наця-

гай. Думаеш, я жалезная. Вечная. Усе мужыкі пра сваіх жонак думаюць, а ў цябе як няма жонкі. Другі б на тваім месцы падумаў, як зрабіць, каб жонка была чалавекам, каб і жонку людзі ведалі. Чужыя болей пра мяне думаюць, чым ты. Старшыня гаварыў, што хацеў на ферму болей і сіласу даць, і камбікармоў. З тваёй сілай ды ўменнем, кажа, гераіняй магла б стаць. Так і сказаў. А свой мужык супраць. А як жа, страшна яму, людзі скажуць, што жонку выцягвае. А цяпер кукурузу не даеш на сілас. Хочаш, каб каровы зусім падохлі, ці што? Ну, няхай жонка для цябе не існуе, дык ты ж і з начальствам ладзіць не хочаш. Ці хочаш, каб цябе выгналі з брыгады? А толькі хваліўся: сыну хату пабудуем, сыну хату пабудуем... Ды калі так з начальствам будзеш, без штаноў застанешся, не тое што хату пабудуеш. Выганіць цябе старшыня, і правільна...

— Ну чаго ты наляцела? Нібы не ведаеш, што гэта за кукуруза! — ён не мог паверыць, што жонка шчыра асуджае яго. Відаць, сустрэў яе старшыня, нагаварыў пад гарачую руку лухты, вось і завялася.

— Абрадаваў,— здавалася, яго стрыманасць яшчэ болей раздражняла яе.— Канешне, ведаю. Але цяпер, калі няма чым карміць кароў... Ды што з табой гаварыць? Тут твая карова, каб не я, здохла б без сена. Думаеш, я нацягаю за лета на ўсю зіму? Памыляешся. А не будзе сіласу, калгас сена людзям не дасць.

— Пратрымаем як-небудзь. Як усе...

— Ды ва ўсіх жа мужыкі як мужыкі, а ў мяне...

— А што ў цябе? У цябе я ўжо і не мужык? — не стрываў Ігнат.

— Ха! — здзекліва хмыкнула яна.— Вы толькі паслухайце яго! Гэта ж ён лічыць сябе мужыком! З якога гэта часу ты, Ігнатачка, стаў так думаць? — Люба не магла ўжо стрымацца. Ігнат хацеў суцешыць яе, але слова не мог уставіць.— Ды ты ведаеш, які ты мужык? Як той рак. Калі рыбы няма, дык і рак рыба. Вось які ты мужык. Як клоп, прысмактаўся да мяне, ды яшчэ і нос задраў. Думаеш, калі ты брыгадзір, дык я перад табой...

— Пры чым тут кукуруза? — закрычаў Ігнат.— Пры чым тут сена? Сказала б адразу, што я не трэба табе. І ўсё. Дык пачынае абы-што...

— А навошта ты мне? Ну, чаго маўчыш?

— Калі не трэба, то я пайду,— раптам абвялым, але даволі рашучым голасам сказаў Ігнат, сказаў і сам злякаў-

ся сваіх слоў. «Куды ісці? Чаго ісці? Палаяўся з жонкай, першы раз сур'ёзна палаяўся, дык ужо і бегчы з дому...»

— Ну чаго сядзіш? Раз сабраўся, дык ідзі. Ідзі, ідзі! Ці, можа, прырос да крэсла? Прыліп? Дык я табе памагу,— яна падскочыла да Ігната, схапіла яго загрудкі і лёгка, нібы ён зусім быў бязважкі, шпурнула ў шэрую прахалоду сянец так, што ён ледзь не грымнуўся потырч, але цудам утрымаўся, праехаў па слізкай падлозе — у сенцах было паналівана,— ударыўся аб сцяну. Услед паляцелі яго гумавікі, што стаялі ў парозе ля дзвярэй, целагрэйка...— Каб і духу твайго не было тут!..

«Ну, калі і яшчэ будзе выкідваць рэчы,— падумаў Ігнат,— то гэта ўжо сур'ёзна».

Які час ён стаяў ля сцяны, нібы прыліп да яе. У хаце было ціха. Ігнат пастаяў яшчэ некалькі хвілін у чаканні, потым выйшаў на двор. Сеў на ганку. Выцер далонню вочы, якія раптам здрадліва ўзмакрэлі. Не хацелася нікуды ісці, не хацелася нічога рабіць, нават рухацца не хацелася. Не хацелася жыць! І было сорамна. Ён адчуваў, што сорам напаўняе яго, як вада напаўняе бочку, што стаіць у кутку двара. У яго не было сілы падняцца, выйсці на вуліцу, сустрэцца з людзьмі. Здавалася, што кожны па яго выгляду здагадаецца, што адбылося. Ён і сам не разумеў, чаго так спапяляў яго сорам. Скандаляць жа многія, нават любяць скандаліць якраз на людзях, заклікаюць суседзяў у сведкі, шукаюць у іх падтрымкі. І нічога. Калі людзі і гавораць пра такія скандалы, як пра чарговую навіну, дык гавораць даволі спакойна, без асуджэння. А то і зусім не гавораць. Але чаму ж тады так сорамна Ігнату? Можа, таму, што не адчувае сябе вінаватым? Можа, яму сорамна за яе, Любу, якая так не разумее яго? І не хоча зразумець. Нават слухаць не стала. Паверыла старшыні калгаса, чужому чалавеку, а не яму, мужу.

У сенцах бразнула вёдрамі жонка. Калі яна выйдзе і загадае яму схадзіць па ваду, значыць, яна болей на яго не злуецца. А калі не... Вось яна выйшла на ганак, ён заўважыў, як паўз яго мільганулі яе буйныя калені, бразнулі веснічкі. Вярнулася назад з вёдрамі, поўнымі вады, пачала шараваць і мыць падлогу ў сенцах. Аж трашчаў у яе пад нагою дзяркач, якім яна церла забруджаныя масніцы. Некалькі разоў выходзіла на ганак і ледзь не праз галаву Ігната вылівала брудную ваду. Яго не заўважала, як і не было яго тут.

Магчыма, Ігнат яшчэ б доўга сядзеў на ганку, абыяка-

вы да ўсяго, акамянелы, нікому не патрэбны, каб раптам не зайшлі ў двор старшыня калгаса і інструктар райкома партыі Мікалай Васільевіч. Ігнат і не пачуў, як пад'ехала да двара машына.

— Мы яго шукаем па ўсяму калгасу, а ён сядзіць сабе дома,— падаў Ігнату руку Мікалай Васільевіч.— Мы і ля кукурузы цябе шукалі, усюды. А ён сабе адпачывае.

— А нечага рабіць,— падняўся Ігнат.— Старшыня адхіліў мяне ад работы, вось і сяджу...

— Ой, чаго ж вы тут стаіце? — выскачыла на ганак Люба. Яна паспела надзець сваю святочную сукенку, блакітную ў белы гарошак, і была такая гасцінная, такая радасна ветлівая, нібы гэта і не яна гадзіну назад лаялася з Ігнатам. Вочы шчасліва блішчалі, белазубая ўсмешка маладзіла твар.— Заходзьце ж у хату, што вы тут стаіце. Можа, малачка вам кісленькага? Ігнат, што ж ты не запрашаеш гасцей у хату?

— Дзякуем, дзякуем, Любоў Хузееўна, мы і тут пагаворым,— і калі Люба, прыкметна пакрыўджаная, што яе запрашэнне не было прынята, зноў пайшла ў хату, Мікалай Васільевіч сказаў Ігнату: — Дык я кажу, мы былі на тваім кукурузным полі. Добрая кукуруза, але магла быць і лепшай.

— Канешне,— пагадзіўся Ігнат.— Але і так вырасла нядрэнная. І гэта тады, калі побач з ёю і на лепшай зямлі зусім не вырасла. А каб год быў добры... Ды не пра гэта я хачу сказаць. Галоўнае, яна расце кожны год. Гарантавана. Мясцовы гатунак. Правераны гадамі. Дык я і кажу, што гэтай кукурузай усё роўна ўсіх кароў у калгасе не накорміш.

— Яшчэ як накорміш,— перабіў яго старшыня.— Па тоне сіласу на галаву будзе. Я падлічыў. Гэта ж тое, што нам трэба.

— А я хачу пакінуць увесь участак на насенне,— даводзіў сваё брыгадзір.— У будучым годзе ва ўсіх брыгадах яе пасеем. Можа, яшчэ і для суседзяў застанецца. Гэта ж будзе гарантаваны ўраджай кукурузы, а не рамонкі ды сурэпка, як у гэтым годзе. А так зглумім і кароў не накормім, і насення не будзе.

— Я гэта ўжо ад яго сто разоў чуў,— паскардзіўся старшыня інструктару: — А што мне рабіць? Травы заараді. Ва ўсіх брыгадах кукуруза прапала. Сена трохі ёсць. Будзе салома. Бульбоўнік пусцім пад сілас. Ды каб гэта кукуруза, то як-небудзь, глядзіш, і перазімавалі б. А так

ні сіласу не будзе, ні насення. Настануць халады, не выспее, вось і ўсё.

— У цётак на агародах выспявала, а ў нас ужо не выспее,— не здаваўся брыгадзір.

— То на гародах. Сам бачыў, як яе цёткі збіраюць. Павяжуць пучкамі, павесяць на печы на жэрдачку, яна там у сухім і вісіць да вясны. А вясной палушчаць пачаткі і сеюць. А паспрабуй яе захаваць у такіх памерах. І хто нам абмалоціць тыя пачаткі.

— Аддадзім бабкам на захаванне, калі ў нас не будзе дзе,— сказаў Ігнат.— А наогул, трэба падумаць пра машыну, якая б малаціла. Недзе ж ёсць яны...— і звярнуўся да інструктара: — Мы столькі патрацілі часу, Мікалай Васільевіч, збіралі па жменьцы ўсю зіму тое насенне, хацелі адрадзіць у маштабах калгаса, а можа, і раёна мясцовыя гатункі. Іх жа можна з часам і палепшыць. Адбіраць буйнейшыя пачаткі, больш урадлівыя...

— Мне ўсё ясна, таварышы,— не даслухаў да канца Мікалай Васільевіч брыгадзіра.— Вось што... Зробім так. Параімся ў райкоме, як памагчы вашаму калгасу кармамі, каб гэты ўвесь масіў пакінуць на насенне. Мне здаецца, мясцовым гатункам кукурузы зацікавяцца ў многіх калгасах. Сабяром старшынь, аграномаў, пакажам, што ў вас тут вырасла, так што, Ігнат Тарасавіч,— інструктар падаў руку брыгадзіру,— нечага вам адседжвацца дома, а рыхтуйцеся сустракаць гасцей. Думаю, што старшыня калгаса не супраць, каб вы свае абавязкі брыгадзіра выконвалі і далей.— І, ужо выходзячы з двара, сказаў брыгадзіру і старшыні калгаса разам: — Вы ўсё ж сотак колькі скасіце, узважце. Каб дакладна ведаць, колькі зялёнай масы з гектара...

Ігнат стаяў ля двара, глядзеў, як пыл, узняты машынай, зносіць на дрэвы, што густа разрасліся перад хатамі, як паступова святлее паветра, і не адчуваў ніякай радасці ад перамогі над старшынёй, нібы ён загадзя быў упэўнены ў тым, што ўсё гэта іменна так і скончыцца. Ён стаяў і думаў пра Любу...

Жывуць жа колькі гадоў разам, з дня ў дзень робяць прывычнае і такое неабходнае, і здавалася б, у іх жыцці ўсё трывала, моцна, назаўсёды. А варта вось здарыцца чаму, адразу і высвятляецца, што не хапае ім паразумення, што яны, як чужыя...

## ПРЫБЛУДА

«Добры дзень, Вольга!

У першых радках свайго пісьма хачу паведаміць, што ўсе мы жывы і здаровы, чаго і табе жадаем, а таксама мужу твайму і маленькаму сыночку, імя якога мы так і не ведаем. Ты ж не напісала нам, як завуць яго, які ён у цябе, на каго падобны, на цябе ці на бацьку. І наогул, ты мала пішаш пра сваё жыццё. Добра табе там ці не? Ці не сумна? Жывеш жа сярод чужых людзей. З нашых там нікога няма. А можа, ты занятая сваімі клопатамі, дык і некалі сумаваць? Можа, яно і сапраўды ў горадзе весялей? У нас, паглядзіш, дык усе стараюцца ў горад папасць. А можа, табе там і не вельмі, што маўчыш. Можа, няма чым хваліцца? Памятаю, калі адразу пасля вайны ездзіла рабіць на ткацкую фабрыку. І людзей было багата, і ўсе маладыя, мае равеснікі, але не вытрымала. Як успомню сваю Ягадную, сваю хату, родных, аж плакаць хацелася. Урэшце кінула ўсё і прыехала.

Не памятаю, пісала табе ці не, што я пахавала свайго Пятра. Думала, не перажыву. Ды вось перажыла. А што рабіць? Дзяцей жа на ногі ставіць трэба. А потым прывыкаеш да ўсяго. Калі наш бацька памёр, таксама думала, не перажыву... Аж у бальніцы ляжала. Але з часам усё загаілася. Загоіцца і цяпер. Чалавек да ўсяго прывыкае. У людзей яшчэ горш бывае, а жывуць жа. У мяне хоць хата цяпер добрая. Цагляная, вялікая, светлая. Сад вялікі. Жыць бы ды радавацца. Ды не давялося. Але нічога.

У Марфы таксама нікога не засталося. Жыве са сваім Андрэем. Большы, Сяргей, робіць у Мінску нейкім вучоным, а Толік у Гомелі на заводзе. Ажаніўся. Атрымаў кватэру. Тры пакоі, хвалілася Марфа. Меншы, Ігар, у Мінску вучыцца. Хоча жаніцца. Будзе браць нейкую, што жыла на пасёлку ля нашай станцыі. Яна таксама недзе з ім вучыцца. Марфа не хоча, каб ён так рана жаніўся. Я ёй казала, каб не перашкаджала. Усё роўна пажэняцца, калі надумаліся. Перашкодзіш, толькі крыўда будзе. Адным словам, у яе ўсё нармальна. Праўда, Андрэй яе апошнім часам часта хварэе. Хоча перабрацца ў горад. Марфа ж і слухаць не хоча пра горад. Абжылася тут, кажа, ведаю ўсіх, і раптам усё кінуць і ехаць у чужыя людзі, немаведама куды, не, не хочу.

Ігнат наш таксама жывы і здаровы. Яго Люба ўсё яшчэ робіць на ферме. Цяпер там зарабляюць добра. І наогул,

у нашым калгасе зарабляюць нядрэнна. А тыя, што на пастаяннай рабоце, дык не ведаюць, куды грошы дзяваць. Маюць не меней, чым рабочыя на заводзе. У паляводстве, праўда, крыху меней, але мірыцца можна. Адным словам, параўноўваць з тым часам, калі ты яшчэ была дома, ніяк нельга. Усе цяпер з хлебам і салам, а грошы адкладваюць на новыя хаты. Ва ўсіх каровы, свінні, качкі, куры. Купляюць тэлевізары, глядзяць кіно дома. У клуб не ходзяць. Мой Пятро таксама збіраўся купіць тэлевізар. Але цяпер я пачакаю. Дзеці малыя, грошы спатрэбяцца яшчэ на што іншае. Сама зарабляю таксама нядрэнна. Але невядома, як яно будзе далей. Ды горш не будзе.

Але як бы тут не было, галоўнае, мы ўсе разам. У кожнага сям'я. А вось наша маці засталася адна. Цяжка ёй, здароўя няма зусім. Запрашала да сябе, не хоча. Не хоча і да Марфы. Ігнат таксама запрашаў, адмовілася. Пражыла тут увесь век, кажа, буду жыць да канца. Яна часта ўспамінае пра цябе, хоча, каб ты прыехала. А то, кажа, і хату некаму перадаць. Усё ж гатовае. А што? Падумай. Ну чаго табе сядзець там сярод чужых людзей? Мужчыны ў нас зарабляюць добра. А калі ён яшчэ які цясляр ці каваль, адным словам, які спецыяліст, дык наогул ніякіх праблем. Работы ўсякія, і ўсе грашавітыя. Так што падумай. Чакаем.

Прывітанне ад усіх! Твая сястра *Ніна*».

Вольга прачытала пісьмо, задумалася.

Яна сядзела ля кухоннага стала, паклаўшы рукі на калені.

Твар яе як застыў. Мацней выступілі маршчыны пад вачыма. А ўпарты позірк быў скіраваны туды, дзе на ўзгорку стаялі пяціпавярховыя дамы, адкрытыя ўсім вятрам, як голыя, дзе на гарызонце сінела бясконцая тайга, зліваючыся з засмуглым небам.

За сцяной у зале грукаў яе сын Вадзімчык. Можа, што гародзіць з крэглікаў, якіх нямала нанасіў яму бацька з будоўлі?

На пліце, дзінькаючы накрыўкай, кіпеў суп...

Некалі, яшчэ тады, калі Вольга жыла ў бацькоў і Ніна была ў дзеўках, Вольга без асаблівай трывогі думала пра сваю будучыню, на нешта яшчэ спадзявалася. Калі ж яе меншая сястра выйшла замуж за Пятра Чыха, яна хадзіла, як аглушаная. Іменна тады не раз пашкадавала Вольга, што ў свой час, адразу пасля вайны, адмовіла Міколе

Дразду, які ўпарта і доўга заляцаўся да яе. Дык не, маці і бацька не захацелі яго, маўляў, без цара ў галаве...

А потым, крыху пазней, да яе заляцаўся нейкі Кірыла Серыкаў, які рабіў на станцыі на дрывяным складзе. Высокі быў хлопец, прыгожы. Яна пагадзілася стаць яго жонкай. Але за некалькі дзён да вяселля яго арыштавалі. Аказалася, пры немцах ён быў паліцэйскім недзе ў Курскай вобласці, ці што, і меў зусім іншае прозвішча, а тут, на станцыі Цярэшкі, хаваўся з чужым пашпартам.

А потым Вольга была не супроць прымака. Тады ўсе перастаркі прымалі прымакоў. Але і іх расхапалі хутка. Ды і прымакоў тых не багата было. Толькі тыя, што вярнуліся з вайны.

Некаторыя з яе аднагодак змірыліся са сваім лёсам, перасталі і думаць пра замужжа. А некаторыя паехалі на розныя будоўлі, у далёкія гарады. Пісалі, што паўладкоўваліся нядрэнна, павыходзілі замуж...

Паехала і Вольга на адну далёкую будоўлю аж за Урал. І сапраўды там яна адразу апынулася сярод мноства мужчын розных узростаў. Рабіла касірам у будаўнічым упраўленні і была такім чынам ва ўсіх навідавоку. Яе хутка заўважылі, пачалі заляцацца. Ды яна вытрымала характар, не кінулася за першага трапіўшагася.

Неяк запрасіў яе ў кіно высокі, з вясёлымі блакітнымі вачыма і белым кучаравым чубам цясляр Віктар Дубкоў. Частаваў таннымі карамелькамі — іншых там і не было,— смяшыў рознымі вясёлымі гісторыямі са свайго жыцця, якое, па яго словах, складалася з адных невераго́дных прыгод. Віктар звычайна не любіў гаварыць пра іх сур'ёзна. З ім было лёгка і радасна. А пасля таго, як яны неяк пабылі ў адной кампаніі, дзе ён увесь вечар без супынку танцаваў і спяваў — а голас у яго быў звонкі, прыгожы, нікога з хлопцаў не ведала Вольга ў сваёй Ягаднай з такім голасам,— яна па-сапраўднаму закахалася ў Віктара.

Спачатку яе не трывожыла тое, што ён, ажаніўшыся, зусім не змяніў сваіх паводзін. Працягваў вадзіцца з тымі ж сябрукамі, што і да жаніцьбы. Праўда, заўсёды браў з сабою і Вольгу. Часта і яны прымалі гасцей у сваім закутку ў інтэрнаце. Сустрэчы з людзьмі, вясёлыя застоллі, якія заўсёды заканчваліся танцамі, спачатку падабаліся Вользе. Але хутка сталі надакучаць. Яна бачыла, што галоўным у гэтых гулянках было адно — напіцца. Ды і наладжваліся яны занадта часта. Не паспееш адысці ад адпае гулянкі, як наплывае наступная. Не хапала грошай

ад зарплаты да зарплаты. Ды і Віктар на гэтых гулянках вельмі ж багата піў.

Не суцяшала і тое, што ён піў, як і ўсе. Не адзін раз Вольга ўпрошвала яго, каб пашкадаваў сябе, не захапляўся так гэтаю заразаю. Ён толькі смяяўся: маўляў, ведае сваю меру і яшчэ ніколі ў жыцці не быў і не будзе п'яным. П'яным яго Вольга сапраўды ніколі не бачыла. «Гуляй, пакуль гуляецца,— часта гаварыў ён ёй.— Пойдуць дзеткі, тады не разгуляешся». Яна сапраўды верыла, што, пасля таго як з'явіцца ў іх малое, прыбавіцца клопату, будзе не да гуляў. А пакуль што няхай трохі і павесяліцца чалавек.

Але Дубкоў не адцураўся свае кампаніі і пасля таго, як нарадзіўся ў іх сын. Ён сустракаўся з сябрамі, як і раней, толькі гуляў цяпер адзін, без жонкі, як халасцяк. «Ты што гэта сабе думаеш? — неяк не вытрывала яна.— Тут разрываешся, а ён, як маладзёнак які».— «Ты правільна гаворыш,— было падобна на тое, што ён каяўся.— Больш не буду». І спраўдзіў сваё слова. Кожны дзень пасля работы ішоў дамоў. А яго дружбакі кампаніяй пачалі заглядваць да іх ледзь не праз дзень. Праўда, тут яны не спявалі, не танцавалі, нават гаварылі напаўголаса, каб не растрывожыць малога, але пілі па-ранейшаму багата. Вольга разумела, што Віктар занадта далёка зайшоў, што ён ужо не можа абыходзіцца без выпіўкі. Калі ж яна пачынала гаварыць яму пра гэта, ён даводзіў ёй, што «узы дружбы священные» і імі трэба даражыць, бо без сяброў жыць нельга, а што тычыцца гарэлкі, ён ніколі не губляў галавы і не згубіць, так што, дарагая жоначка, можаш жыць спакойна і дарэмна не хвалявацца. Не падводзіў і не падвяду.

Вольга ўсё часцей і часцей пачынала задумвацца, якім чынам адарваць мужа ад яго сабутэльнікаў. Ёй здавалася, што калі ён перастане сустракацца з імі, то столькі піць не будзе...

І вось у самы той момант, калі Вольга напружана шукала выйсця з гэтага становішча, і прыйшло пісьмо ад сястры. Малайчына Нінка, як ведала, калі напісаць.

Увечары, прачытаўшы пісьмо, Дубкоў нечакана для Волькі абрадаваўся.

— А што? Можа, махнём? Усюды быў, а вось у Беларусі не ўдалося. Адзін раз у «бурной молодости» хацеў ехаць з Харкава ў Мінск, але мяне, безбілетніка, знялі з поезда ў Канатопе. Так і не даехаў да Беларусі.

Яна не паверыла яму, думала, што ён гаворыць гэта толькі таму, што якраз у такім настроі, калі і мора па калені. Але раніцай, прачнуўшыся, ён зноў загаварыў пра ад'езд:

— Ну, калі паедзем? Можа, разлічымся ды і махнём? Якраз канец месяца. А чаго чакаць? Пакуль цёпла, трэба і ехаць. З малым лягчэй будзе ў дарозе.

Вользе аж не спадабалася яго такая хуткая згода. Яна сама яшчэ вагалася, ёй хацелася ўсё абдумаць, узважыць, а ён, як той вецер, падхапіўся і гатоў ехаць хоць зараз. Было ў гэтым нешта ад легкадумства. Але асабліва доўга яе не займалі гэтыя сумненні. Праз які дзень яна ўжо толькі і жыла сваім ад'ездам. Калі ж яны прыехалі ў Ягадную, ён зноў уразіў яе сваім учынкам, які ніяк не характарызаваў яго, як сур'ёзнага чалавека. Ці, можа, раз западозрыўшы яго ў легкадумнасці, яна цяпер пачынала бачыць яе нават і там, дзе яе не было?

Першае, што зрабіў Дубкоў, калі яны прыехалі — узяў старую двухколку, на якой яшчэ пасля вайны вазілі гной на план і карчы з лесу і якая цяпер забытая стаяла ў дрывотніку, і прывёз на ёй з магазіна аж дзве скрынкі гарэлкі.

— Трэба ж запрасіць увесь твой род, каб пазнаёміцца. Ды і на мяне няхай паглядзяць,— сказаў ён Вользе, якая сустрэла яго ў двары дакорлівым позіркам.— На нашым жа вяселлі нікога з тваіх не было, так што мы абавязаны.

— Гэта будзе па-людску,— раптам падтрымала яго цешча Варвара Мацвееўна, якая якраз увайшла з агарода ў двор з яблыкамі-паданцамі ў прыполе.

— Я не супраць, але ж,— Вольга з неадольным жахам глядзела на дзве драўляныя скрынкі, з якіх тырчалі, паблісківаючы на сонцы бляшанымі коркамі, бутэлькі.— Не паспелі агледзецца, а ты...

— А калі агледзімся, тады, можа, і жаданне прападзе,— засмяяўся Дубкоў. Ён закаціў двухколку са скрынкамі ў дрывотнік, выйшаў адтуль з адной бутэлькай у руцэ.— Трэба ж паспрабаваць, ці якасны прадукт выпрабляюць прадпрыемствы мясцовай прамысловасці.

А за абедам, апустошыўшы шклянку, прыцмокваючы, сказаў:

— Вышэйшы клас! П'еш, і яшчэ хочацца,— але болей не ўзяў, заявіўшы, што сам ён ніколі не мае ахвоты піць, а калі зараз і дазволіў сабе трошкі, дык толькі дзеля дэгустацыі.

Вольга, якая сядзела за сталом маўкліва насупленая, пасля гэтае заявы мужа прыкметна павесялела. Заўважыўшы перамену ў яе настроі, Дубкоў канчаткова супакоіў яе:

— Ты, Вольгачка, за мяне ніколі не хвалюйся. Твой Дубкоў ведае, дзе, калі, з кім і колькі.

У гэты ж дзень пасля абеду ён абышоў вёску, наваколле, заглянуў і ў лясок, што быў за возерам,— лясок яшчэ так і не падняўся за пасляваенны час, бо ўзімку там высякалі на дровы ўсё, што паспявала хоць крыху вырасці.

— Упаўне нармальны населены пункт,— заявіў ён пасля агляду.— І пейзаж. Жыць тут можна, і нават вельмі змястоўна. Вось толькі хатам вашым можна было быць крыху прыгажэйшымі. Але нічога, упрыгожым.

Варвара Мацвееўна, акрамя таго выпадку, калі пахваліла зяця за намер сабраць усіх родзічаў і пачаставаць, больш нічога пра яго дачцэ не гаварыла. Вольга так і не ведала, спадабаўся ёй яе муж ці не. Бачыла, што старая даволі пільна прыглядаецца да яго, прыслухоўваецца да кожнага слова. І толькі пасля таго застолля, якое ўсё ж праз тыдзень пасля іх прыезду наладзілі і на якім Дубкоў раптам заспяваў песню, якую не ведалі ў вёсцы і таму не маглі падтрымаць яго, і ён абазваў усіх манахамі, якія ўмеюць толькі піць ды жэрці, Варвара Мацвееўна, мыючы з дачкою посуд, нечакана для яе сказала:

— Прыблуда нейкі.

Такой ацэнкі мужа Вольга ніяк не чакала.

— А табе ніколі мае жаніхі не падабаліся,— пакрыўдзілася яна.

— Гэты мне падабаецца,— запэўніла дачку Варвара Мацвееўна.— Вясёлы, абыходлівы. Работнік, відаць, нядрэнны. Але прыблуда.

Так Вольга і не зразумела тады, што хацела сказаць ёй маці. А можа, і не старалася зразумець, бо не паверыла ёй: хіба магла тая за які тыдзень разгледзець чалавека?

Дубкоў доўга не сядзеў без работы. Ён уладкаваўся ў мясцовую будаўнічую арганізацыю цесляром. У двары ля высокага штыкетніка пад ценем старой раскідзістай таполі зрабіў сабе нешта накшталт варштата і вечарамі пасля работы і ў выходныя дні з тых «шабашак», якія штодня прыносіў з сабой, пачаў майстраваць такое, чаго ніколі ніхто не бачыў не толькі ў Церахавым двары, а і ва ўсёй Ягаднай. З-пад яго рук выходзілі нейкія фантастычныя птушачкі, звяры, кветкі. Імі ён упрыгожваў ліштвы акон.

Спярша ён аздобіў вокны ў хаце цешчы. На ліштвах, асабліва на верхніх, такога нагарадзіў, што трэба было пастаяць і паглядзець не адну хвіліну, каб разабрацца, што там да чаго. Гэта былі не проста ўпрыгожанні, а цэлыя сюжэты з чарадзейных казак. Тут былі звяры, падобныя на зайцоў, з яблыкамі ў зубах. А з тых яблыкаў раслі загадкавыя кветкі, з-за якіх выглядвалі казачныя галоўкі невядомых птушак. І над усім гэтым звярынцам звісалі карункі з дробных лісточкаў, якія часткова захіналі сабой гэты фантастычны свет і прымушалі стаяць доўга перад акном і ўглядацца ў ліштвы. І стараватая хата з дробных бярвенняў, прывезеных адразу пасля вайны з мясцовага лесу, нізкая, пад саламянай страхой, густа парослай зялёным мохам, раптам на вачах павесялела, заззяла вясёлкавымі фарбамі на ліштвах і на франтоне. Нават на вільчык Дубкоў умудрыўся пасадзіць нейкага, таксама фантастычнага, пеўня з вялізнай чырвона-вогненнай шышкай, з распушчаным залатым хвастом паўліна. І гэты стракаты певень не толькі ўражваў сваёй афарбоўкай, а яшчэ і круціўся на адной назе, паказваючы сваёй вогненнай шышкай, з якога боку дзьме вецер.

Пасля таго як Дубкоў закончыў упрыгожванне хаты сваёй цешчы, ён кожны дзень, вяртаючыся дамоў з работы, спыняўся сярод вуліцы насупраць сваіх акон і, задраўшы раскудлачаную белую галаву, шырока раскрытымі ад захаплення вачыма глядзеў на тварэнне рук сваіх.

— Ну чаго ты стаіш там як укопаны? — крычала яму праз адчыненае акно Вольга.

— Сімфонія! — казаў ён, выкідваючы перад сабой руку і паказваючы на хату.

Спачатку аднавяскоўцы з прыкметнай насцярожанасцю і недаверам адносіліся да яго майстэрства. І не таму, што яго майстэрства не падабалася ім. Яно падабалася ім, і вельмі. Але ўсё тое, што ён рабіў, для іх было непрывычным, новым.

У Ягаднай, ды і ў навакольных вёсках, звычайна ўпрыгожвалі ліштвы промнямі сонца, палосачкамі, сіметрычнымі дзірачкамі розных памераў, кубікамі. Верхнія ліштвы рабіліся таксама груваcткімі, але яны набіраліся са шматлікіх дошчачак, квадрацікаў, выразаных п'явак, крыжыкаў, трохвугольнікаў, кольцаў. Часам гэтыя карункі вызначаліся зайздросным майстэрствам, нечаканым спалучэннем розных формаў, але ўсе яны былі ў адным стылі. Толькі і адрозніваліся колькасцю розных фігурак ды

вытанчанасцю густу. А тут жа, у Дубкова, усё было нязвычнае. Але паступова, прыглядаючыся да акон Церахавай хаты, аднавяскоўцы пачалі пагаворваць, што яны прыгажэйшыя за іхнія. І адзін за другім пачалі прасіць яго зрабіць і ім нешта падобнае.

— Вы мяне абражаеце,— гарачыўся Віктар Дубкоў.— Дзе вы бачылі, каб сапраўдны мастак паўтараў сам сябе? — І са смехам дадаваў: — Я ніколі не хадзіў бы па адной сцежцы, каб не агароды.

Хутка ў вёсцы ўсе пераканаліся, што Дубкоў гаварыў праўду. Усім сваім заказчыкам ён рабіў непаўторныя ўпрыгожванні на вокны. Але ва ўсіх іх угадвалася рука аднаго і таго ж майстра. Пры ўсёй сваёй непадобнасці яны мелі нешта агульнае.

Дубкову нядрэнна плацілі за яго работу. Праўда, Вольга не вельмі бачыла тыя грошы. Спачатку ён разоў колькі аддаў ёй заробак, потым перастаў аддаваць не толькі яго, але нават і зарплату. Затое кожны вечар стаў прыходзіць дамоў вясёленькі, не забываў прыхапіць яшчэ тое-сёе і на пахмелле. Раней хоць на пачатку дня ў рот не браў, а цяпер снедаць не садзіўся, калі не было чым горла сваё бяздоннае прапаласкаць. Вольга нічога не гаварыла яму, нават выгляд рабіла, асабліва пры маці, што нічога асаблівага не адбываецца. А на адзіноце, калі старая спала, шэптам выгаворвала яму. Ён слухаў яе, уздыхаў, а потым даказваў, што яна дарэмна панікуе, што ён пайшоў на рэзкае зніжэнне выпівак, што цяпер ён п'е меней, чым раней, калі быў халасцяком, так што, калі і далей так пойдзе, то вельмі хутка, можа, праз які год, стане зусім непітушчым. Тым больш што яму самому не вельмі прыемна слухаць кожны дзень папрокі любай жонкі. Але гаварыў адно, а рабіў другое. Мала таго, што не спыняўся піць, усё часцей і часцей пачаў вяртацца дамоў вельмі позна. І кожны раз знаходзіў сабе апраўданне. То ў некага канчаў ліштвы, дык не хацелася пакідаць на заўтра, то таварыш па рабоце папрасіў памагчы завезці з магазіна мэблю, ну і пасядзелі ў яго трохі, пагаварылі, то на дальнюю будоўлю вазілі дошкі ды забуксавалі ў дарозе... І канца не было гэтым прычынам. А тым часам па вёсцы паўзлі чуткі, што Дубкоў падгульвае то з удавіцай, то з векавухай якой. Вольга не вельмі верыла гэтым чуткам, думала спачатку, што людзі проста зайздросцяць ёй, таму і плявузгаюць усялякае. Але аднойчы Дубкоў сам прагаварыўся. Прыйшоў ён тады пасля апоўначы, пад добрай такі «мухай».

— Можа, і сёння каму мэблю вазіў? — спытала яна, калі ён улёгся побач.

— Мэблю ж,— хмыкнуў ён.— Завезла мяне ў бабіна царства і яшчэ пытаецца. Ды якія жанчыны! Я, Вольгачка, усё жыццё буду ўдзячны табе, што завезла мяне сюды,— ён яшчэ чмокнуў яе ў шчочку ліпкімі губамі, адвярнуўся і адразу ж захроп.

Вольга ў тую ноч ледзь не да раніцы праплакала. А на другі дзень зноў прамаўчала, хаця ледзь устрымалася, каб не паскандаліць. І нікому не паскардзілася. Не хацела, каб з яе смяяліся людзі, не хацела, каб і маці ведала пра ўсё. Абавязкова не праміне ўпікнуць: «Казала ж, што прыблуда...» Ды і сын жа рос. Хацелася, каб у яго быў бацька. А потым недзе і спадзявалася, што не можа ж ён быць такім доўга, прачнецца ў чалавека сумленне.

Час ішоў, а паводзіны Дубкова не мяняліся.

«Залатыя рукі, ды рот дзіравы»,— не раз казала Варвара Мацвееўна дачцэ. Вольга зацята маўчала, і старая не працягвала гаворкі. Але аднойчы яна выказала ёй усё, што думала. Вольга якраз вывела сына пазабаўляцца ў пясочніцы, якую змайстраваў пасярод двара Дубкоў, і калі вярнулася назад у хату, маці пачала без усялякага ўступу:

— І што гэта ты сабе, дачка, думаеш? Счарнела ўся, хоць у труну кладзі. Другія маладзіцы за мужыкамі, як кветачкі якія, а ты... Схуднела, згорбілася. А ён? Жыве, як халасцяк які. Калі прыехаў, быў, як доска, а то, бач, аж наліўся салам. Як бычок. І чаго ты маўчыш? Чакаеш, пакуль ён зусім цябе ў магілу загоніць? А ён і загоніць. І слязу не пусціць. Думаеш, людзі нічога не бачаць, не гавораць? Ды такіх, як ты, у яго, ведаеш, колькі? Прыблуда і ёсць прыблуда. Каб на мой характар, я б яму паказала! Ці чалавекам стаў бы, ці выгнала б, як таго ката шкадлівага. Лепей адной, чым з такім. Ты паглядзі на сваіх таварышак, што адны жывуць. Як людзі. Здаровыя, прыгожыя. А ты?.. Памянеш мяне, слязамі ўмыешся, калі будзеш цярпець ды маўчаць.

На гэты раз Вольга не пярэчыла маці. Ведала, што тая гаворыць праўду. Яна сама не раз так думала, але пагаварыць з мужам рашуча не адважвалася. Але цяпер маўчаць не будзе, цяпер скажа. Цяпер ёй нечага хавацца ад маці.

У той вечар Віктар прыйшоў з работы рана, відаць, ніхто не паклікаў, а ў самога не было грошай.

З нейкай раздражненасцю кінуў на прызбу пінжак,

есці ў хату не пайшоў, пайшоў да свайго варштата, пачаў габляваць дошчачкі, напяваючы пад нос нешта адчайна бесклапотнае.

Вольга падышла да мужа, моўчкі назірала за яго работай. Адкінуўшы ўбок гатовую дошчачку, ён узяў другую, падмігнуў жонцы:

— Ну як яно, Тарасаўна?

— Ты мне не падмігвай, а скажы, гэта доўга будзе цягнуцца?

— Што — гэта? Гэта? — ён паказаў на рубанак.— Пакуль не сцямнее.

— Твае гулі.

— А-а... А што? Грошы не аддаю? Аддаю. Колькі табе трэба на жыццё, столькі і аддаю. Без грошай не сядзіш. Так? Так. Начую дома? Дома. А што ў астатні час раблю, гэта, дарагая Тарасаўна, маё асабістае дзела. Падабаецца гэта табе ці не, але перарабляць сваё жыццё на твой капыл не збіраюся. Якім быў, такім і застануся. Бачыла, за каго выходзіла? Сілай ніхто не гнаў? Не. Дык у чым дзела? Вось так. І наогул, чалавек мае права хаця на нейкую свабоду? Мае. Я ж не выпытваю ў цябе, дзе і што ты робіш цэлы дзень, калі мяне няма дома. Трэба куды, хадзі і ўвечары. Слова не скажу. Не ўмееш быць свабоднай? Павучыся ў мяне. Тады ў нас не будзе адзін да аднаго ніякіх прэтэнзій. Вось так, Тарасаўна.

— Гаварыць ты ўмееш...

— І спяваць умею. І выпіць умею. І тое-сёе зрабіць умею... адным словам, хлопец — агонь.

— Вось што, агонь,— сказала яна рашуча.— Ты добра ведаеш, пра што гавару. Калі не спынішся, нам не жыць. Тыдзень яшчэ пацярплю, але ні дня болей. Запомні сённяшні дзень. Вось так. Падумай, Віктар, пакуль увесь не згарэў. Агонь!..— памаўчала і дадала зусім будзённа: — А цяпер пайшлі вячэраць.

— Правільна, Тарасаўна, правільна,— абняў ён яе за плечы з той шчырай ласкавасцю, як гэта ён умеў звычайна рабіць.— Відаць, сапраўды мне трэба падумаць, Тарасаўна. Падумаю. Абавязкова падумаю.

На працягу тыдня Вольга больш яму не сказала ні слова. А ён, відаць, ці не надаў асаблівага значэння таму папярэджанню, ці проста забыўся пра яго, паводзіў сябе так, як і раней. Затрымліваўся позна, а адзін раз прыйшоў аж пад раніцу і з сіняком пад вокам.

Вольга і на гэты раз нічога яму не сказала.

А калі праз тыдзень Віктар вярнуўся сярод ночы, то пры бляклым месячным святле ўгледзеў на ганку свой вялікі скураны чамадан, на якім пабліскваді металічныя замочкі, і побач вузел са сваім зімовым адзеннем.

— Та-а-ак,— пачухаў ён патыліцу.— Значыцца, мінуў тыдзень. Хм...

Ён прысеў на ганак, абапёрся локцем на чамадан, спіною прыхінуўся да мяккага і цёплага вузла. Узяць бы вось так ды і праспаць да раніцы, тым больш што ноч стаіць цёплая. А раніцай яна ўбачыць яго, такога адзінокага, пакінутага, бездапаможнага і бяздомнага, вядома ж, пашкадуе. Не можа быць, каб не пашкадавала. Сэрца ў яе адыходлівае. А можа, узяць свае рэчы ды і пайсці ціха з гэтага двара? Не прыніжацца? Што ж зробіш, калі яго тут не зразумелі? Але Дубкоў не быў бы Дубковым, каб вось так моўчкі ўзяў свае рэчы ды і пайшоў з двара.

Ён падняўся, пастукаў у шыбку. Раз, другі. У цёмным акне захісталася белая пляма.

— Чаго грыміш? — спытала Вольга.— Ідзі, адкуль прыйшоў. Я ж казала табе...

— Я назад не прашуся.

— Чаго тады стукаеш?

— Не магу ж пайсці, не развітаўшыся з табой. Думаеш, я хамло якое, ці што?

Вольга прыадчыніла акно:

— Гавары.

— Ды выйдзі.

— Пачую і тут. Гавары.

— Ну няхай і так, калі баішся,— ён памаўчаў і раптам сказаў урачыста: — Вось што, Вольга Тарасаўна. Перш чым пакінуць гэты ўтульны і гасцінны двор, я хачу сказаць некалькі слоў на развітанне. Я ўдзячны табе на ўсё жыццё, што ты змагла палюбіць мяне, такога баламута. А то пачынаў ужо думаць, што так і застануся ў дзеўках. А ты мяне зрабіла чалавекам. І яшчэ табе дзякую, Тарасаўна, што вывезла ты мяне з таго сумнага краю, прывезла сюды. Я і не падазраваў, што ёсць такія мясціны, дзе жыве столькі прыгажунь і сярод якіх багата незанятых. Вельмі дзякую табе, Тарасаўна, за глыбокае разуменне маёй душы. Ты ўбачыла, што я задыхаюся без свабоды, і ты даеш мне яе. І сапраўды, для мяне было б вялікім няшчасцем, каб ты прымусіла мяне жыць з сабой. Дзякую за вызваленне! Не ведаю, як і аддзячыць табе за такое велікадушша. А сына я не забуду. Вырасце, раскажу, якое

вялікае сэрца было ў яго маці. Але ты ніколі не расказвай яму праўду пра мяне. Няхай думае, што яго бацька быў таленавіты цясляр. Яшчэ раз дзякую табе, Тарасаўна, нізкі паклон твайму цярпенню вялікаму,— і ён сапраўды стаў на калені і лбом крануўся настылае зямлі. А потым падняўся, выцер аб штаны рукі, узяў чамадан, перакінуў цераз плячо вузел з зімовым адзеннем і выйшаў не азіраючыся.

Яшчэ з год ці, можа, нават болей жыў Дубкоў у прымах то ў адной, то ў другой кабеціны спачатку ў Ягаднай, потым у навакольных вёсках. А неўзабаве і зусім знік. Куды, ніхто не ведаў, ды не вельмі і стараліся даведацца.

Ніхто нічога не ведае пра яго і цяпер.

Іншы раз, калі каму чужому надарыцца быць у Ягаднай і ён, убачыўшы мудрагелістыя ліштвы на вокнах старых хат, зацікавіцца:

— І хто гэта навытвараў такога?

— Ды быў тут адзін прыблуда,— адкажуць яму.

## УЦЁКІ

Кравец вярнуўся дамоў позна. Марфа ўжо спала, калі ён пастукаў у шыбку.

— Ты, Андрэй? — адчыніўшы дзверы, спытала Марфа.— Я думала, ты заначаваў там.

— Апошнім прыгарадным ехаў ды пакуль дакульгаў,— Кравец павесіў на ручку дзвярэй у светлую палавіну хаты авоську з батонамі, з бляшанкамі кансерваў і яшчэ нейкімі газетнымі скруткамі, якіх напіхала яму нявестка, потым зачэрпнуў латунным карцом вады з вядра, выпіў усю і не адчуў, што напіўся: вада нагрэлася ў хаце.

— Вячэраць будзеш? — спытала Марфа, стоячы ў дзвярах у доўгай ніжняй сарочцы.

— Не.— Кравец сеў на нізкі ўслончык. Падцягнуўшы рукамі левую нагу бліжэй, нагнуўся, пачаў развязваць шнуркі.— Разбалелася нага. Радыкуліт расхадзіўся, ці што. Ледзь дайшоў...

— Ногі будзеш мыць? У печы вада цёплая.

— Не, у сына вымыўся. У ванне. Во дзе любата! А вада чысценькая, як неба. Залезеш, вылазіць не хочацца. Можа, з гадзіну адкісаў. Толік грукае ў дзверы: «Бацька, ты не заснуў?» А я так дабрэнна распарыўся, што сярэдзіна і нага як і не балелі. Я падумаў, каб так рэгулярна

павыгравацца, можа, і хваробы павыганяў бы. І асколак мой прыціх. А можа, і не ён мяне трывожыць?.. Жывуць жа людзі, я табе скажу. А тут ногі памыць — дык праблема... Вылез з ванны, нявестка піўка прынесла. Маладзец Толік, што жаніўся на Капе. Яна ж са сталовай і курыцу нясе, і мяса нясе, і піва нясе. Толік за ёй гора не ведае... Што з таго, што гэтыя пабралі вучоных?

Марфа не першы раз чула разважанні мужа пра сваіх нявестак і цяпер, не даслухаўшы яго да канца, патэпала да ложка.

Кравец пакрыўджана замаўчаў, буркнуў сам сабе:

— Авоську хаця б распакавала.

Але Марфа не пачула яго, бо якраз лажылася і пад ёй гучна рыпелі аслабелыя спружыны старога матраца.

— Ну, няхай каты тут лахаюць.— Кравец скінуў пінжак, пастаяў сярод пакоя, потым усё ж узяў авоську і пачаў яе распакоўваць на кухонным стале. Батоны паклаў на паліцу, а кансервы пакінуў на стале. Разгарнуў газетныя скруткі, у іх былі селядцы і сасіскі. Сярод скруткаў аказалася і бутэлька піва. Ён пашкадаваў, што не ведаў пра яе і нажлукціўся вады.

— Можа б, далей пасунулася? — сказаў Марфе, калі залез пад радно, пад якім яны звычайна спалі ўлетку.

— Цесна яму ўсё,— адсунулася яна да сцяны.

— Не магу ж я на самым краі ляжаць,— і, відаць, адчуваючы няёмкасць за свой настрой, дадаў:— З падлогі цягне холад. Можа, і сярэдзіну тут прастудзіў. Раскрыешся ноччу...

У яго апошніх словах яна ўлавіла нібы крыўду на яе за няўвагу і, каб як суцешыць мужа, спагадліва спытала:

— Ну, як там?

— Прасіў Толік, каб пераязджалі,— ён сказаў пра гэта, як пра нешта не вельмі прыемнае для яго самога. Маўляў, абрыдлі яму гэтыя яго прыставанні з пераездам, але сын настойвае, адмаўляцца не стаў, сказаў, што параюся з табой.

Марфа разумела ўсе яго хітрыкі, ведала, што ён сам ірвецца ў горад. Яны не раз пра гэта гаварылі, і цяпер яна хацела прамаўчаць, але адчувала, што ён ляжыць, чакае.

— Ну ты сам падумай, Андрэй,— памаўчаўшы, сказала яна.— Як нам ехаць? Усё кінуць-рынуць і ехаць? Гаварыць лёгка, а вось паехаць... Век, лічы, свой пражылі тут. Як цяжка было, а жылі тут, не думалі ўцякаць. А цяпер жа толькі жыць.— Пры гэтых словах Кравец узлых-

нуў, але пярэчыць не стаў.— А хіба няпраўда? Заробкі добрыя. Электрыку правялі. Целевізары. Не, не кажы, цяпер тут жыць ды жыць. А казалі, водаправод яшчэ зробяць. Тады наогул... І пра газ гавораць. Міма нашай вёскі яго цягнуць з Украіны, можа, і нам што пападзе... У горадзе гэта ўсё даўно ёсць, скажам. Але падумай, Андрэй, што я там рабіць буду? А ты? Прафесій гарадскіх у нас няма. Вучыцца позна. За што жыць? Ну, хату прадасі, грошы праясі, а потым...

Марфа і раней ніколі не пагаджалася пераязджаць, але цяпер у яе словах Кравец улавіў нешта падобнае на ваганні. Гэта абнадзеіла яго.

— Ніхто ж не гаворыць, каб вось зараз і ехаць,— пачаў ён даволі памяркоўна.— Гаворка ідзе наогул. Ну падумай сама. Мы з табой старэем. Сілы не тыя. Як што, дык і не даклічашся нікога. А там па тэлефоне дзынк, і «хуткая дапамога», калі ласка: «На што скардзіцеся?» Сама бачыш, якое ў нас здароўе,— ён замаўчаў, чакаючы, што скажа на гэта Марфа. Тая не пагаджалася, але і не пярэчыла, і ён працягваў свой наступ крыху смялей:— Я так лічу, гарачыцца, канешне, нечага. Трэба ўсё абдумаць, узважыць. Можа, нават і так зробім. Спачатку паедзем у госці, пажывём, паглядзім. Спадабаецца, застанёмся, не спадабаецца, будзем свой век дажываць тут. А то, можа, і адна з'ездзі. Табе прасцей, не так прывязана да службы, як я. Тут ніхто і ведаць не будзе, чаго паехала. Паехала ў адведкі, і ўсё.

— Добра, з'езджу пагляджу,— пагадзілася Марфа.— Толькі пазней. Цяпер работы багата. Давядзём усё да ладу, тады. Пад зіму і з'езджу.

Кравец ледзь не ўзарваўся, пачуўшы такое, але ўстрымаўся.

— Хіба цяпер багата так работы? — спытаў амаль спакойна.— Нічога не здарыцца, калі на які тыдзень з'ездзіш.

— Не, Андрэй, цяпер нельга,— яна сказала гэта так, што ён зразумеў: спрачацца няма ніякага сэнсу.— Пакапаем бульбу, тады і праеду,— і павярнулася да яго спіною.— Давай спаць, а то кароў заўтра праспім.

Краўцу не спалася доўга. У Толіка, а потым і ў прыгарадным цягніку ён думаў пра свой пераезд, як пра вельмі блізкую падзею. Можа, праз тыдзень, ну самае позняе праз месяц і пераедзе. Ён так і сыну сказаў. І вось на табе. Жонка пра пераезд цяпер і слухаць не хоча.

І яшчэ невядома, ці захоча потым. Які ён усё ж быў дурань, калі адразу пасля вайны не паехаў вучыцца! Трэба было напісаць жонцы, што такі загад камандавання, адпраўляюць у акадэмію, і ўсё тут. А ён пачаў раіцца з ёю. А яна і напісала яму, каб і не думаў ні пра якую вучобу, а хутчэй ехаў дамоў, бо сіл няма ніякіх адной жыць з трыма малымі. Канешне, ёй тады нялёгка было. Ён гэта разумеў. Прызнацца, дык і самому хацелася хутчэй дамоў. Тым больш спадзяваўся, што яму, афіцэру, павінны даць нядрэнную пасаду. Ды праілічыўся. Іх, афіцэраў, аказалася болей, чым тых пасад. Прапанавалі рабіць у мясцовым сельсавеце. Пагадзіўся. Думаў, папрацуе, пакажа сябе, заўважаць. І стараўся, але болей не вырас. Такіх, як ён, старатлівых, таксама было нямала. А праз які час ён ужо адмовіўся і марыць пра якое-небудзь павышэнне. Неўпрыкметку падняліся маладыя, з вышэйшай адукацыяй, а ён, у якога і часу і ўмоў не было для вучобы, так і застаўся на самай нізавой рабоце. Праўда, на жыццё не крыўдаваў. Хай не зрабіў яго такім, якім хацелася, але затое сыноў усіх у людзі вывеў. Старэйшы, Сяргей, у сталічным універсітэце выкладчыкам. Ён казаў, што і Ігарок нядрэнна ідзе ў навуку.

Хаця Кравец адкрыта ганарыўся сваімі вучонымі сынамі, але яны нечым былі і далёкія яму. Відаць, гэта ішло ад іхняй вучонасці. Ён любіў ездзіць да іх у госці, а вось жыць у іх не пагадзіўся б. Яму быў бліжэй за ўсіх сярэдні, Толік. Ва ўсіх адносінах. Просты, вясёлы, адкрыты. Ён быў нечым падобны на яго самога ў маладосці. І хаця ён таксама вучыўся, заканчваў завочна політэхнічны інстытут, але ўсё роўна ў яго не было той маўклівай задуменнай інтэлігентнасці, як у тых абодвух. І выпіць, дык вып'е без лішніх слоў. Не тое, што тыя. Пакуль адкаркуюць бутэльку, столькі паспеюць нагаварыць пра шкоду для здароўя алкаголю, што потым п'еш тую гарэлку без усялякага смаку...

Пакуль наступіла восень, Кравец яшчэ не адзін раз распачынаў гаворку з жонкаю пра пераезд да сына, але толькі канчаткова пераканаўся, што яго Марфа і не думае пакідаць назаўсёды сваю вёску, хаця з'ездзіць да сына ў госці збіралася.

І вось увосень, калі сабралі льнотрасту, калі не толькі пакапалі бульбу, а, перааараўшы бульбянішча, падабралі і тую, якую раней не ўгледзелі капачы-студэнты, калі з усіх дрэў абляцела лістота і апусцелыя зажураныя палі

прасавалі нізкія цяжкія хмары, паліваючы іх, як праз сіта, бясконцымі халоднымі дажджамі, калі па вуліцы ў вёсцы ўжо было ні прайсці ні праехаць, так размясілі яе грузавікі і трактары, да двара Краўца пад'ехаў на калёсах калгасны брыгадзір Ігнат Церах у доўгім салдацкім плашчы з капюшонам. Яго чакалі, бо з двара адразу ж выйшлі Кравец з Марфаю. Яны паставілі на калёсы цяжкі, абвязаны вяроўкаю кош.

Кравец быў у наглянцаваных хромавіках, у сінім паліто з чорным каракулевым каўняром, у скуранай цыгейкавай шапцы-вушанцы. Марфа ж — у новенькіх бліскучых чорных гумавых ботах — чаравікі яе, загорнутыя ў чыстую анучку, ляжалі ў кашы сярод абсмаленых качак, кавалкаў прасоленага сала, цыбулі, яек,— у плюшавай жакетцы і ў квяцістай гарусцы, цёплая суконная хустка накінута на плечы. Усеўшыся на калёсы, Кравец і Марфа абкрыліся старой цыратай з чарнільнымі плямамі, што засталіся з таго часу, калі яшчэ вучыліся сыны ў школе. Ігнат усеўся з другога краю калёс, крыху наперадзе, спіною да сваіх пасажыраў.

Усю дарогу да самае станцыі Марфа каторы раз перараказвала брату, чым карміць курэй, што даваць свінням, калі даіць карову, дзе браць бульбу для скаціны.

— Ды запомніў я,— каб не слухаць, можа, дзесяты раз адно і тое ж, Ігнат махаў пугай, гучна і часта нокаў на каня.

— Ды праз дзень-два і я ж вярнуся,— супакойваў жонку Кравец.— Так што нечага табе так перажываць. А то не гасцяваць будзеш, а толькі думаць пра сваіх свіней.

— Ой, маўчы ты! — уздыхала Марфа.— Ведаю, які ты гаспадар. Свінні будуць свінушнік ламаць, а ты не зварухнешся,— і паскардзілася Ігнату: — Гэта ж у нядзелю прыходжу з базару, а пайшла ж на досвітку, не паспела скаціну пакарміць, думала, рана вярнуся, ды не вярнулася. Свінні вішчаць, аж разрываюцца, а ён ляжыць сабе на канапе, газетку чытае. І цеста ж стаяла гатовае. Звечара яшчэ. Толькі вазьмі ды вынесі. Не вынес. Чакаў, пакуль вярнуся.

— А я ўзяў газету і задрамаў,— не адмаўляўся Кравец.— Нічога страшнага, прачнуўся б і накарміў. Не спаў бы цэлы дзень...

І хаця над горадам віселі такія ж нізкія і набраклыя хмары, як і над іхняй вёскай, і якраз так жа імжыла, але

тут было быццам бы болей святла, яснасці, цеплыні. Ці гэта ўсё ішло ад светлых высокіх дамоў з бліскучым ззяннем шкла ў шырокіх вокнах, ці ад падмеценых і чыста вымытых дождж амі вуліц і тратуараў? Ці, можа, такое адчуванне ў Краўца і Марфы з'явілася ад той утульнасці, якая была ў нагрэтым таксі, ці, можа, нават ад ласкавай ветлівасці самога вадзіцеля машыны? А можа, і не было нічога гэтага, а проста падалося так ім, вяскоўцам, уражаным нечаканым кантрастам паміж тым, дзе яны жылі і дзе апынуліся.

— Ну як? — не вытрываў Кравец.

— Што — як? — не зразумела Марфа мужа.

— Горад?

— Хіба я першы раз тут, ці што? — ухілілася яна ад гаворкі.

Кравец адчуў, што жонка проста не хоча гаварыць з ім на гэту тэму, таму ў машыне, а потым і дома ў сына, дзе для іх быў падрыхтаваны самы светлы пакой з відам на Сож і на лясныя разлогі за ім, не заводзіў гаворку пра горад. І калі Толік за абедам пачаў раптам расказваць, як яны тут будуць жыць і што рабіць, Кравец не толькі не падтрымаў яго, а нават падміргнуў, каб той мяняў хутчэй пласцінку. Толік адразу ж перавёў гаворку на іншую тэму, пачаў расказваць, як аднойчы ўлетку яны ездзілі на рыбалку і як шчупак ледзь не выбіў вока яго таварышу, пераскочыўшы праз брэдзень. І толькі пасля абеду, калі Марфа з Капаю пайшлі мыць на кухню посуд, яны з сынам выйшлі на балкон пакурыць. Толік спытаў у бацькі:

— Не паддаецца?

— Ніяк. І пакуль пра гэта не трэба гаварыць. А то адразу ж паедзе дамоў. Хай пажыве, прыгледзіцца. А раптам ёй спадабаецца?

— Шкада. Мая чарга на «Масквіч» падыходзіць. Думаў, да вясны і таго...

— Ну, да вясны яшчэ не адзін раз яе ўгаворым,— сказаў Кравец, хаця ўпэўненасці ў яго словах не адчувалася.— Галоўнае, каб ёй тут спадабалася, каб яна сама захацела тут застацца.

— Пастараемся, бацька. Будзе жыць, як у доме адпачынку.

— Яна якраз не з тых, што любяць адпачываць. Без дзела яна не можа...

— Ну калі па сваёй ахвоце, то калі ласка. Будзе ёй і дзела,— паабяцаў Толік.

І хаця Кравец папярэджваў сына, каб той не загаворваў з маці пра іх пераезд у горад, але сам не стрываў і ў той жа дзень паспрабаваў зрабіць такія-сякія захады. Калі сын з жонкаю, узяўшы гаспадарчыя сумкі, пайшлі ў горад, ён сказаў:

— Можа, і мы пройдземся? Паглядзім, што прадаюць у магазінах.

— Не, Андрэйка, сёння нікуды не хачу,— адмовілася Марфа.— Нібы нічога і не рабіла, а ўся як пабітая.

— Ну калі так, то кладзіся адпачываць,— параіў ён жонцы.

— І так ляжала багата. А можа, недаляжала? — і яна, усміхнуўшыся, пайшла да канапы.

А Кравец сам пайшоў аглядаць горад, хаця і ведаў яго добра. Пайшоў з-за прынцыпу. Пастаяў ля пад'езда, думаючы, у які бок скіравацца. Убачыўшы, што ля жоўтай бочкі перад магазінам не было чаргі, пакульгаў да яе. Пасля абеду хацелася піць, і ён узяў келіх піва. Здуў пену, каб яна не ліпла да носа, адным дыхам адпіў болей за палову.

— Вазьмі, друг, пасмакчы,— і мужчына прыкладна такога ж узросту, як і ён, толькі з далікатнай востранькай бародкай і ў куртцы, працягнуў яму плаўнік ад вэнджанага ляшча.

Пад гэты плаўнік Кравец і дапіў сваё піва. Узяў яшчэ келіх. Разгаварыліся. Чалавек з бародкай аказаўся з мясцовых. Расказаў, што ён раней таксама жыў у вёсцы і «жызні не бачыў», а потым распрадаўся, купіў халупу на беразе Сожа і жыве цяпер з замужняю дачкою.

— Хата невялікая, але хлеў добры. І ўчастак. Дачка ў дзіцячым садзе робіць, вёдрамі памыі носіць, кабаноў кормім. Сала, мяса на базар. Свая лодка. Грыбоў, ягад навалам. Лішнія на базар. Жыць можна, абы не ляніцца. Так што калі хочаш пажыць, дык і не думай. Вазьмі хаця б вось гэтае піва. Хіба такога там нап'ешся?

— Ды мая баба не вельмі,— паскардзіўся Кравец.

— Мая спачатку таксама была не вельмі. А цяпер кажа, дурная была, што не хацела,— і раптам, пільна паглядзеўшы на Краўца, спытаў: — Ты мужык ці не? Ну, што маўчыш? Калі не паважаеш мяне, дык будзь здароў, а калі паважаеш, дык гавары.

— Хіба не бачыш?

— Не бачу.

— Мужык.

— Дык якога хрэна ты таго? Тваё слова закон. Сказаў, і ўсё. Я сваёй сказаў і — я тут. А то стань іх слухаць, штаны сцягнуць і спадніцу надзенуць. Вось табе ісціна. Яшчэ па келіху?

Кравец хацеў быў адмовіцца, бо яму і так двойчы прыходзілася разлічвацца за піва, але яго новы знаёмы дастаў з кішэні яшчэ паўляшча, і Кравец не ўтрымаўся.

— Сам люблю,— хваліўся ўладальнік ляшча.— З сынам пару раз выедзем на лодцы, і рыбкі на ўсю зіму. Прыедзеш, купіш лодку, паставіш у мяне. У мяне іх багата. Вартую, так сказаць. Пяцёрка ў месяц, і поўная гарантыя.

Калі Кравец ад'язджаў дамоў — ён адпрасіўся ў сельсавеце толькі на пару дзён,— то сказаў Марфе, каб не хвалявалася, ён абавязкова прыедзе па яе, а Толіка прасіў не крыўдзіць маці, хай старая пажыве болей, хоць трохі адыдзе ад сваіх клопатаў, адпачне. Па вясёламу настрою бацькі, па той рашучасці, якая адчувалася ў яго голасе і рухах, Толік здагадаўся, што ў старога з'явіўся нейкі план...

Па дарозе са станцыі, не заходзячы дамоў, Кравец заглянуў да Ігната. Той якраз быў дома, сядзеў за кухонным сталом, шчоўкаў на лічыльніках.

— Сведзенія па брыгадзе рыхтую,— ён яшчэ раз шчоўкнуў, нешта запісаў у тонкі школьны сшытак, загарнуў яго, схаваў у бакавую кішэню пінжака.— Чаго ж, Іванавіч, не папярэдзіў, я пад'ехаў бы?

— А дажджу няма, падсохла, я патроху і дакавыляў.

— Ну, як там?

— Там добра,— памаўчаў, потым рашуча павёў плячом.— Вось што, Тарасавіч, буду прадавацца.

— Як прадавацца? — не зразумеў яго Ігнат.

— А так. Хату. Карову. Свіней. Курэй. Дровы. Усё. Еду да сына.

— А Марфа? — Ігнат ведаў пра настрой сястры.

— А што Марфа? Жыве. Давольная. А потым, здаецца, я гаспадар.

— Яно-то так, але... — усміхнуўся Ігнат.— Але калі Марфа давольная...

— А чаму ёй не быць давольнай? Вада ў хаце. Цёплая і гарачая. Магазін пад бокам. І ялавічына, і свініна. Адным словам, Тарасавіч, скажы людзям. Каму што трэба. Хай прыходзяць... — Кравец яшчэ патупаў у парозе.— Добра? Ну тады я пайшоў, а то дома ж там...

— Ды мая была, накарміла і прыгледзела,— і ўжо калі Кравец выходзіў з хаты, спытаў наўздагон: — А брыкету ў цябе багата?

— Цэлая машына. Яшчэ не паліў.

— Я, можа, брыкет забяру,— папрасіў Ігнат.

— Бяры. Скажы ж людзям...

— Заўтра раніцай на нарадзе аб'яўлю,— паабяцаў Ігнат.

На другі ж дзень не паспеў Кравец прыйсці дамоў з сельсавета, як у яго сабралася поўная хата пакупнікоў. Першым прыйшоў Ігнат. Ён нават прынёс грошы за брыкет. Дровы купілі Ніна з Вольгаю напалам. Вольга яшчэ купіла карову і сена. Карову яна ў той жа вечар адвяла ў свой хлеў: маўляў, няхай прывыкае, ды і табе, Андрэйка, з доглядам не будзе клопату. Малако абяцала прыносіць, пакуль ён тут будзе. Парсюкоў купіў Павел Пыжык і таксама адразу адагнаў да сябе ў хлеў. Не было толькі пакупніка на хату і курэй. Але позна ўвечары, калі ўсе разышліся, прыбег Рыгор Носік, калгасны пастух, што жыў на самым выгане ў невялічкай хаце з сынамі і жонкай. Ён пагадзіўся купіць хату не толькі з усімі прыбудовамі, з садам, але нават з курамі. «Старэйшы надумаўся жаніцца, а жыць няма дзе. У нас цесна. Прасіў сваю матку, каб пусціла, адна ж жыве, не хоча. Хоча пад старасць пажыць ціха, без клопатаў. Ды яно і лепей, калі дзеці жывуць самастойна». Дамовіліся пра цану і пра тое, што як толькі Кравец аформіць у сельсавеце розныя паперкі, тады будуць і грошы, бо за імі яшчэ трэба ехаць у раённую ашчадную касу. І калі Андрэй, ужо стаміўшыся ад нахлынуўшых клопатаў, хацеў класціся спаць, у дзверы пастукала Верка. Яна была стрыечнай сястрой Рыгора Носіка і ад яго даведалася пра распрадажу.

— Ой, Андрэечка,— засмяялася Верка, спыніўшыся ў парозе. Яна цяпер хаця прыкметна пастарэла, але была такой жа смяшлівай, як і ў маладосці.— Можа, хоць які посуд застаўся? Не павязеш жа ты чыгуны і вёдры. І бочку пад капусту забяру, а то мая зусім згніла. А Марфа ж неяк хвалілася, што ў яе зусім новая. І мяшкі мае пагнілі, так што магу ўзяць, калі ёсць. Калі піла якая ці сякера засталіся, таксама вазьму. А то якую палку распілаваць, людзей трэба прасіць. А так сама... І коціку вашаму без вас будзе дрэнна. Хто ж яго карміць будзе? Можа, я і коціка забяру?

— Добра, Верка, усё забярэш. Калі буду ад'язджаць. І чыгункі, і сякеру, і коціка,— паабяцаў ёй Кравец.

— Ну, дык дзякую табе, Андрэйка,— радасна засмяялася Верка, развіталася.

Ён застаўся адзін. Спыніўся сярод хаты, агледзеўся. Было адчуванне нечаканай лёгкасці, нібы раптам скінуў з сябе цяжар, да якога паспеў настолькі прывыкнуць, што і не заўважаў яго.

— Ну вось і ўсё,— сказаў уголас.

Праз дзень-два ён з'явіцца да сына з чамаданамі і вузламі: «На, мая любімая, тваё дабро, і давай пачынаць жыццё спачатку». Канешне, будзе плакаць. Але нічога. Паплача, паплача ды і супакоіцца. Нікуды не дзенецца. А можа, якраз і не будзе плакаць? Можа, яшчэ абрадуецца, што не турбаваў яе, узяў увесь клопат на сябе.

Але адчуванне нечаканай лёгкасці было нядоўгім. Калі ён клаўся спаць, сеў на ложак, агледзеў хату, стол, шафу, шматлікія фотаздымкі сыноў, нявестак, унукаў, родзічаў у рамках пад шклом на сценах, старую, растаптаную канапу, на якой любіў падрамаць у выхадныя дні пасля абеду, грубку-галандку, што так добра абагравала іх хату ўзімку, яго раптам ахапіў нечаканы сум, цяжкі і неадольны, нібы ён развітваўся не са сваім жытлом, а з жыццём. А разам з гэтым з'явілася і пачуццё вінаватасці перад дзецьмі, а галоўнае, перад жонкай. Сапраўды, робіць ён, як злодзей які. Ну, дзеці, што ў Мінску, можа, і не ўхваляць яго ўчынку, але на іх азірацца нечага: яны жывуць самастойна. Толік толькі рады будзе. А вось Марфа... Добра, калі яшчэ толькі паплача, а калі...

«Проста стаміўся вось, і лезе ў галаву розная лухта». Кравец падняўся, выключыў святло. Сон узяў яго хутка, і спаў ён моцна, але недзе пад раніцу прачнуўся і ўжо да самага досвітку не заснуў. Зноў палезлі думкі пра Марфу. А можа, ён і прачнуўся таму, што думкі пра Марфу ўвесь час жылі ў ім, жылі, калі ён і спаў...

За ўсё доўгае жыццё яны з ёй ніколі не сказалі адзін аднаму нават слова няпраўды. А якое жыццё. Колькі яна напакутавалася з малымі ў вайну. Уявіць цяжка. А потым пасляваенная нішчымніца. А жылі, не крыўдавалі адзін на аднаго, спадзяваліся на лепшае. І вось, здаецца, дачакаліся лепшага. Жыць бы цяпер толькі ў згодзе ды радавацца шчасцю дзяцей. Дык не, яшчэ лепшага хочацца. У горад захацелася. Звычайна ж ад дабра дабра не шукаюць, а ён... Не, ён не мае ніякага права крыўдзіць Марфу. Але ж і адступаць назад нельга. Уся вёска ведае, што ён распрадаецца. Ды ўжо, лічы, і распрадаўся. Што ж рабіць? Самае

леншае, сабрацца, паехаць ды шчыра пагаварыць з жонкаю. Але ці пагодзіцца яна з ім? А раптам не? Тады што рабіць? А можа, напісаць пісьмо і ўсё расказаць? Пакуль тое пісьмо дойдзе, і ён прыедзе ўслед...

Кравец падняўся, уключыў святло, дастаў са сваёй пацёртай вайсковай сумкі, з якой хадзіў на працу, паперу. Напісаў доўгае пісьмо жонцы. Потым сынам у Мінск. Пасля таго як схадзіў і ўкінуў канверты ў паштовую скрынку, што вісела на тэлеграфным слупе ля школы, нядаўняе пачуццё вінаватасці пакінула яго.

Дома рабіць было нечага. На электрычнай плітцы падсмажыў сабе яечню, паснедаў. Выйшаў з дома, шчодра насыпаў курам ячменю. На рабоце пакуль што не стаў падаваць заяву аб звальненні,— падшукае сабе работу ў горадзе, тады звольніцца,— але старшыні сказаў пра свой намер.

Праз дзень у хаце Краўца сабраліся ўсе яго пакупнікі, каб разлічыцца і развітацца з гаспадаром. Сена, дровы, амаль увесь брыкет паспелі забраць. Верка забрала некаторы посуд і ката: маўляў, ад мышэй няма спасу. Кот, праўда, праз гадзіну прыбег назад...

Кожны прыносіў з сабой бутэльку якога пітва і таго-сяго закусіць. Утварылася даволі шматлюднае застолле. Спачатку ўсе сядзелі ціха, панура, рабілі выгляд, што ім усім вельмі шкада развітвацца з такім добрым чалавекам, без якога нават не ўяўляюць сваёй Ягаднай. Некаторыя нават пачыналі ўгаворваць яго застацца. Але хутка, ахмялеўшы, забыліся, чаго яны тут сабраліся, гаварылі абы пра што, пачаліся песні, той-сёй хацеў і патанцаваць, але не было музыкі. Пачалі прасіць Ігната, каб прынёс сваю радыёлу...

І ў самы разгар застолля, калі ўжо наогул ніхто нікога не слухаў, ціха і неўзаметку для ўсіх адчыніліся дзверы, і ў хату зайшла Марфа.

Першым яе ўбачыў сам Кравец, бо сядзеў на покуце тварам да дзвярэй. Ён з застылым тварам глядзеў на жонку, не ведаючы, што і сказаць. Яго позірк заўважылі астатнія, павярнулі галовы да парога ды так і застылі ў нямым здзіўленні.

— Што гэта такое тут? — спытала ціха Марфа, але яе пачулі ўсе.

— Ды вось, дарагая сястрычка,— пачаў Ігнат, які даволі захмялеў, каб ацаніць сур'ёзнасць сітуацыі.— Право-

дзіны... Ідзі, Марфачка, пасядзі напаследак з намі,— і пасунуўся на канапе, вызваляючы ёй месца побач з сабой.

Марфа пастаяла ў парозе ў нерашучасці, раздумваючы, што ёй рабіць.

Спачатку ёй хацелася зараз жа выгнаць усіх з хаты, але яна стрымала сябе.

— Чаму ж не пагаманіць з харошымі людзьмі.— Марфа нават усміхнулася, села побач з мужам.— Я якраз есці хачу... А ты чаго такі насуплены? — спытала ў яго.— Хіба можна быць пры гасцях такім?

Кравец наліў трохі ў шклянку Марфе, паставіў перад ёю талерку з кавалкамі каўбасы. Марфа толькі прыгубіла шклянку. А потым пільна і нібы з нейкаю насмешкаю ў вачах агледзела ўсіх, усё яшчэ прыціхлых і насцярожаных.

— І грошы ўсе пааддавалі? — спытала ў мужа.

— Тут,— ляпнуў далонню Кравец па адвіслым на грудзях пінжаку.

— Багата,— усміхнулася Марфа, але на гэты раз неяк ужо сумна, а потым ціха, нібы стомлена, папрасіла мужа:— Аддай, Андрэй, ім грошы,— і звярнулася да ўсіх:— Даруйце, людзі добрыя, але я перадумала. Даруйце!

— Ой добра, што я чыгункі не пабрала, а то цягай іх цяпер назад,— засмяялася нечакана гучна і, як заўсёды, недарэчна Верка.

— Што чыгункі! — уздыхнуў Ігнат.— Я, дурань, ледзь не ўвесь брыкет перанасіў.

— А я толькі сыну сказаў, каб жаніўся, што хата ёсць,— паківаў галавой у шчырай скрусе Рыгор Носік.

— Ну, што, таварышы, за ад'езд выпілі, цяпер давайце за прыезд,— прапанаваў Павел Пыжык.

— Во дае, артыст! — усклікнуў нехта.

Дружна дзынкнулі шклянкі.

Разыходзіліся ў гэты вечар усе ад Краўца з песнямі.

— Не чакала ад цябе такога,— сказала Марфа мужу, калі яны засталіся адны.

— Думаў жа, як лепей...

— Прызнацца, я таксама думала пра пераезд. Бачу, табе вельмі хочацца. Думаю, ну, паеду, пагляджу, як яно там. Ведаеш, Андрэй, як хочаш думай, але я не змагла б там жыць. Тры дні гэтыя годам падаліся. Сядзіш, як у клетцы. Сказала сыну, а ён — схадзі ў магазін. Пайшла. Няхай праваляцца тыя магазіны. Па мяса ў чарзе, па цыбулю ў чарзе, па бульбу — таксама. Вельмі багата людзей там. Не, думаю, паеду дамоў, там усё без чаргі. І бульба,

і капуста, і яйкі, і цыбуля. Я, праўда, можа б, яшчэ і пажыла, думаю, можа, у мяне гэта ад непрывычкі, але тут тваё пісьмо.— І яна пачала слаць пасцель.— Добра, што хоць падушкі не прадаў.

Кравец, які ніколі ў жыцці не прыбіраў са стала, не мыў посуд, бо лічыў гэтую работу жаночаю, раптам пачаў насіць талеркі, шклянкі, відэльцы са стала і складваць іх у вялікую місу, у якой звычайна мылі посуд...

І яшчэ доўга, нават пасля нечаканай і раптоўнай смерці Андрэя Краўца — а памёр ён раптоўна ад сэрца, не паспела прыехаць і «хуткая дапамога»,— у Ягаднай успаміналі, як ён хацеў уцячы ў горад, і смяяліся.

Смяяліся, праўда, не з яго, а болей з тых, хто накінуўся на яго дабро, а потым насіў усё назад...

## АТАВА

Ніна варочала граблямі тоўстыя цяжкія пракосы. Сонца прыгравала так моцна, што прыйшлося зняць целагрэйку. З-пад ног на ўсе бакі пырскалі конікі. Маўчалі птушкі, і ціха было на лузе; паветра празрыстае і спакойнае, праглядалася лёгка і далёка. Белыя ніткі павуціння матляліся на дратах, што беглі за сіні лес, перавальваючыся праз гонкія слупы. Сена было не такое, як улетку — высахлае, яно пахла асенняй грыбной вільгаццю ды вераснёўскімі росамі і вятрамі.

Ніна павярнула доўгія пракосы, агледзела іх, уздыбленыя і кудлатыя, падумала, што сена за адзін раз не забраць на калёсы. Але чамусьці зусім не абрадавалася, ёй неяк было ўсё роўна, колькі таго сена.

Зрэдку дыхаў слабы ветрык, халаднаваты, калючы, асабліва тады, калі кудлатая хмарка набягала на сонца і па зямлі сунуўся цяжкі сіні цень. Ніна ўпадабала невялічкую ўпадзінку — можа, яшчэ ад вайны засталася, снарад разарваўся ці акоп які,— кінула туды ахапак сушэйшага сена, прылегла, скінула з ног цяжкія і вільготныя ўсярэдзіне гумавікі, надставіла ногі сонейку.

Было ціха і цёпла. Нудна гудзела недзе муха. Чулася, як далёка прыглушана тахкаў па рэйках цягнік.

І гэты спакой, і сонца, і ўтульны зацішак абудзілі ў яе душы даўно забытае, далёкае, маладое. Здавалася, што няма гэтай цяжкай стомленасці ў нагах, якая ўсё часцей адчувалася ў яе ўзросце, не было смерці мужа, ніколі не

было пакутлівай адзіноты з двума малымі на руках, не было Шурыка, якога яна не любіла і цяпер не магла ніяк палюбіць, як ні старалася, а было лета, гарачае ўдзень і маланкавае начамі — больш яна ніколі ў жыцці не бачыла такіх жахлівых і прыгожых маланак,— і было моцнае і кароткае, як тыя маланкі, першае каханне...

А потым быў квяцісты луг, напоўнены гудзеннем калматых і працавітых чмялёў, было духмянае і разамлелае паветра над тым лугам, і чырвоныя смалянкі на ўзгорках, і сіні чабор на старых мурашніках-купінах.

А яна ў квяцістым, першым у сваім жыцці, шаўковым плацці, якое трапаў ветрык, стаяла і чакала мужа, які на трактары касіў сена і быў яшчэ на другім краі лугу, пад самым лесам. Не вытрымлівала, ішла насустрач, а шырокія белыя рамонкі галоўкамі біліся аб яе калені. Пятро глушыў матор, павольна сыходзіў з трактара і выціраў травой рукі. Потым яны адыходзілі далей, дзе была вышэйшая трава, садзіліся, і з лугавой аўсяніцы і зязюліных слёзак тырчалі дзве галавы — светлая, з разлахмачаным чубам, і чарнявая, з рамонкавым вяночкам...

Ніна раптам нібы прачнулася, агледзелася. Яна нібы не разумела, чаго апынулася тут і навошта ёй гэтая атава. Потым паднялася, абулася, прайшлася па дзялянцы, пакратала рукой траву, якую добра хапіла сонцам і праняло вецярком.

Трава яшчэ была мяккаватая, але можна было ўжо зграбаць.

Калі атаву цяжка было цягнуць граблямі, яна кідала яе і грэбла пакос далей. Хутка ўсе пракосы ляжалі ў кучках, іх трэба было б пазносіць у капіцы, ды Ніна стамілася і вілак не было: з вілкамі абяцаў пад'ехаць яе муж Аляксандр Дзяркач, ці Шурык, як яго чамусьці называлі ўсе на вёсцы, звалі ў дзяцінстве, звалі і цяпер сталага мужыка, загадчыка фермы. І хаця Шурык напіваўся кожны дзень, іншы раз так, што прывозілі дамоў на падводзе, яго пакуль што не праганялі з фермы, бо працаваць ён умеў, ніколі не лічыўся з часам, мог і заначаваць на рабоце, калі трэба было.

Жыў Шурык доўгі час адзін у старой, струхнелай хатцы, ля якой быў вялікі запушчаны сад. Ці з-за таго, што Шурык быў дробненькі чалавек, ці таму, што ён часта заглядваў у бутэльку, за яго ніхто не хацеў ісці замуж. Праўда, на вёсцы не помнілі, каб ён да арміі ці пасля да каго заляцаўся. Адзін раз пачаў бы прыглядацца да нас-

таўніцы, ды тая лічыла сябе прыгожай жанчынай. Як і трэба было чакаць, у Шурыка нічога не атрымалася, толькі людзей насмяшыў. А ў той вечар, калі настаўніца выйшла замуж у «раён», Шурык напіўся і ганяўся за ўсімі па вёсцы з вялізным дрынам, пакуль мужчыны не злавілі яго і не звязалі. А калі памерла ў Шурыка маці, ён усё ж задумаў абзавесціся сям'ёй. Прывёз з суседняй вёскі неблагую маладзічку, ды тая пражыла з ім літаральна некалькі дзён і збегла. Ніхто не ведаў, што ў іх там выйшла, ды не вельмі цікавіліся. А потым ніхто і не ўспамінаў пра Шурыкаву жаніцьбу.

А калі Ніна, застаўшыся без мужа, пайшла на ферму — там можна было болей зарабляць, чым у паляводчай брыгадзе,— бо трэба было падымаць на ногі сірот, Шурык тады і пачаў заляцацца да яе. Гэтае заляцанне было нейкае нясмелае, занадта ўжо сарамлівае. То раптам ні з таго ні з сяго спытае ў яе, як надоі, то падбяжыць, каб дапамагчы паднесці даёнкі з малаком... Усе, і сама Ніна, не надавалі ніякага значэння гэтым заляцанням.

Неяк Шурык пахваліўся Ніне, што задумаў будаваць новы дом. І сапраўды, хутка да яго двара падвезлі цэглу, і там з'явілася будаўнічая брыгада калгаса. А калі новы дом заззяў чыстым шклом у высокіх вокнах, Шурык прапанаваў Ніне пераходзіць жыць да яго. Яна адмовілася: маўляў, у яе дом не горшы за яго, калі ён разлічваў зацікавіць яе домам, то вельмі памыліўся, бо ёй мужчына трэба, а не кноцік. Шурык на такую абразу зусім не пакрыўдзіўся, а яшчэ больш упарта заляцаўся, кляўся, што піць кіне, што дзяцей яе будзе шанаваць, як сваіх родных.

Ніна не любіла Шурыка, а таму і пайшла раіцца да сваякоў, якіх нямала было ў вёсцы,— што рабіць. Усе яны, як згаварыліся, былі супраць такога замужжа.

Чым жыць з такім прапойцам — вядома, у гаворках п'янства Шурыка перабольшвалася,— дык лепей ужо адной, а калі якая бяда здарыцца, не адна ж у вёсцы, памогуць. Ды гаварыць і абяцаць прасцей. А самой было хоць разарвіся: і ў калгасе рабі, і дзяцей адзень і накармі, і гаспадарку дагледзь. Штыкеціна якая адляціць, дык ніхто не прыйдзе, не прыб'е, усё сама. А паспрабуй кожны раз папрасіць, каб табе дроў прывезлі, сена накасілі,— ды і не пералічыць усяго таго, што кладзецца на плечы жанчыны, калі ў хаце няма гаспадара.

А гэтым летам раздалі людзям сенакос, папала дзялянка і Ніне. Лета дажджлівае, дзень сонца, дзень дождж, усе

на сваё — і ніхто з родзічаў нават не пацікавіўся, калі і як думае касіць Ніна. А Шурык, нічога не гаворачы, прыйшоў на поле, скасіў спачатку ёй, а потым пайшоў на сваё. І, можа, са злосці на родзічаў і перайшла Ніна са сваімі малымі ў той жа вечар да Шурыка.

Вяселля не было. Зрабілі неяк у нядзелю невялікую бяседу: ніхто з Верчыных родзічаў не прыйшоў, паўкрыўдзіліся. А потым часта, калі муж прыходзіў дамоў п'яны, не магла дараваць сабе Ніна, што паспяшыла з гэтым замужжам. І за тыя два месяцы, як яны жывуць разам, яна некалькі разоў звязвала клункі, каб вярнуцца ў сваю хату, ды толькі сорамна было перад вяскоўцамі. Аставалася. А раніцай, калі прачынаўся Шурык і кленчыў перад ёю, прасіў, каб яна даравала яму апошні раз, абяцаў, што тую гарэлку ён нават і нюхаць болей не будзе, яна — каторы раз! — верыла яму. Праўда, Шурык дзень ці два не піў, а потым зноў браўся за сваё. Абяцаць ён можа. Вось і сёння сказаў жа, што толькі сходзіць на ферму, а потым возьме каня і адразу ж прыедзе на луг, паможа грэбці сена. Поўдзень мінуў, а Шурыка ні слыху ні дыху. Хаця б ужо не абяцаў... Ніна пазграбала пракосы ў кучкі, абаперлася на грабільна — ці кідаць сена ў капу, ці дачакацца мужа? А раптам ён не прыедзе? І яна пачала зносіць сена ў капу. Пракосы былі доўгія, і насіць трэба было далёка. Захапілася і не заўважыла, як падышоў Шурык.

— Што гэта ты тут сама надрываешся? — закрычаў ён пісклявым голасам, нібы баяўся, што яна яго не пачуе. Калі ён пачынаў крычаць, дык голас у яго быў, як у маладога пеўніка.— Цярпення не хапае? Хто ў спіну гоніць?

— Сена сухое, дык я,— нечакана нават для самой сябе засмяялася Ніна: пра яе здароўе думае...

— Сухое... — бурчаў Шурык, мацаючы атаву.— Мяккае. Яму б не пашкодзіла і яшчэ паляжаць у пракосах. Сонца сама пячэ. Дык вечна ж гэтым бабам некалі, абавязкова трэба спяшацца.

— Колькі таго сонца цяпер? А потым я падумала: раптам не прыйдзеш, адна і дацямна не ўпраўлюся.

— Не прыйдзеш... Дурная баба, ды і толькі,— аблізваў Шурык засмяглыя губы.— Ну калі я цябе падводзіў? Скажы, калі?

— А з першага дня. Абяцаў не піць — п'еш. Абяцаў пад'ехаць — прыйшоў без каня.

— Конь увечары будзе,— неяк сказаў Шурык. Гэта

заўважыла Ніна, і ёй на нейкі момант стала шкада гэтага дробненькага чалавека: можа ж, яму не далі каня ды яшчэ і пакрыўдзілі.— А што да етага, дык хіба не бачыш, што я п'ю меней. Сёння раніцай як выпіў якіх сто грамаў, дык і то дома, пры табе ж. А больш нідзе ні кроплі. Ды і хто яе не п'е? У каго няма за што ды каму не даюць.

Шурык адразу пайшоў у самы канец пракоса, падняў на вілкі дзве ці тры кучкі адразу, нёс і аж хістаўся пад непасільным цяжарам. А другі раз яшчэ болей узяў. Шурык так стараўся насіць, што Ніна ледзь паспявала падграбаць услед. Яна з нейкай цеплынёй у душы, якую першы раз адчула, як жыве з Шурыкам, паглядзела на яго. Нібы ўпершыню ўбачыла, які ён маленькі і худы, як у яго пад сарочкай вытыркаюцца вострыя лапаткі, а шыя тонкая, як у абскубенага вераб'я, адчула, што ў яе сэрцы нараджаецца пачуццё, вельмі падобнае на тое, якое бывае ў маці да свайго кволага дзіцяці.

— Ты паменей браў бы,— сказала яна.

Хутка ўжо стаяла кругленькая вастраверхая капа зялёнай атавы. Шурык абгроб яе, адышоўся і пачаў новую. Неўзабаве яшчэ адна капа вырасла побач. Шурык закурыў, глыбока зацягнуўся.

— На адзін воз, бадай, не забяром.

Ніна паставіла граблі, прынесла мужаву целагрэйку, якую ён пакінуў у канцы дзялянкі, накінула яму на спацелыя плечы. Ён паглядзеў на жонку: старая целагрэйка, доўгая выліняла спадніца не маглі схаваць яе моцнай і па-дзявочы стромкай постаці. Шурык выплюнуў недакурак і неяк лоўка, зусім нечакана падхапіў жонку на рукі і, хістаючыся, панёс да капы.

— Кінь, дурны, людзі ж кругом,— адбівалася яна, ненавідзячы мужа зноў, як і заўсёды. А ён не заўважаў гэтага, кінуў яе на капу і лез цалавацца, нявголены, калючы, дыхаючы ў твар тытунём, самагонкай і цыбуляй. Яна ўпіралася яму ў грудзі, вырывалася і не магла вырвацца з яго учэпістых рук. Ад іх валтузні капа нахілілася і з'ехала набок.

— Чорт стары! — Ніна нарэшце вырвалася з абдымкаў, адбеглася і стала папраўляць хустку.

— Толькі дарэмна капу абярнулі,— сядзеў на зямлі Шурык і шкроб патыліцу.

— Паднімайся, папраўляй капу...

Шурык паглядзеў на неба, на якім далёка над лесам расцягнулася белая пісяга ад самалёта, і сказаў:

— Чорт з ёй, з капой. Усё роўна прывязём сёння. Пойдзем паабедаем, а там я каня вазьму...

Ніна ішла наперадзе, Шурык услед. Чуваць было, як ён часта шоргае нагамі па зямлі. Яна азірнулася на яго, ссутуленага, у высокіх гумавых ботах, у якіх ён хаваўся хрыдымі каленямі і ў якіх яму нялёгка было даганяць яе, Ніну, і не раскаялася, што адштурхнула яго там, ля капы, але ў сэрцы яе зноў варухнулася шкадаванне. Яна спынілася, пачакала, спытала як мага ласкавей:

— Што ж ты адстаеш, чалавек?

— Баюся да цябе блізка падыходзіць,— усміхнуўся ён, паказваючы рэдкія зубы.

Дома Ніна паставіла на стол гарачы боршч, прынесла з пограба малака, паклікала дзяцей, што гулялі ў садзе. Села за стол і яна. Толькі Шурык не садзіўся, усё перастаўляў бутэлькі ў шафе.

— Ідзі абедай, што ты там забыўся? — клікнула Ніна.

— А ты нібы і не ведаеш,— злаваўся Шурык.— Дзе схавала? Было ж трохі...

— Абыдзешся... Усё роўна там нічога не знойдзеш.

Раптам у хату зайшла старэйшая Ніна сястра Марфа. Спынілася ў парозе, агледзела хату, у якой яшчэ ніколі не была, потым стол, дзяцей, глянула на Ніну, якая стаяла, здзіўленая яе нечаканым з'яўленнем, на Шурыка, які стаяў ля буфета, незадаволены, што яму перашкодзілі, засмяялася ціха, каб не паказаць свае шчэрбы:

— Я ведала, калі заходзіць.

— Дык ідзі садзіся з намі,— запрасіла Ніна.

— Не, дзякую вам, дзякую,— адмовілася Марфа.— Гэта ж я зайшла запрасіць вас да сябе. Мой жа Ігарок заехаў. Сёння і ад'язджае. Дык там будуць усе нашы. І вы каб прыйшлі. Кідайце свой абед ды ідзіце.

Ніна, вядома, хацела пайсці, каб памірыцца са сваімі, але не ведала, ці пагодзіцца Шурык, які не раз кляўся, што да яе радні ніколі і нагой не ступіць. Ды і баялася, каб ён там не напіўся, і таму няпэўна сказала:

— Збіраліся ж ехаць па атаву.

— Ну, дык як? — нібы не чуў, што сказала жонка, спытаў у яе цяпер Шурык.

— Ды атава ж...

— Прывезяце вы сваю атаву і заўтра. Нічога з ёй не зробіцца, такая сухмень стаіць,— настойвала Марфа.

— Добра, цётка,— пагадзіўся першым Шурык.— Зараз будзем.

Ён надзеў свой выхадны касцюм з сіняга сукна — даўгаполы пінжак і шырокія штаны. У гэтым касцюме ён халасцякаваў яшчэ ў маладосці, адразу ж пасля арміі, потым надзяваў толькі тады, калі ездзіў на нарады ў раён. У касцюме, у хромавіках гармонікам, наглянцаваных да бляску, у белай сарочцы з выкінутым на пінжак каўнерыкам, ён змяніўся на вачах. І каб не глыбокія залысіны, не маршчыны за вушамі, не востры кадык на тонкай шыі, то Шурык, худы і танклявы, яшчэ б сышоў за маладзёнка.

Ніна надзела сваё шэрае шарсцяное плацце, якое таксама даўно не надзявала, дастала са скрыні туфлі на высокіх абцасах, накінула на плечы сінюю куртку на паралоне, якую зусім нядаўна купіла...

Ішлі па сваёй вуліцы і маўчалі. Ніна пазірала на мужа, нібы ўбачыла ўпершыню. А Шурык употайкі любаваўся сваёй маладзіцай, такой яшчэ маладой, вышэйшай за яго, прыгожай. Яны ж як пажаніліся, дык ніколі па-святочнаму не адзяваліся, ніколі нікуды не хадзілі. Некалі было. Яна днямі на ферме, а дамоў прыбяжыць, дык работы той рабіць і не перарабіць. А там жніво было, лён бралі. І з фермы ўдзень на поле пасылалі: не хапала ў брыгадзе рук. Гэта цяпер, калі яшчэ бульбу не пачалі выбіраць, з'явілася вольная часіна.

Калі яны павярнулі са свае вуліцы і пайшлі па сцежцы праз калгаснае поле, а затым па планáх на другую вуліцу, якая ішла паралельна гэтай, дзе жыла Ніна з Шурыкам, яна папрасіла мужа:

— Ты ж, Шурачка, лішняга не бяры.

— Ты што? — гэтая просьба нібы абразіла яго.

А ў Марфы ўжо было поўнае застолле гасцей. Сын яе, Ігар, у беласнежнай нейлонавай сарочцы, пад гальштукам, на якім паблісквала жоўтым вочкам запанка, сядзеў на покуце. Відаць, за сталом гаворка ішла пра Ніну і Шурыка, бо як толькі яны зайшлі, усе нейк прымоўклі і разгубіліся.

— Прывітанне маладажонам! — закрычаў Ігар.— Ну што вы там стаіце, праходзьце сюды. Маладажоны павінны сядзець на самым пачэсным месцы. Таварышы, пацясніцеся,— папрасіў ён тых, што сядзелі ля яго.

Шурык і Ніна ўселіся ля Ігара. Перад імі паставілі чыстыя шклянкі і талеркі. Ігар наліў Ніне паўшклянкі сталічнай, а Шурыку — поўную.

— Ой, многа ж ты яму... — запратэставала Ніна.

— Што ты, цётачка, хіба ён у цябе не мужчына? — падміргнуў ёй Ігар. Той-сёй за сталом хіхікнуў.— Ну, сябры мае, вам паложана штрафная, але паколькі вы маладажоны, дык давайце ўсе разам вып'ем за ваша шчаслівае жыццё, тым больш што, мне гаварылі, ніхто яшчэ з прысутных не піў за гэта.

Усе паднялі шклянкі, чокнуліся, але не пілі, назіралі за Шурыкам, чакалі. Гэтую цікавасць да яго заўважыў Шурык: ледзь улоўная ўсмешка кранула яго тонкія вусны. Ён беражліва, каб не разліць, падняў шклянку, зрабіў адзін глыток і паставіў шклянку на стол.

— Хе! — нехта не вытрымаў.

— Так не пойдзе! — рашуча заявіў Ігар.

— Не, гэта не парадак,— заматаў галавой стары Паракалёс, калгасны рымар і конюх. Сапраўднае яго прозвішча было Дробка, але ў вёсцы яго ведалі як Паракалёс, з таго самага дня, калі ён, малы яшчэ, першы раз убачыў самалёт, закрычаў: «Тата, да нас у двор ляціць пара калёс!» Паракалёс, прыкметна ап'янеўшы, цяпер абураўся болей за ўсіх:

— Не, гэта не парадак. Ніколі ў жыцці не паверу, каб Шурык ды не мог. Я ж цябе ведаю, Шурык, як аблупленага.

— Але ты мяне не ведаеш неаблупленага,— адказаў яму Шурык.

— Ды што вы прысталі да чалавека? — кінулася абараняць яго Марфа. Яна адчувала, што калі Шурык адмаўляецца піць, то дабром гэта не скончыцца.— Хай чалавек закусіць. Прывыклі, каб адразу.

— Першы раз даруем,— акінуў усіх позіркам Ігар.

Тым часам Шурык агледзеў стол, паклаў на сваю талерку лыжку салаты, ладны кавалак смажанага ляшча. Сядзеў і, не спяшаючыся, з падкрэсленай далікатнасцю еў. Ніна не пазнавала яго: адкуль такая стрыманасць, такая нечаканая далікатнасць?

— Мама, прынясі яшчэ рыбы,— крыкнуў Ігар старой, якая мітусілася ля стала.— Прынясі рыбы. Бачу: рыба ўсім падабаецца.

— У нас тут рэк няма, адны балоты. Якая табе рыба ў тых балотах? Адны апалонікі... Калісь, праўда, былі карасі, дык гэта яшчэ да вайны. Сам лавіў,— не сціхаў Паракалёс.— А цяпер павысушвалі тыя балоты, дык рыбы няма. У нашым возеры, кажуць, крыху ёсць, ды зlаві ты яе. Ды хіба калі ў кааперацыю мерзлага хека завязуць.

Дык яно і хочацца рыбы. А мяса ды мяса — яно знадаядае. Я дык вельмі карасёў люблю...

— Дзядзька Цімох,— спыніў Паракалёса Ігар,— давай лепей камандуй там, а то, бачу, шклянкі пустыя. Налівай усім.

Ігар наліў усім, каму дастаў, даліў у шклянку і Шурыку, паставіў парожнюю бутэльку пад стол, потым агледзеў усіх, ці слухаюць яго, і сказаў:

— Ну, таварышы, прашу падняць...

Усе выпілі, хто колькі мог, і ніхто ні за кім не сачыў, толькі за Шурыкам пільнавалі і цяпер усе. А Шурык і на гэты раз зрабіў толькі глыток і асцярожна паставіў шклянку на стол.

— Ты што? — цяпер абурыўся Ігар.— Не паважаеш усіх нас? Ці, можа, «Сталічная» горш за самагонку?

— Цудоўная ў вас гарэлка, Ігар Андрэевіч, але я не п'ю,— сказаў сур'ёзна Шурык.

— Ды выпі ўжо,— штурхнула яго ў бок Ніна, яна разумела мужа: стараецца ўсім яе родзічам даказаць, што ён зусім не такі чалавек, якім яны яго лічаць.

— Так табе і паверылі,— сказаў Ігар.

— Я сваё выпіў,— стаяў на сваім Шурык.

— Ну добра,— нахіліўся да яго Ігар.— Не хоча піць з усімі, не трэба. Можа, сапраўды тут цябе пакрыўдзілі, я не ведаю. Але ж не трэба быць такім дробязным. Мы запрасілі цябе як паважанага госця, а значыцца, калі што і было тут у нас, дык трэба забыць усё. І давай, Шурык, пакажам, як п'юць сапраўдныя мужчыны,— сур'ёзна гаварыў Ігар. Але Шурыку падалося, што нешта затоенае і насмешлівае гучала ў яго словах.

— Я ж сказаў,— не здаваўся ён.— А калі я сказаў, дык гэта цвёрда.

— Сл /хай, дарагі ты мой друг, ты проста слабак,— абвёў усіх позіркам Ігар.— Я думаў, што ў нас з'явіўся сваяк ого! Быў бы я тваёй жонкай, прагнаў бы цябе, не стаў жыць. Ну, а за здароўе маёй маці? Не хочаш? Ну, а за мой прыезд, за маё здароўе? Я так рэдка бываю дома... Не паважаеш? Дык не бачу прычын для гэтага. Я, калі хочаш ведаць, сказаў маці, каб усіх сабрала родзічаў, каб пасядзелі разам. А ты не хочаш выпіць за мяне?

— Ой, Ігар,— імкнулася неяк абразуміць сына Марфа. Але ён яе не слухаў, ап'янелы.

— Ну, дык як? Вып'ем?

— За цябе я вып'ю, але за цябе піць са шклянкі мала.— Шурык вылез з-за стала і хутка вярнуўся з двума карцамі: паліваным і медным, паставіў іх перад Ігарам: — Налівай поўныя!

— Ты што задумаў? — тузанула яго за рукаў Ніна.

— Калі ўжо піць за тваё здароўе, наш дарагі госць, дык толькі так,— усміхнуўся Шурык.— Шклянкі мала.

— Ды кіньце, хлопцы,— пачаў супакойваць іх і Паракалёс, адчуваючы нядобрае.

— Ну? — прыставаў цяпер Шурык, але рабіў ён гэта надзіва спакойна, нібы жартуючы.— Ну, бяры... Толькі ўгавор: піць да канца. А потым убачаць, хто з нас мужчына.

— Не, так не пойдзе,— адставіў ад сябе карэц Ігар.

— Дык сядзі і не каўкай,— прашаптаў яму на вуха Шурык, а ўслых сказаў: — Дзякуем вам за запрашэнне, за частаванне, але нам трэба ісці. Пайшлі, Ніна.

Іх ніхто не спыніў. Нават, падалося, абрадаваліся ўсе, што абышлося без сутычкі.

Шурык ішоў хутка і толькі гэтым выдаваў сваю ўзрушанасць. Ніна ледзь паспявала за ім. Яна ўпершыню за два месяцы сумеснага жыцця з ім бачыла свайго мужа такім. У яе сэрцы нараджалася і расло нешта цёплае, нараджалася надзея і, хай пакуль што кволая, вера ў шчасце, у якое яна была ўжо і перастала верыць. Яна спяшалася за Шурыкам і маўчала, каб чым раптам не спалохаць тое, што нараджалася ў яе сэрцы.

— Слухай, Ніна,— спыніўся Шурык і з нейкай радасцю ў вачах глянуў на жонку.— Ведаеш, пойдзем на луг. Паправім капу, а то раптам дождж...

Ніна памкнулася была адмовіцца, але ён глядзеў на яе з такой радаснай надзеяй...

І яна моўчкі ўзяла яго пад руку.

## У НЯДЗЕЛЮ

Паснедаўшы, Ігнат усё яшчэ сядзеў за сталом, абапершыся падбародкам на левую руку, глядзеў, як Люба прыбірае посуд. Цікаваў не таму, што раптам заўважыў нешта прываблівае ў яе паставе ці рухах — ён даўно развучыўся любавацца ёй, бо прывык да яе, як прывыкаюць да ўсяго, без чаго чалавек не абыходзіцца ў паўсядзённай будзённасці,— яму проста нечага было рабіць. Вось і глядзеў, як яна ўзяла патэльню, паставіла яе на прыпечак, накрыла

кружком-фанеркай, каб кот не палазіў. Талеркі, лыжкі яна згрузіла ў чыгун з цёплай вадой, спаласнула іх, выцерла, схавала ў кухонны стол. Змахнула са стала трапкачом, шпурнула яго на комінак і, не глянуўшы на Ігната, як яго і не было, пайшла ў светлую палавіну хаты. Пасля снедання яна заўсёды спала гадзіну-другую, бо кожны дзень прачыналася на досвітку, каб паспець прыгледзець калгасных кароў на ферме і прыпарацца дома.

Ігнату ж спаць не хацелася — сёння і так дрыхнуў ледзь не да самага сняданку,— і цяпер ён сядзеў, не ведаючы, чым заняцца.

Была нядзеля.

На полі ўсё пасеяна, дагледжана, а касавіцу распачынаць ранавата — травы яшчэ сама раслі, цяжэлі.

Быў першы выхадны дзень гэтым летам.

Яшчэ ўчора ўвечары пра яго аб'явіў па мясцоваму радыё старшыня калгаса.

І вось цяпер Ігнат сядзеў за сталом, і ў яго было такое адчуванне, што ён нібы не дома, дзе заўсёды столькі клопатаў, а ў гасцях, дзе не ведаеш, куды прыткнуцца, за што зачапіцца, пакуль гаспадары не паклічуць да стала.

Пачынаючы з самай ранняй вясны, калі яшчэ па саннай дарозе вазілі ў поле гной і тарфакрошку, і аж да ўчарашняга, хвіліны не было агледзецца, і раптам — выхадны. Рабі што хочаш.

Можа б, што і прыдумаў Ігнат на сённяшні дзень — з'ездзілі б у Гомель да сына ці адведалі каго з сяброў, каб у жонкі таксама быў выхадны. Дык не. Пакуль што ў даярак ні выхаднога ні прахаднога. І сёння, у нядзелю, яна, адпачыўшы крыху, зноў пабяжыць на ферму: кароў жа карміць, паіць і даіць трэба кожны дзень.

Ігнат неяк чытаў у газеце, што ёсць ужо калгасы, дзе даяркі не толькі маюць выхадныя, а і робяць у дзве змены. І ў іхнім калгасе не раз гаварылі пра гэта на праўленні. Але сядуць, падлічаць, і аказваецца, што яны пакуль такога зрабіць не могуць, не хапае даярак. Маладыя, што канчаюць школу і нават застаюцца ў калгасе, на ферму ісці адмаўляюцца. Маўляў, не дзеля таго дзесяць год вучылася, каб ад цямна да цямна гной мясіць... Выхад адзін — механізацыя. Але для яе трэба не такія памяшканні.

Ігнат падумаў: ці не падрамаць яму да самага абеду? Але ведаў, што варта яму хоць трошкі паспаць удзень, ноччу не засне зусім. А ён не любіў ноччу ляжаць з ад-

крытымі вачыма, калі няма з кім і словам перакінуцца: Люба, нарабіўшыся за дзень, заўсёды спала моцна. На якім баку ляжа, на тым і прачнецца.

Ігнат падняўся, спыніўся сярод пакоя, агледзеўся, нібы хацеў знайсці сабе якую работу. Але ў хаце стаяла ўсё на месцы. Яшчэ да снедання, пакуль ён вылежваўся, Люба падмяла падлогу, прынесла вады.

Ён заглянуў у светлую палову хаты. Люба спала на канапе, прыкрыўшы ад мух лёгкаю хусткаю голыя ногі.

Ігнат ціхенька, каб раптам не грукнуць дзвярыма, выйшаў.

Двара амаль не было, застаўся невялікі праход — на калёсах не праедзеш — паміж старой хатай, у якой жылі, і новым цагляным домам, які яшчэ з восені распачалі будаваць прама ў двары. Мелася на ўвазе, што старую хату разбураць, а на яе месцы зробяць новы двор. Дом будаваўся марудна. Сцены вывелі толькі па вокны, на тым і спыніліся. Муляраў перакінулі на нейкі больш тэрміновы аб'ект, як сказаў прадстаўнік з міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі.

Пастаяўшы ў двары, Ігнат пайшоў у сад. Адразу за плотам пасярод градаў з маладой цыбуляй расла яблыня, нізкая, раскідзістая: расла на волі, без суседзяў. Сярод зялёных лісточкаў блішчалі на сонейку маленькія яблычкі. Некаторыя з іх паспелі «загарэць», зырчалі падружавелымі бачкамі. Калі нішто не пашкодзіць, яблыкаў будзе багата. Прыйдзецца голле падпіраць, каб не паламалася. Яшчэ жэрдачак на падпоркі трэба раздабыць.

На градах таксама ўсё буяла. Вострымі стрэлкамі цягнулася да сонца цыбуля, чырванелі лісцем бурачкі. А ягаднік так разбуяўся, што і зямлі не відаць. Яго трэба было б разрэдзіць вясной, ды рукі не дайшлі. Там-сям пад лісточкамі пачыналі ружавець першыя клубніцы.

Ля лапіка бульбы-скараспелкі Ігнат нагнуўся, грабануў пальцамі зямлю, якая зверху пасвятлела і рассыпалася на пыл. Глыбей жа была цямнейшая, трымала вільгаць. Вільгаці хопіць яшчэ, нават калі з тыдзень не будзе дажджу. Так што ў агародзе нічога не трэба было паліваць.

Вярнуўшыся ў двор, Ігнат зноў спыніўся ля будоўлі, абышоў яе, памацаў, ці трымаліся верхнія цагліны — некаторыя хіталіся,— падумаў, што, як прыйдуць будаўнікі, абавязкова трэба прасачыць, ці якасны робяць раствор. Выйшаў на вуліцу, спыніўся ля вярбы, якая цяпер апынулася якраз перад акном будучага дома. Кара на дрэве

счарнела, парэпалася, месцамі пакрылася лапінамі бледна-зялёнага моху, як плесенню. Відаць, хварэе дрэва ці састарэла ўжо. Больш старога дрэва няма ва ўсёй вёсцы. Гэтая вярба засталася яшчэ з даваеннага часу. Ды таполі ля школы. Але тыя былі маладзейшыя. Як іх садзілі, памятае яшчэ Ігнат. Якраз школьнікам быў. А хто і калі вярбу садзіў, не памятае. Дрэва раскінула сваё голле над дваром, даставала ім ледзь не да сярэдзіны вуліцы. Калі распачыналі будаваць новы дом, Ігнат хацеў спілаваць вярбу, але Люба папрасіла, каб пакуль не чапалі. Нечым, відаць, была яна дарагая ёй.

Ігнат акінуў позіркам вуліцу, нікога не ўбачыўшы, да каго б можна было падысці і правесці час у гаворцы, сеў на лавачку пад акном старое хаты, падпёр рукою падбародак, глядзеў бяздумна на прытаптаную траву перад сабою, дзе ў смецці нейкі маленькі чорны жучок з фіялетавым адлівам ніяк не мог перапаўзці праз растаптаны недакурак...

Выйшаў са свайго двара Павел Пыжык. Ён быў у белай расхрыстанай кашулі, чорных новых штанах. Азірнуўся ўправа, улева. Угледзеўшы Ігната, скіраваў да яго, на хаду прыгладжваючы рукою рэдкія пакамечаныя валасы на галаве — відаць, учора як прыйшоў з лазні, так і лёг спаць з мокраю галавою.

Падышоў да Ігната, паціснуў моўчкі руку, сеў побач.

— Адпачываем, Тарасавіч?

— Ды нечага рабіць...

— Ды нечага,— пазяхнуў Пыжык.— Думаў, адасплюся сёння за ўсю пасяўную. Ды дзе там. Мая падхапілася, збіралася ў Гомель ехаць, разбудзіла. Парабіў, што загадала, а болей і рук няма да чаго прыкласці. І сон прайшоў. Тэлевізар уключыў, а там мура нейкая. Лёг, думаю, пасплю. Ляжаў, ляжаў, разамлеўся ўвесь, а заснуць так і не заснуў. Не прывык удзень спаць. Выйшаў, бачу, ты сядзіш...

— Я таксама тэлевізар не вельмі. Яшчэ якое кіно пагляджу, а так,— Ігнат напружыў лоб, успамінаючы апошні цікавы фільм. Але так і не ўспомніў.

— А я і кіно, калі позна паказваюць, не вельмі. Пачнеш глядзець і заснеш,— усміхнуўся.— Жонка яшчэ сядзіць, а я не.

— Калі пра вайну ці пра шпіёнаў, дык паглядзіш,— разважаў далей Ігнат.— А іншы раз пачнуць такое, што глядзець нечага. Адзін крычыць, гайку трэба ў гэты бок

закручваць, а другі — у той. А паміж спрэчкамі з бабамі ў рэстаранах танцуюць ці рыбу вудзяць... А што, не так?

— А ўсяляк бывае,— відаць, Пыжык не вельмі хацеў разважаць пра кіно.— Мая любіць Зыкіну глядзець. Усіх там піскух не, а калі гэта запяе, усё кідае і бяжыць да тэлевізара...

Захапіўшыся гаворкаю, яны не заўважылі, як да іх падышоў Міхась Канцавы, пакульгваючы, абапіраючыся на кіёк. Пасля таго як яму некалі ў дзяцінстве зрабілі аперацыю на хрыбетніку, у яго правая нага вырасла карацейшая і слабейшая за левую.

Міхась спыніўся перад мужчынамі, павітаўся, паціснуўшы кожнаму руку і падкрэслена ветліва пакланіўшыся. Наогул, у яго манерах адчувалася пэўная інтэлігентнасць. Ён быў загадчыкам мясцовага клуба — адчыняў і зачыняў памяшканне, калі там ішло кіно. Маючы багата часу, бо фізічнаю працаю ён не мог займацца, Міхась болей за ўсіх на вёсцы чытаў, добра ведаў сучаснае міжнароднае становішча.

— Ну што там, Міхась, новага ў вярхах? — спытаў Пыжык, які не ўпускаў выпадку пасмяяцца з Міхася.— Сакратар райкома нічога не прасіў перадаць народу?

— Прасіў,— з усёй сур'ёзнасцю, на якую толькі быў здольны, адказаў Міхась.— Прасіў багата чаго перадаць народу, але папярэдзіў, каб персанальна Паўлу Пыжыку не гаварыў ні слова, бо ён не ўмее трымаць язык за зубамі,— і салідна памаўчаўшы, потым, каб усё ж падтрымаць аўтарытэт дасведчанага чалавека, даверліва сказаў:

— А ведаеце, што нашага старшыню калгаса забіраюць у раён начальнікам сельгасупраўлення?

— Здзівіў,— засмяяўся Пыжык.— Яго другі год забіраюць, ды ніяк не забяруць.

— Твая навіна, Міхась, з вельмі доўгай барадой,— усміхнуўся Ігнат. Міхась разгублена маўчаў, напружана моршчыў лоб, відаць, думаў, якой бы яшчэ навіной уразіць субяседнікаў. А Ігнат працягваў: — А шкада будзе, калі забяруць. Што б пра яго ні гаварылі, а гаспадарку ён падняў.

— Падняў? — ажывіўся Пыжык.— А можа, апусціў?

— Як жа апусціў? — абурыўся Ігнат.— Падняў эканоміку, і вельмі падняў. А то дажыліся, што ў касе калгаснай ні рубля... А цяпер, чуў, комплекс плануюць. Больш мільёна каштуе.

— Ты, канешне, эканаміст вялікі,— хмыкае Пыжык.— А ты хоць пацікавіўся, як ён паднімаў тую эканоміку? Так і дурань падыме. Дзе раней пяць рублёў плацілі, цяпер толькі два...

— Ну, не кажы,— абараняе старшыню Ігнат.— Цяпер людзі зарабляюць, можа, удвая, чым раней. Праўда, трэба працаваць, не лайдачыць.

— А як ён да людзей? — не звяртае ўвагі Пыжык на брыгадзіра.— Ваўком глядзіць. Ніколі не павітаецца як чалавек. Глядзіць праз цябе, як не ты перад ім, а шкло якое.

— А што яму ты? — смяецца Міхась.— Начальства яго цэніць, паважае. Думаеш, дарэмна птушыную ферму завёў? Ты паглядзі, колькі ў суботу вечарам легкавушак ля той фермы. Ездзіла б і да цябе столькі начальнікаў, таксама на людзей не звяртаў бы ўвагі.

— Гэта ёсць,— прызнаецца Ігнат.— Ён жа куды едзе, так і бярэ скрынку яек. Але затое колькі машын новых калгас купіў. Трактароў. Газ абяцаюць. Ужо прыязджалі праектанты, хадзілі, мералі зямлю. Для калгаса ён нямала карыснага зрабіў.

— І сабе кар'еру зрабіў,— упікае Ігната Пыжык.— А што ён з механізатарамі зрабіў? Старых ды вопытных паразганяў, а школьнікаў на трактары пасадзіў. Яны паламалі яго новенькія трактары, купленыя за яйкі,— смяецца Пыжык уласнай дасціпнасці.

— П'яніц паразганяў,— заўважае Ігнат.

— А сам не п'е? — гарачыцца Пыжык.— Канешне, са мной ён не п'е. А з табой, можа, і п'е, не ведаю. Хто цяпер не п'е? Затое старыя тэхніку ведалі. А гэтыя цвярозыя пацаны толькі па кніжках яе ведаюць, а не рукамі. А яе трэба рукамі ведаць...

— А гэта праўда,— раптам і Міхась падтрымлівае Пыжыка.— Я сам на сходзе чуў, як за гэта крытыкаваў старшыню галоўны інжынер.

— А і добра зрабіў, што паразганяў,— кажа Ігнат.— А то распіліся...

— Сёння механізатараў паразганяў, а заўтра возьмецца за брыгадзіраў. Выкліча цябе і скажа: таварыш Церах, ты пастарэў, ногі баляць, перадай сваю калдыбаху маладзейшаму, няхай пабегае,— і, павярнуўшы свой востры нос да Ігната, пытаецца здзекліва: — І тады скажаш, што правільна зрабіў?

— А яшчэ і дзякуй сказаў бы,— прызнаўся Ігнат.—

Цяжка рабіць цяпер. Людзей у брыгадзе меней і меней, а план давай, ураджай павышай... А з кім?

— Нічога, не панікуй,— смяецца Пыжык.— Ты ж чуў, што Міхась кажа. Хутка комплекс будзе. Механізацыя. Будзеш сядзець, сырадой піць, на кнопкі націскаць. У белых пальчатках.

— Пакуль тыя кнопкі, дык усе жылы выцягнуць,— кіўнуў галавой у недаверы Ігнат.— Не, хлопцы, я вам так скажу, калі праз кнопкі будуць кіраваць сельскай гаспадаркай, то карміць нас тады будуць не булкамі, а пілюлькамі...

Ды гаворка пра справы калгасныя, відаць, не вельмі захапляла субяседнікаў — гаварылі, абы не маўчаць, бо як толькі ўбачылі, як у канцы вуліцы праехалі Шурык з Нінаю, сваёй жонкай, на калёсах, адразу ж загаварылі пра іх.

— Ці не па дровы надумаўся Шурык? — здзівіўся Пыжык.

— Паедзе ён у нядзелю па дровы, чакай.— Ігнат правёў позіркам калёсы, пакуль тыя не схаваліся за крайняй хатай.— Мо куды ў госці...

— Ён цяпер на п'янку ездзіць толькі на кані,— засведчыў і Міхась.— П'яны спіць паміж драбін, а конь сам вязе яго дамоў.

— Казалі ж, перастаў піць,— сказаў Пыжык.— Нешта не бачыў яго ля сельмага. І даўно.

— Перастаў,— усміхнуўся Ігнат.— Снедаць не сядзе, калі няма выпіць. Праўда, калі з загадчыкаў фермы прагналі, нібы трохі перастаў, а потым зноў пачаў... Яна яму і матацыклет купіла, думала, што за рулём не будзе. А ён пад'едзе да сельмага, няма «чарніла», на матацыкл і ў Прудоўку. Дзе-небудзь і знойдзе.

— А вот які б п'яны ні быў, а дамоў прыедзе,— сказаў Міхась.— Іду неяк па іхняй вуліцы...

— А чаго гэта ты па той вуліцы ішоў, клуб жа на нашай вуліцы? — спытаў Пыжык.

— Вось бачу, ля двара матацыкл гудзе,— не звяртаў увагі Міхась на кепікі Пыжыка.— Матор аж разрываецца. З трубы іскры сыплюцца. Падходжу, матацыкл стаіць, а Шурык побач ляжыць. Адна нага на сядзенні, рукой за руль трымаецца, якраз там, дзе газ. Аджаў газ да канца, вось і качагарыць матор. Я падумаў, што пад такі шум не высніцца чалавек, заглушыў матор, зняў з сядла нагу яго, а руку не змог, так учапіўся, не адарваць. І пайшоў. Бу-

дзіць не стаў. Ноч цёплая, думаю, няхаў чалавек адаспіцца на свежым паветры, дамоў прыйдзе цвярозым.

— А я сёння хацеў пахмяліцца, а жонка ўсе грошы забрала ў Гомель,— сказаў раптам Пыжык з такой скрухай, што стала ясна, ён выйшаў на вуліцу і падышоў сюды затым, каб як-небудзь вырашыць гэтую праблему.

— А так табе і трэба,— усміхнуўся Ігнат.— Які дурань аддае ўсе грошы жонцы?

— Нібы ты не аддаеш? — абурыўся Пыжык.— Ты ж здачу за хлеб да капеечкі прыносіш Любе. На запалкі капейку выпрошваеш.

— Канешне, выпрошваю,— не адмаўляўся Ігнат.— Бо які ж дурань стане мяняць свае грошыкі на нейкія капейкі? — і ён з кішэні пінжака дастаў стары пашмуляны кашалёк, разгарнуў і выцягнуў з яго новенькую хрумсткую дваццацьпятку, паганяў ёй вецер пад носам анямелага Пыжыка і зноў схаваў назад.— І ёй там не сумна, бо яна не адна. Дык хіба я стану мяняць такія грошы на нейкія там пакамечаныя рублі?

— Га! — знайшоўся Пыжык.— А мы тут сядзім ды ўсялякія анцімоніі разводзім. Пасядзім яшчэ цвярозыя, не толькі старшыню калгаса раскрытыкуем, а чортведама да каго дабяромся. Не, трэба ісці ў сельмаг. Сёння ж нядзеля, а настрой горшы, чым у рабочы дзень,— і звярнуўся да Ігната: — Слухай, заўтра ей-ей аддам.

— Я ж сказаў, мяняць не магу,— усміхнуўся Ігнат.— Не люблю дробненькіх.

— Я табе такую ж аддам,— аж ляпнуў кулаком сабе ў грудзі Пыжык.— Думаеш, у мяне няма такіх? Хочаш, магу соценную даць... Давай. Кажу ж, аддам. Не дасць жонка, у ашчадную касу схаджу. Ну? А то прапосіш у кашальку да смерці свае грошы, і свету яны не пабачаць.

— Не, Паўлік. Не буду мяняць. Няма такой у мяне патрэбы,— запэўніў Ігнат.— Бо ў мяне ёсць і дробненькія,— і ён цяпер з кішэні штаноў дастаў пакамечаную пяцёрку і траячку, знарок нетаропка распраміў іх, склаў акуратна, схаваў зноў.

— Слухай, Ігнат, пазыч. Я частую, чэсна. Я мігам туды і сюды,— пачаў ужо ўпрошваць Пыжык.— Ты ж ведаеш, я ніколі адзін не люблю. Разам з вамі. Пазыч, заўтра ж, а то і вечарам сёння аддам.

— Дармавыя грошы псуюць чалавека,— філасафічна заўважыў Міхась.— Грошы любяць, каб іх зарабілі.

— Вось іменна,— падтакнуў Ігнат.

— Мала мы іх зарабілі,— аж пакрыўдзіўся Пыжык.— І яшчэ заробім. Ігнат, будзь чалавекам, не цягні вяроўку, пазыч хоць пяцёрку. Заўтра...

— Зарабіць трэба,— адчуўшы Ігнатаву падтрымку, больш упэўнена сказаў Міхась.

— А ты замаўчы,— агрызнуўся Пыжык.— Камісар мне знайшоўся, мы ж не ў тваім клубе. Так што нечага выступаць, калі за язык не цягнуць.

— А дарэмна,— Міхась відавочна пакрыўдзіўся, але не паказаў гэтага, нават усміхнуўся.— Пагаварыў бы са мной, можа б, даўно ў сельмаг збегаў,— і ён дастаў з маленькай кішэнькі ў штанах пад рэменем некалькі складзеных акуратненька траячак і, разгарнуўшы іх, памахаў імі перад носам у Пыжыка, якраз так, як гэта зусім нядаўна рабіў Ігнат.— Хацеў цябе выручыць, але ты ж гыркаеш на мяне...

Ігнат не вытрываў, засмяяўся. Смяяўся і Міхась. А Пыжык сядзеў разгублены, не ведаў, што яму рабіць: смяяцца разам з імі ці падняцца, плюнуць і пайсці дамоў, каб хаця такой пагардай да іх грошай захаваць свой гонар. Але Пыжык лічыў, што хлопцы толькі разыгрываюць яго, бо самі ж не супраць пасядзець з ім, інакш не прызналіся б, што яны з грашыма.

— Столькі работы навокал, а ты без грошай,— цягнуў сваё Міхась.— Нанасіў бы якой саслабелай пенсіянерцы вады бочку, ці дроў накалоў, ці каму хлеў заканапаціў...

Пыжык маўчаў. Няхай языкамі пачэшуць, калі свярбяць вельмі. Усё роўна ўсё скончыцца тым, што нехта з іх дастане сваю пяцёрку і папросіць схадзіць у сельмаг...

— А не хочаш ваду насіць, дровы калоць, хлеў канапаціць, дык во вярбу Ігнату падвалі. Бачыш, будаўнікам перашкаджае? — не адступаў ад свайго Міхась.— З-за вярбы спынілі будоўлю. А хіба не так, Ігнат Тарасавіч?

— Ды з-за вярбы ж,— усміхнуўся Ігнат.

— Убраць вярбу? — спытаў Пыжык так, нібы і не верыў, што пра дрэва гавораць усур'ёз.— Вы што? Яна ж яшчэ з даваеннага часу стаіць. Можа, адзінае дрэва такое на нашай вуліцы.

— Ну і што? — не зразумеў Пыжыка Міхась.— Яна струхлела даўно. Ледзь ліпіць. А ўвосень можна бярозак насадзіць, вырастуць, бярозавік будзе, цэлае лета свой квас,— і звярнуўся да Ігната: — Прасі, Тарасавіч, пакуль

у чалавека ёсць настрой. Усё роўна ж прыйдзецца ўбіраць яе.

— Ды прыйдзецца ж... — пагадзіўся Ігнат.

— Да вайны вясной палкамі збівалі з яе голле і свісткі рабілі,— успомніў Пыжык.

— Ды рабілі,— уздыхнуў і Ігнат.

— Дык здайце ў музей яе,— раптам Міхась пачаў раздражняцца, што Ігнат не падтрымлівае яго.— Пагаджайся, Тарасавіч, пакуль ёсць добраахвотнік, а то прыйдзецца потым людзей наймаць. А Павел Емяльянавіч тады нізашто не пагодзіцца. Гэта ён сёння не супраць, а як жонка прыедзе...

— А я што? Я за. Даўно думаў пра гэта. Абы хто асмеліўся. Я думаў, што будаўнікі прыедуць з кранам. Бо без крана тут не падступішся.

— Канешне, без крана тут нечага рабіць,— пагадзіўся з Ігнатам і Міхась, пазіраючы на Пыжыка, які сядзеў насуплены, нервова пакусваючы тонкія губы, нібы яны свярбелі ў яго.— Праўда ж, Емяльянавіч, аднаму тут не справіцца? Ды што аднаму? Тут траім не справіцца?

— Кажаце, аднаму не справіцца? — падняўся Пыжык.— Зараз паглядзім. Ідзі, Тарасавіч, даставай свае каўбасы. Праз гадзіну ад гэтае разваліны толькі пень і застанецца,— і ён, падзёргваючы ці не ад узрушанасці плячыма, паспяшаўся дамоў.

— Прыбяжыць зараз з пілой,— засмяяўся Міхась і кіўнуў Ігнату, які маўкліва глядзеў на раскідзістую вярбу. — Слухай, Тарасавіч, можа, не хочаш, каб яе таго, дык скажы. Прыбяжыць з пілой, дам траяка, ён і супакоіцца. А можа, і не прыйдзе яшчэ?

— Прыйдзе,— упэўнена сказаў Ігнат, ён ведаў Пыжыка лепей за Міхася.— Ды няхай... Усё роўна прыйдзецца яе таго...

Праз які час Пыжык зноў выйшаў са свайго двара ў вылінялым спартыўным трыко, відаць, сынавым, бо ў такім яго ніхто не бачыў, у паношаных замурзаных кедах. Крыху нахіліўшыся, нёс на плячы сваю бензапілу, а ў руцэ — лейцы. Падышоўшы да вярбы, паклаў на зямлю пілу, прывязаў да яе адным канцом лейцы, а другім — падперазаўся сам.

— Можа, лесвіцу вынесці? — спытаўся Ігнат.

— Пакуль ты сваю лесвіцу вынесеш, я паўвярбы абгальмую,— Пыжык хуткім позіркам акінуў дрэва, пады-

шоў, лёгка падскочыў, ухапіўшыся рукамі за самую ніжнюю галіну, размахнуўся нагамі і быў ужо на вярбе.

— Артыст! — не мог схаваць свайго захаплення Міхась.— Цыркач! У такім узросце... Ніколі б не падумаў...

— А ты думаў, я ўмею толькі сена сабакам касіць? — весела сказаў зверху Пыжык, стаў ля самага ствала на галіну нагамі, агледзеўся, відаць, меркаваў, адкуль пачынаць, потым па самай тоўстай галіне, што навісала над электраправадамі, прапоўз ледзь не да палавіны, прывязаў да яе лейцы, вярнуўся назад. Усцягнуў пілу. Лейцы другім канцом прывязаў за ствол. Завёў пілу, адрэзаў галіну. Тая цяжкім камлём, ламаючы дробныя сучкі,спаўзла ўніз, павісла на лейцах. Пыжык абрэзаў верх у галіны, а потым развязаў лейцы. На зямлю ўпаў кароткі абрубак.

— Ну і артыст! — не пераставаў захапляцца Міхась. У яго захапленні адчувалася зайздрасць хворага да здаровага, дужага чалавека.

— І праўда ж,— здзіўляўся і Ігнат.— Ніколі не думаў, што можна так.

Відаць, тарахценне пілы і трэск галля разбудзілі Любу. Яна, заспаная, спынілася ў адчыненых веснічках, пазяхнуўшы, сказала:

— Хай бы стаяла. Ці вам рабіць нечага?

— Вось іменна,— усміхнуўся Ігнат.

— Часам ад нечага рабіць і робяцца вялікія справы,— заўважыў філасафічна Міхась.

— Нечага вам там баланду травіць,— крычаў зверху весела Пыжык.— Ідзіце шкварце, што ў вас там ёсць...

— Ды трэба ж,— нібы папрасіў дазволу ў Любы Ігнат.— Адным дзякуй тут не адбудзеш.

— Сам глядзі, я пабегла на ферму,— і хутка пачулася, як бразнулі веснічкі на агарод. Яна хадзіла на ферму праз планы, наўспрамкі.

Абрэзаўшы ўсё галлё, Пыжык скінуў пілу на ламачча, тая ўпала, як на спружыны. Саскочыў сам, выцер узмакрэлы лоб рукавом, агледзеў тое, што засталося ад раскідзістай вярбы — кароткі тоўсты ствол з абрубкамі-сукамі ўверсе.

— Што з ім рабіць? Спілаваць ці пакінеш? — спытаў у Ігната.— Парасце дробнае голле, будзе пад акном круглы зялёны шар. Бачыў, як у Гомелі растуць на вуліцах абрэзаныя дрэвы?

— А можна вычасаць якую фігуру,— прапанаваў Мі-

хась.— Якую-небудзь бабу-ягу. Ні адна варона на хату не сядзе.

— Падумаем потым, а цяпер пайшлі ў хату,— запрашаў хлопцаў Ігнат.

— Паспеем,— адмахнуўся Пыжык. Ён цяпер не спяшаўся, ведаў, што ягонае яму дастанецца, ды і не любіў, акрамя ўсяго, пакідаць нічога недаробленым.— Давай павалю, будзе калода табе пад вокнамі замест лавачкі. А што? Голле на дровы. Дзесяць мінут, і амба.

— Хіба якія таўсцейшыя,— не пярэчыў Ігнат.— А танчэйшыя на дарогу ў каляіны, каб машыны не буксавалі. Усё роўна з яго ніякага цяпла.

— Пацягаем,— Пыжык зноў завёў сваю пілу. Парэзаў ствол, потым пачаў пілаваць тоўстае галлё на кароткія цуркі. Піла ўразалася ў дрэва, як у масла.

Дробнае галлё Міхась пачаў цягаць на дарогу і кідаць у глыбокія выбоіны-каляіны.

— Скончыце, дык заходзьце,— Ігнат скіраваў у хату.

А хутка праз адчыненае акно чулася, як там спявалі на тры галасы. Ігнат і Пыжык цягнулі барытонамі, ім траскучым тэнаркам падпяваў Міхась.

І ніхто ў вёсцы не звяртаў увагі на гэтыя песні — у вёсцы быў выхадны дзень, нядзеля.

Не звяртала ўвагі на гэтыя песні і Верка, бо была занята пільнай работай — цягала дамоў з дарогі галлё. Не толькі таму, што ёй трэба былі дровы,— прападала дабро.

## ВЕРКА

Верка сядзела на палку ля печы і глядзела з-пад чорнай, пабітай белымі крапінкамі хусткі апухлымі вачыма на людзей, што выходзілі паўз яе са светлай палавіны хаты. На памінкі сабраліся не толькі родзічы, але многія жыхары з асяродка. Былі і прыезджыя, якіх Верка не ведала, бачыла першы раз. Пракульгаў Мосей Куцця разам з Цімохам Паракалёсам. Прасунуліся маўклівыя і засяроджаныя Лазоўскія, мужык і жонка, далёкія Аўдоцціны родзічы. Працялюхаліся Лёкса з Моцяй Сіўцовай. Пратупала Варвара Мацвееўна, уся згорбленая, вельмі пастарэлая апошнім часам, нешта шаптала на хаду, ці не малітву. Казалі, што яна стала вельмі набожнай і кожную нядзелю ездзіць у царкву поездам аж у нейкую ўкраінскую вёску пад Шчорсам. Ніхто не звяртаў увагі на Верку. Толь-

кі Ганна Канцавая спынілася ля яе, ціха сказала: «Ой, Верачка ты мая...» Заплакала і пайшла. Шыбавалі абыякавыя, а часам і задаволеныя, што нарэшце выканалі свой абавязак. У маладых на расчырванелых тварах блукалі прыхаваныя ўсмешкі, нібы яны толькі што пачулі нешта смешнае, але не смяяліся, стрымліваліся, бо няёмка было смяяцца, а ўжо ў двары давалі сабе волю. Адтуль праз адчыненую фортку ў акне чуліся гучная гамонка, кароткія выбухі смеху.

Нарэшце выйшлі ўсе. А Верка ўсё сядзела, не столькі ўражаная, колькі абражаная такім настроем людзей. Ёй хацелася плакаць ад крыўды, але слёз ужо не было ў вачах. Было такое адчуванне адзіноты, што яна аж здрыганулася, калі пад самым вухам раптам прагучаў ласкавы голас Дзіны Васільеўны, старэйшай Аўдоццінай дачкі:

— Верачка!

Верка глянула на Дзіну Васільеўну, бледнатварую, у чорнай суконцы. Чорны шаўковы шалік неяк натапырана ляжаў на яе вузкіх плячах. Валасы, сівыя на скронях, былі гладка прычасаны назад, адкрываючы высокі лоб, які рабіў яе дробны твар яшчэ драбнейшым і хваравітым.

— Верачка, памажыце там,— пераканаўшыся, што Верка пачула яе, Дзіна Васільеўна вярнулася назад, у светлую палавіну хаты.

Верка злезла з высакаватага палка на падлогу, паправіла на галаве хусцінку, мацней зацягнуўшы вузел пад падбародкам, паспяшалася ўслед за Дзінай Васільеўнай.

Там праз усю хату стаялі сталы, накрытыя белымі абрусамі. На сталах грувасціліся міскі, талеркі, бутэлькі, шклянкі, былі раскіданы косці. Над сталом кружыліся вялікія зялёныя мухі, што паналяталі праз адчыненае акно. Недзе дудзеў і біўся аб шыбу змарнелы чмель.

Паміж акон на вуліцу вісеў партрэт Аўдоцці, перавязаны чорнай стужкай. Маршчыністы твар, стомлены і нібы крыху здзіўлены позірк...

Дзіна Васільеўна збірала са стала бутэлькі, насіла іх на кухню, хавала пад палок. Верка ж насіла місы, талеркі і згружала ў вялікі таз, што стаяў у самым парозе. Перанёсшы ўвесь посуд, яна дастала з печы вялікі чыгун з цёплай вадой і пачала мыць, прысеўшы на маленькі ўслончык — яна апошнім часам не магла доўга стаяць сагнуўшыся, балела ў паясніцы. Верка сядзела і не бачыла, толькі чула, як выносілі ўслоны, табурэткі, сталы.

Памыўшы посуд, Верка выцерла яго, расставіла ў ку-

хонным століку. Брудную ваду выліла ў двары на сметнік, прынесла вады з калодзежа, напілася — вада была такая халодная, што аж усё застыла пад грудзямі. Пачуўшы галасы са светлай палавіны хаты, зазірнула туды.

Там былі толькі Аўдоцціны дзеці.

Дзіна Васільеўна сядзела на канапе, склаўшы тонкія рукі на худых каленях. Побач з ёй, аблакаціўшыся на левую руку, праглядваў нейкі часопіс старэйшы Аўдоццін сын Аляксандр, палкоўнік. Ваенны лётчык. Ля адчыненага акна на вуліцу ў расхрыстанай тэнісцы разваліўся ў крэсле сярэдні сын Леанід. Ён быў яшчэ не стары чалавек, але заўчасна распаўнелы, з двайным падбародкам, з пукатым, тугім жыватком. Яму было горача, ён увесь заліваўся потам, цяжка ўздыхаў кожны раз, калі лез у кішэню па насоўку, каб выцерці ружовы твар і белую лысіну — не загарэла пад капелюшом. Ён і ўсеўся ля адчыненага акна, каб не так горача было.

Самы ж меншы сын Рыгор, калгасны пастух, што жыў у невялічкай хатцы на выгане, сядзеў за сталом і нешта крэсліў у вучнёўскім сшытку.

Ніхто не звярнуў увагі на Верку. Яна разумела, што нікому тут не патрэбна, але ёй хацелася пабыць з дзецьмі цёткі Аўдоцці, якая для Веркі была самым блізкім чалавекам у вёсцы.

— Пасяджу трошкі,— яна нібы папрасіла прабачэння, апусцілася на маленькі ўслончык, які стаяў ля грубкі-галандкі і на якім у свой час любіла пасядзець старая перад адчыненымі дзверцамі, перад агнём пагрэць свае аслабелыя хворыя ногі.

Верка адхілілася спіною ад грубкі, адчуўшы раптам, як стамілася за апошнія дні, як просіць адпачынку ўсё яе цела. Яна апусціла рукі на калені, заплюшчыла вочы... Галасы, што гучалі ў хаце, даходзілі, як праз тоўшчу вады.

— Я ўжо Леаніду гаварыў,— адарваў вочы ад сшытка і глянуў на палкоўніка Рыгор.— Маці ніякага завяшчання не пакінула. Думала жыць старая. Калі быў апошні раз у яе, хай во Верка скажа, гаварыла са мной так, я і не падумаў, што праз якую гадзіну яе не стане. Пахвалілася, што ёй лепей, лягчэй. Я і паверыў. Яна часта хварэла. Вось так. Пра ўсё гэта трэба было б пазней пагаварыць, адразу неяк не зусім добра, але вы спяшаецеся...

— На мяне не звяртайце ўвагі,— адарваўся ад часопіса палкоўнік.— У мяне ніякіх прэтэнзій, мне нічога не трэба...

— Што значыць трэба, не трэба? — буркнуў Леанід.— Нам усім нічога не трэба. Але памяць аб маці, так сказаць... Давайце пагаворым. Што завяшчання няма, можа, і лепей. Самі дамовімся. Я думаю, Грыша, трэба высветліць, хто на што прэтэндуе, а потым...— і ён, цяжка ўздыхнуўшы, палез у кішэню туга напятых на тоўстых сцёгнах джынсаў па насоўку.

— Можна і так,— пагадзіўся Рыгор.— Вы добра ведаеце, што засталося. Усё на вачах. Тое-сёе з адзежы ёсць у сундуку, але такога ўжо ніхто і ў нашай вёсцы не носіць. Хіба што перашыць.

— Я сваё сказаў,— заявіў паспешліва палкоўнік. Яму, відаць, не падабалася ўся гэтая гаворка.

Дзіна Васільеўна пачала нервова перабіраць пальцамі канец шаўковага шаліка, неяк устрывожана паглядваць на Рыгора. Нешта хацела сказаць, ды ніяк не магла асмеліцца.

— Ну што, Дзіна? — заўважыў яе хваляванне Рыгор.

— Я хачу сказаць,— Дзіна Васільеўна неяк бездапаможна азірнулася на сваіх братоў.— Я хачу сказаць, што мне таксама не трэба. У сэнсе, ніякіх рэчаў. А вось каб якую суму, я была б не супраць. Мне трэба падлячыцца, ды і дачцэ ўрач рэкамендуе Крым. А ў мяне застарэлы бранхіт. У малой з лёгкімі таксама... Гэтай зімой два месяцы прахварэла. Пакуль у малодшых класах, дык нічога, а ў старэйшых з такім здароўем... А вы ведаеце, які заробак у настаўніцы. Школа скарачаецца, гадзін не хапае...

— Ясна,— перабіў яе Леанід.— Нам не трэба даказваць. Трэба дык трэба,— і запытальна глянуў на Рыгора.

— Нічога не знайшоў,— сказаў Рыгор. Відаць, у іх ужо раней была гаворка на гэту тэму.— Ні грошай, ні ашчаднай кніжкі. А можа, у яе і не было кніжкі. Не памятаю, каб яна ў ашчадную касу хадзіла.

— А колькі трэба? — спытаў палкоўнік у сястры.— Кажы, не саромейся, прышлю.

— Я, канешне, абыдуся,— залілася чырванню Дзіна Васільеўна.— Я думала, каб нікога не сцясняць.

— Ну, няхай, пагаворым пазней,— і палкоўнік зноў уткнуў нос у часопіс.

— Ну, вы як хочаце,— пачаў з нейкім незразумелым выклікам Рыгор, відаць, не быў упэўнены, што яго зразумеюць.— Сын у мяне жанаты. І сваіх яшчэ, ведаеце колькі. Яно нічога, ды нявестка такая, што... Хацеў ім хату купіць, ніхто не прадае. Маці прасіў, каб пусціла да

сябе, не захацела. Стамілася, кажа, хачу пажыць спакойна. Не будзе мяне, тады, кажа, як хочаце... Я, калі трэба, заплачу грашыма вам, але мне трэба хата. Сядзіба. Давайце ацэнім самі ці камісію якую паклічам. Грошы ў мяне ёсць. І сядзіба нашай застанецца. Прыехаць можна, пажыць. Што ні кажыце, а бацькаўшчына. Калі не хочаце, каб я сына адсяляў, магу сам перайсці, а яго пакінуць у сваёй.

Рыгор дапытліва агледзеў усіх і зноў пачаў нешта пісаць алоўкам у сваім сшытку. Усе які час маўчалі, крыху абражаныя тым недаверам, які прагучаў у інтанацыі Рыгора.

— Мы разумеем цябе, Грыша,— з нечаканай ласкавасцю і спагадай пачаў Леанід.— Ты просіш усё законна. І, відаць, ніхто не будзе супраць. Але... Я хацеў бы, каб вы зразумелі і маё становішча. Вы ведаеце, што я раблю ў гандлі, дзе, як лічаць абывацелі, сабраліся адны жулікі і зладзеі.

Палкоўнік раптам падняўся, нібы пацягнуўся, зморшчыўся, відаць, у яго нешта да болю самлела ад нязручнай позы, сказаў:

— Прабачце мне. І ты, Лёня, і ты, Грыша, і ты, Дзіна. Калі вы не супраць, я вазьму партрэт маці.

Усе паглядзелі на павялічаны партрэт пад чорным бантам і прамаўчалі. Палкоўнік зняў яго, загарнуў у газету і схаваў у свой карычневы сакваяж з бліскучымі бакамі.

— Вы тут мяркуйце, а я выйду ў сад,— сказаў ён.— Нешта мне не вельмі... Ноч не спаў, разумееце,— і ён скіраваў маладой спружыністай паходкай да дзвярэй.

Леанід праводзіў яго цяжкім абыякавым позіркам, а потым працягваў, звяртаючыся цяпер толькі да Рыгора:

— Я хацеў, каб ты, Грыша, увайшоў у маё становішча. Зарплата невялікая, толькі пракарміцца... Але ўсё ж за жыццё трохі насабіраў. Хачу ўзяць машыну. І ўчастак далі за горадам. Будавацца прыйдзецца. І баюся. І машыну купляць баюся, і будавацца. Ананімкі, праверкі, самі разумееце. Чэснага чалавека зробяць злодзеем. Я хачу чаго? Каб мне аддалі хату. Па дакументах. А потым я прадам яе табе. Без ніякіх грошай. Дакументальна. Падпішам паперку, і ўсё. Мне нічога не трэба. Мне трэба паперка, што я атрымаў спадчыну, а потым прадаў. Раптам спытаюць, адкуль грошы. Калі ласка, прадаў хату. Разумееш? Афармленне я бяру на сябе. Каньяк таксама. Калі не хо-

чаш так, давай напішу пісьмо, каб маю частку аддалі грашыма. Ты па пошце і перавядзеш мне суму, якую я скажу. Не бойся, сваіх не будзеш пераводзіць, дам табе грошы. Разам пойдзем на пошту. Ты толькі запоўніш сваім почыркам перавод...

Верка спачатку адчувала спіною прахалоду цаглянае грубкі. Неўзаметку цэгла нагрэлася ад яе спіны. Цяплей стала і самой жанчыне. Яе ахапіла санлівая млявасць, пацяжэлі павекі. Спачатку яна чула, пра што гаварылі ў хаце, нават па голасу ўлоўлівала настрой кожнага. Потым сэнс слоў да яе ўжо не даходзіў. Яна толькі чула гудзенне чалавечых галасоў, нечым падобнае на дудзенне чмяля, які б'ецца аб шыбу, калі трапіць у хату. Нахіліўшыся галавою сабе на плячо, Верка непрыкметна задрамала.

На яе ніхто не звяртаў увагі, і яна, відаць, ладна праспала, бо калі прачнулася, то пачула зусім іншую гамонку, чым напачатку. Усе сядзелі за сталом і ажыўлена, нават весела, гаварылі. Рыгор, нахіліўшыся да палкоўніка, нешта расказваў, ледзь не торкаючыся тлустымі губамі яму ў вуха. Той лена варушыў сківіцамі, перажоўваючы нешта цвёрдае, глядзеў у адчыненае акно і зрэдку ківаў галавой, каб Рыгор бачыў, што ён яго слухае. Дзіна Васільеўна сядзела з паружавелымі шчочкамі. Па яе твары блукала ўпартая ўсмешка, якую яна ўвесь час спрабавала суняць, выціраючы губы рушніком. Леанід жа з узмакрэлай чупрынай сёрбаў з глыбокай місы сыраквашу, чэрпаючы яе драўлянай лыжкай, і, здавалася, сам сабе бубнеў пад нос: «Ну і браточкі, ну і родненькія! Ды з вамі ў агонь і ваду...» А потым раптам ні з таго ні з сяго, валяючы локцямі бутэлькі і шклянкі, пацягнуўся праз стол да Рыгора цалавацца.

Верка паднялася, нечакана грукнуўшы ўслончыкам.

— Верка? — азірнуўся Рыгор, зрабіў такі выгляд, што толькі яе цяпер і заўважыў.— Выспалася? Ну, давай за стол. Памянём яшчэ.

— Ідзі прысядзь,— папрасіла яе і Дзіна Васільеўна.

— За стол, за стол,— ледзь не засняваў Леанід, падхапіўся, падставіў яшчэ адну табурэтку.

— Не, не, дзякую вам вельмі,— пачала адмаўляцца Верка.— Пабягу дамоў, там жа ўсё недагледжана...

— Ды пасядзіце вы,— цяпер больш настойліва запрашала яе Дзіна Васільеўна, нават паднялася, узяла Верку пад руку.— Пойдземце. Наша мама вас вельмі любіла.

— Не, не, дзякую... Дома ж недзе і куры і парасё...—

яна вызвалілася ад учэпістай рукі Дзіны Васільеўны, пайшла да дзвярэй.

— Верка, пачакай жа,— крыкнуў ёй Рыгор.— Цябе мы так не адпусцім. Столькі глядзела маму ды так і пойдзеш. Не, так будзе не па-людску.— Ён падняўся, хістаючыся, выйшаў на сярэдзіну хаты.— Вось скажы, што табе падабаецца? Тое і бяры. Ну, што хочаш узяць на памяць аб нашай маці?

— Ой, што вы, што вы,— зачырванелася Верка.— Нічога мне не трэба. Дзякую!

— Вазьмі хоць гэтае паліто. Яно не вельмі, але як памяць...— І Рыгор зняў старое выгаралае сіняе паліто з каўняром з аблезлай поўсці зайца, якое вісела на цвіку ля вушака дзвярэй у другі пакой. Як і памятае Верка, Аўдоцця гэтае паліто амаль не апранала. Хіба калі па ваду ці па дровы. Яно таму і вісела ля дзвярэй.

— Бяры, бяры,— ён ледзь не сілком сунуў ёй паліто ў рукі.— Гэтая апранаха яшчэ ого! Яе насіць ды насіць можна.

Верка паспешліва падзякавала Рыгору, развіталася з усімі і выскачыла з хаты. У сенцах пашукала на сцяне, куды б павесіць паліто, але ёй падалося, нібы нехта прытупаў да дзвярэй, і яна выйшла ў двор. Спынілася, думаючы, як жа ісці дамоў. Па вуліцы не хацелася. Не хацелася, каб бачылі людзі, чым ёй аддзячылі Аўдоцціны дзеці. Не хацелася, каб і сказаў хто, што во, маўляў, не паспела пахаваць цётку, а ўжо цягне. І яна не пайшла па вуліцы, а пралезшы праз жэрдкі ў канцы саду — сад быў абгароджаны ў дзве жэрдкі, каб скаціна не забрыла якая,— прашастала бульбоўнікам па глыбокай мяжы, перасекла завулак і зайшла ў свой двор з агарода, задаволеная тым, што ёй ніхто не сустрэўся. Куры, што капаліся ў пяску пад плотам, кінуліся ёй пад ногі. У хляве зарохкала парасё. Але Верка не звярнула ўвагі ні на курэй, ні на парасё, а кінулася ў хату і там як увайшла, так і ўпала на ложак, які стаяў за печчу, уткнулася тварам у прапахлае пылам паліто і ледзь не загаласіла:

— Ой, цётачка ты мая, для каго ж ты жыла, старалася?..

Верка плакала, гучна ўсхліпваючы, як плачуць вельмі пакрыўджаныя дзеці. І плакала не ад крыўды, хаця, вядома, і крыўдна было. Верка ж увесь апошні тыдзень прасядзела ля Аўдоцці, не адыходзячы ад яе ні днём ні ноччу. А колькі памагала ёй раней. І вось за ўсе яе старанні

аддзячылі. Сунулі, як якой жабрачцы, старое, нікому не патрэбнае паліто.

А плакала яна, бо адчувала адзіноту ад раптоўнай асірацеласці. Цяпер не будзе і прыхінуцца да каго, не будзе з кім памаўчаць у згодзе. Яна ж, Аўдоцця, была для яе самым блізкім чалавекам.

Жыццё ў Веркі не склалася. Да вайны ў яе быў хлопец, белачубы трактарыст з МТС. Нават дамовіліся з ім пра вяселле на восень. Але то была восень сорак першага года, і вайна абагнала іх намеры. Як пайшоў ваяваць той трактарыст, так з першых дзён ад яго ні стуку ні груку. Можа, загінуў, а можа, забыўся на яе. Быў ён родам не з іхніх мясцін. А пасля вайны і не такія, як яна, засталіся ў дзеўках. Гэта цяпер яна пасталела, прыціхла, а ў маладосці была чырванашчокаю рагатушкай. Бывала, яе звонкі залівісты смех чуўся на ўсю Ягадную. З-за вясёлага характару некаторыя лічылі Верку ледзь не дурнічкай.

Яна не змянілася і пасля таго, як загінуў у фінскую яе бацька, стрыечны Аўдоццін брат, а неўзабаве памерла і яе маці, не перанесшы гібелі мужа.

Жыла Верка ў маленькай хатцы ля самага завулка, праз які ішла дарога на калгасную ферму. Бярвенняў на хату сама навазіла з лесу на двухколцы, адразу пасля вайны.

Калі была маладзейшая, то не адчувала сябе такой адзінокай. Таварышкі яе былі незамужнія. Ды і работа ў гурце, нялёгкая ў першыя пасляваенныя гады, асабліва не пакідала часу для роздуму пра сябе, пра свой лёс. Паступова яе равесніцы абзавяліся сем'ямі ці раз'ехаліся, а яна асталася адна. А тым часам і Аўдоцця, падняўшы сваіх дзяцей на ногі, таксама засталася адна. Верка ўсё часцей і часцей пачала заглядваць да яе, асабліва асеннімі вечарамі. Узімку таксама. Звычайна яны сядзелі ля грубкі — Аўдоцця ўсё выгравала перад грубкай свае ногі, якія прастудзіла на ферме, дзе амаль усё жыццё рабіла даяркай,— лускалі гарбузікі, гаварылі пра рознае, але часцей успаміналі даваеннае жыццё, калі яны ведалі багата радасці і мала смутку.

Дзеці Аўдоцці ці з-за занятасці вялікай, ці таму, што ля іх маці заўсёды Верка, асабліва часта не наведвалі яе...

І апошнія словы, якія сказала Аўдоцця ў жыцці, сказала не сваім дзецям, а ёй, Верцы.

У той дзень забег да маці Рыгор, калі прыганяў статак на абед, спытаў у Веркі:

— Ну як маці?

— Нібы лепей,— адказала яна.— Ноччу блага было. Стагнала, кідалася. Усіх вас клікала. Траціла прытомнасць. Я аж пералякалася. З ёю такога ніколі не было. Але выпіла парашок, супакоілася і заснула. Прачнулася, папрасіла сыраквашы. Выпіла шклянку. Цяпер зноў заснула...

— Грыша? — раптам Аўдоцця паклікала сына.

— Як ты тут? — падышоў ён да маці.

— Нічога, толькі слабасць...

— Анічога не ясі,— сказаў Рыгор, як упікнуў.

— Можа,— пагадзілася старая.

— Прахапіла недзе скразняком, дык яно і так. Паляжы цяпер, не спяшайся падымацца. Хваробу трэба вылежаць. Дарма, што цёпла, а часам так пацягне, што здароваму як піць даць можна прастудзіцца,— папярэдзіў маці Рыгор.

— Ну як там у цябе? — пацікавілася маці.

— Ціха. Нявестка паехала да сваіх у госці.

— Ой, што вы ўсё не падзеліце?

— Што мы? Мы слова лішняга не таго... Яна ўсё. Усё не так. Сама сябе не любіць...— і, відаць, убачыўшы, што нібы расхваляваў маці сваім прызнаннем, пастараўся супакоіць яе: — Нічога, абжывуцца... Ну, я пабег, а то яшчэ не абедаў...

— Бяжы, Грыша.

— Ты не хвалюйся, я пабуду,— сказала яму Верка.

І Рыгор пайшоў, паабяцаўшы яшчэ заглянуць увечары. Аўдоцця зноў задрамала. Верка адлучылася на якія паўгадзінкі дамоў паглядзець сваю гаспадарку. Калі вярнулася, Аўдоцця ўсё яшчэ драмала. Верка на прыпечку распаліла агонь, паставіла чайнік. Думала, як прачнецца старая, напаіць яе чаем: можа ж, трэці дзень нічога не ела. Раптам пачулася, нібы паклікала яе Аўдоцця. Падышла да яе. Тая нешта мармытала, хапала паветра шырока адкрытым ротам і нібы парывалася сесці. Спрабавала нават абаперціся на рукі, але ў руках не было сілы. Яна толькі падымала ўскудлачаную галаву, углядаючыся перад сабой шырока адкрытымі вачыма. Такога яшчэ з Аўдоццяй ніколі не было. Верка злякалася, пачала клікаць яе, махаць перад тварам хусткай, потым падала вады. Але Аўдоцця не стала піць. Нахіліўшыся над ёю, праз слёзы дапытвалася Верка, чаго тая хоча...

Раптам Аўдоцця неяк уся абмякла, павяла наўкола по-

зіркам, нібы не разумела, дзе знаходзіцца. Памкнулася нешта сказаць, варухнула вуснамі, а на большае не хапіла сілы.

Верка зноў паднесла ёй шклянку з вадой. Аўдоцця адмоўна павяла галавой.

— Чаго ж табе даць, цётачка? Скажы...

— Верка,— раптам прашаптала ледзь чутна старая і зноў у знямозе замуляла вуснамі.

Верка нахілілася над ёю, але ўсё роўна нічога не пачула.

Аўдоцця пільна паглядзела на Верку, а потым перавяла позірк на дзверы. Азірнулася і Верка. Праз адчыненыя дзверы быў відаць кухонны столік, што стаяў ля акна, на століку — гладышкі, міскі, пачак пячэння. Верка кінулася туды, узялася за гладышку, азірнулася на Аўдоццю. Тая зноў кіўнула галавой, што не тое.

— Цётачка, ты чуеш мяне? — Верка зноў вярнулася да яе.— Ты скажы ціхенька, я пачую.

— Там...— толькі і хапіла ў старой сілы на адно слова, і яна зноў пільна і напружана глядзела на дзверы. Аўдоцця так напружвала вочы, што з іх аж пакаціліся слёзы. Адна буйная слязіна скацілася па жоўтай скроні і спынілася, наткнуўшыся на пасмачку сівых валасоў.

Верка зноў кінулася да дзвярэй. Можа, ёй што-небудзь трэба ў століку? Яна адчыніла дзверцы, але там, акрамя чыстых талерак, бутэлек з алеем, нічога не было...

Вярнулася зноў да Аўдоцці. Тая ляжала, уставіўшыся вачыма ў столь, не дыхала...

...Наплакаўшыся, Верка так і заснула, уткнуўшыся тварам у паліто.

Мінула лета.

Даўно ў вёсцы перагаварылі пра смерць Аўдоцці, пра тое, як дзяліліся яе дзеці, як яны забыліся на Верку. Сама ж Верка нікому нічога не расказвала, і калі чула ад людзей часам такія падрабязнасці, пра якія не ведала, то толькі здзіўлялася.

Настала восень. На счарнелую зямлю, на намоклыя платы, на пацяжэлыя стрэхі сыпаліся бясконцыя дажджы. У завулку, якраз ля Верчынай хаты, разлілася такая калюжына, што яе маглі адолець толькі гусенічныя трактары, і то калі аб'язджалі яе паўз край, ля самага Верчынага хлява. Паступова паўз самы хлеў разбілі яшчэ глыбейшую калдобіну, чым была пасярод калюжыны. Верка баялася, што вада можа папасці ў пограб. Гэтай вясной

яна прасачылася, хаця калюжына ў завулку не была большай. Дык вясной жа ў пограбе не было нічога, а цяпер там і бульба, і буракі, і капуста, і агуркі.

А дажджы сыпаліся і сыпаліся...

Трэба было тэрмінова пракапаць раўчук, каб сышла вада з калюжыны.

Верка стаяла сярод хаты, мяркуючы, што б такое апрануць пад дождж. Раптам спыніла свой позірк на Аўдоцціным паліто, якое так і ляжала на запечку з таго часу, як яна яго кінула туды яшчэ ўлетку. Часам, калі Верка адпачывала на запечку, яно было ёй за падушку. Але часцей за ўсё на ім спаў кот Антон, які жыў у Веркі. Ён даўно не лавіў мышэй, толькі піў малако і спаў. Ён і цяпер ляжаў на паліто. Верка прагнала ката, узяла паліто, струсіла з яго кацінную поўсць, апранулася. Абула цяжкія гумавыя боты — настылі, стоячы ў сенцах,— узяла рыдлёўку, выйшла ў двор. Пачала капаць раўчук, ад калюжыны паўз плот свайго агарода. Адчула, як нешта муляе ў спіну. Падумала, што пад паліто падвярнулася хустка. Расшпіліла паліто, паправіла хустку. Але муляць не перастала. Яна праз плячо пастаралася памацаць тое месца, дзе муляла, і адчула, што пад сукном бугрыцца нешта цвёрдае. Можа, там пазбівалася вата? На холадзе распранацца не хацелася, вярнулася ў хату. Паспрабавала раскалашмаціць тую вату, але зразумела, што там зусім не вата, а нешта падобнае на драўляны крэглік ці абрэзак якой дошчачкі. Засунула руку пад падкладку. Тое цвёрдае было загорнута ў анучу і прышыта. Вывернула паліто, адарвала прышытае, разгарнула. Пад анучай быў цэлафан. А ў цэлафане — грошы. Дваццацьпяткі, паўсотні, сотні. Верка падхапілася, замкнула дзверы на шчапок, захінула вокны фіранкаю. Дрыжачымі рукамі перабрала паперкі, пералічыла. Грошай было столькі, што спачатку яна і не паверыла сама сабе. Пералічыла яшчэ раз. Верка яшчэ ніколі такіх вялікіх грошай не трымала ў руках. Няўжо пра іх ніхто з дзяцей Аўдоцці нічога не ведаў? Няўжо яна пра іх нікому не сказала? А калі адчула, што памірае, дык побач не было нікога. А ці не пра іх яна ў апошні момант хацела сказаць Верцы, калі так пільна глядзела на дзверы? Можа, яна не на дзверы глядзела, а на сваё старое паліто, якое якраз вісела на цвіку ля дзвярэй? А яна, Верка, не зразумела тады старую.

Верка зноў загарнула грошы ў цэлафан, задумалася. Куды ж іх схаваць? Пакінуць у хаце? А раптам пажар ці

злодзей які? Можа, вынесці ў пограб? А раптам хто палезе па бульбу ці капусту і наткнецца на іх? Ці вада, і яны намокнуць? Яна так доўга сядзела ў разгубленасці... Потым узяла іголку з ніткай, села на ложак і прышыла грошы да падола свае кофты — так яны заўсёды будуць пры ёй, і яна зможа памацаць іх у любы момант. Але ўвесь час іх так насіць не будзеш. Ды і навошта? З імі нешта трэба зрабіць. Можа, узяць ды новую хату паставіць? Цаглянную, светлую, як ва ўсіх цяпер... А навошта? Пражыве яна свой век і ў гэтай. А можа, з'ездзіць куды? У Маскву ці на мора? Яна ж нідзе ніколі не была далей Гомеля. А можа, аддаць іх Дзіне Васільеўне? Хай сама падлечыцца і дачку падлечыць. Хаця ёй, казалі, даў брат, каторы ваенны. Ды і той гандляр таксама. А потым яшчэ не паверыць, што аддала ўсе. Ніхто ж не ведае, колькі тых грошай было ў Аўдоцці.

У той дзень Верка не выходзіла з хаты. Толькі вынесла цеста парасяці ды сыпнула курам. Нават па ваду не пайшла. Увечары не запальвала святло. У прыцемках і легла спаць. Доўга не магла самкнуць вачэй. Усё думала, што рабіць з грашыма. А можа, аддаць іх Рыгору? Гэты хутка знойдзе, што з імі рабіць. Казалі ж, што адабраў усё ў братоў і сястры, нават абхітрыў таго гандляра, Леаніда.

Але што ж рабіць з імі?

## НЯВЕСТКА

— Не наспелі,— уздыхнуў Ігнат, прачытаўшы пісьмо. Глянуў на Любу, якая якраз даставала з печы чыгунок з жаранкай на вячэру.— Не паспелі, кажу, падлогі пафарбаваць. Сын піша, што едзе.

— Я ж табе казала, каб не звязваўся з гэтымі Пыжыкамі,— упікнула Люба мужа.— І бацька артыст, і дзеці ў яго артысты. З-за гарэлкі свету не бачаць. Толькі языком малоць.

— Ну пры чым тут артысты? — раздражнена сказаў Ігнат.— Я з Паўлікам наогул не гаварыў, я з сынам яго гаварыў. І ён абяцаў. Казаў, вядро прывязе. Каб два разы хапіла пакрыць. І сохне, казаў, адразу. На заводзе машыны такой фарбуюць. Ды ў гэты выхадны ён зусім не прыязджаў. Нібы ў іх там, казаў Паўлік, нейкі аўрал. Канец месяца.— Ігнат зноў прагледзеў пісьмо, нібы яшчэ раз

хацеў пераканацца, што сын сапраўды прыязджае, і прыязджае вельмі хутка.

— Казала ж, купляй у магазіне. Даўно б пафарбаваў і высушыў,— яна вывернула тлустую жаранку ў вялікую паліваную міску. Сярод умлелай жоўтай бульбы ружавелі кавалачкі мяса. Люба ўзяла аберуч міску і паставіла на стол. Ігнат звярнуў увагу на яе шырокія моцныя далоні. Бадай што ад яго Любы, мажнай і дужай жанчыны ў маладосці, толькі і засталіся шырокія мужчынскія далоні. А сама неяк здрабнела, паменшала. І нават усмешка, усё яшчэ па-юнацку белазубая, не маладзіла яе нездаровы твар нейкага шэра-жаўтаватага колеру.

— Каб жа знаццё, што яно так атрымаецца.— Ігнат сунуў канверт за люстэрка, што ў аблезлай рамцы вісела на сцяне якраз над кухонным сталом,— за ім хавалі розныя квітанцыі і дакументы.

— Яно ж заўсёды так: паспяшыш — людзей насмяшыш...

— Можа, якраз і добра, што не пафарбавалі.— Ігнат спыніўся сярод хаты, не ведаючы, што рабіць — распранацца ды садзіцца вячэраць ці ўсё ж схадзіць па ваду.

— Я ж табе яшчэ тады казала, што дошкі мокрыя. Унесла трэскі ад іх у печ, дык адзін дым, ніякага агню. Казала ж, каб да вясны з падлогай пачакаў...

Ігнат адчуў, як падымаецца ў ім раздражненасць на жонку з-за яе бясконцых дакораў, і, каб пазбегчы скандалу, паспяшаў за дзверы.

— Казала, казала,— перакрывіў ужо ў сенцах.— Якая разумная! Нібы цесляры чакалі б той вясны. У іх жа план... Абы малоць языком.

У двары ля веснічак яго чакалі два пустыя вядры. Гэта ж Ігнат ішоў па ваду ды ўбачыў пісьмо ў паштовай скрынцы, якая была прыладжана да варот з гэтага боку і ў якую кідалі пошту праз дзірку, прапіленую ў варотах. Паставіў вёдры, а з пісьмом вярнуўся ў хату, каб прачытаць.

Хаця водаправодная калонка была амаль ля самай хаты, ён пайшоў да калодзежа — з калонкі цякла жаўтаватая вада і пахла жалезам,— і потым, калі з поўнымі вёдрамі вяртаўся назад, то аж замарудзіў хаду, здаля любуючыся сваім дворышчам, на якое, можа, ужо з год глядзіць і ніяк не можа прывыкнуць: побач з невялікай, у адно акно на вуліцу, і крыху аселай ужо хатай, на якой саламяная страха даўно парасла зялёным мохам, неяк непры-

вычна, як чужы, стаяў высокі цагляны дом, пагардліва паглядваючы з вышыні ледзь не метровага падмурка шырокімі цёмнымі вокнамі на сваю нізкарослую суседку.

Ігнат прайшоў крыху бокам — каб не зачапіцца раптам вёдрамі — вузкай вулачкаю, што засталася ад шырокага двара паміж старою хатаю і новым домам. Занёс вёдры ў хату, паставіў у парозе.

Жаранка, відаць, прастыла, ад яе ўжо не падымалася пара. Люба, прыхінуўшыся да вушака дзвярэй у светлую палову хаты, не зводзіла вачэй з тэлевізара, які стаяў там на покуце, якраз пад іконамі.

— Што ж ты не вячэраеш? — Ігнат зняў кепку, павесіў на цвік ля дзвярэй, потым павесіў там жа зялёную з балонні заляпаную куртку, якую некалі, нанасіўшыся, аддаў яму сын.

— Ды загледзелася,— спахапілася Люба.— Зноў у космас паляцелі. Няма ж там нічога, а лятаюць... І чаго яны там не бачылі?

— У космасе, можа, і няма, а на зямлі ёсць. Выключай ды ідзі садзіся,— апошнім часам Ігнат не любіў не толькі глядзець, а нават і слухаць тэлевізар. Ад яго балела галава. Іншы раз не ўтрымаецца, паглядзіць які канцэрт ці кіно, а потым усю ноч пакутуе, заснуць не можа. А можа, тэлевізар быў і ні пры чым, проста пад старасць давала сябе адчуць старая кантузія?

Вячэралі моўчкі. За доўгае сумеснае жыццё яны, здавалася, перагаварылі пра ўсё. І цяпер маглі цэлымі днямі маўчаць, як нямыя якія. Нават тады, калі ў вёсцы адбывалася нешта незвычайнае: ці скандал на ўсю вуліцу, ці вяселле, ці паміраў хто, то і пра гэтыя падзеі асабліва багата не гаварылі. І толькі калі балела што-небудзь у каго з іх — а балела часта, бо такі быў ужо ўзрост,— яны тады яшчэ маглі паразважаць пра тую немач, паўшчуваць адзін аднаго, што не хочуць ісці ў бальніцу, палаяць дактароў, што яны нічога не ведаюць, успомніць, хто са знаёмых і як лячыў такія ж хваробы, як у іх.

Ігнату здавалася, што калі прыедзе са сваёй сям'ёй сын, упадабае новы дом, які ён і будаваў для яго, і застанецца жыць тут назаўсёды, то іх жыццё з Любаю не будзе такім звыкла самотным. Новая сям'я, новыя клопаты. А потым жа і ўнукі... Так што трывог і радасці ім хопіць.

— Напісалі б, калі выязджаюць, сустрэлі б,— сказаў Ігнат, павячэраўшы.

— Можа, і самі яшчэ не ведаюць,— адгукнулася Люба

адразу, бо і сама думала пра гэта.— Можа, білетаў не купілі. Што ж яны напішуць? — і яна ўзяла міску з недаедзенай жаранкай і паставіла на прыпечак.

Ігнат сядзеў за сталом, перачытваў загалоўкі газет, чакаў, пакуль жонка памые посуд, паставіць у печ чыгункі з вадой, каб было чым раніцай напаіць карову.

Люба парабіла ўсё, зачыніла засланку, скрыгануўшы бляхай па прыпечку так, што Ігнат аж паморшчыўся,— усё жыццё зачыняе печ і ніяк не навучыцца, каб не скрыгаць,— спынілася, задумалася. Заўсёды перад тым як ісці спаць, яна спыніцца, задумаецца, ці ўсё зрабіла.

— Дроў у грубку ўнёс?

— Хіба не бачыла?

— У печы бачыла.

— Ідзі і ў грубку глянь.

Пасля таго як яны засталіся адны, звычайна не палілі грубку ў светлай палавіне хаты да вялікіх маразоў. І цяпер, хаця на вуліцы не было холадна, там усё ж трымалася зябкая свежасць.

— Ну добра,— не пайшла глядзець у грубцы Люба.— Перад іх прыездам і прапалім,— і яна пачала раскідваць пасцель на ложку, які стаяў тут жа за печчу, у закутку.

Ігнат пачакаў, пакуль уляжацца жонка, выключыў святло і басанож патупаў да ложка. І калі ён, прыткнуўшыся тварам да яе пляча, пачаў драмаць, Люба спытала:

— Мы тут застанемся ці ў новую пяройдзем?

— Хіба ў новай не памесцімся?

— Памесціцца-то памесцімся, але цяпер маладыя не любяць разам з бацькамі жыць. Рыгор Носік як ужо кляў сваю нявестку, калі разам жылі, як яе толькі ні абзываў, а адсялілі, цяпер не нахваляцца. Лепшай нявесткі ўжо і не трэба ім. А я так думаю: пяройдзем мы ці не ў новую, але старая няхай пастаіць. Бурыць не будзем. Ці мала што...

— Няхай стаіць, есці не просіць.

Люба зноў замаўчала. І калі Ігната амаль канчаткова ўзяў сон, спытала:

— Ігнат?

— Ну.

— А раптам не захочуць застацца?

— У такой хаце? Вольчын жа Вадзім жыве, не выгнаць. А ў Волькі хата не лепшая.

— Вольчын хлопец тут жыў, а наш паспеў паспытаць гарадскога жыцця,— сумнявалася Люба.

— Паглядзім, спі.— Ігнат павярнуўся тварам да сцяны, і хутка пачулася яго лёгкае пахрапванне, нібы парыпвала дзе старое дрэва. Пад гэтыя гукі хутка засынала і Люба.

Сын прыехаў на досвітку.

Люба праз сон пачула, як загрукаў нехта ў двары. Спрасонку яна нічога і не ўцяміла, штурханула пад бок Ігната.

Той прачнуўся ад нечаканасці.

— Што такое? — прысеў ён на ложку.

— Нехта ломіцца, ці што,— устрывожана прашаптала Люба.

Зноў загрукалі. Цяпер ужо ў дзверы ў сенцах. Так звычайна грукаў іх сын Тарас, калі вяртаўся позна дамоў: бацькі, натаміўшыся за дзень, спалі моцна.

— Зараз, зараз,— затэпаў у сенцы Ігнат.

Падхапілася і Люба. Накінула хуценька сукенку, уключыла святло. А з сянец ужо чуўся радасны голас мужа:

— Ездзяць тут ноччу, выспацца не даюць...

Першай у хату зайшла нявестка Валянціна з малым на руках. Яна была невысокага росту, з раскіданымі па плячах белымі валасамі, у шыракаполым доўгім блакітным плашчы, у чорных бліскучых туфельках на высокім абцасе. Услед за ёю ўнёс цяжкі чамадан і бухматую дарожную сумку Тарас. Ён быў у куртцы, без шапкі. Апошнім укаціў у хату высокую дзіцячую каляску Ігнат.

— Цэлым табарам,— гучна смяяўся ён.

— Цішэй ты! — накінулася на яго Люба.— Разбудзіш...— і звярнулася да нявесткі: — Ой, дачушка, дай патрымаю, а то ж, можа, дзе і ручкі самлелі.

— Калі ласка,— ахвотна перадала малога свякрусе Валянціна.— Я пасцельку яму зраблю.

Яна распранула плашч, кінула Тарасу на рукі, потым выкінула з каляскі прама ў парог нейкі вузел, відаць, брудныя пялёнкі, папраўіла пасцельку, узяла малога зноў і паклала яго.

— Давай, Валечка, сюды,— адчыніла дзверы Люба ў светлую палавіну хаты.— Тут яго ніхто не разбудзіць.

Валянціна закаціла каляску, потым нагнулася над малым...

— Ну як? — Любе падалося, што, можа, малы хворы, што нявестка так прыслухоўваецца да яго дыхання.

— Спіць,— выпрамілася Валянціна, папраўіла валасы

на плячах.— Цяпер доўга спаць будзе. У вагоне столькі людзей, што прыткнуцца недзе было. Раскапрызнічаўся. Ад станцыі на руках неслі. Заснуў ля самага дома ўжо.

— А тут не холадна? Можа, грубку запаліць? — спытала Люба.

— Здаецца, самы раз,— і Валянціна з палёгкай уздыхнула.— Ой, з малым ездзіць не дай бог.

— Ну, пойдземце, трохі паснедаеце,— запрасіла Люба нявестку.— Ды і адпачніце...

— Зараз, мама, пераабуюся, а то аж ногі баляць,— яна дастала свае тапачкі, што, загорнутыя ў газету, ляжалі на сетцы пад каляскай, пераабулася.

Тым часам на кухні грымеў сваім басам Тарас:

— А мы не пазналі двара. Ідзём, ідзём, а вярбы няма. А потым бачу, вуліца кончылася. Валя кажа, можа, не ў сваю вёску трапілі? Мы ж пра новую хату нічога не ведалі. Разбудаваліся тут, цесна ім удваіх стала...

Люба перасігнула цераз сумку і чамадан, што стаялі пасярод хаты, загрымела засланкай.

Ігнат пачаў даставаць з кухоннага століка посуд.

— Відаць, галодныя? — спытаў у сына.

— Я і сам не ведаю, чаго больш хочацца, есць ці спаць.— Тарас падсеў да стала, стомлена выцягнуў ногі.— Такі дурацкі вагон папаўся. Нейкія п'яныя ўсю ноч гарланілі, нікому спаць не давалі. Выспацца б спачатку... Хаця Валі пад'есці трэба, а то нечым сына карміць будзе.

— Калі есці, дык усім,— зайшла і Валянціна ў доўгім, да самых пят, халаце.

— Ну калі ўсім, ды пакуль вы тут таго, я, можа, вам грубку паспею прапаліць.— Ігнат зачыніў кухонны столік, падышоў да печы, пачаў шукаць на комінку запалкі.

— Не трэба, тата, там сама нармальна,— папрасіла Валянціна.— Прызнацца, мне таксама есці не вельмі хочацца. Напіцца б чаго.

— Дай, мама, нам якой сыраквашы, і мы пойдзем адпачываць,— пагадзіўся з жонкаю Тарас.— Потым паснедаем.

Яны выпілі па вялікаму паліванаму карцу сыраквашы і пайшлі спаць, зачыніўшы за сабою дзверы.

— Ну во, ні падымацца, ні класціся зноў,— глянула Люба на круглы сіні будзільнік, што цікаў на комінку. Яна прысела на ложак, потым шаснула нагой аб нагу — хадзіла басаногж і начапляла пяску на ногі,— залезла пад коўдру.— Кладзіся і ты, можа, яшчэ падрэмлем.

Ігнат узяў сумку і чамадан, паставіў іх да сцяны ля кухоннага століка, сеў на ложак, які час задумліва маўчаў, потым неяк расчаравана сказаў, нібы паскардзіўся:

— Бач, не спадабалася, што будуемся... Разбудаваліся, кажа, разбудаваліся...

— Ды кладзіся ты,— тарганула Люба яго за руку.— Нібы сынка свайго не ведаеш. Гаворыць абы гаварыць. Такі ж буркаты, як і ты, якраз,— і яна, калі Ігнат, выключыўшы святло, лёг, прыхінулася бліжэй да яго.

Як ніколі доўга, спаў у гэтую раніцу Ігнат. Ён не чуў, як паднялася і збіралася на ферму Люба, як потым яна вярнулася і поралася ля печы, грукаючы патэльнямі і чыгункамі. І толькі тады, калі па хаце паплыў казытлівы часночны пах разагрэтых дамашніх кілбас, ён прачнуўся. У хаце было відна. На стале стаяў сняданак. За дзвярыма ў чыстай палове хаты чулася цяжкое тупаценне. Відаць, займаўся зарадкай Тарас. Ён некалі і школьнікам кожную раніцу вось так падскокваў на падлозе,— кожны, хто ў гэты час праходзіў па вуліцы, думаў, што ў Ігната таўкуць у ступе проса. Неяк Марфа аж зайшла ў хату. «Іду, а тут грукае нешта, думаю, што гэта такое, аж во зайшла, не вытрымала...»

Відаць, і малы там прачнуўся. Нявестка гаварыла яму нешта ласкавае. Слоў нельга было разабраць, а чуўся толькі ціхі пяшчотны голас.

— Падымайся, лежабока,— засмяялася расчырванелая і нібы раптам памаладзелая Люба, убачыўшы, што Ігнат ляжыць з адкрытымі вачыма.— Падымайся, падымайся, а то блінцы прачахнуць, тады нясмачныя будуць.

За снеданнем Тарас з Валянцінаю, перапыняючы адзін аднаго, расказвалі пра сваё жыццё на прыватнай кватэры, пра тое, як яны пакутуюць, асабліва цяпер, калі з'явіўся малы. Жывуць у невялічкім пакойчыну на ўскраіне горада — не пакойчык, а сабачая будка. Паставілі ложак, дзіцячую каляску, а для століка, нават маленькага, і месца няма. А на работу ездзяць праз увесь горад. Знайсці ж што больш прыстойнае, бліжэй да работы проста немагчыма. Абхадзілі не адну вуліцу. Ніхто з малым пускаць не хоча. Але цяпер пакуль што можна яшчэ гараваць, а што рабіць, як малы пойдзе ў школу? Праўда, яны на заводзе стаяць у чарзе на кватэру, але чакаць там прыйдзецца доўга.

Ігнат з Любаю слухалі дзяцей, радасна пераглядаліся паміж сабой, усміхаліся адзін аднаму вачыма ў зразуме-

лай згодзе. І чым болей тыя расказвалі, як ім цяжка жывецца, тым большая была іх радасць. Яны лічылі, што сын з нявесткаю, можа, і самі надумалі застацца ў вёсцы, але прама сказаць пра гэта саромеюцца, вось і расплакаліся, чакаючы, што бацькі пра ўсё здагадаюцца.

Валянціна перахапіла іх радасныя позіркі і, насупіўшыся, замаўчала: падумала, што іх расказ ніколькі не кранае бацькоў. Ні Ігнат, ні Люба не заўважылі гэтай перамены ў настроі нявесткі, ды і не маглі заўважыць, бо не вельмі пільна сачылі за ёю, а галоўнае, не ведалі яе характару, няўстойлівага, упартага, а часам і капрызнага, як і ва ўсялякай больш-менш прыгожай жанчыны: бегалі ж за ёю хлопцы і не горшыя за Тараса, а нават і з кватэрамі, дык не, адмовіла ўсім, а кінулася на шыю гэтаму бяздомніку.

А потым Люба ўсё ж заўважыла, што нявестка хмурыцца, але падумала, што тая, можа, устрывожылася чаго з-за малога.

— Ды спіць твой хлопец,— сказала яна.— Пасля такой дарогі ён будзе спаць цяпер. Тут ціха...

— А прачнецца, такім басам загудзе, што і на вуліцы чуваць будзе,— сказаў Тарас, яўна задаволены тым, што сын голасам удаўся ў яго.— Во націскай на каўбасу, у нас там такую днём з агнём не знойдзеш.

— Адкуль жа яна ў вас возьмецца такая? — пачала Люба.— Немаведама з чаго робяць іх у вас. А гэту ж каўбаску самі рабілі. Усё лепшанькае ды ўсё чысценькае...

— Наелася я, мама,— адмовілася Валянціна.

— Можа, і праўда не хоча,— падтрымаў нявестку Ігнат.— Яны ж там не прывыклі багата есці. Вось ім і не хочацца цяпер... Можа, выйдзем, паглядзім наш дом, апетыт нагуляем?

— Ды пасядзелі б яшчэ,— не падабалася Любе такая паспешлівасць Ігната.— Можа, яны елі б яшчэ, а ты...

— Нічога, даядзім потым,— падняўся з-за стала Ігнат: яму вельмі карцела як мага хутчэй паказаць маладым новы дом.

— Ой, гэта ж як глыне трохі, так і пайшоў хваліцца,— паднялася і Люба.

Усе выйшлі ў двор.

— Вось бачыце, старая хата і новая,— гаварыў Ігнат, дастаючы з кішэні ключ.— А вокны якія! Мне некаторыя казалі, навошта такія вялікія, маўляў, такіх цяпер ніхто

не робіць. Правільна, у вёсцы не робяць. А я зрабіў. Каб, значыцца, такія, як у горадзе. Каб, значыцца, сонца было багата і каб прырода была відаць. Гэта ж не ў горадзе, дзе з акна сцены відаць ці дахі ржавыя.— Нарэшце замок шчоўкнуў, дзверы ціха адчыніліся.— Заходзьце, заходзьце. Вось гэта па-нашаму сенцы...

— Нічога сабе сенечкі,— прабасіў Тарас.— Удвая большыя за пакой, дзе мы цяпер...

— Каб жа ўдвая, а то, можа, і ўтрая,— сумна ўсміхнулася Валянціна.

— Тут будзем абеды варыць,— працягваў Ігнат.— Паставім газавую пліту, газавы кацёл і калі ласка... Абяцаюць нам газ правесці. Батарэі пад вокнамі стаяць. Так што ніякіх клопатаў пра дровы. Гэта сталовая, там зала. Дзве спальні з залы, а адна, во, са сталовай. Пасварыўся з жонкай, пайшоў у другую спальню. Калей адна, калі не хочаш разам... У зале хоць мяч ганяй. Усё, бачыце, амаль гатова. Вось толькі падлогі не паспелі пафарбаваць. Абяцаў адзін фарбы прывезці, ды нешта таго... Дошкі сырыя былі, крыху рассохліся. Але пакуль падлогу не будзем, няхай зусім высахнуць, тады,— заўважыўшы, што сын з нявесткаю слухаюць яго без асаблівай увагі, пастараўся суцешыць іх: — Але гэта работа невялікая, перасланць можна за адзін дзень, а за другі пафарбаваць. Цяпер ёсць такая фарба, што сохне адразу. Два дні якіх — і жыві далей... Канешне, тут яшчэ не ўсё зроблена, але калі ўсё давесці да ладу...

— І колькі такая раскоша каштуе?— спытаў Тарас.

— Багата,— няпэўна адказаў Ігнат.— Усё, што было... Падабаецца?

— Канешне,— уздыхнуў сын.

— Нам бы ў горадзе хаця б палову такой,— уздыхнула і нявестка.

— А што ў тым горадзе? — ваяўніча пачаў Ігнат: яму не падабаўся настрой дзяцей.— Што вы так прыліплі да таго горада, што гатовы там жыць абы-дзе. І наогул... Дым, чад. Чэргі ў магазінах. І ніякай прыроды. А тут жа сад, лес, возера. Грыбы, ягады і ўсё такое. Колькі радасці дзецям! А што яны бачаць там? Пыльныя двары? А тут... Ды што гаварыць. А калі не паляніцца ды рукі прыкласці, у цябе круглы год будзе і памідорчык, і агурок, і капуста, і наогул... А пра малако я ўжо і не кажу...

— І неперабоўтанае,— уставіла Люба.

— Яснае дзела. І ўсё пад рукамі. Не трэба бегаць па

магазінах. Жыві і радуйся. Нікому кланяцца не трэба. Цяпер, ведаеце, у якой пашане людзі ў калгасе. Табе, Тарас, дык тут цаны не будзе. Трактарыст, шафёр, токар. Ого! Старшыня калгаса першым руку падаваць будзе. Ды і Валянціне знойдзецца работа. Планавік з дыпломам. Ого! Такого спецыяліста тут толькі дай. У калгасную кантору год не могуць знайсці планавіка. А не захочаце ў калгасе, можна рабіць у Гомелі. Работы там хапае ўсялякай. А жыць тут. Вадзім Вольчын не захацеў жыць у Гомелі, упрасіў матку пабудаваць яму хату. Так што...— раптам Ігнат замаўчаў, убачыўшы, што нявестка зусім не слухае яго. Адышла ўбок, задумалася і паглядвала на мужа так, нібы той раптам перад ёю правініўся вельмі ў чым-небудзь. Тарас таксама не вельмі слухаў — неяк разгублена паглядваў то на бацьку, то на жонку.

— Ведаў? — раптам спытала Валянціна мужа.

— Што ведаў? — нібы і не зразумеў яе Тарас.

— Ну, пра гэта? — яна кінула позіркам наўкола.

— Канешне, не,— і, відаць, не столькі для таго, каб сказаць бацькам, чаго яны прыехалі зараз да іх у госці, як для таго, каб пераканаць жонку, што сапраўды ён нічога не ведаў пра новы дом, пра тое, для каго ён будуецца, паспешліва, нібы баяўся, што яго перапыняць, сказаў: — Мы не думалі пра гэта, і думаць нам нечага. Работа ў нас там, і наогул. Горад ёсць горад. Зараз мы запісаліся на кааператыўную кватэру. Покуль дзяржаўнай дачакаешся, не адзін год пройдзе. А тут праз год будзе. Але грошай у нас не хапае, вось і прыехалі, а тут...

— Дзівакі,— расчаравана сказаў Ігнат.— Другія радаваліся б такому, а вы...

— Малых вашых глядзелі б,— кінулася на дапамогу мужу Люба.— Ой, я ж ведаю, як гэта расціць малых, калі ніхто не памагае.

— Калі свая кватэра, дык яно нічога,— пачуўшы ў словах маці спачуванне, больш спакойна і памяркоўна сказаў Тарас.— Яслі, садзік. Вось мы і думалі папрасіць... Мы, вядома, аддалі б,— і ён глянуў на жонку, чакаючы ад яе падтрымкі.

— Ну што паглядаеш? — у яе голасе прагучала нечаканая і абразлівая для яго насмешка.— Я не падазравала, што ты ўмееш так прыкідвацца. Ты ж пра ўсё ведаў. Ты і ехаць раней не хацеў, чакаў, пакуль тут дом зробіцца, каб было што мне паказаць. Цяпер усё ясна. Ясна, чаму

кватэры не дабіваешся, чаму ў кааператыў ледзь прымусіла цябе ўступіць. Ты пра ўсё ведаў...

— Валя! — паспрабаваў спыніць яе Тарас.

— Што Валя? Хіба не так?

— Не так. Прымусіла ў кааператыў... Ды каб былі грошы...

— Эх ты! Ты і цяпер не можаш мне праўду сказаць,— яна, было відаць, шчыра не верыла яму.— Можа, табе хочацца жыць у вёсцы? Калі ласка, жыві, не перашкаджаю. А я не хачу. Я наогул не застануся тут ні на адзін дзень, ні на адну нават мінутку.— І яна, схаваўшы твар у далонях, каб не расплакацца, выскачыла ў дзверы.

—Ператамілася, нервы,— спрабаваў апраўдаць Валю ў вачах бацькоў Тарас.— Нічога, яна адыходлівая.— І, яшчэ пастаяўшы ў крыху разгубленай маўклівасці, паспяшыў за жонкаю.

— Ну вось,— паківаў галавой Ігнат.

— А гэта ўсё ты,— накінулася на мужа Люба.— Пагрэемся ля ўнукаў, пагрэемся ля ўнукаў! Казала ж, каб пагаварыў спачатку з сынам. І сёння не спяшаўся б. А то не паспелі на парог, бух! Цяпер каму гэтае гумно трэба? Хіба з табой у хованкі гуляць. Лепей сыну далі б грошай на кааператыў.

— Думалася ж...

Пачуўся дзіцячы плач, а потым лаянка нявесткі з сынам.

— Паб'юцца яшчэ,— і Люба кінулася да дзвярэй.

Ігнат пастаяў крыху, пачухаў патыліцу і пайшоў услед за жонкаю.

Валянціна ў плашчы, у тых самых туфельках, у якіх і прыехала, выкаціла каляску з сынам у двор. У калясцы малы аж заходзіўся. Тарас перагарадзіў сваёй рослай постаццю вузкі правулак паміж старой і новай хатай і не пускаў жонку.

— Сказала, пусці. Усё роўна не ўтрымаеш.

— Валя, ты што?

— Пусці!

— Валя! — упрошваў Тарас.— Усё ж, кажу, будзе нармальна.

— Хопіць! Наслухалася тваіх казак! — і яна так рашуча пакаціла каляску, што ў яго не хапіла вытрымкі — уступіў дарогу.

Калі бразнулі веснічкі, Тарас кінуўся быў за ёй:

— Прастудзіць малога...

— Тарас! — спыніў яго Ігнат.— Не бегай! Вернецца. Ці ты хочаш, каб на галаву села? Нікуды не дзенецца, прыбяжыць, як і пабегла.

— Вы яе не ведаеце,— сказаў Тарас.

— І ведаць не хачу,— аж плюнуў Ігнат.

— Кажу, не вернецца,— ледзь не плакаў у адчаі Тарас. І неяк няёмка было глядзець на яго, рослага, буйнага целам — пайшоў у маці,— разгубленага, бездапаможнага.

— І не трэба! — рэзка сказаў Ігнат.— Гэта не баба, што мужыку не верыць. Як жа з ёю жыць? Што ж выходзіць? Як што, дык і скандал? Не, гэта не дзела,— і ледзь не загадаў: — І не думай бегаць. Прападзеш. А яна прыбяжыць сама яшчэ. А ты падумай, пускаць ці не. А то ўслед... У нас ніколі мужыкі за бабамі не бегалі... А то...

— Ды сціхні ты! — абарвала яго Люба.— Ты думаеш, што ўсе такія, як твая жонка. Не ведаеш ты цяперашніх,— і, падышоўшы да сына, параіла: — Паслухай матку, Тараска, ідзі, вярні яе. Толькі не лайцеся на людзях. Каб па-добраму. Скажы, што будуць грошы.

— А дзе ты возьмеш тыя грошы? — спытаў раздражнена Ігнат, калі Тарас выйшаў са двара.— Не сотні, а тысячы трэба.

— Пазычыш,— адрэзала Люба.— Не зломкі, адробім яшчэ. А то знайшоў, чаму вучыць сына. Яны ж дурныя яшчэ, возьмуць, не дай бог, ды і разбягуцца. Асіроцяць дзіцёнка. Каму гэта трэба?

Ігнат стаяў і глядзеў на сваю жонку так, нібы бачыў яе ўпершыню.

## КАЛОДЗЕЖ

Андрэй Кравец павярнуў галаву, глянуў на гадзіннік, які стаяў на стале. Дзве стрэлкі, што некалі залаціста блішчэлі, цяпер лінялыя, застылі на дзевятцы, знерухомелі. Як маладзіцы, сустрэўшыся, забавіліся гамонкай. А можа, гадзіннік спыніўся? Напружыў слых. Не, цікаў.

Андрэй ужо некалькі разоў прачынаўся за раніцу. Першы раз на досвітку, калі Марфа, затупаўшы пятамі па падлозе, выскачыла даіць карову. Другі раз, калі яна ўнесла дровы, кінула іх пад прыпечак, грымнуўшы на ўсю хату. А чаму ён прачнуўся зараз, не разумеў. Можа,

проста выспаўся? Дык не. Няма ў целе той лёгкасці, якая звычайна бывае, калі добра адпачнеш. І ў галаве нейкі тлумны цяжар. Падняўся. Пасядзеў на ложку, лена нацягнуў штаны. Басанож выйшаў на кухню. Счакаў, пакуль Марфа нальс вады ў высокі чырвоны тэрмас, потым нагнуўся над памыйніцай, спаласнуў рукі, твар. Вада была халодная,— толькі з калодзежа,— твар, рукі ажылі, пасвяжэлі. Падумаў, каб усяму абдацца такой вадой, то, можа, і знікла б гэтая млявасць, што ахутала ўсё цела.

Марфа сунула тэрмас у мяшок, які ляжаў на падлозе ля дзвярэй, падышла да стала, пранікліва глянула на Андрэя, які так глядзеў на талеркі, нібы не ведаў, чаго яны стаяць перад ім і чаго ён сам тут сядзіць.

— Не падабаешся ты мне сёння. Баліць?

— Не, нічога,— усміхнуўся.— Не прачнуўся яшчэ.

— Ну, я пабегла, а ты тут сам ужо. Ды дзверы зачыняй, а то мухі наляцяць,— і, на хаду падхапіўшы мяшок, выбегла з хаты.

Пачулася, як бразнулі веснічкі на вуліцу, потым загула машына. Цяпер у поле жанчын возяць на машыне. Прывозяць таксама.

Есці зусім не хацелася. Андрэй пасядзеў які час, потым выпіў крыху сыракваші нагбом з гладышкі. Сыракваша падалася нейкай прэснай. Выйшаў у двор. Спыніўся на ганку. Дрэвы з пацяжэлым нерухомым лісцем, бляшаны дах на хляве, аблеплены зялёнай плесняй, былі заліты сонцам. А ў двары стаяў цянёк і ранішняя прахалода. Як у калодзежы. Можа, і сапраўды заняцца якою працаю? Можа, пацюкаць ламачча? Яно ж болей месяца ляжыць у двары. Яшчэ прывёз да хваробы. Думаў з буйнейшага навысякаць падпорак пад яблыні, а драбнейшае пусціць на дровы. Урач забараніў рабіць цяжкае, а лёгкае, казаў, можна. Нават трэба. Але не стамляцца. Ды як тут не стомішся, калі ўвесь час ходзіш стомлены? А можа, гэта ад таго, што нічога не робіш? Андрэй узяў у сенцах сякеру, выцягнуў доўгую галюку з жоўтай, перасохлай, аж сыпіцца, ігліцай, пачаў абсякаць на ёй дробныя галінкі. Спачатку спацеў лоб, аж вочы залівала. А потым нібы хто з сярэдзіны штурхануў яго ў левае плячо. Замёр з паднятай сякерай. Прыслухаўся. Ён вельмі баяўся гэтага штуршка. Дарэчы, кожны раз, як браўся нешта рабіць, ён адчуваў гэты штуршок. А потым вяласць і стомленасць навальваліся на яго. Тады ён усё кідаў і ішоў у хату.

Андрэй апусціў сякеру, замахнуцца і загнаць яе ў калодку не адважыўся. Пацікавіўся, ці няма ў паштовай скрынцы пісьмаў. Былі газеты. Узяў іх і пасунуўся ў хату. Прылёг на канапу. Прыкрыўшы газетаю твар ад мух, неўзаметку задрамаў.

— Андрэй! — устрывожана паклікала Марфа мужа, адчыніўшы дзверы ў светлую палавіну хаты.

— Што такое? — адкінуў ён газеты, падхапіўся, сеў, правёў рукою па ўзмакрэлым ілбе— Што здарылася?

— Нічога не здарылася. Прыйшла на абед, а ты зноў спіш. Хіба можна так? Ад такога ляжання і здаровы захварэе. Ці паміраць сабраўся?.. Нічога яму ўжо і не трэба.

І сапраўды, у яго такі настрой, што нічога не трэба. Нішто не цікавіць. Раней, калі думаў пра пенсію, ён зусім пра іншае жыццё марыў. Ён, можа, і жыў бы зусім інакш, каб пайшоў на пенсію, як усе. А то звалілася гэтая пенсія як снег на галаву. Зусім нечакана. І не ў час.

У тую раніцу ён адчуваў сябе даволі бадзёра. Сабраўся на працу. Пагаліўся. Навёў глянец суконкаю на храмавіках. Хоць і гарачавата было ў іх, але на чаравікі не пераходзіў, не любіў, бо пыліліся ногі. Хацеў снедаць садзіцца, ды жонка папрасіла, каб касануў у садзе свінням трохі травы. Ён выйшаў у сад, узяў касу, што вісела на яблыні, касануў раз, другі, прыціскаючы пятку ледзь не да зямлі,— трава яшчэ добра не адрасла,— і раптам як хто з сярэдзіны, з грудзей, штурхануў яго ў левае плячо. Яно аж анямела, нібы сутарга яго схапіла. Затым востры боль ударыў у локаць. У Андрэя хапіла сілы павесіць касу на яблыню, але вярнуцца ў хату не змог. Займала дыханне, ногі падламваліся ў каленях. Ён прысеў на лавачку пад яблыняй...

Калі ўрач выпісваў яго з бальніцы, сказаў, што пакуль усё абышлося, але сэрца варта паберагчы, вельмі зношанае яно. Пра вяртанне на працу нечага і думаць.

Усё жыццё Андрэй баяўся за асколак, што сядзеў ля хрыбетніка, а вось на пенсію давялося пайсці з-за сэрца.

— Ты пошту глядзеў? — пацікавілася Марфа, усё стоячы ў дзвярах.

— Глядзеў. Маўчаць.

— Можа, не напісаў ім?

— Напісаў. Як толькі з бальніцы прыехаў, так і напісаў.

— Ну то прыедуць. Бо калі б не думалі прыязджаць, то напісалі б.

— Доўга нешта збіраюцца,— і паглядзеў на Марфу так, нібы і яна была вінаватая ў тым, што сыны не едуць да бацькі ў адведкі.

— Што ж ты хочаш, занятыя людзі,— як мага спакойна сказала Марфа.— У мінчан якраз экзамены ў студэнтаў, а ў Толіка квартал канчаецца, недзе днюе і начуе на заводзе.

— Апраўдвай, апраўдвай,— уздыхнуў Андрэй.— Ты заўсёды іх апраўдваеш. Ты заўсёды на іх баку была. Вось і параслі. Забылі бацьку.

— Месяц які не пабылі, дык ужо і забылі,— здаецца, Марфа пакрыўдзілася за сыноў.— Абы-што языком малоць...

— Зноў у поле пабяжыш? — перамяніў гаворку Андрэй.

— Не. За дарогай сена зграблі, а ля возера яшчэ не высахла. Буду дома. На бульбе каларадскіх жукоў трэба пазбіраць, а то багата навылазіла. Можа, пойдзеш са мной? Паабедаем і пойдзем. А? — яна пачакала крыху і, не дачакаўшыся адказу, выйшла.

Андрэй бы хацеў пайсці з жонкай збіраць тых жукоў. Праца не вельмі, намагацца асабліва не трэба. Але зараз яму нікольві не хацелася абедаць, а потым і стомленасць, якая раптам з'явілася ў двары, калі ўзяўся абсякаць галлё, яшчэ не прайшла. Яшчэ трошкі паляжу, вырашыў Андрэй, а потым, можа, і пайду да жонкі. Там і сонца спадзе, не так горача будзе. Зноў заплюшчыў вочы...

Андрэй спачатку падумаў, што гэта яму сніцца. Толік размаўляў з маці. Напружвае слых, але не настолькі, каб прачнуцца, бо тады не даведаецца, пра што яны там гавораць. А яны ж, здаецца, гавораць пра яго.

— Раней дык толькі і марыў пра пенсію,— чуўся крыху прыглушаны голас Марфы.— Маўляў, пайду на пенсію, дык хоць пажыву. А пайшоў і зусім ахляў. Я ўжо і лаяла яго за гэта, і ўгаворвала, нічога не памагае. Ці яго хвароба налякала, ці і праўда ніякі. Што баліць, пытаюся, не баліць. А як душу з яго вынялі. Не чалавек, а цень толькі. Ці настрой у яго такі, што ад вас ні гуку. Некалькі разоў у дзень гляне ў паштовую скрынку. А вы таксама добрыя. Прыслалі б хоць якую паштоўку.

— Нічога, мама,— чуецца вясёлы басок Толіка.— Мы яго растармусім.

«Папаўся б мне на вочы, я цябе растармусіў бы»,— Андрэю ўсё яшчэ ўяўлялася, што ён спіць.

Раптам дзверы з грукатам адчыніліся, і ўвесь дзвярны праём засланіў Толік, высокі, чубасты, у тэнісцы, якая аж лопаецца на яго шырокіх грудзях, загрымеў, тасуючы словы з рагаткам:

— Ты што гэта, стары, задумаў? Як ты можаш дрыхнуць, калі ў возеры карасі самі на кручок лезуць? Нават у чаргу стаяць,— ён падышоў да канапы, пацiснуў старому руку, нагнуўся, крануўся сваёй тугой, як футбольны мяч, шчакой бацькавай, мяккай, звялай. І калючай,— уся ў густым сівым шчэцці. Нечаканая пяшчота сына расчуліла старога.

— Нічога нецікава, сын,— паскардзіўся ён.

— І гэта не дзела, ляжаць, як Абломаў,— сын хуткім позіркам акінуў змарнелую постаць бацькі.— Пайшоў на возера, з вудай пасядзеў. Свежае паветра... А што? Можа, зараз і пойдзем. Сонца не пячэ. Я хлопцам у Мінск званіў, казалі, што прыедуць. Сёння ноччу або заўтра раніцай. Так што іх яшчэ і юшкай пачастуем.

— Прыедуць? — перапытаў Андрэй.

— Я ім ультыматум, калі не прыедуць, то будуць мець справу са мной. Сяргей перанёс экзамен студэнтаў на панядзелак, вось так. Так што, бацька, трэба ісці лавіць рыбу на юшку. Пайшлі! Хоць праветрымся. Хопіць табе ў гэтай хаце мух карміць.

— Пойдзем, абавязкова пойдзем,— абрадаваўся Андрэй.

— Вось і цудоўненька,— захадзіў па хаце Толік.— Ты тут збірайся. Ды пагаліся. Цяпер карась культурны пайшоў, няголеных не любіць. А я пайду чарвякоў накапаю,— і ён, зрабіўшы кругаля перад бацькам, імкліва выйшаў.

«Такі ж непаседа, як і матка»,— падумаў Андрэй, сеў на канапе. На яго крыху абрызглым твары блукала шчаслівая ўсмешка. Падняўся, спыніўся сярод пакоя, рашаючы, што зрабіць у першую чаргу. Памахаў рукамі, нібы правяраючы сябе. Усё было добра. Толькі сэрца забілася часцей, дык яно заўсёды так б'ецца ад нечаканай і светлай радасці.

Андрэй з нейкай нават залішняй паспешлівасцю зняў нацельную рубашку, дастаў электрабрытву, пачаў таропка, аж шчыпала, коўзаць ёй па твары. Пасля такога галення твар аж гарэў. Андрэй спаласнуў яго халоднай вадой,— добра, што якраз прынеслі свежанькай з калодзежа,— потым не стрымаўся, памыў рукі аж да плячэй, а

потым грудзі, шыю, брызнуў і на спіну. Увесь прыкметна ўзбадзёрыўся. Надзеў свежую белую кашулю. Абуў чаравікі,— ля возера пылу няма, а ў іх і лягчэй нагам будзе. Глянуў у люстэрка, што вісела над канапай, і сам сябе не пазнаў. Твар пасвятлеў, толькі вакол запалых вачэй цені нібы пацямнелі, яны, можа, толькі адны і напаміналі пра нядаўнюю хваробу. Ну і няхай напамінаюць. Галоўнае, што на душы лёгка, хоць у скокі кідайся. Даўно не адчуваў ён сябе такім бязважкім на рухі.

Напяваючы нешта вясёленькае сабе пад нос, выйшаў на ганак.

— Ну во! Хоць на чалавека стаў падобны,— пахваліла яго Марфа, якая якраз несла з хлява ў прыполе курыныя яйкі. І, ужо звяртаючыся да мужа і да сына, які паказаўся ў веснічках з іржавай бляшанкай для чарвей, папрасіла:

— Вы ж толькі доўга не барыцеся.

На лузе перад возерам толькі што скасілі траву. Яна, крыху прывялая, ляжала ў пакосах.

— Як пахне! — Андрэй спыніўся, смачна пацягнуў носам, прыжмурыўшы вочы, глянуў на сына, сарамліва ўсміхнуўся: — Столькі пражыў у вёсцы і ніколі не чуў, каб так пахла сена.

— Ты не стаміўся, тата? — пацікавіўся Толік, убачыўшы, што твар у бацькі прыкметна пабялеў.

— Ды не... У галаве крыху закружылася... ад свежага паветра,— і растлумачыў,— можа ж, паўмесяца з хаты не выходзіў.

Толік пайшоў цішэй.

Спыніліся на беразе возера на невялічкім узгорачку. Раней, вельмі даўно, нават не памятае і Андрэй, тут стаяла цагельня. Цяпер ад яе застаўся толькі невялічкі ўзгорачак, парослы лугавой травой і купкамі дробнага алешніку.

Толік адразу ж пачаў ладзіць вуды, а Андрэй прылёг на дол, раскінуўшы рукі, глядзеў у сіняе неба з рэдкімі калматымі аблачынкамі. Сонца хоць і ладна схілілася над лесам, яшчэ казытала твар ласкавым цяплом.

— Не ляжаў бы на сырой зямлі,— папрасіў бацьку Толік.

— Зямля цёплая, як чарэнь.

— Здаецца цёплай. Сырая. Ты пачакай,— ён прынёс з лугу ахапак травы, раскідаў яе.— Кладзіся на яе.

Андрэй перакаціўся на траву. Дыхаў часта і глыбока.

Духмянае, крамянае ад блізкай вады паветра было такое, што яго хацелася піць, піць усімі грудзямі, піць доўга, пакуль і галава не пойдзе кругам. «Дурны я, дурны, што марнаваўся ў хаце, трэба было за вуды і сюды...» І калі Толік, выцягнуўшы пару ладнаватых карасікаў, прынёс паказаць іх бацьку, прызнаўся:

— Так лёгка дыхаецца. Выспацца б тут, здаецца, уся б немач прайшла.

— А што? Гэта ідэя! — абрадаваўся Толік так, нібы толькі і чакаў гэтае просьбы ад бацькі.— Я зараз жа прынясу палатку. Увечары пасядзім ля кастра, пагамонім. А калі хлопцы прыедуць, таксама іх сюды. Геніяльная ідэя, бацька! — і папрасіў старога: — Каб часу не губляць, сачы за вудамі, а я пабег.

— Што з імі рабіць? — падняўся Андрэй.

— Як пабяжыць паплавок па вадзе, так і падымай, толькі не вельмі рэзка. Вялікі пападзецца, абарвецца.

Некалькі доўгіх вудзільняў нахіліліся над вадой, адбіваючыся ў ёй, як у люстры. Чырвоныя паплаўкі нерухома ляжалі на вадзе. Андрэй ніколі ў жыцці не лавіў вудамі рыбу. Не было калі, а галоўнае, лічыў гэта даволі нудным заняткам. Ну што тут цікавага? Стой ёлупнем і чакай, пакуль той рыбіне захочацца зачапіцца за твой кручок. Іншая справа, брэднем ці хоць бы таптухай.

Раптам адзін паплавок пайшоў убок, схаваўся ў вадзе. Тонкі канец вудзільна напята сагнуўся. Андрэй імкліва падняў яго. У паветры закалыхаўся залацісты карась, яшчэ большы за тых, што злавіў Толік. Андрэй кінуў карася на траву. Той затрапыхаўся, заскакаў, здавалася, вось-вось ускочыць у ваду. Андрэй схапіў яго за жабры і ад радасці закружыўся з ім, нібы танцуючы. Спахапіўшыся, агледзеўся, ці не ўбачыў яго хто. Навокал не было нікога. Начапіўшы новага чарвяка, зноў закінуў вуду. Цяпер стаяў напружана, не зводзячы вачэй з паплаўка. Хваляваўся. Кроў аж грукала ў вісках. Сэрца так тахкала, што, здавалася, яму не хапае месца ў грудзях.

Пакуль вярнуўся Толік, Андрэй выцягнуў яшчэ некалькі карасёў.

— Ты тут часу не губляў,— крыкнуў яму Толік, убачыўшы рыбу.

— Давай там юшку рабі,— загадаў яму Андрэй і тут жа падсек яшчэ аднаго карасіка.

Пачулася, як затрашчала сухое голле. Пацягнула гаркаватым дымком. Толік, закасаўшы штаны, зайшоў на

глыбейшае, зачэрпнуў вады на юшку. Пачуўся раптам голас Марфы:

— То ж трэба такое прыдумаць. Нібы ў іх хаты няма, што надумаліся начаваць у полі. Захацелася, каб людзі з іх смяяліся. Хай бы маладыя, а то адзін бацька, а другі дзед.

— Ты паглядзі, мама, колькі твой дзед рыбы налавіў,— засмяяўся Толік.— Захопіцца рыбалкай, ты яго і ў хаце не атрымаеш. На свежым паветры ажыве стары.

— Калі ўжо ляжаць, дык няхай хоць карасей лавіць,—прымірэнча сказала Марфа.— Але для гэтага не абавязкова тут начаваць.

— Нічога, адну ноч можна. Ды і не адзін ён будзе, я з ім.

З кустоўя на супрацьлеглым беразе пачаў выпаўзаць на ваду пісягамі туман. Вада пачарнела. Рыба не бралася. Андрэй дастаў вуды, падышоў да палаткі.

— Што гэта вы сабе надумалі? — цяпер Марфа наляцела на мужа.

Андрэй спыніўся ля вогнішча, глядзеў, як на белым разасланым абрусе Марфа расстаўляла міскі з варанай бульбай, піражкамі. Тут ужо ўзвышалася гладышка з сыраквашаю, у вядры ля кастра пачынала пеніцца юшка.

— Ну што ты, мам? — кінуўся Толік абараняць бацьку.— Мы ж на досвітку яшчэ нацягаем карасікаў, прыедуць хлопцы, і ім будзе прыемна адпачыць на возеры пасля сталічнай мітусні. Паглядзім хоць, як сонца ўзыходзіць. Я даўно не бачыў,— і спытаў у старога: — Ты бачыў калі-небудзь, як узыходзіць сонца? Маўчыш? Значыцца, не бачыў.

Андрэй паднёс бліжэй да кастра трохі травы, сеў на яе, разуў чаравікі, падставіў агню ногі ў падмочаных шкарпэтках.

— Можа, павячэраеце? — і ўпікнула мужчын: — Ці свежым паветрам жыць збіраецеся?

— Пачакаем юшку, мам,— сказаў Толік.

Калі ж ён пачаў разліваць юшку ў глыбокія алюмініевыя міскі, Андрэй пасунуўся бліжэй да настольніка. Нагнуўся, панюхаў варыва, пацмокаў губамі, потым запытальна глянуў на жонку, на сына:

— Хіба можна яе так, без нічога?

— Можна,— хуценька адказала Марфа і пачала сёрбаць, дзьмухаючы ў лыжку, гарачую юшку, а потым глянула дакорліва на мужа.— Табе ж нельга. Ды і няма.

— Ёсць,— нясмела прызнаўся Толік.— Але калі нельга?

— Яно-то ўрач забараніў,— не пярэчыў Андрэй.— Але за сустрэчу адну грамульку... Хоць дзеля прыліку.

— Хіба толькі дзеля прыліку,— і Марфа ўважліва прасачыла, колькі ліне ў бацькаву шклянку Толік. А потым узяла яе і большую частку пераліла ў сваю.

— Толькі пах пакінула мне,— засмяяўся Андрэй.

— Смачная юшка,— пахваліла Толіка Марфа.

— А ты не хацела, каб на прыродзе,— кінуў Толік.

— Проста дзіўна,— у роздуме пачаў Андрэй.— Вёска ж не горад. Тая ж прырода. І паветра. Але тут зусім не тое, што ў хаце. Нават у садзе.

— Луг і вада,— упэўнена засведчыў Толік.— Я быў і ў гарах, і ля мора. Вядома, прыгожа. Казачна! Шкада, што вам не давялося такога пабачыць. Але скажу, нідзе так лёгка не дыхаецца, як тут на лузе ля возера.

— Не ведаю, як дзе, але мне тут вельмі лёгка дыхаць,— пахваліўся Андрэй.— Пасля бальніцы мне яшчэ ніколі не было так добра... Усё, Марфа! Жыву тут! У палатцы! Буду лавіць рыбу, варыць юшку, а ты будзеш насіць сыраквашу... А можа, і ты са мной тут?

— Яшчэ што прыдумаў,— яна, відаць, ніколькі не верыла ў сур'ёзнасць мужа.— Ці ў мяне хаты няма?

— Хата ёсць хата. А тут — прырода!.. А потым я ніколі не думаў, што вудай так цікава лавіць. У нас жа з табой кожны дзень юшка будзе.

— Можа, яшчэ тут і вяндлярню пабудуеш,— засмяяўся прыкметна ахмялелы Толік, а потым сур'ёзна дадаў: — Канечне, пажыць тут добра. Але аднаму не варта... Урэшце, можна і дома выспацца, а потым на ўвесь дзень сюды.

— Не, пажыву,— стаяў на сваім Андрэй.— Я тут за тыдзень другім чалавекам стану. Упэўнен. Я колькі тут пабыў і то... А калі тыдзень? Я не для таго пайшоў на пенсію, каб хварэць. Мы яшчэ пажывём з табой, Марфа! Паравое ацяпленне ў хаце паставім. Лазню збудуем. Пчол завядзём. Ля пчол жыць — гэта таксама для здароўя ого як! Я неяк патрапіў на калгасную пасеку, прылёг адпачыць і заснуў. Ціха, пчолкі гудуць. Прачнуўся, як дзесяць год з плячэй скінуў.

— Канешне,— засмяялася і Марфа.— Каб толькі хто тых пчол глядзеў, а ты б хадзіў на пасеку спаць.

— Думаеш, не змагу? — пакрыўдзіўся Андрэй.— Не бог ведае якая мудрасць.

— Гэта ж заўсёды пасля чаркі любіць так выхваляцца,— сказала Марфа сыну.

— Якой чаркі? — паківаў галавой Андрэй.

— Хіба я цябе не ведаю,— гаварыла далей не без насмешкі Марфа.— Усё жыццё не любіў гаспадарыць, а раптам пачнеш. Ніколі не паверу. Рыбу яшчэ будзеш лавіць, і то пакуль будзе брацца. А як перастане...

— А хто ж ловіць рыбу, калі яна не бярэцца? — умяшаўся Толік, убачыўшы, што ў насмешках над бацькам, здаецца, яны зайшлі далекавата. Стары насупіўся, зніякавеў.— Можа, мама, ты сапраўды пераначуеш тут?

— А хату на каго? І карову на досвітку даіць. Вы ўжо начуйце, калі так хочацца, а я пабягу. Раптам і хлопцы прыедуць, убачаць замок на дзвярах... Не, я пабягу,— яна паднялася.— Вы яшчэ вячэрайце, а я пайшла.

— Прыедуць хлопцы, скажы, каб сюды ішлі,— папрасіў яе Андрэй.

Марфа яшчэ крыху пастаяла, потым нетаропкім крокам пайшла, хутка спынілася, азірнулася, нібы хацела што сказаць Андрэю, і знікла з вачэй. Як растала.

— У цябе там не засталося? — спытаў Андрэй у сына.

— Можа, не трэба, тата?

— Трошкі плікні. Так добра, што аж хочацца выпіць,— і, убачыўшы, што Толік сапраўды лінуў зусім трошкі, папрасіў: — Не шкадуй, сын...

— Хлопцы ж прыедуць...

— Прыедуць, прывязуць. А не прывязуць, сельмаг недалёка. Ну, сын, хай табе добра жывецца,— і ён выпіў усё.— Як добра пайшла! Ніколі так не ішла.

Згас касцёр. Толькі свяцілася вуголле, пакрываючыся шызым попелам. Цемра ўсё схавала навокал. Неба трымала яшчэ водбліскі згаслага дня ды светлай празрыстасцю свяцілася вада, якая адбівала ў сабе неба.

Калі Андрэй залез у палатку, Толік ужо спаў. Чулася ціхае, як булькание раўчучка, пахрапванне. Падалося, што паветра ў палатцы занадта цёплае. Аж дыхаць стала цяжка. Андрэй лёг галавой да выхаду, адгарнуў крыло. Дыхаць стала лягчэй. Але тут абрынуліся на яго зусім нечаканыя гукі. Раней, калі лавіў рыбу і за вячэрай, відаць, заняты іншым, неяк не звяртаў увагі на іх. Цяпер толькі заставалася здзіўляцца, як ён не чуў раней гэтых гукаў? Усё возера аж стагнала. Нешта плакала, квакала, цвіркала, пішчала, прыглушана нашэптвала. Кожная

істота старалася перакрычаць адна другую. Крычалі не толькі лягушкі, цвірчэлі не толькі насякомыя, здавалася, і рыбы падавалі свае галасы. Андрэй ніколі не думаў, што столькі ўсяго жывога ў іхнім возеры. Яно заўсёды ўяўлялася яму нямым. А тут раптам такі аркестр. Але не гэтае шматгалоссе ўразіла яго, а ўразіла нечаканае адкрыццё, што ён ніколі раней нічога гэтага не чуў. А можа, і чуў, і чуў не адзін раз, але не звяртаў увагі. Вось і не запала ў памяць. Ды хіба толькі гэта? Толік спытаў, ці бачыў ён узыход сонца. Смешна нават падумаць, каб чалавек, які ўсё жыццё пражыў у вёсцы, не бачыў, як узыходзіць сонца. Пачаў успамінаць, калі і дзе бачыў той узыход. І не ўспомніў. А можа, і не бачыў? Ды каб толькі ўзыход сонца празяваў. Празяваў нешта значна большае. Само жыццё сваё празяваў. Часам яму здаецца, што ён наогул не сваё жыццё пражыў, ва ўсялякім разе пражыў яго не так, як хацелася, як павінен быў пражыць. Ён часта думаў пра гэта, думаў у бальніцы. І потым дома, калі так нечакана аказаўся на пенсіі, і асабліва востра зразумеў гэта сёння, тут ля возера. Калі глядзець праўдзе ў вочы, то трэба пагадзіцца, ні сын, ні жонка проста не ўспрынялі яго ўсур'ёз, калі ён гаварыў пра свае пенсіянерскія планы. А ён жа гаварыў шчыра. Аж цяпер у вушах гучыць іранічнае сынава: «Можа, яшчэ тут і вяндлярню пабудуеш». І як жорсткі прысуд, жончыны словы: «Усё жыццё не любіў гаспадарыць, а раптам пачнеш. Ніколі не паверу».

І не чуе ўжо Андрэй балотнага аркестра. Думкі ў галаве аж гудуць. І ён нервуецца, што не адказаў як трэба ні жонцы, ні сыну, а праглынуў іх кпіны... «Не бачыў узыходу...», «Не займаўся гаспадаркай...» Нібы не ведаюць, што ў яго і часу не было на гэта. Нібы забылася маладзіца, што рабілі пасля вайны ў калгасе за «палачкі». На працадні нічога не давалі. А сыноў трэба было падымаць, выводзіць у людзі. Яго прасілі стаць брыгадзірам, быць гаспадаром. Рабіць толькі за тыя «палачкі»? Не пагадзіўся. А каб пайшоў тады брыгадзірам, даўно б быў старшынёй калгаса. Цяпер старшыня — галоўны чалавек. На старшынях уся сельская гаспадарка трымаецца. Дык гэта цяпер, а тады? Хто тады ведаў, што ўсё так павернецца? Вось і пайшоў у сельсавет. Зарплаце штомесячнай абрадаваўся. Жывыя ж грошы. Ды і не толькі грошы. Марыў пра большае. Спадзяваўся, заўважаць, павысяць на службе, возьмуць у раён, а можа, нават у вобласць. Вось

і стараўся. Збіраў падаткі, выкалачваў пазыкі. І неўзаметку аддаляўся ад вёскі. Нібы мяжой аддзяліўся ад яе. Часовым чалавекам стаў у вёсцы. Смешна,— вясковы чалавек і часовы ў вёсцы. Вось і сумна яму цяпер на сваім падворку. А можа, і праўду сказала Марфа? Які з яго гаспадар? Што тут таіцца, яго ж нішто не цікавіць у той гаспадарцы. Адвыкаў, адвыкаў ад яе і адвык. І сыноў адвучыў. Бо не толькі сам марыў збегчы з вёскі, забіваў вёску ў сабе, але і дзяцей адвучваў ад вёскі, баяўся, каб раптам не засталіся тут. І сам марыў за імі ў горад падацца. Марыў... А свайго такі не дабіўся. Ні ў горадзе, ні ў вёсцы. Тыя, што адразу паехалі ў гарады, даўно жывуць там сваім жыццём, а ён... Толькі дарэмна жыццё змардаваў. Не стаў гарадскім і вяскоўцам фактычна быць перастаў. Вось і не ўспрымае яго цяпер Марфа ўсур'ёз. Яна, відаць, разумее яго лепей, чым ён сам сябе... Не трэба ён гораду, не трэба і вёсцы. Казалі, што яго пасаду ў сельсавеце наогул збіраюцца скасаваць. Значыцца, яго пасада і раней не трэба была. Рабіў, стараўся, а яго стаpанні і не трэба былі нікому. І не заўважыў, як вылузнуўся з вёскі. А вёска цяпер у якія вышыні сiганула. Ён бачыць, ды і ўсе бачаць. Усе радуюцца, а ён і парадавацца не можа. Не яго гэта вёска, і ён не яе. Выходзіць, пражыў дарэмна? А вайна? Ды што вайна? Вайна для ўсіх была вайна. Сыноў у людзі вывеў. Але невядома яшчэ, ці будуць яны ўдзячны яму за гэта. Хай бы жылі тым жыццём, для якога нарадзіліся. А ён жа ўсё жыццё паклаў на тое, каб адарваць іх ад зямлі. Ды хіба толькі ён адзін? А можа б, яго сыны і многія такія, як яны, у вёсцы і больш шчаслівыя былі? Можа б, і вёска яшчэ лепшая была, каб яны не пакінулі яе? Хоць пра гэта ніхто ніколі не даведаецца...

А вось Носік, пастух Носік усіх сваіх сыноў у вёсцы пакінуў. У нядзелю як сабяруцца яны з жонкамі ў бацькаву хату, дык тая аж развальваецца ад песень. Вокны паадчыняюць і спяваюць. А ён, Андрэй, так ніколі са сваімі сынамі не спяваў. Можа, заўтра збяруцца тут ля возера, звараць юшку, будуць сядзець ля кастра і спяваць. І так будуць спяваць, каб не толькі ўся вёска чула, а ўсё наваколле. Каб усе ведалі, што Андрэй Кравец не застаўся адзін на зямлі. Не асірацеў. Не забылі пра яго сыны. Вось і Толік прыехаў, выцягнуў яго на возера. А старэйшы аж экзамен перанёс на панядзелак, каб толькі ў бацькі пабыць. Падумаць, дык добрыя ў яго сыны. А кажуць, што жыццё працягваецца ў дзецях. Значыцца, і ён неда-

рэмна пражыў на зямлі, пакіне і свой след на ёй. Чаго сам не дабіўся, сыны даб'юцца, яны і дабіліся ўжо...

Думкі паплылі спакойней і павольней. Цёплы туман засцілае галаву, ахутвае ўсяго. І можна было б заснуць, ды зусім недарэчы захацелася піць. Засмягла ўсё ў роце. Язык прысох, не паварушыць. Відаць, ад гарэлкі. Эх, дарэмна ён потым, калі пайшла Марфа, выпіў яшчэ. Вось і смага. Цяпер бы карчык вады халодненькай з калодзежа. То ж не стукнула нікому ў галаву прынесці сюды яе. Хоць, здаецца, сыракваша ў гладышцы засталася. Таксама добра, калі толькі не вельмі цёплая.

Андрэй вылез з палаткі, падняўся. У грудзях нібы кальнула. Прыслухаўся. Не, ніякага болю не было. Недалёка ад вогнішча знайшоў гладышку. Сыракваша падалалася нейкай горкай, нясмачнай. Ад яе яшчэ болей піць захацелася. Падняў вядро з юшкай, перакуліў. Па носе шлёпнула халоднай рыбінай. Юшкі ж не было. Ледзь не кінуў вядро вобземлю. А тут у грудзях запякло. Як хто вугалёк гарачы туды кінуў. Эх, каб хоць глыток калодзежнай вады.

Можа, папрасіць Толіка, каб збегаў у вёску, прынёс. Ды шкада. Смачна ж спіць хлопец. Ды і паніку яшчэ ўзніме, вырашыўшы, што бацьку блага. Выкліча ўрача. А той раптам у бальніцу завязе. І тады не будзе заўтра песень на беразе возера. А можа, схадзіць самому? Не ў вёску, хоць на ферму. Бліжэй. Але вада на ферме з труб нясмачная, рыжая і пахне жалезам. Калі ўжо ісці, дык толькі ў вёску, да калодзежа. Яно якраз, можа, і нядрэнна прагуляцца. Асабліва пасля такой вячэры. Можа, яму і не спіцца, што пераеў? А пройдзецца, тады і сон будзе мацнейшы.

Андрэй абуўся і скіраваў у вёску. Па росным лузе ісці было добра. Паветра пахла расой і сенам. Каб увесь час ісці па лузе, то змог бы багата прайсці. А ля вёскі на разбітай у пыл дарозе аж дыханне заняло. Пыл, які яшчэ вісеў у паветры пасля кароў, як цёплая вата, забіваў рот, лёгкія. Андрэй добра разумеў, што гэта не пыл. Пыл тут ні пры чым. Такое ў яго ўжо было неяк. І гэта не страшна. Вось толькі пад язык пакласці б маленькую белую таблетку, і адразу пыл знікне. Палез у кішэню, але там не было маленькай шкляной прабірачкі, у якой хаваліся тыя таблеткі. Забыўся дома. На радасцях, што сын прыехаў, што раптам палепшала, і пра лекі не падумаў...

Вярнуцца назад? Не, ён не зможа вярнуцца назад,

калі не глыне вады з калодзежа. Ды і да калодзежа засталася, можа, якая сотня метраў. Пайшоў марудней. З кожным крокам напружана прыслухоўваўся да сябе. Дыхаць стала лепей. Можа, яно і адпусціць? І ў грудзях не так пячэ. А можа, гэта наогул не ў грудзях? Можа, проста печая якая. Ад юшкі. Канешне, печая. У яго грудзях ніколі такога не было. Гэта аддае толькі туды...

Вось і калодзеж. Ён спыніўся, абапёрся рукой на вільготны зруб, нахіліўся над чорнай безданню, некалькі разоў глыбока і прагна ўздыхнуў. Потым злавіў рукой акаванае жалезам драўлянае вядро, шпурнуў яго ўніз. Яно кумельгам паляцела, як упала. Можа, таму, што ў ім было крыху вады. Нават яе хапіла б напіцца, але захацелася свежанькай, з глыбіні. Вось вядро чмякнулася ў ваду. Андрэй падштурхнуў вочап, каб яно зарылася глыбей. Пакуль вядро вылятала з вады, ён толькі рукою прытрымліваў вочап, які сам бег уверх. Калі ж вядро выскачыла з вады, вочап спыніўся. Зараз трэба было яго падымаць аберуч, а яшчэ лепей набрацца сілы і моцна штурхануць яго ўверх, ён і падыме вядро. Паспрабаваў штурхануць, не хапіла сілы. Пачаў перабіраць рукамі. Вядро не хацела падымацца. Можна пахітаць вочап, вада крыху расплешчыцца, тады вядро само падымецца. Некалі малым, калі сіл было мала, ён заўсёды так даставаў ваду з калодзежа. Праўда, каб набраць вады, даводзілася разы тры апускаць вядро ў калодзеж.

Ён напружыўся, паспрабаваў расхітаць вочап. Раптам моцна, як удар цяжкога каменя, штурханула нешта ў левае плячо, разлілося там пякучым болем, маланкаю ўдарыла ў локаць. Ногі падламіліся, і, каб не шлёпнуцца ў гразь ля калодзежа, Андрэй рукамі ўчапіўся за зруб, потым павіс на іх, прыцісну ўшыся шчакой да вільготнага халоднага дрэва.

Вядро завісла ў калодзежы недзе пасярэдзіне. З яго ў чорную бездань буйнымі кроплямі падала вада і там са звонам разбівалася.

Але Андрэй ужо не чуў таго звону...

## ГОНАР

Расставіўшы адна ля адпае гладышкі, Ніна па чарзе цадзіла ў іх малако. Даёнка, цынкавае вядзерца, была ледзь не поўная, цяжкая, аж рукі млелі. А малако, запе-

ненае і густое, марудна сцякала праз марлевую цадзілку. Ніна сачыла, каб малако не палілося праз верх, і ў той жа час раз-пораз паглядвала праз акно ў двор. Якраз перад акном ля хлява стаяла карова і ела мешанку. Карова была спраўная. Чорная поўсць на ёй аж бліпчала. Гэта ж добра, што яна, Ніна, калі яшчэ Шурык рабіў загадчыкам фермы, настояла, каб ён абмяняў на лепшую, маладзейшую, сваю старую карову, якая была больш падобна на спартыўнага скакуна, чым на дойную рагулю. Праўда, і тая, спартыўная, давала багата малака, але яно было пустое, аж сіняе,— з двухлітровай гладышкі смятаны не сабярэш на адзін раз боршч забяліць. А ў гэтай жа малако дык малако. Аж цадзілка забіваецца. А скіснецца, аднае смятаны ледзь не трэць гладышкі. Масла саб'еш, дык яно, як курыны жаўток, і такое духмянае, што паставіш налісьнікі з ім у печ млець, дык водар па ўсёй хаце.

Не паспела Ніна нацадзіць і пару гладышак, як пачула, што грукнулі веснічкі, а потым убачыла, што карова раптам падскочыла на месцы, як укусіла яе нешта нечакана і моцна, і кінулася ў хлеў.

Значыцца, Шурык зноў валачэцца дамоў п'яны. Карова так баіцца яго п'янага, што ўцякае адразу ж, толькі ён грукне веснічкамі.

Чуе гаспадара здалёк.

Шурык лічыць, што з-за яе, каровы, прагналі яго з загадчыка фермы, хаця ўсе добра ведаюць, і ён сам ведае, што прагналі не з-за гэтага: у калгасе багата каму мянялі кароў, давалі лепшых, маладзейшых, а горшых, старых, забіралі на мяса. Прагналі яго з-за гарэлкі. Але, калі ён вяртаўся дамоў пад добрай «мухай» і бачыў карову, то кідаўся на яе з тым, што толькі трапляла пад рукі,— адзін раз — нават з сякерай.

Што толькі Ніна не рабіла, каб Шурык перастаў піць. І лаялася, і гразілася кінуць яго. Калі ў іх не было агульнага дзіцяці, яе пагрозы яшчэ дзейнічалі на яго. Але пасля таго як у іх нарадзілася дачушка — такая прыгожанькая весялушка ўдалася,— ён не вельмі стаў прыслухоўвацца да яе пагроз. Відаць, лічыў, што цяпер яна нікуды ад яго не пабяжыць, прывязана навечна.

Ніна яму неяк і матацыкл купіла, думала, за рулём не стане піць. З тыдзень паездзіў цвярозым, а потым зноў пачаў, як і заўсёды. А пасля таго як позна ўвечары задавіў качак Носікавай нявесткі, якія якраз па дарозе лена валюхаліся з копанкі дамоў, ён наогул прадаў свайго

стальнога каня. Каб яшчэ пакамечыў чыіх іншых качак, яно, можа б, і абышлося. А Носікава нявестка была вельмі скупая баба. Яна за лета двойчы скубла жывых качак і гусей. Паскубе, а потым голых і гоніць у копанку. Абрастуць птушкі пер'ем, яна зноў іх скубе. І вось тая скупярдзяіха падняла такі скандал з-за сваіх аблезлых качак і такую заламала плату за раздаўленых, што нават Шурык, які звычайна не вельмі зважаў на звягі, не вытрываў, так разышоўся, што, абураны, у той жа дзень адагнаў матацыкл калгаснаму ветэрынару Міцьку Кульбіку, які не раз упрошваў Шурыка ўступіць яму свайго «летуна». Між іншым, у той гісторыі ён не лічыў сябе вінаватым. «Каб не гэты жалезны д'ябал,— крычаў ён,— хіба я стаў бы давіць тых качак?! На іх глядзець гідка, не тое што давіць».

Шурык так хутка мільгануў перад акном, што Ніна не паспела і разгледзець яго. І чаго ён так спяшаецца? Вось грукнулі дзверы ў сенцах, потым шырока расчыніліся, аж ударыліся аб сцяну хаты. Шурык, у доўгай целагрэйцы, убачыўшы Ніну з даёнкай, спыніўся ў парозе, нібы ўражаны якой раптоўнай нечаканасцю. Ён быў такі дробны, змарнелы, што, здавалася, цудам трымаліся на ім вузенькія штонікі з пукатымі зялёнымі каленямі — аднойчы папоўзаў па роснай траве.

— Што яшчэ задумала, зар-р-раза? — ён хістаўся на кароткіх крываватых нагах, і здавалася, каб не ўпіраўся рукамі ў вушакі, то і не ўстояў бы. На схуднелым і даўно не голеным твары выдзяляўся доўгі, з чырвонай, як абмарожанай, дзюбкай нос, і неяк хваравіта блішчалі вочы.

— Ты што, Шурачка? — Ніна даўно навучылася гаварыць з ім, вось такім. Не лаялася, не даводзіла свайго, а адразу ж пагаджалася з усім, што ён гаварыў.— Вось малачко працаджу, накармлю дзетак і спаць...

— Сабралася ўцякаць, зар-р-раза? — Шурык з адчаем і злосцю плюнуў цераз плячо некуды ў сенцы.— Ведаю, для чаго газ праводзіла, зар-р-раза!

— Дурненькі ты мой, што табе спакою не дае той газ? Ну правяла. Ну і што? Праводзілі па той вуліцы, вось і правяла. Каб праводзілі па гэтай, таксама правяла б. А што? Хіба ён каму замінае? Во дзеці падрастуць, можа, хто застанецца тут, не трэба будзе турбавацца. І калі прадаць, дык за хату з газам дадуць болей.

— Наскрозь бачу, зар-р-раза! — ледзь варочаў языком Шурык.

— Ну, а калі, Шурачка, бачыш наскрозь,— з цярплі-

вай ласкавасцю працягвала Ніна,— тады павінен бачыць, што я нічога не задумала супроць цябе. Табе проста нехта напляткарыў, а ты раззлаваўся, дурненькі ты мой. Можа, сырадойчыку вып'еш?

— Не пушчу! Паняла? — крыкнуў ён, але ўжо без ранейшай раздражненасці.

— Канешне, не пусціш. Я ж ведаю, што ад цябе нікуды не ўцячэш, таму і не думаю ўцякаць. Ты, Шурачка, натаміўся за дзень, ледзь на нагах стаіш. Напіся сырадойчыку і ідзі адпачываць.

— Сырадойчыку? Ад гэтай заразы? — зноў ускіпеў ён.— Каб вочы мае болей не бачылі яе ў маім двары. Я з-за гэтай заразы страціў усё. Усё! Разумееш? А ты сырадойчыку... Заўтра ж яе на мяса!

— Ну добра, Шурачка, заўтра і таго, а цяпер ідзі адпачні,— Ніна ўзяла яго пад руку, але ён адштурхнуў яе і, хістаючыся, пайшоў у светлую палавіну хаты. Там сеў на канапу, разуўся...— Паляжы трошкі, пакуль прыпораюся,— падала яму падушку, падбіла крыху, каб мякчэйшай была.

— Ты ў мяне чалавек, скажу табе.— Шурык лёг, яшчэ нешта прамармытаў, неразборліва ўжо, і заснуў.

Ніна накрыла яго посцілкай — яна ніколі не пускала п'янага мужа ў ложак, у чыстую пасцель,— потым зазірнула ў бакавушку, дзе за столікам сядзелі прыціхлыя яе сын і дачка, вучылі ўрокі. Сын быў падобны на бацьку, Пятра Чыха, такі ж чубаты, мускулісты ў руках, а дачка была драбнейшая, кволенькая — змалку хварэла,— але вучылася выдатна.

— Пайшлі, дзеткі, вячэраць,— яна рукой патрапала ўпарты чуб сына, уздыхнула: — Пайшлі, потым давучыце...

На другі дзень Шурык прачнуўся на досвітку. Убачыў сябе на канапе ў тэнісцы і штанах, зразумеў, што ўчора зноў перабраў. Ён напружваўся, каб успомніць, дзе і з кім піў, але нічога не мог успомніць. Памятаў, як, вяртаючыся з комплексу — там капалі канавы для электракабелю,— заглянуў у сельмаг. Там было багата мужчын. Памятаў, як усе даказвалі яму, каб не сядзеў у сваёй хаце, а пераходзіў у жончыну, бо там газ, не трэба дровы... Багата гаварылі пра гэта і смяяліся, што ён хутка стане прымаком. Дык гэта ж тады, калі быў цвярозым. А што гаварылі потым і дзе напіўся, у сельмагу ці, можа, яшчэ да каго заходзіў, ён ужо не памятаў.

У роце так засмягла, што языком не паварушыць. Галава была цяжкая, балела.

Шурык падняўся, пацёр скроні, не абуваючыся, выйшаў на кухню. Ніна ў белым пярэдніку, у квяцістай хусцінцы, павязанай вузлом на патыліцы, поралася ля печы. Ён любіў, калі жонка вось так павязвала хусцінку. Тады адкрываліся яе доўгая белая шыя, маленькія вушы, яна выдавала маладзейшай, нават страйнейшай. Шурык спыніўся ў дзвярах і моўчкі любаваўся жонкай. Сачыў, як яна хутка знімала з патэльні падрумяненыя аладкі, кідала іх на стол — там на чыстым абрусе іх ляжала ўжо цэлая горка,— а потым хутка налівала лыжкаю цеста на патэльню.

У печы весела гарэлі дровы, кідаючы ружовыя водбліскі на белы пярэднік жонкі, на белую фіранку, якой было захінута акно.

Шурык падышоў да кухоннага століка, пазіркаў па гладышках, у адной угледзеў сыраквашу. Выпіў набгом ледзь не ўсю. Усярэдзіне палегчала, як адмякла. Сеў на табурэтку, моўчкі, з нейкай вінаватасцю паглядваў на жонку. А тая рабіла сваё, нібы яго і не бачыла.

— Ну, што маўчыш? — не вытрываў Шурык: для яго заўсёды было самым пакутлівым, калі яна вось так ігнаравала яго.

— А ты лепей успомні, што ўчора гаварыў,— сказала Ніна спакойна, без усялякай крыўды. Але Шурык ведаў, што тады, калі яна найболей крыўдуе на яго, яна і бывае такая спакойная.

— Нагаварылі мне ўсялякага,— уздыхнуў Шурык.

— Меней па завуголлі б плёткі збіраў,— яна зняла гатовыя аладкі, кінула на патэльню цеста палонікам.

— Мне сказалі, што ты хочаш у сваю хату збегчы,— павесялеў Шурык.

— Можа, і збягу, але з табой разам,— прымусіла ўсміхнуцца сябе Ніна.

Ніна сапраўды не адзін раз думала, каб перабрацца ў сваю хату. Без яго. Але шкадавала дачушку: навошта ж сіраціць яе пры жывым бацьку? Ды і гонар стрымліваў: не хацелася, каб яе папракалі, асабліва свае: маўляў, у свой час папярэджвалі. Не паслухалася, вось і атрымала. Цяпер жа, калі яна правяла ў сваю хату газ, была даволі важкая прычына пераехаць. Ніна бачыла, што Шурык баіцца страціць яе, і была ўпэўнена, што ён пойдзе з ёю. А ў сваёй хаце яна возьме яго ў рукі. Будзе як шаўковенькі.

Карацей, яна хацела перайсці разам з Шурыкам яшчэ і таму, каб даказаць усім родзічам, што яна ніколькі не памылілася, выйшаўшы за яго замуж, а, наадварот, яшчэ ўратавала ад гібелі чалавека, працавітага, памяркоўнага, шчырага — а такім сапраўды быў Шурык, калі не піў,— і ўладкавала сваё жыццё.

Яна ўважліва глянула на мужа, думаючы, гаварыць яму зараз пра пераезд ці не. І вырашыла пачакаць, паглядзець, як ён будзе паводзіць сябе далей. Хутчэй за ўсё сёння ён будзе старацца загладзіць перад ёю сваю ўчарашнюю віну. І, бясспрэчна, выпадзе такі момант, калі можна будзе сказаць Шурыку пра свой намер. І ён не будзе супраць.

Пасля снедання Шурык, прыкметна павесялелы, пайшоў на працу. Яму загадалі вазіць бульбу ад капцоў на ферму. А ў канцы дня ён прыбег да Ніны, каб ісці разам дамоў. Часам ён заходзіў па яе, каб не ісці аднаму, бо ў аднаго яго не хапала сілы абмінуць сельмаг. Сёння ж, бачыла яна, Шурык зайшоў не толькі таму, каб не напіцца, а хацеў абрадаваць яе сваёй пакорлівасцю. Яна адразу ўлавіла яго настрой і, калі выйшлі з фермы, узяўшы пад руку, сказала:

— Заглянем, Шурачка, у маю хату. Паглядзім, як яно там грэе.

І, можа, таму, што на вуліцы стаяла восень і было зябка ад ветру, у хаце падалося асабліва ўтульна і цёпла. Падлогі ззялі свежаю фарбаю. На вокнах віселі беласнежныя фіранкі. Стол на кухні быў накрыты новаю — не паспеў і пах выветрыцца — цыратаю.

— Цёпленька як,— спынілася Ніна сярод хаты.— А памацай-ка батарэі,— і сама першай кранула рукой батарэю пад акном, што выходзіла ў сад.— А можна зрабіць, што яны яшчэ гарачэйшыя будуць. І не трэба ні дровы насіць, ні попел выграбаць. Чысценька,— яна села на канапу, што стаяла ў залі.— Ну як, падабаецца? Ці не?

— Хіба я што кажу? — пагадзіўся ён, сеўшы побач з жонкаю.

— Можа, і перабяромся на зіму? — разглядаючы бліскучую падлогу, яна напружана чакала ад яго адказу.

Шурык маўчаў і толькі загадкава ўсміхаўся.

— Ну, чаго маўчыш?.. Калі да цябе правядуць газ, вернемся назад. А пакуль тут... І дачушцы цёпленька будзе поўзаць па падлозе. Памацай, якая...— і, каб пераканацца, што не зманіла, нагнулася, кранула далоняй пад-

логу.— Не верыш? Памацай! — узяла Шурыка за шыю, паспрабавала нагнуць, каб ён усё ж кранууся рукою падлогі.

Шурык зразумеў жонку па-свойму, абхапіў тонкімі, але цэпкімі рукамі, палез цалавацца.

— Ты што, ачумеў? — яна лоўка выкаўзнула з яго абдымкаў, з'ехаўшы з канапы на падлогу, адкацілася далей ад канапы, падхапілася, стала папраўляць хустку.— Пайшлі, дзеці чакаюць.

Калі яны ішлі дамоў, Ніна ўзяла мужа пад руку і, шчыльней прыціскаючыся да яго, нібы хаваючыся ад вострага пранізлівага ветру, спытала:

— Ну, што, Шурачка? Можа, заўтра возьмеш каня?

— Вазьму,— паабяцаў ён.

У той вечар ён нават радаваўся, што пераязджае ў жончыну хату. Ды і не толькі ён. Радавалася і Ніна, радаваліся і яе дзеці. Доўга не клаліся спаць, збіраліся. Вязалі ў вузлы адзежу, рэчы.

А раніцай Шурыка раптам ахапіў нейкі невыразны, неадольны сум.

Выйшаў ён на досвітку ў двор, спыніўся на ганку, глянуў на неба, якое, як і ўчора, было зацягнута нізкімі воблакамі, акінуў позіркам двор, абнесены высокім і шчыльным шчыкетнікам, дзе было ўсё сваё, роднае, з чым нялёгка расстацца, міжвольна ўздыхнуў.

Ля хлява, на ўсю даўжыню яго сцяны, пад застрэшкам, святлелі колатыя дровы — усе не ўмесціліся ў дрывотнік. Навазіў тых дроў Шурык, можа, на дзве зімы...

Потым выйшаў у сад. Там вельмі ж ужо сіратліва сталі яблыні, развесіўшы на сваіх галінках буйныя кроплі, як слёзы. Паўз плот кучараваліся яшчэ маладыя вішні, слівы. Усё тут ён пасадзіў сваімі рукамі, сам даглядаў, хацеў, каб дзецям было багата ўсялякай садавіны, каб яны не паглядвалі з зайздрасцю праз плот да суседа...

І няўжо ўсё гэта ён раптам пакіне?

Задумлівы вярнуўся ў хату Шурык.

Ніна, якая прыбегла ўжо з фермы — сёння яна пастаралася вярнуцца раней,— адразу ж паставіла на стол яечню на патэльні.

— Садзіся, Шурачка, снедай,— яна, радасна ўзбуджаная, амаль не заўважала яго настрою.

«Абрадавалася, што ў сваю хату пераязджае»,— пакрыўджана падумаў Шурык, але прамаўчаў. Ён толькі,

можа, даўжэй, чым звычайна, мыў рукі, а потым старанна выціраў іх канцом рушніка, што звісаў з комінка.

— Сядай, Шурачка, а то прастыне,— убачыўшы, што ён нейкі зажураны, спытала: — А можа, сыраквашкі хочаш? Ёсць у мяне адна гладышка не скіданая, са смятанкаю.

— Абыдуся,— буркнуў ён і, заўважыўшы, што на жончыным твары патухла ўсмешка, дадаў лагодней: — І сама ж садзіся, а то ўсё бегаеш, бегаеш...

— Я трохі перахапіла, калі дзеці снедалі,— яна бачыла, што ў Шурыка ніякага апетыту, думала, з-за таго, што не ўзяў прывычнае паўшклянкі, але ўсё ж не прапанавала выпіць.— Вось, Шурачка, пераедзем, а тады адзначым. А цяпер не трэба: работы багата.

— Абыдуся,— ён пакалупаў відэльцам яечню, трохі выпіў сыраквашы і вылез з-за стала.

— Ты ж пра каня не забудзь,— яшчэ раз нагадала Ніна, калі Шурык выходзіў з хаты.

Увосень, калі ў калгасе было меней пільнай работы, калгаснікі, сабраўшыся на ранішні нарад, звычайна доўга не разыходзіліся. Расчынялі шырока дзверы ў канюшні, каб святлей было, рассаджваліся на мяшках з аўсом, на сене, якое кучкаю ляжала пры ўваходзе адразу за сцяной, сядзелі, як на лаўцы, на перакуленай скрыні ад калёс. Тут нават асеннімі раніцамі не было холадна, бо з надыханага коньмі памяшкання цягнула цяплом, прапахлым конскім потам.

Шурык, які не вельмі спяшаўся ў гэтую раніцу на нарад, прыйшоў на канюшню, калі ўсе цяплейшыя месцы там былі захоплены і калгаснікі паспелі ўжо нагаварыцца. Можа, таму ўсе скіравалі сваю ўвагу на яго.

— Нешта заспаў ты сёння,— сказаў Павел Пыжык, які ляжаў высока на сене і адразу з вуліцы ў паўзмроку не быў відзён.— Ці, можа, па дарозе заглянуў да якой Веркі?

— Ды не, гэта ж ён пачуў, што сёння гной будуць вазіць, спецыяльна спазніўся, каб усіх коней пабралі,— засмяяўся Рыгор Носік, што сядзеў на перакуленай скрыні ў сваёй вылінялай світцы з башлыком, у якой звычайна пасвіў кароў у дажджлівыя і халодныя дні.

— Што вы напалі на чалавека? — падаў сіплаваты голас стары Мосей Куцця. Ён стаяў ледзь не на вуліцы ў раскрытых варотах, курыў.— Пабыў бы ты столькі загад-

чыкам фермы, як ён, тады пабачылі б, як хацелася б табе вазіць той гной. На ўсё жыццё нанюхаўся ён яго.

Шурык, якому было не прывыкаць да кепікаў у свой адрас, не звяртаў на іх увагі. Ён прыхінуўся спіною да шулы, пашукаў позіркам брыгадзіра і, убачыўшы Ігната, які ляжаў на мяшках з аўсом, супакоіўся: ёсць у каго папрасіць каня.

— А можа б, і сапраўды парабіў у кароўніку? — спытаў Ігнат, сустрэўшы яго позірк.— Будзе трактар з прычэпам і машына. Людзей не хапае.

— Я хацеў, Тарасавіч, каня прасіць,— сказаў ціха Шурык. Не хацелася яму пры ўсіх гаварыць пра свой клопат.

— Па дровы? — здзівіўся брыгадзір, бо ведаў, колькі дроў назапашана ў Шурыка.

— Ды не,— і, убачыўшы, што Ігнат чакае ад яго адказу, прызнаўся: — Пераязджаем з Нінаю...

— Хіба ты не ведаеш,— сказаў брыгадзіру Павел Пыжык сур'ёзна, нават без намёку на ўсмешку.— Яму ж абрыдла быць хазяінам, захацелася ў прымах пажыць. Кату жончынаму кланяцца захацелася.

— Ну і што? — не зразумела было, Мосей Куцця збіраўся абараняць яго ці далей насміхацца з яго.— У Нінкі ж газ. Батарэі гарачыя. Не пусціла жонка да сябе п'янага, ну і няхай. Лёг на падлозе ля батарэі і спі як чалавек.

— Па адной масніцы хадзіць будзеш,— засмяяўся Рыгор Носік.

— Па масніцы,— хмыкнуў Пыжык.— Яму вуліцы мала, а ты захацеў, каб па масніцы.

— А што? — разважаў з усёй старэчай сур'ёзнасцю Мосей Куцця.— Гэта ж раней, што мужык скажа, тое для бабы і закон. А цяпер яны хочуць камандаваць. І няхай камандуюць. Лепей не мяшаць: цішэй у хаце будзе.

— Добрым мужыком і сёння не пакамандуеш,— цягнуў сваё Павел Пыжык.

— Ды па мне няхай бы жончыну хату хоць пазалацілі, а я не пайшоў бы,— падаў голасляснік Міхась Шнурок. Ён падняўся, абцерушыў сена са штаноў, відаць, збіраўся ісці дамоў.— Калі ты ў сваёй, дык ты што хочаш, тое і робіш. А там сапраўды па адной масніцы прымусіць хадзіць. Адным словам, не хазяін.

— Калі ты мужчына, у любой хаце прыбярэш усё да

рук,— сказаў Міхась Канцавы, які, здавалася, да гэтага часу драмаў на сене.

— Канешне,— падхапіў яго словы Павел Пыжык.— Ты б навёў, бо ў цябе цапок, ёсць чым прыгразіць...

Было ўражанне, што ўсе даўно забыліся пра Шурыка, проста разважалі паміж сабой пра сучаснае становішча мужчыны ў сям'і. Але ўсё, што гаварылася, лічыў Шурык, гэта пра яго і для яго. Ён маўчаў, бо ведаў — тут нічога нікому не дакажаш, моўчкі стаяў, прыціснуўшыся да шулы, разгублены і прыніжаны, шкадуючы не толькі пра тое, што памянуў тут пра пераезд, а наогул, што пагадзіўся пераязджаць. І сапраўды, навошта яму пакідаць сваю хату? Падумаеш, газ. Колькі жылі без газу, можна і яшчэ пажыць. А потым жа будзе некалі той газ і ў яго хаце.

— Ну добра, таварышы,— сказаў раптам брыгадзір, звяртаючыся адразу да ўсіх.— Ясна, каму куды? Цяпер пайшлі, а то не ўгледзіш, як і дзень міне,— і, выходзячы з канюшні, сказаў Шурыку: — Запражэш Рыжага.

— Бач, яму і коніка лепшага,— хмыкнуў Павел Пыжык, які крочыў услед за брыгадзірам.— Канешне, брат за сястру заступіцца.

Усе разышліся, а Шурык усё стаяў ля шулы, як прыліп, не ведаючы, што рабіць. Самае лепшае было б пасля ўсіх гэтых кепікаў узяць Рыжага, запрэгчы і смела праехаць па ўсёй вёсцы. Хай бачаць, які рашучы і самастойны Шурык. Але ўся бяда была ў тым, што Шурыку самому цяпер не хацелася пераязджаць.

— Пайшлі, дам збрую,— сказаў яму Мосей Куцця, які апошні выходзіў з канюшні.

— Гляджу вось, нібы хмарыцца.— Шурык у разважлівай задумлівасці заклапочана паглядзеў на неба, на якім грувасціліся набраклыя нізкія хмары.— Раптам дождж...

— Можа, і не будзе,— узняў галаву і Мосей Куцця.— Не за гарамі жывеш, у любы момант падыдзеш, я ўвесь дзень тут,— і пакульгаў у сваю рымарню.

Шурык дайшоў да сярэдзіны двара, спыніўся, яшчэ раз глянуў на неба, азірнуўся на рымарню, на Мосея Куццю, які там корпаўся з замком, і ціха пабрыў дадому.

— Ну што, каня не далі? — устрывожылася Ніна, якая несла з пограба кошык з бульбаю, калі Шурык зайшоў у двор.

— Далі,— неахвотна адказаў ён.— Але падумаў, што, можа, дождж...

— Які дождж? — аж засмяялася Ніна.— Хмары расходзяцца. Глядзі, каб зусім не падмарозіла.

— Не будзе, дык прыганю,— буркнуў ён.

У хату зайшлі разам.

За сталом на табурэтцы стаяла іх дачка, босая, з пачырванелымі нагамі, лыжкай размазвала па талерцы манную кашу.

Пасярод пакоя ляжалі вузлы з пасцелямі і адзежаю.

— А я і школьнікам сваім сказала, каб вярталіся ўжо ў тую хату,— нібы апраўдвалася за сваю паспешлівасць Ніна.— Думала, паспеем да абеду... А што тут вазіць? А скаціну ўвечары перагналі б...

— Ну, дык я пайшоў, прыганю каня,— Шурык глянуў праз акно на вуліцу.— Неба сапраўды праясняецца.

І каб ён падаўся наканюшню па-за гародамі, карацейшаю дарогай, ён, вядома ж, прыгнаў бы каня. А ён скіраваў вуліцаю, падумаўшы, што раптам Мосей Куцця будзе ісці дамоў, дык ён яго і перастрэне. Ля сельмага ўбачыў Паўла Пыжыка і Рыгора Носіка. Яны былі з падводаю. Сабраліся нечага ў цэнтр калгаса ды і падвярнулі крыху пагрэцца.

— З выпадку першага марозіка, які вось-вось будзе,— засмяяўся Павел Пыжык.— Па радыё казалі.

Запрасілі і Шурыка. Пасля сельмага Шурык сеў да іх на падводу, каб пад'ехаць да завулка, ды і не заўважыў, як мінулі той завулак, а потым і вёску. Дарога была доўгай. Гаварылі багата, каня падганяць забываліся, адным словам, крыху замерзлі і зноў заехалі пагрэцца. На гэты раз у калгасную сталоўку. У Прудоўцы.

Дамоў Шурык вяртаўся прыцемкамі. Ён выспяткам адкінуў веснічкі, тыя з грукатам адляцелі, ляснуўшыся аб вароты. Зайшоўшы ў двор, кінуў позіркам па цёмных вокнах хаты.

— Хазяін галодны, а яны спяць, зар-р-разы! Зараз вы ў мяне паспіце! — ён пашарыў вачыма па двары, чым бы ўзброіцца. Заўважыўшы адчыненыя вароты ў хлеў, кінуўся туды.— І ты тут, зар-р-раза! Зараз я зраблю з цябе шніцаль, зар-р-раза! — кінуўся да калодкі, на якой калоў дровы і ў якой звычайна тырчала сякера. Але сякеры там не было. Ён схапіў нейкі цяжкі сук і шпурнуў ім у прыадчыненыя вароты, некуды ў глухую цемру.— Ану, выходзь, зар-р-раза, з майго хлява! Каб і духу тут твайго не было.

Але ў хляве было ціха. Нават куры, якія ў такіх вы-

падках з крыкам разляталіся са свайго седала, не падалі ні гуку.

Шурык зноў узяў з дроў сукаватую палку, але цяпер не стаў кідаць яе абы-куды, а намацаў за варотамі ўключальнік. Ярка ўспыхнула лямпачка, што вісела сярод хлява.

Каровы ў хляве не было.

— Маць-перамаць! — вылаяўся Шурык і з той жа палкаю ў руках скіраваў у хату.— Каровы дома няма, а яны спяць, зар-р-р-азы! Ім напляваць, што каровы няма, ім напляваць, што хазяіна няма... Гладкія! Зараз я вам пакажу, зар-р-р-азы!

Ён грукнуў у дзверы палкаю, потым выспяткам. Ніхто не спяшаўся адчыняць.

— Вы што, глухія, маць-перамаць? — раз'юшаны Шурык уварваўся ў хату.— Дзе вы тут, зар-р-разы? Я ў каго пытаюся?

Ніхто не адказаў яму. Ён уключыў святло, кінуўся ў спальню. Там нікога не было. Не было і ложкаў, якія некалі прывезла з сабою Ніна. Сіратліва стаяў толькі яго адзін ложак. На ім ляжала коўдра і пара падушак.

— Та-а-а-к,— дакорліва паківаў галавой Шурык у цёмнае акно.— Ну, пачакайце, зар-р-азы! — ён сеў на свой ложак, утаропіўся няцямным позіркам некуды сабе пад ногі, потым кульнуўся на падушку і заснуў.

Прачнуўся ён недзе апоўначы. Ці ад таго, што раптам вельмі захацелася піць, ці ад холаду, якога багата найшло ў хату праз адчыненыя насцеж дзверы. Хутчэй за ўсё, ад таго і другога.

Падняўся, выйшаў на кухню, прычыніў дзверы, потым пазіркаў на стале па тых гладышках, што пакінула яму Ніна. Усе гладышкі былі чыста вымытыя, парожнія. На табурэтцы стаяла вядро, на дне якога было крыху вады. Выпіў усю, але не напіўся.

Спаць не хацелася. Галава разламвалася. Прысеў да кухоннага століка, абшчарэпіў галаву рукамі, моцна сціснуў далонямі і расплакаўся. Расплакаўся безуцешна, наўзрыд. Плакаў доўга, да знямогі.

Раптам яму падалося, нібы хто сочыць за ім. Азірнуўся на акно. У чорных шыбах убачыў свой адбітак, перакрыўлены няроўным шклом. Падалося, што нейкая пачвара прыліпла да акна. Аж мароз спіну ахапіў. Калі ж Шурык варухнуўся, тая пачвара ў акне таксама варухнулася. Ён здагадаўся, што гэта быў яго адбітак. Але ўсё роў-

на страх не пакідаў яго. Яму было жудасна ў хаце, у якой вокны не былі закрыты фіранкамі. Шурык усё ж знайшоў у сабе сілы падняцца, выключыць святло. І хаця ў хаце было цёмна, але вокны ўжо наліваліся бляклым святлом — пачыналася ранне ці, можа, дзе з-за хмары выглянуў месячык.

Шурык прылёг на канапу, прыцісную́шыся да яе спінкі, каб цяплей было. Ляжаў з адкрытымі вачыма, нібы чакаў якога нападу на сябе.

Вось на вуліцы нехта бразнуў вядром, зарыпеў калодзежны журавель, хтосьці праехаў на веласіпедзе. Недзе гаўкнуў сабака. Ранішнія гукі адразу вярнулі Шурыка ў рэальны свет. Вакол ужо не было жахлівых таямніц, не было адчування адзіноты і пакінутасці, усё было будзённа і прывычна... Шурык супакоіўся і хутка заснуў. Праспаў, пакуль і зусім не развіднела.

У гэты дзень ён не пайшоў на ранішні нарад на калгасны двор. Не хацелася слухаць насмешлівыя кепікі, ды і нечага сорамна было людзей, нібы ён у чым быў вінаваты перад імі ўсімі.

Падняўшыся, першае, што ён зрабіў, дастаў фіранкі, старыя, парудзелыя, якія ён вешаў яшчэ да прыходу ў хату Ніны, захінуў імі вокны. Потым запаліў у печы, зварыў сабе соланкі, паснедаў бульбай з салам. Сала Ніна не ўзяла нікольні, і яго цэлая кайстра вісела ў каморы. А потым ён гаспадарыў у двары. Згроб у кучу трэскі, пераклаў дровы, падмёў. У садзе падгроб раскіданы бульбоўнік, сабраў зрыжэлыя цурубалкі сланечніку, счарнелы агурочнік. Усё гэта спаліў, а потым нанасіў гною пад яблыні, абкапаў іх. Прарабіў ледзь не да вечара. За работай неяк і мала пакутаваў. Нібы нічога і не здарылася. А можа, таму яшчэ не вельмі пакутаваў, што спадзяваўся: Ніна абавязкова вернецца, прыбяжыць да яго, каб пагаварыць. Не кінула ж яна яго зусім. Сама ж упрошвала пераехаць разам. А што яна не дачакалася яго, дык ён сам вінаваты. Пайшоў па каня, а апынуўся чортведама дзе. Канешне, лепш было б самому пайсці да яе, папрасіць прабачэння. Але ён ведаў, колькі будзе гаворкі, колькі будзе насмешак, калі даведаюцца пра гэта. Не, трэба дачакацца, пакуль яна прыбяжыць прасіць яго. Тады яго гонар не будзе заплямлены, і ён смела будзе глядзець людзям у вочы.

Ніна ўдзень не прыйшла. Але Шурык не страчваў надзеі. Канешне, ёй проста няма часу ўдзень. Вось вызваліцца ад гаспадаркі, дагледзіць дзяцей і абавязкова з'явіц-

ца. Але настаў і позні вечар, а яе не было. Шурык зразумеў, што яна не прыйдзе прасіць яго, а можа, не прыйдзе і наогул.

Яго ахапіла пачуццё адзіноты і пакінутасці яшчэ мацнейшае, чым мінулай ноччу.

Ён адчуваў, што не зможа застацца адзін у пустой хаце на ўсю ноч. Накінуўшы на плечы целагрэйку, выйшаў на вуліцу. На слупах зрэдку блішчалі электралямпачкі. На тым жа баку вуліцы, дзе не было слупоў, трымалася густая цемень. Толькі зрэдку яе прарэзвалі бляклыя слупы святла з акон.

Шурык пабрыў па зацемненым баку вуліцы, каб яго ніхто не ўбачыў.

Ён зараз жа пойдзе да жонкі і ўсё-ўсё раскажа ёй...

Ён раскажа ёй, як яшчэ школьнікам пакахаў яе, але ў яго не толькі не хапіла смеласці сказаць ёй пра свае пачуцці, але ён ні разу нават не адважыўся падысці да яе на перапынку, каб проста пагаварыць, як усе. На школьных вечарах ні разу не запрасіў яе на танец. Ён баяўся, каб яна не абсмяяла яго. І ніколі ён не любіў той гарэлкі, у рот жа яе не браў, пакуль Ніна не выйшла замуж за Пятра Чыха. Яму тады вельмі цяжка было аднаму, ён шукаў кампанію і знайшоў яе сярод аматараў выпіць. Ён ёй раскажа, як пачаў бегаць за мясцовай настаўніцай. І не таму, што пакахаў яе, а для таго, каб убачыла Ніна, што ён, Шурык, далёка не апошні чалавек у вёсцы, як некаторыя лічылі. Але настаўніца выйшла замуж у райцэнтр. Шурыка ахапіў яшчэ большы адчай. Потым ён усё ж ажаніўся з прыгожай дзяўчынай з суседняй вёскі. Але праз дзень прагнаў яе. Не змог жыць з ёю. А каб не думалі пра дзяўчыну блага, пусціў чутку, што яна сама ўцякла ад яго. Ды і як ён мог жыць з той дзяўчынай, калі з галавы не выходзіла Ніна?.. І колькі разоў пасля таго як Ніна перайшла жыць у яго хату, ён даваў сабе слова і блізка не заглядваць у бутэльку. Ён жа невінаваты, што ў яго не хапала вытрымкі. Але цяпер, калі яна толькі пусціць яго, ён і кроплі не возьме. Хутчэй руку адсячэ сабе, чым кранецца шклянкі. І будзе рабіць усё, што толькі скажа Ніна. І хай яго называюць як хочуць, яму на ўсё напляваць. Абы паверыла яна яму. І ў іх пачнецца новае жыццё, ім яшчэ пазайздросцяць усе...

Шурык верыў, што скажа ёй усё якраз так, як думае, што з гэтага вечара ён пачынае новае жыццё, разумнае і цвярозае. Ён усё зробіць, каб ніколі і нічым не засмуціць

самага дарагога на свеце для яго чалавека, яшчэ пра яго загаворыць не толькі ў брыгадзе, калгасе, а нават у сельсавеце!

Ён яшчэ пакажа сябе!

Рашучым крокам ішоў Шурык паўз двары, узрушаны ўласнымі думкамі, упэўнены ў сабе і ў сваёй будучыні, ішоў без усялякае перасцярогі, не баяўся, што яго хто сустрэне, спыніць. Цяпер яму ніхто не мог перашкодзіць.

У клубе гарэла святло. Яно шырокаю паласою падала на вуліцу праз насцеж адчыненыя дзверы.

— Шурык! — раптам яго паклікаў Міхась Канцавы, які з'явіўся перад ім нечакана, як вырас з-пад зямлі: стаяў у цяньку пад старой таполяй і таму спачатку не быў відаць.— А мы стаім і думаем, каго б паклікаць. Пайшлі!

— Куды? — спытаў Шурык.

— Не бойся, не аграбім,— выйшаў з ценю і Павел Пыжык, сказаў Міхасю: — А давай тут, куды хадзіць. Нас і тут ніхто не ўбачыць.

— Можна і тут,— і Міхась працягнуў Шурыку шклянку.

— Трымай, Шурык, а то нам на дваіх багата.

— Што вы, хлопцы? Я...

— Узяў ужо? Нічога, мы таксама ўзялі патроху,— наступаў Павел Пыжык.

— Ды не. Я іду да Ніны, пераходжу. Яна ж...— спрабаваў абараняцца Шурык.

— За перамену ў жыцці! Давай, давай... Смялей з ёй гаварыць будзеш,— не адступаў Пыжык.

— За новае жыццё яно і трэба,— хіхікнуў Міхась.— А то ў прымах не пап'еш вельмі.

— Я і сам не буду,— заявіў рашуча Шурык.

— Правільна,— падтрымаў яго Пыжык.— І не трэба. Але цяпер давай па кроплі за новае жыццё,— і сам, не чакаючы хлопцаў, выпіў адным глытком сваё, хрумснуў яблыкам, адкусіўшы ледзь не палову, а другую падаў Шурыку.— Загрызеш.

— Хіба трошкі,— завагаўся Шурык.— Так сказаць, за кампанію.— Ён зрабіў глыток, а потым падумаў ды і выпіў усё да канца.

— Ну вось і нармальна,— пахваліў яго Міхась Канцавы.— А то я ўжо думаў, што сапраўды не вып'еш,— і зноў лінуў у яго шклянку, а астатак у шклянку Пыжыка.

— Усім жа давай,— запратэставаў быў Шурык.

— Я ж на рабоце, можа,— адмовіўся Міхась.

— А я быў у райцэнтры, прыхапіў бутэльку, іду і думаю, з кім бы таго. Хацеў да цябе, Шурык, зайсці, ды бачу, у вокнах цёмна,— расказваў Пыжык.— Дома, ведаю, жонка не дасць, яна ў мяне наконт гэтага строгая. Бачу, у клубе святло. Паклікаў Міхася. Ты ж ведаеш, які з яго піток. Ну, Шурык, давай таго, не выліваць жа...

Міхась Канцавы счакаў, пакуль яны дапілі, узяў у іх шклянкі, развітаўся...

У вокнах хат ужо не гарэла святло. Было цёмна. Толькі пад слупамі, на якіх блішчалі электралямпачкі, трымцелі жоўтыя плямы. Хістаючыся, Шурык мясіў дарогу ад слупа да слупа. Часам спыняўся, разглядаў лямпачку, дажджавыя кроплі, якія на імгненне загараліся ў яе святле.

Ён ведаў, што яго такога Ніна нізашто не пусціць. Нават не стане размаўляць. Самае лепшае, каб яна наогул не бачыла яго такім. Але яму не хацелася ісці і дамоў, дзе было пуста і нема, як у магіле.

## КРЫЎДА

У лёгкім новенькім цёмна-сінім трыко,— спецыяльна купіў перад ад'ездам у вёску і ўпершыню надзеў толькі тут,— Ігар сядзеў на лавачцы ля матчынага двара, скрыжаваўшы доўгія худыя рукі на грудзях, крыху ўнурыўшыся, нібы яму было халаднавата, хаця дзень стаяў цёплы і сонечны.

Марфа, накінуўшы на плечы квяцістую гаруску, якую прывёз ёй у падарунак сын і ў якой папрасіў пасядзець побач з ім, з ледзь улоўнаю іранічнаю ўсмешкаю слухала, што расказваў загадчык мясцовага клуба Міхась Канцавы, які стаяў перад імі, нахіліўшыся крыху наперад, абапіраючыся абедзвюма рукамі на свой неразлучны адпаліраваны і пакрыты лакам кій.

— Я, Андрэевіч, хачу абагуліць вопыт нашага старшыні калгаса па развіццю грамадскай гаспадаркі ў мастацкім апавяданні. Каб усе гэтыя комплексы, сянажныя вежы былі як жывыя, каб іх убачылі ўсе, каб усе зразумелі філасофію сучаснага пейзажа. Мы на карцінах бачым стары пейзаж. Якая там асноўная мастацкая дэталь? Старая хата, а часцей усё ж царква. А царква сімвал чаго? Цемрашальства, народнай непісьменнасці. А цяпер? У неба ўзняліся сянажныя вежы. Зусім новы сэнс у гэтай дэталі. Ве-

жы — сімвал працы, сімвал творчасці. Усім ясна, што не бог цяпер гаспадар над чалавекам, яго духам, а праца, толькі стваральная праца. І тэлевізар. Над кожнай хатай антэна. Гэта значыць, што цяпер ужо людзі ў клуб на самадзейнасць не ходзяць, а перайшлі на культуру. Я і хачу зрабіць адпаведны пейзаж у апавяданні. І каб у ім ніводнай лічбы. А толькі мастацкія словы. А то, ведаеце, Андрэевіч, як возьмеш у рукі газету, асабліва нашу раёнку, адны прозвішчы і лічбы. Прозвішча трактарыста і лічба, прозвішча даяркі і лічба, прозвішча брыгадзіра і зноў лічба. А лічбы нават у нашых класікаў літаратуры ніколі не былі мастацкай дэталлю, вобразам.

— Вельмі дакладнае назіранне, Міхась,— пахваліў яго Ігар.

— Я і рэдактару раёнкі гаварыў пра гэта,— яшчэ больш выхваляўся сваёй смеласцю Міхась.— Неяк вясной сабралі ўсіх селькораў на нараду. Ну я і сказаў пра гэта. Бачу, слухае, але як глухі. Не чуе. Ясна, у мастацтве ні бум-бум. Я і сказаў яму прама з трыбуны, што ты не рэдактар, а рахункавод.

— А ён? — Ігару было цікава слухаць разважанні мясцовага літаратара.

— А што ён? Маўчыць, аж свеціцца ад радасці. Думае, што я хвалю яго,— засмяяўся Міхась. У яго былі доўгія, вузкія, пачарнелыя па краях зубы. І таму ад яго ўсмешкі твар неяк нечакана старэў, страчваў прываблівасць.— Усе сядзяць, рагочуць. Хлопцы ж разумныя сабраліся... А ён радуецца. Дурань. Дык чаго я хачу, Андрэевіч? У нас у раёне няма спецыяліста па мастацкім апавяданні. Калі я напішу, дык вы, можа, пакажыце свайму брату Сяргею. Ён жа ў вас спецыяліст па ўсіх літаратурных жанрах.

— Ён па прафесіі, лічы, крытык, не баішся? — і Ігар весела глянуў на маці, маўляў, цікава, што ён, Міхась, скажа зараз.

— Лепей паслухаць крытыку разумнага чалавека, чым пахвальбу якога дурня,— філасафічна сказаў Міхась.

Падышла Вольга. Яна выйшла з вёдрамі па ваду і, убачыўшы іх, пакінула вёдры ля калодзежа, скіравала да Марфінага двара. Яна была ў фартуху, тапачках, відаць, як поралася, так і выскачыла з хаты. Павіталася моўчкі кіўком галавы, пачакала, пакуль Міхась скончыць свае разважанні, а потым сказала Ігару:

— А я гляджу і думаю, хто ж гэта такі сядзіць? Толік сярод тыдня не прыязджае. Сяргей? Дык нешта ж худы

вельмі. А гэта Ігар. Даўно прыехаў? Сёння ноччу? І маткі, відаць, хустку такую красівенную прывёз?

— Накінуў на плечы і пасадзіў побач,— усміхнулася шчаслівая Марфа.

— Хай пасядзіць трохі,— сказаў Ігар.— А то потым схавае ў скрыню.

— А няма, мой сын, перад кім прыбірацца,— не пярэчыла Марфа.

— Ды яно так,— сказала Вольга.— Ну пасядзі хоць з сынам,— і спытала ў Ігара: — Ну як здароўе? Казалі, хварэў?..

— Нічога,— адказаў Ігар.

— Ну і слава богу,— і потым звярнулася разам да сястры і пляменніка: — Дык вы ж прыходзьце да мяне, павячэраем разам. А то Ігар і хату маю яшчэ не бачыў.

— Ой, Вольгачка, няма ж калі,— пачала аднекавацца Марфа.— Яшчэ ж не поралася...

— А што табе там рабіць?.. Павячэраць у мяне павячэраеце. Дык прыходзьце, буду чакаць...— Вольга дапытліва глянула на Ігара.— Сёння і Вадзім мой дома, можа, пагаворыш з ім. Нас жа ён нікога не слухае. Можа, цябе паслухае...

— А што ён надумаўся? — пацікавіўся Ігар.— Жаніцца збіраецца?

— Каб жа жаніцца... Няхай жэніцца,— і яна лёгкім узмахам рукі сцвердзіла сваю думку.— Некаторыя кажуць, што рана. А мне чым раней, дык яшчэ лепей. Чым брындаць абы-дзе ды гарэлку піць, лепей хай жэніцца. Я хацела, каб ты пагаварыў з ім пра другое. Даюць жа дурню на заводзе інтэрнат, а ён не хоча браць. Яго ж там прапісалі б, а потым паставілі б у чаргу на кватэру. Але яму, бачыце, нічога не трэба. Ні інтэрната, ні гарадской прапіскі, ні кватэры. Хай бы збіраўся рабіць у вёсцы, то нічога б, а то ж на заводзе хоча...

— Што ж ён за дзівак? — здавалася, Ігар не вельмі паверыў цётцы.

— Дурань, а не дзівак,— абуралася Вольга.— І даказвалі яму, і ўгаворвалі. І я гаварыла, і твая матка гаварыла, і Ігнат гаварыў, і Толік ваш гаварыў. А ён, як конь натурысты, упёрся, і ўсё. Слухаць нікога не хоча. Яно няхай бы жыў тут, каб той Гомель быў бліжэй. А то ж кожны дзень туды і назад. Ну няхай, пакуль малады, а як пастарэе? Здароўя ж не набярэшся на гэтыя паездкі.

— Я так разумею,— пачаў разважліва Ігар.— Яно можна жыць і ў вёсцы, калі табе так хочацца. Але навошта адмаўляцца ад інтэрната, ад прапіскі? Ад кватэры? Пойдуць дзеці, іх трэба вучыць. Там і школы бліжэй, і наогул узровень... Горад ёсць горад.

— Яму ўсе так і гаварылі,— працягвала скардзіцца Вольга.— Дык хоць кол яму на галаве чашы. А як я пачну гаварыць, дык кажа, гэта ты мяне хочаш выгнаць з хаты. А мне тая хата не трэба, для яго ж паставіла. Нікому ж не дастанецца, а яму. Разумець нічога не хоча.

— Я колькі разоў казала, каб не будавалася,— упікнула сястру Марфа.— Табе і старой хапіла б. А хіба няпраўда? Ён усё роўна жыць не будзе. Ажэніцца і паедзе ў горад, як усе паехалі.

— Ты думаеш, я хачу, каб ён заставаўся,— сказала Вольга так, нібы працягвала яшчэ нейкую ранейшую спрэчку.— Хіба не ведаю, дзе лепей. Дык прыстаў жа, кроў з носа, ■ будуй. У старую хату, кажа, жонку не павяду,— цяпер яна ўжо расказвала Ігару.— Ну і пайшла ў сельсавет прасіць цэглу. Я так падумала, не трэба будзе хата, можна і прадаць яе. А цяпер з той хаты ён нікуды не хоча ісці. Каб знаццё, што так будзе, ніколі б не будавалася. І што яму ў галаву стукнула? — і яна глядзела на Ігара так, нібы чакала ад яго адказу.

— Нічога не разумею,— Ігар падняўся, прайшоўся. У яго самлелі ногі ад сядзення на нізкай лавачцы.

— Рэтраград,— катэгарычна заявіў Міхась, які стаяў крыху ўбаку і, здавалася, не прыслухоўваўся да гаворкі. Убачыўшы, што на яго рэпліку ніхто не звярнуў увагі, растлумачыў: — Чалавек, які прэцца супроць часу.

— Неслух ён,— удакладніла Марфа.— Савы смаленай не бачыў. Расце гардзіёнцам. Слухаць нікога не хоча. Пачнеш гаварыць што, дык усміхнецца і адыдзе далей ад цябе. Распатварыўся. Яшчэ не паспеў зарабіць сабе на кусок хлеба, а ўжо матку не слухаецца. Волі багата, дзеўка, ты яму дала. Колькі я казала, не запабягай яго так, не запабягай, потым плакаць будзеш. Так яно і атрымалася. І гэта яшчэ не ўсё. Яшчэ ягадкі будуць...

— Хацелася ж, як лепей,— уздыхнула Вольга.— Без бацькі рос... І бацька быў з вывіхам, і сын... І адкуль яно? Бацькі ж свайго не ведаў.

— Гены,— шматзначна заўважыў Міхась, а потым глянуў на гадзіннік, выставіўшы перад сабой руку, нібы вочы ў яго былі дальназоркія, падышоў да Ігара развітац-

ца.— Пайду, перадачу хачу паглядзець. Дык вы дазволіце ўспомніць пра ваша абяцанне, калі напішу сваё мастацкае даследаванне, так сказаць, калгаснай сучаснасці. Каб вы паказалі яго свайму брату.

— Канешне, канешне,— моцна паціснуў яму руку Ігар.

І Міхась, задаволены вынікамі сваёй размовы, як цыркуль, расківаўшыся вакол свайго кійка, скіраваў праз вуліцу да свае хаты.

Ігар апошні раз гасцяваў у вёсцы некалькі год назад і ведаў Вольчынага сына яшчэ школьнікам. Ён быў тады ціхі сарамлівы хлопчык. З шырокімі, нейкімі даверліва наіўнымі вачыма, бялявы, лабасты. Калі ў яго пра што-небудзь распытвалі, апускаў нізка галаву, заліваўся чырванню. І памятае Ігар, ён любіў маляваць. Маляваў вёску, наваколле. Асабліва любіў маляваць старыя хаты з мудрагелістымі ліштвамі. На яго малюнках тыя ліштвы атрымоўваліся яшчэ болей мудрагелістыя, яшчэ болей расквечаныя. Вучыўся ён, праўда, сярэдне. І ніколі нікому, ва ўсялякім выпадку Ігару, не гаварыў, кім ён хоча быць у жыцці. Ігар думаў, што ў хлопца, відаць, ёсць вялікая мара, пра якую ён уголас і сказаць не асмеліцца, баіцца, каб не абсмяялі. Пра такое неяк расказваў яму Сяргей. Марыў стаць вучоным, але нікому так ні разу і не сказаў пра сваю мару. Бо аднакласнікі марылі стаць танкістамі, лётчыкамі, настаўнікамі, а ён, вясковы хлопец, раптам — вучоным.

— Дык прыйдзеце? — дапытвалася Вольга.

— Прыйдзем, прыйдзем,— паабяцаў Ігар, падышоў да ясеня, гарэзліва падскочыў, паспрабаваў рукою дастаць да лістоты, якую раскінула дрэва над гародчыкам, над часткаю двара і над вуліцай. Але не дастаў. Ці дрэва апошнім часам падрасло, ці сам пацяжэў, што не змог падскочыць так, як некалі ў юнацтве...— Пайшлі, мам, збірацца.

— Я ж чакаю,— і Вольга паспяшалася дамоў.

Марфа моўчкі паднялася і пайшла ўслед за сынам.

— Ты, можа, не хацела ісці? — спытаў у маці Ігар ужо ў двары.

— А ўсё роўна не ўгаворыш,— няпэўна адказала Марфа.— Толькі крываты нажывеш.

— Сходзім, калі паабяцалі...

Ігар не стаў пераадзявацца, накінуў на плечы пінжак, зняў тапачкі і абуў кеды, новенькія, шнуркі беленькія, не

заплямленыя рукамі,— таксама купіў перад ад'ездам, збіраўся некалькі дзён пашвэндацца па навакольных лясах.

Марфа ж у чым была, у тым і пайшла. Толькі гаруску сваю пакінула дома, маўляў, смяяцца будуць: такая цяплынь, а яна абкрылася хусткай.

Новая Вольчына хата сапраўды была вялікая. Стаяла на высокім падмурку, паглядваючы на вуліцу трыма вокнамі. Чацвёртае, квадратнае, з закругленым крыху верхам было ў франтоне, зробленым з вузкай вагонкі ў елачку.

У двары яшчэ валялася багата ўсялякай непатрэбшчыны, пакінутай будаўнікамі. Тут была і пабітая цэгла, драўляныя скрынкі, заляпаныя высахлым растворам, насілкі з абламанай ручкай, гнутыя бляшанкі з-пад фарбаў.

Ігар з маці падняліся па бетонных шурпатых прыступках на высокі ганак і, адчыніўшы цяжкія ўзорныя дзверы, адразу ж апынуліся ў прасторнай з адной зашклёнай сцяной верандзе. Тут стаяла газавая пліта, кухонны стол, у кутку — шэры цыліндрычны газавы воданагравальнік.

З веранды быў уваход адразу ў сталоўку. Там ужо стаяў абедзенны стол, а на ім — падрыхтаваная вячэра: хлеб, талеркі з салам, яйкамі. Са сталовай двое дзвярэй вялі ў пусты кутковы пакой і ў залу. Кутковы пакой выглядваў акном на вуліцу, быў яшчэ незастаўлены, у ім толькі што пафарбавалі падлогі. Атручаныя лакам мухі валяліся на падаконніку. Зала выходзіла вокнамі ў двор і сад. З залы яшчэ было двое дзвярэй — у невялічкія спальні. Адным словам, планіроўка была такая ж, як і ў новым доме Ігната, толькі пакоі былі крыху меншыя і вокны нібы вузейшыя.

На покуце, там, дзе звычайна ў вясковых хатах вісяць іконы, гудзеў каляровы тэлевізар. Перад ім у мяккім глыбокім крэсле, абабітым цёмна-зялёным аксамітам, сядзеў Вадзім. З-за спінкі толькі тырчаў вяршок яго бялявай галавы.

Вадзім падняўся, падаў Ігару сваю доўгую, яшчэ хлапечую руку з шырокай далоняй. Пальцы былі тонкія і цэпкія. Сам Вадзім быў высокі, танклявы ў таліі. На хударлявым твары ў тонкіх, зламаных ветліваю ўсмешкаю вуснах угадвалася нейкая загадкавая іранічнасць. Лоб яго пабольшаў, пашырэў. Ці з-за таго, што намеціліся па баках шырокія залысіны, ці з-за таго, што валасы былі гладка прычасаныя,— відаць, хлопец нядаўна вымыў іх.

— Ого! Які вымахаў! — не хаваў свайго захаплення Ігар.— І крэсла ў цябе нейкае мадэрновае. І дзе ты толькі

такое раздабыў? Можа, дзе на эксперыментальнай фабрыцы?

— Сам зрабіў,— адказаў Вадзім, апусціўшы голаў і заліўшыся чырванню якраз так, як некалі гэта рабіў яшчэ школьнікам.— Калі ў арміі служыў, нас вадзілі ў адзін музей. Бачыў такое на старадаўняй французскай карціне. Замаляваў. А цяпер зрабіў па тым малюнку. Выгляд у яго не ахці які, але вы вось сядзьце...

Ігар прысеў і адразу ж апынуўся ў нечым надзвычай мяккім і глыбокім. Ён сядзеў і ў той жа час нібы ляжаў.

— І падымацца неахвота,— з асалодай выцягнуў перад сабой ногі Ігар.

— Профіль сядзення сам планаваў,— пасмялеў Вадзім, пачуўшы пахвальбу свайму тварэнню.

Заглянула ў залу Вольга. Яна, відаць, толькі што вярнулася з агарода, бо ў руках трымала пучок зялёнай цыбулі.

— Аж з самае зімы майстраваў гэтую глупоту,— бяскрыўдна паскардзілася Вольга на сына.— Нічога болей і не рабіў. У двары не навядзе парадку, колькі ні прасіла... А цяпер, як прыедзе з работы, уляжыцца ў сваё крэсла перад тэлевізарам і ляжыць цэлы вечар, пакуль і не засне.

— Ну хопіць! — даволі грубавата агрызнуўся Вадзім.— Сказаў прыбяру, значыцца, прыбяру. Напамінаць не трэба, сам ведаю...

— Хіба так можна? — не вытрываў Ігар.— Яна ж маці твая.

— Абрыдла. Як на парог, дык і пайшла пра свой двор,— і раптам рассмяяўся.— Не дасць насядзецца мне. А сама ж любіць таксама пасядзець. Неяк прыязджаю з начной змены, а яна спіць у ім, і тэлевізар перад ёй пустым экранам мігае.

— Было такое,— усміхнулася Вольга.— Дурное крэсла. Як сядзіш, так і цягне на сон,— і сказала гасцям: — Пагаманіце тут трохі, я зараз салату з цыбулі зраблю.

— Пагамонім, пагамонім, Тарасаўна. Нам спяшацца няма куды,— сказаў Ігар.— Пакуль Вадзім нам хату пакажа, дык і час міне.

— Ды паказваць ён любіць. Асабліва пагаварыць,— засмяялася Вольга і выйшла.

І сапраўды, Вадзім не столькі паказваў новую хату, сколькі расказваў, што ён думае зрабіць у ёй:

— У пакоях пакуль што застанецца ўсё так, як ёсць. Можа, толькі з часам паркет палажу ды сцены размалюю.

Але гэта пазней, калі рамантавацца буду. Хачу і сцены так размаляваць, як на той карціне, на якой бачыў гэтае крэсла. Вось толькі нідзе не дапытаюся, тады шпалеры былі такія ці так размалёўвалі сцены. А калі размалёўвалі, то чым. У вас, Ігар Андрэевіч, на гэту тэму няма ніякай літаратуры? Няма? Шкада,— ён першым скіраваў з залы, на верандзе спыніўся, паказаў на столь, дзе віднеўся квадратны люк.— Вось тут будзе лесвіца ў верхні пакой. Там у мяне летні пакой. Другі паверх, так сказаць. З яго яшчэ лесвіца будзе з балкона, адразу ў сад. Каб той, хто там жыць будзе, мог нікому не замінаць. Ды і каб вальней было. А гэты воданагравальнік я засланю, каб не відаць было. Спачатку думаў побач з ім ванну паставіць, а потым перадумаў. Буду лазню з парыльняй рабіць. У канцы саду. Ваду туды правяду. Каб улетку можна было, напарыўшыся, на траўцы паляжаць, а ўзімку — у снезе пакачацца. Пойдземце, пакажу дзе,— выйшаўшы ў сад, ён зноў спыніўся, азірнуўся.— Дарэчы, вы заўважылі, што ў хаце яшчэ вокны голыя. Я будаўнікам не дазволіў рабіць ліштвы, хаця па дагавору і палагалася. Не хачу казённыя. Але якія трэба сюды, не ведаю. Можа, бачылі ліштвы на вокнах старых хат? Казалі, некалі мой бацька рабіў. Яны вылінялі, не вельмі глядзяцца. Але за аснову ўзяць можна. Нешта больш строгае павінна быць. Адным словам, прыдумаю што-небудзь, праз пару гадоў прыедзеце, дык убачыце,— і першым скіраваў па мяжы ў канец саду.— У садзе таксама зраблю поўную рэканструкцыю. Дрэвы старыя. Пачынаюць сохнуць. Ды і гатункі несучасныя. Некалі яны нядрэнныя былі, але цяпер і лепшыя ёсць. Наогул, хачу завесці такія яблыні, каб яблыкі да вясны ляжалі. А таксама насаджу чорнай рабіны і абляпіхі. З адным на рабоце дамовіўся, саджанцаў увосень дасць. Цяпер за гэтымі ягадамі ўсе ганяюцца. А на базары іх толькі пакажы. Час гіпертонікаў, самі разумееце...

Вадзім не толькі паказаў тое месца ў канцы саду, дзе планаваў пабудаваць лазню, а нават на сцежцы і схему будучай пабудовы намаляваў. І ён, відаць, яшчэ доўга расказваў бы пра свае планы, каб Вольга не паклікала іх у хату.

За сталом ужо сядзелі Марфа і Ігнат, які, угледзеўшы праз акно свае хаты, што Марфа з сынам пайшлі да Вольгі, таксама падаўся ўслед.

Пасля невялічкай паўзы, нібы працягваючы спыненую гаворку, Ігар спытаў у Вадзіма:

— Ці не думаеш, братка, асядаць тут, што так грунтоўна будуешся?

Вольга зрабіла выгляд, што яе нікольki не цікавіць гаворка на гэтую тэму, паднялася і выйшла на веранду, дзе нешта цвірчэла і страляла на патэльні.

— Ыгі,— нават не адарваўся Вадзім ад нагі індыка, якую трымаў аберуч для большай зручнасці.

Ігар ідавочна здзівіўся.

— Не жартуе, не жартуе,— пацвердзіў словы пляменніка Ігнат і дадаў, думаючы, што Ігар яшчэ нічога не ведае пра дзівацтвы Вадзіма: — Гэта ж адмовіўся ад інтэрната, ад гарадской прапіскі, ад чаргі на кватэру. Бачыце, яму не хочацца жыць у тым дымным горадзе,— гаварыў Ігнат хаця і з усмешкаю, але без таго асуджэння, якое адчувалася раней у словах Вольгі ды і Марфы.

— Ты што, Вадзім? — яшчэ болей здзівіўся Ігар.

— Так хачу,— сказаў ён, абгрызаючы костку.

— А я думаю так,— пачаў разважліва Ігнат, але яго перабіла Вольга, якая якраз зайшла ў пакой з патэльняй, на якой дыміліся пульхныя, як піражкі, катлеты.

— Ведаю, Ігнатка, як ты думаеш. Я ж не ганю яго з хаты. Хай жыве. Але навошта ад усяго адмаўляцца там? А раптам захочацца пажыць у горадзе?

— Не захочацца,— адказаў Вадзім не маці, а Ігару.

— Усе туды бягуць, а яму не захочацца,— раздражнена сказала Вольга.— Яшчэ як захочацца.

— Ну што вы напалі на чалавека? — Ігар пачаў абараняць Вадзіма, думаючы такім чынам заваяваць яго давер да сябе.— Можа, у чалавека свая жыццёвая праграма?

— Вось іменна,— Вадзім паклаў на сваю талерку некалькі катлет і пачаў іх таропка есці, адломваючы ідэльцам вялікія кавалкі. Відаць, хлопцу абрыдла гаворка на гэту тэму і яму хацелася хутчэй выйсці з-за стала.

І Ігар, каб як утрымаць Вадзіма за сталом і потым непрыкметна падвесці гаворку да галоўнага, пацікавіўся ў Ігната пра ўраджай, пра суніцы ў лясах, ці водзіцца ў возеры рыба і якая. Разгаварыўся і Вадзім. Ён нават расказаў, як лавіў узімку рыбу на «мармышку». («Акунькоў было, як грязі».) І калі за сталом зноў усталявалася тая даверлівасць, якая толькі і бывае паміж блізкімі родзічамі, Ігар зноў спытаў у Вадзіма:

— І ўсё ж, брацец, я не магу даўмецца аднаго. Сапраўды, навошта табе адмаўляцца ад кватэры? Жыві тут, а там прапішыся. Стой у чарзе. А раптам захочацца ў го-

рад перабрацца. А захочацца тут, жыві тут. Лічу, што ніякай праблемы няма. І не можа быць...

— А навошта займаць чужое месца ў чарзе? — з ранейшай іранічнасцю на тонкіх вуснах спытаў Вадзім.— Можа, каму дзявацца некуды?

— Гэта правільна,— раздумліва сказаў Ігар. Ён не мог зразумець, хлопец сапраўды такі добрасумленны ці толькі прыкідваецца.— Але ж будуць у цябе некалі дзеці, ім трэба будзе вучыцца...

— Ты дзе вучыўся? — не даў яму дагаварыць Вадзім.— Тут. Вучоны. Дзе твой старэйшы брат вучыўся?.. Таксама вучоны. Толік ваш таксама тут вучыўся. Я таксама. Праўда, я не вучоны, але ж і не дурань. Ва ўсялякім выпадку мяне такім ніхто не лічыць. За рэдкім выключэннем... І я хачу, каб мае дзеці таксама тут вучыліся...

Ігар замаўчаў, не ведаючы, што яму адказаць на гэта. Потым глянуў на насупленую цётку, на маці, на Ігната.

— Чорт яго ведае, як лепей,— прызнаўся ён.— Я вам скажу, Вольга Тарасаўна, жаданне ў вашага сына высакароднае. У той час, калі ўсе бягуць у горад, калі фактычна хутка не будзе каму рабіць на зямлі, жаданне Вадзіма...

— А я і не думаю рабіць на зямлі,— перабіў Ігара Вадзім.

— Тады я цябе зусім не разумею, дарагі,— у шчырым недаўменні цялёпнуў плячыма Ігар.— Ты сапраўды дзівак.

— Не, не мяне вы не разумееце, а час,— і неяк насмешліва глянуў адразу на ўсіх сваімі сінімі вочкамі з-пад навіслага лба.— Вось давайце сустрэнемся гадоў праз колькі, тады пабачым, хто з нас дзівак. Вы не ўлічваеце некаторых вельмі істотных фактараў,— раптам Вадзім загаварыў так, нібы сядзеў не за бяседным сталом, а стаяў дзе за кафедрай перад студэнтамі.— У тым, што раблю на заводзе, а не на зямлі, няма ніякага майго граху, як няма ніякага граху і ў тых, хто пакінуў вёску, паехаў у горад. Правільна робяць, бо там яны трэба болей, чым тут. Тут багата людзей не трэба. Тут асноўныя работы выконваюць механізмы. А далей яшчэ болей машын будзе. Складаныя машыны будуць. Без розуму і граматы з імі не справішся. Хто ведае, можа, мае дзеці захочуць тут на гэтых машынах працаваць. Калі ласка! Не захочуць, няхай едуць у горад. У іх будзе перспектыва, выбар. Вы ж ведаеце, што з горада назад мала хто захоча вярнуцца назусім. А потым як хочаце думайце, а я лічу, што дзеці павінны расці на

прыродзе. Я, напрыклад, вельмі давольны тым, што рос у вёсцы. І мне хочацца тут і цяпер жыць. Але гэта, як пішуць у тоўстых кніжках, лірычнае адступленне. Вось вы ўсе разумныя, але ніхто з вас не спытаўся, навошта я раблю такі вялікі пакой на другім паверсе з аўтаномным выхадам у сад. Дык вось. Вы ведаеце, як цяпер жывецца людзям у вялікіх гарадах. Чым яны там дыхаюць? Гэта цяпер. А праз некалькі год? Уявіце сабе, прыходзіць з працы чалавек і сядзіць дома, у сваёй клетцы. І рабіць яму няма чаго. Можа, таму ў гарадах і п'юць багата, што некуды дзяваць сябе ў вольны час? А ў мяне? Цішыня, паветра. Сад. Выйшаў, пахадзіў пад дрэвамі. Дзеткі твае ў траўцы божых каровак ловяць. Ні пылу, ні машын. І ў хаце, як у гарадской кватэры. Вы з горада на прыроду бежыцё, а я на прыродзе круглы год. Не трэба нікуды ехаць. Вы там у чарзе млееце за вялым агурэчыкам, а ён у мяне тут свежанькі, увесь у такіх калючых папурышках, у расе. І цыбулька, і салата, і малачко. Няма сваёй каровы, у суседа куплю. І тэлевізар. Дарэчы, адлюстраванне яшчэ лепшае, чым у горадзе, няма індустрыяльных памех. А прыеўся тэлевізар, сеў і паехаў у той жа Гомель у тэатр ці на канцэрт. Хутка пойдзе электрычка. Ці на сваім аўтамабілі. Вось вы, дарэчы, Ігар Андрэевіч, колькі разоў за зіму былі ў тэатры? Ні разу? А ў сваю акадэмію колькі едзеце ў аўтобусе па задымленай вуліцы? Гадзіну? А я да горада еду пяцьдзесят мінут, і ў вокны дзьме свежы духмяны вецярок з палёў. «Пахне мёдам, пахне грэчкай...» У вас там праблема з гаражом, а ў мяне ніякай праблемы. Вашы тысячы гніюць на адкрытых пляцоўках, а я ля хлява гараж прыбудую ды яшчэ і цяпло ў яго правяду. Узімку ваду выліваць з матора не трэба. Канешне, у гарады ўцякае людзей багата. Часам па інерцыі. У жыцці грамадства часта сустракаюцца негатыўныя з'явы. Як мода якая. А чалавека ж заўсёды цягнула і цягне туды, дзе закапана яго пупавіна. А хіба не так, Ігар Андрэевіч? Дзе спыніцца? А я тут са сваім пакоем на другім паверсе. Калі ласка, сяліся ў пакоі са ўсімі зручнасцямі і купайся ва ўспамінах дзяцінства. Так што хутка на чаргу будуць запісвацца ў мяне, каб пажыць улетку. А потым яшчэ. Вось зараз мая маці на мяне злуецца, што я тут застаюся, а потым жа яшчэ радавацца будзе. Калі да яе прыйдзе старасць, яна не будзе адна, як некаторыя. А то сыны ў гарадах на «Волгах» раз'язджаюць, а іх маці ў сваіх хатах без вады часам сядзяць, бо сілы не маюць да калодзежа

сходзіць. Вось і ўсё маё, так сказаць, разуменне часу і перспектыў на бліжэйшую будучыню. Працаваць буду на заводзе, а жыць тут. Работу сваю люблю, там са мной лічацца. Фрэзероўшчык-універсал, усё ж не абы-хто,— не ўтрымаўся Вадзім, каб не пахваліцца.— Аднойчы захварэў, дык па мяне на легкавушцы прыязджалі.

— Праўда, было. Прыязджалі,— пацвердзіла Вольга не без гордасці за сына.— Паехалі, кажуць, выручай, а то план завода гарыць.

Вадзім наліў сабе ў шклянку сыраквашы з гладышкі, выпіў, аблізаў свае тонкія губы, памацаў даўгаватыя валасы на патыліцы, нібы праверыў, ці не растрапаліся.— Скажы вось, Андрэевіч, колькі маеш у месяц?

— Цяпер не вельмі. Сотню з паловай, а калі абаранюся, удвая болей будзе,— адказаў Ігар.

— І табе, Андрэевіч, далёка будзе да мяне, калі нават абаронішся,— Вадзім раптам падняўся.— Ну, паважаныя родзічы, калі да мяне няма болей пытанняў, то я пайду,— і сказаў Ігару, каб той не пакрыўдзіўся: — Зараз па тэлевізары пачынаецца кінападарожжа. Люблю глядзець,— і ён пайшоў у залу, зачыніў за сабой дзверы.

Марфа глянула на сына, усміхнулася аднымі вачыма, маўляў, ну як, пагаварыў?

— І так ён з усімі,— паскардзілася Вольга.

Ігнат, які здагадаўся, з якою мэтай запрасіла сястра да сябе ў госці пляменніка, раптам засмяяўся. Але ўбачыўшы, што смех яго быў зусім недарэчны, сказаў не толькі для таго, каб суцешыць Вольгу, а каб апраўдаць свой смех:

— А я хацеў свайго сына перацягнуць з горада сюды. Хату яму пабудаваў. Думаў, чым там яму цягацца па прыватных кватэрах, няхай тут жыве. І нам, старым, весялей было б. Не захацеў... А можа, мы самі і вінаватыя? Усё выводзілі дзяцей у людзі і давыводзіліся, што цяпер самі локці кусаем. Гэта ж цяпер пачалі пра механізатараў ды пра даярак пісаць і гаварыць. А раней? Радыё ўключыш ці ў газету глянеш, дык толькі і чуеш і чытаеш, з гэтае вёскі столькі вучоных і ўрачоў выйшла, з гэтае столькі, а колькі адтуль добрых механізатараў, паляводаў выйшла, пра гэта ні слова. Было ж такое?..

— З тваім сынам, цётка, цяжка размаўляць,— сказаў Ігар.— У яго гэта далёка не капрыз... Абдуманая пазіцыя, жыццёвая праграма. Паслухаўшы яго, сам пачынаеш сумнявацца. А можа, сапраўды ён правільна робіць?.. Мы ў

свой час паўцякалі з вёсак, а цяпер часам так хочацца вярнуцца назад, ды нельга. Работа, сям'я, абавязкі. Невядома, можа, і болей быў бы шчаслівы, каб тут застаўся? Часта нам сняцца нашы хаты. А вырвацца, прыехаць не так лёгка. За апошнія пяць год у нас з Тамарай упершыню супаў адпачынак. Селі і думаем, куды б паехаць? І раптам Тамара кажа, хачу ля хаты свае на поплаве пакачацца. Як у дзяцінстве. Ну і вырашылі прыехаць сюды. Я прыехаў. Праз дзень і яна будзе тут. Будзем жыць у нас і ў яе бацькоў. Па чарзе... Так што нешта ёсць такое, чаго з душы і сэрца не выкінеш. Можа, гэта і адчувае ваш сын больш востра, чым мы. Мы таксама ніколі ў душы не станем гараджанамі. Вось хіба нашы дзеці... А мы не.

— Ой, успомнілася,— умяшалася і Марфа, каб як суцешыць сястру.— Былі ў мяне электрыкі. Хадзілі абедаць у сталоўку. Дык яны неяк і просяць, навары ты, цётачка, у печы нам баршчу...

— Добра вам так гаварыць, калі сваіх у гарадах паўладкоўвалі,— стрымліваючы слёзы, сказала Вольга.— А мой што, горшы за вашых? — і яна хуценька выскачыла, захапіўшы некалькі брудных талерак.

Дамоў вярталіся разам. Ігар з маці і Ігнат. Маўчалі. Відаць, усе адчувалі нейкую няёмкасць.

— А чаму, мам, ты сабе газ не правяла? — спытаў Ігар, каб загаварыць пра што іншае.— З газам жа лепей.

— Я хацела... Ды прыехаў Толік, угаварыў. Навошта табе той газ, толькі грошы перавядзеш, усё роўна жыць адна не будзеш. Я і паслухалася... А цяпер, кажуць, позна. Газавікі ў другім месцы робяць.

— Пакрыўдзілася,— прамовіў Ігнат ужо ля свайго двара, развітваючыся. Відаць, ён усю дарогу думаў пра Вольгу.

— Мне так не хацелася ісці,— прызналася Марфа.— Як ведала, што скончыцца гэтым.

## КАСЦЫ

Марфа яшчэ раз агледзела стол, ці не забылася на што. «Рыба тут, яечня тут, масла... талерачкі на ўсіх, лыжкі, відэльцы ўсе...» Раптоўны ветрык прашастаў па яблынях,

і прама ў ячэню чмякнууўся падточаны чарвяком зялёны яблык. Ён трапіў якраз у жаўток — жаўток быў сыраваты, хлопцы не любілі крутой ячэні,— і жоўтыя пырскі разляцеліся ў бакі, забрудзілі тварог. Марфа нажом ачысціла тварог, а яблык выцягнула за карэньчык і шпурнула некуды ў бульбоўнік, толькі шаснула там каліўе. Потым яна выйшла ў двор.

Там, седзячы верхам на ўслоне, гулялі ў шахматы яе сыны, Сяргей і Ігарок. У Сяргея ўжо была сівая галава і такое абвіслае чэрава, што яго не трымалі тугія спартыўныя штаны. Ігарок жа якім быў ударлявым, такім і застаўся. Апошнім часам дык яшчэ і болей высах — нібы не есць і не п'е. І, можа, таму ён побач са старэйшым братам выглядаў зусім юнаком.

— Вячэра гатова,— сказала Марфа і скіравала ў хату. Там яна зняла сваю кофту з выцертымі локцямі, надзела святочную, на галаву павязала белую хустачку, глянула ў люстэрка, выцерла ля носа сажу — ведама, вазілася з чыгункамі ды патэльнямі, прыхапіла пару старэнькіх, расхістаных табурэтак і паспяшыла ў сад. Сяргей і Ігар сядзелі ўжо за сталом. Сяргей смачна абсмоктваў нейкую костачку, Ігарок адкаркоўваў бутэльку з гарэлкай.

— А дзе ж Толік? — паставіла старая табурэткі.— Думала, ён у хаце, дык і там яго няма шака.

— Недзе гойсае,— сказаў Сяргей.

— І кожны раз так,— паскардзілася Марфа.— Прыедзе, павернецца ў хаце і пайшоў. То да дзядзькі, то да суседа. Добра, што хоць часцей бывае...

— З Гомеля бліжэй. Гэта не Мінск,— сказаў з нейкай вінаватасцю ў голасе Ігарок.

— Ды хіба я што кажу вам? — улавіла гэтую інтанацыю Марфа.— Прыехалі во, і дзякуй. А можа, паклікаць яго? — яна ўжо і паднялася, як яе спыніў уладарны басок старэйшага:

— Нечага бегаць, не маленькі. Можа, дзе трапіў на вячэру, а мы яго будзем чакаць тут. Садзіся, ды і будзем есці. Яго яму застанецца.

Калі Ігарок пачынаў наліваць пітво ў шклянкі, Марфа сваю прыкрыла рукой, спаласаванай сінімі жыламі.

— Ды кроплю адну,— настоіваў Ігарок.

— Ну хіба кроплю,— яна дазволіла наліць трошкі і сабе.

— А дзе ж хлеб? — спытаў Ігарок, які ўжо трымаў шклянку ў руцэ і прыцэльваўся, чым бы закусіць.

— Як жа гэта ён вылецеў у мяне з галавы? — падхапілася Марфа.
— Сядзі,— загадаў ёй Сяргей.— Збегае і Ігар.
Ігар хутка вярнуўся з боханам, раскрэмсаў хлеб тоўстымі скібкамі, раскідаў па стале.
— За тваё здароўе,— тыцнуў Сяргей сваёй шклянкай у матчыну, братаву і, раскрыўшы рот, выплеснуў туды гарэлку.
Ігарок жа перахапіў паветра, піў маленькімі глыткамі, як п'юць халодную крынічную ваду.
— А ты што ж? — панюхаўшы скарынку, спытаў Сяргей у маці, якая так і не выпіла.
— Ой, дзеткі, няма здароўя.
— А вы, мама, сімвалічна. А то калі мы яшчэ збяромся?
— Вось іменна,— сказаў Ігарок.— Калі яшчэ прыйдзецца абкатваць новую машыну...
— Ну, дзякую, што заехалі,— на гэты раз Марфа зрабіла які глыток, адчайна замахала ля рота рукой, зморшчыўшыся так, што маленькі сухі твар зусім змізарнеў, засталіся толькі бляклыя вочы ды худы востры нос. Перадыхнула, выпіла вады.
— Ой, дзеткі, здароўя ніякага. Раней дык і выпіць магла, а цяпер і без яе галава кружыцца. А вы ж закусвайце, што ж вы так... Бярыце яешаньку. Сяргейка?
— У мяне печань, дык яйкі не ем,— сказаў старэйшы.
— Маладыя, а ўжо печань,— уздыхнула старая.
— Маладыя... Хутка пад пяцьдзесят.
— Ну а ты, Ігарок? — Марфе здавалася, што і Ігарок неяк вяла есць.
— Я закусваю, мама, закусваю... І якраз жаўточкамі,— ён браў яечню кавалкамі, клаў на хлеб.— Дарэмна, брацец, не ясі яечню. Смаката! Гэта табе не гарадскія дыэтычныя яйкі. Наогул, наш харч не параўнаць з гэтым. Жаўткі белыя, сала прыліпае да патэльні...
— А вы часцей ездзілі б...— сказала Марфа.— Чаго, чаго, а яек ды сала хапае. А бульбу не ведаю, куды і дзяваць. Іншы раз Толік заедзе, дык возьме.
— Нам лягчэй схадзіць на Камароўскі базар, чым з Мінска ехаць сюды,— засмяяўся Сяргей.
— Ды і часу няма,— сказаў Ігарок.— Каб бліжэй. На машыне ледзь не дзень ехалі...
— Гэта ж абкатка. Потым можна і хутчэй,— запэўніў старэйшы.

— Самі не можаце, дык дзяцей завезлі б, хай бы тут пабегалі,— Марфа лічыла, што для малых няма лепшага месца, як вёска.— Сад жа свой, лес блізка...

— Дзяцей можна было б,— налягаў Сяргей на рыбу. Перад ім ужо вырасла ўнушальная гара касцей.— Але... Мы самі амаль адвыклі ад вёскі, а дзеці нашы і не прывыкалі.

У гэты час імкліва адкрылася фортка, у сад уляцеў Толік. Ён быў у нейкіх паношаных штанах, у майцы, басанож, каржакаваты, але надзвычай жвавы і ўвішны.

— Што гэта вы такія нецярплівыя, чэрці паласатыя! — ён ямчэй усеўся за сталом, адшукаў свабодную талерку, ссунуў на яе ледзь не паўпатэльні яечні, буйнейшыя кавалкі сала згроб усе, паклаў пару кавалкаў рыбы, селядца, падсунуў да сябе бліжэй лусту хлеба. Рабіў усё гэта і не пераставаў гаварыць. Гаварыў Толік абрывіста, па некалькі слоў запар, як страляў з аўтамата кароткімі чэргамі.— Я так разумею, што зарабіў штрафную.— Толік наліў сабе ледзь не шклянку, выпіў, запіў сыраквашай, запрацаваў сківіцамі, як трусік.— І што гэта з нашай вёскай робіцца? Хацеў пазнаёміцца з якой маладухай, каб вечар не сумаваць, дык ніводнай няма. Нават і не чуваць, каб дзе якая зарагатала. Старыя ды малыя. Старыя стогнуць, а саплівыя плачуць — вось і ўсе гукі.

— Узімку дык і дзяцей няма,— уздыхнула Марфа.— Гэта цяпер дык з гарадоў напрывозяць малых на лета, а так няма. Праўда, некаторыя малыя і ўзімку тут. Гэта тых, што ў горадзе яшчэ не атрымалі кватэр, жывуць на прыватных.

А карэнных нямашака. У школу ж некаму хадзіць. Казалі, нібы хочуць прадаваць.

— Як прадаваць? — у пытанні старэйшага, Сяргея, было столькі абурэння, што, здавалася, вось-вось ён пабяжыць абараняць тую школу.

Ігар аднёсся да гэтага паведамлення абыякава. Адваліўся спіной да ствала яблыні, курыў, пускаў струменьчыкам дым, сачыў, як ён знікае ў лістоце. А Толік, здавалася, зусім не чуў, старанна ачышчаў сваю талерку.

— А некаму вучыцца,— адказала старэйшаму Марфа.— Гэтую зіму ўсю стаяла зачыненая.

— Зачыненая школа! Дзіўна...— Сяргей зняў сваю спартыўную кофту, кінуў яе цераз плячо некуды ў траву. Марфа падняла, павесіла на яблыню.

— Казала ж, каб у хаце вячэралі,— сказала яна.— Ра-

загрэецеся ды папрастуджваецеся. Дарма што цёпла. Вечары з расой, халаднавата.

— Вось паглядзім, як вы будзеце пацець заўтра,— нарэшце адваліўся ад свае талеркі Толік.— Колькі, мама, табе сотак сенакосу даюць?

— Які там сенакос, дзеткі? — усё ж абрадавалася старая, што Толік загаварыў пра гэта: можа, яшчэ возьмуцца ды і выкасяць яе дзялянку.— Можа, якіх сотак дзесяць.

— Ну дык, касцы, можа, яшчэ патрошку? — Толік гэтай рэплікай канчаткова ўмацаваў надзею старой, што дапамогуць ёй касьбой сыны, і таму яна не стала пярэчыць супраць іх намеру выпіць яшчэ.

— Можна,— пагадзіўся Ігар.

Сяргей жа дазволіў толькі дно закрыць у шклянцы; папершае, яму заўтра за рулём сядзець, па-другое, у яго печань.

— Ясна,— засмяяўся Толік.— Сёння не п'еш, заўтра ад касы адмовішся, бо печань...

— Вось вы жартуеце,— пачаў салідна Сяргей.— А я не так даўно касіў. Гэтай вясной. Неяк ішоў з універсітэта, пары тры адмалаціў,— і маці растлумачыў: — Тры лекцыі прачытаў. Галава, як свінцом налітая. Іду праз універсітэцкі скверык. А там наш садоўнік косіць газоны. І мне так захацелася пакасіць. Некалі ж касіў. Папрасіў у дзеда. Бачылі б, з якой павагай паглядзеў на мяне стары. Выцер касу, памянташыў, падае мне: калі ласка, прафесар. Я кінуў сваю папку на лаўку, узяў касу і з усяго размаху... загнаў яе ў зямлю. А ў зямлі, відаць, камень ці шклянка якая была, дык лязо да палавіны — як нажом. Стаіць мой дзядок і ледзь не плача. Я яму грошы даю, а ён: «Што мне грошы, цяпер такой нідзе не купіш, гэта ж яшчэ даваенная...» Вось так я аднойчы касануў...— і сам засмяяўся ўласным успамінам.

— Я таксама адзін раз накасіўся,— сказаў Ігар.— Студэнтам быў. Пайшоў у калгас канюшыну касіць. Паўдня касіў, а потым не змог. Без трэніроўкі. А скура на жываце з тыдзень балела.

— А я люблю пакасіць,— з падкрэсленым энтузіязмам сказаў Толік. І Марфа, якая ўжо засумавала ад успамінаў сыноў пра свае працоўныя подзвігі, павесялела.— Наш цэх спецыялізуецца на касьбе. Адзін цэх ездзіць бульбу капаць, другі лён рассцілаць, ну, а наш — касіць. Любата, я вам скажу, касіць. Сядзіш сабе на трактары, касілка толькі шах-шах-шах...

— Хе,— сказаў старэйшы.— На касілцы... На касілцы кожны не дурань касіць...

— Хто ж у канцы дваццатага стагоддзя ўручную косіць? — абараняўся Толік.

— А ваш дзед любіў касіць. Памятаю, на касьбу як на свята збіраўся. Белую кашулю надзяваў, біклагу з квасам браў. А як усе мужчыны з вёскі выйдуць на луг, дык ад вёскі і да самага лесу — касцы і касцы... І бацька ваш добра касіў. Калі здаравейшы быў...

— Сам касіў, а нас не прывучыў,— сказаў Ігар.

— Ды калі вам было касіць, усё вучыліся,— уздыхнула Марфа.

— І лодыра ганялі,— засмяяўся Толік.

У садзе пачынала цямнець. Талеркі на стале яшчэ добра былі відаць, а што на тых талерках, дык і не разабраць.

— Можа б, адпачываць клаліся, а то...— Марфа хацела сказаць пра заўтрашнюю касьбу, ды змаўчала, сказала пра другое: — А то ж з дарогі, дык прытаміліся...

— Не ведаю, як хто, а я буду спаць пад яблыняй,— заявіў Толік.— Там, маці, у цябе не знойдзецца які стары кажух?

— Я таксама ў садзе,— сказаў і Ігар.— Пабыць у вёсцы ды не паспаць на свежым паветры!

— А я, як той цыган, што за кампанію павесіўся.— Сяргей таксама пажадаў спаць у садзе.— Толькі прашу палажыць мяне пасярэдзіне, бо, ведаеце, печань... Каб не застудзіцца.

— Скажы, што баішся, каб ноччу хто цябе не ўкраў,— засмяяўся Толік.

Марфа вынесла ў сад усе матрацы, якія толькі былі ў яе, кажухі, старыя паліто, якіх нямала вісела ў каморы — раней хлопцы багата іх вазілі бацьку даношваць. Паклала кожнаму па падушцы. Хлопцы ўлягліся ўпокат, накрыліся цяжкімі, яшчэ даваеннымі пярынамі, якія колькі год ляжалі перасыпаныя нафталінам. Колькі прасіла нявестак забраць іх, дык не забралі: маўляў, цяжкія. Заўсёды спалі пад пярынамі, і не былі яны цяжкія, а то раптам пацяжэлі.

Марфа пастаяла ля сыноў, агледзела, ці добра накрыліся, спытала, ці не трэба ім яшчэ чаго. Толік сказаў, што нядрэнна б паставіць ля іх вядзерца капуснага расольчыку. Марфа здзівілася: які расольчык цяпер, сярод лета, папрасіла, каб ноччу не курылі, выйшла ў двор. Які час

стаяла, прыслухоўвалася, як у садзе аб нечым бубнелі хлапечыя басы, потым яны сціхлі. Вось нехта з сыноў захроп, захроп адрывіста, з прысвістам. Як іх бацька. Цікава, каторы ж. Раней, здаецца ж, ніхто не хроп. Праўда, раней яны заўсёды прыязджалі з жонкамі, дык, можа, тыя не давалі храпці. Гарадскія, далікатныя. Яна не гарадская, і то доўга не магла прывыкнуць, калі пачаў ноччу храпці муж. Дык ён жа пачаў позна, старым ужо...

У хаце Марфа не стала запальваць святло, раздзелася і лягла спаць на канапе. Звычайна яна доўга не магла заснуць звечара, ляжала, думала пра дзяцей, як там у іх, ці ўсё добра, пра ўнукаў, якіх амаль не ведала, часам успамінала і сваё жыццё: вайна, пасляваенная бяскорміца, праца ў калгасе — яны з мужам не шкадавалі сябе, стараліся зарабіць болей, хацелі вывучыць дзяцей, каб ім не жылося так цяжка... На гэты ж раз, ці стомленая хваляваннем ад сустрэчы — зваліліся ж як снег на галаву адразу ўтрох, пад'ехалі да двара на легкавушцы, запіпікалі, як малыя,— ці супакоеная тым, што ў дзяцей усё добра, ніхто не хварэе, яна заснула адразу, як толькі паклала галаву на падушку. Спала моцна, ні аднаго сну не пабачыла. І толькі на досвітку, калі прачынацца трэба было, ёй прыкінулася, што яна са сваім Андрэем, маладыя зусім, ідуць з косамі па лузе. Трава высокая, па самыя пахі, а рамонак столькі, што аж вочы слепяць. Прачнулася, у вокны біла святло, хаця сонца яшчэ і не падымалася. Падхапілася, абула кірзачы, выйшла ў двор з даёнкай. У хляве рыкнула карова. Марфа падаіла яе, выпусціла на вуліцу, там якраз усе выганялі сваіх кароў у чараду, потым вярнулася, працадзіла малако і асцярожна, каб не грукнуць клямкай, выйшла ў сад пацікавіцца, ці не параскрываліся яе сыны. Сяргей ляжаў на спіне, закінуўшы ногі на братоў — любіў спаць шырока,— раскрыўшы рот. Ён заўсёды ў сне дыхаў праз рот, нібы яму носа не хапала. Толік спаў на баку, падлажыўшы руку пад шчаку, нібы задумаўся над чым. Ён рос заўсёды спакойным, стрыманым, а вырас самым непаседлівым. Толькі ў сне нешта засталося ад яго засяроджанага характару. Ігарок з дзяцінства захаваў прывычку спаць на жываце. Старая папраўліа пярыны, ціхенька вярнулася назад. У хаце яна накінула на плечы целагрэйку — з раніцы нібы зябка было — і паспяшыла да Акуліны. Акуліна жыла таксама адна праз некалькі двароў.

— Здароў табе, Акуліна,— спынілася ў парозе Марфа.

Тая якраз поралася ля газавай пліты. Пякла аладкі. У маленькай каструльцы, у якой немаўляткам звычайна вараць манную кашку, булькала капуста — варыўся боршч.

— Ой, добра, што ты зайшла,— гаварыла і кідала апалонікам цеста на патэльню Акуліна.— А я думала, як во трохі ўпраўлюся, збегаць да цябе. Бачу, твае хлопцы прыехалі, дык, можа б, і мае соткі выкасілі. Хацела папрасіць.

— Ім жа трэба сёння ехаць,— сказала Марфа.

— А я толькі падумала, во павязло Марфе.

— Павязло ж... Трэба б бегчы паглядзець, дзе там тыя соткі будуць, і хлопцаў у дарогу сабраць трэба... Дык я і прыйшла, Акуліна, да цябе, можа б, там і маю дзялянку прыкмеціла.

— Прыкмечу, Марфачка, прыкмечу.

— Дзякуй табе, я пайшла, а то печ не запальвала яшчэ...

— А я дык цяпер і не палю. Узімку яшчэ паліла, а цяпер не, на плітцы сабе во звару што...

— Я таксама не паліла. Але ж хлопцы прыехалі, трэба...

— Калі гэта мой прыедзе? — уздыхнула Акуліна.— З'ехаў на край свету... Ад вясны ні пісьма, нічога...

— Ну, дык я пабегла, Акуліна...

— Бяжы, бяжы, Марфачка. Я прыкмечу, не хвалюйся.

— А калі мае хлопцы застануцца,— спынілася ў дзвярах Марфа,— дык я іх папрашу.

— Дзякую табе, дзякую...

Марфа вярнулася дамоў, набрала ў двары абярэмак дроў, унесла ў хату, запаліла ў печы. Пакуль дровы разгарэліся, паставіла чыгунок вады грэцца. Потым выйшла, адчыніла сенцы, сыпнула на падлогу зерня. Калі куры забеглі ў сенцы, яна зачыніла дзверы і ў паўзмроку злавіла пеўня. Певень вырываўся з рук. «А, папаўся, мой прыгожанькі»,— моцна трымала яна яго за крылы. Певень сапраўды быў прыгожы, такога віднага пеўня не было на іхняй вуліцы ні ў кога... Певень быў стараваты, жыў болей пяці гадоў, шанавала ўсё з-за рэдкай расфарбоўкі, асабліва з-за магутнай шышкі з зубцамі ў два рады. Ніколі яна не бачыла такой шышкі ў пеўняў. А хутка прыгажун ляжаў на стале з доўгімі цыбатымі нагамі, з абламанымі кіпцюрамі, з абсмаленай і чыста абшкрэбенай жоўценькай скурай. Марфа, можа б, яшчэ і не чапала гэтага пеўня, дык Сяргей з-за свае навукі сапсаваў печань.

Учора еў рыбу ды малако кіслае піў, а сёння і даць нечага. Хай сёрбае булён. І што ён толькі знаходзіць у гэтым булёне? Адна вада, курыца ды цыбулінка. Іншая справа суп. Але калі трэба яму гэтая юшка, хай сёрбае, абы на здароўе. Пакуль кіпеў булён, яна паспела напячы цэлую місу тонкіх блінчыкаў. Ігарок заўсёды любіў іх са смятанкаю. Потым нарэзала на патэльню буйнымі кавалкамі сала, паставіла яечню. Толік галодны ходзіць, калі за снеданнем не з'есць добрую скварку. Сала любіць і есць яго багата.

Хутка снеданне было гатова. Марфа абгрэбла булён вуголлем, каб лепей упрэў стары певень, яечню паставіла блізенька за засланку, а блінчыкі загарнула ў настольнік, каб не астылі. Дала есці парасяці, качкам, потым выгнала качак за вароты і прайшла крыху за імі, прасачыла, ці ў той завулак звернуць.

А тым часам сонца ўзнялося над вёскай. Ясна бачылася, што дзень будзе бязвоблачны. Калі з раніцы падкасіць тое сена, дык да вечара і высахне. Нездарма на вуліцы ні душы, усе пабеглі на луг. Кожны спадзяецца лепшую дзялянку ўхапіць. Цяпер жа ўсе надзеі на гэтыя соткі. Цяпер не ўкосіш, дык потым нідзе не купіш. Сена ніхто не прадае: лугі пааралі, балацянкі ў лесе пасушылі, нідзе не знойдзеш укасіць, не тое што раней было.

Калі Марфа ўвайшла ў двор, тут былі ўжо яе сыны. Падняліся. І на свежым паветры ім не спіцца. Сяргей, у майцы і спартыўных штанах, праціраў у сваёй машыне шыбы, якія ўзмакрэлі ад расы і на іх паналіпалі парушынкі, нацерушылася з дрэў. Ігарок падкідваў на руках калодку, на якой Марфа нядаўна адсекла галаву пеўню. На ёй былі яшчэ сляды ад крыві. Калі Ігар хадзіў у школу, ён кожнае раніцы падкідваў кавалак рэйкі. З часам тая рэйка недзе прапала, дык на калодцы трэніруецца. Цікава, што ён падкідвае ў сябе дома, у кватэры на сёмым паверсе? Толік сядзеў на ганку, узлахмачаны, з пакамечаным тварам, усё ж учора выпіў лішняга, і курыў.

Снедалі хлопцы не вельмі ахвотна. Толік ды Ігарок, праўда, выпілі па кілішку, дык і пад'елі няблага, Сяргей жа піць не стаў, пасёрбаў булёну і то без хлеба.

— Што ж гэта такое? — мітусілася вакол стала Марфа.— Гатавала, гатавала, а яно ўсё стаіць...

— Нічога, мама, з голаду не прападзём,— выцер самаробным рушніком тлустыя губы Сяргей.— А захочам есці, у дарозе перакусім.

— А вы што ж, у мяне абедаць не будзеце? — расчаравана спытала Марфа.

— Паедзем,— вінавата сказаў Сяргей.— Машына неабкатаная, хутка не паедзеш, а дарога няблізкая, да вечара трэба даехаць, бо ноччу я ездзіць не ўмею. А раніцай лекцыі ў завочнікаў. Так што мы з Ігарком...

— Ну і я з імі за кампанію,— сказаў Толік.— Я наогул сёння не думаў ехаць, дык заехалі, ну і паехаў. Я ў наступную нядзелю прыеду.

— А я думала, што вы сёння пабудзеце,— сказала Марфа і паспяшыла на кухню. Не хацелася, каб дзеці ўбачылі яе засмучэнне. На кухні пастаяла, правяла рукой па твары, нібы зняла з яго якую павуціну, і зноў вярнулася да сыноў, клапатлівая, радасная.

— Ты, мама, не журыся. Мы яшчэ табе надакучым,— вылез з-за стала Сяргей.— Вось адчытаю завочнікам лекцыі, жонку адпраўлю ў санаторый, а сам з дочкамі да цябе. А то забыў, як тыя грыбы растуць.

— І маіх захопіш,— сказаў яму Ігарок.— Мы з жонкаю едзем у Балгарыю, так што хай тут пабудуць. Мой старэйшы, між іншым, вельмі любіць у грыбы хадзіць.

— Прывозьце, прывозьце,— згаджалася Марфа.— Пакуль баба жывая, дык няхай прыязджаюць, а то потым некуды будзе.

— А мае жэўжыкі з жонкай у лагеры. Яна там поварам, і яны з ёю. Так што цэлае лета халасцяк,— засмяяўся Толік.— Хай толькі грыбы пачнуцца, бяру адпачынак і сюды...

— Дзякую вам, дзеткі, што не забываеце,— выйшла Марфа за сынамі на вуліцу.

— Ой, ледзь не забыўся,— сказаў Сяргей, дастаў з кішэні грошы.— Гэта ад нас усіх. Наймі каго выкасіць дзялянку, не шкадуй, колькі скажуць, столькі і дай,— і, сунуўшы маці грошы ў руку, чмокнуў у шчаку і сеў у машыну. Паспяшылі ў машыну Толік і Ігарок. Завялі матор, уключылі музыку і паехалі, толькі пыл на ўсю вуліцу. Вось і пыл асеў, і як не было машыны, як і не прыязджалі яе сыны. А Марфа ўсё глядзела на дарогу. Потым, спахапіўшыся, апусціла вочы, убачыла ў руках сваіх новенькія дваццацьпяткі.

Кінулася паўз двары ў канец вёскі, але хутка спынілася, зразумеўшы, што сыноў дагнаць немагчыма. Вярнулася ў хату.

Які час стаяла сярод пакоя, а слёзы туманом засцілалі вочы...

Убіраць са стала не было ніякай ахвоты, яна накрыла талеркі, каб не лазілі мухі, і выйшла ў двор, спынілася на ганку. Ля яе ног тоўпіліся куры; успомніла, што яна іх яшчэ не карміла, вынесла з каморы ў прыполе ячменю, сыпнула. Куры нетаропка, нібы неахвотна, пачалі падбіраць яго.

«Сіроткі вы мае,— падумала яна пра курэй.— Без пеўня і зерне не лезе ў горла...»

— Ну што стаіш? — зайшла ў двор Акуліна.

— Ды во гляджу на курэй. Засекла пеўня, дык такія зажураныя...

— Адправіла дзяцей?

— Паехалі.

— Што ж яны не засталіся? Хай бы хоць табе выкасілі.

— Некалі ім. Грошы далі, каб наняла каго... Адбіліся ад зямлі.

— Разапселі вельмі, а не адбіліся. Панамі вялікімі пасталі.

— Мы ж і вінаватыя. Вывелі іх у людзі...

— Не ведаю, куды мы іх вывелі, толькі не ў людзі,— абурылася Акуліна.

— У людзі,— сумна ўсміхнулася Марфа і, уздыхнуўшы, раптам зусім іншым голасам, заклапочана-будзённым, спытала: — Падзялілі?

— Падзялілі. Нашы дзялянкі побач. Мая ў нізінцы, дык трава густая, высокая. А твая на сухадоліне. Адны смалянкі цвітуць.

— Касіць не трэба...— абрадавалася Марфа.

— Дык я сказала Ігнату, каб размераў нам упоперак. Так што нам сотак па сем добрай травы і соткі па тры смалянак,— і, не ўбачыўшы асаблівай радасці ў Марфы, дабавіла: — Па вазу дабрэннага сена будзе... Толькі хто ж нам выкасіць яго? Пайшла да Пыжыка, дык ён пяцярым наняўся ўжо. Забегла да Рыгора Носіка, а той з жыватом нешта...

— Дык, кажаш, няма каго і папрасіць?

— Няма, Марфачка.

— Слухай, Акуліна, а дзе твая каса? — з нейкім дакорлівым выклікам спытала Марфа.

— Якая каса? — нічога яшчэ не разумела Акуліна.

— Ну, тая, што пасля вайны касілі?

— А-а... Недзе была... Дык тады ж маладыя былі.

— І выкошвалі ж па сорак сотак. А тут якіх дзесяць.

— Пайду пашукаю,— пагадзілася Акуліна.

— Ідзі пашукай, потым скажаш...— і Марфа, праводзіўшы Акуліну вачыма, пайшла ў хлеў. Там паўз сцяну на брусе вісела каса. Кассё было яшчэ моцнае, з рукаяткай. Рукаятка рассохлася і хісталася, але яе можна перавязаць, будзе трымацца моцна. Сама ж каса пакрылася ржой. Але лязо было яшчэ даволі вострае, іржа не паспела яго з'есці. Марфа працерла касу сенам, іржа месцамі з'ехала зусім, лязо заблішчала, як і раней. Але, каб касіць, яе трэба было накляпаць. Кляпаць касу Марфа не ўмела. Нічога не зробіш, прыйдзецца некага прасіць.

Марфа ўзяла касу і выйшла на вуліцу — можа, хто кляпае касу, дык папросіць. Не стануць жа касіць накляпанымі.

На вуліцы было ціха...

Вось са свайго драва выйшла з касой Акуліна, потым Лёкса, далей, за калодзежам,— Моця, Харыціна, Верка... Усе з косамі. Старымі, некляпанымі.

Стаялі, прыслухоўваліся...

## ВЫБУХ

Лія не пагаджалася начаваць у дрывотніку:

— Яшчэ не хапала, каб мяне пакусалі жукі...

Яна заўсёды баялася розных насякомых, якіх, на яе думку, у тым дрывотніку павінна быць багата.

— Дзівачка, іх там меней, чым у хаце,— угаворваў яе Сяргей.— Тут мухі, а там іх няма. Тут дыхаць няма чым, а там свежае сена. Ты і не ўяўляеш, як хораша спаць на свежым сене.

— Ідзі сам на тое сена,— адмахнулася яна ад яго, падсела да стала, бліжэй падсунула настольнае люстэрка і пачала разглядаць свой твар.— Здаецца, будзе лупіцца.

— Канешне, цэлы дзень на сонцы,— паспачуваў ён ёй.

— Пры чым тут сонца? — не пагадзілася яна.— Вада ў вас такая. Пакуль твар прывыкне...

— Пераначуеш на сене, і ўсё пройдзе.

— Ой! — відаць, ёй ужо абрыдла гэтая гаворка.— Ідзі ты хоць за сена!

— Адзін не хачу.

— Дома можаш, а тут,— яна кінула на яго іранічна-

насмешлівы і ў той жа час ласкавы позірк, ён не заўважыў яго, бо сядзеў на канапе, абхапіўшы твар далонямі, абапершыся локцямі на калені, глядзеў у адну кропку ў падлозе, раздражнены нязгодай жонкі.

— А тут не магу,— сказаў ціха.

— Я хачу на сена, я хачу на сена,— раптам паказалася ў адчыненым акне кудлатая бялявая галава Алачкі, якая гуляла ў гародчыку на прызбе і, відаць, чула іх гаворку.

— Там куслівыя жабы і мышкі,— сказала ёй Лія.

— Я там была і не бачыла ніякіх ні жаб, ні мышак,— стаяла на сваім малая.— Там толькі ластаўкі лятаюць.

— І малой на свежым паветры будзе лепей. І наогул... Колькі разоў мы прыязджалі, а ні разу не спалі на сене. Ты і не ўяўляеш, як там...

— А што там? Ну што там? Мулка, калюча, душна,— памаўчаўшы, раптам загадала: — І наогул, чаго ты сядзіш? Разгаварыўся. Ідзі, а то дачакаешся, пакуль цёмна стане... Ну, што глядзіш? Ідзі, пакуль не перадумала,— і зноў усміхнулася яму, толькі цяпер без ранейшай іроніі, а шчыра, з любасцю.

Калі Сяргей бачыў на яе твары такую ўсмешку, ён мог тады зрабіць, здавалася, немагчымае.

Ён падхапіўся, згроб у абярэмак падушкі, посцілкі, радно, усё, што было на ложку за грубкай, на якім яны звычайна начавалі, і паспяшыў з хаты. Перад дзвярыма спыніўся, не ведаючы, як адчыніць іх: абедзве рукі былі занятыя. На дапамогу кінулася жонка.

— Глядзі, надарвешся, дык не трэба буду я табе і на тым сене,— засмяялася яна.

— Маці ж тут,— прашаптаў Сяргей. Яму здалося, што старая ў сенцах.

— Эх ты, баязлівец! — Лія адчыніла дзверы, выглянула першай у сенцы. Там нікога не было. Між кошыкаў лазіла курыца і ціха грукала імі.

У дрывотніку сена ляжала ў рост чалавека. Натапыранае, маладое. Яно глыбока правальвалася пад нагамі. Сяргей утаптаў яго там, дзе думаў раскінуць пасцелю. Утварылася глыбокая яма. Ён закідаў яе ахапкамі сена, зноў утаптаў. А калі пад нагамі стала больш-менш роўна, разаслаў посцілкі, кінуў падушкі.

— Ідзі глянь, як яно тут,— паклікаў жонку.

— Я гляну,— аднекуль з'явілася Алачка.— Мама, падымі!

Узабраўшыся ўверх, малая кінулася на пасцель, разлеглася і сказала, што адсюль нікуды не пойдзе.

— Алачка, пайшлі, а то Лыску празяваеш,— паклікала дачку Лія.

— А ты не хацела на сена,— засмяяўся Сяргей.— Бачыш, як малой падабаецца.

Алачка паляжала трохі, нібы хацела, каб яе яшчэ раз паклікалі, а калі бацька ссунуўся ўніз, падхапілася і каўзанулася прама ў рукі маці. Дзяўчынцы вельмі хацелася самой сустрэць Лыску, а галоўнае, напіцца сырадойчыку, ад якога, як гаварыў ёй тата перад ад'ездам у вёску, дзеці хутка растуць. Калі Алачка будзе піць сырадойчык, то за лета яна не толькі дагоніць Свету, сваю старэйшую сястру, а і перарасце яе.

Толькі яны выйшлі з дрывотніка, як у вароты стукнула рагамі Лыска — яна заўсёды так прасілася дамоў. Сяргей адчыніў веснічкі, упусціў чорную з белымі плямамі на баках і зорачкай на лбе карову, а сам выйшаў на вуліцу. Пакуль ён у дрывотніку масціў сена, за каўнер яму нацерушылася багата ўсялякага смецця, і цяпер яно шчыпала, муляла. Ён раздзеў тэніску, майку, трухануў імі ў паветры так, што яны аж стралілі, паклаў на плот, пайшоў да водаразборнай калонкі. Каб не трымаць рукою рычаг, павесіў на яго цагліну, абвязаную алюмініевым белым дротам. Спачатку спаласнуў твар, а потым падставіў пад тугі халодны струмень спіну. Вада сцякала на галаву, мачыла валасы. Спаласнуўшыся, выцерся тэніскай. Майку надзеў, а мокрую і пакамечаную тэніску не стаў надзяваць. Прысеў на лавачку. Жыла ў ім прывычка, запазычаная ад старэйшых яшчэ ў далёкім дзяцінстве, пасядзець на лавачцы і паназіраць за жыццём вуліцы.

Мала ў каго засталіся такія хаты, як у яго маці,— драўляныя, нізкія, пад стрэхамі, парослымі тоўстым дываном зялёнага моху, якія з вуліцы цяжка было і разгледзець праз густую зеляніну, разбуялую ў гародчыках. Ля многіх з іх чырванелі слупкі цэглы — гаспадары збіраліся будавацца. Большасць жа дамоў былі цагляныя. Яны высока ўзносілі свае шыферныя дахі, ад якіх, здавалася, было меней дрэў на вуліцы. А можа, і сапраўды іх паменшала? Паспілоўвалі, калі будаваліся.

Зрэдку паўз двары тырчалі водаразборныя калонкі. Ад іх на сярэдзіну вуліцы раўчукамі сцякала вада, утвараючы глыбокія калюжыны — радасць для качак, якіх трымалі амаль у кожным двары.

Качкі якраз вярталіся з копанкі, што была ў канцы вуліцы, дзе цэлы дзень лавілі тлустых апалонікаў. Відаць, мала было іх там, бо цяпер яны нешта адшуквалі ў гэтых калюжынах, вытыркнуўшы з вады свае куцыя мурзатыя хвасты.

Пасярод вуліцы стаялі танклявыя чатырохкантовыя бетонныя слупы. Драўляныя, відаць, падгнілі, і іх замянілі. На адным слупе на гэтым сяродку і ў тым канцы на другім, ледзь не ля самае школы, блішчалі электралямпачкі.

Са свайго двара, ад матчынай хаты крыху наўскасяк, ля завулка, праз які вяла дарога на ферму, выйшла Верка. Відаць, таксама пацікавацца вечаровым жыццём вуліцы. Жанчыну, як і памятае Сяргей, заўсёды звалі Веркаю. Маладую і цяпер ссівелую.

Яе хатка, можа, была адзіная ў вёсцы, перад якой не было гародчыка і не расло ніводнага дрэўца — адразу вуліца з лапікам мурагу пад самым акном. Можа, гэтая бездапаможная адкрытасць і вабіла да сябе жанчын, равесніц Веркі.

Яны кожны вечар збіраліся там і спявалі песні свае маладосці.

Пра іх маладосць, акрамя песень, відаць, нагадвала і гэтая хатка, якая засталася з тых даўніх пасляваенных часоў.

Апошні раз, калі Сяргей прыязджаў да маці, ён чуў тыя песні. Цікава, ці будуць спяваць яны сёння. Калі будуць, то ён пачуе. У дрывотніку добра чуваць усё, што робіцца на вуліцы.

Раптам у тым канцы вуліцы, дзе была школа, мігнула ў вечаровай шэрасці белая легкавушка. А вось ля чыйго двара спынілася, не паспеў угледзець: яго паклікалі.

— Сярожа! — пачуўся голас жонкі.— Дзе ты?

— Тут,— пайшоў ён у двор.

— Малая спаць хоча, а ты збег...

— Не збег. Ля двара сядзеў. Вы вячэралі?

— Малака напіліся...

— Я таксама пайду вып'ю,— ён зайшоў у хату, памацаў на кухонным століку гладышкі, знайшоў цёплую, піў, аж пакуль не адчуў, што ў жываце пацяжэла.

— Ой, гэта ж трэба вам ісці туды,— увайшла ў хату Марфа, вынесшы лішнія гладышкі. Калі Сяргей ішоў у хату, то бачыў, што ў каморы гарэла святло, і чуў, як маці

ў судніку дзынкала посудам.— Хай бы месца не было, а то...

— Там нам лепей будзе, мама,— сказаў Сяргей.

— Вячэраць не збіраецеся, ці што?.. Я толькі сыраквашкі ўнесла з вяршком, нескіданай.

— Сырадою напіліся,— і скіраваў да дзвярэй.— Ну, мы пайшлі, зачыняйся тут.

Лія з дачкою яго чакалі ў двары.

— А Света спала на сене? — пацікавілася Алачка, калі ішлі ў дрывотнік.

— Яна не спала,— сказала Лія.— Яна не такая смелая, як ты.

— А ў піянерскім лагеры на сене не спяць? — цікавілася малая.

— Не дадуць,— адказаў Сяргей, адчыняючы вароты.

— Прыедзе з лагера, я і раскажу ёй, што мы на сене спалі. Во будзе! — заявіла Алачка.

— Добра, добра, раскажаш.— Лія падняла яе і падала Сяргею, які, узабраўшыся на сена, чакаў іх.

Алачка як лягла, так адразу і сцішылася. А Лія ніяк не магла ўлегчыся. Усё варочалася, шамацела сенам і Сяргею, якога, відаць, ад цёплага сырадою адразу ж пацягнула на дрымоту, не давала заснуць.

— Што ты там куёўдзішся?

— Ды ніяк не ўлягуся. Галава ўверсе, ногі ўверсе, а сама як у ямцы,— засмяялася Лія.

— Сярэдзіна вельмі лёгкая ў цябе,— ён падняўся, пералез цераз дачку, якую палажылі пасярод, падгроб болей сена пад бок жонцы.— А цяпер?

— Раўней... Ідзі ж на сваё месца,— папрасіла Лія мужа, які пачаў уладкоўвацца ля яе.— Ідзі, Сярожа, а то малая раскрыецца.

— Я трохі паляжу.

— Я не хачу з краю,— нечакана падала голас Алачка, якая, аказваецца, не спала.

— Іду, іду,— і Сяргей перапоўз на сваё месца, залез пад коўдру.

Хутка ён сагрэўся, і мяккая дрымотнасць апанавала ім. Але сон усё ж не браў. Перашкаджала незразумелая ўнутраная напружанасць.

Было ціха. Толькі чулася, як лапатала лістота на таполі, што расла ў гародчыку.

А можа, ён чакае, калі заспяваюць старыя ля Верчынай хаты?

Калі б заспявалі яны, ён слухаў бы іх песні, працяжныя і задумлівыя, і непрыкметна б для сябе заснуў. Так было, здаецца, пазалетась. Яны тады прыязджалі да маці з Ігарам і таксама начавалі на сене ў дрывотніку. Яму таксама не спалася звечара, але пачаліся песні, і ён, як пад калыханку, заснуў моцна і праспаў да самага рання, ні разу не прачнуўшыся.

Раптам зусім блізка, як за сцяной, нехта ўключыў транзістар, і чужая, зусім не патрэбная тут музыка напоўніла чуйную цішыню...

Прагрукалі калёсы, дзынкаючы парожнімі малочнымі бітонамі. Гэта недзе цётка Ніна вярталася дамоў. Акрамя таго, што рабіла на ферме, яна яшчэ прымала ад калгаснікаў малако, адвозіла яго на перагонны пункт, што быў у цэнтры калгаса.

Значыцца, было ўжо даволі позна.

Сяргей больш за ўсё баяўся бяссонніцы. Ён і ў хаце не хацеў заставацца на ноч з-за яе. Бо ў хаце яму давялося б аднаму начаваць на канапе. А Лія спала б на ложку з Алачкай.

Звычайна, калі ён спаў на канапе адзін, то звечара засынаў хутка, а недзе сярод начы прачынаўся і ўжо не мог заснуць, пакуль не пачынала развідняць.

Калі ў яго надарылася гэтая бяссонніца першы раз, ён падумаў, што яна з-за таго, што напярэдадні працаваў багата,ператаміўся. Ці сон які страшны прысніўся?

Памятаецца, прачнуўся тады сярод начы ад нейкага незразумелага страху. Ляжаў узмакрэлы і баяўся расплюшчыць вочы, глянуць у цемру. А ў патыліцы ўсё сціснулася, аж балела, і здавалася, што нехта ўчэпіцца ў яе. Нават уяўлялася тое невядомае і страшнае зусім блізка. Ён не вытрываў, паклікаў жонку. З перапуду голас у яго быў як не свой.

— Што такое? — устрывожана падхапілася Лія.

— Там малая не раскрылася? Нібы варочалася,— сказаў Сяргей, хаця добра ведаў, што жонка спіць вельмі чуйна і варта малой хаця б паварушыцца, адразу ж прачнецца.

— Ды не,— адказала яна. Чулася, як яна зноў улеглася.

Ад усведамлення таго, што жонка не спіць, яму стала крыху смялей. Ён падняўся, прайшоў у другую палову хаты, уключыў святло, напіўся сыракважы. Пасядзеў ля

адчыненай фортачкі, крыху астудзіўся. Непрыемныя адчуванні ў патыліцы зніклі. А тут яшчэ і маці выйшла: Светачка, старэйшая іх дачка, папрасіла, каб баба падала ёй вады. Паразважаў яшчэ з маці, чаго гэта Светачка заўсёды ноччу п'е ваду. Можа, ад селядца, падала думку тая. Яны напярэдадні навячэраліся маладой бульбай з селядцом. Пасля размовы з маці ён вярнуўся, улёгся і яшчэ здзіўляўся, што ў яго такое было. Падумаў, што, можа, сон які страшны прысніўся. Сон забыўся адразу ж, як гэта часта бывае, а страх застаўся.

Але хутка той страх зноў паўтарыўся...

Сяргей зразумеў, што не спіцца яму з-за снарадаў.

Праўда, ён не памятаў, думаў пра іх ці не напярэдадні, перад сном, але потым, калі не спаў, думаў кожны раз. І ад думак тых халодны пот выступаў на спіне, патыліцу балюча сціскала, і ён тады доўга не мог пазбавіцца нейкай жахлівай устрывожанасці, адчування нечага жудасна неадольнага.

Зараз, калі ён ляжаў ля дачкі, чуў яе дыханне, такога жаху, як раней, не было, але бяссонніца была тая ж, а з галавы не выходзілі снарады...

Добра, калі яны ўзарвуцца дзе на агародзе ці хаця б у двары, ды ноччу, дык яшчэ нічога. Асколкі не дастануць у хаце, ды і тут, на сене. А раптам пад хатай, дзе зараз спіць маці, ці наогул пад імі, у дрывотніку? Ці раптам удзень у двары ці ў гародчыку, дзе будзе якраз гуляць Алачка са сваімі лялькамі.

У думках ён стараўся пераканаць сябе, што нічога гэтага не будзе, не можа быць. Столькі яны праляжалі ў зямлі, не ўзарваліся і раптам узарвуцца? Не, не можа быць. Яны яшчэ столькі праляжаць. Канешне ж, праляжаць. Яшчэ нідзе такога не было, ва ўсялякім разе, ён не чуў і не чытаў, каб снарады самі ўзрываліся. Па іх трэба ўдарыць ці хаця б паварушыць...

Розумам ён усё гэта ўсведамляў, але пераадолець жахлівае насланнё ніяк не мог.

Звычайна, калі з ім здаралася такое ў хаце — а ён паступова прывык да гэтага, не так жахліва ўсё ўспрымаў, як першыя разы,— Сяргей падымаўся, ішоў у другую палову, запальваў святло, сядзеў ля адчыненай форткі, чытаў газету. Пры святле яго пакідалі жахлівыя ўяўленні, ён супакойваўся, вяртаўся назад, засынаў і спаў спакойна да самай раніцы. А іншы раз і не падымаўся, а расплюшчваў вочы і глядзеў на электралямпачку, што

якраз перад акном гарэла на слупе. Тады таксама праходзіў страх.

Страшна было глядзець у цемру, дзе не было за што зачапіцца вачам.

Трэба было нешта зрабіць і зараз. Бо калі вось так ляжаць і прыслухоўвацца да сябе...

Сяргей падняў галаву, агледзеўся. Над варотамі віднелася шэрая палоска.

Ён ціха, стараючыся не шамацець сенам, споўз на дол, намацаў рукамі клямку. Калі адчыняў вароты, яны, падалося, аглушальна зарыпелі. Удзень яны ж ніколі не рыпелі.

— Хто там? — праз сон спытала Лія.

— Я,— адазваўся Сяргей. Голас жонкі неяк адразу вывеў яго з напружанага стану, і ён даволі бадзёра дадаў: — Я зараз.

Было ціха і цёпла. На фоне цёмна-сіняга неба, асветленага часта ўтырканымі зоркамі, цямнеў дах хаты з высокім комінам, які сваім сілуэтам нагадваў чамусьці маладзенькі баравічок. Перад хатай шарэла высокая раскідзістая таполя, цёмнайаграмадзінай узвышалася ліпа за хлявом. Сярод двара, як раскіданыя шматкі паперы, бялелі дровы. Удзень ён раскалоў некалькі чурбакоў і не склаў іх пад застрэшак.

Сяргей прайшоўся па двары — ногі студзіла астылая зямля. Ім было цяплей, калі ён станавіўся на якую трэску ці на звялую траву.

Адчыніў веснічкі на агарод.

Яблыні, а паміж імі высокая кукуруза, пахілыя сланечнікі з абвіслымі круглымі шапкамі зараз выглядалі нейкімі таямнічымі істотамі.

Ён рашуча зрабіў некалькі крокаў і тут жа адскочыў назад, у двор: ногі апаліла росная трава. Яго ўсяго аж труханула ад пранізлівай зябкасці, і ўсё цела ахапілі такія дрыжыкі, што ён не мог стрымаць сябе. Хуценька вярнуўся ў цёплы дрывотнік.

— Сярожа, што з табой? Можа, блага? — спытала Лія.

— Ды не,— адказаў ён даволі бадзёра.

— А чаго ты так доўга? — яна, адчувалася, не паверыла яму.

— Ды нешта не спіцца.

— А чаго?

Ён не адказаў.

— Мне таксама не спіцца. У спіну нешта колецца, і недзе мыш варушыцца... І душнавата...

— А дзе ты там? — ён папоўз на яе голас.

— Ой, які ты халодны! — яна адсунулася.

— Пагрэюся ля цябе...

— А там малая не раскрыецца?

— Потым перайду,— сказаў ён.— А то там не магу ніяк заснуць.

— А чаго табе не спіцца? — спытала з хітрынкай у голасе.

— Ад снарадаў.

— Ад якіх снарадаў? — разгубілася Лія, яна чакала ад яго зусім іншага адказу.— Якія яшчэ снарады? Што ты выдумляеш?

— А можа, мне толькі здаецца, што з-за снарадаў,— няпэўна пачаў Сяргей.— Можа, зусім не з-за іх? Але звычайна, калі не сплю, я думаю пра іх. І не ведаю, ці раней пачынаю думаць пра іх, а потым не сплю, ці спачатку не сплю, а потым думаю пра іх... Я расказваў табе ці не, адразу, як з нашых мясцін прагналі немцаў, у нашай вёсцы рамантавалі танкі. Адны прыходзілі сваім ходам, іншыя ж прыцягвалі на прычэпе. Тады якраз пад Гомелем ішлі цяжкія баі. З танкаў, якія прыязджалі, выгружалі рэшту снарадаў з доўгімі бліскучымі гільзамі з латуні. Нас і зацікавілі гэтыя гільзы. З іх рабілі карцы і наогул розны посуд. А мы, малыя, забаўляліся. Загонім гільзу з порахам у зямлю, а праз шчыліну ад вывінчанага капсуля запальваем порах. Гільза з гулам узлятала ўверх, а мы разбягаліся хто куды. Баяліся, каб каму не звалілася на галаву... Тады на вуліцы, у садах, на агародах валяліся сотні снарадаў. Цяжкіх — ад самаходак і меншых — ад танкавых гармат. Іх зносілі ў старыя скляпы, у старыя акопы, а то проста закапвалі ў зямлю, дзе яны ляжалі.

Памятаю, два снарады валяліся і ў нас на папялішчы. Яшчэ мае меншыя браты гулялі з імі. Прыйшла маці і закапала іх. А дзе закапала, забыўся. Не стараўся тады запомніць. Наогул, я адразу забыўся пра тыя снарады і доўга не ўспамінаў пра іх.

А можа, і ні пры чым тыя снарады? Я ніколі не быў смелым. У дзяцінстве баяўся адзін спаць. Баяўся адзін, напрыклад, хадзіць у лес. У мяне заўсёды былі сабакі. З сабакам я быў смелы,— памаўчаў, а потым зноў завагаўся: — А можа, страх мой усё ж з-за тых снарадаў? Неяк за школай выпальвалі мы снарады. Мы багата тады

іх павыпальвалі. Вывінчвалі ўзрывальнік, а тол запальвалі. Ён гарэў, плавіўся, станавіўся, як дзёгаць. Са снарада ішоў густы жоўты дым. Нам было вельмі цікава глядзець на гэты дым. Стаялі навокал і глядзелі. І іншы раз запальвалі некалькі снарадаў. Во ўжо дыму было! А аднойчы нехта з нас кінуў у той дзёгаць капсуль. Мы ўрассыпную. Ірванула так, што шыбкі ў школе павылятаді. Аднаму асколкам па шыі, а другому руку... А яшчэ раней аднаго нашага таварыша забіла супрацьтанкавай гранатай. Рассекла, як шабляй. Таго хлопца Шпрыцам звалі...

Я доўга неяк не думаў і не ўспамінаў ні пра тых хлопцаў, ні пра тыя снарады. Мы з табой прыязджалі сюды не адзін раз, ты ж бачыла. І наогул, гэта ў мяне бывае толькі тут, у матчынай хаце. А дома ў нас ці ў якой камандзіроўцы такога ні разу не было. Ды і тут нядаўна пачалося. Як нарадзілася другая дачка. Бегае па двары, а я гляджу на яе і думаю: а раптам зараз ірване? Аж мароз па скуры. Ці памяць дзяцінства ажывае ва мне? Кажуць жа, што з узростам яна пачынае абцяжарваць людзей.

— Проста ты パератаміўся. Заўсёды ж перад адпачынкам хочаш усё парабіць. Дык табе потым і не спіцца,— Лія вельмі проста растлумачыла яго стан.— Разгуляюцца нервы. Пакуль супакояцца. А ты думай у гэты час пра што іншае,— яна абняла яго, прыхінула да сябе...

«А можа, і сапраўды пlivератаміўся,— думаў ён.— І сапраўды перад адпачынкам заўсёды збіраецца багата ўсялякіх спраў. То не паспееў адказаць на нейкае пісьмо, то тэрміновую рэцэнзію не скончыў, то артыкул не перарабіў... Не хочацца ж, каб у адпачынку турбавала цябе тое, недаробленае. Канешне ж, пэратамляешся».

— Ты ўжо спіш? — ледзь чутна спытала яна.

— Не.

— Мне таксама нечага не спіцца...

Ён падняў галаву, намагаючыся разгледзець яе ў цемры. Але нічога не было відаць, толькі чулася зусім блізка яе дыханне. Ён прабег пальцамі па яе валасах, твары, адчуў, як яе рукі замкнуліся ў яго на шыі...

У наступную раніцу Сяргей прачнуўся даволі позна. Праз шчыліны ў сцяне, путаючыся ў павуцінні, прабіваліся сонечныя промні. Ні жонкі, ні дачкі не было побач. Сяргей яшчэ паляжаў, прыслухоўваючыся, каб па гуках угадаць, колькі ж часу. Прагудзеў на вуліцы аўтамабіль,

нават адтуль пацягнула смуродам. Недзе далёка глуха пратахкаў цягнік.

Сяргей выйшаў у двор. Сонца так свяціла, што ён аж заплюшчыў вочы. Памахаў крыху рукамі, некалькі разоў падскочыў на месцы, канчаткова разагнаў санлівасць. У хаце нікога не было. Заглянуў на агарод. У самым яго канцы, у маліннiку, бялела панамка Алачкі. А за плотам па бульбоўніку хадзілі маці з Ліяй, збіралі з лісцяў каларадскіх жукоў.

— Выспаўся? — усмешкаю сустрэла яго Лія.— Дарэмна ты баяўся. Маці гаварыла, сапёры па ўсім пасёлку шукалі снарады і ўсе, дзе якія былі, пазнаходзілі і павывозілі.

— Гэта ж мінулым летам прыязджалі да старога Грынькі, што на той вуліцы жыве. У яго ў заваленым пограбе знайшлі снарады. Два грузавікі нагрузілі.

— Некалі мы і кідалі ў той пограб,— успомніў Сяргей.— Гэта яны ад таго часу і ляжалі.

— І яшчэ б ляжалі, каб не пачаў перабудоўвацца. А то стаў капаць канаву пад фундамент і наткнуўся на іх. Пасля таго сапёры і хадзілі па ўсіх дварах. І ў мяне былі. Нічога не знайшлі.

Сяргей слухаў маці, якая стаяла ў рослым бульбоўніку ў квяцістай сукенцы і белай хустцы, і думаў пра свае начныя жахі, як пра сон, у які цяпер, удзень, нават не верылася.

— Так што дарэмна не спаў,— нібы прачытала яго думкі Лія.

— Якраз недарэмна,— сказаў ён, усміхнуўшыся жонцы і ўбачыўшы, як яна зачырванелася, перавёў гаворку на іншую тэму: — А я ўчора ляжаў, ляжаў звечара, прыслухоўваўся, думаў, песні пачую. Раней жа спявалі...

— Ды спявалі,— неяк сумна ўсміхнулася маці.— Раней тых песень поўная вуліца была, а цяпер... Як у месца, дык толькі і лаяцца, хто болей, а хто меней зарабляе... Адна перад адной аж высцягаюцца, каб зарабіць. Некалі спяваць, ды і некаму.

— Старыя ж ля Веркі спявалі,— сказаў Сяргей.

— Яны і цяпер калі ў нядзелю збіраюцца. Рэдка, праўда.

— Мы ўжо, Сярожа, паснедалі,— перабіла іх гаворку Лія.— Так што ідзі, там пад настольнікам усё і знойдзеш. На стале.

А ўвечары, калі Сяргей, крыху затрымаўшыся ў два-

ры — на клямку на ноч зачыняў веснічкі з вуліцы,— зайшоў у цёмны дрывотнік, то пачуў, як Лія гаварыла дачцэ:

— Ты хочаш ля таты, і я таксама хачу. Як жа нам быць? Можа, пакладзём яго пасярод? І ты будзеш ля яго, і я.

— Добра,— пагадзілася малая.

## САД

Яшчэ ніколі не радзілі так яблыкі. Абцяжаранае голле абвісла ледзь не да самай зямлі, а ў тых дрэў, што стаялі ля плота, лягло на агароджу, нахіліла яе.

Яблыкі былі малыя, зялёныя — толькі белыя налівы пачалі жаўцець.

Калі раптам не паточыць чарвяк, то іх некуды будзе дзяваць.

Гаварыла ж некалі Марфа свайму Андрэю, каб не садзіў столькі яблынь. Хай бы лепей зямля пад бульбай была. Бульба ў гаспадарцы ніколі не лішняя. Пасадзіў бы два-тры дрэвы, і хапіла б. Дык не. Захацелася, каб сад быў яшчэ большы, чым да вайны, каб дзецям было тых яблыкаў уволю. А дзеці параслі, раз'ехаліся, і не трэба ім і ні гэты сад, ні гэтыя яблыкі.

Праўда, яшчэ ўвосень прыязджаў Толік. Абкапаў дрэвы, пасыпаў тукамі, якіх цэлы рукзак прывёз у цэлафанавых мяшэчках.

І вясной, як толькі пупышкі набухлі на дрэвах, таксама прыязджаў. Можа, дзень, надзеўшы процівагаз, хадзіў па садзе і абпырскваў дрэвы нечым вельмі смярдзючым. Потым некалькі дзён нельга было выйсці ў сад. Смярдзела, пакуль дажджы не прайшлі.

І, відаць, ад той атруты ці, можа, ад таго, што дажджы ішлі гэтым летам часта, на яблынях не было чарвей.

А яблыкаў урадзіла болей, чым лісця. Дрэвы аж стогнуць пад іх цяжарам. Трэба тэрмінова ставіць падпоркі, а то пашчапаюцца, прападуць.

Марфа пісала Толіку і перадавала праз людзей, што ездзяць у Гомель і працуюць на тым жа заводзе, дзе і ён, каб прыехаў, прывёз з лесу падпорак, бо тыя, што ляжаць пад застрэшкам за хлявом, так струхлелі, што не тое што на падпоркі, а нават на дровы ўжо не гадзяцца. Некалькі год запар не было ўраджаю на яблыкі, вось і не чапалі старыя падпоркі, яны і пагнілі ад сырасці.

І чаму ж маўчыць Толік? Ні слыху ні дыху. Можа, зламаўся яго «жыгуль»? Дык можна ж і поездам прыехаць. Дарогі той якая гадзіна. А можа, здарылася што там? Ці з-за дачкі не едуць. Іхняя ж Лідачка пасля дзесяцігодкі збіраецца некуды паступаць. Можа, так заклапочаны яе экзаменамі, што не да яблынь?

Марфа стаяла адразу ж за веснічкамі і прыжмуранымі вачыма шукала Юрку, якога ўчора прывезла гасцяваць Тамара, жонка меншага сына. Хлопчык толькі што быў у двары, яна поркалася ля печы і сачыла за ім праз акно. І раптам знік. На вуліцу выйсці не мог, бо веснічкі былі зачынены на шчапок, якога не дастаць маломы. Мог выбегчы толькі ў сад.

— Юрачка-а-а-а! — паклікала Марфа.

Раптам у дальнім кутку саду нешта глуха і мякка трэснула, і на самай крайняй яблыні, антонаўцы, галлё захісталася так, нібы толькі што з яго ўзляцела буйная птушка ці кінуў хто туды цяжкім каменем.

Марфа кінулася да яблыні, цераз буракі на ўзмежках вакол градаў з агуркамі і памідорамі.

Калі яна наблізілася да дрэва, то на ім яшчэ хісталіся тонкія галінкі і ледзь бачна трымцела лістота.

Адна галіна, якая адрасла далёка ўбок, пад цяжарам яблыкаў адчахнулася ад ствала і ўсім сваім цяжарам легла на бульбоўнік, прыгнуўшы яго да зямлі.

— Баба-а-а-а! — пачуўся недзе зусім побач голас малога.

Марфа спачатку як не пачула ўнука. Моўчкі разглядвала скарожанае дрэва і думала, што калі б вось зараз падняць адламаную галіну і прывязаць яе да ствала, добра заляпіць воскам ці хаця б глінай, то, можа б, яшчэ яна і прырасла. А калі ўжо нельга прывязаць, дык хаця б абрэзаць зараз жа, а рану замазаць, а то ж засохне ўсё дрэва.

— Баба-а-а-а! — верашчаў малы.

— Іду-у-у-у! Дзе ты там? — і яна ледзь не наўспрамкі па градах падалася на голас малога.

Юрка, схаваўшыся з галавой у раскідзістым кусту парэчак, ласаваўся там ягадамі. Яго рукі і тварык былі ў ружовых плямах.

— Што такое, дзетачка? — яшчэ здалёк устрывожана спытала Марфа.

— Паглядзі, баба, якая ягада,— малы трымаў на пух-

ленькай далоньцы сапраўды вялікую, як вішня, чырвона-празрыстую парэччыну.

— А каб цябе! — аж плюнула Марфа.— А я чортведама што падумала,— і, выцерпы малому тварык і пад носам, заклапочана спытала: — Есці не хочаш?

— Тр-р-рошачкі,— ён, як яго бацька ў дзяцінстве, з асаблівым стараннем вымаўляў літару «р».

— Ну пойдзем, малачка дам.

— Малачка ты мне давала.

— А чаго ж табе даць?

— Пір-р-рожанага,— капрызіў малы.

— Мамка прыйдзе і прынясе піражанага,— сказала Марфа.— А цяпер хадзем, дам малачка.

— Не, буду чакаць мамку,— малы не вылазіў з куста, абрываў ягады цэлымі гронкамі, кідаў іх у рот.

Марфа збаялася, каб у яго раптам не забалеў жывоцік ад гэтых ягад, і загадала:

— Хадзем, Юрачка, на вуліцу, можа, мамка твая ідзе. Сустрэнем.

— Сустр-р-р-энем, сустр-р-р-энем,— і ён першым пабег да веснічак.

На вуліцы не было нікога. Далёка, ледзь не ля школы, нехта праехаў на веласіпедзе. А крыху бліжэй, ля нечага двара, выгружалі цэглу з трактарнага прычэпа.

— Ідзе мамка? — тузаў за спадніцу бабу Юрка.

— Ідзе, толькі за паваротам, не відаць.

— Буду чакаць,— хлопчык першым сеў на лавачку, абапершыся далонямі на брудныя калені. Прысела побач і Марфа. Памаўчаўшы, сказала:

— А татка твой, Юрачка, не захацеў прыехаць?

Марфа чакала Ігара з жонкаю. Ён і ў пісьме каторы раз абяцаў прыехаць разам з усёй сям'ёй на яблыкі. А з'явілася толькі нявестка з сынам. Пра мужа нічога пэўнага не паведаміла. Спачатку сказала, што нібы Ігара не адпусцілі на рабоце, а потым прагаварылася, што Ігар захварэў. Калі ж Марфа стала дапытвацца, то адказала, што ў яго разыгралася ангіна. Можа, і праўда. Ангінамі Ігар змалку часта хварэў. На гланды ён усё жыццё быў нейкі хваравіты. Апошні раз прыязджаў, худы быў вельмі, як ніколі. Марфа дапытвалася ў яго, чым хварэе, а ён толькі ўсміхаўся ў адказ: «Ад навукі, мама».

Марфе падалося, што нявестка цяпер нешта ўтойвае ад яе, але распытваць болей не стала. Ангіна, няхай і ангіна.

Малы насуплена маўчаў.

— А можа, твая мамка пазвоніць татку і ён прыедзе? — спадзявалася што-небудзь выведаць у малога Марфа.

— Не,— кіўнуў галоўкай Юрка.

— Выкліча,— хітрыла старая.

— Не.

— Можа, пасварыліся? Можа, татка п'яны прыйшоў? Ці, можа, мамка сказала табе, каб ты бабе нічога не гаварыў?

— Ыгы,— прызнаўся хлопчык.

— Я не скажу мамцы,— паабяцала Марфа і падумала, што нешта там у яе Ігара вельмі сур'ёзнае, што нічога не хочуць ёй казаць.

— Баба, не хачу пір-р-ожанага, хачу малачка,— падхапіўся Юрка.

— Пойдзем, дзетка, у хату,— паднялася і старая, пагладзіла хлопчыка па галоўцы, уздыхнула.

Хлопчык выпіў поўную шклянку малака.

— Мамка пр-р-ыйдзе, скажу, што я наеўся,— і ён пацягнуў бабу зноў у сад.— Мамцы ягадак нар-р-рву.

Юрка лазіў у кустах парэчак, абрываў самыя спелыя ягады і кідаў іх у шкляны слоік. Марфа сядзела на ўслончыку, паглядвала на малога і прыслухоўвалася, ці не абламаецца яшчэ дзе яблыня.

Сонца пабольшала, прыкметна прастыла і вісела цяпер зусім нізка, кідаючы праз плот у сад частыя ружовыя зайчыкі. Было ціха і душнавата, як перад навальніцай. Хаця б вецер раптам не ўзняўся ды не нагнаў буры якой. Пакарожыць тады ўвесь сад.

На вуліцы нібы скрыганула тармазамі машына.

Марфа прыслухалася.

Бразнула клямка ў веснічках.

— Як хто прыйшоў,— уголас падумала Марфа.

Юрка кінуўся ў двор. На сцежцы ля самых веснічак ледзь не спатыкнуўся на гнілым яблыку-паданцы, але замахаў ручаняткамі, утрымаўся на нагах. Толькі ягад крыху рассыпаў, але збіраць у траве не стаў. Адчыніў веснічкі і спыніўся, разгублена і бездапаможна азірнуўся на бабу.

— Што ж ты злякаўся, маленькі? — абрадавалася старая, убачыўшы ў двары сярэдняга свайго сына.— Гэта ж дзядзя Толя, цёця Капа і твая сястрычка Лідачка,— і ўжо

звярнулася да гасцей: — Ой, добра, што вы прыехалі, а то ўжо думала, ці не здарылася што там...

— А хто гэта нас сустракае? — прысела ля Юркі мажная жанчына ў стракатым плацці. У яе былі голыя, да смуглявасці загарэлыя рукі, такі ж загарэлы твар. Валасы ненатуральна светлыя, відаць, штучна выбеленыя. Пульхныя вусны пафарбаваны. Фарба перайшла і на зубы. Ад жанчыны пахла нечым прыемным, як цукеркамі, але чужым, незнаёмым.

Юрка стаяў насуплены і маўклівы.

— Ой, які не гаваркі хлопчык,— сказала ўжо зусім абыякава цётка Капа.

Толік тым часам адчыніў вароты, загнаў у двор свае беленькія «Жыгулі», заглушыў матор, вароты зноў зачыніў і толькі потым павітаўся з маці.

— Не мог, мама, раней, заняты быў.

— Заняты,— спынілася на ганку Капа.— Не слухайце яго, мама. На рыбалку ездзіў. І як яго адвучыць ад яе, не ведаю. Паедуць, толькі панапіваюцца там.

— Ну, як Лыска? — Толік нібы і не чуў, што гаварыла жонка.

— Доіцца, слава богу.

— А сад?

— А сёння адна расчахнулася. Што ў кутку. Антонаўка.

— Нічога, заўтра навядзём парадак,— адказаў сын і спытаў у Юркі: — Ну, з кім, салдат, прыехаў? — дастаўшы з кішэні пакамечаных джынсавых штаноў маленькую высахлую плотачку, падаў малому: — На, з півам, ведаеш, як смачна.

Юрка ўзяў, ледзь чутна падзякаваў, стаяў маўклівы і насуплены, не ведаючы, што рабіць з тою рыбкаю.

— З мамкай ён прыехаў,— сказала Марфа.— З раніцы пабегла ў раён, усё яшчэ няма. Можа, у сваіх забарылася...

— А што, вучоныя сыночкі не хочуць прыехаць у адведкі? — спытала Капа ў свякрухі, калі Марфа зайшла ў хату. Яна, паставіўшы пульхную гаспадарчую сумку на табурэтку, даставала адтуль газетныя скруткі, бутэлькі...

— Збіраліся ж на яблыкі,— сказала Марфа.— Ды Сяргея паслалі на нейкі кангрэс, ці што, ну дзе за мір гавораць. А Лія на рабоце яшчэ. Ігар нібы ў бальніцы. Во Юрку прывезла, пабудзе, пакуль ён тут асвоіцца, а сама назад,— і, відаць, каб не гаварыць болей пра гэта, пра-

панавала: — Можа, Капачка, павячэраем? Вячэра гатовая. Як ведала, што прыедзеце. Панаварвала...

— Канешне, павячэраем,— пагадзілася Капа. Яна апаражніла сумку, схавалася за занавескай у светлай палавіне хаты, пераадзелася там, выйшла ў доўгім махровым халаце, сказала дачцэ, якая як зайшла ў хату, села на канапу, так і сядзела, не ведаючы, што рабіць, абыякавая да ўсяго: — Лідачка, ты ж памажы.

Ліда нават не варухнулася. Яна толькі цяжка ўздыхнула, нібы тое, што ад яе патрабавалі, было для яе, семнаццацігадовай, рослай, не па гадах размажнелай дзяўчыны, сапраўднымі пакутамі.

— Я каму сказала? — прыкрыкнула Капа.

— Не глухая,— буркнула Ліда, паднялася і нехаця пайшла ў другую палову хаты. Пад яе крокамі аж парыпвалі масніцы на падгніўшых падмостніках.

— Я вось дома табе пакажу, як агрызацца, пачакай,— крыкнула ёй услед Капа.— Пераадзелася б, а то заляпаеш плацце.

Але Лідачка і не падумала пераадзявацца, пачала насіць талеркі і расстаўляць іх на стале ў светлай палавіне хаты.

Запахла ўтушанай бульбай з курацінай.

— Можа, Тамару пачакаем? — зайшоў у хату Толік.

— Ты пра сваю жонку думай, а не пра чужую,— упікнула яго Капа, разганяючы паветра доўгім халатам, падышла да стала і ўзялася перастаўляць талеркі пасля дачкі.— Ніколі ж не зробіць як трэба. І як яна збіраецца жыць?

Толік моўчкі паглядзеў на жонку, не разумеючы, адкуль у яе такая раздражненасць — і ў машыне ўсю дарогу сядзела маўклівая, насупленая, і тут ёй слова не скажы.

— Мы ж не ведаем, калі яна вернецца,— раптам прымірэнча сказала Капа мужу.

— Пр-р-р-рыйдзе,— запярэчыў Юрка, які стаяў ля пірога з рыбінай у руцэ.— Бабка казала, што ідзе.

— Мы пачакаем тваю маму, не хвалюйся,— пагладзіла мімаходзь па галоўцы хлопчыка Капа.— Пакуль паставім на стол, яна і прыйдзе.

Юрка аж расквітнеў ад такой увагі да яго. Ён кінуўся ўслед за цёцяй Капай, каб і яму далі што прынесці на стол.

— Бач, як за матку,— сказала Капа так, каб яе пачула і Ліда, якая якраз праходзіла міма з вялікаю міскаю, поўнай тушанай бульбы.

Ад бульбы слупом падымалася пара.

— У нас таксама нядрэнная дачка вырасла,— заступіўся за Лідачку бацька.— Бачыш, памагае...

— Ой, маўчы, заступнік! — Капа яшчэ нешта хацела сказаць, але толькі махнула рукой: маўляў, нечага і размаўляць з такім пустабрэхам, выйшла. Хутка вярнулася з талеркаю зялёненькіх бліскучых, відаць, толькі што памытых, агурочкаў, упікнула мужа: — Хаця б хлеба нарэзаў, а то ўсеўся...

За сталом сядзелі моўчкі. Здавалася, усіх цікавіла толькі вячэра. Лідачка капалася відэльцам у сваёй талерцы. Ёй ці не падабалася ежа, ці зусім не хацелася есці. Капа апетытна хрумстала агурочкі з бульбаю і часта пагляддвала на Толіка, каб той раптам не наліў сабе лішні раз. Марфа, адчуваючы напружанасць за сталом, не заводзіла гаворкі таксама, толькі запрашала гасцей есці, дапытвалася, можа, каму чаго не хапае.

І неяк ніхто не пачуў, як бразнулі веснічкі, як зайшла ў хату Тамара. Яна, высокая, прыкметна памажнелая, але ўсё ж даволі яшчэ стромкая для свайго ўзросту, шчыра абрадавалася гасцям, весела і ажыўлена з усімі павіталася, хуценька памыла рукі, твар, які аж расчырванеўся ад халоднае вады і саматканага ручніка, прынесла табурэтку, падсела да стала. Юрка адразу ж перасеў да яе на прыпол. Марфа кінулася была па чыстую талерачку, але Тамара спыніла яе: маўляў, не трэба, яны ■ Юркам будуць есці з адной.

— Ну, дазванілася? — пацікавілася Марфа.

Тамара нібы і не пачула пытання, пачала распытваць сына, што ён рабіў тут без яе, ці не сумаваў.

— Ты да таткі дазванілася? — неяк капрызліва спытаў Юра.

— Дазванілася,— адказала Тамара адразу свякрусе і сыну.— Усё нармальна. Татка казаў, каб ты паболей еў і піў сырадойчык.

— Мамка, а я не сказаў бабе, што наш татка ў бальніцы,— пахваліўся малы.

— Ну і малайчына ж ты ў мяне,— неяк сумна ўсміхнулася Тамара і, каб схаваць ад усіх гэтую сваю ўсмешку, ніжэй нагнулася да сына. Яна давіла лыжкаю кавалачкі бульбы, змешвала яе са смятанаю і гэтую тоўчанку давала яму з лыжачкі. Яна нешта ціха гаварыла хлопчыку на вуха, ён жа захоплена, з бліскучымі вочкамі слухаў яе і еў на поўны рот.

— Вячэрайце, дзеткі, вячэрайце,— усё запрашала Марфа.— А заўтра, можа, аднаго парасёначка зарэжам. Навошта мне двое? Хаця б аднаго выкарміць.

— Навошта ж глуміць? — не пагадзіўся Толік.— Хай падрасце. Можа, мукі няма, прывязу. І пярлоўкі.

— Тады некалькі пеўнікаў,— адразу ж пагадзілася з ім Марфа.— Гэта ж пасадзіла курыцу, дык яна вывела толькі іх. Цяпер сама падраслі, такія ладненькія...

— Вось мы і навячэраліся,— выцерла рушніком тварык сыну Тамара.— Малачка няма запіць? Не халоднага...

— Ёсць ранішняе, у хаце стаяла,— Марфа прынесла гладышку, на дне якой было крыху малака. Юрка выпіў поўную шклянку і адразу ж каўзануў з прыпола на падлогу, схапіў сваю высахлую рыбку, якую на час вячэры засунуў пад падушку на канапе, пабег у двор.

— Бачыла? — зыркнула Капа на сваю дачку.— Малое ўсё паела, а ты капаешся, як тая курыца.

— А можа, я не хачу,— буркнула Ліда і кінула відэлец на стол.

— Зараз жа еш, я каму сказала? — крыкнула Капа.

— Не х-а-ч-у! — па літарах прагаварыла Лідачка. У яе аж слёзы паказаліся на вачах.

— Я каму сказала? — стукнула па стале Капа кулаком, у якім быў зацiснуты відэлец. Ружовы кавалак мяса сарваўся з яго, стрэліў цераз стол у міску з сыраквашаю.

— Сказала, сказала,— праз смех прагаварыла Ліда.— Абавязкова каб так, як ты сказала. А я не хачу. Ты разумееш гэта? — і смех яе раптам перайшоў у плач. Яна ўсхліпнула, прыкрыла твар рукамі і выскачыла з-за стала.

— Зараз жа вярніся! — загадала ёй Капа. Яна ад узрушанасці часта мыляла раптам пабялелымі вуснамі.— Каму сказана? Чуеш?

— Ды няхай бяжыць! — паспрабаваў суняць Толік жонку.

— А ты маўчы хаця,— крыкнула яна і на мужа і кінулася ўслед за дачкою.

Марфа глянула на сына, стоена ўздыхнула.

— Нічога, мама, паміраццa,— усміхнуўся, пацягнуўся да бутэлькі.— Пакуль жонка бегае...

Не паспеў ён паставіць шклянку і выцерці губы, як вярнулася Капа з дачкою.

— Во садзіся і вячэрай як людзі,— загадала яна.— А дома я пагавару з табой,— і паскардзілася ўсім: — І што

гэта такое? Не паспела атрымаць атэстат сталасці, а ўжо нікога разумець не хоча, нікога не слухаецца...

— Як жа не слухаецца? — усміхнуўся Толік.— Глядзі, як есць.

— А ты ўжо калі хапіў, дык не вельмі. Думаеш, не бачу,— адказала Капа мужу.— Ці, можа, ва ўсіх цяпер дзеці такія? Есці ўгаворвай, у вёску ехаць упрошвай. Бачыце, тут ёй не цікава. Ці, можа, жаніха там завяла ўжо?

— Ды і пара,— хіхікнуў Толік.— Вырасла большая за матку.

— Паступаць вучыцца таксама̀ ўгаворвай,— не звяртала ўвагі на мужа Капа.— Што гэта такое?

— Я хачу паступаць. Гэта ж ты не хочаш, каб я паступала,— Ліда ледзь устрымалася, каб не расплакацца зноў.

— А куды ж яна хоча? — спытала спакойна Тамара, стараючыся надаць гаворцы памяркоўнасць і разважлівасць.

— Гэта ж упёрлася, толькі на філфак,— пачала сапраўды спакойна расказваць Капа.— А што цяпер той філфак? Каму ён трэба? У горадзе работы не знойдзеш. На вёсцы таксама, там наогул школы закрываюцца. Ды і што гэта за работа? Які з яе толк? Ну хто, скажыце, цяпер з настаўнікамі лічыцца? Ды яшчэ філолагамі? Гэта добра, што ваш Сяргей падаўся ў вучоныя. А так... Ад маткі бульбу вазіў бы. Хаця, калі разабрацца, які сэнс і ў той навуцы? Грошы? У каго іх цяпер няма? Цяпер ва ўсіх грошы. А ні купіць, ні дастаць нічога вашы вучоныя не могуць. Хіба не так? У нас на заводзе рабочым болей усяго прадаюць, чым вашым вучоным. Я вось і хачу, каб яна на гандлёвы факультэт ішла. Будзе сядзець дзе на базе ці загадваць магазінам якім. Не трэба нікому кланяцца, шукаць блату. Усё ў тваіх руках.

— Я ж сказала, што не хачу,— Ліда, каб як перакanаць не толькі маці, а ўсіх, дадала:— Ты думаеш, на той факультэт лёгка паступіць? Цяпер усе туды лезуць.

— І ты лезь. Што, ты горшая за іх? Яшчэ падзякуеш мне потым. А то філолаг, філолаг... Канешне, прыгожа. Але ў цябе ўсё гэта ад таго, што ты жыцця не ведаеш. А вось станеш гаспадыняй, пабегаеш па магазінах, тады зразумееш усё... А то лёгка вам усім жывецца за спіной мамачкі. Паглядзела б, як вы жылі, каб я не была загадчыцай сталовай.

— Можа, на сёння хопіць? — не любіў Толік, калі жонка пачынала хваліцца.

— Табе што? — наляцела і на яго Капа.— Табе ўсё роўна, як будзе жыць твая дачка. А мне не. І калі не хочаш мяне падтрымаць, дык хаця не мяшай... Адным словам, дачка, думаць некалі. У панядзелак павязём дакументы... А далей не твая справа...

— Панядзелак — нешчаслівы дзень,— не ўтрываў зноў Толік.

— У мяне ўсе дні шчаслівыя,— з нейкім выклікам сказала Капа.

Марфа маўчала, нават не ведала, каго падтрымаць. Разумела, што скажы слова, яшчэ можаш застацца і вінаватай. І яна перажывала, што няма ладу за сталом, што развучыліся людзі жыць спакайней і весялей. Усё ж, здавалася б, у іх ёсць, жыць бы толькі ды радавацца, а яны ўвесь час нейкія раздражненыя, злыя, як солі ім на хвост насыпалі...

Марфа аж узрадавалася, калі ўбачыла ў акно, што ідуць каровы.

— Зараз і сырадойчык будзе,— паднялася яна.— Вы самі тут глядзіце, дзеткі, а я хутка.

Марфа ўпусціла ў двор сваю Лыску, паставіла перад ёй загадзя падрыхтаванае пойла. Карова тыцнула ў вядро пысаю, панюхала, пачала нетаропка, нібы без ахвоты, піць.

Марфа надаіла меней чым трэць вядзерца,— карова была старая, апошнім часам наогул прыхварэла, ледзь ногі цягала,— працадзіла. Усё малако ўлезла ў двухлітровую гладышку. Гэта ж усім і напіцца не хопіць. Яна, нікому нічога не сказаўшы, паставіла пару пустых гладышак у сумку, выйшла з хаты і скіравала праз вуліцу да Ігната. У Ігната карова была добрая, маладая, малака давала столькі, што ім і дзяваць не было куды.

Калі ж вярталася назад з поўнымі гладышкамі, ля двара прыцішыла хаду, прыслухалася, ці не сварацца раптам у хаце. Яна думала, што варта ёй выйсці, як Толік адразу ж счэпіцца з жонкаю. Нічога, што ён усміхаўся за сталом. Марфа ведала сына, добра разумела, што ў таго робіцца на сэрцы. Дзякуй богу, у хаце было ціха.

У двары, на старой прысадзістай калодцы, на якой звычайна калолі дровы, сядзела Тамара, трымаючы на прыполе сына, нешта расказвала яму. Ці не казку якую? Бо

той увесь аж прыпаў да яе і так уважліва слухаў, што і на бабу не глянуў, калі яна зайшла ў двор.

— Пойдземце, сырадойчыкам напаю,— запрасіла іх Марфа.

— Дзякуем,— сказала Тамара.— Мы напіліся ўжо, там стаяла на століку...

— Ну і добра тады,— і Марфа пайшла ў хату.

У хаце збіраўся ўжо прыцемак. Толік у спартыўным трыко і ў тапачках стаяў ля печы і курыў. Ён, відаць, чакаў маці, бо, як толькі яна адчыніла дзверы, спытаў:

— Ёсць у цябе якое радно? Пайду ў дрывотнік на сена.

— Глянь там, сынок, на печы.— Марфа пачала даставаць з сумкі гладышкі з малаком.— А малачка не хочаш?

— Не,— ён дастаў з печы скамечанае пыльнае радно, узяў яго пад паху.

— Толькі ты, сынок, там не куры,— папрасіла яна.

— Добра,— Толік яшчэ раз глыбока зацягнуўся, кінуў на прыпечак недакурак і ўжо ў дзвярах гучна сказаў, каб чулі яго і ў светлай палавіне хаты:

— Я пайшоў!

— Ідзі й не вяртайся,— падала голас Капа.

Толік зноў усміхнуўся сам сабе, кіўнуў галавой у незразумелым здзіўленні, папрасіў маці:

— Ты, мама, разбудзі мяне раней. Схажу па каня, можа, падпорак прывязу.

— Ідзіце піць малако! — Марфа зайшла ў светлую палову хаты.

Капа была ўжо ў пасцелі пад коўдраю, з-пад якой толькі віднеліся пульхныя пакатыя плечы. Ліда ляжала на канапе, паклаўшы галаву на чорную бліскучую сумачку.

— Ты што, і спаць так думаеш? — не стрывала, спытала Марфа ў дзяўчыны.

— Зараз жа ідзі ў пасцель! — загадала дачцэ Капа.— Каму сказана?

Дзяўчына неахвотна, лена паднялася, скінула халат, шпурнула яго на крэсла, пералезла цераз маці, лягла, адвярнуўшыся тварам да сцяны.

— Яшчэ адварочваецца,— абурылася Капа.— Скажы дзякуй, што не дома, а то адвярнулася б.

— Малако піць будзеце? — спытала зноў Марфа.

— Дзякуем, мама,— раптам ціхамірна і ветліва сказала Капа.— Гэтых псіхаў яшчэ малаком паіць, і так гладкія.

Марфа вярнулася назад крыху супакоеная: калі ня-

вестка так ветліва з ёй загаварыла, то скандал у сям'і Толіка хутчэй за ўсё быў з-за Ліды, з-за яе вучобы. А Марфа ледзь ужо не падумала, што, можа, яна не так што сказала ім, не так сустрэла, не так пачаставала. А можа, яны наогул не хацелі ехаць у вёску, а Толік настаяў, вось і злуюць на яго з-за гэтага.

— Тома, ідзі ў хату, а то малое замерзне,— павесялелым голасам паклікала праз адчыненую фортку Марфа нявестку.

Тамара зайшла ў хату з сынам на руках:

— Разаспаўся...

— Нічога я не р-разаспаўся,— каўзануў ён раптам з рук на падлогу, узяў з лавачкі вялікі карэц, некалі яшчэ пасля вайны зроблены з гарматнай гільзы, падаў бабе.— Яшчэ малачка...

— Ён яшчэ не напіўся,— аж пляснула рукамі Тамара.

— Ён любіць піць з гэтага карца,— і Марфа наліла ледзь не поўны.

Хлопчык з натугаю, але выпіў усё да канца, глянуў санлівым позіркам на маці, чакаючы пахвальбы.

— Ой, які ж ты ў мяне малайчына! Вырасцеш такі вялікі, што і тата не пазнае,— і яна павяла сына спаць. Спалі яны таксама ў светлай палавіне хаты, на другім ложку, што стаяў за грубкай-галандкай, у кутку, ля акна на вуліцу.

Марфа вынесла гладышкі з малаком у камору, каб яно ў хаце не скіслася да раніцы, глянула, ці зачынены на шчапок веснічкі на вуліцу — а то хто забрыдзе ноччу ды нашкодзіць чым машыне,— заглянула ў дрывотнік, яшчэ раз папрасіла сына, каб той не курыў ноччу, і толькі пасля гэтага вярнулася ў хату, раскінула сабе пасцелю на канапе...

І толькі ўлёгшыся, раптам адчула, як натамілася за дзень. Здаецца ж, нічога такога цяжкага не рабіла, а рукі і ногі так нылі, нібы ўвесь дзень мяшкі цягала. Але пазступова цела супакойвалася, адыходзіла ад стомы, яго ахутвала прыемная цеплыня, якая нараджалася недзе ў нагах.

Чулася, як цяжка варочалася і ўсё ўздыхала Ліда. На яе ўжо і Капа пару разоў прыкрыкнула:

— Калі не ўляжашся, то выкіну зусім з пасцелі, пойдзеш спаць у хлеў да бацькі.

А пазней, калі нарэшце ўлеглася і заснула Ліда, Марфе падалося, нібы хто плача. Прыслухалася. Не было сум-

нення, што ўсхліпвала Тамара. Марфа сцішылася, баялася дыхнуць. Тая ж, нібы адчуўшы, што да яе прыслухоўваюцца, стаілася, але ўтрымацца ўсё ж не магла. З яе грудзей раптам вырвалася рыданне, але Тамара тут жа яго прыглушыла. Потым пачулася, як яна павярнулася, пачала падцягваць вышэй на падушку сына, укрываць яго лепей, нешта ласкавае ціха гаварыць яму. Яшчэ раз глыбока ўздыхнула, а потым ужо не было чуваць яе, відаць, заснула...

А Марфу ўсё не браў сон. Што там з Ігарам? Можа, сапраўды якая немач невылечная? Расказала, падзялілася б: гора на дваіх — ужо не гора... Дык не, тояцца, маўчаць, думаюць, матка сляпая, нічога не бачыць. А яна бачыць і разумее болей, чым яны думаюць. Жыццё пражыла, і большае, і цяжэйшае. Яно багата чаму навучыла.

Не ідзе сон да Марфы. А можа, ёй не спіцца і не ад думак трывожных, а ад таго, што ў хаце душнавата, дыхаць няма чым. Гасцей жа чакала, печ прапаліла, каб сырасці меней было.

Марфа паднялася, знайшла на палку ля печы целагрэйку, накінула на плечы, адчыніла дзверы ў сенцы — хай трохі начной прахалоды ў хату нойдзе,— выйшла, прысела на калодку сярод двара.

Калодка была даўняя. Ад камля старой смалістай сасны. За гады ссечаная зверху. Цеплаватая. Яшчэ не паспела астынуць ад дзённага сонца.

Ноч стаяла цёплая і парная. На дрэвах хаця б адзін лісток варухнуўся. Відаць, набярэцца на дождж.

Вось раптам зарохкаў у хлеўчуку парсюк. Мулка недзе яму, ніяк не ўляжацца. Падала голас курыца з седала. Можа, бачыць трывожны сон са свайго курынага жыцця... Недзе далёка, прыглушаны адлегласцю, тарахцеў матацыкл. Можа, які Генадзь Пыжыкаў паехаў у раён на танцы... Неяк скардзілася яго маці, што прыстае, каб хату ў райцэнтры купілі, нібы там выгледзеў нявесту, а яна не хоча ў вёску ісці. А хаты ж у тым райцэнтры вельмі дарагія...

І раптам, як стрэл, трэснула ў садзе, а потым пачулася, як зашастала лістота, нібы начная птушка заплуталася ў ёй.

Пад цяжарам сваіх пладоў расшчэпліваліся яблыні.

Даўно не было такога ўраджаю на яблыкі...

## КАРОВА

Раніца выдалася празрыстая і ціхая. Сонца, якое недзе за вёскай толькі што паднялося, асвятляла верхавіны ліп, што стаялі за хлявом ад вуліцы. На самым версе адной з іх на тонкай хісткай галінцы сядзеў чорны шпачок і выводзіў цененька сваю чыстую, як і гэта раніца, песню.

Снег, які яшчэ ляжаў у цяньку пад шчыкетам, за ноч на лёгкім марозіку ўзяўся лядком. Гразь у двары таксама акрэпла, як падсохла.

Марфа ў незашпіленай целагрэйцы, без хусткі, выйшла на ганак. Спачатку аж вочы зажмурыла ад святла. Пачуўшы шпачыны посвіст, кінула хуткі позірк на ліпы, потым на таполю, што расла ў гародчыку перад хатай. Птушкі не заўважыла, але падумала, што, відаць, будзе ўжо цёпла, раз прыляцеў гэты свістун. Ломячы тонкі лядок, якім пакрыліся калюжынкі ў двары, пайшла ў хлеў.

Адчыніла вароты і спынілася. Пасля вулічнай зыркасці нічога не магла разабраць, акрамя белых плям на баках каровы, якія падаліся белымі анучкамі, развешанымі ў глыбіні хлява. Калі ж вочы прызвычаіліся, яна ўгледзела і сваю Лыску. Карова нават не зварухнулася, не павярнула галавы да свае гаспадыні, не мыкнула, як звычайна. Марфа глянула ў кашару — сена ляжала некранутае. Яна спачатку не паверыла сваім вачам — можа, ёй толькі падалося так,— падышла, памацала сена рукамі. За ўсю ноч карова, мабыць, і не панюхала яго.

Марфа чакала такога, ведала, што такое павінна вось-вось здарыцца, але яна ніяк не разлічвала, што гэта здарыцца якраз цяпер, вясною, калі, можа, лічаныя дні засталіся да выпуску кароў у поле, на маладзенькую траву.

Апошнія гады яе Лыска заўсёды пад вясну кволілася, прыкметна худнела. Клубы яе вастрэлі, вытыркаліся, а жывот неяк бездапаможна абвісаў пад бугрыстым хрыбетнікам. Поўсць страчвала свой бляск, станавілася як запыленая, збівалася ў камякі-вісюлькі. Але пасля таго, як Лыска выходзіла на пашу, на маладую зялёную траўку, на сонейка, на цёплы веснавы ветрык, яна на вачах жвавела, поўсць пачынала набываць бляск, круглелі клубы.

Марфа спадзявалася, што і гэтаю вясною на пашы карова зноў ажыве, ва ўсялякім выпадку, дацягне да восені. А там ужо можна будзе і замяніць яе на маладзейшую.

І вось на табе, не толькі не дацягнула да восені, а пашы не дачакалася.

Марфа стаяла як здранцвелая, у нейкім бяздумным чаканні, нібы яшчэ спадзявалася, што нічога страшнага не адбылося, што вось зараз карова ўваткне-пысу ў сена, панюхае яго, чмыхне носам — яна заўсёды да сена была пераборлівая,— і пачне выбіраць смачнейшае.

Але карова не варушылася.

А можа, учора яна перапаіла яе пойлам, дык не галодная яшчэ? Ці, можа, сена дрэннае папалася? Марфа ўзяла трохі сена, панюхала. Ад яго ішоў такі водар, хоць чай заварвай. Выйшла з сенам у двор, каб разгледзець яго. Сена было з дробных мяккіх травінак, з лугавых красак. Такое сена звычайна яе Лыска з'ядала да апошняй травінкі, ніводнага лісточка не выкідвала сабе пад ногі.

— Лыска! — неяк насцярожана паклікала Марфа карову.

Лыска нібы і не чула яе голасу. Марфа зноў зайшла ў хлеў, дастала з кішэні акраец хлеба, падала карове. Тая панюхала яго, нават лізнула шурпатым языком, а есці не ўзялася.

Тады Марфа вярнулася ў хату, дастала з печы вялікі чыгун цёплай вады, навяла пойла з размочанага загадзя хлеба ўперамешку з тоўчанай бульбай, вынесла карове. Лыска памачыла пысу, некалькі разоў нясмела цмокнула, а піць не стала.

Марфа паставіла вядро сярод двара — раптам карова выйдзе і захоча напіцца,— кінулася да веснічак. На вуліцы ўспомніла, што выскачыла без хусткі. Вярнулася назад, абапнулася і, на хаду зашпільваючы целагрэйку, ледзь не подбегам паспяшалася паўз двары да ветэрынара, які жыў на другім канцы вуліцы, ля школы,— некалькі год таму ён прыехаў рабіць у іх калгас, пабудаваўся на тым месцы, дзе жыла раней Хоўра Рудзянкова, якая ўжо даўно з дзецьмі з'ехала да брата ў Сібір. Марфа баялася, што не застане ветэрынара, які з раніцы звычайна дома не заседжваўся: ішоў на ферму ці да каго з калгаснікаў.

Але Кульбік якраз быў дома. У сіняй майцы і сініх спартыўных шараварах, у растаптаных тапачках ён стаяў у парозе і вадзіў электрабрытвай-тарахцёлкай па твары, густа парослым чорным шчаццём.

— Ой, Міцечка, добра, што ты дома,— спынілася ў парозе Марфа, задыхаючыся ад хуткай хады, забыўшыся і павітацца з гаспадарамі.

— Цётачка, праходзь, прысядзь,— запрасіла Каця,

жонка ветэрынара, якая якраз ставіла на стол патэльню з яечняй.

— Ой, дзякуй табе, Кацечка, толькі мне некалі расседжвацца,— адмовілася Марфа.

— Што ў вас здарылася, Тарасаўна? — спытаў Кульбік.

— Карова, Міцечка. Не ўзяла есці. Паклала ўчора сена, а сёння глянула — карова стаіць, сена ляжыць. Вынесла пойла, толькі панюхала.

— Каб яна правалілася, гэткая тэхніка! — Кульбік вырваў скручаны спружынай чорны шнур з разеткі ў сцяне і шпурнуў брытву некуды пад палок. Пачулася, як яна чмякнула ў нешта мяккае, ці не ў чобаты якія.— Гэта ж сын падараваў, хваліў, лепшая брытва. Са Знакам якасці.

— Трэба кожны дзень галіцца,— упікнула яго Каця.

— Дык зойдзеш, Міцечка? — спытала Марфа, счакаўшы, пакуль гаспадар дастане з шуфлядкі кухоннага стала звычайную брытву.

— А колькі тваёй рагулі? — пацікавіўся Кульбік, намыльваючы твар.

— Ды багата. Але ўчора яна яшчэ трохі ела. Праўда, пад ногі багата павыкідвала... А сёння зусім нічога не ўзяла. Можа, захварэла? — з надзеяй спытала Марфа.— Такая ж слаўненькая кароўка. З зорачкай на лбе.

— Усе каровы, Тарасаўна, з зорачкамі і без зорачак, дажываюць да той пары, калі ім ужо не хочацца ні есці, ні піць і, канешне ж, даіцца. Такі закон прыроды.— Правёўшы брытвай па ногцю вялікага пальца на левай руцэ, Кульбік зашкрабаў па намыленай шчацэ, падпіраючы тую з сярэдзіны языком так, нібы трымаў у роце вялікі яблык.

— Мая якраз і нядрэнна даілася,— Марфе не спадабалася, што ветэрынар яшчэ не паглядзеў карову, а ўжо гаворыць пра яе немач.— І малака давала. І цяпер дае. У канцы таго года ацялілася. І бычок жа такі ладненькі ды харошанькі атрымаўся.

— Добры ваш бычок, добры. Учора быў у цялятніку, бачыў. Самы вясёлы бычок,— выцершы мыла аб газету, ён пачаў шкрэбці другую шчаку.

— Дык зойдзеце, Міцечка? — Марфа не магла пайсці дамоў, не дабіўшыся пэўнасці.

— Зайду, Тарасаўна, зайду,— паабяцаў ветэрынар.— Вось толькі паснедаю.

— Можа б, у мяне і паснедаў? — не цярпелася Марфе.

— Я магу дома не абедаць, магу не вячэраць,— пачаў глыбакадумна Кульбік,— а снедаць я павінен дома. Бо трэба абавязкова закласці, так сказаць, моцны фундамент. Усюды я толькі закусваю, а дома ем,— і ён рассыпаўся дробненькім смехам.

— Ты хутчэй галіся ды снедай! А то разгаварыўся,— загадала мужу Каця і паабяцала Марфе:— Ты, цётачка, не хвалюйся. Паснедае і прыйдзе.

Вярнуўшыся дамоў, Марфа паспрабавала выманіць карову з хлява ў двор:

— Лыска! Лыска!

Але Лыска і з месца не кранулася. Марфа зайшла ў хлеў і падштурхнула карову ў худыя клубы. Падалося, што карова аж захісталася на нагах.

— Ну пайшла! Што ты як укопаная? — паляпала рукою Марфа карову па спіне.

Карова нехаця выйшла. Спынілася ля вядра з пойлам, панюхала яго, памачыла губы, але піць не стала.

— Ой, я і не ведаю, чым цябе карміць, чым цябе паіць,— сказала ўголас са скрухаю Марфа, цяжка ўздыхнула і пайшла ў хату.

Дровы ў печы дагарэлі. Тлела вуголле. Марфа качаргой падгрэбла яго бліжэй да прыпечка, паставіла патэльню. Дастала з кухоннага століка сала, нарэзала, кінула на патэльню. Яно зацвірчала, запырскалася. У невялічкую місачку разбіла некалькі яек, лінула малака, пасаліла, усё добра разбоўтала лыжкай, выліла на патэльню. Сала перастала цвірчэць. Калі ж яечня паднялася так, што аж перавальвалася праз край, Марфа зняла яе з вуголляў, паставіла на прыпечак. Спынілася ў задуменні. І хаця па гаспадарцы работы ў яе было багата, але зараз яна не ведала, за што ўхапіцца: з галавы не выходзіла карова.

Марфе раптам падалося, што занадта доўга няма ветэрынара. Ці не забыўся ён на сваё абяцанне? І яна паспяшалася на вуліцу.

З ветэрынарам сутыкнулася ў веснічках.

Кульбік, не падыходзячы блізка да каровы, акінуў яе ўчэпістым хуткім позіркам, потым рашуча, неяк падкрэслена па-гаспадарску, падышоў да яе, правёў рукою па хрыбетніку — з ускудлачанай поўсці аж падняўся пыл,— узяўся за рогі, пахітаў нечага галавою жывёлы, зазірнуў ёй у рот.

— Усё ясна, Тарасаўна,— усміхнуўся, відаць, рады

свайму дакладнаму дыягназу.— Як кажуць, рамонту не падлягае. Адслужыла сваё кароўка.

— А можа, Міцечка? — не траціла надзеі Марфа.

— А навошта чакаць? Зараз жа яе трэба здаць, пакуль зусім не ахляла.

— І ніякіх лекаў? — жанчына не магла змірыцца з такім бязлітасным прысудам.

— На вялікі жаль, Тарасаўна, ад старасці няма ніякіх лекаў. Не існавала, не існуе і не будзе існаваць,— ён агледзеўся.— А дзе ў вас рукі можна памыць?

— Хадзем у хату, Міцечка,— запрасіла яна яго.

Кульбік вымыў рукі, выцер іх.

— Ну шчаслівa, Тарасаўна!

— Што ж ты, Міцечка, так і пойдзеш? — Марфа кінулася адчыняць засланку.— Можа ж... што яшчэ скажаш?

— Я ўсё сказаў, Тарасаўна.

— Не крыўдзі старую, Міцечка. Хоць трохі пасядзі. Во яешанька...— яна паставіла патэльню на кухонны столік.

— Не, Тарасаўна. Толькі ад свае.

— Хаця грамульку якую, Міцечка,— яна дастала бутэльку і цяпер не ведала, што рабіць, ці наліць у шклянку, ці хаваць гарэлку назад.

— Не, не, Тарасаўна. У рабочы час, асабліва з раніцы, ні ў рот не бяру,— адмовіўся Кульбік.— Вы ж ведаеце, які ў нас старшыня.

— Кажаце, нічым не паможаш? — спытала зноў пра сваю Лыску.

— На пойле можна было б трымаць. Але які сэнс? І малако таго каштаваць не будзе.— Кульбік узяўся за ручку ў дзвярах.

— А скажы, Міцечка, можа, у калгасе заменяць? Маю здаць за калгас, а мне каб якую цёлку...

— Дойную карову не дадуць, канешне. А пра цялушку пагаварыць можна. Але гэта трэба з самім старшынёй...— Кульбік кіўнуў хуценька галавой на развітанне і юркнуў у дзверы.

А Марфа, хаця ў гэтую раніцу ў роце не было яшчэ ні макулінкі, снедаць не стала. Яшчэ навяла пойла, на гэты раз з аднае пшанічнае мукі вышэйшага гатунку — узімку Толік прывёз на аладкі,— вынесла карове. Лыска панюхала яго раз, другі, павадзіла пысай і нетаропка пачала смактаць яго, цадзіць праз ушчэнт з'едзеныя зубы.

Выпіла больш за палову.

— Ну, Лысачка, яшчэ трошачкі,— стаяла побач Марфа і шаптала гэтыя словы, як якую малітву.— Ну, хіба ж яно не смачненькае?

Марфа ласкава гладзіла карову па шыі, ля вушэй. І тая адгукнулася на яе просьбу. Зноў усунула пысу ў вядро, прынюхалася, нечага чмыхнула, а потым неяк паспешліва, абы толькі адстала ад яе Марфа, выпіла ледзь не да дна. Пакінула толькі гушчу, што асела і прыліпла да вядра. Марфа аж павесялела, нават падумала, што хутчэй за ўсё памыліўся той Кульбік. Ды і што ён мог зразумець адразу? Прыйшоў, паляпаў па спіне, заглянуў у рот і ўжо прысуд свой зрабіў. Маўляў, зубоў няма. Дык хіба сёння раніцай іх не стала, ці што? Іх і ўчора не было, і пазаўчора, і год назад яны не былі лепшыя. Зубоў у каровы даўно няма. А жыла ж, і ела, і даілася. Можа, учора абпілася пойла, дык сена не ела? Старая, пакуль усё ў яе пераварыцца. Чалавеку старых гадоў таксама есці не хочацца. А Лыска ж учора ледзь не паўтара вядра выпіла пойла, ды не абы-якога, а густога, як каша. Дзве буханкі хлеба пакрышыла. Але затое яна сёння меней дасць ёй пойла і паглядзіць, ці будзе есці сена.

Супакоіўшы сябе, зайшла ў хату. Убачыўшы на стале некранутую ячню, успомніла, што сама не снедала. Распранулася, спаласнула рукі, прысела да стала. Але яда ў рот не лезла. Можа, разы два ўкусіла, і ўсё. Накрыўшы ячню талеркай, каб раптам не залез паласавацца кот, надумала схадзіць да Ігната, брата свайго.

Яна часта хадзіла да яго. Бывала, прыйдзе, сядзе на ўслончык ці на ложак, што стаяў адразу за печчу, і сядзіць моўчкі, глядзіць, што робяць гаспадары, слухае, пра што яны гавораць, сама часам слова ўставіць, яно і час праходзіць весялей. А галоўнае, яна не адчувала той пакутлівай самотнасці, якая ахоплівала яе, калі адна заставалася ў сваёй хаце.

— Ой, Ігнатка, не ведаю, што і рабіць,— пачала Марфа адразу ж, як толькі пераступіла парог.

Ігнат, які сядзеў за сталом за сваімі традыцыйнымі падлікамі, адарваўся ад спытка:

— А што такое?

Насцярожылася і Люба, якая сядзела на ложку. Яна, відаць, толькі збіралася адпачыць.

— Не ўзяла ж мая сена,— і Марфа расказала ўсё пра сваю Лыску і што ёй, Марфе, сёння раніцай сказаў Кульбік.— Можа, ён нічога і не ведае.

— Канешне, не ведае,— падтрымала Марфу Люба.— Адкуль ён будзе ведаць хваробы старой каровы? У калгасе такіх старых не трымаюць. У калгасе як што, дык адразу і на мяса. Яму ж не даводзіцца лячыць старых кароў.

Ігнат нічога не сказаў, яшчэ нешта запісаў у свой сшытак, згарнуў яго, паклаў за люстра:

— А я табе скажу, што і сапраўды старая твая карова. Гэта ж колькі ёй год?

— А калі наш Тарасік у другі ці трэці клас хадзіў, яе пачалі расціць,— сказала Люба.

— Яно так і будзе,— падлічыла гады і Марфа.

— Што ж ты хочаш? — спытаў Ігнат.— Канешне, старая. І праўду кажа Кульбік. Яе цяпер сама на мяса здаць, а то дачакаешся, што і на мяса не возьмуць.

— Яно-то так,— пагадзілася і Люба.

— Вельмі ж худая,— не магла прымірыцца Марфа з тым, што ёй прыйдзецца расстацца з Лыскай.— Можа б, трохі патрымаць на пойле? Хаця б трохі гладчэйшая стала. Тады б можна было са старшынёй дамовіцца, каб яе на мяса ў калгас, а ў калгасе ўзяць якую цялушку.

— Што я табе скажу, Марфа,— разважліва пачаў Ігнат.— Паіць яе нечага, няма ніякай выгады. Пыжык мінулым летам здаваў сваю карову. Ён сам сабе цялушку вырасціў, а карову здаваў. Хацеў грошай грабануць. І карміў, і паіў. Два мяшкі бульбы аддаў, мяшок мукі і, можа, воз канюшыны. А атрымаў грошай болей на якую паўсотню. Карова болей з'ела. Так што, Марфа, ніякай выгады карміць. Лішні клопат. Нечага чакаць. Напаіла пойлам увечары, а раніцай на бойню. Хоць грошы будуць. А малако па літру будзеш купляць, дык надоўга іх табе хопіць.

— А яно болей і не трэба,— пацвердзіла Люба.— Мы ўдваіх болей не з'ядаем.

— І не трэба табе са старшынёй гаварыць,— працягваў Ігнат.— Навошта табе карова тая? З сенам цяжка. Купіць нельга. Падлічы, колькі грошай ідзе на сена, на муку, на ўсё. За тыя ж грошы малака не паясі. Так што здавай, і не турбуйся, і не вагайся. Вядзі на бойню, пакуль яна сваімі нагамі ходзіць, а то потым прыйдзецца грузавік браць.

— Ну што ты заладзіў: здавай, здавай,— раптам абурылася Люба.— Хіба яна давядзе яе? Яна сама не дойдзе

да той бойні, не тое што карову весці. Не блізка ж. І дарога цяпер якая... Вазьмі і памажы.

— Хіба я кажу, што не памагу,— неўзлюбіў Ігнат такое ўмяшанне жонкі.— Абы гаварыць. Хай скажа, калі весці, я заўсёды,— і, каб канчаткова даказаць, што жонка ўпікнула яго без усялякіх падстаў, рашуча сказаў:— Вось што, Марфа. Заўтра і адвядзём. Самы час. Пакуль у калгасе работы не вельмі.

— Яно можна і заўтра,— сумелася Марфа, бо ніяк не чакала такога выніку.— Але я падумала, што, можа, яна не ўзяла сена, што ўчора абпілася. Сёння дам меней, можа, будзе есці.— Марфа шукала ўсялякую зачэпку, абы пакінуць яшчэ ў сябе сваю Лыску.

— Ну, паглядзі яшчэ заўтра,— не стаў спрачацца з ёю Ігнат.— Але калі не возьме, то цягнуць нечага. Адклад, як кажуць, не ідзе на лад.

На другі дзень яшчэ прыцемкамі Марфа кінулася ў хлеў. Сена ляжала зноў некранутае. Яна адразу ж пабегла да Ігната.

Калі Ігнат пад'ехаў на калёсах, карова ніяк не хацела выходзіць з хлява. Так-сяк яе ўсё ж Марфа выманіла ў двор. А ў адкрытых веснічках, высунуўшы галаву на вуліцу, стала як укапаная. Марфа і ласкава яе клікала на вуліцу, і дубцом спрабавала падганяць, нішто не памагала.

— Як ведае,— ледзь не плакала Марфа.

Карова не краталася з месца, пакуль Ігнат не сількануў добра яе па спіне хлудзінай. Калі ж яе пачапкай прывязалі да драбіны, яна раптам паслухмяна пайшла за калёсамі, і падганяць яе не трэба было.

Ігнат сядзеў наперадзе, цікаваў за дарогаю, часта нокаў і нукаў, падганяючы каня, які не вельмі ахвотна ішоў па топкай гразюцы.

Марфа ж сядзела спіною да брата, не зводзячы вачэй са свае Лыскі...

Але яна не бачыла яе. У вачах туманілася ад слёз. Марфа ледзь стрымлівала сябе, каб не расплакацца. Саромелася Ігната.

Здавалася, яна развітвалася не з рагуляй, а з усім сваім жыццём.

...Як толькі яны пажаніліся з Андрэем і аддзяліліся ад бацькі, першым іх клопатам была карова. Хацелася набыць не абы-якую, а добрую. Каб і ў ядзе была неперабарлівая, і малака давала багата, і каб малако тое тлустым

ды смачным было. Перабралі ў думках усіх у вёсцы кароў, ад якіх можна было купіць цялёнка, і не прыйшлі да згоды. То шкадлівая, то малако сіняе, то доўга ў запуску ходзіць, то ялаўка часта бывае... Кончылася ўсё тым, што ў бліжэйшую нядзелю яны паехалі на кірмаш у Гасовічы. Там, праўда, доўга не выбіралі. Як убачыла Марфа цялушку чорную з белымі плямамі на баках і з зорачкаю на шырокім ілбе, так спынілася ля яе як укопаная, залюбавалася. А тая так даверліва глянула на жанчыну сваімі глыбокімі фіялетава-слівовымі вачыма, мыкнула і пысаю павярнулася да працягнутай рукі, нібы раптам пазнала сваю гаспадыню...

Удалая кароўка атрымалася з той цялушкі. А галоўнае, яна была свая. І, можа, толькі таму яе малако здавалася самым смачным. Нават малыя Сяргей і Толік тады ніколі іншага малака і ў рот не бралі. Бывала, пойдуць да бабы, тая пачне частаваць іх малачком, нізашто не возьмуць: «Не хочам, баба, дома напіліся...» Гэта ўжо ў вайну, пасля таго як немцы застрэлілі іх Лыску, яны пілі ўсялякае. Абы малако. А яна, Марфа, так і не змагла прывыкнуць да чужога. Наогул, без каровы і жыццё было не жыццё. Увесь час ад некага залежыш. Сама сабе не гаспадыня...

І таму адразу пасля вайны, як толькі вярнуўся з арміі Андрэй, яны яшчэ і хаты не паставілі, а цялёнка купілі. Між іншым, Марфа і не думала купляць карову якраз такой масці, як была да вайны. Па смаку малака выбрала. Паспрабавала малака, якое брала ў лесніка, калі ездзілі лес валіць на хату, спадабалася яно ёй. Захацелася ад той каровы купіць цялёнка.

Цялёнак аказаўся чорным з белымі плямамі на баках і з зорачкаю на лбе. Назвалі яго Лыскаю...

І ўжо ў хаце сваёй жылі, і парасёнка завялі, і за хлявом садок зазелянеў яшчэ лепшы, чым да вайны, але толькі пасля таго, як дачакаліся свайго малака, Марфа адчула, што мінулася ліхалецце, што нарэшце жыццё ўвайшло ў свае звычайныя берагі.

На трэцім годзе жыцця Лыска ацялілася.

А як цяжка было трымаць карову ў пасляваенныя гады. Тады ў калгасе яшчэ не сеялі канюшыну, травы, кукурузу. Толькі тое і сена было, што збівалі косамі на сухадольных лугах. Не сена, а красачкі. Смалянкі ды рамонкі. Калгасу не хапала сена...

Трэба было купіць Андрэю новае паліто, бо той шы-

нялёк, у якім ён вярнуўся з арміі, выцерся зусім, не грэў ужо. Але не паліто тады купілі, а сена для Лыскі. А Андрэй яшчэ цэлую зіму калаціўся ў тым шынельку. А зіма снежная ды марозная была. Можа, у тым шынельку ён і спіну застудзіў? Колькі жыў, столькі і кволіўся той спіной...

I ў хлопцаў з-за той каровы на ўсё лета хапала работы. Як канчалі школу, дык толькі і ведалі насіць траву. Ірвалі яе на ўзмежках, касілі на канавах паўз дарогу, на глухіх лясных палянках. I яна, Марфа, кожны раз, як ішла з поля, заўсёды мяшок травы несла на сабе. А можа, і добра, што ўсёй сям'ёй рабілі на карову? Хоць ведалі дзеці, як давалася тое малачко. Праз карову пазналі і працу на зямлі яны. Гэта цяпер унукі думаюць, што малачко тое бяжыць з краніка. Прыедуць да яе ў госці, дык кожны вечар, як толькі яна сядзе даіць Лыску, павыходзяць з корчыкамі і чакаюць цёпленькага сырадойчыку. I ні адно з іх не пацікавілася, як дастаецца той сырадойчык...

I Лыска старалася аддзякаваць за клопаты ўсім. Багата давала малака. Хапала дома, ды яшчэ і дзяржаве заставалася. Кожны дзень па тры літры насіла на прыёмны пункт.

Але не толькі за малачко ў іх сям'і любілі карову. Любілі, што яна была ціхая, паслухмяная, прыгожая. Ведала ўсіх сваіх. Бывала, хто з іх сям'і ідзе міма чарады, убачыць Лыска і абавязкова мыкне ўслед. А аднойчы Андрэй ішоў дамоў з Прудоўкі, а статак якраз пасвіўся на ржышчы ля самага шляху, угледзела яго Лыска і прыбегла за ім дамоў.

Вечарамі, калі Марфа даіла карову, Андрэй часта чухаў у Лыскі за вушамі. Той гэта так падабалася, што яна аж выцягвала шыю, замірала, пераставала церці сваю жвачку.

Кожны раз, як выходзіў у двор Андрэй, Лыска падыходзіла да яго, штурхала яго пысай.

I калі тая пасляваенная Лыска пастарэла, знягеглела, ад яе вырасцілі цялушку, якую зноў назвалі Лыскай. Яна была таксама чорнай, з белымі плямамі на баку, з зорачкай на лбе.

Апошняя была самая ўдалая кароўка з траіх. I тлустае малако было, і давала багата. Хаця гэтую Лыску і кармілі не так, як папярэдніх. Тыя ж ніколі і пойла добрага ў вочы не бачылі. А гэтай ужо і бульбы ўволю было, і мукі, і хлеба. Спраўная была кароўка. Здавалася, ёй і зносу не

будзе. Думалася, што яшчэ доўга яна пажыве. Таму і не пакінулі ад яе цялушачку ў свой час. А летась яна бычка прынесла. А гэтым летам зусім засталася ялаўкаю...

І як жа цяпер жыць без каровы?

Каб не гэтая Лыска, Марфа б даўно не жыла ў вёсцы, паехала б да якога сына.

Памёр муж, дзеці раз'ехаліся, але яна ніколі не адчувала сябе адзінокай, бо ў яе была Лыска. Бывала, няма доўга пісьмаў ад хлопцаў, надумаешся ўсялякага, а выйдзеш у двор, сустрэне цябе Лыска глыбокімі фіялетава-слівовымі вачыма, уздыхне, глядзіш, і цяжар з сэрца здыме.

А цяпер...

Не будзе каровы, дык і дзеці не паедуць у вёску. Яны звычайна як толькі ў двор, дык пра яе, маці, здароўе не заўсёды спытаюцца, а вось пра Лыску ніколі не забывалі пацікавіцца.

Хаця і цяпер яшчэ можна купіць карову. Усё будзе залежаць ад таго, колькі грошай за гэту дадуць. Ды дабавіць крыху. Казалі, у Гасовічах часта кароў прадаюць. З сенам становіцца цяжэй і цяжэй, вось людзі і збываюць кароў...

Паглядваючы на сваю любіміцу цяпер і потым, калі Лыску ўзважвалі, аглядалі, выпісвалі нейкія паперы, Марфа ўжо меней думала пра старую Лыску, з якой развіталася назаўсёды, а болей пра тую, якую неўзабаве набудзе. Гэтая надзея цешыла і супакойвала яе. А калі Марфа распісалася ў ведамасці насупроць такой лічбы, пра якую яна баялася і падумаць, і потым атрымала цэлы пучок грошай, яна канчаткова паверыла, што без каровы не застанецца.

— А навошта яна табе? — спытаў Ігнат, калі Марфа па дарозе назад сказала, што за такія грошы, відаць, няцяжка будзе купіць якую першацёлку.— Я ж табе казаў... Навошта яна табе адной? Цяпер так цяжка з кармамі. Сена мала. А дзе яго купіш? А ў цябе ж і здароўе не тое, каб карову трымаць. Адной вады колькі трэба папаіць. Пажыві ты спакойна, скажу табе. А якая травіна завядзецца на плану, дык я забяру, а малаком аддам. І купляць не трэба будзе.

— Мне адной і літра багата,— сказала Марфа.— Хіба калі дзеці прыедуць.

— А прыедуць, дык і болей дадзім. Без малака сядзець не будзеш,— запэўніў яе Ігнат.

— А бывала ж, сяду даіць, унучкі ўжо з корчыкамі і стаяць, чакаюць сырадойчыку,— чмыхнула носам Марфа.

— Прынясём табе і сырадойчыку,— сказаў неяк раздражнена Ігнат і нецярпліва нокнуў на каня. Яму, відаць, пачыналі знадаядаць гэтыя перажыванні па карове, якіх ён не разумеў, ды і не мог зразумець: карова ніколі не займала таго месца ў яго жыцці, як у Марфы. Ён сам, вядома, любіў малако, асабліва сыраквашу, але карову ніколі не даіў і не даглядаў.— Хіба тут далёка? Праз вуліцу перайсці не паспее і прастынуць. А то могуць твае ўнукі і да нас прыйсці напіцца. Таго малака, асабліва ўлетку, як вады. Так што, Марфа, не журыся.

— Я не журуся,— сказала Марфа і болей ужо за ўсю дарогу ні разу не загаварыла пра карову: пад уплывам брата і не думала пра сваю страту з ранейшай скрухай.

Але калі яна зайшла ў свой двор і ўбачыла вядро з недапітым пойлам — «І пойлачка ж яна болей сваё не дап'е!» — а ў хаце на століку гладыш з малаком — «Гэта ж яе апошняе малачко»,— ёй раптам так стала шкада сябе, такую адзінокую, што яна не стрывала, дала волю слязам. Як была ў целагрэйцы, цёплай хустцы і ў цяжкіх гумавіках, так упала ніцма на канапу, гучна, нястрымна ўсхліпваючы. Але хутка сцішылася і які час няцямна ляжала, а потым і не заўважыла, як заснула. Можа б, так праспала і да вечара, а можа б, і ўсю ноч, каб не зайшла ў хату Люба.

— Ты што гэта спіш? — спынілася яна ў дзвярах.— А што ноччу будзеш рабіць?

— Думала, прылягу, ды во і заснула,— Марфа села на канапе, разапнула цёплую хустку.

— А я сырадойчыку прынесла...

— Хіба вечар ужо? — глянула Марфа на ходзікі, што віселі ў яе над канапай.— Багата ж праспала.

Пагаварыўшы з Любаю, супакоілася... Адвяла сваю Лыску, то цяпер не трэба бегаць у хлеў, турбавацца, як яна там, есць сена ці не. Ды і малако ад Любінай каровы не горшае, чым ад яе Лыскі. Прынёсшы на ноч свежае вады з калодзежа — сабе яна брала заўсёды ваду ў калодзежы, а не з водаразборнай калонкі, дзе тая пахла жалезам і была рыжая,— павячэраўшы, зноў лягла спаць. Заснула хутка і праспала доўга.

Відаць, далі сабе адчуць апошнія недаспаныя ночы, перажыванні за Лыску.

Але на самым досвітку ці ёй прыснілася, ці пачулася

праз сон, быццам бы ў двары мыкнула яе карова. Яна расплюшчыла вочы і прыслухалася. Было ціха. Падумала, што гэта ёй падалося, перавярнулася на другі бок. І зноў пачулася, як мыкнула Лыска. Марфа прыўзнялася на локці, напружана прыслухоўваючыся. І зноў нібы мыкнула карова. Ці, можа, той ранейшы гук усё яшчэ стаяў у вушах? А можа, уцякла яе Лыска з бойні і прыбегла дамоў? Марфа паднялася, прынікла да акна на вуліцу. Хаця там трымалася ранішняя шэрасць, але добра было відаць, што ля двара няма ніякай каровы. Не, відаць, ёй проста тое мыканне прыснілася. Гавораць жа, што некаторым не такія сны, як усім, сняцца, а гукі. Марфа толькі вярнулася да ложка, прысела, не паспела і прылегчы, як зноў на гэты раз ужо выразна пачулася мыканне. Ёй аж жудасна стала ад гэтага гуку. Сядзела і баялася паварушыцца. Сядзела доўга, аж ногі босыя закляклі. Зноў мыкнула карова. Марфа апранулася і выйшла ў двор. Пастаяла, прыслухоўваючыся. Потым выйшла на вуліцу. І на вуліцы было ціха. І толькі ўжо сабралася вярнуцца назад у двор, як пачула выразнае мыканне. Пайшла на гук. Заглянула праз шчыліну ў шчыкеце ў двор да суседа. Сярод двара стаяла карова і, не зводзячы вачэй з акна на кухню, зрэдку нецярпліва мыкала.

Марфа вярнулася ў двор, спынілася, не ведаючы, што рабіць. Яна прывыкла, што ў гэты час заўсёды карміла, паіла карову, даіла яе, запальвала ў печы. А цяпер нічога гэтага не трэба было рабіць, можна было пайсці і некалькі гадзін паспаць. Ды спаць не хацелася...

У бліжэйшую нядзелю яшчэ прыцемкамі Марфа выйшла са свайго двара і падалася ў канец вуліцы, а потым і на шлях, спадзеючыся ўспець на самы першы аўтобус на Гасовічы.

Хацелася трапіць на кірмаш як мага раней. А раптам хто будзе прадаваць карову ці цялушку, чорную, з белымі плямамі на баках і абавязкова з зорачкаю на лбе.

## ЛАСТАЎКІ

Марфа прачнулася сярод начы. Апошнім часам яна наогул мала спала. Звечара засынала хутка, а на досвітку заўсёды прачыналася. Ляжала, прыслухоўвалася да гарадскога шуму, які спачатку даносіўся гулам асобных машын ці тахканнем па рэйках цяжкога таварняка — недалёка

ад дома была чыгунка,— а пазней зліваўся ў агульны гул, які ўдзень нават і не ўспрымаўся. Як і не было яго.

У гэтую ж ноч у яе не хапіла сну да раніцы.

Ці яе разбудзіў сакавіцкі дождж, які церушыў з самага вечара і сваім шапаткім пошумам нават наводзіў дрымоту, супакойваў, а цяпер, калі вецер павярнуў у акно, барабаніў па шыбах, асабліва гучна па блясе пад акном, нібы хто сыпаў на яе дробныя дзічкі?

Ці, можа, яе так узрушыла тое, што яна сасніла? Прыснілася было ёй, што яна стаіць на пероне вакзала і чакае поезда, якім сабралася ехаць да сябе ў вёску, дамоў. І вось падышоў поезд. Усе пачалі лезці ў вагоны. А яна ўсё стаіць як акамянелая. Спахапілася толькі тады, калі міма паплылі зялёныя вагоны з запыленымі вокнамі. Замест таго каб ускочыць на самыя блізкія да яе падножкі, яна кінулася даганяць іменна той вагон, у якім павінна была ехаць. Патрэбныя падножкі ўсё аддаляліся і аддаляліся. І вось ужо апошні вагон, гойдаючыся ў бакі на хісткіх колах, прагрукацеў міма. А яна ўсё бегла за тым поездам, хаця і ведала, што ўжо ніколі не дагоніць яго, што трэба б спыніцца; яна нават і хацела спыніцца, але не магла: ногі самі беглі, не слухаліся, хаця апошнія сілы пакідалі яе. Не хапала дыхання, сэрца аж захлыналася, а яна ўсё бегла і бегла. З неверагоднай хуткасцю, што і разгледзець нельга, ляцелі назад дамы, прысады, аўтобусы, скверы, калгасныя фермы — і ўсё такое знявечанае, скрыўленае, нібы за пагнутым шклом... І калі ўжо ніякіх сіл не было бегчы далей, яна ўспомніла, што спіць, што трэба зараз жа прачнуцца.

І прачнулася. Сэрца як не выляціць з грудзей, не хапае паветра, ногі як хто выкручвае, так баляць у касцях.

Можа, ад болі ў нагах і ўбачыўся ёй такі сон?

Яна паднялася, прытрымліваючыся за спінкі крэслаў, за стол, падышла да акна, адкрыла фортку. Разам з лапаценнем дажджу і цяжкім гулам блізкай электрычкі ў пакой уварваўся пранізліва халодны струмень паветра, прапахлы нечым да шчымлівасці знаёмым, быццам бы размакрэлай саламянай страхой ці мокрымі трэскамі, што звычайна гніюць, перамешаныя з зямлёй, ля калодкі сярод двара.

Марфа аж уздрыганулася ад нечаканай зябкасці, прычыніла фортку, залезла пад утульна нагрэтую коўдру.

Дыхаць стала вальней, і сэрца ў грудзях прыкметна паспакайнела.

А можа, у яе такі неспакой за свайго меншага сына Ігара?

Учора, прыехаўшы з санаторыя, ён прыйшоў да іх у адведкі. Сяргей, яго жонка Лія ды і яна сама ў адзін голас гаварылі яму, што ён памаладзеў, патлусцеў, павесялеў з твару. І Ігар, здаецца, верыў ім, радаваўся, як малое дзіця. А яны ж усе бачылі, што ён за апошні месяц яшчэ болей зжаўцеў, яшчэ болей завастрыўся яго нос. Гарнітур, які раней на ім сядзеў як уліты, цяпер быў як на коліку.

А можа, ёй запала тая гаворка пра жыццё-быццё з адной старой, з якой выпадкова яна пазнаёмілася ўчора?

Учора з самай раніцы было такое па-вясенняму цёплае сонца, што Марфа, адчуўшы раптам сум па свайму, вясковаму, не вытрывала, не ўседзела ў кватэры. Пастаяла ля пад'езда, абышла навокал дома і, угледзеўшы за цаглянымі гмахамі вузкую, як вясковая, вуліцу з драўлянымі домікамі за пазелянелымі шчыкетамі, скіравала туды. Тут былі амаль якраз такія ж шчыкетнікі, як і ў яе вёсцы, толькі вышэйшыя і шчыльнейшыя. За імі раслі такія ж яблыні і вішні. Яны радавалі яе тым, што звісалі цераз агароджу на вуліцу. Іх голле было абвешана празрыстымі, ззяючымі на сонцы кроплямі расы. Марфе здавалася, што і людзі ў гэтых прыціхлых і на выгляд такіх санлівых доміках такія ж спакойныя, не мітуслівыя, як і ў вёсцы. Яна прадыбала праз усю вулачку і не ўбачыла ніводнага чалавека, не пачула ніводнага вясковага гуку. Як вымерла ўсё.

У канцы вулачкі за высокімі цаглянымі дамамі віднеліся вялікія дрэвы, нібы там быў які парк. Марфе захацелася паглядзець той парк. Калі яна праходзіла міма апошняга дома, то ў акне другога паверха раптам убачыла старую жанчыну ў белай хустачцы, завязанай якраз так, як звычайна завязвалі старыя ў іх вёсцы, як насіла і яна, Марфа,— зверху будачкай, а пад падбародкам лёгкім, расслабленым вузлом.

Марфа спынілася, пільней паглядзела ў акно, старая падалася нібы знаёмай. Позіркі іх сустрэліся. Старая ў акне ўсміхнулася бяззубым ротам. І твар яе ад той усмешкі яшчэ болей зморшчыніўся. Марфа таксама ўсміхнулася. Старая махнула ёй рукой, маўляў, пачакай, і знікла. Марфа пайшла да пад'езда. І сапраўды хутка тая незнаёмая, накінуўшы на плечы ружовае паліто з выцертым каракулевым чорным каўняром,— такія паліто былі ў модзе, можа, гадоў дваццаць таму назад,— выйшла ёй насустрач.

— Вы, можа, чаго хацелі? — спытала яна ў Марфы,

захінаючы паліто на грудзях худымі з набраклымі венамі рукамі.

— Ды не,— разгубілася Марфа.— Мне падалося, што вы мяне звалі. Падумала, мо трэба што...

— Ды не,— прашамкала тая.— Бачу, вы гледзіце ў акно, думаю, можа, хто з нашай вёскі, што мяне пазнаў. Падумала на нашу Маланку. У калідоры ўжо ўспомніла, што памерла яна.

— А я, калі ўбачыла вас, падумала: ну во яшчэ гаротніца адна.

— А чаму ж гаротніца? — спытала незнаёмая.— Можа, вам цяжка тут?

— Якраз лёгка. Нават вельмі лёгка,— усміхнулася Марфа.— Рабіць нічога не даюць. Хіба талерку якую памыеш. А так і купяць, і прынясуць, і наварацЬ. Нявестка затрымаецца, сын наварыць. Дрэнна толькі, што адна і адна... А яны ж усё бегаюць, нешта робяць. Усё ім мала, ці што...

— Ой, маўчы, дзеўка,— прызналася старая, як даўно знаёмай, адкрыта і шчыра.— У маіх таксама ўсё ёсць. Жыць бы толькі. А жыць не ўмеюць. І некалі ім жыць. Усё бягуць і бягуць. А я як лішняя. Яны клапоцяцца пра мяне, гаварыць няпраўды не буду, але яны жывуць сабе, а я сабе. Як той кот. Усё бачу, але нічога не разумею...

— Ой, праўда ж ваша... У мяне тое ж самае. Нібы і свае, але як чужыя. Жывуць так, як я і не ўмею. І не хочацца... Іншы раз думаю, ці варта было дваццаць гадоў вучыцца, каб так жыць? Ніякай жа жызні. Уранку трах-бах, і пабеглі. А ўвечары сабяруцца, павячэраюць абы-як, папрыліпаюць да тэлевізара ці да кніжак. Ім жа некалі і пагаварыць адзін з адным. А можа, і няма пра што, бог іх ведае. Няхай мы рабілі ад цямна да цямна, свету божага не бачылі, а і то ў нядзелю збяромся, пасядзім, нагаворымся. Паспяваем. А яны ж... Я думала, у горадзе жыццё лягчэйшае, аж не. Мітусня адна.

— Ой, слухай жа, дзеўка,— аж узмахнула ад узбуджанасці рукамі старая.— Мае ж таксама. Не жывуць, а навыперадкі бегаюць. У нядзелю за сталом сабяруцца, вып'юць, і то не гуляюць, а работаюць. Той таго паважае, той таго не паважае, таго пара павысіць, а таго пара на пенсію, таму трэба галаву на месца паставіць, а таго трэба спыніць, пакуль не позна... І так да самага вечара. Слухаеш, слухаеш, анічога путнага так і не пачуеш. Толькі галава разбаліцца.

— А мае ж таксама,— шчыравала і Марфа.— Як збяруцца, толькі і чуеш: той напісаў так, а той гэтак. Сядзіш іншы раз і думаеш: вучыліся вы, дзеткі, вучыліся, а нічому дзельнаму так і не навучыліся. Не набраліся розуму, не. Можа, яно і грэх так думаць, але ж думаецца, прасці госпадзі...

— Што бесталковыя, то бесталковыя,— пагаджалася незнаёмая.— Мая ж накупляе мяса, натопча поўны халадзільнік. Яно вымерзне, высахне. Смаку ніякага. Лень жа зайсці ў магазін, свежанькага купіць. А хлебам як кідаюцца? Ачарсцвеў трохі — усё. Ужо не ядзяць. Толькі мяккі давай. А пачнеш гаварыць, як некалі хлеб берагі, крошкі са стала змяталі, смяюцца. Адышлі, кажуць, тыя времена. Савы смалянай не бачылі, я скажу. Каб хлеб ужо не берагчы... Распуста гэта. Пры чым тут времена? Хлеб жа заўсёды хлеб. Пот наш і мазалі нашы...— яна задумалася ў нейкім засяроджаным засмучэнні, а потым спытала зусім пра іншае: — А ўлетку дзе вы жывяце?

— Я заўсёды дома жыла. Гэта толькі першую зіму ў сына. Хутка зноў паеду дамоў. У мяне ж там хатка, садок, зямелька...

— І гаспадарка, можа, якая, а? — не без зайздрасці спытала старая.

— І гаспадарка. Каровы няма, праўда, а куры ёсць. Брат іх там корміць... У нас жа і газ у вёсцы. Прыродны. Хто правёў, дык нігадкі. Паеду, калі можна, то і я правяду. Гэта ж ні дровы не трэба, ні печ паліць не трэба. Калі правядуць і мне газ, застануся на зіму там, нікуды не паеду,— і, раптам заўважыўшы, што твар у старой неяк размаркоціўся, Марфа замаўчала.

— А я сваю хатку прадала,— усхліпнула незнаёмая.— І не хацела ж. Дык сын — давай прадавайся, нечага табе тут сядзець. За адзін дзень усё прадаў, вузлы ў машыну і сюды. Яно і праўда, мне там адной нечага рабіць. Але няхай бы хатка стаяла. А ён за тыя грошы машыну купіў. Цяпер і хаты няма, і машына пранцом стаіць. Некалі яму ездзіць. На рабоце казённая...

— А яно і цяжка адной,— захацелася Марфе супакоіць старую.— А тут усё ж не адна і на ўсім гатовым.

— Не, каб хатка была, улетку з'ездзіла б паглядзела. А то як лета, у бальніцу...— і старая, саромеючыся сваіх слёз, хуценька змахнула іх з вачэй рукою.

— А чаму ж не падлячыцца?

— Каб жа лячыцца,— уздыхнула старая.— Яны ж

улетку дома не сядзяць. То ў камандзіроўкі, у экспедыцыі, то на курорты. А мяне ў бальніцу. Канешне, там і накормяць, і дагледзяць. І пілюлі дадуць.

— Але ж сярод хворых,— Марфа не магла зразумець, як гэта практычна здароваму чалавеку класціся ў бальніцу.

— Я ж там, дзеўка, не адна такая. Нас цэлае обшчаства.

— І лячэнне нейкае,— больш нічым не магла супакоіць старую Марфа, абураная такімі адносінамі дзяцей да свае маці. Яна б, можа, потым і выказала сваё абурэнне, але раптам амаль бясшумна падкацілася чорная «Волга». З яе выйшаў высокі, у капелюшы і плашчы мужчына і, убачыўшы сваю маці ля пад'езда, уладным басам спытаў:

— Ты гатова, мама?

— Гатова, гатова, сынок,— і яна, не развітаўшыся з Марфай, шмыганула ў пад'езд, паспяшалася за сваімі рэчамі.

Пасля сустрэчы з незнаёмай старой, вярнуўшыся дамоў, Марфа доўга думала пра сваё жыццё. Можа, і яна, як тая старая, абцяжарвае сваіх дзяцей? Можа, і яна тут таксама лішняя? Можа, ёй настаў час памерці? Яна заўсёды, асабліва цяпер, без усялякага страху думала пра смерць. Яна хацела памерці толькі пасля таго як вельмі надакучыць дзецям, каб ім лягчэй было перажыць страту. А можа, яна ўжо і надакучыла ім?.. Але ж зусім не абавязкова паміраць, каб вызваліць іх ад сябе. Можна проста паехаць у вёску і жыць у сваёй хаце, якую, слава богу, не прадалі. Але ад думкі, што яна не трэба дзецям, што яна надакучыла ім, ёй рабілася сумна, з'яўлялася абыякавасць да ўсяго, нават да самога жыцця. І яна адчувала, што ёй зусім не хочацца падымацца есці, нешта рабіць у кватэры. Ляжаць бы вось так цэлы дзень і не рухацца.

Пранізліва на ўсю кватэру заверашчаў будзільнік.

Не паспеў ён аціхнуць, як усе пакоі напоўніліся тупаценнем ног. Нехта скакаў на месцы: рабіў зарадку, нехта пратупаў у туалет, нявестка зайшла на кухню, загудзела кранам — налівала чайнік. Потым заглянула ў пакой да яе, спытала:

— Як ты тут? — і, не дачакаўшыся адказу, знікла.

А потым заглянуў і Сяргей:

— Як ты тут, мама?

— Ды нічога, сынку,— пастаралася як мага весялей адказаць Марфа.

— А то Лія казала, чула, як ты ноччу стагнала...

— Можа, сон які сніўся,— усміхнулася Марфа.

— Ну, добра, калі добра,— і Сяргей зачыніў дзверы.

А потым чуліся каманды Ліі. Яна звычайна, пасля таго як ставіла чайнік, садзілася перад трыльяжом, чапурылася, расчэсвалася, фарбавалася, наводзіла цені над вачыма і камандавала.

— Сяргей, выключы чайнік! — крычала яна мужу.

— Светачка, дастань кефір з халадзільніка, хай грэецца,— загадвала дачцэ.

— Алачка, вынесі вядро! Учора ж прасіла вынесці,— упікала меншую.

Потым усе збіраліся на кухні, пілі чай, таропка шасталі ў калідоры плашчамі.

— Ну, бывай! — крыкнуў ёй з калідора Сяргей.

— Мы пайшлі, мама,— у дзвярах паказалася галава нявесткі.— Снеданне на стале.

Заглянулі і пажадалі ёй здароўя і ўнучкі.

«Ці не адчуваюць яны чаго, што раптам такія ўважлівыя? — падумала Марфа.— Можа, я і ўпраўду вельмі стагнала ноччу, што яны такія ўстрывожаныя?»

Ранішняя мітусня заўсёды стамляла Марфу, выводзіла яе з душэўнай раўнавагі, бо іменна раніцай, калі ўсе былі так занятыя сваім, яна адчувала сябе зусім лішняй не толькі ў кватэры сына, а наогул у гэтым гарадскім жыцці, якога яна не разумела, ды і не магла зразумець. І ёй кожны раз, як усе разыходзіліся, нейкі час трэба было паляжаць ці пасядзець, каб крыху ачомацца, адчуць сябе не лішняй у нечакана ацішэлай да нематы кватэры.

Потым яна мыла на кухні посуд, ставіла ў залі на месцы крэслы, а то і насцелі засцілала — часам іх забывалі засцілаць, асабліва ўнучкі,— і толькі потым ледзь не пад самы абед садзілася піць чай.

Але сёння ёй зусім не хацелася падымацца...

Ляжала і думала пра ўчарашнюю гаворку з незнаёмай старой, пра свайго меншага хворага сына Ігара, пра свае начныя сны...

«А можа, і мяне надумаліся адправіць у бальніцу, што ўсю раніцу так цікавіліся здароўем? — апаліла яе нечаканая думка.— А чаму б і не, калі такая мода цяпер у горадзе?»

І Марфа ўспомніла, як, здаецца, пазаўчора, а можа, і

раней, сын з жонкаю за вячэрай завялі гаворку пра нейкую фальклорную экспедыцыю, куды павінен быў ехаць Сяргей разам са сваімі вучнямі. Калі пра гэта пачула Лія, яна сказала, што ў такім выпадку яна з дзецьмі едзе ў Крым. Марфа тады не надала асаблівага значэння той гаворцы, адразу ж і забылася пра яе, а вось цяпер тая гаворка пра экспедыцыю ў яе свядомасці міжвольна спалучалася з сённяшняй цікавасцю да яе здароўя і бальніцай. Не, не можа быць, каб яе хацелі адправіць у бальніцу. Сяргей і Лія ведаюць, што яна ў іх жыве толькі да вясны, а потым едзе ў сваю вёску... Так дамовіліся яшчэ з восені.

«Ой, дурная баба, надумаецца абы-што і перажывае»,— Марфа села на ложку, намацала нагамі тапачкі, абапіраючыся рукамі, паднялася, і раптам падлога і сцены паплылі некуды ўбок, і каб яна не плюхнулася на канапу, то і не ўтрымалася б на нагах.

«Ой, дзеткі, ці не наклікалі вы мне хваробу?» — падумала Марфа. Яна сядзела і прыслухоўвалася да сябе. Не, здаецца, нідзе нічога не балела. У галаве не кружылася. Можа, у яе гэта ад таго, што сёння недаспала?

Крыху паляжаўшы, зноў паспрабавала падняцца. Але зноў закружылася ў галаве, на гэты раз яшчэ мацней.

Марфа прылегла, накрылася коўдрай. «Добра б паспаць, можа б, і прайшло»,— падумала. Ляжала доўга, прыслухоўваючыся да сябе. Нарэшце задрамала.

Калі пазваніла Алачка, вяртаючыся са школы, спрасоння Марфа і не зразумела, звоняць у дзверы ці па тэлефоне ці заверашчаў будзільнік. Алачка пазваніла яшчэ. Марфа паднялася, хутка пайшла да дзвярэй. Адчыніла. Паспяшалася назад. Але не паспела. Закружылася галава. Ногі сталі як не свае. Не слухаліся зусім. Трымаючыся за сцяну, ледзь дабралася да канапы.

— Ты захварэла? — забягаючы наперад, спытала Алачка.

— Ды не, дзетка,— адказала Марфа.

— Галава баліць? — не адставала малая.

— Трохі баліць, дзетка. А ты, унучачка, распранайся, распранайся, на мяне не глядзі. Стамілася трохі. Але я паляжу во трохі, яно і пройдзе.

Але Алачка не стала распранацца, а адразу ж кінулася да тэлефона. Марфа не паспела ўсвядоміць, што яна там у калідоры робіць, як пачула яе ўстрывожаны галасок:

— Тата? Гэта я. Бабушка кажа, што ў яе галава баліць... Ляжыць. Кажа, трошкі... За сцяну трымалася, калі

ішла. Ну добра,— і бразнула трубкай, паклаўшы яе. Яна заўсёды неахайна клала тую трубку. Ёй колькі разоў пра гэта гаварылі і бацька і маці, але ўсё роўна не можа адвучыцца.

— Навошта ж пазваніла? — сказала ёй Марфа.— Я ж не прасіла. У мяне ж не баліць галава. Толькі татку патурбавала дарэмна.

— А татка раніцай мне сказаў, каб пазваніла, калі ты захварэеш,— адказала Алачка.— Ён прывязе ўрача, урач выпіша лякарства, і твая галава не будзе балець. Я зараз, бабулька, памыю рукі і падыду да цябе...

— Добра, добра,— і яна цёплым паглядам праводзіла малую.

А хутка, можа, праз якую паўгадзіну, прыехаў Сяргей разам з урачом. Урач быў у белым халаце, высокі, лысаваты, з дробнай галавой, абцяжаранай доўгім носам. Гэты нос надаваў твару выраз сумнай задумлівасці. Урач не стаў глядзець хворую, сеў ля канапы на крэсла, якое падаў яму Сяргей, спытаў:

— На што скардзімся? Расказвайце,— і ён, закінуўшы нага на нагу, пачаў разглядаць пакой, паліцы з кнігамі. Марфа маўчала, чакала, пакуль ён усё разгледзіць і пачне слухаць.

— Я слухаю, слухаю,— напомніў ён пра сябе.

— Нічога не баліць у мяне. Раніцай паднялася, дык крыху закружылася ў галаве. А калі ляжу, нічога...

— А раней было? — цяпер урач глянуў на хворую.

— Здаецца, не.

— Дайце руку,— ён памацаў пульс.— Тэмпературы ў вас няма.

— Ноччу стагнала вельмі,— сказаў Сяргей, які стаяў у дзвярах.— Я, праўда, не чуў. Спаў. Жонка глядзела. А раней ніколі не стагнала. Ва ўсякім разе, ніхто не чуў. Ну, мы ўсе сёння і насцярожыліся. Алачцы сказаў, каб адразу пазваніла, як што заўважыць. Яна і пазваніла. Цяпер грып ходзіць... Ведаеце, у такім узросце...

— Значыцца, вы ўвесь час жылі ў вёсцы? — ветліва выслухаўшы Сяргея, спытаў урач.

— Жыла,— замест маці адказаў Сяргей.— Першы раз на зіму прывезлі сюды. Яна ж там адна жыла, часам абедаць забывалася. Схуднела зусім. А тут усё ж нейкі рэжым. Яна папраўілася...

— Вы там працавалі? — звярнуўся ўрач да Марфы.

— Усё ўрэмя. Пакуль і сюды прыехала,— сказала

Марфа.— Там жа ў мяне і куры, і парсюк яшчэ быў, і карова была. Агарод... Дык дзень і пратопчашся. Праўда, у калгас ужо не хадзіла, а дома... А тут зусім нечага рабіць.

— Ясна,— задумаўся ўрач.

— Мы яе тут вызвалілі ад усяго,— заявіў Сяргей.— Нарабілася за жыццё, хай адпачне.

— Значыцца, тут адпачываем, як кажа ваш сын? — зноў спытаў у яе ўрач.

— Ем ды ляжу. Хату і тую не даюць падмесці...

— Гэта ўваходзіць у абавязкі малодшай дачкі,— удакладніў Сяргей, каб раптам урач не падумаў, што тут, можа, не давяраюць старой.— Я ж кажу, мы яе вызвалілі ад усялякіх нагрузак.

— Праявілі, так сказаць, клопат,— неяк скептычна ўсміхнуўся адным тонкімі вуснамі ўрач, папрасіў Марфу: — Вы сесці можаце? То сядзьце, калі ласка.

Урач паслухаў яе дыханне, сэрца, змераў ціск, доўга хаваў свае прылады ў доўгую чорную скрыначку, зацята маўчаў.

— Ну што? — не вытрываў Сяргей.

— Вы выпадкова нічога цяжкага не рабілі ўчора, пазаўчора? Можа, багата хадзілі? Дзе былі на скразнячку? — урач нібы і не чуў, пра што ў яго спытаў Сяргей.

— Учора хадзіла.

— І багата?

— Вакол дома, потым па вуліцы. Ля аднаго дома стаяла, пагаварыла там з адной. К абеду прыйшла дамоў...

— А гадзіны тры, відаць, прахадзіла,— абурана сказаў Сяргей.

— Я ж і стаяла, калі гаварыла. Цёпла было, сонейка.— Марфа глянула на сына, нібы хацела сказаць яму, што ён дарэмна гаворыць такое.

— Грыпу няма,— урач падняўся, падсунуў крэсла да стала, падрыхтаваўся пісаць.— Трэба падтрымаць сэрца. У вёсцы яна багата працавала, а тут раптам спакой, добрае харчаванне. Павялічылася вага цела, павялічылася нагрузка на сэрца. Учора крыху болей пахадзіла, вось і рэакцыя... Не выключана, што і скразнячком трохі праняло, хаця пакуль не бачу якіх-небудзь анамалій прастуднага характару. Можа, яны праявяцца потым, а пакуль не бачу... Галоўная ж прычына — рэзкая перамена ўмоў жыцця. У такім узросце такое не праходзіць бясследна.

— І ёсць хвароба, і няма хваробы,— усміхнуўся Сяргей.

— Сэрца неабходна падмацаваць,— паглядзеў уважліва ўрач на Сяргея.— Я вось толькі думаю, дома ці, можа, у бальніцы.

— А дзе лепей? — спытаў Сяргей.

— Канешне ж, на стацыянары,— усміхнуўся ўрач наіўнасці пытання.— Там яна будзе пад наглядам урачоў. Рэжым, лячэбная фізкультура...

— Толькі не ў бальніцу,— рашуча запратэставала Марфа, успомніўшы ўчарашнюю сустрэчу з той незнаёмай старой.— Не, не, толькі не ў бальніцу!

— А чаму б не падлячыцца? — Сяргей не разумеў маці.

— Не, не, толькі не ў бальніцу! — стаяла яна на сваім.

— Думаеш, там дрэнна, ці што? — Сяргея аж злавала такая рашучасць маці.

Марфа зноў падумала, ці не захацеў сын сапраўды адправіць яе ў бальніцу, што так нервуецца.

— Пакуль ёсць магчымасць падлячыцца, трэба падлячыцца,— даводзіў сваё Сяргей.— Якраз і падлечышся, пакуль ехаць бульбу саджаць. А не паспееш, там ёсць каму пасадзіць. Усё роўна сама нічога не зробіш у такім стане. Ды ў такім стане я цябе не пушчу ў вёску. Хай агарод той гарам гарыць.

— Што будзем рабіць? — звярнуўся ўрач да абаіх.

— Калі трэба лячыцца, дык трэба лячыцца,— гарачыўся Сяргей.— Яна ж ніколі ў жыцці сур'ёзна не лячылася. Калі і хварэла, дык хврэла на нагах. Усё некалі было. На работу ў калгас з тэмпературай хадзіла. Вось і сэрца...

«Не, здаецца, сын па-сапраўднаму хвалюецца за маё здароўе»,— падумала Марфа і не без спагады сказала:

— Я ж, сынку, сярод хворых там зусім звяну. Няхай дохтар выпіша якія таблеткі, я іх вып'ю, каб у дарозе не зваліцца. Лепш, сынку, дамоў паеду, чым у бальніцу.

— Што ты заладзіла: дамоў, дамоў,— забегаў па пакоі Сяргей, а потым спыніўся перад маці, нахіліўся да яе: — Табе што, тут дрэнна? Яда ўсялякая. Еш што хочаш. Рабіць нічога не трэба. Жыві. А цёпла стане, тады і паедзеш...

Урач пасядзеў яшчэ трохі моўчкі, потым схаваў паперкі свае, глянуў на ручны гадзіннік, падняўся, кінуў позірк на Марфу, на Сяргея.

— Вось што, лекаў ніякіх я выпісваць не буду. У вас валяр'янка ёсць? Па чайнай лыжцы на ноч і раніцай.

І прагулкі. Толькі без перагрузкі. Дні праз тры загляну. Стане лепей, паедзеце ў сваю вёску. Калі не, то, можа, і ў бальніцу прыйдзецца забраць.— Ён развітаўся з Марфай, выйшаў. Марфа чула, як ён у калідоры гаварыў Сяргею: — Разумееце, Андрэевіч, чалавека вырвалі з прывычнага асяроддзя. Ёй цяжка перамяніцца, прыжыцца тут. Можа, яна і наогул не зможа прывыкнуць да горада. У вёсцы прывычны рытм жыцця, прывычныя клопаты. Паверце, ёй там будзе лепей. У мяне не першая такая пацыентка. Канешне, трэба зрабіць усё, каб яна не адчувала сябе там адзінокай, пакінутай. Часцей трэба ездзіць туды...

— Час не заўсёды ёсць, ды і далёка,— сказаў Сяргей.

— Канешне, далёка, канешне, часу ў нас ва ўсіх мала,— у голасе прагучала прыхаванае абурэнне.— Але трэба. Яны нас парасцілі, так што заслужылі такую ўвагу да сябе. Ну, бывайце!..

— Чорт яго ведае,— вярнуўся ў пакой да маці Сяргей.— Можа, ён і праўду кажа? Ці, можа, не хоча браць у бальніцу, дык выдумляе? Пажыла б яшчэ. А то будзеш там адна. Хто табе паможа, калі што?

— Чаму ж адна? Брат, сёстры, суседзі, усе ж свае людзі, а потым паветра. Тут машыны так начадзяць, што без прывычкі і дыхаць цяжка. Там жа я днямі на вуліцы. Асабліва ўлетку...— яна замаўчала, задумаўшыся.

— Добра. Калі ўсё добра будзе, то, можа, у суботу і паедзем,— паабяцаў Сяргей.— Ну, я пайшоў, а то ў мяне лекцыя. Вы тут з Алачкай абедайце...

— Паабедаем, не турбуйся,— і каб паказаць сыну, што яна зусім не хворая, Марфа паднялася і пачала засцілаць пасцель...

Ці ад валяр'янкі, якую Марфа піла кожны дзень перад сном, ці ад штодзённых прагулак, ці ад усведамлення, што хутка паедзе ў сваю вёску, дамоў, але яна болей не кволілася, у яе з'явілася болей жвавасці, унутранага спакою. Марфу болей не прыгнечваў той рытм, якім жыла сям'я сына, і спалася ёй лепей, без трывогі, і сны жахлівыя болей не сніліся. Хаця ёй прысніўся, пасля таго як пабыў урач, адзін сон.

Нібы Марфа стаяла на ганку свае хаты і глядзела, як старатліва шмыгалі ластаўкі над варотамі ў хлеў і з хлява. Яны толькі што вярнуліся з выраю і, кожны раз пралятаючы паўз яе, падавалі кароткі гук, нібы віталі яе з вясной. І ёй было так хораша ад увагі гэтых ласкавых

птушачак, што хацелася стаяць доўга і ўсё слухаць іх, сачыць за іх радаснай і клапатлівай мітуснёй.

У тую раніцу яна спала доўга і моцна, як у маладыя гады. Відаць, спала б і яшчэ, каб сын не заглянуў у спальню і не пацікавіўся, як яе самаадчуванне.

І калі праз тры дні завітаў урач, то знайшоў Марфу ў значна лепшым стане.

— Валяр'янку і далей прымайце,— параіў ён.— Болей старайцеся быць на свежым паветры, а галоўнае, не launch пераtamляйцеся. Сэрца ваша такое, што яго варта паберагчы. Адчуеце, што пачынаеце стамляцца, сядзьце, адпачніце. Вось так.

А праз які дзень Марфа з сынам ехалі ў вагоне пасажырскага поезда. Сяргей чытаў газету і зрэдку паглядваў на маці, якая сядзела насупраць, паклаўшы рукі на калені.

— Прылегла б,— упрошваў ён яе каторы ўжо раз.— Дарога ж няблізкая.

— Я не стамілася,— адказвала яна, не зводзячы вачэй з акна. Глядзела так пільна, нібы баялася праззяваць сваю станцыю.

## УЧАСТАК

Марфа паставіла ў печ чыгунок з грэцкай кашаю, вялікую глыбокую міску з наліснікамі, шчодра палітымі растопленым маслам, засланіла печ засланкаю, глянула на гадзіннік. Пайшло на восьмую гадзіну, а Толіка ўсё не было.

Марфа чакала яго яшчэ ўчора з вячэрняга поезда — абяцаў прыехаць на ноч. Але так і не дачакалася. Падумала, што, можа, сход які быў на заводзе, дык сын забарыўся, і асабліва не трывожылася: верыла, што ён прыедзе раніцай. Але яго не было і зараз.

А можа, Толік прыехаў з жонкаю? Тады яны прыйдуць пазней. Капа ж не пражыве, калі не загляне ў раймаг. А можа, ужо і ідуць?

Марфа як хадзіла па хаце ў глыбокіх цёплых тапачках, якія ёй купіла нявестка, калі яна ўзімку жыла ў старэйшага сына ў Мінску, так і выскачыла на вуліцу, наспех накінуўшы на плечы целагрэйку. Ля многіх двароў стаялі запрэжаныя калёсы. «Во ўжо і коней разабралі. Калі цяпер і прыйдзе Толік, усё роўна нечым будзе араць»,— са скрухай падумала яна.

А можа, ён пайшоў агародамі? Цяпер падсохла, прайсці можна. Толік добра ведаў тую сцежку, бо часта хадзіў ёю, асабліва калі прыязджаў адзін.

Марфа праз двор кінулася на агарод.

Грады, забруджаныя мінулагоднім счарнелым лісцем, струхлелымі цурубалкамі ад сланечнікаў, былі яшчэ не ўробленыя. Марфа была ўзялася ўскапаць іх рыдлёўкаю, але так хапіла сэрца, што думала «хуткую дапамогу» выклікаць. Ды абышлася без яе. Сама адляжалася. Але з таго дня рыдлёўку ў рукі не брала. Спадзявалася, прыедзе сын бульбу садзіць, заадно ўзарэ і грады.

У канцы саду адчыніла струхлелыя варотцы, якія ледзь ліпелі на падгнілых слупках, выйшла на мінулагоднае бульбянішча. Зямля, прыбітая веснавымі дажджамі, патрэскалася на сонцы, там-сям пакрылася зялёнай плесенню і пустазеллем.

Амаль на ўсіх планах за прысадамі чарнелі палоскі ўзаранай зямлі — людзі адсеяліся даўно. А хто не паспеў, то хоць гной вывез. Ён кучкамі чарнеў на падсохлай зямлі.

Лепей бы не абяцаў нічога той Толік. А то на другі ці на трэці дзень, як яна вярнулася з Мінска, быў тут і сказаў, каб нічога сама не рабіла, маўляў, прыедзе і ўсё зробіць. Вось і прыехаў, і ўсё зрабіў... Каб ведала, што так будзе, наняла б людзей, даўно адсеялася б і думаць забылася б пра тую бульбу.

Нікога не ўгледзеўшы, Марфа вярнулася ў хату.

Убачыла на кухонным стале варанае яйка, слоік малака, адзін блінец з жаўтаватай падпалінкай — падрыхтавала ж сабе сняданак і забылася,— адчула, што ёй есці не хочацца. Пераабулася ў чобаты, павязала хустку і намерылася ісці зараз жа да Ігната, каб дамовіцца з ім пра каня, а потым на той дзень наняць людзей. Хоць перастане хвалявацца, упэўненая, што бульба будзе пасаджана.

У веснічках на вуліцу нос у нос сутыкнулася з Толікам. Ён быў у сінім падношаным камбінезоне, у вылінялым берэце, які зухавата сядзеў набакір, адкрываючы бледны, яшчэ не загарэлы лоб, у высокіх гумавых ботах.

— Здарова, матка! — засмяяўся ён.— Ты куды разагналася?

— Ой,— аж сумелася тая ад нечаканасці.— А я думала, не прыедзеш.

— Думала, думала... Сказаў, прыеду, значыцца, прыеду. І нечага думаць абы-што,— ён пачаў выцягваць

шкворань, якім зачыняліся вароты.— Не толькі прыехаў, а й брыгаду прывёз. Ідзі паглядзі, якія арлы.

З легкавушкі, якая стаяла перад варотамі, вылазілі маладыя хлопцы. Усе таксама ў берэтах, гумавіках, камбінезонах.

— А я чакала з поезда,— абрадавалася Марфа.

— Бачыш, якія сейбіты! А галоўнае, добраахвотнікі. Гукнуў у цэху, хто хоча памагчы ветэрану калгаснай працы, амаль усе захацелі. Адабраў самых надзейных. І гэта не ўсе. Адзін гной вязе.

— Які гной? — нічога не разумела Марфа.

— А мы адразу на канюшню,— рыпеў хісткімі варотамі Толік.— Узялі каня, гною воз накідалі ў кароўніку. Пра тры вазы з Ігнатам дамовіўся... А возьмем колькі трэба... Сеянка гатова?

— У мяшках у сенцах стаіць.

— А хто іх насіў? — раптам спыніўся Толік, які быў кінуўся да машыны, каб загнаць яе ў двор.

— А я патроху.

— Казаў жа, каб не насіла. Прынеслі б.— Ён загнаў свае «Жыгулі» ў двор, паставіў ля самае хаты, каб было як праехаць каню з калёсамі на агарод, вылез з машыны, агледзеў колы, памацаў дыскі.— Вось што, матка. Ідзі ў хату і зрабі чаго перакусіць,— і раптам крыкнуў аднаму з хлопцаў, што стаялі ў двары ля адчыненай褐 форткі і з добрымі ўсмешкамі на тварах слухалі, як Толік размаўляе з маці: — Генка, занясі рукзак з прадуктамі.

І потым, калі ўжо ўсе сядзелі за сталом і снедалі, зноў загадаў старой:

— Ты, матка, каб і з хаты не выходзіла. Абед зварыш і адпачывай. Бульбу пасадзім, агарод узаром, потым паклічам прыняць нашу работу.

— Ой, дзеткі,— агледзела Марфа хлопцаў, такіх знешне кволых, зусім не вясковых.— Ці рабілі ж вы калі на зямлі?

— Ты што, матка? — здзівіўся Толік.— Яны болей у калгасе падшэфным робяць, чым на заводзе. Не адну спецыяльнасць асвоілі. Могуць кіраваць трактарам, камбайнам, нават канём... Ну што, хлопцы, пайшлі шэфстваваць.

Марфа, вядома, не засталася ў хаце. Пакуль хлопцы вазілі гной і раскідвалі, яна аббегла сваіх родзічаў, папрасіла памагчы садзіць бульбу. Прыйшлі сёстры, Вольга і Ніна, і Ігнатава жонка Люба. Так што было каму кідаць

бульбу ў разору. Толік не паспяваў прыворваць. Хутка ўсё было зроблена, нават агарод узараны.

— Усё гатова!

— Дзякую табе, сынку, не думала і не гадала, што так будзе,— сказала Марфа. Яна выбірала ў мяшок буйнейшую бульбу, каб было што ўзяць з сабою Толіку.— А можа б, і на ўчастку заадно? Туды і гной не трэба. Там багата хто без гною пасадзіў.

— Які яшчэ ўчастак? Я ж казаў, каб ніякага ўчастка не брала.

Прысядзібныя ўчасткі ў Ягаднай, як і ва ўсіх вёсках калгаса, былі звычайна ля хат, адразу за садамі. Але ў той год, калі ў калгасе ўпершыню сеялі кукурузу, участкі за садамі, як найбольш уробленыя і ўгноеныя, абрэзалі пад «каралеву», пакінуўшы калгаснікам толькі па дзесяць сотак, а астатнія па дваццаць пяць давалі ў полі, і, канешне ж, не на самых лепшых землях. Маўляў, свае ўчасткі калгаснікі ўгнояць і там. Вядома, калгаснікі не шкадавалі гною пад сваю бульбу. А потым і старыя і малыя — у тыя часы ў вёсцы яшчэ багата было дзяцей,— з капаніцамі днявалі і начавалі на тых дзялянках, выратоўваючы бульбу ад пустазелля. Гады праз два ўчасткі ў полі былі ўроблены не горш, чым тыя, што занялі пад «каралеву», якая, між іншым, не пажадала ўраджаіць і на палепшаных землях. Але ўчасткі за прысадамі так і не аддалі назад, а наразалі іх амаль кожны год нанова, бо, як сказаў калгасны аграном, нельга сеяць бульбу ўвесь час на адным месцы. У калгасе даўно не засталося не ўробленых палёў — хапала ўжо і тэхнікі і тукаў розных,— але калгаснікам кожны год наразалі ўчасткі ў полі. Рабілі гэта больш па традыцыі, чым з якіх гаспадарчых меркаванняў.

Гэтаю ж вясною нарэзалі ўчасткі ледзь не пад самым лесам на пясчаным узлобку. Людзі не засмуціліся з гэтага выпадку, маўляў, на пяску бульба расце яшчэ і смачнейшая — сопкая, разварыстая. Шкадавалі толькі, што гной далекавата вазіць, ды і то не ўсе. Многія спадзяваліся, што ўдасца ўзяць у калгасе які самазвал ці трактарны прычэп і адвезці гной адным рэйсам. А некаторыя сцвярджалі, што наогул не трэба вазіць яго, бо калі лета будзе сухое, то гной толькі нашкодзіць, потым у той пясок кожны год столькі сыпалі ўсяго, што хопіць тукаў і для іхняй бульбы.

Калі цвяроза разважыць, дык і сапраўды Марфе зусім не трэба ўчастак у полі. Хопіць і таго, што за садам. Каб

яшчэ была якая гаспадарка, а то якіх пяць курыц, певень з абмерзлай шышкай — недагледзеў Ігнат узімку, калі Марфа жыла ў Мінску,— тры адзічэлыя каты, якія жылі па даху ды спускаліся адтуль па лесвіцы, каб падсілкавацца ды напіцца малака, якое налівала ім Марфа ў бляшанку з-пад каспійскайількі. Але Марфа апошнім часам адчувала сябе нібы лепей — значна лепей, чым мінулым летам! — яна думала, што калі і далей будзе адчуваць сябе так, то ўзімку нікуды не паедзе, застанецца дома, адкорміць якога парсючка. Так што бульба не будзе лішняй.

Таму яна і не адмовілася ад участка ў полі.

— Я ж думала, якога парсючка...

— Слухай, матка, пажыві хоць трохі спакойна. Табе есці нечага, ці што? Сабе мы заўсёды купім у магазіне мяса. І табе прывязём... Ты пакажы нам лепей, дзе межы рабіць. Пакуль на стол падасі, мы іх і таго...

— Няхай, сынку, я сама ўжо,— пачала аднекавацца Марфа.

— Хопіць табе работы і без гэтага.

— А як зробіце, так і няхай.— Марфа пайшла ў хату, незадаволеная, што сын адмовіўся садзіць бульбу на ўчастку ў полі.

Толік пратаптаў межы, глянуў на гадзіннік, потым на сонца, якое сама паднялося высока і знерухомела, папрасіў хлопцаў:

— Можа, пракапаем хуценька межы? Яшчэ паспеем і ў лес заехаць, а? А я пакуль каня адганю, каб потым час не губляць...

Не паспела Марфа паставіць усё на стол, як у хату зайшлі ўсе памагатыя. А Вольга, Ніна і Люба адмовіліся: маўляў, у іх свае абеды дома, а тут і так едакоў багата — і не засталіся.

За сталом хлопцы асабліва не заседжваліся, а тут яшчэ іх падганяў і Толік. Маўляў, адпрацуем за сталом, як і на плану, па-ўдарнаму.

— Ну што ты падганяеш? — не вытрымала Марфа.— Хай пасядзяць, адпачнуць. Натаміліся ж...

— Мы, думаеш, ехалі да цябе бульбу садзіць? Мы ехалі ў смаржкі, а па дарозе да цябе заглянулі. Так што галоўная работа ў нас яшчэ наперадзе. Я абяцаў хлопцам, што па вядру смарчкоў набяруць,— і звярнуўся да таварышаў:— Галоўнае, не хвалявацца. Я ведаю такія расцяробы, дзе тых смарчкоў хоць касой касі,— Толік пер-

шы падняўся з-за стала, тое-сёе з яды загарнуў у газету.— У лесе перакусім...

На развітанне Толік яшчэ раз нагадаў маці, каб і забылася пра ўчастак у полі і на градах каб асабліва не ўбівалася: у наступны выхадны ён прыедзе і ўсё паробіць.

Пра грады ён ужо крыкнуў з машыны, завёўшы матор. А хутка толькі пыл вісеў над дарогай ад легкавушкі...

Толік так нечакана прыехаў, так усё хутка было зроблена на плану, што калі паехаў, то Марфе нават падалося, што ўсё гэта ёй толькі прыснілася, што не было і сына з таварышамі, не было і памагатых на агародзе, і ўсё нібы само сабой узаралася і пасадзілася. Але радасці на душы, што адпаў такі вялікі клопат, не было. Засмучала, што сын адмовіўся засеяць участак у полі, хаця наперадзе болей палавіны дня было. Ды з такою сілаю і за меней справіліся б. Дык захацелася ім тых смарчкоў. Яшчэ сапраўды назбіраюць ды патруцяцца. Марфа не ведае, каб хто ў вёсцы браў тыя вужаўкі. Іх ніхто нават і грыбам ніколі не называў... А бульбачкі пасадзілі б, дык вырасла б. І сеянка ёсць жа. Увосень як знаходка. Лішняя была б, прадалі б. Грошы ніколі не былі лішнімі. Дык ні бульба ім не трэба, ні грошы. А смарчкі. Ці не рана запанелі? Але няхай, як хочуць. Ёй хопіць і таго, што за садам. Дай бог гэта да ладу давесці... Можа, Толік і правільна робіць, ведае, што, калі будзе ў полі ўчастак, матка не сцерпіць, пабяжыць туды і палоць і абкапваць бульбу. А не з яе здароўем такое рабіць. Апошняй думкай яна сябе супакоіла, здавалася, канчаткова. І болей не думала пра ўчастак у полі. Пахадзіла па агародзе, прыкінула, на якіх градах што пасадзіць, але ў гэты дзень рабіць нічога не стала: была ўсё ж нядзеля ды і стамілася прыкметна... Яна адпачыла крыху на канапе, а потым выйшла на вуліцу пасядзець з жанчынамі ля Верчынага двара...

Але на другі дзень яна зноў падумала пра ўчастак у полі. Марфа ніяк не магла прымірыцца з тым, што застанецца гуляць зямля. Такога яшчэ ў яе жыцці не было. А можа, там зямля такая, што не варта пра тое і думаць. Казалі ж, што адзін пясочак. Але гэта казалі, а сама ж яна не бачыла.

Марфа накінула на галаў лёгкую хустку — дзень выдаўся надзвычай цёплы,— замкнула хату. Праз завулак выйшла да калгаснай фермы, у якой ужо не стаялі каровы, іх перавялі ў комплекс, абагнула возера, якое зрабілі глыбокім і доўгім, выграбшы тарфакрошку з былога бало-

та, і паўз лясок вакол калгаснай азіміны скіравала да ўчасткаў, якія віднеліся здалёк,— увесь пясчаны ўзлобак быў пабіты на роўныя прамавугольнікі. Асабліва выдзяляліся неўзараныя. Яны чарнелі на сонцы мінулагоднім сапрэлым іржышчам. Але такіх участкаў было мала, не болей дзесятка.

Свой участак Марфа знайшла хутка: ведала, што ён восьмы ад краю. Кругом усе засеяліся, адзін ён сірацеў, забыты, пакінуты. Там-сям, асабліва ў нізкіх месцах, пакрыўся нейкім зялёным налётам, як мохам. Зрэдку прабівалася зялёная трава, зелянелі купкі канюшыны. Дзялянка была не на самым узлобку, а крыху ніжэй, так што бульба вырасла б, хай бы і дажджоў было мала. Ды мяркуючы па высокім і густым мінулагоднім іржышчы, тут нядрэнны быў ураджай збажыны. Так што бульба таксама ўрадзіла б.

І Марфа шкадавала ўжо, што пагадзілася з сынам. Трэба было ўсё ж настояць на сваім. А можа, наняць людзей? Яшчэ не позна. Ці, можа, аддаць каму? Можа, таму ж Ігнату? Малако бярэ ў іх кожны дзень, а грошай не плоціць, не бяруць. Вось і няхай садзяць бульбу. Не трэба, прададуць. Казала ж Люба, што сын нібы збірае грошы на машыну. Вось хай сыну і памогуць.

Ігнат ужо некалькі год жыў у новай хаце. Старую ж толькі нядаўна разбурылі, а на яе месцы зрабілі шырокі двор. Двор яшчэ не быў уладкаваны. Тут валялася бітая цэгла ад былой печы, кавалкі гліны, струхлелае дрэва. Перасякаючы двор, Марфа запэцкала ногі ў гліну і доўга чысціла свае чобаты аб скабу на ганку. Зайшоўшы ў хату, спынілася ў парозе, баялася наслядзіць.

Люба, захутаўшыся ў вялікую цёплую з махрамі хустку, сядзела ў нізкім крэсле і глядзела тэлевізар. У яе быў схуднелы твар з запалымі вачыма, якія гарэлі нейкім хваравітым бляскам.

Тэлевізар стаяў у пярэдняй, якая была ім залай і кухняй. А спалі яны ў бакавушцы, адразу ж за печчу, якую Ігнат усё ж зрабіў, хаця многія раілі не рабіць — навошта яна, калі газ ёсць? — і якой амаль не карысталіся. Зала ж і дзве спальні, дзверы якіх выходзілі ў залу, былі чыста прыбраны і зачынены на замок, каб туды ніхто і не заходзіў.

— Праходзь жа,— запрасіла яе Люба.

— Я хуценька,— адмовілася Марфа.— Гэта ж я да вас, Любачка. Можа, узялі б мой участак у полі? Ён мне

не трэба, а вы, можа, не бульбу, дык якую траву пасееце.

— Ой, што ты, Марфачка,— уздыхнула Люба.— Мы і на сваім участку траву пасеялі. У яго здароўя ніякага і ў мяне. Галава нешта баліць. Учора колькі я ў цябе парабіла, зусім жа небагата, а ўсю ноч рукі выкручвала, не магла заснуць. Каб яшчэ хлопец прыязджаў, памагаў, а то не ездзіць жа.

— Ой, маўчы... У мяне тое ж самае. І рукі і галава... Мой Толік казаў, каб пра ўчастак і не думала. Яно і праўда, сілы ніякай. Дык я падумала, можа б, якую траву пасеялі. Малако ж бяру...

— Не думай ты пра гэта,— пазяхнула Люба.— Пакуль хапае таго малака. А трава нам не трэба. Ігнату, як удзельніку вайны, сена даюць. Можа, Вольга ўзяла б? Жыве ж з нявесткаю, з сынам. Ёсць каму рабіць. Сена ж кожную вясну купляе.

— А я зараз і забягу да яе,— і Марфа развіталася з Любаю.

Вольга ў доўгім фартуху, абвязаўшы галаву хусткай так, каб не вытыркаліся валасы, паліла сярод двара стружкі разам з розным смеццем. Каб агонь лепей гарэў, яна падварушвала яго доўгім кіем.

— Што ты пажару нарабіла? — падышла да яе Марфа.

— Гэта ж мой усё майструе. Цэлы воз стружак з хаты навыграбала. Каб вецер не разносіў, спалю... А заадно і двор падмяла. Каб была печ, у печы пагарэла б, а так недзе і смецце гэтае спаліць,— яна зноў паварушыла счарнелыя дымныя стружкі. Іх ахапіла вясёлае полымя, а потым яны зноў пачарнелі. З вогнішча паваліў густы смярдзючы дым.

— І калі ўжо выведуцца ў цябе гэтыя стружкі? — распачувала сястры Марфа.

— А мне знадаела з ім лаяцца,— безнадзейна махнула леваю вольнай рукой Вольга.— Усё перарабіў. І не адзін раз. Цяпер задумаў сцены зноў перарабіць. Навазіў нейкай фанеры. Аббівае сцены клетачкамі, фарбуе. Кажа, не зала будзе, а музей. Дурнота адна, а не музей, кажу яму. Пабіў сцены на шашачкі і думае, што прыгожа. Кажа, цяпер мода такая. Ну няхай яго бацька любіў усялякае рабіць, дык ён жа за грошы рабіў. Няхай прапіваў, але ж і зарабляў. А гэты ж не п'е, але і за грошы не робіць... А галоўнае, больш нічога знаць дома не хоча. Вядра вады

не прынясе. Кажа, чакай, хутка ў хаце водаправод будзе, нейкай яму там трубы не хапае...

— Я думала, у хлопца твайго часу багата, узялі б мой участак, травы якой пасеялі б...— сказала Марфа, хаця і не верыла, што Вольга возьме яе ўчастак.

— Ой, не, Марфачка,— заматала галавой Вольга.— Каб купіць потым тую траву, тады другое дзела... А так... Ты ж ведаеш, ледзь свой участак прысеяла. Ён жа і не паказаўся ў полі. Кінуў мне сотню, наймі, кажа, каго. А сам з хаты не выйшаў. А каго цяпер ноймеш? Дзе тыя людзі? За тысячу не знойдзеш. Старыя ды хворыя. Каб мой хлопец ды не такі быў, можа, я і ўзяла б, а так... Што з ім рабіць буду? Можа б, Ніна ўзяла? Той жа п'яніца нідзе не працуе, аліменты не плаціць... А я не, не вазьму. Ён будзе цацачкі на сцены клеіць, а я ўбівацца. І жонка яго такая... На мужанька глядзіць. Не кінецца памагаць. Не ведаю, як яны потым будуць жыць. Матка ж не вечная. Пагляджу, дык не, не тут ім трэба было жыць, а ў горадзе. Пакуль вару ім, дык нічога. А потым?.. Прывыклі на ўсім гатовенькім. Яна ж карову ніколі не падаіла. Не ўмее. А што ж вы будзеце рабіць, як памру, пытаюся? А мы, кажуць, малако з горада вазіць будзем. Ты чула такое? Каб з горада малако ў вёску вазілі? Не, не будзе з іх толку...

«Канешне, ёй участак той не трэба. Мала што яна скардзіцца на сына, а на яго ж грошы жыве. Колькі ў яе той пенсіі? — ішла па вуліцы і сама з сабой разважала Марфа.— Бач, узяў сотню і кінуў. І хлеб цягаюць, макароны ўсялякія, каўбасу... Канешне, навошта ёй участак? Каб не было чаго есці, схапіла б. І ўрабілі б, не зломачкі. А то канешне. Квадрацікі клее на сцены. Савы смалянай не бачылі...»

Ніну Марфа застала таксама ў двары. Яна мыла гарачай вадой малочныя бітоны і вешала іх на плот сушыцца на сонцы.

— Гэта ж учора адвезла малако і не памыла. Галава разбалелася. Ноч пастаялі, дык аж ліпкія сталі ўсярэдзіне,— яна аб падол выцерла свае чырвоныя ад вады рукі, узяла гадзіннік, які ляжаў на ганку, пачапіла на руку.— Час ляціць, як вецер. Не паспееш прыпорацца, а ўжо абед. Прыбегла з фермы, пакуль у школу дзяцей адправіла, абед зварыла, бітоны памыла, і паўдня няма. Трэба зноў на ферму збірацца. Пратаўчэшся дзень і не заўважыш, як той вечар настане. Думала, сёння хоць трохі

ўдзень драману, з бітонамі правазілася. Можа, і галава баліць, што недасыпаеш кожны раз,— яна прысела на ганак, адкінулася спіною да дашчанай веранды, нагрэтай сонцам да ўтульнай цеплыні.

Прадудзеў чмель, паторкаўся ў цагляную сцяну дома і зноў праз двор палядзеў да хлява.

Можа, дзе паміж замёцін у зляжалым імху была яго дамоўка.

Марфа падсела да Ніны, сказала пра ўчастак.

— Ой, трэба, ды яшчэ як трэба,— уздыхнула сястра.— Але, ведаеш, самой некалі. А калі заплаціць за ўсё, каб хто ўзараў, пасеяў, пакасіў, згроб, прывёз, дык, ведаеш, і трава таго каштаваць не будзе. За тыя грошы тое самае купіш...— Ніна паднялася, зноў глянула на гадзіннік.— Пайду, можа, паляжу, пакуль меншая са школы прыбяжыць.

— Ой, мне ж таксама пара,— і Марфа паспяшалася дамоў, хаця яе там ніякая пільная работа не чакала. Але ёй усё роўна прыемна было спяшацца.

Па дарозе яна збочыла да Мосея Куцці, які сядзеў на лавачцы перад сваёй хатай. У паношаным старым кажушку наросхрыст, каб была відаць усім медаль на сарочцы, якую ён насіў заўсёды. Побач з ім на лавачцы ляжалі газеты.

— Што новага ў свеце? — прысела ля старога.

— Барацьба зла і дабра набывае глабальны характар,— сказаў у роздуме Куцця.— Чалавецтва перажывае самы адказны момант у сваёй гісторыі. Быць ці не быць, як казаў адзін артыст па тэлевізары. Смактуноўскі, здаецца.

Марфа паслухала падрабязную інфармацыю пра апошнія падзеі ў свеце, а потым не стрывала і расказала старому пра свой клопат. Хаця дзед і стары, але яшчэ цягавіты. Можа, не адмовіцца ад участка?

— Не, Тарасаўна,— уздыхнуў Куцця.— Я ж ад свае зямлі ў полі адмовіўся. Хопіць нам са старой тае, што ля хаты. У абаіх пенсія. Хочацца пажыць без лішніх клопатаў. У мяне ўсё ёсць. Ды і ты не турбуйся так. Аддай тоў участак у калгас, і ўсё. А то ўсё жыццё спачыну не мела і цяпер ніяк не ўгамонішся. Мы, Тарасаўна, сваё адрабілі, а цяпер можна во пачытаць, тэлевізар паглядзець. Калі гэта было, каб я сядзеў у сваёй хаце, а для мяне Масква песні спявала? Дык трэба ж уважыць сталіцу, паслухаць. Людзі стараюцца...

Марфа ведала, калі Куцця пачне разважаць пра сучаснае жыццё, яго за дзень не пераслухаеш, а таму паднялася, пайшла не развітаўшыся. Яе ахапіла нейкая раздражненасць, злосць на ўсіх. Ну, няхай нікому не трэба зямля. Гэта можна зразумець. А вось, што яны гавораць пра яе спакойна, абыякава, з гэтым яна ніяк не магла прымірыцца. І нават Куцця. Той Куцця, які ўсё жыццё паліваў зямельку потам.

Не, яна, Марфа, відаць, безнадзейна ці адстала ад усіх у гэтым жыцці, ці не разумее цяперашніх людзей...

Яна зайшла ў сваю хату, дастала з печы абед — гаршчочак малочнага супу з вермішэллю,— з'ела якіх пару лыжак. Зноў паставіла ў печ.

У светлай палавіне хаты прылягла на канапе. Ва ўсім целе адчувалася вялікая стомленасць, відаць, багата нахадзілася, што ногі як хто выкручвае. Заснуць не змагла. З галавы ўсё не выходзіў участак. Канешне, у вёсцы знайшліся б тарбахваты, якія адразу б схапілі яго, толькі прапануй. Але такім не хацелася аддаваць. А можа, аддаць назад у калгас? І аддаць зараз жа.

Ісці зноў да Ігната не хацелася. Ведала, што яго дома зараз, хутчэй за ўсё, не будзе. Бо каб быў, то ля двара стаялі б калёсы.

Яна села на лавачку ля свайго двара і стала чакаць, пакуль брыгадзір будзе ехаць дамоў на абед.

Марфа загледзелася і не пачула, як Ігнат пад'ехаў ледзь не да самага яе двара.

— Здароў, Тарасаўна! — прывітаўся ён, не злазячы з калёс, прыпыніў толькі крыху каня.

— Ой, Ігнатка, а я ж цябе чакаю,— яна падхапілася, падышла да брата, расказала пра свой участак.— Я і тваёй Любе казала...

— Я і думаў, што не трэба ён табе, але маўчаў. Думаю, не кажаш нічога, можа, хочаш што пасеяць там... А цяпер позна. Туды ж тэхнікай не заеду. Так што аддай каму-небудзь...

Доўга не браў у гэтую ноч сон Марфу. І не думала, здаецца, ні пра што, а заснуць ніяк не магла. Успомніла пра валяр'янку. Напілася прама з бутэлечкі. І пасля гэтага яшчэ доўга не спала. А калі заснула, то адразу сасніла свой участак. Чорнаю плямаю ляжаў ён сярод разбуялага бульбоўніку, псуючы сваім выглядам увесь зялёны краявід. І бульба, рослая, лапушыстая, цягнулася закрыць гэтую чорную пляму сваім каліўем, але яго не

хапала. Каліўе ж цягнулася так, што карэнне яго вылузвалася з зямлі, паказваючы дробную яшчэ, як гарох, бульбачку...

Ад жаху Марфа прачнулася.

«Ой, нешта нядобрае будзе,— падумала яна.— Кажуць жа, калі зялёнае сніцца, то здарыцца нешта нядобрае».

І ўжо да самай раніцы не самкнула вачэй.

## ДЗЕНЬ СТАРШЫНІ КАЛГАСА

— Я пайшоў,— сказаў Курневіч ужо ў парозе, нацягваючы на шырокія плечы танюсенькі, як плеўка, плашчык.

— Алёша, пачакай,— крыкнула з кухні Ядзя. Пашамацеўшы паперай, выскачыла з пакункам у руках, пачала запіхваць яго ў кішэню мужавага плашча.— Учора ж прыходзіў новы загадчык аддзялення, пытаўся, калі вызвалім кватэру.

— А ты?

— Сказала, што не ведаю.

— Правільна сказала,— і раздражнена дабавіў: — Не паспеў прыехаць, а ўжо бегае. Калі прыйдзе яшчэ, скажы, хай бульбу за рэчкай хутчэй капае, а кватэра ад яго не збяжыць.

Курневіч спыніўся на ганку, падумаўшы, што дарэмна так гаварыць з Ядзяю. Відаць, сапсаваў ёй настрой сваёй непатрэбнай раздражненасцю. Ён нават хацеў вярнуцца і сказаць ёй нешта больш вясёлае, радаснае, але ля двара пыхкаў ужо кучаравым дымком зялёны з аблінялым, аж белым брэзентам «козлік», і Курневіч па прывычцы таропкім крокам скіраваў да машыны.

Ён паправіў пад сабою плашч, каб ён не пакамечыўся, адкінуўся на спінку сядзення, глянуў на Хамянка, сівагаловага мужчыну з засяроджаным паглядам разумных шэрых вачэй.

— Слухай, Пракопавіч, ты багата пажыў на свеце, скажы, адкуль пайшлі нецярплівыя людзі?.. Не паспеў прыехаць у саўгас на маё месца новы загадчык аддзялення, а ўжо не дае спакою маёй жонцы. Хутчэй вызваляй кватэру, і кропка. Я некалі пасля акадэміі два гады жыў без кватэры, а яму падай адразу. У інтэрнаце ёсць месцы, дык не, не хоча, давай яму кватэру.

Хамянок выруліў машыну на вуліцу, на якую з двароў

якраз выпускалі кароў у чараду, і тыя лена стаялі на дарозе, аб'язджаючы кожную рагулю. І толькі за вёскаю, вырваўшыся на шашу, адказаў:

— Я, канешне, не ведаю твайго пераемніка і не магу сказаць, адкуль у яго такое нецярпенне. Можа, чалавек прывык спяшацца, вось і не церпіцца. Пакуль не пападзе ў аварыю якую. Гэта, як і ў нас, шафёраў. Які спяшаецца, абавязкова лоб разаб'е. А трэба ехаць так, якая дарога. Роўная, гані, калдобіны — адпаведна. Хочаш даехаць, не забывай пра дарогу. Я, Данілавіч, на гэтым «козліку» дваццаты год без капіталкі... Шэсць старшынь вазіў. Вы сёмы. Былі такія, Данілавіч, што аж ёрзаюцца, давай гані... Я такому, ты сваю работу ведаеш? Я сваю таксама. Я не ўказваю, як кіраваць калгасам, і мне не перашкаджай... А ведаеце, чаму ў нас старшынь столькі памянялася? — Хамянок гаварыў ціха, нібы для сябе толькі, нават ні разу не пацікавіўся, слухае яго Курневіч ці не. Расказваў і не зводзіў вачэй з дарогі. Курневіч заўважыў ужо за ім гэтую асаблівасць — пафіласофстваваць за рулём, і цяпер слухаў уважліва, не перапыняў, толькі зрэдку ўсміхаўся нечакана трапнай думцы вадзіцеля.— Я часта думаў пра гэта. І дадумаўся. Яны ўсе не мясцовыя. З нашага калгаса выйшлі вучоныя, генералы, лётчыкі, журналісты, настаўнікі. І ніводнага старшыні. Не хапіла розуму. Усе ж стараліся сваіх дзяцей выпхнуць у горад. Я свайго таксама вучыў, вывучыў на будаўніка. У Бабруйску робіць. А цяпер пагляджу, дарэмна стараўся. Яму тут лепей жылося б... Каб жа ведаць, што жыццё так пойдзе... Кожны ж тады стараўся сваё дзіця ў людзі вывесці. Пра сябе думалі. Вось і ваш пераемнік, відаць, болей пра сябе думае. А можа, хоча хутчэй уладкавацца, каб пра работу болей думаць? А можа, жонка падганяе? Ці ён халасцяк?

— Не ведаю,— адказаў Курневіч.

— Дарэчы, Данілавіч, вам пара б пераехаць у калгас. А то на вас будуць глядзець як на часовага чалавека. І верыць не будуць. Бо часовыя не думаюць пра людзей, пра заўтрашні дзень калгаса, а толькі пра сябе. А ў нас без заўтрашняга дня нельга...

— Ты, Пракопавіч, як і заўсёды, правільна гаворыш... Вось пабудуюць дом, пераеду...— і папрасіў, глянуўшы на гадзіннік: — Заглянем на будоўлю. А то болей тыдня не быў там з-за гэтае бульбы.

Новыя дамы будавалі адразу ж за вёскаю, там, дзе за прысадамі пачынаўся калгасны сад, які спускаўся па схіле

да невялікай рачулкі, якая перасякала калгаснае поле і, абагнуўшы сад, выбягала да калгаснага двара, замаруджвала свой бег у парослай асакой і лазнякамі запрудзе і зноў вырывалася, ужо за фермаю, на паплавы і там булькала светлым раўчучком пад высокім пясчаным абрывам...

Вось паўз калгасны сад і разбілі новыя вуліцы будучага пасёлка, у цэнтры якога планавалася пабудаваць гандлёвы цэнтр, Палац культуры, стадыён. А на рачулцы думалі ўзвесці плаціну, каб пад вокнамі хлебаробаў плюскалася возера.

На новым месцы ўжо ўзвялі некалькі катэджаў. Адзін з іх аблюбаваў сабе і Курневіч. А два астатнія меркаваў аддаць спецыялістам. Але пасля адной гаворкі са сваім вадзіцелем ён перадумаў гэта рабіць.

...Неяк, праязджаючы праз Ягаднае, любуючыся новымі цаглянымі дамамі, шырокай вуліцай, Курневіч сказаў:

— Усё добра. І калгас добры. І вёскі багатыя. І людзі працавітыя. А вось дзяцей на вуліцах не відаць. Хто будзе рабіць тут праз некалькі год? Хто, Пракопавіч, будзе вазіць мяне, калі вы пойдзеце на пенсію?

Хамянок адарваў позірк ад дарогі і мелькам глянуў на старшыню, а потым забубнеў сабе пад нос:

— Не ведаю, які з вас старшыня атрымаецца, але спыталі вы вельмі разумна. Да вас усе старшыні толькі пра ўраджай, пра малако, пра мяса, пра розныя іншыя, канешне, важныя праблемы клапаціліся, а вось хто будзе рабіць у вёсцы праз некалькі год, ніхто не думаў. Бо самі не думалі тут жыць. Ці, можа, думалі, што шэфы заўсёды будуць выручаць? Але на шэфах, Данілавіч, далёка не выедзеш. Яны пабылі і паехалі. Не баліць, як нам. Капалі летась яны ў нас бульбу. Праўда, гразь была на полі, слата, адным словам, хай яе... А потым прайшлі добрыя дажджы, дык на полі аж бела ад бульбы, адмыла з яе гразь. Што шэфам тая бульба? Не свая, чужая.

— Што ж рабіць, Пракопавіч?

— Не ведаю,— адказаў Хамянок.— Я так лічу, калі задумаліся пра гэта, што-небудзь прыдумаеце. Няма нічога такога, да чаго нельга дадумацца.

Цяпер нават цяжка ўспомніць, адразу пасля той гаворкі з шафёрам ці на другі дзень, калі яны пра гэта доўга гаварылі з калгасным парторгам, прыйшло рашэнне аддаць тыя дамы маладым калгаснікам. Тым, што толькі з арміі

вярнуліся ці вучацца яшчэ ў сельгасвучылішчы. Можна аддаць нават халасцякам. Будзе мець хату, не кіне яе, не паедзе ў горад, дзе яго не чакае кватэра. Тым больш што ў калгасах і заробкі нядрэнныя цяпер. А што адзін, дык нічога. Доўга бабылём не пажыве. Прывядзе сабе маладзічку. А будзе сям'я, будуць і дзеці. А дзеці — заўтрашні дзень калгаса. А сёння трэба мінімум паўсотні маладых сямей. Гэта сотня працаздольных. А праз паўтара дзесятка гадоў будзе маладых працавітых рук столькі, колькі трэба.

На праўленні ўсе пагадзіліся са старшынёй. У хуткім часе два катэджы аддалі маладым механізатарам. Ён не супроць быў аддаць маладым і свой домік, калі толькі знойдуцца ахвотнікі. Вось чаму ён асабліва і не падганяў будаўнікоў, вось чаму ён і злаваўся, калі ў яго дапытваліся, калі вызваліць кватэру ў саўгасе.

А са слоў Хамянка выходзіла, што яму нечага чакаць тых маладых ахвотнікаў, што яму трэба пераязджаць у калгас, каб яму людзі паверылі да канца.

Два двухпавярховыя катэджы, у якіх жылі па дзве сям'і, выглядалі абжытымі. На вокнах віселі фіранкі. У дварах на напятых шнурах сохла бялізна. За катэджамі стаялі невялікія хлеўчукі. Ля іх ужо грэліся на ранішнім сонейку куры. Нехта паспеў завесці і парсючка. Свінчо, відаць, прагаладаўшыся, нецярпліва скуголіла там, таўкло лычам у дзверы.

— Нешта не бачу на вяроўках пялёнак,— сказаў Курневіч, калі яны праязджалі паўз тыя катэджы.— Мне гаварылі, што кватэры пабяруць вялікія і будуць жыць без дзяцей.

— Што вы, Данілавіч,— усміхнуўся шырока і адкрыта Хамянок.— У такіх хатах, на такой прыродзе і без дзяцей? Тут толькі і раджаць... Хутка іх будзе поўзаць па вуліцах столькі, што не праедзеш...

Трэці катэдж стаяў незакончаным. Вакол валялася яшчэ нямала будаўнічага друзу. Дзверы былі зачынены на замок. Праз запыленыя ж шыбкі не вельмі можна было разгледзець усё ўсярэдзіне.

— Малавата зрабілі пасля таго, як мы былі тут апошні раз,— са шкадаваннем, што не прасачыў за будаўнікамі, сказаў Курневіч.

— Нічога, Данілавіч, зробяць,— супакоіў яго шафёр.— Бульбу пакапаюць і зробяць. Тут мала засталося. Мусар убраць, падлогі пафарбаваць. Праз які месяц і пераедзе-

це. І не цягніце. Хоць абедаць кожны раз будзеце дома. А то надоўга вас не хопіць.

Над калгасным садам падымалася сонца. Прыкметна цяплела. Дзень абяцаў быць ясным і ціхім.

Курневіч распрануў плашч, павесіў яго на руку, акінуў яшчэ раз позіркам белы домік, прыкідваючы, з якога боку ўзяць лепей кватэру, з вокнамі на сад ці на будучае возера, а потым сеў у машыну.

— І ў кантору ісці — адна любата. Па лужку,— сказаў яму Хамянок.— Я вось пакажу, як будзеце хадзіць,— і ён не паехаў па вясковай вуліцы, як ехалі сюды, а выруліў на палявую, ледзь бачную на поплаве дарогу паміж садам і блізкай рачулкай.

Ехалі марудна. Бо дарогу як пабілі трактары на глыбокія калдобіны яшчэ вясной, яе ніхто і не параўняў. У калдобінах пад навіссю пажоўклай травы трымалася вада, у якой адбівалася сіняе неба, і таму яны здаваліся бяздонна глыбокімі.

Курневіч нецярпліва глянуў на гадзіннік.

— Думалася ж хутчэй,— вінавата сказаў шафёр.— Хаця, Данілавіч, начальства ніколі не спазняецца.

У канторы Курневіч павесіў свой плашч на цвік ля дзвярэй, навідавоку, бо не думаў тут доўга затрымлівацца, меркаваў адразу ж выехаць у брыгады, паглядзець, як там капаецца бульба, каму трэба якая дапамога. Але давялося крыху затрымацца. Было некалькі званкоў з раёна. Званілі з рэдакцыі абласной газеты. А потым зайшоў бухгалтар з цэлай кіпай папер на подпіс. Былі і калгаснікі з рознымі просьбамі.

Асабліва ўразіла яго просьба Марфы Кравец з Ягаднага. Яна хацела, каб ён, старшыня, даў указанне ўстанавіць да зімы газавы кацёл.

— Чаму ж вы адмовіліся, калі ўсім ставілі? — выйшаў Курневіч з-за стала, прысеў на крэсла бліжэй да Марфы. Яму неяк няёмка было гаварыць, седзячы за сваім сталом, афіцыйна, з гэтай старой у выцвілым, вялікаватым для яе плашчы, з закасаных крыху рукавоў якога тырчалі ў вузлаватых жылах напрацаваныя рукі.

— Дык я ж, старшынька, тады не думала жыць узімку дома. Думала, буду жыць толькі ўлетку, а ўзімку ў сыноў...

— А іх багата ў вас?

— Трое.

— А можа, яны не хочуць?

— Не, старшынька. Хочуць. Завуць кожны раз. Адну зіму я жыла. Але...

— Бывае, што цяжка паладзіць з маладымі.

— Не, старшынька, ладзіла. Яны ў мяне харошыя, слава богу, толькі...— Жанчына зноў замаўчала. Курневіч не дапытваўся: нечага сілком у душу лезці, калі ёсць у чалавека патрэба пашчыраваць, дык і так усё раскажа.— У іх, старшынька, сваё жыццё.

— І вы ля іх... Усё ж не адна.

— Усё роўна адна. Не магу я спакойна жыць ля іх... Як мы некалі рабілі? — Курневічу спадабалася, што старая лічыць і яго ўжо даволі сталым чалавекам.— А яны? І не скажаш, каб зусім не рабілі. Робяць, продыху не ведаюць, але... не так. Кніжкі ім давай, газеты, кіны ўсялякія, а вось каб рыдлёўку ў рукі, касу, нібы ўжо гэта і не іх дзела. У падвал па бульбу і то на ліфце едуць. Лёгка ўсё хочацца. А калі ўсё лёгка, цяжка чалавекам быць. Паглядзіш, унукі ўжо зусім не такімі растуць. Ды што гаварыць? Нашы ж некалі хоць трохі, але рабілі на зямлі. Ведалі, як і што яно...

— Канешне, у іх сваё жыццё,— паспачуваў жанчыне Курневіч.

— Сваё-то сваё, але ж яны раслі тут. Па дзесяць класаў тут канчалі. Помняць усё. І хату помняць, помняць, адкуль яны. Без роднай хаты яны ж, старшынька, як сіраты. А ў сірат жа крыўда на ўвесь свет. З крыўдай на сэрцы радасці не зведаеш. Не дай бог, яшчэ п'яніцай можна стаць. Абсячы карэнне ў таго ж дрэва, перасадзі яго, што будзе? Засохне. То ж дрэва, а гэта чалавек. Ды і самой хочацца дажыць век у сваёй хаце...

Пасля гутаркі з Марфай яшчэ доўга сядзеў Курневіч задумліва. Аказваецца, у кожнага чалавека ёсць вось гэтае загадкавае імкненне заканчваць сваё жыццё там, дзе яно пачыналася. Гэта ж нішто іншае, як спрадвечная неадольная адданасць свайму роднаму кутку, якую трэба не толькі берагчы ў сэрцах людзей, але і выхоўваць. Не, ён правільна робіць, калі заахвочвае маладых застацца тут, у сябе на радзіме. Зямля таксама любіць родныя рукі. Тут без узаемнасці нельга. Без узаемнасці новае прыгожае жыццё не народзіцца.

І калі сонца даволі адчувальна пачало прыпякаць праз акно, Курневіч зразумеў, што заседзеўся ў кабінеце залішне. І таму, як толькі выйшаў ад яго чарговы навед-

вальнік, ён хуценька падняўся і паспяшаўся з кабінета на вуліцу, забыўшыся і на свой плашч.

Хамянок завёў машыну, але не кратаўся з месца, чакаў, пакуль старшыня скажа, куды ехаць. А Курневіч які час маўчаў, абдумваючы, якім маршрутам паехаць, каб хутчэй агледзець усе брыгады.

— У Рудню, а затым у Ягаднае,— сказаў ён.

У Рудні брыгадзірам быў малады хлопец, які летась вярнуўся з арміі. На брыгадным двары яго не было. Не аказалася яго і ў полі, дзе некалькі жанчын падбіралі за бульбакапалкай клубні. Бульбу ссыпалі ў кучкі, якіх багата было параскідана па полі. Яе, відаць, не звозілі ў капцы, можа, дні два, а то і болей.

Заехалі да брыгадзіра дамоў. Маці яго сказала, што ён яшчэ ўчора ўвечары як павёз сваю маладуху ў раддом, так дамоў і не вярнуўся. Ці, можа, што не так там, ці загуляўся дзе...

— Табе, Пракопавіч, баявое заданне. Заўтра раніцай мяне ў кантору не завозіць, а адразу сюды,— сказаў Курневіч вадзіцелю, калі ад'язджалі ад двара брыгадзіра.

— Можа, хлопцу помач якая трэба,— сказаў насцярожана Хамянок.

— Не бойся, Пракопавіч, праганяць яго я не збіраюся,— усміхнуўся старшыня.

У Ягадным працавалі бульбаўборачны камбайн і бульбакапалка. Бульбу адразу ж вазілі да капцоў. Ля машын рабіла, можа, нават болей калгаснікаў, чым трэба было. Але калі Курневіч убачыў, што ўсе жанчыны амаль пенсійнага ўзросту, зразумеў, што гэта зроблена свядома. Старыя не такія рухавыя, як маладыя, і іх жа, вядома, трэба болей, каб яны рабілі цэлы дзень і не вельмі ператамляліся.

«Разумны ўсё-такі гэты Ігнат Церах»,— падумаў пра брыгадзіра Курневіч, успомніўшы, як гэтаму Цераху ледзь не далі вымову на партыйным бюро за тое, што, не распачаўшы капаць бульбу ў брыгадзе, аддаў усіх коней і бульбакапалку калгаснікам на ўчасткі. І не далі вымову толькі таму, што брыгадзір даў слова ўбраць ураджай у брыгадзе раней за ўсіх у калгасе. І цяпер ясна было, што стрымае сваё слова, бо прыкметна абганяў усе брыгады. У яго на полі рабілі ўсе калгаснікі, не думаючы пра сваю бульбу на плану.

Брыгадзіра ў полі не было. Сказалі, што ён паехаў нібы дамоў.

І яны сапраўды дагналі яго ў вёсцы, калі ён пад'язджаў да свайго двара.

— Прывітанне, Данілавіч,— брыгадзір прывязаў да плота лейцы і пайшоў насустрач старшыні, які, вылезшы з машыны, стаяў і чакаў яго.— А я якраз збіраўся ехаць да вас у праўленне. Ды, думаю, заеду паабедаю.

— Ну, як уборка? — падаў руку Курневіч брыгадзіру і прыязна ўсміхнуўся.— Усё нармальна?

— Ды нармальна,— неяк паныла адказаў Ігнат, цяжка ўздыхнуўшы, дапытліва глянуў на старшыню.— Размова ёсць, Данілавіч. Можа, заглянулі б да мяне? Там і пагаворым,— і, убачыўшы, што старшыня цягне з адказам, дадаў: — Вы ж, Данілавіч, ніколі не былі ў маёй хаце.

— Зойдземце, Данілавіч,— раптам вылез з машыны і Хамянок. Ён часта вось так раптоўна і нечакана прымаў рашэнні за свайго гаспадара. І Курневіч звычайна пагаджаўся з ім, бо паспеў заўважыць, што яго вадзіцель надзвычай добра арыентуецца ў розных сітуацыях, разумее, што можна старшыні, чаго нельга.— А то будзе і сёння, што і ўчора. Застанецеся без абеду. А ў Тарасавіча мы і паабедаем, відаць. А, Тарасавіч?

— Канешне. А чаго ж я вас запрашаю,— пасмялеў і брыгадзір.

— Ну калі ты, Пракопавіч, «за», то я не супраць,— пагадзіўся Курневіч.

Пакуль госці ў калідоры ўмываліся, выціраліся свежым дамашнім шорсткім ручніком, ад якога твары аж гарэлі, Ігнат паспеў у пярэдняй накрыць стол чыстым настольнікам, накроіць вялікімі скібамі хлеба, паставіць талеркі з духмяным, крыху густаватым,— відаць, выпраў у печы,— баршчом, талеркі з добра ўтушанай, аж чырвонай, бульбай з мясам.

Гасцей сустрэў дапытлівым позіркам.

— Я ж за рулём, Тарасавіч,— адразу зразумеў яго Хамянок.

— А ў маіх руках яшчэ больш адказны руль,— засмяяўся Курневіч.— Так што, Тарасавіч, нічога не трэба...

Курневіч адчуў, што вельмі хоча есці, і на нейкі момант нават забыўся, што не ў сябе дома. Еў, не падымаў ад талеркі вачэй. Шафёр еў спакойна, далікатна, кожны раз аблізваючы лыжку, чэрпаў патроху, дзынкаў лыжкай аб край талеркі, каб, значыцца, раптам не капнула з лыжкі на стол, адным словам, еў так жа нетаропка і грунтоўна,

як і ездзіў. І нікольki не адставаў ад Курневіча, хаця той, здавалася, і больш старанна працаваў лыжкай.

Ігнат таксама прамаўчаў увесь абед. І толькі тады, калі госці, напіўшыся халоднага, толькі што з пограба малака, хацелі падымацца, ён, пільна разглядаючы са з'едзеным краем сваю алюмініевую круглую лыжку, якая нейкім цудам уцалела яшчэ з тых далёкіх даваенных часоў, сказаў:

— Я хачу, Данілавіч, прасіць вас вызваліць мяне ад брыгадзірства...

— Што? — ніяк не чакаў гэтага Курневіч.— Вы што? Лепшы брыгадзір у калгасе...

— Нельга мне болей,— цяпер ён смялей глянуў у вочы старшыні.— Жонка кінула ферму. У полі рабіць не можа, бо здароўе ў яе ніякае. Не можа яна цяжкае рабіць. Урачы забаранілі. А як жа я буду пасылаць у поле старых, пенсіянераў, калі мая будзе сядзець дома? Вы ж бачылі, хто цяпер робіць у полі. Не пашлі я сваю ў поле, болей палавіны тых, што працуюць, таксама не выйшлі б. А то бачаць, сваю не шкадую... Яны ж ведаюць, што яна хворая.

— Ранавата,— толькі і сказаў Курневіч, адчуўшы, што ўгаворваць Ігната няма ніякага сэнсу. Хоць і не вельмі даўно ён працаваў у гэтых мясцінах, але паспеў зразумець крыху мясцовых жыхароў, ціхмяных, нібы замаруджаных у думках, упартых. Яны не спяшаліся прымаць канчатковае рашэнне, а калі прымалі, то не было ніякага сэнсу адгаворваць.

— Я і сам не думаў кідаць брыгадзірства,— прызнаўся Ігнат.— Думаў парабіць яшчэ. Хацеў, каб сын пераехаў да мяне жыць. Для яго і хату адгрохаў. Нявестка з сынам у калгасе рабілі б, а мая старая з унукамі сядзела б. Хата ж вялікая, ёсць месца ўнукам. Не тое што ў горадзе. Росцяць аднаго. А хіба гэта дзіця, калі адно?

— Росцяць там па адным, вось і забірае горад рабочыя рукі з вёскі,— уставіў сваё і Хамянок.

— Ты, Пракопавіч, не можаш без філасофіі,— усміхнуўся яму Курневіч.

— Пры чым тут філасофія? Факты,— сказаў Хамянок і вылез з-за стала.

Падняўся і Курневіч, падзякаваў гаспадару за абед.

— Дык як, Данілавіч, можна заяву падаць? — спытаў Ігнат старшыню ўжо ля машыны.

— Прызнацца, не хочацца цябе адпускаць.

— Я разумею, але...

— А каго на тваё месца?

— Яўгена Носіка.

— Якога Носіка?

— Ну што кароў пасвіць. Яго сын у мяне ўчотчыкам. Канчае завочна сельгастэхнікум. Жанаты. Жыве асобна. Сям'я працавітая. І жонка яго шчырая ў рабоце. Кемлівы, гаспадарлівы хлопец.

— А галоўнае, збіраецца заўсёды тут жыць,— падаў з машыны голас Хамянок.— Правільна прадумаў Тарасавіч. Я таго хлопца ведаю...

Курневічу не хацелася адразу ж пасля парады свайго шафёра пагаджацца, а таму ён спытаў у Ігната:

— А можа, усё ж дакапаеш бульбу?

— Канешне. У гэтым годзе ўсё давяду да ладу, а потым...

— Добра,— сеў у машыну Курневіч, буркнуў: — Паехалі, філосаф.

Хамянок нічога не адказаў, толькі ўсміхнуўся прыжмуранымі вачыма і нячутна крануў машыну з месца.

Пасля добрага абеду Курневіча цягнула на дрымоту. І ён, крыху ссунуўшыся з сядзення, сядзеў, заплюшчыўшы вочы. Марудліва, без натугі, як мроіва, наплывалі думкі пра новы дом, пра перасяленне, пра людзей мяккіх, абыходлівых, старатлівых і ў той жа час упартых. Відаць, трэба сёння ж паклікаць брыгадзіра будаўнічай брыгады, загадаць, каб выдзеліў людзей, няхай хутчэй заканчваюць катэдж. Каб Дзень калгасніка адсвяткаваць ужо тут. Разам з усімі...

Да вечара Курневіч паспеў яшчэ пабыць у чатырох брыгадах. Усюды бульбу капалі нядрэнна, хаця і не такімі тэмпамі, як хацелася.

У добрым настроі вярнуўся пад вечар у калгасную кантору Курневіч.

Не паспеў зайсці ў свой кабінет, як парторг, пачуўшы, што старшыня ляпнуў дзвярыма, адразу ж зайшоў да яго.

— Цудоўных хлопцаў знайшоў,— яшчэ з парога радасна сказаў ён.— Тры браты. Адзін жанаты, жыве ў прымах. У Прудоўцы, жонка цяжарная. Другі вучыцца ў сельгасвучылішчы, а самы меншы ў арміі. Дык я і падумаў, а калі даць кватэры ў новым катэджы? Га? Затрымаем у калгасе трох хлопцаў.

— Дык здорава ж,— адразу зразумеў ён парторга.

— Выклічам салдата і гэтага, з вучылішча, і ўручым ім ключы, каб потым нікуды не збеглі.

— Добра,— сказаў у роздуме Курневіч, успомніўшы ранішнюю гутарку са сваім вадзіцелем.— Рыхтуйце, так сказаць, мерапрыемства. Плануйце яго на пачатак кастрычніка. Можа, нават на Дзень калгасніка. Пачнём наша свята з мітынгу ля катэджа. Можа, там і назву вуліцы аб'явім. Маладзёжная. Ды і заселім яе моладдзю. А што?

— Правільна, Данілавіч. Даўно трэба было зрабіць гэта,— падтрымаў старшыню парторг.

— І яшчэ. Давайце заўтра раніцай пад'едзем у Прудоўку. Там трэба з брыгадзірам разабрацца,— глянуў на гадзіннік.— Ледзь не забыўся пазваніць у бальніцу. Пачакай трохі, зараз пазвонім. Што там у нашага брыгадзіра нарадзілася?

Ужо добра згусцеў ранні асенні змрок, калі Курневіч нарэшце выехаў дамоў. Было ціха і цёпла, здавалася, нават прыпарвала, як вясной. Але ў машыне праз адкрытае шкло цягнула скразнячком. Курневіч накінуў на плечы плашч, які прыхапіў, выходзячы з канторы. Папраўляючы палу, наткнуўся на ёмісты скрутак у кішэні.

«Зноў будзе жонка дакараць, што не берагу сябе»,— падумаў Курневіч і сказаў:

— Дык ведаеш, Пракопавіч, дарэмна мы з табой глядзелі домік. Вырашылі аддаць маладым. Правільна зрабілі? Як думаеш?

Хамянок памаўчаў, а потым сказаў, не зводзячы вачэй з дарогі:

— Я думаю так, як і вы...

— А як жа з маім перасяленнем?

— Будзем ездзіць. Не пяшком жа хадзіць.

— А можа, падшукаць якую хату? Ёсць жа пакінутыя.

— Хаты ёсць, але навошта? Навошта вашай маладзіцы тая хата? Ні вады, ні газу. Дровы цягай, печ палі... А тут жа кватэра. Камфорт.

— Не хочацца, каб калгаснікі лічылі мяне чужаком,— і Курневіч употайкі глянуў на Хамянка. Часам той сваім выразам твару гаварыў болей, чым словамі. Але на гэты раз выраз твару зусім не змяніўся. Як быў засяроджана напружаным, такім і заставаўся. Было цёмна, і шафёр з большай пільнасцю, чым удзень, сачыў за дарогай.

— А вы ведаеце, што з вашым прыходам у нашым калгасе павесялела? — спытаў у сваю чаргу Хамянок.— Адным старым сумна жыць. Без дзіцячага плачу, без піску. Яно ж, як на могілках... А так... Людзі адчулі, што

адны пад старасць не будуць. Так што нічога, калі трохі і паездзім, усе бачаць, што вы за чалавек.

Падтрымка вадзіцеля нечакана расчуліла яго. Каб не выдаць сябе, Курневіч адчыніў бакавое шкло і падставіў свой твар тугому, прапахламу звялым бульбоўнікам ветру...

## ХАТА

Марфа ведала: каб жыць далей, трэба хоць трохі есці. Яна без усялякае ахвоты выпіла шклянку сыраквашы, апранулася, прыхапіла бляшанку з учарашнім малочным супам, вынесла яе ў сенцы, паставіла на падлогу катам, што сядзелі на брусе ў сенцах і ў паўзмроку нецярпліва свяцілі зялёнымі вачыма, чакаючы свой сняданак. Потым у каморы ўзяла ў прыпол крыху ячменю, у двары ля ганка сыпанула яго курам і скіравала на вуліцу.

На вуліцы было пуста і прасторней, чым улетку: лістота абсыпалася з дрэў і шырэйшае неба вісела над вёскай. Недзе за лесам паднялося позняе сонца і асвяціла вершаліну таполі, высокія цынкавыя каміны над дахамі.

На траве, асабліва паўз платы, за ноч нацерушыўся кволы іней. І па чорных слядах, што спаласавалі вуліцу, было відаць, хто і куды пайшоў ці паехаў. Большасць слядоў вяла да калодзежа, які толькі адзін уцалеў на іх асяродку. Усе бралі ваду ў калодзежы, а не ў водаразборных калонках, якіх было нямала па вуліцы, але вада з іх так пахла жалезам, што чай немагчыма было піць.

І толькі ад двара Марфы пакуль што не было ніякага следу. Малака ёй яшчэ ўчора прынесла Люба. Яна ж, убачыўшы, што ў хаце мала вады, прынесла пару вядзёр з калодзежа.

«Да каго б пайсці?» — стаяла і думала Марфа.

Кожны дзень, паснедаўшы, яна ні хвіліны не сядзела дома. Адной ёй было так сумна, што яна не знаходзіла сабе месца. Каб яшчэ мела сілу, а то ж рабіць нічога не магла: так апошнім часам балелі ў яе рукі. Ды і галава. Нагнуўшыся, не магла пабыць і мінуты. Яна не адзін раз ужо шкадавала, што на зіму не паехала да каго-небудзь з сыноў. Запрашалі ж. І настойліва.

«Да каго ж пайсці?» — яна стаяла і перабірала ў памяці, у каго не была даўно: не хацелася кожны раз хадзіць да адных і тых жа. Баялася надакучыць.

У тым канцы вёскі, з якога дарога вяла ў цэнтр кал-

гаса, раптам паказалася грузавая машына-будка. Такіх машын у калгасе не было. Можа, якая аўталаўка? Дык не, на аўталаўку не падобная. У аўталаўцы, якая звычайна заязджала да іх у Ягадную, будка была сіняя. А гэта нейкая шэрая.

Машына спынілася ля Верчынага двара. З яе выйшлі двое валасатых хлапцоў у чорных берэтах і зялёных куртках, скіравалі да Веркі ў хату. Ці не газавікі якія? Верцы таксама ў свой час не правялі газ: маўляў, хата малая, нельга. Ды яна тады і не вельмі настойвала. Маўляў, і так абыдзецца. Абыходзілася ж да гэтага. А калі паглядзела, як гэта добра, калі ў хаце газ, і самой захацелася. Казала, да Масквы дойдзе, а свайго даб'ецца. Праўда, у Маскву не ездзіла, а заяву старшыні калгаса напісала. І нібы пісала яшчэ ў раён. Ва ўсялякім выпадку, газ ёй падвялі тады, калі праводзілі і Марфе. А вось кацёл не паставілі, нібы не хапіла ў іх тых катлоў.

Марфа паспяшалася да Веркі. Яна ўбачыла яе ў двары. Відаць, выскачыла ў пограб за якімі агуркамі, бо трымала вялікую чарапяную місу ў руках.

— Ці не газавікі гэта, Верачка, у цябе?

— Яны ж, Марфачка.

— А што яны будуць рабіць?

— Кацёл паставяць. А калі не пашкадую расолу, гавораць, то сёння і запаляць. Яны ва ўсіх збіраюцца катлы правяраць і запальваць.

— Можа б, і ў мяне запалілі?

— А ты ідзі пагавары, Марфачка,— і яна пабегла ў пограб.

Хлопцы, звесіўшы доўгавалосыя галовы, разглядалі вялікі, як газета, аркуш паперы, разасланы на стале. Папера была пакрэслена бляклымі фіялетавымі лініямі, клетачкамі, крыжыкамі, лічбамі.

— Дзень добры вам! — павіталася з імі Марфа.— Скажыце, калі ласка, вы кацёл будзеце запальваць?

— Спачатку, бабулька, яго трэба паставіць,— адказаў адзін, мелькам глянуўшы на Марфу.

— У мяне ж пастаўлены. Вы ж, мабыць, і ставілі. Казалі тады, каб дымаход толькі зрабіла, бо без яго не запаліце. Дымаход стаіць, з цынку, высокі, як і ва ўсіх,— пахвалілася Марфа.

— Ваша прозвішча? — дастаў з кішэні адзін з газавікоў блакноцік, пачаў гартаць яго.

— Кравец. Кравец Марфа Тарасаўна.

— Ёсць такая,— і газавік зноў схаваў блакноцік у кішэню курткі.— Заглянем, чакай.

— Дык і запаліце?

— Запалім. Калі вада ў катле будзе. Трэба ж праверыць, каб нідзе не цякло... Чакайце ў канцы дня. А можа, і раней.

— Добра, добра,— неяк разгублена сказала яна і, яшчэ крыху пастаяўшы, выйшла.

Хто ж ёй цяпер наносіць вады? Гэта ж трэба, каб вада запоўніла ўсе трубы, батарэі і сам кацёл, які стаяў на даху, якраз над воданагравальнікам, змацціраваным у кутку ў пярэдняй, насупраць печы. Вядзёр сорак, не меней, спатрэбіцца вады.

Кожны раз, як прыязджаў Толік, ён абяцаў нанасіць вады ў кацёл. Ды так і не нанасіў. Усё не хапала часу. Праўда, як прыязджаў у апошні раз, то прасіў адразу ж пазваніць, калі стане вядома, што прыехалі газавікі. Маўляў, ён на машыну — і праз якую гадзіну будзе тут.

Можа, пазваніць? Можа, яшчэ паспее прыехаць і нанасіць вады?

Марфа, не заходзячы дамоў, паспяшалася на комплекс. Яго пабудавалі якраз на паўдарозе з Ягаднай у Прудоўку. Тры вялізныя кароўнікі злучалі паміж сабой доўгімі вышклянымі калідорамі. Уся ж забудова была абнесена высокай металічнай сеткай на бетонных слупках.

Марфа зайшла ў двухпавярховы домік жывёлаводаў, што стаяў якраз пры ўваходзе на тэрыторыю комплекса. На першым паверсе нікога Марфа не знайшла. Дзверы ў раздзявалку, у душавую, у буфет і ў кантору былі зачынены на ключ.

На другім паверсе, у невялічкай зале, застаўленай паўз вокны высокімі лапушыстымі фікусамі, перад уключаным тэлевізарам сядзела маладзенькая дзяўчына ў квяцістым шаўковым плацці, выцягнуўшы танклявыя ногі ў бліскучых туфельках.

— Добры дзень табе, Зоечка! — павіталася Марфа з дзяўчынай.— Як тут цёпленька ды чысценька! Ой, як добра ды прыгожа рабіць цяпер на ферме. Каб ведаць, што так будзе, то нікалі б сваіх дзяцей з вёскі не пускалі б нікуды. А то паразляталіся па свеце, а цяпер гаруй тут адна,— яна раптам шмарганула носам, кранулася краем рукава вачэй.

— Вы, цётачка, хочаце сыну пазваніць? — спытала дзяўчына.

— Ага ж, дзетка.

— Зараз пойдзем і пазвонім,— яна глянула на маленькі жоўты гадзіннічак на руцэ, выключыла тэлевізар, а потым, ужо на першым паверсе, узяла ў раздзявалцы белы халацік, накінула яго сабе на плечы, падала халат і Марфе.— Пойдземце ў апаратарскую, адтуль і пазвонім...— І часта зацокала звонкімі абцасікамі па бетоннай вузкай сцежцы, што вяла праз шырокі двор да апаратарскай. Услед зашоргала Марфа растаптанымі валёнкамі ў галёшах.

Яны зайшлі ў невялічкі пакойчык-прыбудовачку, які быў адразу ж за першым кароўнікам. Пакой быў чысты, з адным шырокім, на ўсю сцяну, акном. Дзяўчына села ў мяккае крэсла на адной высокай металічнай ножцы, паглядзела на стрэлкі, якіх багата было перад ёю за круглымі і квадратнымі шкельцамі, шчоўкнула адным рычажком, другім. Замігалі дзве лямпачкі: чырвоная і зялёная.

— Ну вось, пакуль нашы цяляткі будуць піць, мы і пазвонім вашаму сыну,— яна падсунула да сябе бліжэй невялікі чорны тэлефон, зняла трубку, набрала нумар, павіталася з нейкай Раечкай, спытала, што сёння будзе ў клубе, потым папрасіла набраць нумар тэлефона Толіка. Праз якую мінуту яна паклала трубку і сказала Марфе, што яе сын не адказвае, некуды выйшаў. Убачыўшы, што Марфа засмуцілася, сказала, што абавязкова да яго дазвоніцца, спытала толькі, што яму перадаць.

— Скажыце, Зоечка, газавікі тут, каб прыехаў вады панасіў у кацёл.

— Добра, цётачка,— паабяцала дзяўчына.

Марфа вярнулася дамоў. Ад хуткай хады прыкметна стамілася. Прылегла на канапу. Але паляжала нядоўга. Можа, праз паўгадзіны падхапілася, кінулася да акна. Потым выйшла на агарод, пацікавілася, ці няма там на дарозе з Прудоўкі якой машыны — той дарогай заўсёды прыязджаў Толік. Яна стаяла доўга, абапёршыся на плот. А што, калі не прыедзе? Што тады рабіць? Сама ж яна не зможа панасіць столькі вады. Тут іншы раз адно няпоўнае вядзерца прынясеш, і то рукі потым цэлую ноч выкручвае. А сорак вядзёр... Здаровы натоміцца, не тое што яна, хворая. Нядаўна ляжала так, што думала, не падымецца. Яшчэ ў Мінску ўрач папярэджваў, каб нічога цяжкога не рабіла. Дык забылася ж на тую параду. Адчула сябе лепей і вырашыла, што зусім акрыяла. Нават пакапала бульбу ў сябе за садам, ды яшчэ і Ігнату памагла капаць у полі.

У той вечар, як прыйшла ад Ігната, ёй і стала блага. Схапіла сэрца так, што хоць крычы. Праўда, яна не крычала, цярпела, толькі потам аблівалася і стагнала. А ў бальніцы праз некалькі дзён, калі сэрца падлячылі, пачалі балець рукі. Асабліва левая. Марфу і з бальніцы выпісалі, а рукі яшчэ балелі. Сказалі, што яны будуць балець доўга, але боль пройдзе. Толькі нельга падымаць нічога цяжкага.

Вярнулася зноў у хату. Глянула на гадзіннік. Прайшло, можа, якія дзве гадзіны з таго часу, як яна хадзіла званіць сыну, а яго ні слыху ні дыху. Відаць, не дазванілася яму, бо каб дазванілася, то Толік ужо прыехаў бы. А калі зусім не дазвоніцца?.. Можа, каго папрасіць нанасіць вады? Яе ж і насіць недалёка. Здароваму чалавеку гэта не вельмі вялікая работа. Папрасіць Ігната? Ён бы памог, каб не падымаць ваду ўгару. Люба казала, што ў яго таксама з сэрцам не вельмі. А яе прасіць зусім няёмка: і яна не вельмі здаровая ды і памагае ёй часта. Збегаць да Вольгі? Сорамна. Як якая цяжкая работа ў Марфы, так кожны раз і бяжыць да яе. Хіба Ніну папрасіць? Гэтая, вядома, пагадзілася б. Але ж вельмі занятая. Дзе яна знойдзе той час ваду насіць? Можа, да Паўліка Пыжыка звярнуцца? Той за гарэлку што хочаш зробіць. Ніколі не адмаўляўся.

У двары Пыжыка Марфа сустрэла яго жонку, якая з двума вёдрамі спяшалася па ваду.

— А дзе ж твой Паўлік, Кацечка?

— А ляжыць, каб яго...

— Захварэў?

— А ў яго заўсёды адна хвароба,— і жанчына не стала болей гаварыць, скіравала да веснічак.

— А я ж хацела папрасіць яго...— услед паспрабавала растлумачыць свой прыход Марфа.

— Паспрабуйце разбудзіць,— буркнула Каця не азіраючыся. Яна не любіла, і Марфа гэта ведала, калі вось такія адзінокія жанчыны, як яна, прасілі Паўліка памагчы па гаспадарцы, бо лічыла, што яны яго і спойваюць. Канешне, Паўлік рабіў толькі за гарэлку. Але ж яму сілком яе ў рот ніхто не ліў. А потым жа ўсе ведаюць, ведае і яго жонка, што Паўлік добра піў і раней, калі яшчэ ў вёсцы абыходзіліся без яго помачы. А потым — ён мог жа браць і грашыма. Яшчэ лепей было б. Аддаў якую дзесятку, і ніякага клопату.

Марфа пасля сустрэчы з Кацяй не хацела і ў хату заходзіць, будзіць Пыжыка. А потым падумала, што ён, мо-

жа, ужо не так і моцна спіць, як казала яго жонка, і зайшла. Пыжык ляжаў на канапе ў светлай палавіне хаты, не раздзеўшыся, без падушкі. Відаць, як зайшоў у хату, кінуўся на канапу, так і заснуў. Марфа паклікала яго, ён нават не паварушыўся. Болей будзіць не стала. Было ясна, што калі і прачнецца, то з яго работнік усё роўна нікчэмны.

Марфа выйшла на вуліцу, спынілася, думаючы, да каго б ёй кінуцца. Можа, папрасіць Рыгора Носіка. Кароў зараз не пасе, відаць, рабіць асабліва нечага. За грошы не адмовіцца.

Носік пагаджаўся памагчы, але не сёння, а заўтра.

— Заўтра ж газавікоў не будзе, Грышачка...

— Не ведаю, цётачка. Але сёння я сабе хачу нанасіць вады. І Верцы паабяцаў. Так што вам не паспею.

— Што ж рабіць мне, Грышачка?

— А чорт яго ведае,— адказаў Рыгор Носік.

«Урэшце можна і не спяшацца з гэтай вадой,— падумала Марфа, калі вярталася дамоў ад Носіка.— Пакуль што не холадна. А калі раптам пахаладае, можна і грубку прапаліць. А там Толік прыедзе, наносіць вады і запаліць воданагравальнік. Ён жа ў тэхніцы разбіраецца не горш за тых доўгавалосікаў...»

Але як ні старалася супакоіць сябе Марфа, ёй гэта не ўдавалася. А тут яшчэ ўсе да калонак з вёдрамі зашасталі. Ды адна перад адной аж навыперадкі. Як хутка ні цячэ вада ў тых калонках, але ля іх ледзь не чэргі збіраюцца. Усе спяшаюцца. Старая і хворая Верка і тая выскачыла ды аж з двума вёдрамі. Нават не апрануўшыся, у адной кофце. Бач, горача ёй стала.

— Табе ж Носік наносіць,— зачапіла яе Марфа.

— Ды абяцаў жа. Але хто яго ведае,— сказала весела Верка не спыняючыся.— А я во патроху, патроху ды і нанашу.

«А можа б, і я патроху? — разважыла Марфа.— Не абавязкова ж па цэламу вядру насіць, можна і па паўвядра, а то і паменей. Неўзаметку і нанашу. Да канца дня яшчэ далёка».

Спачатку некалькі разоў яна схадзіла з адным вядзерцам. Палову вядра было несці зусім няцяжка. Яна ўзяла і другое вядро. З двума было яшчэ лаўчэй: не хіліла цябе на адзін бок, не трэба было ўпінацца спіною. Ідзеш спакойна, роўна. І не скажаш, каб ужо цяжка было. Толькі знадаядала кожны раз падымацца па лесвіцы на гарышча,

дзе стаяў кацёл. Ды і ногі млелі. Можа б, яны і не млелі, каб яна яшчэ не спяшалася. Прынесла б пару разоў, пасядзела, адпачыла. А яна ж насіла ваду без перадыху. Нават крыху прыспешвалася. Бо ёй здавалася, што вельмі ж марудна ходзіць: абед даўно мінуў, а яна і палову яшчэ не нанасіла. Адзін раз ёй нават паказалася, што, можа, дзе ў хаце трубы цякуць, што льеш, льеш тую ваду, і як у прорву якую. Зайшла ў хату, агледзела ўсе трубы. Трубы і батарэі былі сухія. Толькі ж вельмі халодныя, як хто лёду ў іх натаптаў. Аж у хаце пасвяжэла ад іх.

Калі нарэшце яна выліла ў кацёл апошняе паўвядзерца, то адчула, што ў яе ўжо не стае сілы прынесці вады ў хату. Крыху пасядзела, а ўсё ж схадзіла да калодзежа, хоць на дне вядра, а прынесла: у хаце нельга без вады. Пасля сыпанула курам ячменю, вынесла малака катам у сенцы і толькі потым успомніла, што яшчэ не абедала. Дастала з печы гаршчочак малочнага крупніку з высахлай, аж чорнай зверху плеўкай. Крупнік быў густы, як каша. Малако амаль усё выпрала. Яна з'ела, можа, пару лыжак той кашы, потым зачэрпнула з вядра вады і выпіла ледзь не поўны карэц. Вада была халодная, аж у зубы заходзіла. Ці, можа, падалася такой пасля цёплага крупніку. Прылегла на канапу. Нібы пацягнула на сон. Паднялася. Баялася заснуць і празяваць газавікоў. Прысела на табурэтку ля акна і сядзела, не зводзячы вачэй з вуліцы. Нылі ад стомы ногі, а правая рука балела так, нібы хто выцягваў з яе жылле. Марфа напружана прыслухоўвалася да сябе, баялася, каб не паўтарылася тое, што было пасля бульбы...

Сонца ўжо апусцілася нізка і адбівалася чырванню ў вокнах хат з таго боку вуліцы.

«А можа, сёння і не прыйдуць тыя газавікі? Можа, я дарэмна толькі надрывалася? Можа, яны заўтра прыйдуць?»

Газавікі ўсё ж прыйшлі. Адзін з іх памацаў знізу батарэі, трубы, дзе яны прывінчваліся да батарэй, а другі злазіў на гарышча, агледзеў кацёл. Запалілі воданагравальнік, спыталі, як паставіць, каб цяплей было ў хаце ці халадней. Марфа папрасіла, каб паставілі так, як ва ўсіх. Яны яшчэ паказалі, як рэгуляваць тэмпературу, папярэдзілі, каб сачыла за вадой у катле, бо вада выпараецца, і развіталіся.

Марфа, застаўшыся адна, адкрыла дзверцы ў воданагравальніку, палюбавалася блакітнымі язычкамі полымя,

закрыла іх зноў, пастаяла, паслухала, як там гуло. Потым памацала батарэі. Яны пакуль што былі халодныя. Пасядзела крыху, зноў памацала. І зноў яны былі халодныя, не нагрэліся ніколечкі. Падумала, што, можа, не так уключылі. Апранулася, пабегла да Ігната. Там даведалася, што батарэі нагрэюцца толькі праз некалькі гадзін. Супакоілася. І хаця Люба запрашала яе застацца павячэраць разам з імі, не засталася. Пайшла дамоў. Маўляў, стамілася, спаць вельмі хочацца.

Марфа зачыніла з вуліцы веснічкі на шчапок — яна заўсёды зачыняла іх на шчапок, каб раптам хто не забрыў ноччу ў двор,— праверыла, ці не забыла замкнуць дзверы ў пограб, дзе ў яе стаяла некалькі бутляў з кампотам, а ў паліванай выварцы — салёныя агуркі і ледзь не да столі ў засеку было насыпана бульбы. Зайшоўшы ў хату, адразу адчула, што паветра ў ёй памякчэла. Уключыла святло, распранулася, памацала батарэі. Яны былі цёплыя, аж гарачыя. Ёй раптам захацелася пабегчы да некага і пахваліцца, што ў яе цёплыя батарэі, але ўспомніла, што яны такія ж ва ўсіх, што нікога не здзівіш такой навіной. І ўсё ж яна не магла легчы спаць, не падзяліўшыся сваёй радасцю.

З тумбачкі пад тэлевізарам Марфа дастала вучнёўскі сшытак, шарыкавую ручку, прысела да стала. Яна зараз напіша ўсім сваім сынам лісты і раскажа пра сваю радасць. Цяпер жа ёй не трэба ні грубкі, ні печы паліць, не трэба насіць дровы, выграбаць попел, само грэецца, ды так добра, што смела можна спаць нават на падлозе. Але пісаць яна не змагла, не слухалася рука, была як з ваты. І літары выходзілі такія, што і не разабраць — то большыя, то меншыя, то раптам адна літара налазіла на другую.

І ад таго, што не было ёй з кім падзяліцца сваёй радасцю, што ў яе напрацаваных руках не засталося сілы нават на тое, каб напісаць лісты дзецям, яе раптам ахапіў такі жаль да сябе, што яна не стрымалася, дала волю слязам.

Сядзела над сшыткам, а слёзы сыпаліся на крывыя літары, размываючы іх у сінія плямы.

Выплакалася, крыху супакоілася, глянула на грубку-галандку, якая заўсёды давала цяпло, а цяпер стаяла непатрэбная і нейкая бездапаможная ў сваёй пакінутасці, і слёзы зноў засланілі ёй вочы: «І будзеш ты стаяць цяпер халодненька-а-а-а-я, мая ты сіраціначка-а-а...»

Ці ад апустошанасці, якая прыйшла на змену слязам, ці ад хваляваня, якога хапіла ёй у гэты дзень, ці ад стомленасці, а можа, нават ад разамлеласці ў цёплай хаце, толькі Марфу раптам ахапіла такая слабасць, што ледзь здолела кінуць на канапу падушку і выключыць святло...

Яшчэ ніколі яна не бачыла столькі сноў, як у гэтую ноч.

Усё жыццё прайшло перад вачыма, толькі вельмі ж скарожанае, перакручанае.

Вось яе Андрэй, малады, высокі, прыгожы. Густы чарнявы чуб. Адразу пасля сямігодкі — па даваеннаму часу адукацыя ў вёсцы немаленькая — стаў калгасным брыгадзірам. Вясёлы, радасны, шчаслівы, ён танцуе ля школы пад гармонік. Танцуе на кані, хутканогім гнядым жарабцу. У руках яго «калдыбаха», з якой ён ніколі не разлучаўся, усё мераў і перамерваў калгасныя абсягі, а яна, Марфа, смяецца, крычыць яму, што не дазволіць праводзіць яе, раз ён з «калдыбахай», а не з ёю танцуе. А я цябе даганю, грозіцца Андрэй і скача за ёй на кані. Яна бяжыць, спачатку лёгка, не чуючы ног пад сабой, не бяжыць, а ляціць, як птушка. Але вось яна чуе ўжо гарачае дыханне ў патыліцу, азіраецца і бачыць, як Андрэй аж высільваецца, каб не растаптаць яе, каб спыніць каня, нацягвае цуглі з усяе сілы — пыса каня падгінаецца аж пад самую шыю,— але стрымаць не можа. А «калдыбаха» вакол Андрэя ўецца змяюкай, выторквае наперад то адну сваю нагу, то другую, а на канцы тых ног змяіныя галовы шыпяць, гарачым абдаюць Марфу, імкнуцца ўкусіць яе. Марфа замахваецца капаніцай, з якой, аказваецца, яна і бегла, хоча адсекчы іх і бачыць, што то не змяіныя галовы, а дзве галавы Ганны Канцавой. Адна галава залівіста смяецца, а другая плача, і дзве яны гоняцца за ёй. У Марфы ўжо і ног не хапае бегчы, а тыя галовы, не датыкаючыся зямлі, ляцяць за ёй так хутка, нібы іх гоніць вецер. Конскі тупат стаіць такі, быццам цэлы табун капыціць зямлю. Марфа з разгону скача ўбок і адчувае, што раптам ляціць у нейкую прорву.

І настае цішыня. Марфа ляжыць на дне глыбокай ямы, а наверсе, па краі яе, скача нямецкі аўтамат, выскаляецца, грызе скарынку і гергеча нешта на незразумелай мове. Марфа камком зямлі кідае ў той аўтамат і па абрыве пачынае ўзбірацца наверх. І вось ужо не па абрыве, а па вясковай дарозе паўзе яна, і нешта цяжкае прыціскае яе да зямлі. Ужо калені і рукі правальваюцца ў дол. Азіраец-

ца, а гэта ў яе на спіне ўселася чорная з белымі плямамі на баках і з зорачкаю на лбе карова. Нібы яна захварэла, аслабла, і Марфа на сабе яе цягне да ветэрынара. І раптам яна спатыкнулася на дарозе, а падняцца не можа. А збоку, за канавай, у якой поўна вясенняй вады і ў якой цвіце жоўтая лотаць, стаіць Андрэй з вінтоўкаю і крычыць ёй:

— Кідай, а то прыдавіць. Чуеш?

— Як жа я кіну, калі яна з зорачкай?

— Вось прыдавіць, тады будзеш ведаць зорачку. І сама загінеш, і карова прападзе.

— Не загінем.

— Чаму?

— Мы з каровай вечныя. Як зямля.

— Зямля ж гарыць пад нагамі. Амерыканцы падпалілі яе атамам...

— Мы з каровай застанемся, калі і зямля згарыць.

— Дурная баба! — смяецца Андрэй.

— Не дурная, а вечная. І калі ты гэта зразумееш, таксама станеш вечным.

— Каб вечна цягнуць карову на сваёй спіне? Няма дурных.

— Захочаш жыць, пацягнеш.

— Салёную вадзічку буду піць, а не пацягну.

— Дык соль жа трэба.

— А твая карова засалілася ад твайго поту.

Азірнулася Марфа, і праўда, не карову яна цягне ўжо на сваіх плячах, а мяшок з соллю. А вакол немцы рагочуць, паказваюць на яе пальцамі. І ёй не столькі цяжка ад таго мяшка солі, як ад здзекаў фашыстаў. Такога здзеку Марфа не пацерпіць нават у сне. Яна скідвае мяшок і кідаецца на самага тоўстага і праціўнага фашыста, пачынае таўкці кулакамі ў яго раз'юшаную морду. І раптам перад ёй ужо не твар фашыста, а шырокі, крыху спарахнелы, з вывернутымі карэннямі корч. І рагоча той корч па-чалавечы. А потым яны з мужам абсякаюць карэнні, каб як адарваць корч ад зямлі і пагрузіць яго на двухколку, а карэнні зноў адрастаюць, чапляюцца за зямлю. Але нарэшце корч пагрузілі, а крануць двухколку не могуць. Азірнуліся, а корч зноў учапіўся за зямлю сваімі вусамі-карэннем і рагоча ікластым ротам. Андрэй схапіў сякеру і давай абсякаць карэнні, але толькі абсячэ адзін, возьмецца за другі, а першы зноў урастае ў зямлю.

— Цягні хутчэй двухколку, каб яны не паспявалі чап-

ляцца! — крычыць ён Марфе. Яна ўпінаецца, здаецца, з апошніх сіл, хоча папрасіць Андрэя, каб спыніцца, адпачыць, азіраецца і бачыць за сабой ужо не двухколку, не мужа, а плуг і сваіх таварышак-аднагодак. Яны ўсе налягаюць на той плуг, махаюць пугай, крычаць ёй, каб не прыставала, а цягнула, бо сеяць трэба, пакуль зямля не перасохла. Яна раззлавалася на сваіх сяброўак, кінулася на іх, а тыя раптам пабеглі ўцякаць. Ды не па полі, а па вадзе. Бягуць голыя, а пырскі з-пад ног высока ўзлятаюць, б'юць калюча ёй у твар. І каб так не баяцца іх, гэтых пырскаў, яна сама кідаецца ў ваду, і ўсяму яе стомленаму і гарачаму ад натугі целу раптам робіцца холадна. А над ёю з крыкам носіцца нейкая птушка і кліча з сабой. Прыгледзелася, а гэта не птушка, а яе Андрэй лётае, і крылы ў яго, як у таго бога на іконе, што яшчэ да вайны вісела на покуце ў матчынай хаце. Марфа цягнецца да Андрэя рукамі, стараецца спаймаць яго за рукі, якія ён падае ёй, часта хлопаючы сваімі маленькімі і таму, здаецца, бездапаможнымі крыламі. І вось яна спаймала яго чэпкія і халодныя як лёд пальцы. Андрэй цягне яе ўверх, трапечa крыльцамі так, што аж пер'е з іх ляціць, а ўзляцець не можа. Нешта моцна трымае яе за ногі. Глянула ўніз, аж усе тры яе сыночкі ўчапіліся за яе і не пускаюць, нема крычаць, просяць не пакідаць іх. Яна адпускае халодныя пальцы мужа, і той адразу ж узлятае ў неба, становіцца белым лахматым воблачкам, а хутка і зусім растае на сонцы. А сонца паўдзённае, гарачае, нясцерпна зыркае. І вады ўжо навокал яе няма, і яна ў нейкім полі, застаўленым кучкамі льну. Ёй хочацца схавацца ў цянёк, а кучкі ўсё адбягаюць ад яе. Марфа падае ў роспачы на сухую гарачую зямлю, бездапаможна плача. І раптам пачало гудзець над самым вухам. Упарта, неадступна. Яна падумала, што які чмель ёй так надакучвае. Махнула рукой. А чмель усё роўна гудзе. Падняла галаву, а то, аказваецца, не чмель, а карэц — медны, луджаны,— поўненькі хлебнага пеністага квасу. Аж пена перавальваецца цераз край. Марфа хоча спаймаць той карэц, але ён лётае навокал, не даецца ў рукі. А сілы ўжо ніякай, адчувае, што калі зараз не схопіць той карэц і не нап'ецца, то зусім зняможа. І яна напружваецца, хапае той карэц, цягнецца да яго засмяглымі губамі і з жахам заўважае, што ў яе руцэ не карэц, а пранік, самы звычайны пранік, якім яна абівала лён. Яна хоча адкінуць ад сябе той пранік, але не можа адарваць ад яго рукі. І спыніць пранік не можа. Рука ўжо заходзіцца

ад болю, а ён усё лётае і лётае, ды не проста лётае, а яшчэ і па снапах калоціць. А то возьме ды і ўцэліць ёй у грудзі, якраз там, дзе сэрца. Ды так балюча жахне, што аж у галаве гудзе ад болю. І Марфа ад жаху крычыць, каб памаглі ёй пазбавіцца гэтага наслання, але не чуе свайго голасу, ведае, што і яе ніхто не чуе, ніхто не прыйдзе ёй на дапамогу. І тады яна прыўзнімаецца, хапае той ашалелы прапік аберуч, навальваецца на яго ўсім целам, прыціскае да зямлі. І ёй раптам становіцца так радасна, што нарэшце адолела гэтае насланнё. Яна азіраецца, каму б пахваліцца сваёй перамогай, але ўсё навокал белае, а побач сядзіць незнаёмая жанчына таксама ва ўсім белым. Марфа спрабуе падняцца з вузкага ложка, каб лепей агледзецца, але жанчына ў белым гаворыць ёй:

— Не хвалюйцеся, калі ласка. У вас быў крызіс. Цяпер усё нармальна. Але пакуль лепей не рухацца, паляжыце спакойна.

З-за спіны жанчыны выраслі постаці яе сыноў, Сяргея і Толіка. Таксама ў белых халатах.

— Дзе я? — спытала Марфа і ледзь пачула свой голас.

— Вы ў бальніцы,— сказала жанчына.— А гэта вашы сыны.

— Я прыехаў у той дзень, як пазваніла мне Зоя,— сказаў Толік.— Стукаў, стукаў — ніхто не адчыняе. Узламаў замок. Ты ляжыш на канапе не распрануўшыся. Выклікаў «хуткую дапамогу»...

— А як там кацёл? — спытала ціха Марфа. Цяпер яе голас быў чуваць лепей.

— Нармальна. Грэе.

— А дзе ж Ігар? — зноў спытала Марфа, не ўгледзеўшы свайго меншага.

— У санаторыі. Таксама прыедзе. Мы званілі яму,— сказаў Сяргей.

— Ну добра,— паднялася жанчына ў белым халаце.— Ідзіце, таварышы, пасціце, а то самі на нагах ледзь трымаецеся. Думаю, што цяпер усё будзе нармальна. Пойдземе. Вашай маці трэба адпачыць. Пад вечар заглядніце...

Усе ціха выйшлі. Марфа заплюшчыла вочы. Ад усяго гэтага белага навокал, ад цішыні, ад таго, што яе сыны былі з ёй, ёй раптам стала спакойна і хораша.

Пачулася, як у калідоры Сяргей спытаў ва ўрача:

— Можа, пазваніць Ігару, каб не ехаў? Хай лечыцца там...

— Калі зможа, хай пад'едзе,— параіла ўрач.

«Вось добра, што і Ігарок пад'едзе,— падумала Марфа.— І ён паглядзіць, як у нашай хаце ўтульна і цёпленька...»

## ЧАРОМХА

Унурыўшы голаў у плечы, натапырыўшы вузкі каўнерык тонкага плашчыка, я чакаў на прыпынку свайго аўтобуса. Халодны і сыры вецер пранізваў наскрозь. Нізкія шэрыя хмары сеялі на зямлю дождж уперамешку са снегам. Снег доўга трымаўся на мінулагодняй пажоўклай траве і хутка раставаў на дарозе пад коламі аўтамабіляў, якія несліся, раскідваючы веерам далёка ў бакі мурзатыя пырскі.

Снежная каша хлюпала пад нагамі.

Нават не верылася, што быў май месяц.

Дрэвы стаялі з набухлымі пупышкамі, з якіх вось-вось павінны былі вылузнуцца зялёныя лісцікі. Снег абляпіў дрэвы касмыкаватай пенай, паналіпаў на карнізах дамоў, на газетных кіёсках, выбельваў панурыя постаці людзей, што стаялі на прыпынку.

Аўтобусы, грузавікі, таксі былі мокрыя, брудныя...

Я з нецярплівасцю чакаў свайго аўтобуса. Хацелася хутчэй папасці ў яго зацішную цёплую калатнечу і сагрэцца.

Раптам на прыпынку тармазнуў з падкрэсленай гарэзлівасцю доўгі чырвоны аўтобус, прасунуўшыся коламі па мокрым асфальце.

З адчыненых дзвярэй выйшла маладзіца ў лёгкім блакітным плашчыку, у квяцістай хусцінцы на шыі, з распушчанымі валасамі. У адной руцэ яна несла вялікую разбухлую гаспадарчую сумку, а ў другой — букет чаромхі.

Не паспеўшы зачыніць дзверы за жанчынай, аўтобус з месца ўзяў хуткасць, абдаў на прыпынку ўсіх чорным чадным дымам.

На шыльдачцы з боку аўтобуса я ледзь паспеў прачытаць назву невялічкага гарадка на поўдні нашай рэспублікі.

Значыцца, там недзе ўжо ваўсю буяе чаромха, а тут яшчэ і не відно той вясны.

Вынырнуў са снежнай каламуці і мой аўтобус.

Я толькі паспеў паставіць нагу на падножку, як мяне падхапіла, панесла і паставіла ў закутак ля сцяны, прыціснуўшы тварам да замурзанага шкла, праз якое нічога і відаць не было. Але мяне гэта зусім не раздражняла, бо я і не сабіраўся цікаваць праз акно, мне было зацішна, цёпла, а галоўнае, думкамі быў я далёка ад горада, у якім жыў і працаваў...

Памятаю, кожную вясну, як толькі першая кволая зеляніна прыпарушыць дрэвы, мы ўжо не вучылі ўрокаў, днямі гойсалі па паплавах, па маладой руні, шукаючы яйкі кнігавак. Тыя яйкі ў першыя пасляваенныя гады для нас былі найлепшым ласункам. Дарэчы, і птушак у тую пару было багата. Вечарамі паветра аж звінела ад іх кігікання. Не тое што цяпер, хаця цяпер ніхто птушыных яек і не збірае.

А ў нядзелю мы кампаніяй ішлі ў лес. Той дробны бярэзнік, што шчэццю ўзняўся на месцы сасновага бору, які звялі, адбудоўваючыся, мы не называлі лесам. Лес быў кіламетраў за восем. Хаця і там спрадвечныя дубы паспільвалі на падрубы, на падаконнікі, але там пазаставаліся іх пні, шырокія, як сталы, вакол якіх багата расло заячай капусты — мы называлі яе кісліцай,— рос вялікі густы арэшнік, які сваімі верхавінамі змыкаўся над ляснымі сцежкамі і дарогамі. Ціха, утульна, загадкава-таямніча было ў тых зацененых калідорах, у якіх заўсёды трымалася зеленаватае ахалоджанае паветра.

А ў адным месцы за невялічкаю балацянкаю разбуяліся непралазныя зараснікі чаромхі. Гронкі кветак у цяньку былі буйныя, духмяныя. Увесь дзень на іх трымалася раса. Водар кветак хмяліў галаву. Мы абярэмкамі ламалі чаромху, неслі дамоў. Я нават і цяпер не магу растлумачыць тое наша захапленне кветкамі. Можа, таму радаваліся ім, што яны былі першыя, а можа, таму, што нашай вёсцы, спаленай ушчэнт немцамі, якая яшчэ не вылезла з зямлянак, вельмі не хапала гэтай белай веснавой радасці. А можа, тыя кветкі ўсім нагадвалі пра нейкае іншае жыццё, шчаслівае і прыгожае, якое павінна быць на зямлі, але якога мы, дзеці вайны, не ведалі...

А потым, крыху пазней, калі нашы бацькі пабудавалі хаты, мы панапрыносілі з лесу саджанцаў чаромхі, панасадзілі яе пад вокнамі ў гародчыках.

І з тых часоў вясною пад вокнамі амаль кожнай хаты ў вёсцы буяла чаромха.

У нашым жа агародчыку яна разраслася так, што не адзін раз яе даводзілася высякаць.

Пакінулі толькі некалькі дрэўцаў, якія ўзняліся высока, раскучаравіліся.

Чаромха была нашымі першымі кветкамі. І кожную вясну мы яе неслі ў школу на наш першы экзамен.

На апошнія экзамены ўжо прыносілі бэз.

...Успамінаючы далёкае незабыўнае, я ледзьве не праехаў свой прыпынак.

У гэты дзень усё ў маім кабінеце мяне раздражняла. Раздражняла, што батарэі пад вокнамі былі гарачыя, як узімку. А калі я адкрываў фортку, то кожны раз, як хто адчыняў дзверы, вецер урываўся ў пакой, змятаючы са стала паперы. Раздражняў і гэты вецер. Раздражняў і сам пакой, які быў зроблены так няўдала, што ў ім нельга было схавацца ад скразняку. Ні з таго ні з сяго раптам наляцеў на аднаго сціплага кандыдата навук, які зайшоў да мяне ў кабінет з папяросаю, хаця раней я ніколі не звяртаў увагі на ягоную прывычку хадзіць з папяросаю.

А дома пасля работы я таксама не знаходзіў сабе месца. Здавалася, у кватэры не хапае паветра. Ва ўсім целе была такая стомленасць, што і рухацца не хацелася. Але і заснуць не мог таксама.

— Гэта ў цябе ад таго, што дзень праседзеў у накураным кабінеце,— растлумачыла мне мой стан жонка.— Пагуляў бы па свежым паветры.

Я паслухаўся яе. Апрануўся і выйшаў на балкон. Тут было зацішна, вецер не заносіў сюды зябкай слаты. Праз двор насупраць стаяў счарнелы ад дажджу будынак, засланяючы сабой увесь белы свет. З вуліцы цягнула смуродам перагарэлага мазуту. Я вярнуўся назад, шчыльней зачыніўшы дзверы на балкон. Прылёг на канапу. Узяў быў свежыя газеты, але адкінуў і іх. Ляжаў, глядзеў у столь, а бачыў перад сабою блакітнае неба, да слепаты напоўненае сонцам і скрозь прашытае песнямі жаўрукоў.

— Што з табой? — падсела да мяне Лія, вільготнаю рукою кранулася майго лба. Яна толькі што на кухні мыла посуд.

— Ды нічога.

— Можа, што на рабоце?

— І на рабоце нічога...

— Гавары, гавары... Думаеш, не бачу?

— Відаць, надвор'е такое,— і каб не гаварыць болей пра мой пастрой, сказаў ёй, што бачыў раніцай жанчыну

з чаромхай.— А да нас усё не дойдзе вясна. Можа, клімат мяняецца тут, ці што?

Жонка ўважліва паглядзела на мяне, неяк сумна ўсміхнулася, спытала:

— Калі паедзеш?

— Куды? — не зразумеў я яе.

— Дамоў...— і нібы ўпікнула: — Ты ж больш за трыццаць год жывеш у горадзе, а ўсё лічыш, што твой дом там, а не тут.

— Відаць, даўняя прывычка,— памяркоўна сказаў я.

— Дык калі едзеш?

— Не думаў,— шчыра прызнаўся я, бо ехаць у вёску, «дамоў», і сапраўды не збіраўся.

— А то з'ездзі,— не тое што параіла, а нібы папрасіла яна.— Думаеш, не разумею, адкуль у цябе настрой такі. Можа, павесялееш, не будзеш кіснуць.

Гавораць, што першую палову дарогі звычайна думаюць пра тое месца, адкуль едзеш, а другую — пра тое, куды едзеш.

Я ж, як толькі ўлёгся на ніжняй лаўцы купэ, на каляным, крыху вільготным прасцірадле, адразу ж пачаў думаць пра сваю вёску, дзе мяне зараз ніхто не чакае, бо я ніколі не ездзіў дамоў такою парою, ездзіў звычайна ўлетку, у тыя дні, што заставаліся ад адпачынку, растрачанага ў якім-небудзь санаторыі. Маці таксама, відаць, яшчэ не будзе дома — яна гэтай зімой жыла ў Толіка. Але мяне гэта ніколькі не засмучала, бо ехаў я ў сваю вёску, дзе мяне чакаюць сустрэчы з блізкімі і роднымі людзьмі, са школьнымі сябрамі, з усім тым, сярод чаго рос і жыў доўга, нарэшце, з маім дзяцінствам.

І ад упэўненасці, што з усім, пра што думаю, успамінаю, па чым раптам так востра і нечакана засумаваў, я хутка сустрэнуся, мне было ціхамірна-радасна, што даўно невядомая супакоенасць ахапіла мяне, і я заснуў хутка і моцна. Спаў доўга, аж пакуль не загрукала ў дзверы правадніца.

Сышоў з цягніка на сваёй станцыі Цярушкі ў самым пачатку дня, калі сонца паднялося ўжо даволі высока, але яшчэ не настаў час людзям ісці на працу. Прайшоў паўз склады, нізкія, сляпыя, без акон будыніны пад чорнымі насмаленымі дахамі, мінуў прывакзальны пасёлак і па шляху скіраваў у сваю вёску, што віднелася пад самым лесам. Ішоў па сцежцы, што пратапталі па вузкім хрыбце паміж канаваю, поўнай вады, і самім шляхам, раскоўза-

ным і пабітым трактарамі на глыбокія каляіны, заплыўшыя гразёю.

Раней, у мае школьныя гады, злева ад шляху было балота, якое звычайна такой парою густа пакрывалася жоўтай лотаццю з зялёнымі астраўкамі маладой асакі, дзе любілі гуляць цыбатыя буслы.

Цяпер жа таго балота не было, а як кінуць вокам ляжала чорная ралля, якую перасякалі ў некалькіх кірунках бетонныя слупы электраперадач. Там-сям блішчалі на сонцы невялікія акенцы веснавой вады.

Я ішоў, прыглядаўся да наваколля, да драбніц знаёмага, і адчуваў, што ў ім нечага не стае, і нечага вельмі істотнага, з-за чаго ўсё яно здаецца чужым, толькі знешне падобным на тое, да драбніц знаёмае... Я пачаў разважаць, чаго ж тут не хапае. Няма такой прывычнай лотаці, бо няма балота. Няма і буслоў. Не чуваць кнігавак, якія сваім устрывожана-радасным крыкам абвяшчалі прыход цёплае пары. Не чуваць і жаўрукоў. Падумаў, што не чуваць гэтых гукаў вясны, можа, з-за таго, што вельмі ўжо шамачу поламі плашча. Спыніўся, прыслухаўся. Было ціха. Толькі недзе зусім блізка вада булькала ў канаве, перавальвалася праз які каменьчык, ды за дарогай трапятала на лёгкім ветрыку кволая зеляніна маладой азіміны, ужо зараз было відаць пэўна, вельмі ўмалотнай. А над лесам блішчала шыфернымі дахамі мая родная Ягадная, ахутаная зялёным туманам вясны. І над усім гэтым нямая цішыня. Толькі чулася, як у скронях маіх пульсуе ды аднекуль здаля даносіцца прыглушанае адлегласцю тахканне цягніка.

А можа, усё навокал было так, як і раней? Можа, ужо адкрычалі сваё кнігаўкі і цяпер стоена наседжваюць у сваіх гнёздах яйкі? А жаўрукам яшчэ не настаў час звінець у нябеснай сінечы? Можа, я проста ўсё пераблытаў, забыўся, у які час спяваюць свае песні птушкі?

У спіну даволі адчувальна прыгравала сонейка. А над вёскай не было відаць дыму з каміноў. Раней у такі час над кожнай хатай стаялі сінія слупкі. Можа, яшчэ сапраўды рана? Дык не. Статак даўно ўжо выгналі ў поле, і ён шэрай плямай расплыўся ўлева ад вёскі за былым балотам на паплавах пад самаю чыгункаю. А потым успомніў, што ў вёсцы цяпер амаль у кожнай хаце газ і печы ніхто не паліць.

Памятаю, вуліца наша, як толькі сыходзіў снег, пачынала рунець маладзенькай траўкай-мураўкай. На ёй у

выхадныя дні любілі пасядзець дарослыя і дзеці. А месцамі ля платоў трава і дзядоўнік разрасталіся так, што там мы, малыя, гулялі ў хованкі. Цяпер жа вуліца ад плота была раскоўзана машынамі. Пасярод яе цягнулася жоўтая паласа. Жоўтыя палосы, але крыху вузейшыя, цягнуліся амаль ад кожнага двара. Час яшчэ не паспеў зруйнаваць сляды газавікоў, якія па вуліцы капалі глыбокія канавы, пракладваючы трубы.

З паўднёвага боку вуліца крыху падсохла. Тут абазначылася вузенькая сцяжынка са слядамі ад веласіпедных колаў. З паўночнага ж боку стаяла такая непралазная гразь, якая, здавалася, не высахне і за ўсё лета.

Пад канец гэтай вуліцы і стаяла матчына хата. У цэнтры вёскі раней была школа. Яе пабудавалі адразу пасля вайны.

Памятаю, мы яшчэ жылі ў зямлянках, а вучыліся ўжо ў новай школе.

Цяпер школы не было. Калі быў я апошні раз дома, то яна яшчэ стаяла.Ззяла на сонцы сваімі шырокімі чыстымі вокнамі, а вакол яе быў роўненькі блакітны шчыкетнік. Праўда, шчыкетнік стаяў і цяпер, але быў аблезлы, у многіх месцах пахілены, відаць, падгнілі слупкі, на якіх ён трымаўся. А школы не было. Замест яе валяліся кавалкі гліны, бітай цэглы. Відаць, школу знеслі зусім нядаўна, можа, нават зімою, бо на яе месцы яшчэ не паспела падняцца пустазелле.

Успомнілася, як некалі, адразу пасля вайны, за школай мы выпальвалі снарады. І аднойчы адзін снарад узарваўся. Нехта з нас кінуў у яго капсуль. Мне і зараз жудасна ўявіць, што было б са мной, каб я не паспеў забегчы за вугал школы.

Нас тады вучылася ўсяго па некалькі чалавек у класе. Чацвёрты клас, у той час выпускны, канчала толькі пяцёра. Экзамены хадзілі здаваць у райцэнтр, які быў адразу ж за чыгуначнай станцыяй. Да школы ісці было далекавата... Кіламетры чатыры да станцыі, а потым яшчэ прыблізна столькі ж за ёю. І, можа, таму, каб мы прыходзілі на экзамены не прытомленыя, нам кожны раз перад дарогай настаўніца давала па скібцы саланаватага куплёнага хлеба і па кавалачку нечага жоўтага, даўкага, гаркаватага на смак, але даволі смачнага. Хлеб з тым жоўтым еўся цяжка, без вады яго было не праглынуць. І мы спыняліся ледзь не ля кожнага калодзежа і пілі ваду. І ўсё роўна за дарогу не з'ядалі тое падмацаванне. Даядалі свае

порцыі пасля экзамену. Памятаю, я хваліўся маці, што нам давалі ў школе такое, што раз укусіш і ўжо наеўся. І толькі значна пазней, калі я быў ужо студэнтам, даведаўся, што тое жоўтае было звычайным галандскім сырам.

І цяпер смак галандскага сыру я не пераблытаю ні з якім. Запомніўся на ўсё жыццё.

Ад сярэдзіны вуліцы цягнулася жоўтая палоска зямлі і да матчынай хаты. У кутку гародчыка з вуліцы, на шляху гэтай палоскі, спілавалі ясень, і камель ад яго цяпер ляжаў перад гародчыкам і быў замест лавачкі. Адно дрэўца чаромхі было таксама ссечана. Яно ляжала ў гародчыку забытае, і на яго галінах выкінуліся зялёныя лісцікі, але на большае ў дрэўца не хапіла сілы — засыхала.

Другое ж дрэўца чаромхі, што стаяла ў другім кутку гародчыка, пад танклявваю высокай рабінай, было ўсё абсыпана белай квеценню.

Хата, ссівелая ад часу, нібы саромеючыся сваёй старасці, хавалася за белай квеценню чаромхі, паглядаючы праз яе на вуліцу двума маленькімі, як прыплюснутымі, вокнамі. Праз зялёныя шыбы святлелі фіранкі. Хатнія кветкі даўно пасохлі, і з вазончыкаў, што стаялі на падаконніках, тырчалі гнілыя цуркі.

Шчыкет, усыпаны зялёным рабаціннем моху, нахіліўся, павіс і, здавалася, вось-вось абсыпецца.

І хата, і вазончыкі на вокнах, і пахілены шчыкетнік, якім быў адгароджаны двор ад вуліцы, успрымаліся не як нешта рэальнае, а як памяць, адбітак даўняга, даўно зніклага.

І сумна і вельмі ўжо самотна было ад такой сустрэчы з памяццю.

На дзвярах у сенцы вісеў замок. Я не паверыў вачам сваім, тузануў дзверы за клямку. У сенцах нешта загрукала. Пацукі ці, можа, здзічэлыя каты кінуліся хавацца, пачуўшы чалавека.

Пад ганкам знайшоў ключ. Яго заўсёды хавалі там. Я толькі крануў яго рукою, адчуўшы лёгкі халадок жалеза, але браць не стаў. Зайсці ў хату не адважыўся. Не хацелася, каб яна, хата, засталася ў маёй памяці вось такой пакінутай...

Веснічак на агарод не было. Выхад быў перагароджан даволі высока жэрдачкамі, каб раптам не зайшла ў двор якая скаціна. Я паспрабаваў перакінуць цераз агароджу спачатку адну нагу, потым другую. Забалела калена.

Узяўся рукою за калашыну, памогназе перасігнуць. Падумалася, ці не ад старасці такое. Ці, можа, у поездзе застудзіў калена. Яно ўжо даўно ў мяне баіцца холаду.

На градах тырчалі ахрапкі мінулагодняй капусты. Паўз плот разросся жаўтаваты малiннiк. Відаць, яго доўга ніхто не высякаў.

На яблынях густа набраклі пупышкі. Можа, як ніколі, будзе гэтай вясной цвiсцi сад. Гэта ж я са школьных гадоў не бачыў, як цвіце ён, як поўніцца пчаліным звонам.

Зямля была яшчэ вільготная, грузкая, і я, пастаяўшы крыху, вярнуўся ў двор. На вуліцы ля плота выцер чаравікі аб мінулагоднюю траву і скіраваў да дзядзькі Ігната. Той быў дома. Накінуўшы целагрэйку на плечы, у стаптаных валёнках, даўно не голены, сядзеў у парозе на маленькім услончыку і абіраў бульбу. Ён узрадаваўся мне, запрасіў праходзіць, садзіцца, выціраў аб полы целагрэйкі рукі, каб са мной павітацца.

— Нічога, нічога,— я паціснуў яму руку ля локця, прысеў да стала.— Я думаў, у цябе даўно снеданне гатова, а ты яшчэ толькі падняўся.

— А ўсё пераблыталася, Андрэевіч, выбілася з парадку. Люба во выгнала карову ды і спаць легла... На пенсіі, спяшацца няма куды. А печ паліць не трэба. Я таксама ляжаў, ляжаў, пакуль бакі не намуляў. Во падняўся, думаю, хоць бульбы пастаўлю. А ты, Андрэевіч, у госці?

— Заехаў на пару дзён.

— Можа, адпачнеш, пакуль снеданне зраблю? Відаць, здарожыўся ж?

— Не, дзякую, выспаўся,— я раскрыў свой сакваяж, дастаў бутэльку, палку каўбасы, кавалачак асятровага балыку.— А дзе ж вы школу дзелі?

— А прадалі. Некаму вучыцца, дык прадалі. Нядаўна яшчэ. Тую зіму пад замком стаяла. Кажуць, на тым месцы новы сельмаг будаваць будуць.

— Няўжо дзяцей няма? — неяк не верылася мне, што ў такой вялікай вёсцы няма каму вучыцца.

— Мала. Па тры, чатыры чалавекі ў класе. Настаўнікаў не хочуць трымаць.

— Пасля вайны трымалі ж. Два класы вучыліся разам у адной настаўніцы. Аднаму класу яна дасць заданне, потым другому. Памятаю, другі і трэці класы займаліся разам. Я заданні рабіў і за другі і за трэці. А калі перавялі мяне ў трэці клас, год амаль прагойсаў, нечага было ра-

біць. І ўсе добра вучыліся. Хай бы і цяпер так. А то малым трэба ж хадзіць чортведама куды.

— А няма гаспадара. Брыгадзір малады, сваіх школьнікаў не мае, галава не баліць. А калі падрастуць, дык яму што? У яго матацыкл, пасадзіць у каляску, і адвязе, і прывязе,— Ігнат прыкметна раздражнена гаварыў пра маладога брыгадзіра. Відаць, яшчэ не мог адвыкнуць ад сваіх нядаўніх брыгадзірскіх клопатаў і ўсё, што рабілася ў брыгадзе, успрымаў вельмі блізка.

— А брыгадзір сам прадаў школу, ці як?

— Калі б ён быў супраць, то не прадалі б. А яму ўсё роўна. Што яму людзі, у яго ж тэхніка.

Відаць, ад нашых галасоў прачнулася Люба. Яна выйшла з бакавушкі, заспаная, у чорнай, з'ехаўшай з галавы хустцы, з пакамечанымі, нейкімі, відаць, не расчэсванымі яшчэ валасамі. І ўся яна схуднела, ссутулілася. У ёй ужо цяжка было пазнаць дужую целам жанчыну, якая рэдка якому мужчыне магла ўступіць сілай.

— А мы ўсё спім і спім,— пазяхнула яна.— Работы ніякай, толькі спіцца. Ведама, пенсіянеры... Я во зараз і малачка халодненькага ўнясу,— яна выйшла ў сенцы і вярнулася з гладышкай, паставіла яе на стол. Гладышка стала хутка пакрывацца драбнюсенькімі кропелькамі расы.

За сталом вялася нетаропкая гаворка пра вясковыя навіны. Хто пабудаваў новую хату, хто прадаў сваю і паехаў да дзяцей, хто памёр. Расказаў Ігнат і пра свайго сына, які зусім адбіўся ад дому, не прыязджае. Вінаваціў, вядома, не сына, а нявестку, якой з першага ж дня не спадабалася тут. Зноў загаварыў пра новага брыгадзіра: жыве не сваёй галавой, а залішне прыслухоўваецца да старшыні калгаса. Той не паспеў сказаць, што трэба асушыць копанку ў канцы вуліцы, а ён рад і старацца, адразу ж прыгнаў экскаватар, пракапаў праз усё поле канаву — столькі зямлі сапсаваў! — асушыў тую копанку, нібы што на яе месцы вырасце.

— І каму яна шкодзіла? — больш за ўсё мяне ўсхвалявала гэтая навіна.

— А з той вуліцы пачалі скардзіцца,— умяшалася ў гаворку Люба.— Балота, што пад чыгункай, асушылі, а тут пакінулі. Тут, маўляў, гадуюць качак і гусей, а ім няма дзе. Каб не крыўдавалі, брыгадзір і прыгнаў экскаватар. Я так чула.

— Проста не думаюць пра людзей, вось што я скажу,— абураўся крыху захмялелы Ігнат.— Паплавы ўсе пааралі, недзе і скаціну пасвіць. Толькі ў лесе. Балоты паасушвалі. Была адна копанка, і тую асушылі. Памяшала б тая каму качка. Хай бы расла. Меней у магазін бегалі б па мяса.

Першы цягнік на Гомель ішоў недзе пасля абеду. У мяне было яшчэ некалькі гадзін часу. Я захацеў паглядзець, што ж засталося ад той копанкі, якую так бязлітасна асушыў малады брыгадзір. Выйшаў на вуліцу і нетаропка скіраваў у яе канец.

Вуліца здавалася нейкай незнаёмай, чужой. Улетку звычайна стаялі зялёныя дрэвы, якія амаль не мяняліся, толькі большалі год ад году. Яны надавалі ўсёй вуліцы прывычны выгляд, засланяючы сваёй лістотай гаражы, хлявы, розныя новыя прыбудовы і нават часам і новыя дамы. Цяпер жа, калі дрэвы стаялі без лісцяў, вельмі кідаліся ў вочы ўсе гэтыя змены. Было багата новых дамоў — іх нават няёмка было называць хатамі,— высокія, з шырокімі вокнамі не толькі знізу, але і на франтоне,— многія фактычна ў два паверхі. Двары ад вуліцы засланяліся высокім і шчыльным штыкетнікам. Усе агароджы былі пафарбаваны ў нейкі руды колер, якім звычайна фарбуюць сіласаўборачныя камбайны. Многія з вёскі робяць у Гомелі і, відаць, там нейк здабываюць тую фарбу.

Я ўжо нават не мог угадаць, дзе хто жыве, так усё памянялася.

Матчына хата ды Верчына, якія тут засталіся яшчэ ад учарашняга дня, выглядалі чужымі, выпадковымі пабудовамі. Нейкімі музейнымі.

Спачатку я ўгледзеў жоўты шнурочак, што цягнуўся праз поле ледзь не да самага гарызонта,— пракапаную канаву,— а потым і тое, што засталося ад нашай копанкі...

Памятаю, да вайны, ды і ў першыя гады пасля яе, вакол копанкі, якая кожную вясну разлівалася ў шырокае возера — хоць на лодцы плавай, раслі асака, густыя кусты лазняку. У тых зарасніках яшчэ вадзіліся дзікія качкі. У канцы лета ж, калі вада прыкметна спадала, мы ў лазняках любілі гуляць у вайну. Там можна было так схавацца, што ўсёй ватагай хлопцы не маглі знайсці цябе. А якая высокая трава расла на лузе вакол копанкі! Бывала, ідзеш, дык толькі галава і тырчыць з яе. У самой копанцы мы заўсёды купаліся. А за ёю, памятаю, сярод лазнякоў было такое глыбокае акенца, што там нават

раслі белыя гарлачыкі. Калі яны зацвіталі, мы іх ірвалі і ласаваліся белымі, з ледзь улоўным водарам пялёсткамі. Нам яны здаваліся тады надзвычай смачнымі.

У цяжкія часы вайны, ды і ў пасляваенныя гады наша копанка і падкормлівала нас. У канцы лета, калі вады заставалася мала, у копанцы і ў шматлікіх калдобінах вакол яе мы кошыкамі лавілі дробненькіх уюноў. Ледзь не па поўнаму вядзерцу малечы прыносілі дамоў. Маці смажыла яе нам і варыла суп.

З тае пары і засталося ў мяне ўяўленне, што смачней за ўюноў няма на свеце рыбы. Праўда, даўно не спрабаваў я іх і не ведаю, ці ёсць яны наогул у нашых мясцінах.

У пасляваенныя гады, калі было цяжка з палівам, копанку навокал раскапалі, дабываючы торф. Капалі як папала. Кожны выбіраў сабе мясціну там, дзе, на яго думку, торф быў лепшы. Усё балота пабілі на ямкі. Асаку і лазнякі вынішчылі ўшчэнт. У тых ямках потым апалонікаў аж кішэла. Суткамі жыравалі там качкі.

Завяліся ў тых ямках і чырвоныя карасі. Ужо студэнтам я не адну раніцу праседзеў ля іх з вудай. І зусім недарэмна.

Праўда, у копанцы, якую вельмі ўжо засмецілі гусі і качкі, болей не купаліся.

Цяпер жа я ўгледзеў счарнелую ўпадзіну, закіданую старымі ржавымі бочкамі, коламі ад сеялак, гнутымі вядзерцамі, скрынкамі з-пад салідолу, парванымі гумавікамі, з'езджанымі пакрышкамі ад аўтамабіляў, маткамі калючага дроту,— звычайны сметнік.

Мяне настолькі абурыў гэты здзек з такой утульнай у мінулым зямлі, што я тут жа паспяшаўся ў вёску да брыгадзіра: хацелася зараз жа выказаць яму сваё абурэнне такімі цынічнымі адносінамі да прыроды, такой безгаспадарчасцю. Я ішоў і адчуваў, як тыя словы, што я збіраўся выказаць, аж абпальвалі мне язык. Я думаў, што не толькі скажу ўсё брыгадзіру, а яшчэ напішу ў газету. І не толькі пра гэтае знявечанае балотца, а пра ўзараныя паплавы, з-за чаго цяпер няма дзе людзям пасвіць сваіх кароў, і пра запушчаныя дарогі паміж вёскамі, на якіх вясной і ўвосень ламаюцца тысячы машын і трактароў, і пра тых жаўрукоў і буслоў, якіх паатручвалі...

Я так быў захоплены сваімі думкамі, што і не заўважыў, як дагнаў мяне на калёсах сам брыгадзір.

— Прывітанне, Андрэевіч! — павітаўся ён, спыніўшы каня.— У адведкі прыехалі?

Яўгена, сына калгаснага пастуха Рыгора Носіка, я ведаў яшчэ маленькім хлопчыкам. Ён вечна хадзіў мурзаты, у саматканых штоніках, пафарбаваных плямамі ў нейкую шэрую фабру. Памятаю, як аднойчы такія, як ён, малыя гулялі ў вайну. Яны рабілі газетныя мяшэчкі з дарожным пылам і кідаліся гэтымі «гранатамі». Я якраз сядзеў ля двара, праглядваючы газеты, якія толькі што занесла паштарка.

Калі па вуліцы праязджаў грузавік, здаецца, першы грузавік у нашым калгасе, хлапчукі атакавалі яго. Адна «граната» пацэліла ў ветравое шкло машыны. Вадзіцель спыніўся і пагнаўся за свавольнікамі. Хлапчукі кінуліся хто куды. Яўген хацеў пераскочыць праз шчыкет у наш агарод і, зачапіўшыся почапкай ад штонікаў за шчыкеціну, павіс на ёй. Я памог яму тады вызваліцца ад нечаканага палону. Мяне, памятаю, здзівіла, што хлопчык быў лёгкі, як пушынка, не цяжэйшы за свае штонікі.

Цяпер жа перада мной стаяў шыракагруды дужы мужчына. Выраз твару яго быў добры і спагадлівы. Запыленая кепка ссунулася на патыліцу, і над загарэлым ілбом свяціліся бледныя залысіны.

— Ды во заехаў на дзянёк,— пад уважліва ласкавым паглядам яго сініх добрых вачэй раптам згас мой ваяўнічы настрой.

— Можа, што трэба, Андрэевіч? — па інтанацыі было відаць, што ён гатоў выканаць маю любую просьбу.— Па гаспадарцы што ці, можа, жалаеце паразвлечся? Жалаеце рыбалку, арганізуем. У возеры пад лесам шчупакоў багата. Узімку пелькі прасеклі, дык не падохлі. Там і карасі вялікія ёсць, але карася цяпер не ўзяць, вады багата.

— Далекавата,— сказаў я.— Каб яшчэ тут, на копанцы, з вудай пасядзець... Але ад той копанкі нічога ж не засталося.

— Ды сухая...— весела сказаў Яўген.

— Прызнацца, паглядзеў на яе і засмуціўся. Толькі зямлі колькі сапсавалі той канавай,— зноў ахапіла мяне абурэнне.— Хоць качкам было месца, а цяпер...

— Не бачыце сэнсу, Андрэевіч? — ён неяк паблажліва ўсміхнуўся.— І не адзін вы... Мяне тут пенсіянеркі наогул ледзь не адлупцавалі з-за гэтай копанкі. Але калі паглядзець у перспектыву...— сказаў ён раптам яўна не сваімі словамі.

— А што, у перспектыве людзям не трэба будуць качкі? — з'едліва спытаў я.

— Чаму ж?..— глянуў ён на мяне і ўсміхнуўся.— Не журыцеся, Андрэевіч, будуць тут і качкі і карасі для гасцей. Усё будзе, Андрэевіч. Дзела ў тым, што па завулку нельга ездзіць. Там газаправод. Газавікі папярэдзілі, калі будзем ездзіць, то адключаць газ. А копанку не аб'едзеш. А цяпер асушылі, добрую дарогу пракладзём адразу за агародамі. Але гэта не галоўная прычына. Дарогу можна было і так насыпаць. Мы падлічылі, што ў гэтым балотцы торфу багата. Калгасу хопіць гады на два для кампостаў. А калі ўвесь торф адсюль вышкрабем, канаву адразу ж закапаем. Будзе тады тут не копанка, а добрае возера. Яно і было тут калісь, як казаў гідролаг. Ён казаў яшчэ, што пад торфам павінны быць і крыніцы. Так што будзе дзе пакупацца і пасядзець з вудай. А на беразе парк пасадзім.

— Хто ж будзе гуляць у тым парку? Дзяцей жа няма. Вы нават школу прадалі.

— Ды прадалі ж,— без ніякага шкадавання сказаў Яўген.— Дзяцей малавата, гэта праўда. А галоўнае, яна струхлела ўся. Рабілі пасля вайны з няспелага лесу, маркоўніку, як кажуць. А меліяратарам гады два яна яшчэ і паслужыць. Пад сталоўку яны яе купілі. А людзі, Андрэевіч, будуць... У цэнтры калгаса наш старшыня пасёлак з адных катэджаў будуе. З горада моладзь просіцца. Я так думаю, што ў гарадах людзі патаўкуцца, патаўкуцца ды зноў пачнуць па вёсках разбягацца. Бачыш, колькі хат у нас. Яны ж пуставаць не будуць. Праўда, цяпер большасць у горад ездзяць на заводы, але некаторыя, ведаю, думаюць, ці не перайсці ў калгас... Так што, Андрэевіч, будзе каму ў возеры лавіць рыбу. Зямля без людзей ніколі не застанецца...— і ён падаў мне шырокую, як рыдлёўка, моцную далоню.— Дык заходзь, Андрэевіч, калі што трэба.

Яўген, абапёршыся на руку, лёгка ўскочыў на калёсы, шмаргануў лейцы, нокнуў, і конік, грываcты, даўганогі, з блішчастай поўсцю, ледзь не подбегам крануўся з месца. Яўген яшчэ раз азірнуўся і, памахаўшы лейцамі над галавой, шпарчэй пагнаў каня.

Я ж стаяў разгублены, адчуваючы няёмкасць і нават сорам за свой нядаўні ваяўнічы настрой, за сваю бездапаможнасць перад гэтым маладым дужым брыгадзірам, які мысліць шырэй і смялей, і заклапочанасць пра заўтрашні дзень вёскі ў яго больш дзейсная, больш актыўная,

абумоўленая будучыняй, а не такая, як у мяне, абмежаваная сентыментальным замілаваннем мінуўшчынай.

Мне не хацелася болей заставацца ў Ягаднай, і я зайшоў да Ігната, каб забраць свой саквояж.

— Паеду ў Гомель,— сказаў я дзядзьку.— Зайду да брата.

— А то пажыў бы,— нібы ўгадваючы мой настрой, неяк нясмела папрасіў ён мяне.— І матка твая казала, каб я не адключаў кацёл. Маўляў, прыедзе хто, каб цёпла было. А што? Можна папрацаваць, ніхто не перашкаджае. А паснедаць, паабедаць да нас прыйдзеш. І павячэраць...

— Не, другім разам,— я, канешне, не прызнаўся, што ў мяне няма ніякага жадання жыць аднаму ў хаце: не быў упэўнены, што раптам не пачнуць мне мроіцца зноў снарады.— Можа, улетку прыеду, пажыву...

Па дарозе на станцыю заглянуў на вясковыя могілкі. Яны былі сярод калгаснага поля, можа, з які кіламетр ад шляху. Могілкі звычайна былі не абгароджаныя, і гэта лічылася нармальнаю з'яваю. Цяпер жа іх абгарадзілі роўненькімі шчыкецінкамі, зрабілі варотцы, а на іх павесілі шчапок. Агароджу пафарбавалі ў светла-блакітны колер. Пафарбавалі, відаць, не так даўно, бо фарба не паспела яшчэ выліняць на сонцы.

Скрозь паўз шчыкет была пасаджана чаромха. На яе рэдкіх дубчыках нясмела вытыркаліся зялёныя лісточкі, кволіліся таксама здрабнелыя кветкі. Відаць, чаромху пасадзілі ўвосень, а можа, нават і гэтай вясной, яна не паспела яшчэ прыжыцца, увабрацца ў сілу.

Я хутка знайшоў магілу свайго бацькі. Металічная чорная агароджа, белы слупок з чырвонаю зоркаю. У галавах вялізны куст язміну. Уяўляю, які ён будзе, калі зацвіце, і колькі пчол прыляціць на яго белую квецень.

Бацька некалі збіраўся завесці пчол, чакаў толькі пенсіі.

«Ну вось, тата, а я ўжо ў сваёй вёсцы і чужы»,— паскардзіўся яму ў думках.

Побач з бацькам ляжаў і мой дзед Тарас Церах.

Памятаю, калі мне было, можа, яшчэ гады тры, не болей, я часта гасцяваў у дзеда. Жыў у яго тыднямі. І вось аднойчы, калі выпаў першы снег — то наогул быў першы снег у маім свядомым жыцці,— мне захацелася паспрабаваць яго на смак. І, відаць, добра-такі перасмакаваў я яго, бо ноччу ў мяне паднялася тэмпература, у грудзях спіснула так, што не было чым дыхаць, і я аж траціў прытом-

насць. Дзед сярод начы прыгнаў каня і павёз мяне ў раённую бальніцу.

Я ляжаў у санях, захутаны ў кажухі, і бачыў, як на фоне захмаранага неба праплывалі прысадзістыя, з магутным раскідзістым чорным голлем дрэвы, якімі была абсаджана дарога, і чуў голас дзеда:

— Трымайся, маленькі, трымайся. Зараз урач зробіць укольчык, і мы з табой яшчэ не адну снежную бабу скачаем.

Я потым не адзін раз стараўся ўспомніць, па якой жа дарозе тады вёз мяне дзед, бо я так і не знайшоў такіх вялізных дрэў, якія бачыў той ноччу. А ў дзеда не спытаў.

Не асмеліўся я спытаць пра тую дарогу і тады, калі мы, усе блізкія, сабраліся развітацца з ім.

Ён ляжаў на ложку, жоўты, высахлы, з пакамечанай белай бародкай, а мы моўчкі сядзелі ля яго на ўслонах. Чакалі, што ж ён скажа нам. Мне здавалася, што чалавеку, які столькі пажыў і столькі пабачыў на сваім вяку, ёсць што сказаць сваім нашчадкам. Але расчараваў ён тады мяне. Паглядзеў на нас запалымі вачыма і ледзь чутна, але выразна сказаў:

— Жывіце, дзеці.

Толькі з гадамі я ўсё больш і больш пачынаю разумець вялікую мудрасць тых развітальных слоў.

Ля дзедавай магілы была магіла і бабы Варвары Мацвееўны. На счарнелым крыжы — вымыты дажджамі аблезлы рушнічок.

Памятаю, калі позна вечарам я прыганяў свіней з поля, баба частавала мяне топленым малаком. Малако было халодненькае, толькі з пограба. Я любіў, каб у шклянцы плавала рыжая салодкая плевачка. І яна кожны раз плавала там.

А я так нічым і не сумеў аддзячыць ёй за тую далёкую дзіцячую радасць.

На пазелянелым ад часу слупку я ледзь прачытаў прозвішча Пятра Чыха. Успомнілася, як ён халоднымі асеннімі надвячоркамі расказваў нам свае бясконцыя казкі ў зацішным логаве пад калгаснай сціртай саломы.

Тыя казкі абуджалі ў нас мары пра нязведанае, пра далёкія краіны, пра нашу будучыню, пра тое, кім мы станем, што будзем рабіць у жыцці. Хто ведае, можа, іменна тады ва мне і абудзілася любоў да літаратуры, вывучэнню якой я і прысвяціў усё жыццё.

Стоячы ля магілы Пятра Чыха, я раптам падумаў, а ці дамогся ў сваім жыцці ўсяго таго, пра што марыў, да чаго імкнуўся. Ці здзейсніў я свае планы? Мяне вельмі ўразіла, што іменна тут я падумаў пра гэта. Апошнім часам мне ніколі не прыходзілі ў галаву такія думкі.

На самым краі могілак маю ўвагу прыцягнуў зроблены з чыгуначных рэек крыж. На ім было электразваркай напісана: «Верка». І болей нічога. Ні прозвішча, ні даты нараджэння і смерці. Пражыла свой век жанчына Веркаю, Веркай і засталася. Відаць, у вёсцы не ведалі яе прозвішча. А можа, і ведалі, ды знарок так зрабілі: маўляў, жыла Веркаю, хай і на тым свеце будзе ёю.

Я, прызнацца, сапраўды не ведаў яе прозвішча да таго часу, пакуль, здаецца, мінулым летам не прачытаў у газеце, што калгасніца Варвара Носік з вёскі Ягаднай унесла на рахунак Фонду міру ўсе свае зберажэнні. Называлася вялікая лічба...

Побач з Веркаю ляжаў Міхаіл Савельевіч Капцоў, які, відаць, памёр таксама нядаўна. Гэта да яго дачкі некалі пасля вайны так няўдала пасватаўся мой дзядзька Ігнат.

Міхаіл Савельевіч рабіў да вайны кладаўшчыком. Памятаю, неяк я гуляў ля двара, а ён якраз ішоў на работу. Ён заўсёды быў маўклівы і даволі строгі на выгляд. Я нават баяўся сустракацца з ім на вуліцы. І тады я насцярожана чакаў, пакуль ён пройдзе. А ён спыніўся і пальцам паклікаў мяне да сябе. Я падышоў. Ён і пытаецца, ці ёсць у нас дома шклянка. Ёсць, кажу. «Дык ідзі бяры, і пайшлі са мной»,— загадаў ён мне. Я ўзяў шклянку і пайшоў побач з ім, маўклівым і засяроджаным. На нейкі момант мне нават падалося, што ён забыўся на мяне, і я непрыкметна адстаў. Але ён спыніўся і пачакаў, пакуль я зноў параўняюся з ім.

У кладавой Міхаіл Савельевіч наліў мне з высокага алюмініевага бака шклянку залацістага бурштынавага мёду і строга сказаў: «Ідзі дамоў».

Потым я часта купляў мёд на базары і ў магазінах і ўсё ж смачнейшага за той так і не сустрэў.

Цяпер я ведаю, што ніколі і не сустрэну.

Мне хацелася адшукаць магілу майго сябра Сашкі Канцавога, якога звалі Шпрыцам і які загінуў ад супрацьтанкавай гранаты.

Яго магілка з пахіленым крыжам была ў густым зарасніку бэзу. На яе забыўся і яго меншы брат, Міхась Канцавы, загадчык брыгаднага клуба. Відаць, не мае часу

з-за свае культурнай дзейнасці. Ці, можа, яму зараз не да гэтага. Казалі ж, што нібы вельмі хворая яго маці.

Напаткаў я і магілу Аляксандра Дзеркача, Шурыка. Крыж на ёй быў новенькі, яшчэ не пацямнеў ад часу. Я чуў, што, напіўшыся, Шурык заснуў на прызбе свае хаты і да раніцы акалеў на марозе.

І вось я спыніўся ля помніка з шэрага граніту...

Вясёлы твар, крыху сумнаваты пагляд адкрытых вачэй.

Ігар, калі я быў апошні раз у яго бальніцы, гаварыў, што, як толькі ён крыху акрыяе, адразу ж паедзе жыць у сваю вёску. На год, а можа, і на два.

«Адчуваю, што там паздаравею»,— з кволаю ўсмешкаю на бясколерных вуснах гаварыў ён мне.

«Вось ты і вярнуўся ў родныя мясціны,— сказаў я ў думках брату.— Як і хацеў...»

Вярнуўся помнікам.

Высокі, у рост чалавека, звужаны зверху прамавугольнік з шэрага халоднага граніту з беламармуровым барэльефам.

Звычайны помнік...

Дзе-небудзь на гарадскіх могілках такі помнік, магчыма, уражваў бы сваёй сціпласцю, а тут, сярод нізкіх крыжоў, металічных слупкоў з бляшанымі зорачкамі наверсе, ён вытыркаўся сваёй прэтэнцыёзнай вычурнасцю, выглядаў чужаком.

Вакол ляжалі блізкія, родныя людзі, сярод якіх я вырас, якіх я добра ведаў і разумеў. Кожны з іх, каб раптам сустрэў мяне цяпер, спытаў бы так, як і некалі даўным-даўно:

— Ну, як жыццё, Андрэевіч?

Ад гэтага мне заўсёды станавілася ўтульней на зямлі.

Усе мае службовыя праблемы раптам паблеклі і здаліся мізэрна нікчэмнымі, дробязнымі, мяне ахапіла такая радасная супакоенасць, упэўненасць у прыгажосці і бясконцасці жыцця, якая звычайна ахутвала мяне, калі я яшчэ даўней прыязджаў дамоў, калі жылі бацькі, жылі ўсе тыя людзі, якія цяпер знайшлі свой вечны спачын на могілках.

Тут я адчуваў сябе болей дома, чым у вёсцы.

Не спяшаючыся, нібы без ахвоты, я скіраваў да станцыі па палявой, ужо добра пратаптанай вузенькай сцяжынцы.

І там, дзе сцяжынка пачынала збочваць за прыстанцыйны пасёлак, я азірнуўся. Праз рэдзенькі зялёны вяс-

новы туман блішчала на сонцы шыфернымі дахамі мая вёска.

Праз дрыготкае мроіва, здавалася мне, яна ўзнімаецца над дрэвамі, над прысадамі і наогул хоча адарвацца ад зямлі, узляцець.

І хоць назаўсёды ў мінулае адыходзіла вёска, у якой я рос і якую хаваю і буду хаваць у сваёй памяці, і хоць у ёй нараджаецца новае і часам не зразумелае мне жыццё, мяне заўсёды будзе цягнуць сюды, бо тут мае карэнні, хаця цяпер і назаўсёды абрэзаныя...

І яшчэ мне падумалася тады: а ці будзе ў маіх дзяцей вось такі лапік зямлі, да якога б яны на ўсё жыццё прыкіпелі сэрцам, звяралі сваё жыццё з жыццём яго людзей?

Я сеў у вагон, прынік да акна і доўга не зводзіў вачэй з далёкіх шыферных дахаў, што паступова размываліся ў прасторы.

Праз аднастайнае тахканне колаў пачуў я прыглушаныя гукі балалайкі. Азірнуўся. У вагоне ніхто на балалайцы не іграў. І транзістара ні ў кога не заўважыў. І ўсё ж хоць і ціха, як з-пад зямлі, але даволі выразна гучала ў маіх вушах балалайка.

А можа, гэта мая даўняя маладосць так нагадвала пра сябе, развітваючыся назаўсёды?

Рунелі палі азімінай.

Прыгравала сонца.

Разамлелая на сонцы, падсохлая на ўзлобках зямля чакала свайго аратага.

